УДК 811.161.3’373.6’374
ББК 81.2Беи-4
Э93

*Выпуск выдання ажыццёўлены па заказу
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь*

Укладальнікі:

Р. М. Малько: *Свабода – Стэсам*;

Р. М. Малько, Г. А. Цыхун: *сварыбаба, свенка, свершч, светач, свідзіна$_{1}$, свіль, свінец, свінтус, свір, свірэпы, свор$_{1}$, святцы, север, седмачок, сей, сейбіт, сейм, селянін, сердаваць, сесла, сечань, сёлета, Сібір, сіваграк, сіг, сікляк, сіламоц, сілком, сіні, сітаваты, скавічак, сказ$_{1}$, ска́ла$_{1}$, скалка$_{2}$, скамарох$_{1}$, скапэрацыся, скарада$_{4}$, скарач, скарупа, скварыць, скелз, скіба, сківаца, скірпа, склезень, склізкі, склока, склынбоваць, скольки$_{2}$, скорб, скразняк, скромны, скрып, скрыпіца, скрыпка$_{1}$, скрыпушка, скрэнда, скуголіць, скундзябіцца, скурат$_{2}$, слава, сліж$_{3}$, слясак, смаліць, смарагд, смецъ, сморгаць, смуга, смурод, смурыжыць, смута, смутак, смысл, снадна, снежань, снічна, снудзіць, сойм, сокал, соль, спакваля, спогадзь, спрат, спрыт, срэбра, стайня, сталка, сталь, стан$_{1}$, станаўнік, становішча, станьгом, старацца, стая$_{3}$, стой, столь$_{1}$, стопка$_{1}$, стораж, страва, стракаты, страм, страміна́, страус, страхаваць, страхапуд, страчок, струмкаваты, струшня, стрыга, стрымбуль, стрымгалоў, стрэліца, стрэмяліна, стуга, стужка, стульцы, стусіна.*

Г. А. Цыхун (асобныя артыкулы): *сважыць, сваяволіць, сваясі, свепет, свер, сверсадла, Светавіт, светагляд, светка, свідзецель, свігаць, свідравіна, свінапрол, свінарка$_{2}$, свінка$_{4}$, свінух, свінятла, свіргуль, свірстун, свіршч, свірыць, свірэпа$_{2}$, свісты, світанне, свіцецца, свішч$_{2}$, сволач, свор$_{2}$, свора, свядомы, свяло, свяны, свяржывы, свята, святар, святліка, святок, святыня, свяча, се$_{1-3}$, седацца, секс, секта, сектар, секунда, села-села, сель$_{1}$, селяпаць, семенчаваць, семярня, сенаваць, сенажарнік, сенакос, сеначы, сепаць, серадапосце, серадголаўе, серадня, серадсяло, серб, сербаліна, серваць, сервітут, сернік$_{2}$, серпанок, серца, серы$_{2}$, се-сё, сеты, сеўка$_{1-2}$, сеўкаць, сеча, сечка$_{2-5}$, сёй-той, сёмісты, сі, -сі, сіба, сібель, сівец, сівізна, сігала, сігнатурка, сідар, сідка, сікман, сікорка, сікша, сілікаць, сіліць, сіліць$_{1-2}$, сімацець, сімвал, сінель, сінельнік, сінь-порах, сінявод, сіняк$_{2-5}$, сіняпёс, сіпак$_{2}$, сіры, сірычка, сірэна, сітаўкі, сіты, сіхібо, сіціць, скабліць, скабіць, скадаў, скакі, ска́ла$_{2}$, скалавацець, скалагудзіць, скалазуб, скалбоціць, скалецкі, скаля, скаляць, скамурдзіцца, сканазобіцца, скандзябіцца, скапаваць, скапець, скапэрдзіцца, скарза, скароздра, скасаваць, скастрыць$_{1-2}$, скасурыцца, скаўпасіць, скаццё, скачаг, скачанець, скачарожыцца, скачок, сквалыга, скварж, скверашчаць, скверыць, скем, скепсіціць, скердзь, скерыць, скідзель, скік, скімліць, скімяніцца, скінуцца, скінуць, скіпаць, скіпець$_{1-2}$, скіпіцца, скічка, скланенне, склапка, склейны, склецiць, склець, склізок, склоннасць, скнепа, скныга, скняга, скоба, скоіцца, скольки$_{1}$, скоміць, скон, скоп$_{1-2}$, скопак, скоўзка, скочыць, скрага, скрадзі, скрак, скруціцца, скрушчык, скрынзіць, скрычацца$_{2}$, скрыпёнкі, скрыпка$_{2}$, скрэдама, скрэнт, скумат, скупянда, скусны, скусорыцца, скутак$_{2}$, слабіна, славар, сланы, слапок, следчы, слепанда, слецце, слёз, слёзнік, сліба, сліга, сліжа, сліжба, слізень, слізіць, слім, слімазарны, слімаць, слімень, слінзіць, слінь, слішч, слокат, служачы, слухмяны, слуць, слыза, слышыць, слюга, слюз$_{1-2}$, сляз, слякаць, смага$_{3}$, смаліца, смалуда, смарганец, смарговы, смерглы, смерць$_{2}$, смета, смешкі, смідзін, смільга, смог, смок$_{3}$, смоль, смольно, сморад, смужняк, смуніць, смучай, смыжыць, смыза, смыкаць, смылець, смядзіць, смяртэльнік, смяртэльны, -снабіць, снадзь, снарад, снаўдулі, снед, снігір, сніпець, снітка$_{2-3}$, снуз, сныха, сняк, со, совы, содухі, сойка$_{5}$, солам’е, сомец, сомінец, сонейко, сопат, сопурха, сопці, сорыць, сос$_{3}$, соснік, соўкаць, соўма, сочыва, спаборнік, спавага, спакуса, спанатрыць, спанцырка, спарон, спарта, спаруда, спарыжаваць, спарыня, спарыш$_{4}$, спас$_{2}$, спатакаць, спатачаваць, спаткаць, спаховы, спахомы, спацыр, спачча, спень, спіраць$_{2}$, спірт, спол, сполка, спольга, спорт, справа, спрака$_{1-2}$, спрагаць, спрадвеку, спражэнне, спражка, спракувеку, спроца, спружына, спрут, спрывяль, спрындзіцца, спрыта, спрытна, спрычча, спрышчыцца, спрыяць, спрэжда, срогі, ссорыць, ссякнуць, стабда, стабурчыць, стазь, сталаваць, сталінда, сталіца, сталіць, сталока, стальвага, стан$_{3}$, стапарч, стар, стараваць, старажня, стараснік, старлыба, старшыня, старыць, статны, статуй, статут, стаўдыр, стахей, стацыя, стаць$_{2}$, стачаць, ста́чына, стачы́на, стая$_{2}$, стаярос, стварэнне, стогнуць, стод, стоіць, стойла, сток, столай, стольки, стопка$_{2}$, стоўб$_{2}$, стоўпіцца, страдаць, страйк, страйходы, стракаць, стракач, страла$_{3}$, страмак$_{2}$, страменкі, страміць, страмп, страмянуць, страпкі, страпянуць, страхалюд, страхар, страхома, страценне, строі$_{2}$, строй$_{3}$, строк$_{3}$, стропаць, струга$_{2}$, стругавіца, стругвіна, струмант, стрункі, струт, стручок, стрыбаць, Стрыбог, стрывіць, стрыгмач, стрыгнуць, стрык$_{1-2}$, стрыказа, стрыкуліст, стрыхар, стырч, стрэдні, стрэл, стрэль, стрэмець, стрэнуць, стрэнь, стрэпаць, стрэценне, стуганіць, стугор, студзень$_{1}$, стужаць$_{1-2}$, стужні, стукалка, стулінда, стуліць, стуль, стульдупка, стумікла, ступак, стураць, стурбан, стурыць, стусак, стусмець, стыдзь, стыкаць, стыль$_{2-3}$, стыльцы, стынь, стырня, стырчаць, стырыць, стэльмах, стэнкаць, стэп, стэрня.*

І. І. Лапуцкая (падрыхтоўка тэкстаў да друку)

Галоўны рэдактар

доктар філалагічных навук Г. А. Цыхун

Адказны рэдактар

кандыдат філалагічных навук М. П. Антропаў

Рэцэнзенты:

кандыдат філалагічных навук С. М. Запрудскі;
кандыдат філалагічных навук Ф. Д. Клімчук

**ISBN 978-985-08-0892-9 (Т. 12)**
**ISBN 978-985-08-0739-3**
**ISBN 985-08-08-0739-3**

# СКАРАЧЭННІ

## КРЫНІЦЫ

Альп. – Ляшкевіч І. Альпенскі дыялектны слоўнік. Альпень – Берасьце, 2004.

Барад. – Вушацкі словазбор // Барадулін Рыгор. Зб. тв. Т. 4. Мн., 2002. С. 393–500.

Бел. нар. жыллё – Беларускае народнае жыллё. Мн., 1973.

БНТ, Гульні$_2$ – Беларуская народная творчасць. Гульні, забавы, ігрышчы. 2-е выд. Мн., 2000.

Горбач, Зах.-пол. гов. – Горбач О. Західно-поліська говірка с. Остромичі коло повіту Кобринь. Словник // Олекса Горбач. Зібрані статті. V. Діалектологія. Мюнхен, 1993.

Кал. – Гаўрош Н., Трыпуціна Т. Слоўнік Калюгавай мовы // Лукаш Калюга. Творы. Мн., 1992. С. 526–559.

Ліцв. – Ліцвінка В. Д., Царанкоў Л. А. Слова міма не ляціць. Беларускія народныя прыказкі і прымаўкі. Мн., 1985.

Меер Крыч. – Мейер Андрей. Описание Кричевского графства 1786 года // Раманаў Е. Р. З гісторыка-археалагічнай спадчыны: Выбр. тв. Магілёў, 2006. С. 115–199.

Мікратапанімія Бел. – Мікратапанімія Беларусі. Матэрыялы. Мн., 1974.

Мілк. – Мілкоўскі В. Мой слоўнічак. Наша слова, 1996, 15 жн.; Матчына мова. Наша слова, 1999. 2000, 12 крас.; 2000, 28 чэрв.; 2000, 6 верас.

Нік. Бабы – Никифоровский Н. Я. Очерки Витебской Белоруссии. 7. Бабы або жонки. Витебск, 1898.

Серб. Вічын – Сербаў І. А. Вічынскія паляне: матэрыяльная культура. Этнаграфічны нарыс Беларускага Палесся. Мн., 1928 (перавыд.: Мн., 2005).

Сл. нар. фраз. – Мяцельская Е. С., Камароўскі Я. М. Слоўнік беларускай народнай фразеалогіі. Мн., 1972.

# ЛІТАРАТУРА


Астрэйка, АКД – Астрэйка В. Д. Паўночна-заходняя занальная лексіка ў найменнях з'яў жывой прыроды (лінгвагеаграфія і паходжанне). Аўтарэф. дыс. ... канд. філал. навук. Мн., 1997.

Балто-слав. этнокульт. и археол. древн. – Балто-славянские этнокультурные и археологические древности. Погребальный обряд: Тез. докл. конф. М., 1985.

Беразовіч – Березович Е. Л. Русская топонимия в этнолингвистическом аспекте. Екатеринбург, 2000.

Басай–Сяткоўскі, Słownik – Basaj M., Siatkowski J. Bohemizmy w języku polskim. Słownik. Warszawa, 2006.

Бел. міф.$_2$ – Беларуская міфалогія: Энцыклапедычны слоўнік. 2-е выд. Мн., 2006.

Борысь, Etymologie – W. Boryś. Etymologie słowianskie i polskie. Warszawa, 2007.

Бузук, Паўдн.-бел. – Бузук П. А. Да характарыстыкі дыялектаў паўднёва-беларускіх і пераходных да ўкраінскіх // Sveslovenski sbornik. Spomenica o tisućugodišnjici Hrvatskoga kraljevstva. Zagreb, 1930.

Врубель, Term. bot. – Wróbel H. Związki staroczesko-staropolskie w terminologii botanicznej. Kraków, 2004.

Горбач, Арго школярів – Горбач Олекса. Арго українських школярів і студентів. Мюнхен, 1966 (асобны адбітак).

Гура, Символика – Гура А. В. Символика животных в славянской народной традиции. М., 1997.

Дубр. – Дубровський В. Словник українсько-московський. Вид. 6-е. Київ [б. г.].

Зб. Бархудараву – Вопросы исторической лексикологии и лексикографии восточнославянских языков. К 80-летию чл.-корр. АН СССР С. Г. Бархударова. М., 1974.

Зб. Варбат – Ad fontes verborum. Исследования по этимологии и исторической семантике. К 70-летию Жанны Жановны Варбот. М., 2006.

Зб. Вінаградаву$_2$ – Филологический сборник к 100-летию со дня рождения В. В. Виноградова. М., 1995.

Зб. памяці Закрэўскай – Діалектологічні студії. 3: Збірнік пам'яті Ярослави Закревської. Львів, 2003.

Зб. Ісачанку – Studia linguistica A.V. Issatschenko. Lisse, 1978.

Зб. Лер–Сплавінскаму – Studia linguistica in honorem T. Lehr–Spławiński. Warszawa, 1963.

Зб. Мальдзісу – Беларусь і беларусы ў прасторы і часе. Зборнік да 75-годдзя Адама Мальдзіса. Мн., 2007.

Каранчэўскі, Polska term. gram. – Koronczewski A. Polska terminologia gramatyczna. Wrocław, 1961.

Клюге–Гётце – Kluge F. Etymologisches Wörterbuch der deutschen Sprache. 15. neubearb. Aufl. von A. Götze. Berlin, 1951.

Козыраў, Очерки – Козырев И. С. Очерки по сравнительно-типологической лексикологии русского и белорусского языков. Орел, 1970.

Лома, Пракосово – А. Лома. Пракосово. Словенски и индоевропски корени српске епике. Београд, 2002.

Мартынаў, Этнагенез – Мартынаў В. У. Этнагенез славян. Мова і міф // XI Міжнар. з'езд славістаў. Даклады. Мн., 1993.

Прабл. бел. філал. – Праблемы беларускай філалогіі: Тэз. дакл. рэсп. канф., прысв. 50-годдзю БССР і КПБ. Мн., 1968.

Раманава, Меры – Романова Г. Я. Наименования мер длины в русском языке. М., 1975.

Рамстэт – Ramstedt G. J. Kalmückisches Wörterbuch. Helsinki, 1935.

Рам. Выбр. тв. – Раманаў Е. Р. З гісторыка-археалагічнай спадчыны. Выбраныя творы. Магілёў, 2006.

Рэйзак – Jiří Rejzek. Český etymologický slovník. [Praha], 2001.

Сабанееў – Сабанеев Л. П. Рыбы России. Т. 1–2. М., 2001.

Сабанееў, Жизнь – Сабанеев Л. П. Жизнь и ловля пресноводных рыб. К., 1976.

Станкевіч, Язык – Станкевіч Я. Язык і языкаведа. Вільня, 2007.

Суднік, Диалекты – Судник Т. М. Диалекты литовско-славянского пограничья. М., 1975.

St. Ling. Polono-Jugosl. 2 – Studia Linguistica Polono-Jugoslavica. Т. 2. Скопје, 1982.

Traditiones – Traditiones. Zbornik Inštituta za slovensko narodopisje. Ljubljana, 1972 і наст.

Трубачоў, Труды – Трубачев О. Н. Труды по этимологии: Слово. История. Культура. Т. 1–2. М., 2004.

Штэрн, Wörterbuch – Stern H. Wörterbuch zum jiddishen Lehnwortschatz in den deutschen Dialekten. Tübingen, 2000.

Шымк. Сл. – Словник української мови Ф. С. Шимкевича // Галас Б. К. Ф. С. Шимкевич як лексикограф і українське словникарство (кінець XVIII – початок XX ст.). Ужгород, 1995. С. 75–144.

Элезавіч – Елезовић Г. Речник косовско-метохиског дијалекта, I–II. Београд, 1932–1935.

Яновіч, Наречие – Янович Е. И. Наречие в истории русского языка. Минск, 1978.

# МОВЫ І ДЫЯЛЕКТЫ

балк.-лац. – балкана-лацінскае
балт.-ням. – балта-нямецкае
бібл.-гебр. – біблейска-гебрайскае
бурац. – бурацкае
бягом. – бягомльскае
велікарус. – велікарускае
гебр. – гебрайскае
ід. – ідыш
іўр. – іўрыт
краснаяр. – краснаярскае
кіт. – кітайскае
ленінгр. – ленінградскае
марыйск. – марыйскае
ненец. – ненецкае
новаперс. – новаперсідскае
падзв. – падзвінскае
падмаск. – падмаскоўнае
паст. – пастаўскае
паўн.-рус. – паўночна-рускае
радашк. – радашковіцкае
ров. – ровенскае
самак. – самакаўскае
с.-гебр. – сярэдне-гебрайскае
салун. – салунскае
ст.-дац. – старажытнадацкае
ст.-фрыз. – старажытнафрызскае
ст.-швед. – старажытнашведскае
табол.-тат. – табольска-татарскае
тыбец.-бірм. – тыбецка-бірманскае
усх.-сіб. – усходнесібірскае
швейц.-ням. – швейцарска-нямецкае
япон. – японскае
яўр. – яўрэйскае

# С

**Свабóда** ‘асабістая незалежнасць, самастойнасць; адсутнасць прыгнёту’ (ТСБМ), ‘св
межаванняў’ (ваўк., Сл. ПЗБ), *свобóда* ‘воля, вызваленне ад прыгону’ (ТС), сюды ж *свабóдная* ‘нецяжарная’ (Ян.). Укр., рус. *свобóда* ‘тс’, ст.-рус. *свобода* ‘незалежнасць’, ‘пасёлак, слабада’, польск., в.-луж., н.-луж. *swoboda*, чэш. *svoboda*, дыял. *słoboda* ‘вольнасць; халасцяцкі стан або дзявоцтва’, серб.-харв. *свобо̏да* ‘вольнасць; мужнасць’, славен. *svobóda*, ‘воля, вольнасць; вызваленне’, балг. *свободá*, макед. *свобода* ‘тс’, ст.-слав. **свобода** ‘тс’. Прасл. **svoboda* утворана ад асновы **svob-*, параўн. ст.-слав. **свобьство** ‘асоба’, якая працягвае і.-е. **su̯e-bho-*, вытворнае ад займеннікавай асновы **su̯e-* ‘свой’, з суфіксам зборнасці *-*oda* і першасным значэннем ‘сукупнасць родзічаў, сваякоў’, г. зн. тых, якія жывуць сумесна. Сучаснае значэнне другаснае. Падрабязна гл. Трубачоў, История терм., 170. Гл. яшчэ Фасмер, 3, 582–583; Шустар-Шэўц, 1392; БЕР, 6, 561. Махэк$_2$ (598, раней Зубаты, Studie, 2, 137) разглядае слова як **svo-potъ* ад ‘свой’ і **potъ* ‘пан’, праеўрапейскага слова, што вельмі штучна. Сной$_1$ (625) **svoboda* лічыць вытворным ад прасл. **svobodь* ‘свабодны’ – на думку Трубачова (Фасмер, 3, 583), другаснага. Борысь (589) узнаўляе прасл. **svobodь* і **svoboda* ‘свабода, незалежнасць, вольнасць’ з рэдкімі суф. *-odь/-oda*. Гэта дазваляе ўзнавіць прыметнік **svobъ* ‘прыналежны да свайго племені, жывучы на сваёй зямлі, у сябе’ і назоўнік **svoba* ‘стан сярод сваіх, вольнасць’ (Борысь, Czak. stud., 44). Гл. таксама Басай–Сяткоўскі, Słownik (353–354), дзе польск. *swoboda* замест *swieboda* лічыцца багемізмам. Паводле Бугі (Rinkt. 2, 617), слова знаходзіцца ў такіх жа адносінах да ст.-рус. *собь* ‘усё



сваё, маёмасць, дабро’ (гл. *собскі*), як лат. *svabs* ‘вольны’ да ст.-в.-ням. *selb-* ‘сам’ (< і.-е. **selbho-*). Гл. таксама *слабода*.

**Сваво́ля** ‘гарэзлівасць, дураслівасць, гуллівасць’, ‘свавольныя ўчынкі, паводзіны’ (Нас., Гарэц., Бяльк., Мал., Янк. БП), ‘неразважныя дзеянні’ (Варл.), сюды ж *сваво́ліць* ‘гарэзнічаць’ (Нас., Шымк. Собр., Сержп., Варл.), *свово́ліць* ‘тс’ (ТС), *сваво́льнік* ‘гарэза; неслух’ (Нас., Бяльк., Ласт.), *сваво́льства* ‘непаслушэнства’ (Нас., Бяльк.), ст.-бел. *своволенство* ‘тс’. Ад *свой* і *воля*; Карскі (2–3, 89) бачыў тут, як ва ўкраінскай і польскай, “слитие слов”. У гэтай форме, мабыць, запазычанне з польск. *swawola* ‘тс’. Махэк$_2$ (596) польскае слова і чэш. *svávůle*, дыял. *svávol’a* ‘сваволя’ лічыць спалучэннем або састаўным словам і адрознівае іх ад складаных слоў тыпу рус. *своеволье*, *своеволить*, параўн. *сваяволіць* (гл.).

**Сва́дзьба** ‘вяселле’ (Бяльк., Сл. ПЗБ, Сцяшк., Кольб.), ‘вясельная капэла’ (Сцяц.), *сва́цьба* ‘запрошаныя ўдзельнікі вяселля’ (ашм., Станк.), ст.-бел. *свадба* ‘вяселле’ (Альтбаўэр). Укр. *сва́дьба*, *сва́йба*, рус. *сва́дьба*, ст.-рус., рус.-ц.-слав. *сватьба*, польск. *swadźba*, н.-луж. *swajźba*, *swaźba*, чэш. *svadba*, дыял. *svarba*, славац. *svadba*, серб.-харв. *сва̏дба*, славен. *svatba*, балг. *сва́тба*, макед. *свадба*. Прасл. **svatьba*, адкуль пасля падзення рэдукаваных і азванчэння *t* – сучасныя формы. Ад **svatati*, **svatiti* ‘сватаць’ < **svatъ* ‘сват’ з суф. *-ba*; гл. Трубачоў, История терм., 142; Скок, 3, 361; БЕР, 6, 535; Махэк$_2$, 594; Сной$_1$, 621. У літаратурнай мове выцеснена словам *вяселле*, а *свадзьба* лічыцца русізмам; прынамсі так можна зразумець аўтараў Сл. ПЗБ (4, 380), аднак шырокая дыялектная распаўсюджанасць слова (гл. ДАБМ, к. 338) ставіць гэта пад сумненне.

**Сважы́ць** ‘струменіць’ (глыб., Сл. ПЗБ). Аўтары слоўніка мяркуюць пра сувязь з рус. *скважина* ‘шчыліна’, што дае падставы бачыць у ім дэфармаванае рус. *сквозúть* ‘праймаць наскрозь’. Няясна.

**Свал** ‘узвышша, вузкая града, якая ўтвараецца пры аранні ў сярэдзіну, “у склад”’ (Дэмб., 2, 832). Рус. *пахать в свал* – звальваючы насустрач адна адной дзве сумежныя баразны, наўг. *пахать на свал* ‘разворваць барозны з бульбай праз адну’, укр. палес. *свал* ‘насыпны ўзгорак’. Да **сваліць* ‘зваліць’, магчыма, русізм або

графічна адаптаванае *звал* 'навал; марэна' (Ласт.). У адносінах да семантыкі параўн. *склад*$_3$ (гл.).

***Свалата́,** *сволота́* 'агідныя, шкодныя людзі', *сволочу́га* 'нягоднік, нягодніца' (ТС). З рус. *сволота́, сволочу́га*, якія ад *волоку, волочить*, г. зн. 'тое, што звалочана'; да семантыкі параўн. чэш. *sebranka* 'тс' < *sebrati* 'сабраць'.

**Сва́нка** 'свацця' (Нас., Сл. ПЗБ, ТС, Сцяшк.), 'дружка на вяселлі' (Сл. ПЗБ), *сва́нька* 'свацця' (Сл. ПЗБ, Ян., Скарбы), 'дружка; пасада на вяселлі' (Сл. ПЗБ, Кольб.), *сва́нькі* 'мацеры жонкі і мужа' (Мат. Гродз.), *сва́нечка* 'сваха' (Сцеп.). Укр. *сва́нька, сва́ненька, сва́нечка*, польск. дыял. *swania, swanka*. Памяншальна-ласкальная форма да *сваха, свацця* (гл.) з суф. *-ньк(а)*.

**Сва́рка** 'спрэчка, якая суправаджаецца крыкам, шумам і пад.; лаянка' (ТСБМ, Нас., Бяльк., Сл. ПЗБ), *свар, сва́ра* 'тс' (Нас.; ЛА, 3; Сл. ПЗБ), *сва́рба* 'тс' (Сцяшк., Сл. ПЗБ, Скарбы), *сварыцца* 'спрачацца, крычаць; лаяцца' (Нас., Касп., Ласт., Бяльк., Варл.), ст.-бел.. *сваръ* (Альтбаўэр). Укр. *сва́р(а)* 'сварка', *свари́тиса*, рус. *сва́ра* 'сварка, варожасць', *свари́ться*, ст.-рус. *сваръ* 'сварка', *сварити* 'спрачацца', польск. *swar, swarzyć sie*, в.-луж. *swar, swarić*, н.-луж. *swariś*, палаб. *svorĕt*, чэш. *svářit se, svár* 'сварка', славац. *svárit'sa, svár* 'тс', славен. *svȃr* 'ганьбаванне', *svaríti* 'ганьбаваць, перасцерагаць', балг. *сва́ра* 'сварка, спрэчка', ст.-слав. **сваръ** 'разлад, звадка, сварка'. Бліжэйшыя і.-е. адпаведнікі: ст.-ісл. *svara* 'адказваць', гоц. *swaran* 'клясціся', ст.-в.-ням. *swerian* 'клясціся, гаварыць пэўна', лац. *sermo* 'размова', нов.-в.-ням. *Schwur* 'клятва', гл. Траўтман, 296; Фасмер, 3, 569. Прасл. **svarь*, **svara*, **svariti* ад і.-е. кораня **su̯er-* 'урачыста гаварыць'. Махэк$_2$ (594) **svariti* спрабуе вывесці з **vaditi* (гл. *вадзіць*) шляхам замены *d* на *r* у прыметніку **vadlivъ*, адкуль гэтая змена распаўсюдзілася на назоўнік і дзеяслоў. Гл. таксама Борысь, 588–589; Шустар-Шэўц, 1383; БЕР, 6, 534; Бязлай, 3, 345.

**Сварыбаба** 'расліна дзераза, Lycopodium' (Бес.). Польск. *swarzybaba* 'тс', таксама *morzybaba, babimor*; у чэшскіх гаворках *rimbaba*, ст.-чэш. *rimbaba*, але абазначаюць яны адзін з відаў рамонка (Махэк, Jména, 247 і наст.). Відавочна, звязана з *баба*, але канкрэтныя матывы намінацыі няясныя. Махэк (там жа) мяркуе, што расліна магла мець нейкае лекавае ўздзеянне на "бабу", г. зн. была лекам пры жаночых хваробах. Аднак беларускае і польскае



словы, відаць, ад *сварыцца* і *баба*, параўн. *сварыбаба* 'непамяркоўны чалавек' (Сцяш. Сл.) і сведчанне Пяткевіча: Joj ŭsio adno z kim swarycsa <…> jeje za toje nazvali "Swarỳ-Bàba" (Пятк. 2, 261), а таксама ўкр. *сварка, сварнік* для называння розных раслін, у тым ліку Licopodium clavatum L., вядомага як *дзераза* (ад **derti*, гл.). Украінскія назвы тлумачаць павер'ем, нібыта прысутнасць расліны ў хаце выклікае сварку (ЕСУМ, 5, 186), што, магчыма, грунтуецца на народнаэтымалагічным успрыманні назвы *дзераза* ці тлумачыцца збліжэннем з *сва́рба́* 'сварка' (гл. папярэдняе слова).

**Сва́стыка** 'знак у выглядзе крыжа з загнутымі пад прамым вуглом канцамі – эмблема германскага фашызму (першапачаткова культавы знак некаторых старажытных рэлігій)' (ТСБМ). З ням. *Swastika* 'тс', што ўзыходзіць да ст.-інд. *svastika* 'сустрэча, весялосць, здароўе' з *su-* 'добры' і *asti* 'быць, існаваць', роднаснага прасл. **(j)estь* (гл. *ёсць*) гл. Майргофер, 3, 637; Сной$_2$, 713.

**Сват** 'асоба, якая сватае жаніху нявесту ці нявесце жаніха', 'бацька мужа ў адносінах да жончыных бацькоў ці наадварот' (ТСБМ, Шат., Бяльк., Сцяшк., З нар. сл., Бір. дыс., Сл. ПЗБ, ТС, Байк. і Некр.), 'на вяселлі родзіч з боку маладога' (Сл. ПЗБ), 'адзін з удзельнікаў вясельнай дружыны' (віл., З нар. сл.), *сваты́* 'бацькі маладых і ўсе родныя госці' ("якіх называюць сватамі", Сержп. Прымхі), *свато́ве* 'тс' (Нас., Касп.). Укр., рус. *сват*, ст.-рус. *сватъ*, польск. *swat*, н.-луж. *svat* 'шафер, дружка', 'усякі сваяк заручанай пары', чэш. *svat*, славац. *svat* 'бацька зяця або нявесткі', серб.-харв. *сва̏т* 'сват', славен. *svât* 'сват, дружка', балг., макед. *сват* 'сват', дыял. 'сваяк'. Прасл. **svatъ*, дэрыват ад кораня **swo-* 'свой', з і.-е. **su̯a-tō (*swō-t-)*, дзе *-t-* вытворнае ад займеннікавага кораня (гл. *мой*), першапачаткова 'свой, блізкі чалавек, суродзіч'; значэнне 'чалавек, які сватае' з'явілася пазней пад уплывам дзеяслова **svatati* (гл. Трубачоў, История терм., 142–143). Паралелі ў літ. *svẽčias, svẽtis* 'госць (чужынец)', грэч. (Ϝ)έτης 'родзіч, прыяцель', гоц. *swēs* 'уласны', ст.-інд. *svás* 'свой'. Махэк$_2$ (594) на аснове чэш. *svatví* * < **svatvьji* адносіць слова да асновы на *-u-* і параўноўвае з авест. *xvaētu-*, што адвяргаецца па фанетычных прычынах. Гл. Фасмер, 3, 570; Борысь, 589; Шустар-Шэўц, 1384; БЕР, 6, 534–535; Сной$_2$, 713; Глухак, 597 (збліжае з **xvatati*, гл. *хватаць*); Шаўр, Etymologie, 45 (допускае незалежнае ад славянскіх развіццё балтыйскіх і грэчаскай формаў).

**Сва́тацъ,** *сва́тацца* ‘прапаноўваць каго-небудзь у мужы ці ў жонкі’, ‘прасіць згоды на шлюб’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ, ТС). Укр. *сва́тати(ся),* рус. *сва́тать(ся),* ст.-рус. *сватати*ся ‘парадніцца праз шлюб дзяцей або сваякоў’, польск. *swatać się* ‘тс’, чэш. *svatati* ‘спраўляць вяселле’, балг. *свату́вам се* ‘быць сватам’, макед. *сватоса се* ‘парадніцца праз шлюб’. Прасл. **svatati (sę)*, **svatiti sę*. Толькі славянскае. Дэрыват ад **svatъ*, першасна ‘парадніцца’, астатнія значэнні даволі позні. Гл. Трубачоў, История терм., 143.

**Сва́ха** ‘сваццця’ (Сцяшк., Сл. ПЗБ, ТС, Скарбы, З нар. сл.), ‘адна з сваячак маладога’ (Бір. дыс.), ‘на вяселлі родзічка з боку маладой у адносінах да родзічаў маладога і наадварот’ (Сл. ПЗБ), *сва́хна* ‘сваццця’ (ТС). Укр., рус. *сва́ха*, польск. *swacha*, серб.-харв. рэдк. *svaha*, балг. *сва́ха*. Ад **svatja* (гл. *сваццця*) з гіпакарыстычным суф. *-ха(-cha)* (Фасмер, 3, 570; Брукнер, 527; SP, 1, 71). Трубачоў (История терм., 143) указвае на кантамінацыю ў гэтым слове значэнняў ‘жанчына, якая займаецца сватаннем’ і ‘маці мужа ў адносінах да маці маладой і наадварот’.

**Сва́цця** ‘жанчына, якая сватала нявесту жаніху ці жаніха нявесце’, ‘маці мужа ў адносінах да жончыных ці маці жонкі ў адносінах да мужавых бацькоў’ (ТСБМ, Нас., Касп., Шат., Бяльк., З нар. сл., Сл. ПЗБ, ЛА, 3), ‘адна з удзельніц вясельнай дружыны’ (віл., З нар. сл.), *сваце́я* ‘жанчына ў якасці гаспадыні на вяселлі’ (Сцяшк. Сл.), укр. *сва́ття*, рус. *сва́тья* ‘сваццця’, серб.-харв. *сва̏ћа* ‘сваха; сваццця’, макед. *сваќа* ‘тс’, балг. *сва́тя* ‘сваццця’. Прасл. **svatьja*; ад **svatъ* (гл. *сват*) з суф. *-ьja* аналагічна рус. *гость*: *гостья*; гл. Фасмер, 3, 570; БЕР, 6, 537.

**Сва́шка**$_1$ ‘сваццця’ (Нас., ТС), ‘маладая сваццця; малодшая сваццця на вяселлі’ (Гарэц.), ‘удзельніца вясельнай дружыны з боку маладога’ (віл., З нар. сл.), ‘дружка (жаніха)’ (мін., Сл. ПЗБ; валож., Жыв. сл.), *сва́шкі* ‘маладыя дзяўчаты, якія ехалі за маладым’ (З нар. сл.). Укр. *сва́шка* ‘замужняя сястра жаніха’, польск. дыял. *swaszka* ‘сваха; малая дзяўчына, якая ўдзельнічае ў вяселлі як дружка’, н.-луж. *swašk*, *swaška* ‘пасаджоная маці, старэйшая сваячка жаніха і нявесты’, балг. *сва́шка* ‘сястра нявесткі’. Памяншальнае да *сваха*, гл. (БЕР, 6, 536; Шустар-Шэўц, 1483–1484).

**Сва́шка**$_2$ ‘назва грыба’ (ПСл). Няясна; магчыма да папярэдняга (“беленькая пудо дном, а зверху красная”, там жа).



**Сва́я**, *шва́я* ‘слуп, які падтрымлівае мост над вадой; паля’ (Інстр. 1), ‘бервяно ў 6–8 сажняў даўжыні, з якога ўтворана планіца, што складае плот’ (Дэмб. 2), *сва́я, сва́га* ‘паля’ (брасл., в.-дзв., Сл. ПЗБ). Рус. *сва́я*, дыял. *шва́я*, рус.-ц.-слав. *свая*. Пэўнай этымалогіі няма. Праабражэнскі (2, 256) набліжае да *соваць*, а Гараеў (319) да *вая́ць*, *віць*. У беларускай, магчыма, запазычанне з рус. *свая*.

**Сваяво́ліць** ‘дурэць, сваволіць’ (Нас., Сцяшк. Сл.), *сваяво́ля* ‘свавольства’ (Нас.), *сваево́ля* (Пятк. 2), *сваяво́л* ‘гарэза; неслух’ (Гарэц.), *сваяво́лно* ‘без уліку чужых інтарэсаў і абставін’ (Сержп. Прымхі). Самастойнае ўтварэнне ад *свой*$_1$ (гл.) і *воля* (гл.), як і рус. *своево́ля*, насуперак Віткоўскаму (Słownik, 170), які хоча бачыць у апошнім запазычанне з польск. *swawola* (гл. *сваволя*), параўн. ст.-слав. **своѥволнѣ**, балг. *своево́лие*, *своево́лнича* і іншыя ўтварэнні ад **svoj* (БЕР, 6, 562).

**Сва́як** ‘той, хто знаходзіцца ў сваяцтве з кім-небудзь’, ‘швагер’ (ТСБМ, Нас., Шат., Гарэц., Др.-Падб., Сл. ПЗБ, Варл., Мат. Гом.), *своя́к* ‘тс’ (ТС), *сваякі́нь* ‘тс’ (Мат. Гом.), ст.-бел. *своякъ*, сюды ж *своя́чка* (ТС), *сваякі́ня* (Мат. Гом., Мат. Маг.) ‘сваячка; сястра жонкі’, *сва́ячына* ‘сястра мужа’ (Ян., Мат. Гом.). Укр., рус. *своя́к*, ст.-рус. *своякъ*, польск. *swojak* ‘зямляк’, *swak* ‘сваяк’, в.-луж., н.-луж. *swak*, ст.-чэш. *svak* ‘сваяк’, славац. *svák* ‘муж цёткі’, серб.-харв. *сво̏ја̑к*, *сва̑к* ‘муж сястры жонкі’, славен. *svák* ‘сваяк’, балг. дыял. *сва́ко* ‘швагер’, ‘пляменнік’. Прасл. **svojakъ* ‘суродзіч’. Дэрыват ад прасл. **svojь* ‘свой’ з суф. *-akъ*; гл. Фасмер, 3, 584; Трубачоў, История терм., 140 і наст.; у заходнеславянскіх і паўднёваславянскіх формах адбылося сцяжэнне галосных, гл. Сной$_1$, 621. Шустар-Шэўц (1382–1383) і БЕР (6, 533) рэканструююць прасл. **svakъ* аналагічна **svatъ*; Шаўр дапускае другаснае **svojak* на базе аднаўлення сувязі з **svojь* (Шаўр, Etymologie, 45).

**Сва́ялак** ‘сваяк’ (валож., Сл. ПЗБ). Да **сваялы*, што ад *сваяк* па тыпу прыметнікаў на *-л-*.

***Сваясі**, ст.-бел. *своясы*, *своѧси: възвратишаѧ въ своѧси* (Карскі, 1, 357; 2–3, 387, 456). Параўн. рус. *-свояси* ў *восвояси* ‘да сябе, дадому’, што з стараж.-рус. *въ своя* < Він. скл. мн. л. н. р. ад **свой* і Д. скл. адз. л. *си* ‘сабе’ (Праабражэнскі, 2, 263; Фасмер, 3, 584). Параўн. *савосы* (гл.). Карскі (1, 357) бачыць у старабеларускіх формах украінскі і польскі ўплыў; Яновіч (Веснік БДУ,

1974, 3, 65–66) выводзіць са словазлучэння *въ своя си мѣста* з падвойным азначэннем.

**Све́дар**, *свэ́дар, свэ́тар* 'світэр' (Сл. ПЗБ, Сл. Брэс.), *свэ́тар, свэ́дар* (Сцяшк., Жд. 2), *свэ́дар* (Нар. сл.), *свэ́тар* (Скарбы) 'тс'. З польск. *sweter* 'тс', формы з *д* з дыял. інтэрвакальным азванчэннем; этымалогію гл. пад *сві́тэр*. Параўн. *шwэдар*, гл.

**Све́дка** 'той, хто непасрэдна прысутнічаў пры якім-небудзь здарэнні, падзеі' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Мал., Мядзв., Бяльк., Сл. ПЗБ, Сцяшк.; Нік. Очерки), *сьве́дка (świedka)* 'тс' (Касп., Пятк. 2), ст.-бел. *съвѣдъка* побач з *свѣдокъ* 'тс'. Укр. *сві́дка, сві́док*, польск. *świadek*, в.-луж. *swědk*, чэш. *svědek*, славац. *svedok*, серб.-харв. *свjѐдок*, славен. *svedok*, балг. дыял. *све́док*, макед. *сведок* 'тс'. Прасл. **sъvědokъ*, **sъvědъkъ* 'сведка' вытворнае ад прасл. **sъ-věděti* 'даведацца, ведаць, ведаць добра' < прасл. **věděti* 'ведаць' (Карскі, 1, 388; Шустар-Шэўц, 1385–1386; Глухак, 600; ЕСУМ, 5, 194; Борысь, 620). Параўн. таксама рус. *свиде́тель*, балг. *свиде́тел*, ст.-сл. **съвѣдѣтєль**, гэтую форму Махэк₂ (594) лічыць праславянскай, а формы з *-к*-суфіксацыяй узніклымі пазней, шляхам механічнага скарачэння і замены суф. *-tel'*. Пераход слова да асноў на *-а* можна тлумачыць вынікам аналогіі з назвамі асоб тыпу *суддзя, старшыня* і інш.; параўн. Карскі 2–3, 15. Гл. яшчэ Фасмер, 3, 577; Брукнер, 535 і БЕР, 6, 537–538. Гл. таксама *светка, свідзецель*.

**Све́дчыць** (*сьве́дчыць*) 'пацвярджаць правільнасць, сапраўднасць чаго-небудзь у якасці відавочцы, сведкі, дасведчанай асобы' (ТСБМ, Ласт., Касп.), параўн. ст.-бел. *досвѣдчати* 'тс'. Укр. *сві́дчити*, польск. *świadczyć,* в.-луж. *swědčić*, н.-луж. *swědcyś,* чэш. *svědčit*, славац. *svedčit',* серб.-харв. *svjedòčiti*, славен. *svedóčiti*. Дыял. прасл. **svědčiti*, дэрыват ад **svědъkъ* 'сведка'. Параўн. таксама *светка* (гл.).

**Све́жані́на**, *свежына́* 'свежае мяса, сала', 'мяса толькі што забітай жывёлы' (ТСБМ, Нас., ТС, Сл. ПЗБ, Мат. Гом., Мат. Маг., Сл. Брэс., Нар. словатв., З нар. сл.). Укр. *свіжина́*, рус. *свеженíна, свежина́*. Да *свежы*; Фасмер, 3, 571.

**Све́жы** 'які не страціў сваіх натуральных якасцей', 'халаднаваты, досыць халодны', 'які не быў у выкарыстанні, ва ўжыванні' (ТСБМ, Ласт., Бяльк., ТС), 'новы; нетутэйшы' (валож., красл., паст., Сл. ПЗБ). Укр. *сві́жий*, рус. *све́жий*, старaж.-рус. *свѣжь*, польск. *świeży*, чэш. літар. *svěží* (з польск. – Махэк₂, 596), славац. *svieži*, славен. *svȇž* (з рус. – Снойₗ, 623), балг. *свеж* (мабыць, з рус. – БЕР, 6, 536), макед. *свеж*, ст.-слав. **свєжь**. Прасл. **svěžь*. І.-е. адпаведнікі: гоц. *swikns* 'чысты, цнотны', ст.-ісл. *sykn* 'нявінны', літ. *sveĩkas* 'здаровы' (Траўтман, 294; Mikala, IF, 23, 126). Лат. *svaigs* 'свежы' лічыцца пераўтварэннем славянскага **svěžь* (Мюленбах–Эндзелін, 3, 1141; Фрэнкель, 1044; Скок, 3, 373). Снойₗ (623) узводзіць да і.-е. **su̯oi̯gh-io-* 'вільготны, не засушаны'. Махэк₂ (там жа) параўноўвае славянскія словы з лац. *vigere* 'быць поўным жыцця'. Агляд літ-ры гл. яшчэ Фасмер, 3, 571. Борысь (623) і.-е. праформу лічыць пашырэннем і.-е. **su̯ei̯-* 'згінаць, круціць'.



**Све́нка** (*свэ́нка*) 'укладка жыта з дванаццаці снапоў' (кам., Шатал.). Хутчэй за ўсё, ад *свінка* ў дыялектным вымаўленні, параўн. *свіння₂*. Менш верагодна сувязь з *віць, вянок* (гл.). Параўн. рус. *вен* 'вянок', балг. *свеник* 'добра скручаная вязка травы, прыгатаваная для ўючнай перавозкі' (БЕР, 6, 540). Гл. яшчэ *свянаць*.

**Свентая́н**, *свентыя́н, свентая́нка, свентыя́нка* 'зверабой', 'настой зверабою' (Сл. ПЗБ), *свенціян* 'тс' (Сл. ПЗБ, Нар. лекс.), *свентоя́н* 'зверабой' (ТС), *свентая́ннік* 'тс' (Сцяшк.), 'вырачка звычайная, Clinopodium vulgare L.' (Кіс.), *снеціян* 'свентаян' (Расл. св.), *свянціядло* 'тс' (Сл. рэг. лекс.). Эліпсіс *свентаянскае зелле* (гл.).

**Свентая́нскае зелле** 'святаяннік звычайны, Hypericum perforatum L.' (Нас.; гродз., брэсц., мін., Кіс.; Нас., Дэмб. 1, Сл. ПЗБ, Жд., Сержп. Прымхі). З польск. *świętojanskie ziele* 'тс'. Параўн. укр. *сьвятояньске зілля* 'тс', ст.-чэш. *Svatého Jana korenie* 'тс', *Sv. Jana bylina* 'чарнабыльнік', серб.-харв. *трава светог Ивана* 'святаяннік', 'расліна Salvia sclarea L.'. Як піша Растафінскі (гл. Махэк, Jména, 148–149), зверабой называецца *святаяннікам* таму, што цвіце каля свята св. Івана. Махэк (там жа), улічваючы, што гэтая назва аб'ядноўвае розныя лекавыя расліны, мяркуе, што вытокі намінацыі трэба шукаць у павер'і аб неабходнасці капаць іх у ноч пад Івана Купалу. Не выключае ён і магчымасці нямецкага паходжання, г. зн. калькі ням. *Sankt Johanneskraut* 'святаяннік', літаральна 'трава святога Яна', параўн. *Ян, Ян-зе́лля* 'тс' (віл., воран., мядз., ЛА, 1). Гл. *святаяннік*.

**Све́пет** 'пчаліны бортны рой' (У. Караткевіч), ст.-бел. 'дупло, дзе жывуць дзікія пчолы': *а хто бы свепет в чыем лесе умыслне*

*порубал и мед выбрал* (Статут ВКЛ 1588 г.), ст.-рус. *свепетъ* 'дзікі лясны мёд', ст.-укр. *свепеть* 'борць у дрэве для дзікіх пчол' (1366), польск. дыял. *świepiot* 'рой дзікіх пчол', ст.-польск. *świepioto* 'тс', чэш. дыял. *svapato* 'пчолы, якія жывуць у лесе', ст.-луж. *svepet* 'борць'. Прасл. **svepetъ*, паходжанне якога няяснае. Выводзяць з прасл. **svepati* (> **svepetati*) 'мільгаць, мітусіцца', параўн. ст.-рус. *свѣпатися* 'ківаць, хістаць', рус.-ц.-слав. *свепетати* 'хістацца, рухацца туды і сюды', славен. *svępati* 'хістаць, ківаць, трасці' і асабліва фармальна супадаючае славен. *svepȅt* 'бляск, мігценне', роднаснае літ. *sùpti* 'калыхацца', н.-ням. *swabbeln* 'рухацца ў той і другі бок (пра ваду), хваляваца' (Міклашыч, 330; Фасмер, 3, 573; Машынскі, Pierw., 188; Фурлан у Бязлай, 3, 348), што адлюстроўвае першаснае чыста зрокавае ўспрыманне месца гнездавання пчол. Іншае меркаванне пра роднасць з ням. *Wabe* 'соты' і "праеўрапейскае" паходжанне выказвае Махэк$_2$, 594. Гл. таксама Рымут, St. lingv. Polono-Jugosl., 2, 39. Меркаванне Булыкі пра запазычанне ст.-бел. *свепетъ, свепето* з ст.-польск. *świepiot* недастаткова аргументаванае, Брукнер (536) дапускаў адваротнае запазычанне для польск. *świepiot* 'тс'. У сучасных гаворках звычайна *слепет* 'дупло, дзе жывуць пчолы' (гл.).

**Свер** 'вага ў студні з жураўлём' (ДАБМ, к. 243), *свір* 'тс' (Сл. ПЗБ), 'саха ў студні з жураўлём' (ДАБМ, камент., 808), 'падважнік, доўгая палка, якая адным канцом упіраецца ў зямлю', *сві́ра́* 'вага ў студні з жураўлём' (Нік., Оч., 64), *сві́рэц* 'вочап у студні з жураўлём' (ДАБМ, камент., 810). Узыходзіць да літ. *sverti*, *svérti* 'узважваць, нахіляць, падважваць', у якасці крыніц запазычання прапануецца літ. *svirtìs*, лат. *svēre*, *svira*, *svīra* 'вага ў студні з жураўлём', 'рычаг', параўн. *асвер* (гл.), дзе *а-* пратэза або вынік уздзеяння дзеяслова *асвéрыць* 'падняць' (Ласт.), гл. Краўчук, Лекс. балтызмы, 15; Лаўчутэ, Балтизмы, 52; Анікін, Опыт, 91.

**Сверб** 'адчуванне казытлівага нервовага раздражнення, якое выклікае пачухванне', 'нецярплівае жаданне, турбота' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Др.-Падб., Сл. ПЗБ, Сцяшк.), *сьверб* 'раздражненне скуры' (Касп., Бяльк.), *свербёта* 'тс' (Нас.). Укр. *сверб, свербóта, свербя́чка*, рус. *сверб*, польск. *świerzb*, каш. *sverb* 'тс'. Аддзеяслоўны дэрыват ад *свярбець* (гл.), больш позняе, з прычыны таго ж галоснага ў корані, чым слова з аблаутам: укр. дыял. *свóрiб* 'кароста', рус. дыял. *свóроб*, серб.-харв. *сврâб*, балг. *свраб* 'кароста', ст.-слав. **свраБъ**. Прасл. **svorbъ*; гл. Фасмер, 3, 573; Махэк$_2$, 598, Мяркулава, Этимология–1970, 169. Падрабязна аб **svьrběti*, **svorbъ* і *сверб* Младэнава, Этимология–1988–1990, 49–50.



**Свéрдзел** 'інструмент для свідравання дзірак у дрэве, метале і інш.' (ТСБМ, Нас., Касп., Бяльк., Гарэц., Маш., Ян., Мядзв., Др.-Падб., Жыв. сл., Клім., Пятк. 2), *свердзіль* 'тс' (Шымк. Собр.), *свярдзёлак* 'тс' (Сцяшк., Сл. ПЗБ), *свéрдлік* 'маленькі свердзел' (Янк. 1, Мат. Гом., Ян.), *свярдло, свéрла* 'тс' (Сцяшк.), *свéрдла* 'трайня ў возе' (кобр., Нар. словатв.), *свéрдліць* 'свідраваць' (Нас.). Укр. *свéрдел, свéрдло*, рус. *свéрдел, сверлó*, ст.-рус. *свьрдло*, мн. л. *свердьлы*, польск. *świder*, чэш., славац. *svider* (з польск. – Махэк$_2$, 596), серб.-харв. *свр̏дао, свр̏дла*, серб.-ц.-слав. *свръдьлъ*, славен. *svédər*, балг. *свърдел, сврьдел*, макед. *сврдел, сврдло*, ст.-слав. **свръдьлъ** 'тс'. Прасл. **svьrdьlъ*/**svьrdьlo* (Трубачоў, Ремесл. терм., 375). Роднаснае, перш за ўсё, германскай назве колючай, рубячай зброі: ст.-в.-ням. *swërt*, ням. *Schwert*, англ. *sword* 'меч'; гл. Трубачоў, там жа; Фасмер, 3, 573–574. Махэк$_2$ (596), Младэнаў (573) аднаўляюць прасл. **svьrb-dlo* і мяркуюць аб роднасці з ст.-ісл. *hvirfill* 'віхар, кальцо, макаўка, верхавіна', ст.-в.-ням. *hwërfen, wërban* 'вярцець'. Снойl (622) прасл. **svьrdьlъ* узводзіць да і.-е. кораня **su̯er-* 'рэзаць, калоць'; таксама Борысь, 622. Гл. яшчэ БЕР, 6, 565–566. Параўн. *свідар* (гл.).

**Свéржань** 'цвёрды ўчастак абалоні ракі', *сцвержань (стверженъ)* 'тс' (Жучк.), *Свéржань* (назва вёсак у Стаўбцоўскім, Рагачоўскім, Ганцавіцкім раёнах). Ад **сцвярдзець* (параўн. рус. дыял. *ствердеть*, укр. *стверді́ти* 'зацвярдзець') з суф. *-ень* (адносна суф. гл. Сцяцко, Афікс., наз., 38 і наст.) або кантамінацыя *цвёрды* і *стрыжань* (гл.).

**Сверса́дла** (*сверса́дло*) 'люстэрка' (Сл. Брэс.). З польск. *zwierciadło* 'тс', параўн. укр. *свіча́до* 'тс' таго ж паходжання (ЕСУМ, 5, 198).

**Сверсць** 'калодзежны журавель' (астрав., Сл. ПЗБ). Паводле аўтараў слоўніка (4, 386), з літ. *svirtìs* 'тс'.

**Свершч** 'цвыркун' (Нас., Ласт.), *свіршч* 'тс' (гродз., ЛА, 1), *свяршчóк* (Жд. 1, Сцяшк., Шатал.), *свéршчык* (швянч., Сл. ПЗБ), *свярчóк* (Скарбы) 'тс', ст.-бел. *сверщокъ* (Скарына). Укр. *сверщ*,

рус. *сверщ, сверчок*, стараж.-рус. *свьрчькъ*, польск. *świerszcz*, в.-луж. *šwjerč*, н.-луж. *šẃerc*, чэш. *svrček*, *cvrček*, славац. *svrčok* 'тс', серб.-харв. *цвр̀чак* 'від насякомага', славен. *cvrček* 'конік', балг. *цвърче́к* 'цвыркун', макед. *свирец*, ст.-слав. **свръчь(къ)** 'тс'. Прасл. **svьrčь*, да гукапераймальнага *свірчаць, цвірчэць* (гл.); Фасмер, 3, 575; Брукнер, 536; Махэк$_2$, 91. Карскі (1, 387) лічыць спалучэнне *-шч-* другасным на месцы *-ч-*; Борысь (623) тлумачыць канцавое спалучэнне *-szcz* у формах тыпу *свершч* аналогіяй з *клешч, хрушч*. Калі прыняць у якасці зыходнага прасл. **svirati* (**svьrěti*) (Брукнер, 536; ЕСУМ, 5, 189), параўн. *свэрсту́н, свырсту́н, свэршч* 'цвыркун' (брэсц., ЛА, 1), то *-шч-* можа быць на месцы *-тс-*, як у *свіраст* 'рэзкі, прарэзлівы гук', *свіршчэ́ць* 'выдаваць такі гук' (Ласт.), параўн. літ. *svìrkšti* 'выдаваць гук, пішчаць, свістаць', лат. *svir̃kstêt* 'тс'.

**Свесь** (*сьвесь*) 'сястра жонкі' (Ласт., Касп., Янк. 1, Сл. рэг. лекс.; мазыр., Шатал.; ТС), *свесць (сьвесць)* 'тс' (ТС, Шат., Маш., Ян., Кольб.), *свісць* (*сьвісьць*) 'тс' (Клім., Сл. Брэс.), *сьве́сьця* 'тс' (Касп.), *сьве́стка* 'тс' (Ласт.); укр. *свість*, рус. дыял. *свесть, све́стка* 'швагерка', стараж.-рус. *свесть, свьсть, свѣсть*, польск. *świesć* 'сястра мужа або жонкі', серб. *сва̏ст, сва̏сти* 'швагерка', славен. *svȃst, svȩst*, балг. *све́стка*, макед. дыял. *свеска* 'тс'. Прасл. **svьstь, svěstь* мае адпаведнікі ў літ. *sváinis* 'сваяк' (паводле Атрэмбскага (Gramatyka, 171), літоўскай мове характэрна сінанімія суф. *-nis-/-sis-*), лат. *svaĩnis* 'брат жонкі' побач з *sìvystàs* 'цесць', ст.-ісл. *sveinn* 'хлопчык, хлопец, слуга', ст.-в.-ням. *geswîo* 'сваяк' і інш. Гл. Фасмер, 3, 575; Міклашыч, 322; Младэнаў, 571, 573; Скок, 3, 226. Далей да *свой* (гл.). Трубачоў (История терм., 140) словаўтварэнне тлумачыць як далучэнне суф. *-st-* да асновы **svь-*, якая ўтварылася ў выніку рэдукцыі кораня: **svь- < sve-, svo-*; першапачаткова гэта быў nomen abstractum са значэннем 'прыналежнасць да сваіх, сваяцтва'. Аднаўленне сувязі ў рус. *свояченица* 'швагерка', параўн. Шаўр, Etymologie, 45.

**Свет** 'зямля з усім тым, што на ёй існуе; сусвет', 'асобная частка сусвету, планета', 'чалавечае грамадства' (ТСБМ, Ласт., Гарэц.), *свет, белы свет* 'акаляючая прастора; далёкі край' (ТС, Сержп., Сл. ПЗБ), *той свет* 'замагільная існасць' (ТС), *свет* 'святло; світанне' (Бяльк., ТС, Сл. ПЗБ), 'шмат, безліч' (Сл. ПЗБ, ТС, Гіл.), ст.-бел. *светъ* 'планета; сусвет', 'зямное ці замагільнае існаванне', 'святло, ззянне'. Укр. *світ* 'святло, світанак', 'сусвет; людзі', рус. *свет* 'тс', ст.-рус. *свѣтъ* 'святло; светач', 'сусвет', польск. *świat*, в.-луж., н.-луж. *swět* 'тс', чэш. *svět*, славац. *svet* 'свет', серб.-харв. *свȇт, свȉјет*, славен. *svȇt* 'свет; людзі', балг. *свят* 'свет', макед. *свет* 'тс'. Прасл. **světъ* 'святло' > 'сусвет', звязанае чаргаваннем галосных са ст.-слав. **свьтѣти(сѧ)** 'свяціцца'. Паралелі ў ст.-інд. *śvetáh* 'белы, светлы', авест. *spaēta* 'тс', літ. *šviẽsti, šviẽčia* 'свяціць', лац. *vitrum* 'шкло', ст.-в.-ням. *hwîz* 'белы'; гл. Траўтман, 310; Мюленбах–Эндзелін, 3, 1165; Майргофер, 3, 405 і наст.; Фасмер, 3, 575. Шустар-Шэўц (1387) лічыць **světъ* дэвербатывам ад прасл. **svьtěti sę, *svítati* (гл. *свяціць*), гл. таксама Мартынаў, Лекс. взаим., 169. Сной$_1$ (622) тлумачыць семантычны пераход 'святло' – 'свет' як 'дзе святло, дзе бачна', што характэрна і для іншых індаеўрапейскіх моў (Борысь, 623). Пераход 'акаляючая рэальнасць; святло' – 'мноства', акрамя славянскіх моў, вядомы балтыйскім і фінскім мовам, гл. Непакупны, Связи, 53.

**Светаві́т**, *Светові́т* 'міфічная істота, што ўвасабляе сонца': *Светові́т – бог Слонца і самы глаўны* (маст., шчуч., Сл. ПЗБ). Няясна, параўн. *све́таць* 'свяціць': *лучына светая* (Сл. ПЗБ) (гл. *свяціць, святло*). Нягледзячы на фармальнае падабенства, няяснымі застаюцца адносіны да назвы бога ў пантэоне балтыйскіх славян *Svantavit, Szventevit, Zwantevith* – "единственное божество у славян, в чьем имени обнаруживается элемент *svęt* 'святой' в языческом понимании этого слова" (Тапароў, Слав. др., 1, 212), другая частка назвы сустракаецца ў іншых назвах багоў – *Яравіт, Руявіт, Паравіт* і рэканструюецца як **vitъ* пры параўнанні з ц.-слав. *домовитъ* 'галава сям'і', 'гаспадар' або пры параўнанні з лац. *victima* як **viktъ* 'праяўленне сілы', гл. Тапароў, Этимология 1986–1987, 38. Варыянт з канцавым звонкім **Svętovidъ* Скок (3, 370–371) звязвае з культам святога Віда на Балканах, які ў часы хрысціянізацыі замяніў паганскае бoства, параўн. харв. *Vidova gora* (тапонім на востраве Брач). Брукнер (537) атаясамлівае першую частку імені *Świętowit*, якая шырока вядома ў славянскіх паганскіх імёнах (*Святаполк, Святаслаў* і пад.; гл. *святы*), з **jarъ* 'моцны' (гл. *яры*), прадстаўленым таксама ў імёнах *Яраслаў, Яраполк* і інш.; інакш, як 'багабойны', трактуе першую

частку імені *Святаполк* Фасмер, 3, 585. Параўн. таксама заўвагу Машынскага (Kultura, II, 2, 442) аб тым, што “słońce często bywa nazywane przez Słowian świętym”. Гл. Цыхун, Зб. Мальдзісу, 401–402. Гл. таксама Бел. міф.$_2$, 455–456.

**Светагля́д** ‘кругагляд, светапогляд, светабачанне’ (Ласт., Некр. і Байк.). Як і *светапо́гляд* ‘тс’ (ТСБМ), з’яўляецца інтэрнацыянальнай калькай, параўн. рус. *мировоззрение* ‘тс’, польск. *światopogląd* ‘тс’, крыніцай якіх лічыцца ням. *Weltanschauung* ‘тс’ (< *Welt* ‘свет’ і *Anschauung* ‘погляд’), гл. Фасмер, 2, 626; Нававейскі, Zapożyczenia, 15. Меркаванне пра калькаванне польскага слова (Цімошук, Studia z filologii ros. i słow.: Białorutenika, 22, 30) цяжка давесці, паколькі ўпершыню *сьветагля́д* (Гарэц. 1) фіксуецца ў 20-я гг. XX ст. як пераклад рус. *миросозерцание*.

**Све́так** ‘сведка’ (Нас.), *свіэток* ‘тс’ (Бес.). Гл. *сведка*; магчыма, пад уплывам польск. *swiadek*, *-т-* з *светка*, *светкі* (гл.).

**Све́тач** ‘каганец, лучнік, прыстасаванне трымаць лучыну’ (ТСБМ, Нас., Касп., Бяльк., Жд. 2, Сл. ПЗБ; бялын., Нар. сл., Мат. Маг., ЛА, 4), перан. ‘пра тое, што з’яўляецца носьбітам праўды, свабоды і культуры’ (ТСБМ); іншыя варыянты: *сьве́тыч* (Бяльк.), *све́таш*, *свя́таш*, *све́туш*, *світа́ч* (Сл. ПЗБ). Укр. *світа́ч* ‘маленькі жалезны падсвечнік пры іконе, жалезная рашотка для лучыны ў палескай курной хаце’, *све́тич*, *сві́тич* ‘каганец, ліхтар’, рус. кніж. *све́точ* ‘вялікая свечка, ліхтар’ да паловы XIX ст., потым толькі ў пераносным значэнні ‘свяцільнік, зніч’ у высокім рытарычным стылі, гл. Вінаградаў, Этимология–1963, 87 і наст.; дыял. (зах.) *све́тыч* ‘прыстасаванне для асвятлення’, ст.-рус. *свѣтычь* ‘каганец, свяцільня’. Да асновы *свет-* (гл. *свет*, *святло*). Суфіксацыя выклікае цяжкасці. Для рускага слова Вінаградаў (там жа) першаснай лічыць форму *светыч*, а форма *светоч* магла ўзнікнуць па фанетычных прычынах у акаючых гаворках, а таксама пад уплывам марфалагічных змяненняў з-за ізаляванасці суф. *-ыч-*, яго архаічнага і дыялектнага характару. Аднак Слаўскі (SP, 1, 103) выводзіць з пашыранага фармантам *-jь* суф. *-okъ* праславянскі суф. *-očь*, прадстаўлены ў польск. дыял. *żarłocz* ‘абжора’, *widocz* ‘прывід; уяўленне’ і інш., што не выключае яго рэалізацыі ў *светач*. Вярхоў (Бел. мова, 80 і наст.) дапускае магчымасць запазычання слова з рускай мовы, але падкрэслівае, што поўнасцю гэта можна сцвярджаць толькі для пераносных значэнняў беларускага слова, якія з’явіліся пад уплывам рускай мовы. Не выключана і адваротнае запазычанне ў рускую мову зыходнага *светач*, улічыўшы шырокае распаўсюджанне слова ў народнай мове, формы з канцавым націскам на суф. *-а́ч* і дзеяслоў *све́таць* ‘свяціць’ (іўеў., Сл. ПЗБ).



**Све́тка** *(свѣтка)* ‘сведка’ (Нас., Шымк. Собр.), *сьве́тка* ‘тс’, мн. л. *светкі* ‘тс’ (Бяльк.; петрык., Яшк. Мясц.): *немашака светак* (Сержп. Казкі), *све́тка* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), *свя́тка* ‘тс’ (Скарбы), ст.-бел. *свѣтки* ‘сведкі’ (1450 г.), *светок* ‘сведка’ (XVI ст.). Апошняе, згодна з Карскім (1, 275), пад уплывам формы мн. л. *свѣтки*, ад яго, відаць, і *свѣтчити*, *свѣтчу* (1487 г.), што адлюстроўваюць аглушэнне *д* (Карскі, 1, 274; 2–3, 261), гл. *сведчыць*. Адсюль запазычана і літ. *svietkas* ‘сведка’ (Буга, Rinkt., 2, 495), форма з *-я-* пад уплывам польск. *świadek* ‘сведка’. Сюды ж дыял. *све́тчыць (свѣтчиць)* ‘пацвярджаць; дапамагаць; даносіць’ (Нас.). Станкевіч (Язык, 643) бачыць тут корань *-вет-* (**-vět-*), гл. *вецікь*, адно са значэнняў якога было ‘гаварыць, абвяшчаць’, што, магчыма, паўплывала на першасную форму. Гл. *сведка*.

**Све́тлік** ‘прыстасаванне для асвятлення хаты лучынай’ (Сцяшк.). Да *светлы*, *святло* (гл.).

**Све́тлы** ‘які ярка свеціць’, ‘добра асветлены’, ‘не цёмнага колеру’, ‘чысты, празрысты (аб вадкасці)’ (ТСБМ, Нас.). Укр. *світлий*, рус. *све́тлый*, стараж.-рус., ст.-слав. **свѣтьлъ**, польск. *światły*, в.-луж., н.-луж. *swětły*, чэш. *světlý*, славац. *svetlý*, серб.-харв. *сви̏jетао*, *свиjѐтла*, *свиjѐтло*, славен. *svétel*, балг. *све́тъл*, макед. *светол*. Прасл. **světьlъ*, дэрыват ад **světъ* (гл.) з суф. *-ьlъ* (Фасмер, 3, 576; Махэк$_2$, 595). Інакш Сной$_1$ (622), які разглядае слова як дзеепрыметнік на *-l-* ад прасл. дзеясл. **svěsti*, *svísti* ‘свяціць’, якія потым былі выцеснены новым дзеясловам **světiti* (гл. *свяціць*), што, мабыць, залішне. Гл. яшчэ Шустар-Шэўц, 1387; БЕР, 6, 543–544; Борысь, 621; Мартынаў, Лекс. взаим., 169.

**Све́тнік** ‘расліна Coronaria L.’ (ТСБМ, Кіс.), ‘жаўтацвет, Adonis L.’ (ТСБМ). Ад *свет* (гл.). Назва дадзена па форме кветак, якія нагадваюць ліхтарыкі, або з-за іх яркасці, параўн. *светнік росце по горках, здалек вон видно* (лельч., Арх. ГУ).

**Све́тніца** ‘мноства, безліч’: *на базары яблыкаў светніца* (слонім., Нар. словатв.). Да *свет* (гл.) у адпаведным значэнні.

**Све́чка** ‘палачка з тлушчавага рэчыва з кнотам у сярэдзіне, якая служыць для асвятлення’ (ТСБМ, Шымк. Собр., Бяльк.), ‘капелька тлушчу на паверхні вадкай стравы’ (смарг., паст., лаг., в.-дзв., Сл. ПЗБ; Барад.; рас., Шатал.), *свячá* ‘свечка’ (Нас., Ласт.), *свечá* ‘свечка’, ‘прамы сук у сасны’ (ТС), *свíчкі* ‘перыяд ад каляд да вадохрышча’ (Сл. Брэс.), *свéчнік* ‘падсвечнік’ (Ласт., ТСБМ), *сьвéчня* ‘тс’ (Ласт.), *свечáк* ‘светач’ (лях., Сл. ПЗБ). У большасці гаворак ужываецца памяншальная форма ад *свяча*; параўн. укр. *свічá*, рус. *свечá*, ст.-рус. *свеча*, польск. *świeca*, в.-луж. *swěca*, н.-луж. *swěca*, чэш. *svíce*, славац. *svieca*, серб.-харв. *свијећа*, славен. *svẹ́ča*, балг. *свещ*, макед. *свеќа*. Прасл. **světja* ад асновы **svět-*; гл. Фасмер, 3, 576; Махэк$_2$, 596, Сной$_1$, 622. Параўноўваюць з ст.-інд. *svetyás* ‘белы, светлы’, *svetyá*; гл. Уленбек, 323; Траўтман, 311; гл. яшчэ БЕР, 6, 545–546; Шустар-Шэўц, 1384–1385; Борысь, 622.

**Свёкар** ‘бацька мужа’ (ТСБМ, Ласт., Бяльк., Сл. ПЗБ), *свё-карка* (Кос.), *свякóр* (смарг., вільн., шальч., Сл. ПЗБ), *свёкор* ‘тс’ (ТС). Рус. *свёкор*, укр. *свéкор*, ст.-рус., рус.-ц.-слав. *свекръ*, польск. старое *świekier*, чэш. *svekr*, славац. *svekr*, *sveker*, *svokor*, серб.-харв. *све̏кар*, серб.-ц.-слав. *свекръ*, славен. *svéker*, балг. *свéкър*, макед. *свекор*. Прасл. **svekrъ* (Фасмер, 3, 571 і наст.). Узнаўляюць яшчэ (Махэк$_2$, 595; Слаўскі, SP, 2, 17) і прасл. **svekъrъ*; супраць Трубачоў (История терм., 118 і наст.), які лічыць, што мяркуемая і.-е. праформа **su̯ekuros* не тлумачыць слав. **svekrъ*, лац. *socer* ‘цесць, свёкар’, гоц. *swaihra*, с.-в.-ням. *swāger* ‘свёкар’, якія паходзяць з **su̯ekros*, і разглядае -ъ- і замяняючыя яго галосныя ў розных славянскіх формах як галосныя эпентэтычнага паходжання. Параўн. яшчэ літ. *šẽšuras*, ст.-інд. *śvaśura*, арм. *skesur* ‘цесць, свёкар’. Усе і.-е. паралелі сведчаць аб *-к-* палатальным; цвёрдае *-к-* у слав. **svekrъ* застаецца няясным. Яго тлумачаць пранікненнем з *свякроў* (гл.); Фасмер, 3, 571–572; Скок, 3, 370; Мартынаў, Слав. акком., 159–160, мяркуюць, што цвёрдае *-к-* у прасл. **svekrъ* з'явілася ў выніку дысіміляцыі, але не з **svesrъ*, а з **svexrъ* (*x* < і.-е. *-k-*). Агляд версій гл. яшчэ БЕР, 6, 539; Шаўр, Etymologie, 41–45; Глухак, 597.

**Свёкліна** ‘месца на сенажаці з высокай густой травой’ (Сцяшк. Сл.). Магчыма, з **сёкліна* ‘вільготнае месца’, параўн. рус. пск. *сёкать* ‘мачыцца’.



**Свёлак** ‘шост каля печы для прасушвання адзення’ (воран., Сл. ПЗБ). Гл. *сволак*, мяккасць *-в-* у выніку кантамінацыі з нейкім іншым словам.

**Свíгаць** (*сьвíгаць*) ‘бліскаць, мігаць’ (Ласт.), *свігнýць* (*сьвігнýць*) ‘паказацца, бліснуць’ (Скарбы, Ласт.), сюды ж *сьвігавíца* ‘пробліск у хмары, маланка’ (Ласт.), відаць, і *свíга* ‘мінога рачная’ (Скарбы). Магчыма, балтызм, параўн. літ. *sviẽgti*, *sviẽgiu* ‘кідаць, шпурляць; біць, стукаць’, лат. *sviêžu* ‘кідаю’. Назва міногі, хутчэй за ўсё, звязана з хуткімі рухамі і яркай афарбоўкай. Параўн. аднак укр. дыял. *швúгати* ‘кідаць, шпурляць’, што, магчыма, сведчыць пра славянскі характар слова. Куркіна (Диал. структура, 126) са спасылкай на Пятлёву (ОЛА 1974, 125–129) супастаўляе беларускае *сьвíгаць* ‘бліскаць’ з славен. *svígati* ‘хутка рухацца, мільгаць’, рус. дыял. *свигать* ‘гуляць, шляцца’, што дае падставы для рэканструкцыі прасл. **svigati*, роднаснага літ. *svaĩgti* ‘ганяць, ездзіць туды-сюды; круціцца’, *sviegti* ‘паварочваць, кідаць, біць’ < і.-е. **su̯ei-g-* ‘згібаць, гнуцца, круціць’.

**Свíдар** ‘свердзел’ (ТСБМ, Нас., Гарэц., Яруш., Др.-Падб., Сл. ПЗБ; ашм., Стан.), *свíдэр* (Сл. ПЗБ), *свідравáць* (Сл. ПЗБ, Стан.). Запазычанне з польск. *świder* ‘тс’ < *svьrdlo* (гл. *свердзел*). Ст.-бел. *свидеръ* ‘свярдзёлак’ таксама з ст.-польск. *świder* (Булыка, Лекс. запазыч., 294).

**Свідзéцель** (*свідзéціль*) ‘сведка’ (Бяльк., Сл. ПЗБ), *свідзíцель* ‘тс’ (Ян.). Хутчэй за ўсё, запазычана з рус. *свидéтель* ‘тс’; аднак не выключана захаванне стараж.-рус., ст.-слав. **съвѣдѣтель** ‘відавочца’, пры змене *ѣ* > *и* пад уплывам *видѣти* (Фасмер, 3, 577), параўн. ст.-слав. **засъвѣдѣтельствовати** ‘пасведчыць’ і ст.-бел. *свидетельствуетъ* (1489 г.), тут, згодна з Карскім (1, 216–217), сутыкаемся з “агласоўкой” кораня *вид-* замест *вѣд-*, дзе *и* выклікана дысіміляцыяй з наступным складам і ўплывам асноў на *-i*, параўн. ст.-бел. *видити*, *сѣдити* і пад. Сной (Бязлай, 3, 347) мяркуе пра зыходны паралелізм. Гл. *сведка*.

**Свідзíна**$_1$ ‘дрэва Cornus sanguinea’, ‘кустовая або дрэвавая расліна сямейства кізілавых, Cornus sanguinea’ (ТСБМ, Маш., ТС, Кіс.), *свíдзіна* ‘тс’ (Касп.), *свíдніца, савíдавае дзерава* ‘расліна Thelycrania sanguinea Four.’ (Кіс.), *свідзíна* ‘бружмель лясны, Lonicera xylosteum L.’ (Кіс.), *свід* ‘крушына, Frangula Mill.’ (Інстр. 2). Укр. *свид*, *свидúна*, рус. *свидúна* ‘Cornus sanguinea’, польск. *świdwa*, *świdnina*, в.-луж., н.-луж. *swid*, палаб. *swaid*, чэш. *svíd*, славац.

*svíb* ‘тс’, серб. *сви̏ба*, харв. *svȉba* (< **svidъve*; Глухак, 598), славен. *svíba* ‘кізіл’, балг. дыял. *свит (свид)* ‘свідзіна’. Прасл. **svidъ*, **svidy*, Р. скл. *svidъve* (Міклашыч, 330 і наст.; БЕР, 6, 558). Фасмер (3, 577) звязвае з серб.-харв. *сви̑бањ* ‘май’, славен. *svíbən* ‘тс’, чым тлумачыцца канцавое *б(в)*. Таму што дрэва мае чырвоныя галінкі, дапускаюць роднасць з літ. *svidùs* ‘бліскучы, светлы’, *svidéti*, *svidú* ‘блішчаць’, ст.-прус. *sidis* ‘свідзіна’, ст.-англ. *sviotol* ‘ясны, яўны’, магчыма, лац. *sīdus* ‘сяваціла’ і г. д., гл., напрыклад, Траўтман, 296; Голуб–Копечны, 363. Супраць Махэк (Jména, 171), які параўноўвае з ням. шваб. *Weinholz* ‘свідзіна’ (*wein* < *wih*) і лічыць слова праеўрапейскім. Трубачоў (Этимология–1970, 7) рэканструюе **svidva* < і.-е. **(s)u̯ei̯du̯-*, дзе *-du̯-* магло трансфармавацца ў *-dъv-*, а ў выніку асіміляцыі ў некаторых славянскіх мовах даць *-b-*. Гл. таксама Сной у Бязлай, 3, 350; ЕСУМ, 5, 189 (**svidy* > **svidъva* > **svidba* > *svib*).

**Свідзіна$_2$** ‘касільна’ (саліг., ДАБМ, камент., 833). Магчыма, роднаснае ўкр. *свид* ‘вялікая добра завяленая палка’, далей сувязі няясныя; магчыма, сюды ж укр. *у свид* (*у свид жати жито* – недаспелым), *свидóвий*, *свидувáтий* ‘недаспелы, зеленаваты’, ‘малады, малажавы’ або выводзіцца з папярэдняга слова – ‘цвёрды, як свідзіна’, параўн. ЕСУМ (5, 190), а таксама азначэнні: *свідзіна слізка і моцна* (ТС).

**Свідравіна** ‘шчыліна, буравая адтуліна’ (ТСБМ). Наватвор 60-х гг. ХХ ст., аўтарства прыпісваецца Я. Скрыгану (РС, 1995, 11, 11); ад *свíдраваць* ‘рабіць адтуліну свярдзёлкам або бурам’, гл. *свідар*.

**Свідуны** ‘вокна, водны ўчастак у балоце’ (Жучк.; КЭС: з Качубінскага, ЖМНП, январь, 1897). Няясна. Качубінскі параноўвае з літ. *svidùs* ‘блішчаць’. Параўн. *свідзіна$_1$*.

**Свізік** ‘кадушка для вады’ (віц., Шн. 3), ‘невялікая бочка’ (Касп.), *свéзік* ‘пасудзіна з роўнымі бакамі, вушкамі і векам для салення мяса і сала’ (Нік. Очерки). Няясна. Магчыма, сюды ж польск. дыял. *swiąz*, *swioz*, *świoz* ‘круглая драўляная пасуда на масла для работнікаў, якія працуюць у полі’. Тады, відаць, да *vęzati* ‘вязаць’; *-i-* у корані пад уплывам *віць*; гэта магла быць драўляная кадушка з паяскамі з плеценых дубцоў.

**Свіль** ‘месца на дрэве з хвалепадобным размяшчэннем валокнаў’ (ТСБМ), *сьвіль* ‘нарост на дрэве ў месцы пашкоджання’



(Ласт.). Да *віць*, *звіць*; утворана падобна да *гніль* < *гніць* з суф. **-lь-*. Гл. Праабражэнскі, 2, 259; Фасмер, 3, 577. У выніку дээтымалагізацыі прыстаўка злілася з коранем, параўн. Пацюпа, Arche, 2007, 3, 209.

**Свінакрóп** ‘расліна Spergula vulgaris Boen.’ (Кіс., Бяльк., Гарэц., Касп., Сл. ПЗБ; лельч., Арх. ГУ), ‘свінакропнік, Spergularia rubra’ (Мядзв.), ‘калматка, Filago arvensis L.’ (Кіс.), ‘трава свідзіна’ (Сцяшк.), ‘драсён’ (Ян.). Польск. *świniokrop, świnokrop* ‘Spergula arvensis L.’. Злучэнне асноў *свін-* (гл. *свіны*) і *кроп* (гл.); расліна названа па выгляду дробнага насення, якое пакрывае сцябло расліны (параўн. іншую назву – *вошкі*, польск. *swinia wesz* ‘Conium maculatum’). Першая частка ўтворана ад прыметніка *свіны*, бо расліна часта ўжываецца на корм свінням. Укр. палес. *с’в’інôкрôп* ‘тс’ утварае адзін арэал з беларускімі назвамі (Ніканчук, Бел.-укр. ізал., 63).

**Свінапрóл** ‘нейкая трава’ (себеж., Мат.). Складанае слова, дзе першая частка выводзіцца з *свіны* (гл.) і характарызуе другую частку няяснага паходжання (Карскі, 2–3, 100).

**Свінáрка$_1$** ‘сівец, Nardus L.’ (Сл. ПЗБ, Шатал.). Відавочна, ад *свін-* (гл. *свіны*); назва магла быць дадзена за малаўжывальнасць травы; параўн. яе назвы ў іншых славянскіх мовах: укр. *псянка*, польск. *psiarka*, славац. *psica* < **pьsъ* ‘сабака’ (Махэк, Jména, 293) або, што болей верагодна, з-за падабенства да свіной шчаціны, параўн. укр. *свинниця*, рус. *щетúнница* ‘тс’ (ЕСУМ, 5, 191).

**Свінáрка$_2$** ‘грыб капытнік, Paxillus involutus Fr., Paxillus atrotomentosus Fr.’ (Сярж.–Яшк., Пятк. 1), *свінарэ́йка* ‘тс’ (ПСл). Гл. *свінуха$_2$*.

**Свіная рэпа** ‘мальва паўночная, Malva borealis’ (Дэмб. 1, 283). Да *рэпа* (гл.), відавочна, па знешнім выглядзе круглых пладоў; параўн. іншыя славянскія назвы, якія таксама ў большасці выпадкаў перанесены з найменняў чаго-небудзь круглага: рус. *просвúрник, проскýрки*, чэш. дыял. *koláčky, ciganské tvarůžky, homůlky*, укр. *пацьорки* і г. д. (гл. Махэк, Jména, 146 і наст.). Азначэнне (гл. *свіны*) характарызуе пераносны характар («фігуральнасць») назвы.

**Свінéц** ‘цяжкі мяккі легкаплаўкі метал сінявата-шэрага колеру’ (ТСБМ): *свінец волаво чыстае* (Сержп. Прымхі). Рус. *свинéц*, укр. *свинéць*, ст.-рус., рус.-ц.-слав. *свиньць*, славен. *svínəc*, балг. *свинéц* ‘волава’ (з рус. – БЕР, 6, 550). Прасл. **svinьcь*. Роднаснае

літ. *švìnas* ‘свінец’, лат. *svins* ‘волава’. Сувязь з грэч. *χvανος* ‘сіняе рэчыва’, іран. **spana-* ‘жалеза’ лічыцца сумніўнай, гл. Фасмер, 3, 577; Мюленбах–Эндзелін, 3, 1160; Сной$_1$, 624; Новое в рус. этим., 203–205. Насуперак гэтаму Данка і Вітчак (ABSl, 21, 83–91) лічаць яе верагоднай, выводзячы зыходнае **svinъ* ‘волава’ з і.-е. **k̂wn̥:s* ‘нейкі карысны камень’, ‘нейкі метал’, якому адпавядае грэч. мікен. *ku-wa-no* ‘шкло блакітнага колеру’, фрак. σπινος ‘каштоўны камень’, хец. *kuwanna* ‘медзь’, іран. *s(p)ana* ‘жалеза’, ст.-перс. **âsana-* ‘тс’. У Беларусі назва распаўсюдзілася пад рускім уплывам, народная назва – *волаво* (гл. волава), параўн. *свінец як волово* (ТС). Рус. *óлово* ў народнай мове адпавядае *цын* (Нас.), *цына* (Ласт.). Параўн. аднак ст.-бел. *свинья* ‘адзінка вымярэння колькасці свінцу і волава’ (Ст.-бел. лексікон), што, відаць, сведчыць пра народнаэтымалагічнае асваенне старой назвы.

**Свініца** ‘свіная вош’ (ТС). Ад прыметніка *свіны* (гл.) з суф. *-іц(а)*. Параўн. балг. *свиница* ‘тс’, а таксама назвы раслін, падобных на *свінакроп* (гл.).

**Сві́нка**$_1$ ‘хвароба залоз, заушніца’ (ТСБМ, Касп., Сцяшк., Сл. ПЗБ). Укр., рус., балг. *сви́нка*, польск. *świnka* ‘тс’. Ад *свіння* (гл.) з прычыны пухліны, якая значна патаўшчае шыю. Аналагічна лац. *scrōfula* ‘пухліна на шыі’ ад *scrōfa* ‘свіння, свінаматка’, грэч. χοιράς ‘апухлыя шыйныя залозы’ ад χοῖρος ‘парася, свіння’ (Фасмер, 3, 578; Вальдэ–Гофман, 2, 501; ЕСУМ, 5, 190; БЕР, 6, 550).

**Сві́нка**$_2$ ‘від рыбы на рацэ Буг’ (беласт., Ніва, 1973, 16 вер.), *свінюк* ‘рыба падуст, Chondrostoma nasus (L.)’ (Жук., рэдка на Нёмане), ‘харыус’ (Інстр. 2). Рус. *сви́нка* ‘падвід падуста, волжскі падуст’, укр. дыял. *сви́нька* ‘дняпроўскі падуст’, *сви́нка* ‘падуст’, польск. *świnka*, славац. *švinka* ‘тс’. Да *свіння* (гл.). Назва дадзена па знешнім выглядзе, таму што ў гэтай рыбы рот знаходзіцца пад храсткаватым носам, які моцна вытыркаецца (гл. Сабанееў, Жизнь, 506 і наст.). Параўн. таксама іншыя назвы гэтай рыбы: *пад-уст, насар*, ням. *Schweinfisch* < *Schwein* ‘свіння’. Агляд матэрыялу па розных славянскіх мовах гл. Усачова, Этимология–1973, 93.

**Сві́нка**$_3$ ‘грыб таўстуха’ (Янк. 1; рагач., Арх. ГУ; Нік., Оч.; Сл. рэг. лекс.), ‘грыб сіняватага колеру’ (Нас.), *свіння́, сві́нка* ‘назвы грыбоў, пераважна розных відаў сыраежак’ (Сярж.–Яшк.). Ад *свіння*$_1$ (гл.) у форме памяншальнасці, што наогул прадуктыўна ў назвах раслін (гл. Мяркулава, Очерки, 155). Адносна семантыкі назвы параўн. *свінуха*$_2$ (гл.).



**Сві́нка**$_4$ ‘гульня са спецыяльнай калодачкай або мячыкам з анучак (свінкай): *хто будзя пасвіць свінку?*’ (гродз., Нар. словатв.), *свінья́* ‘старажытная гульня, пры якой цурку заганяюць у ямку’ (ТС). Укр. *сви́нка* ‘від гульні, а таксама драўляны шар, які ганяюць палкай’, рус. *сви́нка* ‘пацурбалак, цурка або чушка для гульні ў свінкі’, балг. *сви́нка* ‘мячык і гульня, пры якой імкнуцца закаціць яго ў ямку’, славен. *svínjka* ‘драўляны мячык’, серб. дыял. *сви́њħа* ‘цурка або камень, якую адзін з гульцоў (“свињар”) спрабуе кійком загнаць у ямку, чаму перашкаджаюць іншыя гульцы; сама гульня’. Да *свіння*$_1$; да семантыкі параўн. рус. *чу́шка* ‘свіння’ і ‘злітак, брусок свінцу або чугуна’. Менш верагодна вывядзенне з прасл. **sъvinъka* < *sъvi(nǫ)ti* (параўн. укр. *зви́нка* ‘мячык з шэрсці; гульня ў мяч’ ад *звити* ‘звіць’), гл. ЕСУМ, 5, 190.

**Свіння́**$_1$ ‘парнакапытная млекакормячая жывёліна’ (ТСБМ, Нас., Ласт., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ, Пятк. 2), *свіня́* ‘тс’ (Сл. ПЗБ, Цых.) *свінья́* ‘тс’ (ТС). Укр. *свиня́*, рус. *свинья́*, ст.-рус. *свинья*, польск. *świnia*, в.-луж. *swinjo*, н.-луж. *swinja*, чэш. *svině*, славац. *sviňa*, серб.-харв. *сви̏ња*, славен. *svínja*, балг. *свиня́*, макед. *свиња*. Прасл. **svinьja*, дэрыват ад прыметніка ж. р. **svini* < прасл. **svinъ* (гл. *свіны*), якому адпавядае лац. *suīnus* ‘свіны, свінячы’. Паводле Крэтава (Этимология–1994–1996), адбылася падвойная субстантывацыя: спачатку прыметніка **svinъ*, ад якога пры дапамозе суф. *-ьj-* утвораны прыметнік *свин-ьj-*, субстантывацыя якога ў ж. р. дала назоўнік *свинья*. Гл. Фасмер, 3, 579; Слаўскі, SP, 1, 84; Шустар-Шэўц, 1387–1388; Борысь, 623; Сной$_1$, 624; БЕР, 6, 551. Агляд апошніх меркаванняў гл. Жураўлёў, Язык и миф, 383–384.

**Свіння́**$_2$ ‘скляпенне ў печы’ (Мат. Маг. 2, Мат. Гом.), *свы́нка, свэ́нка* ‘частка дымахода паміж чалеснікамі і комінам’ (Сл. Брэс., Шушк.). Відавочна, ад *свіння*$_1$, параўн. рус. дыял. *свинья́* ‘частка дымахода на гары, якая злучае печ з комінам’, інакш *бо́ров*, бо напамінае ляжачую свінню, параўн. таксама *кабыла*$_2$ (гл.).

**Сві́нтус** ‘брудны, неахайны чалавек; няўдзячны чалавек’ (ТСБМ), *сві́нтýх, свінтуха́йла* ‘неахайны чалавек’ (Нас., Бяльк.), *сві́нтух* і *свінту́х* ‘тс’ (ТС). Рус. *сви́нтус, сви́нтух* ‘тс’, укр. *сви́нтус, свинту́х* ‘тс’, польск. *świntuch* ‘неахайны чалавек’. Паводле Зяленіна (РФВ, 54, 116), ад *свіння* (гл.) з лацінізаванай фіналлю

-*тус*, што, зрэшты, не выключае першаснага ўтварэння на -*ус*, параўн. *ду́рус* 'дурніла', параўн. таксама *абдзіртус*, гл. Сцяцко, Афікс. наз., 65, 70. У *свінтух* славянскі суф. -*тух* (< _*-tuchъ_), які ўтварае пеяратывы і аугментатывы; гл. Карскі, 2–3, 30; Слаўскі, SP, 1, 74.

**Свіну́х** 'хлеў для свіней' (ТСБМ, Сержп. Прымхі), *свіну́шнік* 'тс' (ТСБМ, ТС). Ад *свіны* (гл.) па тыпу *катух*, гл.

**Свіну́ха**$_1$ 'баркун белы, Melilotus albus Desr.' (Кіс., Мат. Гом.), 'драсён птушыны, Polygonum aviculare L.' (Кіс.), *свінну́ха* 'сівец, Nardus stricta L.' (Касп., Сл. ПЗБ, Шатал., Нар. лекс., ЛА, 1), *свінну́х* 'рыжая трава, якая расце на ўзгорках' (Мат. Маг.), *свіну́х* 'сена з сухадольнай сенажаці' (клім., ЛА, 2), *свіне́ц* 'нейкая трава' (ТС), *сві́нская трава́* 'расліна спарыш' (Сл. ПЗБ). Рус. *свіну́ха* 'драсён, Polygonum arenarium Wald.', *свіна́я трава́* 'драсён птушыны', польск. *świńska trawa* 'тс'. Ад асновы *свін-* (гл. *свіны*); семантычная сувязь можа быць двуякай: або трава выкарыстоўваецца на корм свінням, або з-за яе шорсткасці, што прыпамінае свіную шчаціну, параўн. народную назву сіўца – *чортава барада* (Кіс.).

**Свіну́ха**$_2$ 'грыб сямейства свінухавых з пласціністай шапкай жоўтага, бурага, лілова-шэрага колеру; свінарка, свінушка' (ТСБМ, Нар. словатв., Мат. Гом.), *свіні́цы* 'тс' (ТС), сюды ж *свіна́ркі, сві́нкі, сві́нні* (Мат. Гом.), *сві́нкі* (Нік., Оч., Мат. Маг.), *сві́нка* (Нар. словатв.), *свіну́шка* 'падгруздак' (Сл. ПЗБ), *сві́ня* 'падгруздак белы' (Нар. словатв.), а таксама *сівая свіння*, *чорная свіння*, *свінскі грыб* 'грыбы Russula nigricans Fr., adusta Fr.' (Сярж.–Яшк.). Рус. *свину́х, свину́ха, свину́шка* 'свінуха'. Ад *свіны* (гл.) з рознымі суф. або перанос з назвы жывёліны; гл. Мяркулава, Очерки, 154, 157. Семантычная матывацыя можа быць шматаспектнай: па падабенстве (з лычом свінні) або з-за малаўжывальнасці грыба.

**Свіны́** 'які мае адносіны да свінні', 'свінячы' (ТСБМ, Некр. і Байк., Скарбы, Сл. ПЗБ), *сьвінны́* 'тс' (Ласт.). Укр. *свини́й*, рус. *свино́й*, ст.-слав. **свинъ**. Прасл. _*svinъ_ з'яўляецца кантынуантам і.-е. _*su̯īno-_ 'які належыць да свінні, свінскі' (Борысь, 624), утворана ад і.-е. _*sūs_ 'свіння' і адпавядае лац. *suīnus* 'свіны', гоц. *swein* н. р. 'свіння', грэч. ὕινος 'свіны', ст.-інд. *sūkarás* 'свіння', авест. *hū-* 'парсюк', лац. *sūs*, англ.-сакс. *sû* 'парася', алб. *thi* 'свіння', лат. *suvēņs, sivēņs* 'парася'; гл. Траўтман, 294; Фасмер, 3, 578. Большасць даследчыкаў (гл. напрыклад Вальдэ–Гофман, 2, 636;



Брукнер, 537; Фасмер, 3, 579; Майргофер, 3, 490) лічаць і.-е. _*sūs_ дэрыватам ад гукапераймальнага _*su-_, тады ст.-інд. *sūkarás* азначае 'жывёліна, якая робіць *su-*'. Паводле іншых аўтараў (Уленбек, 339; Махэк$_2$, 596 і наст.), і.-е. _*sūs_ роднаснае ст.-інд. *sū́tē, sāuti, sū́yatē* 'нараджае', і.-е. _*seu-_ 'нараджаць'. Гл. яшчэ Шустар-Шэўц, 1388; Сной$_1$, 624; БЕР, 6, 548; Борысь, 623–624. Сюды ж *свіны татко*: *сагнуўса бы свіны татко* (Серж. Прымхі), дзе прыметнік мае хутчэй за ўсё прыніжальнае (пагарджальнае) значэнне.

**Свіня́тла** (*свиня́тло*) 'доўгая жардзіна, што злучае задок і перадок воза, у задняй частцы раздвоеная і замацаваная ў насадзе' (Маслен.). Гл. *суня́тла*.

**Свір** 'вага ў студні з жураўлём' (Касп.; швянч., ігн., Сл. ПЗБ). Параўноўваецца з літ. *svir̃tis* 'калодзежны журавель'. Гл. *свер*, *асвер*; варыянтнасць вакалізму тлумачыцца запазычаннем з розных крыніц (гл. Анікін, Опыт, 91) і адлюстроўвае аблаўтныя адносіны ў балтыйскіх мовах (Краўчук, Лекс. балтызмы, 15).

**Сві́ран** 'халодны будынак, прызначаны для захоўвання збожжа, мукі і іншых прадуктаў, а таксама рэчаў і пад.' (ТСБМ, Гарэц., Ласт., Байк. і Некр.), *сві́ран, свіро́н, све́ран, сві́рнік, свы́ран, сві́рань, све́рэнь, свірн* 'тс' (Сл. ПЗБ, ДАБМ), ст.-бел. *свирен, свѣрон* 'тс' (1499). Укр. *сві́рон*, рус. зах. *свирён, сви́рон*, пск. *сви́рна*, польск. усх. *świren, świrnia* 'тс'. Запазычанне з літ. *svìrna* 'гаспадарчае памяшканне, клець', *svir̃nas* 'тс'; гл. Карскі, Белорусы, 135, Труды, 396–397; Брукнер, 537. Магчымасць польскага пасрэдніцтва для часткі форм (польск. *-ier-* < *-ir-*) ставіцца пад сумненне, параўн. польск. *świronek* 'тс' (Цвяткоў, Запіскі, 2, 1, 55). Адносна канкурэнцыі назваў *клець* і *свіран* гл. падрабязна Анікін, Опыт, 273. Агляд праблематыкі і літ-ры гл. яшчэ Лаўчутэ, Балтизмы, 22.

**Свірбу́ль** 'птушка снягір' (Сцяшк.). Паводле Цыхуна (Лекс. балтызмы, 53), літуанізм, параўн. літ. *žvìrblis, žvìrbilis* 'верабей'. На думку Лаўчутэ (Балтизмы, 72), не выключана, што крыніцай магло быць і лат. *žvirbulis* 'тс'.

**Свіргу́ль** 'стрыж, Apus apus L.' (ушац., бярэз., ЛА, 1; Ласт.). Утворана пры дапамозе непрадуктыўнага суф. *-уль-* ад гукапераймальнага дзеяслова *свіргата́ць* 'шчабятаць' (ТСБМ) як суб'ект дзеяння (Сцяцко, Афікс. наз., 67), параўн. таксама *свыргота́тэ* 'цвыр-

кацьʼ (драг., Нар. словатв.), укр. *сверготіти* ʻтсʼ, польск. *świergotać, szwargotać* ʻтсʼ, якія паводле Брукнера (536; гл. таксама ЕСУМ, 5, 188, 195), утвораны на польскай глебе, што цяжка давесці, паколькі чаргаванне глухіх і звонкіх зычных у гукаперайманняў – звычайная зʼява ў славянскіх мовах. Параўн. наступнае слова.

**Сіркýн** ʻцвыркунʼ (Жд. 1, Сцяшк. Сл., Сл. ПЗБ), *свіргýн (свэргýн)* ʻтсʼ (Дразд., Шатал.), *свергýн, свіргýн* ʻтсʼ. Укр. дыял. *свіргýн* ʻтсʼ, рус. дыял. *свиркýн* ʻтсʼ. Ад гукапераймальнай асновы *свірк-/свірг-* (гл. *свірчэць*) з суф. *-ун-*. Адносна суфіксацыі параўн. Слаўскі, SP, 1, 134.

**Свірóўка** ʻрыбалоўная трохсценная сеткаʼ (палес., Крыв.; Браім, Рыбалоўства, 45). Няясна. Відавочна, можна супаставіць з рус. арх. *свирáть* ʻзвязваць разам сеціʼ, *свúрываться* ʻзвівацца разам ад хвалявання (аб стаўных сетках)ʼ, якія далей Сабалеўскі (РФВ, 14, 299) звязвае з рус. *свора, сворка*, гл. *шворка, вор*$_2$ і Фасмер, 3, 583.

**Свірстýн** ʻнейкая птушкаʼ (хойн., Арх. ГУ), ʻптушка конік, Anthus Bechsteinʼ (Інстр. 2), *свырстýн, свэрстýн* ʻцвыркунʼ (брэсц., ЛА, 1). Аддзеяслоўны назоўнік, у аснове дзеяслоў тыпу рус. *свирестеть* ʻрэзка свісцецьʼ, што да **svьr-*, гл. *свірчэць*. Параўн. Антропаў, Назв. птиц, 349.

**Свірстуны́** ʻсвежынаʼ: *Свірстуноў прыняслі пакаштаваць. Свірстуны – кусок мяса, сала* (шальч., Сл. ПЗБ). Гл. *сквярста*.

**Свірчэ́ць** ʻутвараць гук са свістам пры палёце, руху і пад.ʼ, *свірчáць* ʻцвыркацьʼ (Нас.), *свыршя́ты* ʻтсʼ (драг., З нар. сл.), *свыршы́ты* (Клім.). Укр. *цвірчáти, цвíркати*, рус. *сверчáть*, дыял. *свершáть*, польск. *ćwierczeć, ćwierkać* ʻцвыркацьʼ, в.-луж. *šwórknyć* ʻмуркаць, свісцецьʼ, н.-луж. *šwarcaś, šwarkaś* ʻтсʼ, *šwyrcaś* ʻсвісцець, гусціʼ, чэш. *svrčeti, cvrčeti* ʻцвыркацьʼ, славац. *svrčat’* ʻтсʼ, серб.-харв. *цвр́чати* ʻшчабятацьʼ, славен. *cvrčáti, cvr̂kati, cvȓkam* ʻпранізліва крычаць, трашчаць, шчабятацьʼ, балг. *цвърчá* ʻшчабятацьʼ. Ад гукапераймальнай асновы **svьrk-/*cvьrk-* з рознымі экспрэсіўнымі нарашчэннямі (Фасмер, 3, 574 і наст.; Борысь, 107). Роднасныя літ. *švìrkštu, švìrkšti* ʻгусці, свісцець, пішчацьʼ, *švar̃kšti, švarkšcìu* ʻкракацьʼ, лат. *svir̃kstêt* ʻпатрэскваць, свісцецьʼ; гл. Праабражэнскі, 2, 258; Міклашыч, 305, 330; Мюленбах–Эндзелін, 3, 1161. Параўн. *цвыркаць, чыркаць*.



**Свíршня** ʻвага або вочап у студні з жураўлёмʼ (воран., лід., ДАБМ, камент., 809–810), *сьвіршня́* (ашм., Стан.), ʻвал з ручкай у калодзежыʼ (Сцяшк.), *свíрсня* ʻвага або вочап у студні з жураўлёмʼ (ДАБМ, камент., 809–810), *свіршня́, сввршня́, свірсня́* ʻжуравель у студніʼ, ʻвага ў студні з жураўлёмʼ (Сл. ПЗБ). Балтызмы. Параўн. літ. *svirksnis, svirksnỹs*, лат. *svir̃kstenis, svirkstene* ʻпрыстасаванне для падʼёму вады з калодзежаʼ (Лекс. балтызмы, 15; Лаўчутэ, Балтизмы, 50; Анікін, Опыт, 91). Гл. таксама *асвер, свер, свір*.

**Свіршч** ʻдзірачка, якая праточана чарвякомʼ (Нас.). Хутчэй за ўсё, аддзеяслоўны назоўнік ад *свірашчэ́ць* ʻвыдаваць рэзкі прарэзлівы голасʼ (Ласт.), параўн. *свістýн* ʻпусты арэх з дзірачкайʼ (Нас., Касп.). Параўн. таксама іншае ўтварэнне ад таго ж дзеяслова – *свіраст* (*свірáст*) ʻрэзкі прарэзлівы гукʼ (Ласт.). Гл. *свірчэць*.

**Свіры́ць** ʻледзь-ледзь гарэцьʼ (Мат. Гом.), *свірэ́ць* ʻцьмяна гарэцьʼ (Сл. ПЗБ). Сюды ж *свірýшка* ʻгазоўкаʼ (чэрв., рагач., ЛА, 4). Параўн. рус. наўг. *свирúть* ʻпрасочвацца (пра ваду)ʼ. Відаць, імітатыў на базе прасл. **svirati, *sviriti* ʻсвісцець, гудзецьʼ, параўн. старaж.-рус. *свирати, свирити* ʻіграць на дудцыʼ, серб.-харв. *сви́рати, сви́рити* ʻгудзець, іграць на дудцы, скрыпцыʼ, славен. *svírati* ʻтсʼ, *svíriti* ʻгудзець, свісцецьʼ, балг. *сви́ря* ʻіграць на музычным інструменце; гудзець, выдаваць гук; свісцецьʼ, макед. *свири* ʻіграць (на музычным інструменце); гудзець, свісцець; стракатаць (пра цвыркуна)ʼ, ст.-слав. **свирати** ʻіграць на дудцыʼ. Роднаснае ст.-ісл. *svarra* ʻбушаваць, свісцецьʼ, ням. *surren, schwirren* ʻгудзець, свісцецьʼ, ст.-інд. *svárati* ʻгучацьʼ, лац. *susurrāre* ʻшыпець, шаптаць; гудзецьʼ (Фасмер, 3, 579; Снойʼ$_2$, 716). Зыходная семантыка захавалася ў *свірóла* ʻсвістулька (самаробная)ʼ (Мат. Гом.), параўн. макед. дыял. *свирóл* ʻжалейка, дудкаʼ; *сьвірэ́ц* ʻмузыка, што іграе на дзвюх дудках, звязаных разамʼ (Ласт.), параўн. балг. *свирéц* ʻмузыкант на народных інструментахʼ, серб. *сви́рац* ʻмузыка, што іграе на дудзеʼ < прасл. **svirьcь* (насуперак БЕР, 6, 554, не толькі паўднёваславянскі дыялектызм). Спецыфічная семантыка ʻцьмяна гарэцьʼ грунтуецца на гукавым суправаджэнні такога гарэння (шыпенні, гудзенні і пад.). Гл. таксама *свірчэць*.

***Свірэ́ня** (*сʼвирéнʼа*) ʻвага ў студні з жураўлёмʼ (ДАБМ, камент., 809). Запазычанне з балцкіх моў (этымалогію і літ-ру гл. пад *асвер*, а таксама *свіршня* і *свір*).

**Свірэ́па**$_1$, *свірэ́пка* 'пустазелле, палявая шматгадовая расліна сямейства крыжакветных з жоўтымі кветкамі, часцей за ўсё Barbarea vulgaris R. Br.' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Сцяшк., ЛА, 1; Пятк. 1, ПСл, Растарг., Кіс.), *свярэ́па* 'тс' (Сл. ПЗБ), *свырíпа* 'тс' (Клім.), *свіро́па* 'тс' (ТС; ПСл; мазыр., Жыв. сл.), 'рэдзька палявая, Raphanus raphanistrum L.' (Кіс., Касп., Дэмб. 1), 'гарчыца палявая, Brassica napus arvensis L.' (Бейл.), *свырíпа* 'варыва з лебяды' (кобр., Нар. лекс.), *свіры́па* 'старасцень, Senecio erucifolius L.' (Меер Крыч.), *свірэ́піца* 'пустазелле' (Гарэц., Сл. ПЗБ). Рус. *свирéпа, свирéпка* 'абагульняючая назва цэлай групы крыжакветных раслін', укр. *свирíпа*, польск. *świerzop, świerzopa* 'тс', чэш. *svěřep, -a* 'пустазелле рода Branus і Fectuca і пад.', серб.-харв. *sverepek* 'расліны рода Fectuca, Aegilops'. Прасл. **svěrepъ/-a* 'пустазелле', субстантываваная форма прым. **sverěpъ* 'люты', 'дзікі, палявы' (Мяркулава, Очерки, 75–78; Новое в рус. этим., 229); гл. *свірэпы*.

**Свірэпа**$_2$, ст.-бел. *свирепа, сверепа* 'кабыла' (Ст.-бел. лексікон), сюды ж *свирепий* 'конскі', *свирепье стадо* 'табун' (там жа). З ст.-польск. *świerzepa* 'кабыла' (Булыка, Лекс. запазыч., 143), што звязваюць з наступным словам (Фасмер, 3, 580). Зрэшты, запазычанне магло быць і ў адваротным кірунку, параўн. *свірэп* 'неаб'езджаная кабыла' са «Слоўніка менш зразумелых беларускіх слоў» В. Каратынскага (гл. Мальдзіс, I ажываюць спадчыны старонкі, Мн., 1994, 71). Паводле Мацкевіч і Грынавяцкене (ЖНС, 212), слова з першасным значэннем 'маладая неаб'езджаная жаробка' супрацьпастаўлялася кабыле і клячы як аб'езджаным і рабочым жывёлінам.

**Свірэ́піца** 'свірэпа; пустазелле' (Кіс., Гарэц., Мядзв., Шн. 3). Рус. *свирéпица*, укр. *свирíпиця* 'тс', ст.-рус. *сверѣпица* 'дзікі гарох', ст.-слав. **свѣрѣпица** 'пустазелле'. Прасл. **sverěpica*. Дэмінутыў ад **sverěp-* (гл. *свірэпа*) з суф. *-ic(a)* (Мяркулава, Очерки, 75 і наст.). Параўн. ст.-бел. *свирепий* 'конскі' і *конскі шчавель* 'неядомае шчаўе'.

**Свірэ́пка**. Гл. *свірэпа*$_1$.

**Свірэпы** 'дзікі, агрэсіўны (?)': "пчелы здѣсь водятся трехъ родовъ, то есть по здѣшнему крушиновые свирѣпыя, посредственныя и тихия" (Меер Крыч., 130), *свіры́бый* 'нелюдзімы; люты' (в.-дзвін., ЛА, 3; Сл. ПЗБ), ст.-бел. *свѣрѣпъ, свѣрѣпий*: *соуровий... и свѣрѣпїй* (XV ст., Карскі, 2–3, 393). Укр. *свірíпний* 'злы, сярдзіты',



рус. *свирéпый* 'люты', стараж.-рус. *сверѣпъ, свирѣпъ* 'дзікі, дзікарослы; палкі, злы', чэш. *sveřepý* 'люты, жорсткі', славац. *sverepý* 'люты', славен. *sverȩ̂p* 'тс', балг. *свирéп* 'жорсткі, люты, шалёны', макед. *свиреп* 'тс', ст.-слав. **свєрѣпъ** 'люты, бязлітасны'. Прасл. **sverěpъ(jь)*. Апошняе не мае адзінай этымалогіі. Меркавалася роднасць з літ. *šiur̃pti, šiur̃pstù* 'уздрыгваць' (Міклашыч, 330; Праабражэнскі, 2, 261), з ст.-ісл. *svárr* 'цяжкі, цвёрды, моцны', гоц. *swērs* 'якога шануюць', нов.-в.-ням. *schwer* 'цяжкі', літ. *svarùs* 'тс'; агляд версій гл. Фасмер, 3, 580; Глухак, 600. Мяркулава (Этимология–1964, 78–80) вызначае роднасныя сувязі паміж рус. *свирепый, сырой* і *суровый*: **sur-/*sver-/*syr-* і для **sverěpъ* рэканструюе першаснае значэнне 'мокры, вільготны', якое цесна звязана са значэннем 'грубы, суровы, строгі', што сумніўна, паколькі няма надзейных сведчанняў існавання варыянта **sur-*, гл. Новое в рус. этим., 229. Інакш Махэк$_2$ (595), які выдзяляе частку *sve-* (аснова займенніка *свой*) і корань **rěp-* 'трымацца, чапляцца'. Формы з *-б-* вынік азванчэння ў інтэрвакальнай пазіцыі.

**Свíсла** (*свісло́*) 'вага ў студні з жураўлём' (люб., ДАБМ, камент., 809). Ад **свісаць* 'звісаць' з суф. *-л(о)*, прадуктыўным у гэтай катэгорыі (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 49). Відаць, самастойнае ўтварэнне, падобнае да ўкр. *свúслі* 'ніжні канец плаўнай сеткі', *свúсель* 'тс', балг. *свисло́* 'звязка вінаградных гронак, прыгатаваных для сушэння' і пад., якія, паводле Борыся (Czak. stud., 73), не працягваюць прасл. **sъvislь* 'выступаючая частка страхі над шчытом будынку, застрэшак', рэканструяванага на падставе харв. чак. *svȉsla* 'застрэшак над стайняй або паветкай'; кайк. *svisle* 'шчыт хаты з дошак, франтон', славен. *svísli* 'выступаючая частка страхі над франтонам', 'жэрдкі на знешняй сцяне дома, на якіх сушаць кукурузу', 'гарышча на сена, салому', 'клуня', старое чэш. *svisel, svisla* 'шчыт дому, франтон', в.-луж. *swisle* 'тс', н.-луж. *swisl* 'тс', польск. дыял. *świśla* 'адтуліна ў страсе для падавання сена на гарышча', каш. *svisle* ў звароце *pu̯y svislax lazëc* 'гультайнічаць, бадзяцца па начах', першапачаткова дзеепрыметнікаў на *-lъ*, параўн. чэш. *svislý*, рус. *свúслый*, а таксама дыял. *свес* 'застрэшак' (даўг., Сл. ПЗБ), што, магчыма, сведчыць пра старую тыпалагічную мадэль падобных утварэнняў ад *вісець* (гл.), *звісаць*. Параўн. таксама Сной$_2$, 716; ЕСУМ, 5, 192.

2 Зак. 857

**Свіст** 'рэзкі высокі гук', 'гук такога тэмбру, які ўтвараецца птушкамі, жывёламі', 'гук, які ўтварае прадмет пры хуткім рассяканні паветра' (ТСБМ), *свістáць* 'утвараць рэзкі высокі гук' (ТСБМ, Нас., Сцяшк., Юрч.), 'сцябаць, хвастаць' (Нас.), 'свістаць', 'ліцца з сілаю' (ТС, Сл. ПЗБ), 'брыкаць, брыкацца' (Юрч.), *свісцéць* 'свістаць', *свíснуць* 'засвістаць', 'моцна ўдарыць', 'хутка прайсці' (Сл. ПЗБ), 'украсць', 'моцна ўдарыць' (Растарг.), ст.-бел. *свиснути* 'засвістаць' (Альтбаўэр). Укр. *свист, свистáти*, рус. *свист, свистáть, свистéть*, польск. *świstać, świsnąć*, чэш. *svístati, svištěti*, славац. *svištat'*, славен. *svískati* 'шыпець, фыркаць', *švȋstati* 'свісцець', ст.-слав. **свистати**. Прасл. _*svistati_ 'свісцець', шматкратны дзеяслоў _*sviščati_; гл. Борысь, 624. Лічыцца экспрэсіўным гукапераймальным словам, аналагічным лац. *sibilō, -are* 'свісцець', грэч. σίζω 'свіст'; узнаўляюць таксама і.-е. корань _*k̂vis-: *k̂veis-_, роднасны ст.-ісл. *hvísla* 'шаптаць, свістаць, бушаваць', ст.-англ. *hvístlian* 'свістаць', англ. *whistle* 'тс'. Параўн. яшчэ польск. *gwizdać*, чэш. *hvízdati*, славац. *hvizdat'*, в.-луж. *hwizdać*, н.-луж. *gwizdaś* з варыянтам кораня _*gweizdz-_, гл. Фасмер, 3, 581; Махэк$_2$, 597; Брукнер, 538; Бязлай, 3, 352. Борысь (624) славянскае слова ўзводзіць да і.-е. гукапераймальнага _*su̯ei-/su̯i-_ 'сіпець; свісцець'.

**Свістáць**. Гл. *свіст*.

**Свісты** экспр. 'адзенне вузкае, цеснае' (Юрч. Сін.). Параўн. польск. *świstek* 'звітак'. Да *свіст, свішч* 'вузкая адтуліна' (гл.), параўн. размоўнае *штаны дудачкамі* (з вузкімі калашынамі).

**Свісцéць**. Гл. *свіст*.

**Свісцёл** 'маркоўнік, Anthricus silvestris Hoffm.' (ТС). Іншыя назвы *стволле, ствольны цвет*. Полыя сцёблы парасонавых раслін часта маюць назву *дудка*; гл. Мяркулава, Очерки, 67. Тады *свісцёл* да *свісцець*; параўн. наступнае слова.

**Свісцёлка** 'духавы народны музычны інструмент', 'свістулька' (ТСБМ, Нас., Ласт., Бяльк.), сюды ж *свісцéлка, свісцéлік, свістýшка, свістóлік* 'свісток' (ТС). Да *свістаць* (гл.). Аналагічна укр. *свистíлка*, рус. *свистéлка*, польск. *świszczałka* 'свістулька'.

**Світа**$_1$ 'асобы, якія суправаджаюць важную высокапастаўленую асобу' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), 'кампанія' (Сл. ПЗБ, ТС). З рус. *свúта* (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 71), вядомага з 1709 г., або



праз польск. *świta* з ням. *Suite* < франц. *suite* ад *suivre* 'ісці следам' (Праабражэнскі, 2, 262; Фасмер, 3, 581; Борысь, 624).

**Світа**$_2$, *світка* 'доўгая сялянская верхняя вопратка з даматканага сукна' (Нас., Шат., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС), *світнó* 'тс' (Арх. Федар., Серб. Вічын, ЛА, 4). Укр. *свúта*, рус. паўдн. *свúта, свúтка* 'світа', пск. 'лыкавая вяроўка', ст.-рус. *съвита, свита* 'від вопраткі', польск. *świta* (з усх.-слав., Брукнер, 538; Тарн., 20), серб.-харв. *свйта* 'сукно', 'сінія і чырвоныя палоскі сукна як нагрудныя ўпрыгожанні белых сялянскіх каптаноў', славен. *svȋta* 'вопратка', балг. *свúтка* 'від старой жаночай вопраткі; нашытыя ўпрыгожанні ў выглядзе тасёмкі', макед. *свúта* 'від тонкай шарсцяной тканіны', ст.-слав. **свита** 'від вопраткі'. Этымалогія і рэканструкцыя зыходнай формы спрэчныя. Прапаноўвалі прасл. _*sъvita_ і сувязь з *віць*, гл. Праабражэнскі, 2, 262; Скок, 3, 373. Фасмер (3, 581) указвае, што гэта форма быццам бы падтрымліваецца рус.-ц.-слав. *съвить* 'палатно', але фінскае запазычанне з слав. *viitta* 'плашч' прадугледжвае прасл. _*svita_, бо _*sъvita_ дало б *suviitta*. Зыходзячы з _*svita_, параўноўвалі з лат. *svietas* 'шарсцяныя анучы на нагах у жанчын'; гл. Мюленбах–Эндзелін, 3, 1167; гл. яшчэ БЕР, 6, 558–559; ЕСУМ, 5, 193.

**Світáнне** 'світанак; золак' (ТСБМ, Ласт., Гарэц., Сл. ПЗБ), *сьвітáньня* 'тс' (Бяльк.), ст.-бел. *свитане*: *зоранку на свитаню* (XVII ст.; Карскі, 2–3, 433), параўн. славен. *svitanje* 'тс'. Аддзеяслоўны назоўнік ад *світáць* 'днець' (ТСБМ, Ласт., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС), што да прасл. _*svitati_, параўн. укр. *світáти, свитáти* 'світаць, слаба свяціцца', польск. *świtać* 'світаць', чэш. *svítati* 'тс', в.-луж. *switać*, н.-луж. *switaś* 'тс', харв. *svȉtati*, славен. *svítati* 'тс', ст.-слав. **свитати** 'світаць, днець'. Праславянскі дзеяслоў выводзіцца як шматкратны з прасл. _*svьtěti_ 'свяціць' (гл. *свяціць*) і мае паралелі ў літ. *švitéti* 'ззяць, свяціць' < і.-е. _*k̂u̯eit-_ 'свяціцца, светлы, белы', параўн. гоц. *hweits* 'белы', нарв. *kvit*, дац. *hvid*, ст.-англ. *hwít*, англ. *white*, ст.-в.-ням. *(h)wīz*, ням. *weiss* 'белы' (Глухак, 600; Бязлай, 3, 352; Сной$_2$, 716). Сюды ж *світáльна зóрка* 'заранка' (гродз., Сл. ПЗБ).

**Світáш** 'неакаванае кола' (глыб., Сл. ПЗБ). Няясна.

**Світэр** 'цёплая вязаная фуфайка без засцежак з высокім каўняром' (ТСБМ). Праз рус. *свúтер* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 79)

з англ. *sweater* ад *sweat* 'пацець'. Гл. таксама адаптаваную форму *світра* (пруж., Сл. ПЗБ).

**Свіце́цца**, *свіці́ца* 'прасвечвацца', 'быць чуць бачным' (Гарэц., Касп., Шат., Стан., Сл. ПЗБ, ТС): *го́лэ це́ла сьвіці́ца* (Сл. нар. фраз.). Магчыма, з *свяці́цца* 'тс' (гл. *свяці́ць*): *страха́ свяці́лася* (Сл. ПЗБ) у выніку прыпадабнення да наступнага складу, аднак не выключаны ўплыў літ. *svitéti* 'ззяць, свяціць', параўн. *світы́й* 'шчаслівы, радасны', якое выводзяць з літ. дыял. *šviñtas* 'святы' (Сл. ПЗБ, 4, 399).

**Свішч**₁ 'загана ў чым-небудзь у выглядзе дзіркі, шчыліны, сітавіны', 'глыбокая гнойная язва ў тканках, органах цела; фістула' (ТСБМ, Ласт.), 'шырокая адтуліна паміж двума пярэднімі зубамі' (Чэрн.). Укр. *свищ* 'пусты арэх', *свисту́н* 'тс', рус. *свищ* 'свішч; чарвяточына ў арэху'. З **svistjo-*; да *свіст*, *свістаць*; гл. Міклашыч, 331; Фасмер, 3, 582. Параўн. *сві́шчык* 'свісток' (гл.), *сьвішчэ́ць* 'свістаць' (Касп., Сл. ПЗБ).

**Свішч**₂ 'кончык бізуна, пугі' (Мік.), сюды ж *сьвішчэ́* 'маладыя карані сасны' (Чэрн.). Да *свістаць* (гл.) на аснове гукавых уражанняў ад замаху, параўн. *свíснуць* (*сьвíснуць*) 'свіснуць, засвістаць' і 'выцяць пугаю, дубцом' (Бяльк.). Сюды ж таксама *сьвішчыпа́лка* 'хто любіць гуляць, не пільнуецца дому' (Пятк.).

**Свішчуга́** 'неўрадлівая зямля' (ашм., Сл. ПЗБ). Да *свістаць* (гл.), семантычна 'месца, дзе свішча вецер'.

**Сві́шчык** 'свісток' (Гарэц., Касп.). Укр. *сви́щик* 'тс'. Ад *свистаць* (гл.) з суф. *-jь* і *-ік*.

**Свой**₁ займ. 'які належыць сабе, уласцівы сабе, мае адносіны да сябе, уласны', 'які знаходзіцца ў сваяцкіх, сяброўскіх або іншых блізкіх адносінах' (ТСБМ, Нас., Ласт., Некр. і Байк., Стан., Сл. ПЗБ, ТС). Укр. *свій*, рус. *свой*, польск. *swój*, в.-луж., н.-луж. *swój*, чэш. *svůj*, славац. *svoj*, серб.-харв. *сво̑ј*, славен. *svoj*, балг. *свой*, макед. *свој*, ст.-слав. **свои**. Прасл. **svojь* 'свой'. Бліжэйшыя і.-е. адпаведнікі: ст.-прус. *swais*, *swaia* 'свой', літ. *sãvas*, лат. *savs* 'тс', ст.-в.-ням. *swîo*, *geswîo* 'брат жонкі, цесць, сваяк' < **sve̯io-*, ст.-інд. *svás* 'уласны', авест. *xva-*, *hva-*, ст.-перс. *uva-* 'тс', грэч. ἑ 'сябе', гоц. *swes* 'уласны', ст.-лац. *sovos*, лац. *suus* 'тс'; гл. Траўтман, 251 і наст.; Мюленбах–Эндзелін, 3, 792; Майргофер, 3, 566. Да і.-е. **s̯uo-* 'свой'; гл. Борысь, 590; Сной₁, 625; агляд літ-ры гл. Фасмер, 3, 583; Шаўр, Etymologie, 38–39. Гл. яшчэ Шустар-Шэўц, 1392–1393; БЕР, 6, 562–563. Параўн. таксама формы без *-в-*: ст.-слав. **сєбє** (гл. *сябе*).



**Свой**₂ 'скрутак, трубка выбеленага палатна' (Сцяшк., Жд. 2, Сержп., З нар. сл.; браг., Нар. сл., ТС, Ян., Мат. Гом., Скарбы), *сво́ец* 'тс' (гарад., Сл. ПЗБ), 'мера самаробнай тканіны' (Інстр. 3), *свуй* 'трубка палатна' (стол., Нар. лекс.). Ад **свіць* 'звіць' < *віць*; відаць, паходзіць з гаворак, дзе прыстаўка *с-* не пераходзіць у *з-*. Параўн. *сувой*.

**Сво́йскі** 'не дзікі, выгадаваны ці прыручаны чалавекам (пра жывёл, птушак, расліны), 'прыязны, знаёмы, таварыскі' (ТСБМ, Нас., Ласт., Др.-Падб., Байк. і Некр., Ян., Варл., Сл. ПЗБ, ТС), сюды ж *сво́йсклівы* 'рахманы' (Сл. ПЗБ). Укр. *сві́йський* 'хатні, прыручаны', рус. *сво́йский* 'свой, дружалюбны, фамільярны', польск. *swojski* 'свой, не чужы, звычайны', 'хатні, прыручаны', славац. *svojsky* 'свой, родны, не чужы', серб.-харв. *сво̑јски* 'свой', балг. *сво́йски* 'дружалюбны, фамільярны'. Прасл. **svojьskъ* ад **svojь* 'свой' з прыметнікавым суф. *-ъsk-*; першаснае значэнне 'свой, не чужы'. У беларускай, украінскай і польскай мовах семантычная інавацыя 'хатні, прыручаны' (аб жывёлах).

**Сво́лак** 'падоўжная бэлька, якую клалі на сохі ў гаспадарчым будынку' (ЛА, 4, ТС, Сл. Брэс., Ян.; гродз., баран., Сл. ПЗБ), 'дзве папярочныя бэлькі ў адрыне' (Скарбы), 'апорная бэлька пад столлю, атрама' (гродз., ЛА, 4; Сержп. Прымхі), *сво́лак*, *свало́к* 'бэлька' (Мат. Гом.), *свёлак* 'шост каля печы для прасушвання адзення' (воран., Сл. ПЗБ). Укр. *сво́лок* 'бэлька, якая падтрымлівае столь; маціца', рус. *сво́лок* паўдн. 'бэлька, маціца', паўн. 'навой у кроснах, на які навіваецца аснова', чэш. мар. *svlak* 'папярочка на збітых дошках'. Зваротны дэрыват ад **свалачы*, параўн. рус. *своло́чь* 'сцягнуць' з узнаўленнем этымалагічнага *-к-*, параўн. прасл. **velkti* 'валачы'. Гл. яшчэ *волак, навалак*. Таго ж паходжання беласт. *svołaki* 'валакуша для перавозкі плуга на поле' (Смул.). Збліжэннем з *ствол* (гл.) тлумачыцца *ство́лак* 'бэлька ў страсе на сохах' (Пятк. 1).

**Сво́лач** 'зброд, дрэнь, нягоднік' (Сержп. Прык.), сюды ж з экспрэсіўнай суфіксацыяй *сволота́* 'агідныя шкодныя людзі', *сволочу́га* 'нягоднік, нягодніца' (ТС). Непасрэднае запазычанне з рус. *сво́лочь*, пры якім фармант *-оч* (< *-ък*) у сувязі з аканнем

супаў з прадуктыўным суф. *-ач* (Вярхоў, Бел. мова, 80). Параўн. народнае *навалач* (гл.).

**Свон** 'пах' (шальч., Сл. ПЗБ), 'смурод' (Варл.). Няясна. Магчыма, да польск. *won* 'тс', *wonny*, параўн. ст.-бел. *свендуючий* 'смярдзючы' (Ст.-бел. лексікон), якое выводзяць з польск. *swędzić* 'прыпаліць' (Булыка, Запазыч., 294).

**Свор$_1$** 'лясны праход паміж балотамі': *лес у болоце, а кругом болото, счытай чыстэ болото кругом того свора*; *свóрок* 'тс' (ТС). Відаць, да прасл. **sъverti* 'звязваць, сцягваць', параўн. літ. *suvérti* 'тс', магчыма, першаснае **sǫvorъ*, параўн. літ. дыял. *sąvara* 'канал, што злучае азёры', г. зн. 'тое, што злучае розныя часткі балота' або 'тое, што "сціснута" балотамі'.

**Свор$_2$** 'нейкая мера', ст.-бел. *котёл пяти своровъ*. Выводзяць з літ. *svãras* 'фунт, гіра' (Яблонскіс, 229).

**Свóра** 'зграя', 'вяроўка, прывязь для паляўнічых сабак': *спусцілі сабак цэлую свору* (Сержп.). Параўн. укр. *свóра* 'прывязка ў цэпе', 'развора', рус. *свóра* 'прывязь, вяроўка, на якой вядуць паляўнічых сабак', польск. *swora* 'зграя сабак; прывязь для сабак', кашуб. *svora* 'адна з пасмаў у касе', чэш. *svora* 'прывязка ў цэпе', славен. *svȍra* 'падоўжная жэрдка ў возе, развора', серб.-харв. *svóra* 'развора'. Прасл. **sъvora* 'звязка', ад дзеяслова **sъ-virati* 'злучаць, звязваць' (Фасмер, 3, 583; ЕСУМ, 5, 195; SEK, 4, 383); гл. *вор$_2$*, *шворка*, *шворан*. Куркіна (Диал. структура, 192) мяркуе пра першаснае **sǫvora*, што захавалася ў славен. *sovǫra*, *sǫ̑vra*, *sǫra* 'развора'.

**Свóрына** 'адна з перакладзін, якімі змацоўваюцца часткі ткацкага станка' (стол., Нар. лекс.). Параўн. укр. *свóрінь* 'стрыжань, на якім замацаваны падножкі ў ткацкім станку', рус. *швóрень* 'болт; шпень, стрыжань', польск. *swornik* 'тс' і інш. Гл. *шворан*.

**Свядóмасць** 'успрыманне і разуменне чалавекам рэчаіснасці' (ТСБМ, Гарэц., Ласт.), ст.-бел. *сведомость* 'майстэрства, умельства' (Ст.-бел. лексікон). Запазычанне з польск. *świadomość*, аб чым сведчыць фанетыка кораня, што ўзыходзіць да *-vĕd-* (гл. *ведаць*). Аб польскім слове гл. Брукнер, 535; Борысь, 621. Інакш Крамко (Гіст. мовы, 2, 149), які лічыць слова неалагізмам пачатку XX ст., утвораным ад *свядомы* (гл.) з суф. *-асць*.

**Свядóмы** 'здольны думаць і разважаць, здольны рабіць асэнсаваны выбар' (ТСБМ, Гарэц., Ласт., Некр. і Байк., Касп.), *свéдамы* 'які ведае справу, работу, навуку' (Ласт.), ст.-бел. *сведомый* 'навучаны, умелы; дасведчаны' (Ст.-бел. лексікон), укр. *свідóмий* 'абазнаны, дасведчаны', рус. дыял. *свéдомый* 'вядомы, знаёмы', стараж.-рус. *съвѣдомыи* 'вядомы, знаны, выпрабаваны': *куряне сведоми къмети* (Слова пра паход Ігаравы), ст.-чэш. *svědomý* 'свядомы, знаны', польск. *świadomy* 'тс', в.-луж. *svědomy* 'свядомы, абазнаны'. Утворана ад прасл. **sъvěděti* 'знаць', што да **věděti* 'тс' (гл. *ведаць*), дзеепрыметнік цяп. ч. **sъ-vědomъ* 'які добра ўсведамляе' (Сной у Бязлай, 3, 348). Формы з перагаласоўкай і націскам на другім складзе хутчэй за ўсё запазычаны з польскай мовы. Назоўнік *сьвéдам'е* 'яснае разуменне; усведамленне, прызнанне' (Стан.) вядомы, паводле некаторых крыніц (гл. там жа), яшчэ ў старабеларускай, відаць, самастойна ўтвораны і не звязаны з польск. *świadomie* 'сумленне', якое лічыцца лексічным ці семантычным багемізмам (Басай–Сяткоўскі, Słownik, 382).



**Свякрóў** 'маці мужа' (ТСБМ, Стан., Сл. ПЗБ), *свякрóва* 'тс' (Нас., Бяльк., Сл. ПЗБ), *свякрывя́* 'тс' (Гарэц.), *свякрóўка* 'тс' (Ласт., Сл. ПЗБ), *свякрýха* (Нас., Ласт., Некр. і Байк., Бяльк.), *свякрá* 'тс' (Сл. ПЗБ), *свекрóў*, *свекрýха* 'тс' (ТС), укр. *свекрýха*, рус. *свекрóвь*, дыял. *свекры́*, *свекрóва*, старaж.-рус. *свекры*, Р. скл. *свекръве*, польск. дыял. і старое *świekra*, ст.-польск. *świekrzew*, *świekrucha*, *świokra* 'свякроў; цешча', ст.-чэш. *swekrev*, *svekruše*, славац. *svokra*, *svokruša*, серб.-харв. *свȅкрва*, славен. *svȇkrv*, *svȇkrva*, балг. *свекъ́рва*, макед. *свекрва* 'тс'. Прасл. **svekry*, Р. скл. **svekъrve*. Адпаведнікі ў новаперс. *xusrū*, лац. *socrūs*, ст.-в.-ням. *swigur* 'свякроў', арм. *skesrair*, *skesur* 'тс' (Траўтман, 296; Торп, 544; Майргофер, 3, 400). На падставе роднасных форм рэканструюецца і.-е. **svék̂uros*. Нявырашаным застаецца пытанне аб цвёрдасці *-к-* у славянскім слове. Педарсэн (ВВ, 19, 302) мяркуе, што было дзве формы і.-е. **svék̂uros* і **svekrus*, адкуль можна было тлумачыць слав. *к*. Ісачанка (Slavia, 1953, 65) дапускае існаванне прасл. **svesry*: **sve-* 'свой', дзе другая частка слова ў выніку народнай этымалогіі была заменена на *-kry* пад уплывам **kry* 'кроў' (параўн. польск. *krewni* 'родзічы' = "кроўныя"). Падрабязна гісторыю слоў гл. Трубачоў, История терм., 118 і наст., Шаўр, Etymologie, 41–44 (паводле яго, зыходныя формы абазначалі як бацьку, так і маці мужа, гл. *свёкар*). Гл. яшчэ Фасмер, 3, 572; Махэк$_2$, 595; БЕР, 6, 539.

**Свяло́** ‘чаранок’: *трэба свяло на качаргу насадзіць* (Сцяшк. Сл.). Няясна; магчыма, аддзеяслоўны назоўнік ад *свянаць* ‘асаджаць’ (гл.) ці *свянуць* ‘блякнуць, выцвітаць’ (Ласт.), што звязана з *вянуць*, *вяліць* (гл.) – пры дапамозе завяльвання кіёк рабіўся больш моцным.

**Свяна́ць** (*свѣна́ць*) ‘асаджваць вылятаючы з вулля рой, які заўсёды садзіцца накшталт вянка’ (Нас.), *свяна́цца* (*свѣна́цьца*) ‘садзіцца (аб пчаліным раі)’ (Нас.). Насовіч параўноўваў гэта слова з *вянец*, якое далей звязана з *віць* (гл.). Параўн. таксама рус. *вен* ‘вянок’ і *свенка* (гл.). Менш верагодна, аднак фармальна бліжэй, сувязь з с.-балг. *свѣнити сѧ* ‘адхіляцца’, што да ст.-слав. **свѣнѥ** ‘прэч, вонкі, акрамя, збоч’, параўн. БЕР, 6, 540; Фасмер, 3, 572.

**Свяно** аргат. ‘свята’ (Рам.). З польскай (Рам., 9, 5), г. зн. з *swięto* з некаторым пераўтварэннем.

**Свя́ны** ‘бляклы, бясколерны’ (Ласт.), разам з *сьвя́нець* ‘блякнуць’, *сьвя́нуць* ‘выцвітаць, блякнуць, рабіцца цьмяным’ (Ласт.) да *вянуць* (гл.). Параўн. макед. *свене* ‘звянуць, выклікаць вяласць’, *свенува* ‘блякнуць, вянуць’.

**Свянці́ць** ‘асвячаць’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ), *свянцо́ны* ‘асвячоны’ (Нас., Касп., Сл. ПЗБ, Сцяшк.), *свянцо́нка* ‘прадукты, якія свяцілі’ (Сл. ПЗБ, Жыв. сл.). З польск. *święcic* ‘тс’, *święcony*, *święconka*. На беларускай глебе ўтворана *свянца́ць* ‘свянціць’ (Скарбы).

**Свярбе́ць** ‘часацца, раздражняцца’ (ТСБМ, Др.-Падб., Гарэц., Сцяшк., Сержп. Прымхі, Шымк. Собр., Сл. ПЗБ), *свербе́ць* ‘тс’ (ТС). Сюды ж *сверб* ‘свярбячка’ (Нас., Бяльк., Касп., Сл. ПЗБ), *свярбёж* ‘тс’ (Шымк. Собр.), *свярбёта* ‘тс’ (Нас.). Укр. *свербіти* ‘свярбець’, рус. *свербе́ть*, дыял. таксама ‘блішчаць, мігацець’, польск. *świerzbieć*, в.-луж. *swjerbjeć*, *swjerbić*, н.-луж. *swjerbjeś*, чэш. *svrběti*, славац. *svrbiet’*, серб.-харв. *сврбети*, славен. *srbẹti*, балг. *сърби́*, макед. *сврби* ‘свярбець’. Прасл. **svьrběti*. Звязана чаргаваннем галосных з рус. *свороб*, ст.-слав. **сврабъ** ‘сверб’. Роднаснымі лічацца лат. *svãrpsts* ‘свердзел’, ст.-в.-ням. *swërban* ‘хутка вадзіць туды-сюды, круціцца, сціраць’, ст.-ісл. *svarf* н. р. ‘апілкі’, гоц. *af-swaírban* ‘змахнуць’ (Траўтман, 295; Міклашыч, 330). Збліжэнне з літ. *skverbiù*, *skver̃bti* ‘прадзіраўліваць, праколваць’, паводле Праабражэнскага (2, 257), выклікае фанетычныя



цяжкасці. Гл. яшчэ Фасмер, 3, 573; Шустар-Шэўц, 1391; ЕСУМ, 5, 188. Узводзіцца да і.-е. **su̯erb-* ‘круціць, вярцець, паціраць, церці’ (Борысь, 623; Глухак, 601). Параўн. *сверб*.

**Свярбі́га**, *свербі́га* ‘тс’ ‘свірэпа звычайная, Barbarea vulgaris R. Br.’ (Дэмб. 1; маг., Кіс.; Гарэц., Касп.). Укр. *свербúга* ‘свярбігуз, Bunias orientalis’, рус. *свербúга* ‘тс’ і ‘палявая гарчыца’. Ад асновы *сверб-* з суф. *-іг(а)*; гл. Праабражэнскі, 2, 257. Паводле Мяркулавай (Очерки, 81), у дзеяслове ад кораня *сверб-* заключана і значэнне ‘драць’, якое перадае смакавае адчуванне ад гэтых горкіх раслін. Гл. *свярбець*.

**Свярбігу́з** ‘дзікая рэдзька, Bunias orientalis L.’, *свербігу́з* (Касп., Дэмб. 1), ‘свірэпка, Barbarea Beck.’ (Гарэц., Кіс.). Укр. *свербигу́з* ‘расліны Bunias L., Torilis enthryscus’, ‘шыпшына’, рус. паўдн. *свербигу́з* ‘свірэпка’. Паводле Мяркулавай (Очерки, 81), ад кораня *сверб-* і назоўніка *гуз* (гл.), што тлумачаць раздражненнем задняга праходу, асабліва пладамі шыпшыны (ЕСУМ, 5, 188).

**Свяржывы** ‘?’: (бульба) *падобная на скараспелку, але дужа свяржывая* (Полымя, 1999, № 12, 131). Няясна; магчыма, звязана з рус. *сверёжий*, *свярёжий* ‘бойкі; моцны’, адносна паходжання якога выказваюцца розныя думкі, гл. Фасмер, 3, 574 (кантамінацыя *свежий* и *тверёзый*); Этим. иссл., 1978 (вытворнае ад **verti* ці **verzti*).

**Свярца́для** ‘люстэрка’ (Сцяшк.), *сверса́дло* ‘тс’ (Сл. Брэс.), *свярдзя́дла* ‘тс’ (Бір. дыс.). Запазычанне з ст.-польск. *świerciadło* ‘тс’, якое ад **zьrkati* (гл. *зрэнка*), **zьrcati*; гл. Брукнер, 658; Махэк$_2$, 718.

**Свярэ́па**. Гл. *свірэпа*$_1$.

**Свя́сла** ‘нізка лыка’ (калінк., Сл. ПЗБ; калінк., рэч., ЛА, 4), *свя́слы*, *свясло́* (лоеў., хойн., ЛА, 4). Укр. дыял. *св’я́сла* ‘звязка прадметаў’, рус. *свя́сло* ‘перавясла’, ст.-рус. *съвясло* ‘звязак, пучок’. З **съвязсло*, ад **vęzati* ‘вязаць’ з суф. *-сло*, як у *вясло*, гл. *вязаць* (Фасмер, 3, 584). ЕСУМ (5, 199) дапускае непасрэдны працяг прасл. **sъvęzslo*. Сюды ж, відаць, балг. *свесло́* ‘звязка гронкаў вінаграду або кукурузы’, гл. Выгленаў, БЕ, 1970, 2–3, 216–218; БЕР, 6, 540.

**Свя́та** ‘урачысты дзень; культавая ўрачыстасць’ (ТСБМ, Нас., Ласт., Гарэц., Байк. і Некр., Касп., Шат.), дыял. *свя́то*, *с’я́то* ‘тс’ (ст.-дар., Сл. ПЗБ, ТС), ст.-бел. *с(вѧ)то* ‘тс’ (Альтбаўэр). Да *святы* (гл.) першапачаткова, відаць, як азначэнне да назоўніка ніякага

роду, магчыма, з *svęto vertmę, параўн. адно са значэнняў ст.-бел. *верема* 'свята' (Альтбаўэр) і *святдзень* 'тс' (Ласт.). Адносіны да польск. *święto* 'свята', якое разглядаецца як рэліктавая форма Н. скл. адз. л. н. р. назоўнікаў (Длугаш-Курчабова, 491), застаюцца нявызначанымі. Параўн. таксама прыметнік *светны́*, *с'етны́* 'святочны' (ТС).

**Свята́р** 'служка культу' (Ласт., Стан.). Наватвор ад *святы* (гл.).

**Святая́ннік** 'зверабой, Hypericum L.' (ТСБМ, Кіс., ЛА, 1), *сьветая́нкі* 'тс' (Ласт.). Частковая калька *свентаяннік* або вынік адаптацыі першай часткі да *святы* (гл.); сюды ж *сьвятая́нскае зельле* (Гарэц.), гл. *свентаянскае зелле*.

**Святлі́ка** 'цяцюшнік, Euphrasia L.' (Меер Крыч.). Параўн. укр. *світлик* 'тс', рус. дыял. *светли́к* 'тс', польск. *świetlik* 'тс', якое лічыцца запазычаннем з чэш. *světlik* 'тс' (Басай–Сяткоўскі, 384), апошняе паходзіць ад *světliti* 'раз'ясняць, праясняць (вочы)', паколькі ў народнай медыцыне выкарыстоўвалася для лячэння вачэй, параўн. рус. *оча́нка*, *о́чная трава́*, серб. *видица* і пад. Гл. Махэк₂, 596; ЕСУМ, 5, 197. Да *свяціць* (гл.), параўн. выраз *вочы свецяць* (пра добры зрок) (ТС).

**Святлі́ца** 'светлы чысты пакой у хаце, прызначаны звычайна для прыёму гасцей' (ТСБМ, Нас., Ласт., Стан., Сл. ПЗБ, Шат., Касп., Бяльк.; віц., Хрэст. дыял.), *светлі́ца* 'светлая, прасторная хата' (ТС). Укр. *светли́ця*, рус. *светли́ца*, польск. *świetlica*, чэш. *světnice*, ст.-чэш. *svět(l)nice* 'тс'. Ад *светлы* (гл.), г. зн. 'хата або пакой, дзе не было печы ў процілегласць "курной" хаце'; гл. Брукнер, 535; Махэк₂, 596.

**Святло́** 'прамяністая энергія; светласць; асвятленне' (ТСБМ, Гарэц., Ласт., Некр. і Байк., Бяльк., Сл. ПЗБ), *све́тла (свѣтло)* 'агонь', 'зрок' (Нас.), 'агонь', 'лямпа' (Растарг.). Сюды ж *святло́* 'светла, відна' (ігн., Сл. ПЗБ). Укр. *світло*, ст.-укр. *свѣт(ь)ло* 'агонь ад свечкі', польск. *światło*, чэш. *světlo*, славац. *svetlo*, славен. *svetlo*: *na svetlo dati* 'выдаць', серб.-харв. *све̏тло* 'святло', макед. *светло*. Ад **světьlъ*, паводле Сноя (гл. Бязлай, 3, 349), ад **světlъ*. Гл *светлы*.

**Свято́к** 'храмавое свята' (Сл. ПЗБ, Сержп.), *свето́к* 'свята' (Сл. ПЗБ, ТС, Ян.), *святкі́* 'прамежак часу ад Каляд да Вадохрышча' (Сл. ПЗБ), ст.-бел. *свѧток* 'свята' (Скарына, Альтбаўэр), сюды ж *свя́точки* 'святыя дні; увасобленыя святы': *Перед Богомъ стояць усі́ святочки* (Нас.), укр. *святки́* 'святочныя дні Каляд і Вялікадня', рус. *свя́тки* 'час ад Каляд да Вадохрышча', ст.-рус. *свѧток* 'свята', серб. дыял. *све̑так* 'тс', славен. *svétek* 'тс'. Прасл. **svętъkъ* 'свята', вытворнае ад **svętъ* (гл. *святы*), параўн. Тапароў, Этимология–1986–1987, 33; Фасмер, 3, 584. Зыходная форма для *святкава́ць* 'адзначаць свята; не працаваць з нагоды свята' (ТСБМ, Нас., Ласт., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ), *светкова́ць*, *с'еткова́ць*, *сеткова́ць* 'тс' (ТС), якім адпавядае серб. *свѐтковати*, дыял. *светкова̑т*: *У на̑с се тај све̑так не светку̑је* (Элезавіч, 2, 207), *свято́чны* 'звязаны з святам' (ТСБМ, Ласт., Стан., Некр. і Байк., Сл. ПЗБ), *свето́чны* 'тс' (ТС) і інш. Прывязанасць да пэўнага гадавога цыкла (пазней, відаць, перанесеная і на хрысціянскія святы) дазваляе выказаць меркаванне пра больш ранняе паходжанне назвы, чым форма *свята* (гл.), якая цяпер успрымаецца як зыходная. Параўн. Жураўлёў, Язык и миф, 97.

**Свя́тцы** 'святыя' (Бяльк.), 'веруючыя, багамольныя' (Ян.), параўн. рус. *свя́тцы* 'кніга святых і царкоўных свят', што ад *свя́тец* 'святы, праведнік' < ст.-слав. **свѧтьць** 'тс' (Трубачоў, Дополн., 3, 584). Апошняе ад *святы́*. Гл. Фасмер, 3, 584.

**Святы́** 'надзелены абсалютнай дасканаласцю і чыстатой, боскай сілай', 'нябесны заступнік веруючых' (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк., Стан.), *сьвяты́й* 'тс' (Бяльк.), у розных спалучэннях: *святы́ Еры* 'свята Юр'я', *святы́ ве́чар* 'вечары ад Каляд да Новага года' (Скарбы), *святы́ дух* 'Тройца' (Сл. ПЗБ), *свята́я зямля́* 'зямля-маці' (там жа) і пад., ст.-бел. *свѧтыи* (Альтбаўэр); *свентый* 'святы, свяшчэнны' (Ст.-бел. лексікон) – з польскай. Укр. *святи́й*, рус. *свято́й*, ст.-рус. *святъ*, польск. *święty*, в.-луж. *swjaty*, н.-луж. *swěty*, чэш. *svatý*, славац. *svätý*, серб.-харв. *све̑т*, славен. *svȇt*, балг. *свет*, *све́ти*, макед. *свет*, ст.-слав. **свѧтъ**, **свѧтыи**, 'тс'. Прасл. **svętъ* 'святы'. Бліжэйшыя адпаведнікі: літ. *šveñtas* 'святы', ст.-прус. *swenta-* у мясцовых назвах, ст.-інд. *śvantas* 'працвітаючы'; гл. Траўтман, 311; Покарны, 630; Фасмер, 3, 585. Лат. *svēts* 'святы, свяшчэнны' запазычана, паводле Мюленбаха і Эндзеліна (3, 1156), з славянскіх моў. Паводле Брукнера (537), Махэка₂ (594), сакральны сэнс славянскае слова набыло толькі пасля прыняцця хрысціянства. Як сведчаць язычніцкія імёны

*Святаполк*, *Святавіт*, паралельныя імёнам *Яраполк*, *Яравіт*, слав. **svęt-* значыла 'моцны'; *Святаполк* – 'моцны сваімі палкамі, маючы моцныя палкі'. Адносна польск. *święty* выказваецца меркаванне пра першапачатковае значэнне 'моцны ў стасунку да магіі', якое пры хрысціянізацыі пад чэшскім уплывам было заменена значэннем 'кананізаваны за маральную чысціню і дабрадзейнасць' (Басай–Сяткоўскі, Słownik, 386). Глухак (597–598), Снойl (623), Борысь (623) прасл. **svętъ* узводзяць далей да і.-е. **k'u̯en-to-* 'святкаваць, урачыста прыходзіць'. Агляд семантыкі індаеўрапейскіх і славянскага слова гл. Тапароў, Этимология–1986–1987, 3 і наст.; Шустар-Шэўц, 1390; БЕР, 6, 541–542; Астроўскі, Этимология–2003–2005, 162–173.

**Святы́ня** 'святое, асвечанае месца, храм' (ТСБМ, Некр. і Байк., Стан.), ст.-бел. *сватына* 'тс'. Кніжнае запазычанне з рус. *святыня* 'тс' (< ц.-слав. *сватыни* 'тс') або з польск. *świątynia* 'тс', што лічыцца запазычаннем з ст.-чэш. *svatyně*, *svatina* 'тс' у сувязі з агульным кірункам запазычвання хрысціянскай тэрміналогіі (Басай–Сяткоўскі, Słownik, 383).

***Свяцілка**, *свецілка*, *свецёлка* 'дружка; дзяўчына з боку маладога, якая несла вясельны хлеб з свечкамі' (ТС, Ян.), *свяцíліца* 'дзяўчына, што трымае запаленую свечку, калі ўбіраюць нявесту' (Нар. Гом.), укр. *світилка* 'дзяўчына, што выконвае абрад трымання шаблі з прывязанай да яе свечкай'. Падрабязна аб семантыцы гл. Гура, С і БФ, 1995, 318–321. Да *свяціць* (гл.).

**Свяце́ц** 'падстаўка для лучыны' (рас., Шатал.), 'свяцільня з лучынай' (Анім. дад.). Рус. *свете́ц* 'тс'. Ад *свет-* з суф. *-ец-*.

**Свяці́ць** 'выпраменьваць святло; ззяць' (ТСБМ, Нас., Ласт., Байк. і Некр.). Укр. *світи́ти*, рус. *свети́ть*, стараж.-рус., ст.-слав. **свѣтити**, польск. *świecić*, в.-луж. *swecić*, н.-луж. *swesiś*, чэш. *svítiti*, славац. *svietit'*, серб.-харв. *svétiti*, славен. *svétiti*, балг. *све́тя* 'тс'. Прасл. **světiti* 'свяціць'. Роднасныя літ. *šviatýti*, *šviaitaũ* 'свяціць', ст.-інд. 3 а. адз. л. *aśvait* 'заблішчаў'; гл. Траўтман, 310; Фасмер, 3, 575. Снойl (623) узводзіць да і.-е. базы **ku̯eit-* 'свяціцца; светлы, белы'. Іншая ступень чаргавання ў *світаць*, *свіцецца* (гл.). Аддзеяслоўныя ўтварэнні *свяціла* 'светач для лучыны' (гарад., Нар. лекс.), *свецéльнік* 'прыстасаванне для асвятлення хаты лучынай' (ТС), якому адпавядаюць ст.-польск. *świetelnik* 'падсвечнік', серб. дыял. *светелник* 'металічная падстаўка для лучыны пры асвятленні хаты' (СДЗб, 29, 525) і інш.



**Свячá** 'свечка; рытуальная святочная свечка' (Нас.), *свечá* 'свечка', 'прамы сук у сасне' (ТС). Гл. *свечка*.

**Се$_1$**, *сё* 'вось': *Се і хлеба нетуці*; *Сё прыду* (Ласт.); 'гэта, гэтак': *се дзеўка роўная з ею; се кажуць мінпчане* (Ян.), у спалучэннях *асё*, *асёж* 'вось, глянь': *Асё маці мая; Дзе нож? – Асё-ж ляжыць* (Ласт.), *о се ж* 'вось тут', *до се* 'дасюль' (ТС), ст.-бел. *се* 'вось гэта': *чиа молодица се* (Альтбаўэр), 'вось, так, цяпер' (Ст.-бел. лексікон), параўн. укр. *се* 'гэта', старое рус. *сё*, стараж.-рус. *се*, ст.-чэш. *se*, палаб. *sü*, ст.-польск. *sie*, серб.-харв. *се*, балг. дыял. *со*, ст.-слав. **сє** 'тс'. Прасл. **se* 'гэта' роднаснае літ. *šе* 'вось табе на', лат. *šе* 'тс' (Буга, Rinkt., 2, 481). Гл. *сей*, *ся*.

**Се$_2$** 'калі' (умоўны злучнік): *"ой, се моя сестрá, то прашу я да хаты, а се сивая зазулька, то ляти ў луги кавати"* (беласт., у запісах Раманава, гл. Карскі, 2–3, 497), у спалучэннях *себ* 'калі б', *се хоч* 'калі', *не се* 'быццам; здаецца' (Список слов… Гродн. и Минск. губ., рукапіс). Паводле Патабні (Из записок, 1–2, 294), аналагічны злучнік, вядомы ў паўночна-заходніх украінскіх гаворках, паходзіць з *се*, *осе* ("из *се*, *осе*, *а се*, как указания на недавнее или наличное, произошло *се*… если"), гл. *се$_1$*. Інакш укр. *се*, *се-б*, *ся-б* 'калі' разглядае ЕСУМ (5, 200) (рэдукцыя *если б*, што малаверагодна).

**Се$_3$** 'сябе': *ты с'é ў аб'úду н'и давай* (Сцяшк. Сл.), звычайна ў спалучэнні з прыназоўнікамі: *цягня да сé* (Скарбы), *śmièrci na sie spadziewàŭsie; starỳ maładùji žuònku bierè nie dzielà sie* (Федар. 4), *сам за се заступіцца ні можа* (шчуч., Нар. лекс.), параўн. укр. *за ся*, ст.-рус. *на ся*, польск. дыял. *na się*, в.-луж. *na so*, н.-луж *na se*, палаб. *püd są*, серб.-харв. *пода̄ се*, славен. *zase*, ст.-слав. **на сѧ**. Прасл. **sę* 'сябе', націскная (неэнклітычная) форма В. скл. адз. л. (ESSJ SG, 2, 599), роднасная ст.-прус. *sien* 'сябе', лат. *sē* 'тс', гоц. *sik* 'тс' (Фасмер, 3, 823). Беларуская форма звычайна разглядаецца як другасная, узнікшая ў выніку сцягвання *сябе* > *се*, паколькі нармальным усходнеславянскім рэфлексам **sę* з'яўляецца *ся*, параўн. *-ся* (гл.); аднак нельга выключыць уплыў *се$_1$* (гл.) або энклітычнай формы зваротнага займенніка **se*, да якой узводзяць беларускія і ўкраінскія зваротныя формы *се*, *сё* (ESSJ SG, 2, 599; ESJSt, 13, 812). Гл. таксама *свой*, *сябе*.

**Себр** 'сябар, пабрацім, родзіч' (Нас.). Гл. *сябар*.

**Се́бра** 'талака, калектыўная дапамога' (карэл., кліч., бялын., мазыр., ДАБМ, камент., 905). Рус. валаг., алан. *себра́* 'праца грамадой, сумесна; талака'. Даль (4, 169) узводзіць да *сябр* (гл. *сябар*). Рус. слова сумесна з алан. *себра́, сябра́, ся́бра* 'абшчына, арцель, сумесная справа' разглядалі як запазычанне з вепск. *sebr- (sebra-)* 'калектыўная праца'; гл. Фасмер, 3, 586. Трубачоў (История терм., 165) усе гэтыя словы звязвае са слав. *sębrъ 'сябра'. Фрэнкель (768–769) лічыць магчымым балцкае паходжанне: параўн. літ. *sébras* 'саўдзельнік, супольнік', лат. *sēbrs* 'сусед, прыяцель'. Лаўчутэ (Балтизмы, 148) балцкае паходжанне слова разглядае як недастаткова аргументаванае.

**Се́вер** 'поўнач' (брасл., Сл. ПЗБ), 'паўночны вецер, холад' (Касп., Варл., Сцяшк.; паст., лаг., Сл. ПЗБ; Хрэст. дыял.; бых., Мат. Гродз.), *северы́к* 'тс' (Анім. дад.), *се́верыць* 'трэскацца ад холаду' (мядз., Сл. ПЗБ), 'трэскацца ад сонца і ветру (пра вусны і скуру на руках і нагах)' (Варл.). Параўн. укр. *сі́вер* 'халодны, пранізлівы вецер, холад', 'поўнач', рус. *се́вер* 'поўнач', ст.-рус. *сѣверъ* 'поўнач; паўночны вецер', польск. дыял. *śevorecka* 'імжа', чэш. *sever*, славац. *sever* 'тс', в.-луж. *sowjer* 'марыва, туман', славен. *séver* 'паўночны бок неба, вецер з таго боку', серб.-харв. *се̏вер* 'поўнач', балг. *се́вер*, макед. *север* 'тс', ст.-слав. **сѣверъ** 'поўнач, паўночны вецер'. Прасл. *severъ, якое мае адпаведнікі ў літ. *šiaȓys* 'паўночны вецер', *šiarús* 'злосны, пранізлівы да касцей (вецер)', лат. *caurus* 'паўночна-ўсходні вецер' і г. д., якія, як мяркуюць, роднасныя і.-е. *seu̯- 'левы'. Гл. Фасмер, 3, 588 з літ-рай і наст.; ESJSt, 13, 812; Глухак, 552; Бязлай, 3, 231. Махэк$_2$ (542), які, следам за Эрхардам (SbP (Brno), 6, 5–7), прытрымліваецца гэтай версіі, тлумачыць гэта тым, што старажытныя людзі пры прынясенні ахвяр стаялі тварам да ўсходу, так што поўнач была ў іх з левага боку. Трубачоў (Этногенез$_2$, 386) звязвае племянную назву *sěver(')ane з яе лакалізацыяй на паўночным (левым) беразе Дуная. Гл. таксама *сівер*.

**Се́дала** 'жэрдка або некалькі жэрдак у куратніку, на якія ноччу садзяцца куры; курасадня' (ТСБМ, Касп., ЛА, 1), *се́дало* 'тс' (Пятк. 2., ТС, Сл. Брэс.), *се́дла* 'тс' (Сцяшк. Сл.), *се́дала* 'сядзенне ў прасніцы' (гарад., Сл. ПЗБ), *се́дало* 'дэталь калаўрота' (Сл. ПЗБ), 'месца, дзе чалавек часта бывае' (Сл. Брэс.), 'месца адпачынку' (ТС). Укр. *сі́дало*, рус. зах. і паўдн. *се́дало* і *седа́ло*, ст.-рус. *сѣдало*, чэш. *sedadlo*, в.-луж. *sedźadlo*, серб.-харв. *сје̏дало* 'сядзенне', дыял. *sedàlu* 'сядзенне ў кроснаў', славен. *sedálo*, балг. *седа́ло*, макед. *седало* 'сядзенне'. Ад *sědati, ітэратыва дзеяслова *sěděti* 'сядзець' з суф. *-dlo*; гл. Махэк$_2$ 539. Паводле Слаўскага (SP, 1, 113), гэта ўтварэнні ўжо асобных славянскіх моў. Аднак Трубачоў (Ремесл. терм., 134) лічыць, што прынамсі як назва ткацкай лаўкі гэта слова праславянскае, паколькі мае адпаведнікі ў літ. *sėdeklė*, лат. *sēdekle* 'сядзенне ў кроснаў' і лац. *sediculum* 'сядзенне'. Варбат (Морфон., 213) таксама разглядае слова як праславянскае *sědadlo.



**Се́дацца** *(се́дыцца)* 'хвалявацца, нервавацца' (Бяльк.). Магчыма, да *sedati sę, параўн. ст.-слав. **сѣдати сѧ** 'трэскацца, лопацца; рассядацца', гл. *сесці*. Да семантыкі параўн. рус. дыял. *се́даться* 'трэскацца (пра скуру)', а таксама *рассе́сціся* 'распасціся', укр. *розсіда́тися* 'распадацца'. Нельга выключыць сувязь з аманімічным коранем *sed- 'рэзаць, шчымець', роднаснага ст.-інд. *kšádate* 'разразае, раздзяляе', што да і.-е. *k$^s$ed-, гл. Махэк$_2$, 521; ESJSt, 13, 803.

**Се́джа** 'засада на ваўкоў (з прынадай)' (Касп., Янк. 3), 'памост з дошак пры лоўлі рыбы на язах' (маг., мін., гом., Браім, Рыбалоўства). Гл. *сежа*; *-д-* пад уплывам дзеяслова *сядзець*; гл. аб тым Карскі, 1, 383. Сюды ж *се́джа* 'многа грыбоў адзін каля аднаго' (Сцяшк. Сл.).

**Се́дзілка**, *се́дзелка, се́дзялка* 'сядзенне ў прасніцы' (паст., віл., Сл. ПЗБ), 'стойка для дзяцей' (круп., Сл. ПЗБ), 'сядзенне ў прыстасаванні для пад'ёму бортніка' (рагач., Сл. ПЗБ), *седа́лка* 'крэсла для малога дзіцяці' (ТС), *се́дзелко* 'услончык, месца для сядзення' (ТС), *се́дзела, се́дзелка* 'частка прасніцы, на якой сядзяць' (віл., Шатал.). Славен. *sedélo*, балг. *седело*. Прасл. *sědědlo, паводле Варбат (Морфон., 213), дэрыват ад прасл. *sěděti 'сядзець'. Лаўчутэ (Балтизмы, 131) адносіць слова да балтызмаў, параўн. лат. *sêdela* 'крэсла, сядзенне', дыял. *sêdelis* 'сядзенне ў ільномялцы', што не мае падстаў; хутчэй, запазычанне з беларускай мовы, параўн. макед. *седил* 'верхняя частка сядла', *седало* 'сядзенне', балг. *седа́лка* 'тс' і інш.

**Седмачо́к** 'семачок, Trientalis europaea L.' (гродз., маг., Кіс.; Байк. і Некр.). Рэдкі выпадак захавання этымалагічнага *д* у вытворных ад *сем* (гл.), наўрад ці пад уплывам польск. *siedem*, бо назва фіксуецца і на ўсходзе Беларусі. Гл. *семачок*.

**Се́жа** 'сетка, якой перагароджваюць раку' (Бяльк., Жд. 1; уздз., Сл. ПЗБ), 'перагародка на рацэ, на вузкіх праходах пры спадзе вады, закота' (шальч., Сл. ПЗБ; Дэмб. 2), 'стаўная сетка ў выглядзе мяшка з крылом' (мёрск., ЖНС), 'рыбны садок на рацэ' (Гарб.), 'засада на зайца, дзіка і мядзведзя' (Пятк. 2), *сеж* 'сежа' (Дэмб. 2), *сіжа* (у рыбалоўстве) (мсцісл., Янк. 3), ст.-бел. *сеж* 'перагародка на рацэ' (Статут 1588 г.). Укр. *се́жа, сіе́жа, сяжа́, сыіж* 'тын на рацэ для лоўлі рыбы', рус. *се́жа* 'сетка або прыстасаванне на рацэ для лоўлі рыбы', ст.-рус. *сѣжа* 'рыбалоўная сетка', серб.-харв. *cjȅђа* 'прыстасаванне для лоўлі рыбы'. Прасл. **sědja*, ад асновы **sěd-* (гл. *сесці*), першапачаткова 'сядзенне', параўн. славен. *seja* 'пасяджэнне'. Параўноўваюць з літ. *per-séda* 'закота для лоўлі рыбы', *sė́džia* 'куль у рыбалоўнай закоце', лат. *sêža* 'сядзенне'; гл. Буга, Rinkt., 1, 481; Фрэнкель, 770; Фасмер, 3, 591; ЕСУМ, 5, 496.

**Сей** м. р. 'гэты' (Ян., Сцяшк. Сл.; брэсц., ЛА, 2; Хрэст. дыял., ТС), *сée* н. р. 'гэтае' (Ян.), *сёй* у спалучэннях *сёй-той, той-сёй* 'некаторыя людзі', *сёе-то́е, то́е-сёе, то́е ды сёе* 'некаторыя рэчы' (ТСБМ), *сё і то* 'тс' (ТС). Ст.-бел. *сеи, сее* (Альтбаўэр). Укр. *сей* м. р., *ся, ся́я* ж. р., *се, се́е* н. р.; рус. *сей, сия́, сие́*, стараж.-рус. *сь* (*сии*), *си* (*сиꙗ*), *се* (*сиѥ*), ст.-польск. *si, sie*, ст.-чэш. *sen, sie, se*, серб.-харв. *са̑ј, си* м. р., *са, саj* ж. р., *се, ся* н. р., славен. *sej*, балг. *сей, сия́, сие́*, ст.-слав. **сь, си, се**. Прасл. **sь(jь), *si(ja), *se* узыходзяць да і.-е. * *ḱis*; параўн. літ. *šis* 'гэты', лат. *šis*, ст.-прус. *schis*, літ. *šì-tas* 'гэты', лац. *cis* 'па гэты бок', *citrā* 'па гэты бок, унутры, пад, без', *citrō* 'сюды', гоц. *himma* 'гэтаму', *hina* 'гэтага', ст.-в.-ням. *hiutu* 'сёння' і г. д.; гл. Траўтман, 304; Вальдэ–Гофман, 1, 192 і наст.; Торп, 87; Фасмер, 3, 591 і наст.; ESSJ SG, 2, 618–623.

**Се́йбіт** 'сявец' (ТСБМ, Гарэц., Ласт., Др.-Падб., Растарг., Бяльк., Сцяшк.; гом., ЛА, 3). Дэрыват ад *сеяць* (гл.) з суф. *-im* праз прамежкавую ступень назоўніка **сейба*, параўн. польск. *siejba* 'сяўба' (аб суф. гл. Сцяцко, Афікс. наз., 157), або ў выніку прыпадабнення складоў ад *се́ўбіт* 'сявец' (Ян., Мат. Маг.), што да *сяўба́*, гл. таксама *сяўбіт*.



**Сейм** 'саслоўна-прадстаўнічы орган у Рэчы Паспалітай' (ТСБМ), *се́ймік* 'зборка дэлегатаў ВКЛ перад сеймам у Варшаве' (ТСБМ), *се́юм* 'бяседа' (Сл. Брэс.), *сеймікаваць* 'радзіцца, меркаваць' (Сцяшк. Сл.), *сеймікава́цца* 'раіцца, дагаворвацца' (стаўб., Нар. сл.), *сэймікава́цца* 'тс' (Скарбы), *посемова́ць* 'параіцца' (Сл. Брэс.). Ад ст.-бел. *сеймъ, сэймъ, съемъ* 'тс' з польск. *sejm* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 34). Гл. *сойм*.

**Сек** 'даўняя мера вагі сыпкіх цел ёмістасцю 12 кг' (Сл. ПЗБ; в.-дзв., Нар. сл.). Ст.-бел. *секъ* (*ссекъ*) пераважна ў магілёўскіх актах 'адзінка колькасці мяса' (Скурат, Меры, 145; Ст.-бел. лексікон), 'мера сыпкіх цел': *семен'я лняного секов два* (Яблонскіс, 210). Скурат (там жа) лічыць вытворным ад **sěkti* 'сячы', што сумніўна ў сувязі з вышэй прыведзеным значэннем. Хутчэй за ўсё, балтызм, параўн. літ. *síekas* 'мера вагі (зерня) = 6 гарцаў, г. зн. каля 20 л', лат. *sieke* 'тс', якія далей звязаны з літ. *síekti* 'спрабаваць дасягнуць чаго-небудзь', *seik'ti* 'вымяраць мерамі'. Аб апошніх словах гл. Фрэнкель, 781; Мюленбах–Эндзелін, 3, 857.

**Се́каўка** 'рыба шчыпоўка, Cobitis taenia L.' (карэліц., З нар. сл.; Янк. 3), *се́чка* 'тс' (Янк. 3), *секушка* 'тс' (Жук.), *сікоўка, сіколка* 'тс' (там жа). Рус. (у Даля) *сѣка* 'рыба ў'юн', укр. *сíкавиця, сíкавка, сіку́нка* 'шчыпоўка', польск. *siek, siekierka*, чэш. *sekavec*, ст.-чэш. *sekavec*, дыял. *sekavica*, серб.-харв. *sekuš* 'тс'. Да **sěkti* 'сячы'. Назва дадзена за вострыя калючыя шыпы пад вачамі; пасля таго, як яе ўхопіш, яна "сячэ" ў бакі гэтымі шыпамі; гл. Махэк$_2$ (540).

**Се́квіны** 'мача' (ганц., Сл. ПЗБ). Да *сікаць, сцаць* (гл.); параўн. яшчэ рус. пск. *сёкать* 'мачыцца'.

**Секс** 'усё тое, што адносіцца да палавога жыцця'. Запазычана з англ. *sex* 'палавая схільнасць', *sexy* 'сексуальна заклапочаны', першапачаткова значыла 'натуральны пол', што з лац. *sexus* 'пол', роднаснага *secāre* 'рэзаць, дзяліць', г. зн. 'частка, падзел'.

**Се́кта** 'рэлігійная суполка па-за традыцыйнай царквой' (ТСБМ). З лац. *secta* 'вучэнне, кірунак, школа', што звязана з *sequor* 'іду следам' (Сной$_2$, 646; ЕСУМ, 5, 207), магчыма, праз заходнееўрапейскае і рускае пасрэдніцтва.

**Се́ктар** 'частка круга', 'аддзел, участак' (ТСБМ), 'звяно ў коле' (мсцісл., рэч., ЛА, 2). Запазычана праз ням. *Sektor* і рускае *се́ктор* ці польск. *sektor* з лац. *sektor* 'рассякаючы' ад *secāre* 'рэзаць'.

**Секу́нда** ‘шасцідзесятая частка мінуты’ (ТСБМ). Позняе запазычанне праз польск. *sekunda* ці рус. *секу́нда*, што ўзыходзяць да новалац. *secunda*, скарочанага з лац. *pars minuta secunda* літаральна ‘іншая меншая частка’ ў адносінах да мінуты; лац. *secundus* ‘другі’, г. зн. ‘наступны’ паходзіць ад дзеяслова *sequī* ‘ісці па слядах’ (Снойₐ, 646; Глухак, 543).

**Се́кці** ‘рубаць (дровы)’ (ЛА, 1). Гл. *сячы*.

**Се́кчы**. Гл. *сячы*.

**Се́ла-се́ла!** – выклічнік, зварот да курыцы, якую хочуць злавіць (ашм., Стан., Бяльк., Федар. 4): *sieła, cipaczka, sieła* (Пятк. 1); *се́ла-се́ла, се́лка-се́лка, се́лачка-се́лачка* ‘тс’ (Юрч. Вытв.), *села-пала́* ‘тс’ (Нік. Очерки). Паводле Карскага (2–3, 378), форма прошлага часу ад *сесці* (гл.), што выкарыстоўваецца для выражэння жадання, якое абавязкова павінна здзейсніцца: *села, курачка, села!* аналагічна да *пашлі вон!* Меркаванне пра няяснасць паходжання гл. у ESSJ SG, 2, 597. Магчыма, замацавалася пад уплывам мовы ідыш, параўн. бібл.-гебр. *selā* ‘гатова! вырашана! застаецца на месцы’ (выкарыстоўваецца ў якасці заканчэння пры чытанні псалмаў, гл. Штэрн, Wörterbuch, 206). Гл. таксама Сафарэвіч у Зб. Ісачанку, 348.

**Се́лег**, *се́лях, се́люх, сэ́ляг, сэ́лях, сэ́люх, сэлю́х* ‘качар’ (зах.- і ўсх.-палес., Клім., Нар. лекс., Нікан., Жыв. св., ЛА, 1). Укр. *се́лех* ‘тс’, рус. дыял. *се́лех*. Ад *селязень*, гл. (Брукнер, KZ, 43, 304; Фасмер, 3, 595), з магчымым гіпакарыстычным *-х-(-ch-)* (Слаўскі, SP, 1, 71). Гл. таксама Антропаў, Назв. птиц, 369–370.

**Селёзка** рэдка ‘рыба чахонь, Pelecus cultratus (L.)’ (Жук.). Мабыць, з рус. *селёдка* < *сельдь* ‘селядзец’, паколькі сустракаецца ва ўсходніх раёнах (гом., маг.). Перанос назвы на *чахонь* адбыўся з прычыны знешняга падабенства.

**Се́ліца** ‘лужок на краю сядзібы’ (Касп., Яшк.), ‘сухі луг’ (Жд. 2), ‘месца, дзе быў двор, сядзіба’ (Яшк.). Гл. *аселіца*.

**Се́лішча** ‘зямельны ўчастак, заняты будынкамі, садамі’ (ТСБМ; люб., Сл. ПЗБ, Янк. 2, Шушк., Яшк.), ‘сяло або месца, дзе яно было’ (Касп., Гарэц., Ласт., Др.-Падб., Ян.), ‘будоўля’ (Сцяшк.), ‘невялікі лужок каля сотак’ (шчуч., З нар. сл.), ‘месца, дзе стаяла хата’ (палес., ЛА, 4; чэрв., ст.-дар., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *селище* ‘тс’. Укр. *се́лище*, рус. *се́лище*, ст.-рус. *селище*, чэш. *sídliště*, серб.-харв. *се̏лиште*, славен. *selišče*, балг. *се́лище*, макед. *селиште* ‘пасяленне’. Прасл. **sědlišče*, **selišče* ад прасл. **sědlo* (гл. *сяло*) з суф. nomina loci *-išče*. Гл. БЕР, 6, 602.



**Сель₁** ‘дасюль’: *вады было роўна сель во* (брасл., Сл. ПЗБ), ц.-слав. *сель* ‘так, настолькі’, сюды ж ст.-бел. *селико* ‘столькі’ (Ст.-бел. лексікон), ст.-слав. **селико** ‘столькі’. З *се* (гл. *сей*) + *ль*, часціца, што ўзыходзіць да канцавой партыкулы *-lě/*-li*, параўн. рус. *досе́ль* ‘дасюль’ (ESJSt, 13, 798; Фасмер, 1, 531), часціца *-ко* як у серб.-харв. *ко̏лико* ‘сколькі’.

**Сель₂** ‘расколіна ў дрэве’, *селява́ты* ‘пра дошку з расколінай’ (Сл. рэг. лекс., Чэрн.). Параўн. балг. *сель* ‘раскапаная зямля з рудасносным пяском’. Ад **sědlь* < **sed-* (гл. *сядзець*) з суф. *-lь*; адносна суф. параўн. Слаўскі, SP, 1, 105. Відаць, архаізм, параўн. *прасе́ліна* ‘шчыліна’ (Некр. і Байк.), рус. *рассе́лина* ‘расколіна’, ст.-славац. *rozsedlina* ‘расколіна; правал’, што ўзводзяцца да **sědati sę* ‘пукацца, трэскацца’; з іншым вакалізмам ст.-чэш. *saděl, sadel* ‘сечаная рана’, гл. ESJSt, 13, 803; Фасмер, 3, 445; інакш адносна балгарскага слова БЕР, 6, 600 (з тур. *sel* ‘бурны паток’). Параўн. яшчэ каш. *sedla* ‘расколіна, рыска ў лёдзе’ (< **sědl'a*, SEK, 4, 255).

**Се́льнік** ‘матрас з саломы’ (Сцяшк.), *сельні́к* ‘агароджаная частка хлява, дзе складаюць сена’ (мазыр., З нар. сл.), *селны́к* ‘будынак для сена або аддзяленне ў хляве для сена’ (Шушк.). З *сяннік* (гл.) у выніку дысіміляцыі.

**Селядзе́ц** ‘марская рыба, якая ўжываецца ў ежу ў салёным ці вэнджаным выглядзе’ (Нас., ТСБМ, Шымк. Собр., Бяльк., Касп., Шат., Косіч., Стан., Варл., ЛА, 4). Укр. *селеде́ць* ‘селядзец’, *осе-ле́дець* ‘казачы чуб’, рус. *сельдь, селёдка*, польск. *śledź* ‘тс’, чэш., славац. *sleď* ‘тс’. Запазычанне да XII ст. з ст.-сканд. *sild, síld*, ст.-швед. *sild* ‘селядзец’, швед. *sill*, нарв. *sil* ‘тс’; гл. Міклашыч, 290; Торп, 441; Праабражэнскі, 2, 274; Брукнер, 530; Фасмер, 3, 597. Бел. і укр. словы з ⁺*сьльдь*, аформленага рознымі суфіксамі, параўн. Каламіец, Рыбы, 132. Борысь (615) узнаўляе паўн.-прасл. **seldь* ‘селядзец’.

**Селядо́ршы** ‘сярэдні (брат або сястра)’ (Сцяшк., Жд. 1, Нар. сл., Кольб., Сержп., Тур.; маст., дзятл., чэрв., шчуч., лід., Сл. ПЗБ), *салядо́ршы* ‘тс’ (Сл. ПЗБ). З *серадольшы* (гл.) у выніку метатэзы *л* і *р*.

**Селядэ́ра**. Гл. *сырадэля*.

**Селяжо́к** *(silažok)* 'калітка на грошы' (Варл.), *селю́жска* 'сцёртая манета' (ТС). Ад *шэлег* (гл.) у выніку распадабнення шыпячых гукаў (*ж, ш → с*).

**Селязе́нь** 'качар' (в.-дзв., Шатал.; віц., Шн. 1; віц., маг., гом., ЛА, 1), *селезён, селезе́нь* (ТС), *сялезнічак* (магіл., Шн. 1), *се́лезень* (Ян.) 'тс', *селязён* (слуцк., стол., Жыв. св.), *зелязе́нь* спарад. (усх.-палес., Жыв. св.), ст.-бел. уласнае імя Мазюк Селезень (1597 г., гл. Лінгв. дасл., 145). Фіксацыя ў архаічнай зоне ўказвае на магчымасць захавання стараж.-рус. *селезень*, параўн. укр., рус. *се́лезень* 'качар'. Этымалогіі спрэчныя. Рабіліся спробы звязаць з назвай колеру; так Праабражэнскі (2, 291) параўноўваў з *селязёнка* (гл.); Мацэнаўэр (LF, 19, 249) звязваў з лат. *zílgans* 'сіняваты'; супраць гэтага Фасмер (3, 595), таму што пры рэканструкцыі слав. **selg-*, чакалася б рус. *солоѓ-*. Сюды ж і серб-харв. дыял. *сљез, слезен, слезенка, слезињак, слезенка* 'качар', якія Скок (Зб. Кашмідэру, 202–203) звязвае з *сљез* 'мальва', г. зн. качар названы па колеру расліны; Ваян (ВЯ, 1960, 6, 66 і наст.) "каляровыя" версіі лічыць народнай этымалогіяй. Параўноўвалі яшчэ з ст.-інд. *srjáti, sárjati* 'вылівае', авест. *hərəzaiti* 'выпускае, кідае, вылівае', нова-в.-ням. *selken* 'ка́пацць' (Патабня, РФВ, 2, 6; Праабражэнскі, 2, 291). Фасмер (3, 595) мяркуе аб гукапераймальным паходжанні, што, здаецца, падмацоўваецца дыялектным матэрыялам, параўн. *селязе́нь* (*silazién*) 'гук у жываце некаторых коней у час бегу': *silazién kóchkaje pry biahú* (Варл.). Гл. наступнае слова.

**Селязёнка** 'каса, кроватворны орган жывёл і чалавека' (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк., Пятк. 1), дыял. *сало́зіца, сало́заўка* 'тс': *салозаўка грае* (пра гук у жываце каня) (Ласт.). Укр. *селезі́нка*, рус. *селезёнка*, серб.-ц.-слав. *слѣзена*, польск. *śledziona*, в.-луж., н.-луж. *słozyna*, чэш., славац. *slezina*, серб.-харв. *слезѝна*, славен. *slezȇn, slezȇna*, балг. *слез, сле́зен*, макед. *слезенка, слезина*, ст.-слав. **слѣзена** 'тс'. Прaславянская форма ўзнаўляецца па-рознаму: **selezenь, *selzenь* (Фасмер, 3, 594), **selzena* (Брукнер, 531; Махэк$_2$, 554), **s(p)elzen-* (Голуб–Копечны, 337). Ваян (ВЯ, 1960, 6, 66–67) прапаноўвае **sьlezena*, паколькі **selzena* ва ўсходнеславянскіх мовах дало б **солоз-*, што якраз і мае месца ў беларускіх дыялектных формах. Роднасныя ст.-ірл. *sela* 'селязёнка', авест. *spərəzan-*, лац. *lien*, ст.-інд. *plīhán-*, грэч. σπλήν, Р. скл. σπληνός 'селязёнка', літ. *blužnìs*, ст.-прус. *blusne* 'тс' (Траўтман, 256; Мее, 169 і наст.;



Фасмер, там жа). Адзіная індаеўрапейская праформа не аднаўляецца з прычыны вялікага разыходжання паміж формамі ў розных мовах. Мяркуецца і.-е. **sp(h)elĝh- (en, ā)*, **splenĝh-*, **splēgh-* (Покарны, 987); Борысь (615) праславянскую форму выводзіць з і.-е. **spelĝh-en-ā*. Прычына разыходжанняў – моўнае табу, або марфалагічнае спрашчэнне. Параўн. *селязень*. Падрабязны агляд праблематыкі гл. Бязлай, 3, 260; БЕР, 6, 615.

**Селянін** 'жыхар сельскай мясцовасці, земляроб' (ТСБМ, Гарэц., Бяльк.). Укр. *селяни́н*, рус. *селяни́н*, ст.-рус. *селянинъ* 'селянін, вясковы жыхар', серб.-харв. *сѐљанин* 'вясковы жыхар', славен. *selján* 'селянін, вясковы жыхар', балг. *се́лянин*, макед. *селанин, селанец* 'селянін', ст.-слав. **селгаининъ** 'земляроб'. Паводле Трубачова (Проспект, 77), прасл. **sedl'aninъ/*sedlěninъ* < прасл. **sedlo* (адрознага ад **sedъlo* 'сядло') 'земляробчая гаспадарка з домам' (Махэк$_2$, 539) з і.-е. **sedlom*, роднаснага лац. *sella* 'сядзенне' < **sedlā*, што мае фанетычную і словаўтваральную адпаведнасць у палеабалканскім 'Σλλα 'назва храма Зеўса ў Дадоне', ад якога выводзіцца племянная назва 'Σληυες, паралельная да **sedl'ane* 'сяляне' (Трубачоў, Этимология–1980, 14–15). Гл. *сяляне*.

**Селяпа́ць** 'хутка чэрпаць, хлябтаць', 'сцябаць', сюды ж *селяпа́йла* (*селепайла*) 'хто хутка чэрпае лжкай' (Нас.), *сілі́наць* 'прагна есці' (Мат. Маг.). Параўн. ст.-слав. **слѣпати** 'скакаць'. Паводле Карскага (1, 253; 2–3, 24), той жа корань, што і ў *высалапіць* (гл. *салупаць*), варыянт $^{+}$*селепа-/солопа-*. Буга (Rinkt., 1, 333) слав. **selpati* параўноўвае з літ. *išsalpinéti* 'разысціся, разбрысціся', *salpà* 'завадзь, заліў', што ўзводзяцца да кораня **selp-* 'рухацца' < і.-е. **sel-*, **sol-* 'моцна цячы', звязанага чаргаваннем галосных з прасл. **salpъ* 'вадапад, паток' (Міклашыч, 291; Фасмер, 3, 715). Параўн. *сілінаць*, гл.

**Селяхта́ць** *(селехта́ті)* 'казытаць' (лун., Шатал.), *селехта́ці* 'тс' (Сл. Брэс.). Няясна, магчыма, гукапераймальнае, параўн. польск. *łechtac* 'тс', якое Брукнер (309) збліжае з *łoskotać* 'тс', гл. *ласкатаць*. Параўн. *ляхотка*.

**Сем**, Р. скл. *сямі́* 'лік і лічба' (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк.), ст.-бел. *седмь, семь, семъ* (Альтбаўэр). Укр. *сім*, Р. скл. *семи́*, рус. *семь*, Р. скл. *семи́*, старaж.-рус. *семь, седмь*, польск. *siedem*, палаб. *sidĕm*, каш. *sètme*, в.-луж. *sedom, sydom*, н.-луж. *sedym*, чэш. *sedm*, славац. *sedem*, серб.-харв. *сȅдам*, славен. *sédem*, балг. *се́дем, се́дъм*,

макед. *седум* 'тс', ст.-слав. **седмь**. Прасл. **sedmь*. Гэта форма з'яўляецца вынікам змяшэння парадкавага лічэбніка **sedmъ* і колькаснага **setь* (аналагічна і ў ліч. *pętь* < *pętъ, šestь* < *šestъ*); падрабязна гл. Семерэныі, ВЯ, 1967, № 4, 9 і наст. Слав. **setь* заканамерна працягвае і.-е. **septm̥-*, параўн. літ. *septynì*, лат. *septiņi*, ст.-інд. *saptá*, грэч. *ἑπτά*, лац. *septem*, ням. *sieben* 'тс'; гл. Траўтман, 257; Мюленбах–Эндзелін, 3, 819; Вальдэ–Гофман, 2, 517 і наст. Прычыну захавання *-d-* у заходне- і паўднёваславянскіх мовах (параўн. выпадкі з заканамерным яго выпадзеннем *plemę* < **pledmę*, *vymę* < **vydmę*) і страту яго ва ўсходнеславянскіх (Карскі, 1, 352 адзначае, што *д* выпадае часам у помніках XI ст.) Трубяцкой (ZfslPh, 4, 375 і наст.) тлумачыць розным часам працякання працэсаў асіміляцыі і скарачэння канцавой групы зычных. Гл. таксама Борысь, 545; Сной₁, 557; Фасмер, 3, 599; Шустар-Шэўц, 1396–1397; БЕР, 6, 579; ESJSt, 13, 797; Нов. в рус. этим., 205; SEK, 4, 259–260.

**Семачо́к** 'шматгадовая травяністая лекавая расліна сямейства першакветных, Trientalis L.' (ТСБМ, Кіс.), *седмачок* (маг., гродз., Кіс.). Рус. *седми́чник*, польск. *siodmaczek* 'тс'. Ад *сем* (гл.), таму што расліна большай часткай мае 7 пялёсткаў і 7 лістоў (Нейштадт, Определитель, 440).

**Семенчаваць** 'суцешыць радаснай весткай' (Тэсфір 1725 г.). Паводле Мішкінене (Slavistica Vilnensis, 1997, 210), сустрэлася ў каментары да Карана ў форме *семенчуй* з тлумачэннем "суцеш радаснай весткай". Антановіч (Зб. Крымскаму, 148–149) у арабаграфічных тэкстах *семенчаваць* 'вітаць' разглядае як цюркізм. Вытворнае ад ст.-бел. *семенчь* 'радасная вестка' (1545 г.), што з крым.-тат. *sävinč*, чагат. *sävünč* 'тс', якое ў сувязі з абмежаваным характарам выкарыстання сярод беларускамоўных мусульман разглядаецца як экзатызм (Булыка, Лекс. запазыч., 36).

**Семіна́рыя** гіст. 'сярэдняя спецыяльная (звычайна – духоўная) навучальная ўстанова' (ТСБМ, Некр. і Байк.). Ст.-бел. *семинариумъ, семинария, сыминарыумъ* запазычана з польск. *seminarium* 'тс' < лац. *seminarium* (Булыка, Лекс. запазыч., 167), першапачаткова 'месца пасадкі, школка', ад *semen* 'семя'.

**Се́міны** 'збожжа, якое прызначана на насенне (у процілегласць *е́мінам* – збожжу, якое прызначана на ежу)' (Нік., Оч.), 'насенне' (Касп.), *се́мінка* 'насенная бульба' (Янк. 3, Бяльк., Юрч., Нар. сл., Нар. лекс.). Рус. пск., наўг., цвяр. *се́мины* 'збожжа на насенне', каш. *senionka* 'насенная бульба'. Ад *сем-* (гл. *семя*) з суф. *-ін*, *-інк(а)*; магчыма, фанетычна трансфармаванае **семяны*, мн. л. ад *семяно́* 'насенне' (усх.-бел., ЛА, 2).



**Семпітэ́рня**, *сэмпітэрня* 'задніца (з жаргону вучняў)' (Нас.). Рус. дыял. з семінарысцкага жаргону *семпите́рня* 'тс'. Паводле Абрэмбскага (LP, 4, 180), з польск. *sempiterna* < лац. *sempiternus* 'заўсёдны'. Семантыка тлумачыцца тым, што гэта частка цела заўсёды адказвае за правіннасці; так ужо Насовіч – Нас., 577; Зяленін, РФВ, 54, 116; Фасмер, 3, 599.

**Се́мя** 'насенне', 'род, племя' (ТСБМ, Нас., Бяльк.), 'насенне льну' (Ласт., Шат., Варл., Сл. ПЗБ), *се́м'е* 'тс' (ТС, Серж Прымхі), сюды ж *семяно́, семяна́* 'насенне' (Сл. ПЗБ, ЛА, 2), ст.-бел. *сѣмѧ* 'насенне', 'род, племя' (Альтбаўэр). Укр. *сі́м'я*, рус. *се́мя*, Р. скл. *се́мени*, ст.-рус. *сѣмѧ* 'семя; нашчадак', польск. *siemię*, в.-луж. *symjo*, н.-луж. *semje*, чэш. кніжн. *sémě*, *símě*, *semeno*, славац. *semeno*, серб.-харв. *сје̏ме*, славен. *sẹ́me*, балг. *се́ме*, макед. *семе* 'насенне', ст.-слав. **сѣмѧ** 'насенне', 'род'. Прасл. **sěmę*, **semene*. Роднасныя: ст.-прус. *semen* 'семя', літ. *sémens*, *sémenys* 'ільняное семя', лац. *sēmen* 'семя, род, патомства', ст.-в.-ням. *sâmô*; гл. Траўтман, 253 і наст.; Мюленбах–Эндзелін, 3, 832; Вальдэ–Гофман, 2, 512. Да і.-е. *sēmen*, якое з суф. *-men* утворана ад кораня **sē-* (гл. *сеяць*). Гл. яшчэ Фасмер, 3, 600; Сной₁, 561, БЕР, 6, 606–607; Шустар-Шэўц, 1399–1400; Борысь, 546.

**Семярня́** 'назоўнік з колькасным значэннем' (Янк. 2), 'лік сем': *нажала сем семярэнь* (Барад.), 'сямёрка' (смарг., Сл. ПЗБ), *семерня́* 'семдзесят снапоў' (ТС), *семяра́нька* 'тс' (пух., Сл. ПЗБ), сюды ж *семяры́цца* 'у сем разоў большым здавацца' (Нас.). Параўн. укр. дыял. *семерня́* 'сямёра'. Вытворныя ад прасл. **sedmerъ*, параўн. *семяро́е* 'у сем разоў большае' (Нас.), па тыпу *пецярня*. Значэнне '70 снапоў', магчыма, вынік пропуску асноўнай адзінкі ўліку снапоў (= дзесятак). "Кратнасць" уласціва вытворным ад прасл. **sedmeчъ* у некаторых славянскіх мовах, параўн. в.-луж. *sedmory* 'сямікратны', што магчыма ў выніку скарачэння (пропуску) **kratъ* 'раз', гл. ESJSt, 13, 797.

**Се́на** 'скошаная і высушаная трава на корм жывёле' (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк.), *се́но* 'тс'; *се́нены* 'кормлены сенам' (ТС). Параўн. укр. *сі́но*, рус. *се́но*, ст.-рус. *сѣно*, польск. *siano*, в.-луж. *syno*, н.-луж. *seno*, чэш., славац. *seno*, серб.-харв. *сије̏но*, славен.

*senō*, балг. *сéно*, *сенó*, макед. *сено*, ст.-слав. **сѣно**. Прасл. **sěno*. Бліжэйшыя адпаведнікі ў літ. *šiẽnas*, лат. *siens*, грэч. κοινά ‘корм’ (Траўтман, 297; Мюленбах–Эндзелін, 3, 859), што да і.-е. **koi̯-no* ‘трава’; гл. Покарны, 610; Шустар-Шэўц, 1400; Сной₁, 562; Борысь, 543. Гл. таксама БЕР, 6, 610–612; ESJSt, 13, 805. Махэк₂ (541) лічыць слова “праеўрапейскім” і параўноўвае з лац. *fenum* ‘сено’, што, на думку Фасмера (3, 601), сумніўна; па фанетычных прычынах адвяргаецца супастаўленне Брандта (РФВ 24, 150 і наст.) з *сячы* (**sekno*), г. зн. ‘тое, што пасечана’ і з *сеяць* ‘тое, што пасеяна’.

**Сенавáць** ‘нарыхтоўваць сена’ (Сл. ПЗБ; ашм. Стан., Сцяшк. Сл.), ‘касіць, сушыць і ўбіраць сена’ (Скарбы), ‘касіць сена’ (навагр., З нар. сл.), ‘сушыць сена’ (свісл., Шатал.). Паводле Мацкевіч і інш. (Балто-слав. этнояз. отнош., 35), супольная балтыйска-славянская інавацыя, параўн. літ. *šienáuti* ‘нарыхтоўваць сена’. Звычайна перадаецца апісальна з дзеясловам ‘рабіць’: *робíць сéно* (ТС), разьян. *dilat sénъ* ‘тс’, параўн. таксама ням. *Heu machen* ‘тс’ і інш.

**Сенажáрнік** ‘месяц ліпень’ (Сцяшк. Сл.). Складанае слова з *сéна* (гл.) і *жáрыць* – тут ‘прыпякаць, смажыць, пражыць’, параўн. разм. *сонца жáрыць* (= пячэ), афармленае суфіксам *-нік*, і тлумачэнне: (“заўс’оды сýшаць і звоз’ац’ с’éно”).

**Сенажáць** ‘травастой; месца, дзе расце трава на сена; луг’, ‘пара касьбы сена’ (ТСБМ, Нас., Ласт., Некр. і Байк., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ), *санажáць* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), *сенóжаць* ‘месца сенакосу, луг’ (ТС), ст.-бел. *сеножать* ‘тс’ (Скарына). Укр. *сіножáть* ‘луг’, палес. *синожáть* ‘час касьбы’, ‘луг’, рус. старое *сеножáть* ‘луг’, старaж.-рус. (1150 г.) *сѣножать* ‘тс’, польск. *sianożeć* ‘тс’, харв. *Senožet* (тапонім), славен. *senožẽt* ‘тс’, ст.-слав. **сеножать** ‘лугавіна’ (ESJSt, 13, 805). Прасл. **senožętь* ‘касьба сена; сенакос; луг, прызначаны для касьбы’. Паводле Слаўскага (SP, 2, 47), архаічнае складанае слова ад **seno* ‘сена’ і *žęti* ‘жаць’. Гл. таксама Сной₁, 562.

**Сенакóс** ‘нарыхтоўка сена і час, калі косяць сена’, ‘луг, прызначаны для касьбы’ (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк., Бяльк., Касп., Сл. ПЗБ), *сенакóс* ‘тс’ (ТС), *сынокóс* ‘тс’ (кам., Жыв. НС). Параўн. укр. *сінокíс* ‘луг, сенажаць’, рус. *сенокóс* ‘сенажаць; нарыхтоўка сена’, польск. *sianokos* ‘нарыхтоўка сена’, харв. *sjenòkos* ‘тс’, *senokȍša* ‘луг’, славен. *senokȍs* ‘касец сена’, макед. *сенокосач* ‘тс’. Адносна новае ўтварэнне, характэрнае для асобных славянскіх моў, паколькі, як сцвярджае Брукнер (259), “w średniowieczu nikt trawy nie kosił, tylko siekł”, параўн. старое славен. *senosȇk* ‘касец’ (Фурлан у Бязлай, 3, 228; гл. *сячы*): ад *сена* і *касіць* (гл.) па мадэлі *сенажаць* (гл.). Бязлай (Eseji, 140) мяркуе пра этнакультурны падзел славянства ў залежнасці ад ужывання аграрных тэрмінаў **požьnь* (гл. *пожня*), **sěnožętь* і **pokosъ* (гл. *пакоша*), **sěnokosъ* у арэальным плане, што патрабуе далейшага вывучэння экспансіі інавацыйных утварэнняў на славянскіх тэрыторыях.



**Сенáт** ‘савет старэйшын, вышэйшы орган дзяржаўнай улады’ (ТСБМ), *сэнáт* ‘тс’ (Некр. і Байк.), *санóт* (Рам. 4). Новае запазычанне з рус. *сенáт* ‘тс’ (Крукоўскі, Уплыў, 81) або з польск. *senat* ‘тс’, якія праз ням. *Senat* з лац. *senātus* ‘савет старэйшын’< *senex* ‘старац’; гл. Фасмер, 3, 601. Ст.-бел. *сенатъ*, *санатъ*, *сэнатъ* з польск. *senat* < лац. *senātus* ‘тс’ (Булыка, Лекс. запазыч., 33).

**Сенáтар** ‘член сената’ (ТСБМ). У сучаснай беларускай мове вядома з 60-х гг. XIX ст. (Гіст. лекс., 238). Магчыма, праз рус. *сенáтор* ‘тс’ або праз польск. *senator* з ням. *Senator* ад лац. *senātus* ‘савет старэйшын’ ад *senex* ‘старац’ (Фасмер, 3, 601). Ст.-бел. *сенатаръ, сонаторъ, сэнаторъ* з ст.-польск. *senator* ад лац. *senātor* (Булыка, Лекс. запазыч., 24).

**Сéначы**, *сёначы* ‘ў гэтую ноч’ (рагач., Сл. ПЗБ), параўн. балг. *сноши*, серб.-харв. *сȉноћ*, славен. *snóči*. Да прасл. **si nokt’i*, спалучэння ўказальнага займенніка **si* ж. р. (гл. *сей*) і **nokt’ь* Р. скл. ад **nokt’ь*, гл. *ноч* (Трубачоў, Проспект, 79). Параўн. утварэнне з адваротным парадкам элементаў **nokt’ьsi* > старaж.-рус. *ночесь* ‘сёння ноччу’ (ЭССЯ, 25, 183–184).

**Сенгагус** (*сенгогусъ*) ‘нейкая хвароба рагатай жывёлы, выкліканая паяданнем павуціны з травой, пасля чаго выяўляецца цячэнне сліны і жывёла перастае прымаць ежу’; для лячэння “бросаютъ кровь и стираютъ дегтем носовые отверстия, языкъ и крестецъ” (навагр., Яшк. Мясц.). Няясна.

**Сéні**, *сéнцы* ‘памяшканне паміж жылой часткай дома і ганкам у вясковых хатах’ (ТСБМ, Касп., Др.-Падб., Сцяшк., Маш., ПСл, ЛА, 4; Тарн., Бес., Сл. ПЗБ), *сéнцы* ‘тс’ (Нас., Шат., Бяльк., Варл.), *сéнкі* ‘тс’ (Нас.), *сенькі* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), дыял. ‘прылазнік’ (шальч., Сл. ПЗБ), ‘частка сушні, дзе мыюць лён’ (Сцяшк.). Укр. *сíни*, рус. *сéни*, *сéнцы* ‘сені’, ст.-рус. *сѣни*, польск. *sień* ‘зала’,

‘пярэдняя’, в.-луж., н.-луж. *seń* ‘сень’, чэш. *síň* ‘пярэдняя, зала’, славац. *sieň* ‘зала’, серб.-харв. *сjȅн* ‘цень’, славен. *sẹ̑nca* ‘тс’, балг. *ся́нка* ‘цень; здань’, макед. *сенка* ‘цень’, ст.-слав. **сѣнь** ‘засень’, ‘памяшканне’. Прасл. **sěnь* ‘цень’, ‘памяшканне’. Далей звязана з укр. *ся́ти, сяя́ти*, рус. *сия́ть* ‘свяціцца’ (Фасмер, 3, 602; Сной$_1$, 561), гл. *ззяць*. Інакш Махэк$_2$ (543), які звязвае з і.-е. коранем **k̑ei-* < **k̑oi-n-*, як і ў слав. **sedlo* (гл. *сяло*), г. зн. ‘селішча, месца знаходжання’, потым ‘вялікі пакой, у якім збіралася вялікая радавая сям’я’. Бліжэйшыя адпаведнікі ў лат. *sajs* ‘цень’, гоц. *skeinan* ‘ззяць, свяціць, блішчэць’, грэч. σκοιός ‘цяністы’, ст.-інд. *chāyā* ‘цень, бляск, адлюстраванне’; гл. Траўтман, 304; Персан, Beitr., 700. Брукнер (489) мяркуе аб сувязі з *цень* і *сцяна*; аналагічна Фурлан (гл. Бязлай, 3, 227), Борысь (546), якія параўноўваюць з літ. *siena* ‘сцяна, мур, мяжа’ ад і.-е. кораня **sej-* ‘звязваць’. Аб праблемах адносін значэнняў ‘цень’ і ‘памяшканне’ гл. падрабязна ESJSt, 13, 805–806 (разглядаюцца як аманімічныя **sěnь*$_1$ ‘цень’ і **sěnь*$_2$ ‘пакой, памяшканне’ ў выніку разыходжання першаснага значэння ‘цень, будан, альтанка і пад.’).

**Се́нцы**. Гл. *сені*.

**Се́паць** ‘тузаць, пацягваць за што-небудзь’ (браг., З нар. сл., Пятк. 2), ‘тузаць, намагацца’, ‘хутка нешта рабіць ці падымаць не пад сілу’ (Нар. Гом.; браг., Нар. словатв.), ‘торгаць’, ‘цяжка дыхаць’, ‘зло, з крыкам размаўляць’ (Ян.), *се́пацца* ‘злавацца’, укр. *сі́пати* ‘тузаць’, рус. дан. *си́пать* ‘цягнуць рыўкамі’, польск. *siepać* ‘торгаць, рваць’, н.-луж. *sepaś* ‘біцца (пра пульс, сэрца)’, серб.-харв. *сепати се, себати се* ‘тузацца’, балг. *се́пвам* ‘палохаць, прымушаць здрыгануцца’, дыял. *се́пам съ* ‘уздрыгваць’, макед. *сепува се* ‘асякацца, раптоўна замаўкаць; слупянець’. Прасл. **sěpati* ‘тузаць, торгаць’, параўноўваюць з літ. *šaipýtis* ‘насміхацца, здзекавацца; крывіць вусны’, што дае падставы разглядаць праславянскі дзеяслоў як ітэратыў з першаснай матывацыяй, захаванай у літ. *šíepti* ‘рабіць грымасы, рухі тварам’, што да і.-е. *k̑eip-* ‘рабіць рухі, моршчыць твар’, з тым жа коранем авест. *saef-* ‘махаць’, ст.-інд. *śipra-* ‘вусы’ (Борысь, Etymologie, 378). Паводле чаргавання вакалізму кораня сюды адносяць польск. *siąpic* ‘імжэць’ (Брукнер, 489), чэш. *sapat se* ‘гвалтоўна нападаць’, славац. *sápat’* ‘торгаць’, славен. *sópsti* ‘пыхцець, цяжка дыхаць’, на аснове якіх выводзіцца прасл. **sap(a)ti*, суадноснае з **sěpati* (Сной у Бязлай, 3, 218),



гл. *сапці*. Магчыма, звязана з *сіпець*, гл. (так Якабсон, IJSLP, 1959, 1–2, 270), параўн. (змяя) *mòcna sièpnìŭszy ŭskoczyła* (Пятк. 2, 50) і *сіпе́ць (сипѣць)* ‘шыпець (пра змяю); злавацца’ (Нас.).

**Се́ра** ‘хімічнае рэчыва жоўтага колеру’, ‘адклады ў вушах’ (ТСБМ), *се́ра, сі́ра* ‘малодзіва’ (рас., Шатал.; Сл. Брэс., Лекс. Палесся), ‘вадкасць, якая з’яўляецца за месяц да цялення’ (Інстр. 3). Укр. *се́ра*, дыял. *сі́ра* ‘сера, sulfur’, дыял. зах. ‘авечае малако’, рус. *се́ра* ‘сера, sulfur’, ‘вушная сера’, паўн. ‘смала дрэў’, ст.-рус. *сѣра* ‘сера’, ‘горная смала’, польск. *siara* ‘малодзіва’, дыял. ‘авечае малако’, *siarka* ‘сера, sulfur’, в.-луж. *syra* ‘малодзіва’, ‘сырое малако’, н.-луж. *sera* ‘малодзіва’, *syrik* ‘сера’, чэш. *síra* ‘сера’, славац. дыял. *šara* ‘малодзіва’, серб.-харв. дыял. *сѐра, сѝра, сjѐра* ‘вада, у якой мылі воўну’, ‘малодзіва, першае малако ў жанчыны’, балг. *ся́ра* ‘сера’, *сêра* ‘малодзіва’, дыял. *се́ра* ‘бруд на воўне’, *се́рей* ‘засохлы пот на воўне’, макед. *сера*, дыял. *сера, серej* ‘малодзіва’, ‘тлушч на авечай воўне’, ст.-слав. **сѣра** ‘сера, нафта’. Зыходзячы з аналізу значэнняў **sěra*, Трубачоў (Этимология–1968, 49) робіць выснову, што першасным значэннем яго было ‘тлушч (на воўне авец)’, адкуль потым развіліся значэнні ‘смала’; значэнне ‘сера, sulfur’ вытворнае ад апошняга або сумесна з ім узыходзяць да значэння ‘тлушч’. Роднаснымі ён лічыць *serum* н. р. ‘сыроватка’, уласна мн. л. н. р. *sera*, якое далей роднаснае грэч. ορός ‘сыроватка’ < **soros*, алб. *hirrë* ‘тс’, ст.-інд. *ksīra* ‘малако’; усе ад і.-е. **ser-* ‘цячы’, параўн. ст.-інд. *sárati* ‘цячэ, спяшаецца’, *saráḥ* ‘вадкі’. Як семантычная паралель да **sěra* прыводзяцца царк.-слав. *текль, точеница* ‘смала’ ад *цячы*. Мартынаў (Этимология–1968, 20–21), Вештарт (Лекс. Палесся, 92) *сера* ў значэнні ‘малодзіва’ таксама параўноўваюць з лац. *serum* ‘сыроватка’, але ўзводзяць яго да мікраполя ‘малако’, супраць чаго Трубачоў (там жа). У ранейшых этымалагічных версіях (гл. Брукнер, 487; Младэнаў, 626) *sera* лічылася роднасным рус. *серый* ‘шэры’, але з прычыны зах.-слав. *š-* (польск. *szary*) гэта параўнанне адвяргаецца. Фасмер (3, 603) мяркуе нават аб запазычанні, а Махэк$_2$ (544) дэфінуе слова як няяснае. У якасці магчымай крыніцы запазычання прыводзіцца куман. *siriš* ‘смала’. Сувязь назвы хімічнага рэчыва з **sěra* ‘малодзіва’ Шарапаткава (St. Etym. Brun., 3, 364) лічыць народнаэтымалагічнай. Агляд версій гл. ESJSt, 13, 806–807.

**Серабро** ‘срэбра’ (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр.), *сірабро́* ‘тс’ (Шымк. Собр.), *сры́бра* ‘тс’ (Ласт.), *сéрабра* ‘тс’ (Касп., Др.-Падб.), *жывóе серабрó* ‘ртуць’ (Шымк. Собр.; Яшк. Мясц.), ст.-бел. *серебро, сребро* (Альтбаўэр), *серебра* (Летапіс Аўрамкі XV ст., гл. Карскі, 1, 248); сюды ж *серэбрáнка* ‘мядзянка’ (брасл., Сл. ПЗБ), *серабрыць ваду* ‘класці сярэбраную манету пры купанні навана-роджанага’ (Нік. Бабы). Параўн. укр. *серебрó, сріблó*, рус. *серебрó*, ст.-рус. *сьребро, серебро*, польск. *srebro*, в.-луж. *slěbro*, н.-луж. *slobro, slabro*, чэш. *stříbro*, славац. *striebro*, серб.-харв. *срéбро*, славен. *srebrō̩*, балг. *сребрó*, макед. *сребро*, ст.-слав. **сьребро, сърєбро**. Прасл. **sьrebro* ‘срэбра’. Слова мае балтыйскія і германскія паралелі, параўн. літ. *sidãbras* ‘серабро’, лат. *sidrabs*, гоц. *silubr*, с.-в.-ням., нов.-в.-ням. *Silber* ‘тс’, якія аднак узыходзяць да розных архетыпаў: усх.-балт. **sudrab-/ *sidarb-*, герм. **silubr-/ *silabr-*, слав. **sirabr-*, у аснове якіх нейкая назва, запазычаная разам з рэаліяй з Усходу. Трубачоў (Этногенез$_2$, 122) прапануе ў якасці зыходнай **śub(h)-riapa* ‘светлая вада’, што атаясамліваецца з тапонімам Σιβριάπα, які Пталемей лакалізуе на Кубані. Махэк$_2$ (587) прапаноўвае сувязь з асір. *sarrupum* ‘тс’; Будзімір (Слав. филология, 2, 1958, 113) узводзіць да анаталійскага архетыпу **subau-ro* ‘бліскучы’. Гл. таксама Мюленбах–Эндзелін, 3, 835; Торп, 441; Фрэнкель, 780 і наст.; Фасмер, 3, 606; Борысь, 573; Сной$_1$, 601. Формы з псеўдапоўнагалоссем у выніку прыпадабнення зыходнага *ь* да наступнага *е* (Векслер, Гіст., 119).

**Серабшчы́на**. Гл. *сярэбшчына*.

**Се́рад**. Гл. *сярод*.

**Серадá** ‘трэці пасля нядзелі дзень тыдня’ (ТСБМ, Шымк. Собр., Байк. і Некр., Бяльк., Сл. ПЗБ). Укр. *середá*, рус. *середá*, *средá*, ст.-рус. *середа*, польск. *środa*, ст.-польск. *śrzoda*, в.-луж. *srjeda*, н.-луж. *srjoda* ‘серада, сярэдзіна’, чэш. *středa*, славац. *streda*, серб. *среда*, харв. *srijéda*, славен. *srē̩da* ‘серада’, *sréda* ‘сярэдзіна’, балг. *средá* ‘сярэдзіна’, *сря́да* ‘серада’, макед. *среда*, ст.-слав. **срѣда** ‘серада, сярэдзіна’. Прасл. **serda* ‘сярэдзіна’. Значэнне ‘сярэдні дзень тыдня’ лічыцца калькай ст.-в.-ням. *mittawëcha* або – аналагічна апошняму – народналац. *media hebdomas*, ст.-італ. *mezzedima*; гл. Міклашыч, 292; Брукнер, 534; Фасмер, 3, 607; Івашына, Веснік БДУ, 1976, 1, 56. Іншыя даследчыкі лічаць магчымым уплыў лаціна-раманскіх назваў; гл., напрыклад, Скок,



RÉS, 5, 14. Прасл. **serda* роднаснае ўсх.-літ. *šerdìs*, В. скл. ж. р. *šérdi* ‘сярэдзіна’, лат. *sir̃de* ‘тс’, грэч. κῆρ (< **kērd*), гоц. *hairtô* ‘сэрца’; Траўтман, 302; Мюленбах–Эндзелін, 3, 819; Торп, 74. Іншая ступень чаргавання: **sьrdь* ‘сэрца’ (гл. *сэрца*). Аб утварэнні слав. асноў на *-а* ад і.-е. нетэматычных асноў, у дадзеным выпадку ад **k̂erd-*, гл. Ткачоў, Этимология–1968, 56 і наст. Гл. яшчэ Борысь, 620; Шустар-Шэўц, 1349–1356; Сной$_1$, 601.

**Серадапóсце** ‘серада на чацвёртым тыдні посту; сярэдзіна вялікага посту’ (Бяльк.), *серадзіць* ‘пасціць па серадах’ (Нас., Некр., Сцяшк. Сл., Янкоўскі, Бел. мова). Магчыма, сюды ж *серадá* ‘скароміна, скаромнае’ і ‘вельмі мала’ (ТС), што звязана з захаваннем ці незахаваннем посту. Параўн. рус. *средопóстье* ‘чацвёрты тыдзень посту’, серб.-харв. *средòпошће* ‘сярэдзіна посту’. Самастойнае (не праславянскае!) утварэнне ад *серада* і *пост* (гл.). Параўн. Фасмер, 3, 607; Скок, 3, 14.

***Серадгóлаўе**, *сэрэдгóлоўе* ‘макаўка галавы, цемя’ (брэсц., ул. інф.). Да *серада* ‘сярэдзіна’ і *галава* (гл.).

**Серадня́** ‘ў поўдзень’ (Сцяшк. Сл.; ашм., Станк.). Відаць, з **сераддня*, што да *серад* (гл. *сярод*) і *дзень* (гл.).

**Серадóльшы** ‘сярэдні па ўзросце сярод братоў і сясцёр’ (ТСБМ, Чач., Байк. і Некр., Сцяшк., Ян., Скарбы, Янк. 1; гродз., лях., гарад., калінк., Сл. ПЗБ, Тур., ЛА, 3), ‘старэйшы з сярэдніх па гадах дзяцей’ (Нас.), *серадýльшы* ‘сярэдні па ўзросце сярод дзяцей’ (Шат.), *серэдóльшы (sieredólszy)* ‘сярэдні (палец)’ (Пятк. 2). Параўн. укр. *середýльший* ‘тс’. Дэрыват з суф. *-ш-* ад прым. *серадольны, серадольні* ‘сярэдні (сын або дачка)’ (Нас., Сцяшк., Нар. Гом.), які ад *сярэдні* або ад асновы *серад-* праз прамежкавую ступень назоўніка з суф. *-ol'a, -ul'a*, параўн. *серадýля* ‘мянушка каровы, якая нарадзілася ў сераду’ (лаг., Сл. ПЗБ); аб суф. гл. Слаўскі, SP, 1, 109–110. Суф. *-ш-*, паводле Карскага (2–3, 43), па паходжанні з'яўляецца суфіксам параўнальнай ступені прыметніка, што адзначана Насовічам. Сам Карскі (2–3, 89) са знакам пытання ўзнаўляе першасную форму *сераддольшы* (< **середьдольший*), што можа быць звязана з *дóля* (гл.).

**Серадсялó**, *серэдселó* ‘цэнтральная частка сяла’ (ТС). Параўн. серб. *срéдсело* ‘месца пасярод сяла, дзе адбываюцца сустрэчы, танцы’, харв. *srȅdselo* ‘тс’, балг. дыял. *сретцéло* ‘тс’, макед. *сретсéло* ‘сярэдзіна сяла; плошча ў цэнтры сяла’. Відаць, незалежнае ўтва-

рэнне на базе спалучэння *сыро́д сяла́* 'пасярод сяла', параўн. *хата була серэд села* (ТС), гл. *сярод* і *сяло*, з якога шляхам субстантывацыі ўзнік назоўнік, структурна ідэнтычны літ. *vidùkaimė* 'сярэдзіна вёскі', параўн. *vidur̃* 'сярод' і *kajmas* 'вёска, сяло'. Гл. Цыхун, БЛ, 5, 50.

**Се́ран** 'шарон, цвёрды слой снегу пасля адлігі' (Нас., Гарэц., Касп.; докш., Гіл., Янк. Мат.), *се́ран, се́рен, се́рана, сяро́н, сяру́н, сераніла, серанок, се́рань* 'тс' (Сл. ПЗБ; віц., маг., гом., ЛА, 2), *се́рън* 'тс' (Нар. сл.), *серано́к* (Бяльк.), *сі́рна* (Шатал.) 'тс'. Укр. *сере́н*, рус. *серён, се́рен, се́рень* 'тс', ст.-рус. *серенъ* 'шарон', *серень* 'белай масці (аб кані)', рус.-ц.-слав. *срѣнъ* 'белы', польск. *szron, śrzon, szron* 'іней, шэрань', чэш. *stříň* 'першы тонкі лёд на вадзе', славац. *srieň* 'іней, шэрань', славен. *srên, srȩnj* 'іней; шарон'. Прасл. **serńъ* або **sernь*. Роднасныя літ. *šer̃kšnas, šer̃kštas* 'светла-шэры', лат. *sērns, sērksnis* м. р., *sȩrsna* ж. р. 'шэрань; іней, галаледзіца; шарон', ст.-ісл. *hjarn* 'замерзлая маса снегу'; гл. Траўтман, 303; Мюленбах–Эндзелін, 3, 722, 820, 831; Торп, 78; Фасмер, 3, 608; Махэк₂, 588. Снойₗ (602) славянскія словы і роднасныя ўзводзіць да і.-е. **k'er-s-no* 'светлы, шэры'. Борысь (607) удакладняе, што слав. **sernъ* – гэта субстантываваны прыметнік **sernъ* 'белы, сіваваты', а дыял. **srenь* – той жа прыметнік, субстантываваны пры дапамозе суф. *-jь* (**sern-jь)*. Выказаную здагадку Гапарова (Балтийские яз., 46) адносна магчымага запазычання рус. *се́рин* 'шарпак' з літоўскай адводзіць Анікін (Опыт, 275), бачачы паміж ім і літ. *šer̃kšnas* толькі генетычную сувязь.

**Серб** 'серб, прадстаўнік народа Сербіі', *сербія́нін* 'тс' (ТСБМ, Некр. і Байк.), *сербія́нка* 'від хуткага танца' (ТСБМ, Мат. Гом.), *сербія́ночка* 'тс' (ТС). Яснай этымалогіі не мае. Прасл. **sьrbi* 'сербы' звязваюць з **sьrbati* (гл. *сёрбаць*), што не пераконвае; грэч. Σερβοι, паводле Трубачова (Этногенез₂, 313), сведчыць пра індаеўрапейскае паходжанне назвы. Гл. Фасмер, 3, 604; Глухак, 573.

**Сербалі́на**, *сурбалі́на, сырбалі́на, сірбалі́на* 'ажыны' (віц., ЛА, 1; Нік. Очерки), *сербалі́н* 'тс', *сірбалі́ніна* 'лазіна ажыны' (Касп.), *сурмалі́на* 'тс' (віц., ЛА, 1), рус. *сорбали́на* 'ажыны', *сербали́на, сирьбяри́на* 'шыпшына', рус. смал. *цербали́н* 'ажыны', укр. *серберина* 'шыпшына, Rosa canina L.'. Традыцыйна звязваюць з літ. *serbentà* 'смародзіна' < літ. *sir̃pti* 'спець (пра ягады)' (Фасмер, 3,



721), збліжэнне з *свярбець* (гл.), на думку Бязлая (Eseji, 135), народнаэтымалагічнае. Насуперак гэтаму Якабсон (IJSLP, 1959, 1–2, 272) узводзіць адпаведныя рускія словы да **s(v)orb-*, **s(v)rъb-* 'свярбець, часаць', а Варбат (Этим. исслед., 7, 7) рэканструюе **svьrborina*, што асабліва адпавядае раздражняльным уласцівасцям насення шыпшыны. Формы ўтвараюць адзіны беларуска-рускі арэал з выхадам на ўкраінскую моўную тэрыторыю. На некаторыя формы паўплывала слова *маліна* (гл.). Да фанетыкі параўн. *сербе́ть* 'свярбець' (Растарг.). Гл. таксама Баброва, ЭИРЯ, 4, 9; ЕСУМ, 5, 216.

**Се́рваць** 'сівераць' (чач., Жыв. НС). Да *се́ўраць* (гл.) з метатэзай.

**Сервіту́т**, *сарвіту́т, сурвіту́т* 'зямля, купленая сялянамі для агульнага карыстання; паша на панскіх угоддзях' (Сл. ПЗБ), *сервіту́т, сербіту́т, сівconfigurationерту́т* 'тс' (Сл. Брэс., ЛА), *серві́тут* 'абмежаванае права карыстацца чужой маёмасцю' (ТСБМ), ст.-бел. *сервитутъ* 'тс' (Ст.-бел. лексікон). З лац. *servitus, servitutis* 'павіннасць', што да *servitium* 'паслуга, служба' < *servīre* 'служыць', *servus* 'слуга'. Магчыма, праз польскае пасрэдніцтва, параўн. *servitut* 'вызначанае права карыстання чужой маёмасцю; права пашы на панскім лузе' (Станкевіч, Лексіка, 118; Варш. сл.).

**Се́рга** 'малодзіва' (паст., Сл. ПЗБ). З *серка* (гл.) з дыялектным азванчэннем *к* → *г*.

**Се́ргі**, *се́рьгі* 'завушніцы' (Бяльк.), *се́ргі, сяро́жкі* 'тс' (ЛА, 4), 'вушкі пад шыяй у свіней' (ТС, Юрч. СНЛ). Ст.-бел. *серьга* 'завушніца' (1517 г.) з ст.-рус. *серьга* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 115). Рус. *серьга́* 'завушніца', 'падвеска, хамуцік і да т. п.', укр. *се́рга* 'завушніца', 'кальцо, якое ўмацоўвае касу на касільне'. Ст.-рус. *серьга* з 1359 г. Запазычанне з ст.-чув. *śürüγ* 'пярсцёнак', чув. *śərə, śorə* 'тс' (гл. Фасмер, 3, 611 з літ-рай) або чагат. *isirγa, ysyrγa* 'вушныя падвескі', караім., кыпч., казах., кірг. *syrγa* 'серга' (Расянен, NM, 56, 52). Гл. таксама ЕСУМ, 5, 216.

**Сердава́ць** 'адчуваць раздражненне, гнеў на каго-небудзь, злавацца' (ТСБМ, Нас., Касп., Байк. і Некр., Раст., Шат.), *сердава́цца* 'тс' (Нас.), *сердова́ць* 'тс' (ТС). Укр. *сердува́ти* 'тс'. Дзеяслоў з суф. *-ова-* ад *се́рдзіць* 'злавацца' (Нас.), што да прасл. **sьrdati (sę)*, параўн. укр. *се́рдити*, рус. *серди́ть*, рус.-ц.-слав. *сръдити*, польск. *sierdzić się*, ст.-чэш. *srditi sě* 'шалець, лютаваць', серб.-харв.

*срдити се*, славен. *srdíti se* ‘злавацца’, балг. *сърдя (се)*, макед. *срди (се)*, ст.-слав. **сръдити сѧ** ‘раздражняцца’. Звязана з *сэрца* (гл.), таму што сэрца ўяўлялі як умяшчальню душы, г. зн. і гневу (Фасмер, 3, 605; Махэк$_2$, 572). Параўн. літ. *šìrdai* мн. л. ‘сварка’ < *širdìs* ‘сэрца’; лат. *sìrdît* ‘раззлавацца’, *sirds* ‘злосць’ і ‘сэрца’ (Фрэнкель, 985). Параўн. таксама серб.-харв. *ср̏чити се* ‘злавацца’, гл. Фурлан у Бязлай, 3, 305. Адваротнае семантычнае развіццё ў ст.-бел. *сердоболь* (Чацця 1489 г.), якое Карскі (2–3, 101) разглядае як складанае слова з коранем *серд-* (гл. *сэрца*) і прыдаткам *боль* (гл. *балець*), параўн. рус. *сердобольный* (Фасмер, 3, 605). Параўн. у Насовіча (Нас., 578) супрацьлеглыя значэнні ў слове *се́рца (се́рце)* – ‘гнеў, злосць’ і ‘прыхільнасць’.

**Се́рка** ‘сера, sulfur’ (Шат., Др.-Падб. Гарэц., Байк. і Некр., Янк. 1, Бес., Мат. Маг.), ‘малодзіва’ (Вешт.), ‘частка запалкі з серай’ (Шат., Мат. Маг.). Гл. *сера*. У гэтай форме, напэўна, таксама як і ўкр. *сі́рка*, акамадацыя польск. *siarka*; аб украінскім слове гл. Трубачоў, Этимология–1968, 38.

**Се́рнік$_1$** ‘запалка’ (ТСБМ; Гарэц., Байк. і Некр., Сцяшк.), *се́рнікі* ‘запалкі’ (ТС, ПСл, Сл. ПЗБ), *се́ркі* ‘тс’ (Касп.), *сернічо́к* ‘запалка’ (Нас.), *се́рніцы* ‘запалкі’ (Сл. ПЗБ), *сярні́чка* ‘запалка’ (Бяльк.), *сірня́кі* ‘тс’ (Бяльк.), *се́рчыкі* ‘тс’ (Сл. ПЗБ). Да *се́рны*, *серка*, *сера* (гл.) з розным суфіксальным афармленнем.

**Сернік$_2$** *(серникъ)*: “серникъ, или черниненькая, надъ деревьями и по полямъ летающая птичка” (Меер Крыч.). Няясна, магчыма, *се́ўка*, *сі́ўка* ‘Charadrius pluvialis L.’ (Ласт.), параўн. укр. *сі́вка* ‘Charadrius morinellus L.’, тады да *серы* ‘шэры’ (гл.), параўн. укр. *сірий кінь* ‘тс’ (ЕСУМ, 5, 256).

**Серп** ‘сельскагаспадарчая прылада для жніва’ (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС). Параўн. укр., рус. *серп*, ст.-рус. *сьрпъ*, серб.-ц.-слав. *сръпъ*, польск. *sierp*, в.-луж., н.-луж. *serp*, чэш., славац. *srp*, серб.-харв. *ср̑п*, славен. *sȓp*, балг. *сърп*, макед. *срп*, ст.-слав. **срьпъ**. Прасл. **sьrpъ*. Паралелі ў іншых і.-е. мовах: лат. *sirpis*, *sìrps* ‘серп’, лац. *sarpiō*, *sarpō* ‘падразаю лазу’, магчыма, таксама ст.-в.-ням. *sarf*, с.-в.-ням. *sarph* ‘востры, грубы, жорсткі’ (Траўтман, 260–261; Мюленбах–Эндзелін, 3, 846; Фасмер, 3, 609–610). Абаеў (ВЯ, 1959, 2, 146) адносіць сюды ж асец. *æxksyrf* ‘серп’. Усё да і.-е. **ser-* ‘рэзаць’ з расшыральнікам *-p-*, аб якім Покарны I, 911–912; спецыяльна аб сувязі прасл. **sьrpъ* з гэтым



коранем гл. Гарачава, Этимология–1982, 54–55. Агляд праблематыкі гл. яшчэ Іванаў, Этимология–1976, 153 і наст. Гл. яшчэ Борысь, 547; Сной$_1$, 602; Глухак, 577.

**Серпакры́жнік** ‘кажан’ (свісл., Шатал.). Да *серп* і асновы *-крыжсыць* ‘рэзаць’, якая ў *чакрыжсыць* (гл.); адсюль, ‘крылы, якія “выразаны” ў форме сярпа’. Параўн. *серпокры́л* ‘чорны стрыж’ (ПСл).

**Серпа́нка**. Гл. *сярпанка*.

**Серпано́к** ‘тонкае палатно’ (Нар. Гом.), *серпаначак (sierpanoczek)* ‘рэдка вытканае палатно на намёткі’ (пін., Кольб.). Гл. *сярпанка*.

**Серпарэ́знік** ‘крываўнік звычайны, Achillea millefolium L.’ (гом., Кіс.; Бейл., Мат. Гом., Ян.; паст., лоеў., Сл. ПЗБ, ТС), ‘трыпутнік ланцэталістны, Plantago lanceolata L.’ (Бейл.), *серпарэ́з* ‘тс’ (Бейл.; барыс., брасл., Сл. ПЗБ), ‘крываўнік’ (ЛА, 1; Мат. Гом., ТС). Укр. *серпорі́з* ‘крываўнік звычайны’, рус. *серпоре́зник* ‘тс’. Ад *серп* і *рэзаць*, як сродак, які спыняе кроў пры парэзах (сярпом), параўн. “... як парэжам палец жнучы, дык добра прыкладаць серпарэзнік” (Сл. ПЗБ). Да семантыкі параўн. і *крыва́ўнік* (гл.).

**Се́рпень** ‘жнівень’ (Нас.; ашм., гарад., Сл. ПЗБ, Бес., Шатал.), сюды ж *се́рпец* ‘тс’ (астр., Сл. ПЗБ), *се́рпій* ‘тс’, *серпаві́ннік* ‘канец ліпеня’ (Сцяшк. Сл.). Укр. *се́рпень*, рус. старое *се́рпень*, стараж.-рус. *сьрпьнь*, польск. *sierpień*, чэш. *srpen* ‘тс’, серб.-харв. *ср̑пањ* ‘ліпень’, серб.-ц.-слав. *сръпьнь* ‘ліпень’, славен. *sȓpan* ‘ліпень, жнівень’, балг. *сърпен* ‘ліпень’. Прасл. **sьrpьnь* ад **sьrpъ*, гл. *серп*, г. зн. месяц сярпа, жніва (Фасмер, 3, 610, Брукнер, 489; Борысь, 547; Сной$_1$, 603). Інакш Махэк$_2$ (572), які супастаўляе з літ. *sirpsti* ‘спець’, таму што збожжа спее ў гэты час, але гэта менш пераканаўча. Аб славянскіх назвах месяцаў гл. яшчэ Шаўр, Этимология–1971, 93 і наст. Беларускае слова з улікам лінгвагеаграфіі можа быць і другасным запазычаннем з польскай; прынамсі аўтары Сл. ПЗБ (4, 415) параўноўваюць з польск. *sierpień*, аднак сведчанні Насовіча (“простолюдины... употребляют древние названия месяцев... Серпень – Август”, Нас., 631) і архаічная семантыка іншых назваў, утвораных ад *серп* – ‘канец ліпеня’, сведчаць пра іх спрадвечнасць.

**Се́рца** ‘сэрца’ (Бяльк., Сл. ПЗБ), *се́рцэ* ‘сэрца’, ‘гнеў’, ‘прыхільнасць’ (Нас.), ‘сэрца’, ‘гнеў’ (Пятк. 2), ‘сэрца’, ‘стрыжань’,

'біла звана' (ТС), ст.-бел. *сердце* 'сэрца' (Альтбаўэр), *серьдце* 'тс' (Скарына; паводле Карскага (1, 256) – "графічнае ъ"), *серцо* 'тс' (Карскі, 1, 172); сюды ж *серцавіна* 'стрыжань, цвёрдая драўніна' (Бяльк., Мат. Гом., брасл., Сл. ПЗБ). На пэўнай частцы моўнай тэрыторыі ўжываецца паралельна з *сэ́рца* (гл.), параўн. *sérce альбо siérce* (Пятк. 2).

**Се́ры₁** 'дугападобная дэталь калаўротка, замацаваная на той жа восі, што і шпуля' (брэсц., Нар. лекс.), 'вілападобная дэталь з металічнымі кручкамі ў калаўроце (для намотвання нітак на шпульку' (гродз., Нар. сл.), *се́ры* 'прылада ў калаўроце, куды ўсаджваюць шпулю' (Сл. рэг. лекс.), *сі́ры* 'тс' (Скарбы), польск. дыял. *śery* 'вілачкі ў калаўроце, у якія ўстаўлены кручочкі з дроту'. Зданцэвіч (LP, 1960, 348) адносіць да літуанізмаў, але без этымону. Лаўчутэ (Балтизмы, 148) адносіць да слоў, балцкае паходжанне якіх недастаткова абгрунтавана. Няясна.

**Се́ры₂** 'шэры' (ЛА, 4). Параўн. укр. *сі́рий*, рус. *се́рый*, ц.-слав. *сѣръ*, стараж.-рус. *сѣрыи*, серб.-харв. *сй̏jер* 'шэры, сівы, палавы', славен. *sér, sȋr* 'тс', балг. дыял. *сер, сяр* 'шэры'. Рэканструкцыя зыходнай формы няпэўная ў сувязі з чаргаваннем *s/š* (гл. *шэры*): **sěrъ/*šěrъ* узводзяць да прыметніка **xěrъ* 'шэры, сівы', ж. р. **xěra*, роднаснага ст.-ісл. *hárr* 'шэры, сівы', англ.-сакс. *hár*, ст.-в.-ням. *hêr* 'паважаны, велічны', с.-в.-ням. *hêr(e)* 'тс', ірл. *ciar* 'цёмны' (< герм. **haira-*), што з няпэўнасцю з-за фанетычных цяжкасцей звязваецца з і.-е. **k̑oi-ro* 'цёмны, шэры, карычневы' (гл. Бязлай, 3, 229; Сной₂, 650; Фасмер, 3, 611). Інакш Махэк₂ (605), які параўноўвае праславянскую форму з гоц. *skeirs* 'ясны, светлы', ст.-ісл. *skīrr* 'тс', што роднасныя **sьjati* (гл. *ззяць*). Агляд версій гл. ESJSt, 13, 803–804.

**Серыкі** 'стрэлкі звычайныя, Capsella bursa pastoris L.' (Кіс.). Няясна. Відаць, паводле колеру (гл. *серы*). Параўн. украінскую назву гэтай жа расліны: *сірикі*.

**Се́сла** 'матня ў штаноў' (Бяльк.), 'верхняя задняя частка штаноў' (Янк. 2), 'трохвугольная ўстаўка, клін (у штанах)' (Ян.), *усе́сла* 'прарэх у споднікаx' (маг., ЛА, 4), параўн. серб.-харв. чарнаг. *sjesla* 'задняя частка штаноў, на якой сядзяць', *usjesla* 'верхняя частка штаноў (без калашын)'. Паводле Борыся (Etymologie, 262–263), познепраславянскі дыялектызм **sěslo < *sěd-slo* 'задняя частка штаноў, на якой сядзяць', што ад **sěsti* (гл. *сесці*), **sědati* або **sěděti* (гл. *сядзець*). Формы з *у- (и-)* другасныя, звязаныя з прыставачнымі дзеясловамі *usjesti*, *усесціся*. У семантычных адносінах параўн. іншую назву гэтай часткі штаноў – *крэсла* (г. зн. на што садзяцца).



**Се́сці** 'апусціцца сагнуўшыся, прысесці', 'асесці', 'выскачыць на скуры (пра скулу і інш.)', 'паменшыцца ад вільгаці, збегчыся (пра тканіны і пад.)' (ТСБМ, Ласт., Стан., Некр. і Байк., Варл., Сл. ПЗБ, ТС), *сесць* 'тс' (Ласт., Касп., Бяльк.), *се́гці* 'тс' (гродз., Сл. ПЗБ), *сёхці* 'тс' (Сцяшк. Сл.), *сехч*, *се́хчы* 'тс' (Сл. ПЗБ, Скарбы). Працяг прасл. **sěsti* (< **sēd-ti*), якое адлюстравана ва укр. *сі́сти*, рус. *сесть*, стараж.-рус. *сѣсти*, польск. *siąść*, чэш. *sěsti*, славац. дыял. *säsť*, *sasci*, серб.-харв. *сjе̏сти*, славен. *sẹ́sti*, балг. *ся́дам*, ст.-слав. **сѣсти**. Роднасныя літ. *seti*, *sė́du* 'сядаць', ст.-прус. *sīdons* 'той, які сядзіць'; гл. Траўтман, 258; Фасмер, 3, 615; Махэк₂, 538; Борысь, 544; Сной₁, 564; ESJSt, 13, 808–809. Далей гл. *садзіць*, *сядзець*.

**Се-сё** 'вось тут' (ТС), ст.-бел. *сесь*, *сесъ* 'гэты' (Альтбаўэр, Ст.-бел. лексікон): *сесь нашъ лист* (Статут 1588 г.). Ад указальнага займенніка *сь* (гл. *сей*), параўн. *нашь сь листъ* (грамата 1478 г.), шляхам падваення ці пашырэння іншымі займеннікамі (Карскі, 2–3, 53), гл. *се*, *сё*. Параўн. рус. *сесь* 'зараз' (Фасмер, 3, 613).

**Се́тань** 'сетка для лоўлі птушак' (Сцяшк.). Да *сетка* (гл.) з іншым суфіксам (*-ань*); адносна суфіксацыі гл. Слаўскі, SP, 1, 132.

**Се́тка** 'прыстасаванне для лоўлі рыбы, птушак і інш.' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Касп., Сцяшк., З нар. сл., Нар. сл., Яшк. Мясц.), 'вязаная жаночая хустка' (Касп.), 'рашотка ў стаяку або пліце, на якую кладуць дровы' (лун., Шатал.), 'чапец каля кішок' (карэліц., Шатал.), *сець* 'сетка' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, ТС, Яшк. Мясц.), *сець*, *сітка*, *сытка*, *сётка* 'палатно для рыбалоўных сетак' (ЛА, 1). Укр, *сіть*, рус. *сеть*, *се́тка*, польск. *sieć*, *siatka*, в.-луж. *syć*, н.-луж. *seś*, чэш. *sít'*, славац. *siet'*, ст.-слав. **сѣть** 'сетка, пятля, сіло'. Прасл. **sětь*. Бліжэйшыя адпаведнікі ў ст.-прус. *saytan* 'рамень', літ. *siẽtos*, *saĩtas* 'прывязь', лат. *saitis*, *saĩte* 'завязка, пута, вяроўка', лац. *saeta* 'тоўсты волас, шчаціна', ст.-в.-ням. *seid* н. р. 'вяроўка, пятля', ст.-інд. *sētár-* 'пута'; Траўтман, 252 і наст.; Мюленбах–Эндзелін, 3, 637, 860; Вальдэ–Гофман, 2, 462; Фасмер, 3, 614–615; Махэк₂, 544; ESJSt, 13, 811.

**Сетно́**, *се́тишчэ* 'палатно з дробнымі вочкамі для рыбалоўных сетак' (Крыв.). Да *сець*, *сетка* (гл.).

**Се́ты** *(сіе́ты)* ‘гэты’: *сіе́ты свіе́т* ‘зямное жыццё’ (беласт., Сл. ПЗБ). Спалучэнне ўказальных займеннікаў **сь* (гл. *сей*) і **ть* (гл. *той*).

**Се́ўка**$_1$ ‘плеценае з лазы і саломы начынне для сяўбы, сявенька’ (Скарбы; беласт., Сл. ПЗБ). Да *сеяць* (гл.).

**Се́ўка**$_2$ ‘птушка Charadrius pluvialis L.’ (Ласт.). Гл. *сіўка, сявец*$_2$.

**Се́ўкаць** ‘гаварыць (злосна)’ (ТС). Няясна, параўн. *сяўрэкаць* ‘тс’, *ся́ўкаць* (гл.).

**Се́ўкі** ‘рэдкі (пра матэрыял)’, *се́ўко* ‘рэдка вытканае палатно’ (шчуч., Нар. лекс.; навагр., З нар. сл.). Да *сеяць* (гл.) з суф. *-к-*; семантычная матывацыя ‘тое, праз што сеюць’.

**Се́ўрук** ‘паўночны вецер’ (Касп.). Гл. *сяўрук*.

**Се́ча** старое ‘бой, бітва’ (ТСБМ, Ласт.), ‘разаніна’ (Некр. і Байк.), ст.-бел. *сѣча: вчинили бой и сѣчу великую* ‘бой ваенных атрадаў, узброеных мячамі’ (Праблемы філал., 135). Ад **sekti*, гл. *сячы*.

**Се́чава** ‘від карыта’ (Касп.). Ад *сячы* (гл.) з суф. *-ава*; г. зн. ‘тое, у чым сякуць’. Аб суф. гл. Сцяцко, Афікс. наз., 34; параўн. наступнае.

**Сечаво́** ‘крэсіва’ (рас., Шатал.; сен., лёзн., рас., ЛА, 4), *січаво́* ‘кусок жалеза для высякання агню’ (Касп.), ст.-бел. *сечиво* ‘сякера’ (Бел.-рус. ізал.); параўн. балг. *сечи́во, сечиво́*, серб.-харв. *сје̏чи̑во* ‘молат’, сюды ж ст.-рус., ц.-слав. *сѣчиво*. Трубачоў (Ремесл. терм., 151) узнаўляе праславянскае **šečivo* ‘тое, чым сякуць, сякера’ ад асновы **sěk-* (гл. *сячы*) з суф. *-ivo*. Беларускае слова, відаць, не працяг праславянскага стану, а самастойнае ўтварэнне ад *сячы* з суф. *-ыва* па тыпу *крэсіва* (гл.) з пераносам націску на канчатак і ўзнаўленнем этымалагічнага *о*. Аб суф. гл. яшчэ Сцяцко, Афікс. наз., 34.

**Се́чань** старое ‘студзень’ (Нас.). Укр. *сíчень*, старое рус. *сечень* ‘студзень’. страраж.-рус. *сѣчьнь* ‘студзень; люты’, чэш. *sečen* ‘ліпень’, славац. *velký sečeń* ‘студзень’, *malý sečeń* ‘люты’, славен. дыял. *sečenj* ‘люты’, серб.-харв. *се̑чањ, сије̑čanj* ‘студзень’, балг. фальк. *голя́м се́чко* ‘студзень’, *ма́лък се́чко* ‘люты’, макед. *сечко* ‘люты’, ст.-слав. **сѣчьнь** ‘люты, студзень’. Прасл. **sěčьnь* да **sěkti*, гл. *сячы*, як перыяд года, найбольш зручны для высечкі лесу з мэтай атрымання дзелавой драўніны (Шаўр, Этимология–1971, 98 і наст.), або для распрацоўкі ўчастка для раллі. Тлумачэнне, што месяц атрымаў назву па марозе, які “сячэ”, лічыцца



народнай этымалогіяй. Назва для ‘ліпеня’ звязана з касьбой (старое **sěkti* ‘зразаць траву’). Меркаванні Сноя (Бязлай, 3, 346) пра сувязі з літ. *síekis, siẽkis* ‘снежань, студзень’ аналагічна літ. *sãusis* ‘студзень, снежань’ пры славен. *súšec* ‘сакавік’ (Снай$_2$, 713) падаюцца недастаткова абгрунтаванымі. Гл. ЕСУМ, 5, 258–259.

**Се́чка**$_1$ ‘рыба Cobitis taenia L.’ (Янк. 3, ТС). Гл. *секаўка*.

**Се́чка**$_2$ ‘рэзаная салома на корм жывёле’ (ТСБМ, Шат., Стан., Сл. ПЗБ, ТС), *се́чанка* ‘тс’ (Нас., Бяльк.). Ад *сячы*, параўн. славен. дыял. *sečka* ‘парэзаная салома, сена’.

**Се́чка**$_3$ ‘страказа’ (горац., ЛА, 1). Няясна; магчыма, пераасэнсаванне *страказа* пад уплывам *стрыкаць* ‘сячы’, гл.

**Се́чка**$_4$ ‘руя ваўкоў’ (ПСл). Відаць, з *це́чка* ‘тс’ (паводле ЛА, 1, разам з *це́ка*, распаўсюджана на поўдні моўнай тэрыторыі), пераасэнсаванага пад уплывам *сячы* ‘грызці’, параўн. *воўк зарэзаў авечку*.

**Се́чка**$_5$ ‘мера сыпкіх рэчываў’: *въ сечкѣ 6 гарнцевъ* (Яшк. Мясц.). Да *сек* (гл.).

**Сею́м** ‘бяседа’ (бяроз., Шатал.). Відавочна, народная перапрацоўка слова *сейм* (гл.). Параўн. *посемова́ты* ‘пагаманіць, параіць’ (там жа). Параўн. таксама рус. алан., арх. *су́йма, суём* ‘сход, людскі сход для размовы аб справах’, якое, паводле Фасмера, 3, 797, ад **sǫ-* і **jьmъ*.

**Се́яць** ‘весці сяўбу’, ‘прасейваць’. Укр. *сíяти*, рус. *се́ять*, польск. *siać*, в.-луж. *syć*, н.-луж. *seś*, чэш. *síti*, славац. *siat’*, серб.-харв. *се̏jati*, славен. *sẹjáti*, балг. *се́я*, макед. *сее*, ст.-слав. **сѣıати, сѣти.** Прасл. **sěti, *sějǫ*. Роднасныя літ. *séti, séju, séjau* ‘сеяць’, лат. *sẽt, sẽju*, лац. *serō* (**sisō*), *sēvī, satum* ‘сеяць’, гоц. *saian*, ст.-в.-ням. *sâen* ‘сеяць’ і г. д.; гл. Траўтман, 253 і наст.; Мюленбах–Эндзелін. 3, 832, 836 і наст.; Фасмер, 3, 615 (з літ-рай); Махэк$_2$, 544. Да і.-е. **sē(i)-* ‘сеяць’. Гл. БЕР, 6, 631; Сной$_1$, 558; Шустар-Шэўц, 1394–1395; Борысь, 543; Глухак, 546; ESJSt, 13, 810.

**Сё́дні** ‘сёння’ (Гарэц., Ласт., Ян., Мат. Гом.), *сёдне* ‘тс’ (Сл. Брэс.), *ся́дні* ‘тс’ (Нас.). Гл. *сёння*; форма без асіміляцыі *д* > *н*.

**Сёй-той** ‘некаторыя (нямногія) людзі’ (ТСБМ). Спалучэнне ўказальных займеннікаў, што ўзыходзяць да **сь* (гл. *сей*) і **ть* (гл. *той*). *Сёй* з *сей* пад уплывам *той*, з якім звычайна спалучаецца ў сказе, у тым ліку і ў самастойным ужыванні (Карскі, 2–3, 342), аналагічна *сёе-тое* ‘нямногае, нешта, некаторыя рэчы’

(ТСБМ), *сёя-тоя* ‘што-небудзь’ (Сл. ПЗБ), параўн. *i siòje, i tòje* (Федар. 4), *сё й то* (ТС), але *сей год, да сего́ дажыўся* (Ян.). Пераход *е* > *ё* тлумачаць уздзеяннем націску (гл. ESSJ SG, 2, 618), параўн. аднак *ні сёго́ ні того́* (ТС).

**Сёкер** ‘сякера, тапор’ (Касп.). З **секера* ‘тс’ (гл. *сякера*) пад уплывам *тапор* (змена ж. р. на м. р., адсячэнне канчатка і пераход *е* > *ё* пад націскам).

**Сёк-сёк-сёк** ‘падзыўныя для кароў’ (тураў., ДАБМ, камент., 895). Няясна. Нагадвае метатэзу падзыўных *кс'о-кс'о-кс'о* (староб., ДАБМ, там жа), якія магчыма супаставіць з польск. дыял. *kse* > *se*, у чым бачаць далёка прасунутую рэдукцыю першапачатковага *k sobie*; гл. Махэк$_2$, 534; параўн. аналагічнае паходжанне ўкр. *соб!* (пры паганянні валоў), гл. Смаль-Стоцкі, Приміт., 31. Не выключана і новае паходжанне, з дзіцячай мовы, параўн. Смаль-Стоцкі, Приміт., 25 і наст. Гл. таксама ЕСУМ, 3, 117 (*ксо́бі*).

**Сёлета** ‘сяголета’ (ТСБМ, Нас., Шат., Гарэц., Яруш., Мядзв., Касп., Бяльк., Сцяшк., Варл., Сл. ПЗБ, ТС, ЛА, 2), *сёлетка* ‘тс’ (Янк. 3), *сёлетні* ‘сяголетні’. Вытворнае ад займ. **sь* ‘гэты’ (гл. *сей*) і Р. скл. *лета* ў значэнні ‘год’. Параўн. рус. *сéгоду* і ўкр. *серíк* ‘тс’; гл. аб рус. слове Фасмер (3, 589). Аб пераходзе *е* > *о* гл. Карскі, 1, 176. Ён жа (2–3, 74) форму *сёлета* тлумачыць як сцягненне спалучэння *сего лета*: *сеόлета* > *сёлета*. Хутчэй непасрэдна са спалучэння **se* (н. р. ад **sь*) і *лéта* з пераносам націску і пераходам *е* ў *ё* (Шымкевіч запісваў яшчэ *сё-лѣта* ‘гэтага году’, гл. Шымк. Собр.). Параўн. энклітычнае ўжыванне **sь* у *лéтась* ‘мінулым летам’ (гл.).

**Сёлетка** ‘цялушка-сяголетак’ (барыс., Сл. ПЗБ; Нас., Касп., Шатал.), *сёлетак, сёлетка* ‘гэтага году (птушка і г. д.)’ (Янк. 3), *сілято́чык* ‘тс’ (Бяльк.), *сёлітнік* ‘сяголетак’ (глыб., Сл. ПЗБ). Суфіксальны дэрыват ад *сёлета* (гл.). Да *сёлета, сёлетні* (гл.).

**Сёма́ка** ‘бёрда, якое разлічана на сем пасмаў асновы’ (ельск., Уладз.). Да *сем* (гл.). Сюды ж і міждыялектныя сінонімы гэтага слова з іншымі суфіксамі: *сему́ха, седьмо́ўка, сéмка, сема́ха, сема́чка.*

**Сёмга** ‘прамысловая рыба сямейства ласасёвых’ (ТСБМ), звычайна *ласо́сь* (Ласт.; гл.). Паводле Крукоўскага (Уплыў, 73), з рус. *сёмга*, якое вядома з 1526 г.; ст.-рус. *семга* (1625 г.). Не мае пэўнай этымалогіі; лічаць запазычаннем з фін. *tonka*, Р. скл.



*tongan* ‘від дробнага ласося’ ці з лац. *salmo* ‘ласось’ або тур. *semek* ‘рыба’. Падрабязна гл. Фасмер (3, 598).

**Сёмісты** ‘ў крапінку, рабы’: *сёміста курыца* (Скарбы), *сíмынисти* ‘рабаціністы’ (пруж., Ск. нар. мовы). Магчыма, да *сéмя* ‘насенне льну’, г. зн. як бы ‘пасыпаная семем’, параўн. укр. дыял. *сіме́ня* ‘рабая курыца’, *семена́стий* ‘у крапінку, пярэсты’, што выводзіцца з *сíм'я* ‘насенне’ (ЕСУМ, 5, 254).

**Сёмуха** ‘свята на пяцідзесяты дзень (праз сем тыдняў) пасля Вялікадня’ (ТСБМ, Шат., Др.-Падб., Байк. і Некр., Сержп. Прымхі; Сл. ПЗБ), ‘пятніца сёмага тыдня пасля Вялікадня, Духаўская пятніца’ (Нас.), *сёміца* ‘тс’ (паст., Сл. ПЗБ), *сёмка* ‘сёмуха’, ‘субота перад Троіцай’ (глыб., Сл. ПЗБ). Да *сёмы* (гл.); параўн. рус. *семи́к, седми́чник* ‘чацвер на сёмым тыдні пасля Вялікадня’ (Праабражэнскі, 2, 224–225; Фасмер, 3, 599). Сюды ж *сёмушка* ‘галінкі дрэў, маладыя дрэўцы, якімі ўпрыгожваюць на Тройцу хату, падворак’, *сёмушнія дзяды́* ‘памінальны дзень праз тыдзень пасля Тройцы’ (Сл. ПЗБ).

**Сёмы** ‘парадкавы лічэбнік да сем’ (ТСБМ, Нас., Ласт., Байк. і Некр.). Укр. *сьо́мий*, рус. *седьмо́й*, дыял. *сёмый, семой*, ст.-рус. *семыи*, ст.-слав. **седмъ**, польск. *śiodmy*, в.-луж. *sedmy*, н.-луж. *sedymy*, чэш. *sedmý*, славац. *siedmy*, серб.-харв. *се̑дми̑*, славен. *sédmi*, балг. *сéдми*, макед. *седми* ‘тс’. Прасл. **sedmъ* з **sebdmъ*, параўн. ст.-прус. *septmas*, ст.-літ. *sẽkmas*, ст.-інд. *saptamás*, лац. *septimus*. Гл. Траўтман, 257; Мюленбах–Эндзелін, 3, 818; Фасмер, 3, 591; БЕР, 6, 584. І.-е. **septm̥ó-* ‘сёмы’, утвораны ад лічэбніка **septm̥* ‘сем’. У праславянскай адбылася асіміляцыя і спрашчэнне групы зычных: **sept*$^{ə}$*mó* > **septmó* > **se(ь)dmъ* > **sedmъ*; гл. Борысь, 549. Ва ўсходнеславянскіх мовах яшчэ *dm* → *m*.

**Сёначы**. Гл. *сеначы.*

**Сёння** ‘сягоння’ (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Шат., Касп., Бяльк., Гарэц., Сцяшк.; смарг., ашм., чэрв., Сл. ПЗБ; ЛА, 2), *сёння, сёнё, сённі* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), *сёні* ‘тс’ (Янк. 1, Жд. 1), *сёнійка* (Гарэц.), *сёнечы* ‘тс’ (Бір. дыс., Сл. ПЗБ), *сёніка, сённіка* ‘тс’ (Сцяшк.), *сёначы* ‘тс’ (Сл. ПЗБ, Сцяшк., Нар. лекс.). Слова ўтварылася ў выніку сцягнення *сягоння* (гл.); гл. Карскі, 2–3, 74; 1, 270: ваўк. *sōni* (Федар. 1) < *śe*$^{h}$*óni*.

**Сёрбаць** ‘гучна есці ці піць’, ‘смаргаць’, ‘сцябаць’ (ТСБМ, Нас., Касп., Варл., Чач., Мядзв., Бес., Нар. лекс.), *сярба́ць* ‘тс’

(Нас., Бяльк.), *сербáць* 'тс' (ТС), *сёрб* 'глыток' (Байк. і Некр., Нас., Нар. лекс.), 'выклічнік ад сёрбаць' (Нас., Янк. 3). Укр. *сьóрбáти*, рус. дыял. *сербáть*, *сёрбаць*, *стербáть*, ст.-рус. *серебати*, польск. *sarbać, sorbać, siorbać*, в.-луж. *srěbać*, н.-луж. *sŕebaś*, чэш. *střebati*, славац. *strebat'*, харв. *srȅbati*, славен. *srẹ́bati*, балг. *сърбам*, макед. *срба*, ст.-слав. **сръбати**. Прасл. **sъrb-/*sъrb-/*serb-*. Бліжэйшыя адпаведнікі: літ. *sur̃bti, srẽbti*, лат. *surbt, strèbt*, лац. *sorbeō, sorbēre* 'сёрбаць', ст.-в.-ням. *sürpfeln* 'тс'; гл. Траўтман, 294; Мюленбах–Эндзелін, 3, 1125; Торп, 445; Брукнер, 481; Махэк$_2$, 585; Фасмер, 3, 604. Сной$_1$ (600) узводзіць да і.-е. базы **ser-bh-* 'смактаць' і сцвярджае роднасць з прасл. **srъkati* 'смактаць, ссаць', параўн. чэш. *srkati*, якое Махэк$_2$ (572) лічыць гукапераймальным. Паводле Глухака (577), абедзве асновы маюць гукапераймальны характар. Борысь (549) прыводзіць апафанічны рад: і.-е. **sr̥b(h)-/*serb(h)-/*sreb(h)-*. Гл. яшчэ Шустар-Шэўц, 1348; ЕСУМ, 5, 493.

**Сёртаць** 'бадзяцца, мазоліць вочы' (полац., Нар. лекс.), 'мітусіцца, снаваць' (дзісн., Яшк. Мясц.), 'прыглядацца, шукаць' (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Паводле Варбат (Этимология–1975, 32 і наст.), да прасл. **sьrtati*, якое ўзнаўляецца на аснове рус. зах. *сёртать* 'хадзіць без справы, бадзяцца', алан. *сéртать* 'чакаць', цвяр. *сертáть* 'пераступаць з нагі на нагу', польск. дыял. *siertać się* 'мітусіцца, кідацца', серб.-харв. *sȑtati* 'ісці, хадзіць, як сляпы, бадзяцца', балг. дыял. *сръ̀та* 'углядацца', макед. *сртам* 'углядацца; чакаць', якія далей да і.-е. кораня **ser-* 'цячы' з *-t-* пашыральнікам. Па-за славянскімі мовамі адпаведнікі ў ст.-інд. *sísarti, sárati* 'цячы, спяшацца, імкнуцца', с.-ірл. *sirid* 'бадзяцца, нападаць, рабаваць', літ. *apsìrti* 'акружваць', лат. *sirt* 'бадзяцца, нападаць, рабаваць' і інш.

**Сёструха** 'сястра (дваюрадная, траюрадная і г. д.')' (Клім.). Да *сёстра* < польск. *siostra* 'сястра'. Параўн. рус. пск. *сестрýха*, *сестрýшка* 'дваюрадная або траюрадная сястра'. Гл. таксама *сястранец*.

**Сёстрык** 'гейка, прыяцелька' (Пятк. 2, Некр.), 'зварот да жанчыны' (ТС). Да *сястрá* з памяншальным суф. *-ік*, пераносам націску і з'яўленнем *ó* пад націскам або ад *сёстра* 'сястра' (Ян.); апошняе ідэнтычнае польск. *siostra* 'тс'.



**Сі** ў песні: *Сі наша дочка – прошу ў госьціну / А сі зозулька – леці ў лішчыну* (пруж., Palaeoslavica, 14, 257). Клімчук (там жа), у запісах якога даюцца тэксты, пакінуў без тлумачэння. Паводле функцыі нагадвае ўмоўны злучнік са значэннем 'калі', параўн. *се$_2$* (гл.); апошні выводзіцца з указальнага *се$_1$* (гл.). Магчыма, форма ж. р. **si* (гл. *сей*).

**-сі**, часціца пры параўнальным злучніку *чым*: *з грецкой мукі лемешка лепей чим-си с аржаной* (Нас.), варыянт *чим-ся* (там жа). Паводле Карскага (2–3, 491), паходзіць з указальнага займенніка **sь* (гл. *сей*). Выказваюцца таксама меркаванні пра паходжанне аналагічных часціц у іншых славянскіх мовах з рэштак аптатыву дзеяслова **es-* 'быць' (ESSJ SG, 2, 607) або з формы Д. скл. зваротнага займенніка **sę* (Сабалеўскі, Slavia, 8, 485 і інш.), аднак для канкрэтных выпадкаў цяжка прыняць адназначнае рашэнне (агляд і абмеркаванне версій гл. у ESJSt, 13, 814). Варыянтнасць *-сі/-ся* схіляе да думкі пра займеннікавае паходжанне форм. Гл. таксама *-ся*.

**Сí-і-і** 'выгук, якім спыняюць вала ці каня' (Варл.). Няясна; параўн. укр. *сі, сі-ссі* 'выгукі, якімі адганяюць кароў', *сі-сі* 'воклiч, якім падклікаюць ягнят' – таксама няяснага паходжання, гл. ЕСУМ, 5, 249.

***Сібá**, *сыбá* 'няўжо' (Сл. Брэс.), 'хіба' (драг., Ск. нар. мовы). Няясна; фармальна і па значэнні суадносіцца з *хіба* (гл.), пачатак слова пад уплывам займеннікавай асновы **s-* (гл. *сей, сі*). Параўн. *сіхібо* (гл.).

**Сібéль** 'сялява' (асіп., Сл. ПЗБ), 'назва рыбы' (Ян.), *сібель* 'верхаводка, Alburnus alburnus L.' (Жук., Жыв. св.), укр. *сéбéль*, *сúбúль* 'тс', рус. *сéбéль, сúбúль* 'тс'. Выводзіцца з **вьсебѣль*, што да *весь* 'цалкам' (гл.) і *белы*; апошняе пацвярджаецца як навуковай назвай з лац. *alburnus* < *albus* 'белы', так і шматлікімі народнымі назвамі: укр. *бíлúця*, рус. *белóвка*, польск. *biela*, чэш. *bělice*, славац. *belička*, славен. *belíca* і інш., а таксама нова-в.-ням. *Weißfisch*, грэч. ὀλόλευκος τάριχος (літаральна 'цалкам белая рыба'), гл. Фасмер, 3, 587; Каламіец, Рыбы, 25; ЕСУМ, 5, 201. Выказанае меркаванне пра балтыйскае паходжанне назвы (Лекс. балтызмы, 11, 12) непрымальнае па фармальных прычынах (Анікін, Опыт, 274).

**Сібéрны** 'пранізлівы халодны (пра вецер); злы, буяны (аб чалавеку)' (ТСБМ, Шат., Сцяшк., Нік., Жд.$_1$), 'вялікі': *сіберны ма-*

*роз* (Пятк., Сержп. Прымхі, Жд. 2), ‘злосны, дрэнны’ (Жыв. сл.), *сібі́рны* ‘злы, жорсткі’ (Некр., Бяльк., Жд. 1, Скарбы), *сібі́рка* ‘сіберны, халодны вецер’ (Бяльк.), *sibièrny* ‘вылюдак, прыгнятальнік’ (Федар. 4), *sibírnik* ‘бандыт, крымінальнік’ (Варл.). Рус. смал., варонеж. *сибúрный* ‘зверскі, злы’. Калі меркаваць па першым значэнні, то, відавочна, з *сівер* (гл.) пад уплывам *Сібір* у духу народнай этымалогіі.

**Сібі́р** звычайна м. р. ‘край за Уралам’ (Ласт., Стан.), *Сібі́р, Сыбі́р* ‘тс’ (Некр. і Байк.), *Сібі́р, Сібе́р* ‘тс’ (Янк. 1), *сібе́р* ‘пагібельнае месца’ (Шат.). З рус. *Сибúрь*, ад назвы сталіцы ханства ў Прыіртышшы, якую выводзяць ад гунскага этноніма Σάβειροι (Праабражэнскі, 2, 282; Фасмер, 3, 616). Не выключана і польскае пасрэдніцтва, паколькі на карце польскага географа Антонія Віда (1542) паказаны горад Сібір на рацэ Абі (Фралоў, Всесоюзная конф. “Исторические названия – памятники культуры”. М., 1989, 89). Рамстэт (362) узводзіць назву да манг. *Sibir*, калм. *šiwr̥* ‘зараснікі, сырая мясцовасць’, адкуль, у прыватнасці, ідуць назвы: тат. *şibir*, табол.-тат. *Sėbėr*, *Sėvėr* і г. д., што вельмі няпэўна. У аснове назвы этнонімы *сипыр* (варыянты *себер, сыбыр*), *si pyr* (RÉS, 39, 190) – племя, што, згодна з паданнямі сібірскіх татараў, жыло на гэтай тэрыторыі. Усё няпэўна, гл. Анікін, 493–494 (з аглядам версій і літ-ры). Пра спробы звязаць паходжанне назвы з балг. *шубра́к* ‘хмызняк’ гл. Сімяёнаў, БЕ, 28, 50–52; Дурыданаў, Studia Etym. Brun., 3, 69–71.

**Сіваба́віна**, *сіваба́йня* ‘пясчаная неўрадлівая светлага колеру глеба з прымессю чарназёму; падзол’ (стаўбц., Яшк.), *сіваба́віна* ‘тс’ (Жд. 1). Да *сі́вы* (гл.) або *сіве́ць* з ланцужком суфіксаў: *сіве́ць* > *сіваба* (+ суф. *-аба*) > *сівабавы* (+ суф. *-ав-*) > *сівабавіна* (+ суф. *-іна*); *сіваба* > *сівабайня* (+ суф. *-айня*).

**Сівваро́нка** ‘птушка Coracias garrulis L., сіваграк’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Сцяшк., Жыв. св., ЛА, 1), *сіваронка* ‘тс’ (Арх. Федар.), *сівая варонка* ‘тс’ (ЛА, 1), *сіваўро́нка* ‘тс’ (Сцяшк., Нар. лекс.), *сі́ўкаваро́нка* ‘тс’ (Нас., Касп., Нар. лекс., ЛА, 1), *сіва́я варона* ‘тс’ (Сл. ПЗБ, ЛА, 1). Рус. *сивоворо́нка*, дыял. *сúворонок, сиворо́нка*; апошнія ў выніку гаплалогіі з *сивоворон(ок)* (Фасмер, 3, 616). Ад *сі́вы* і *варона*, гл. (Праабражэнскі, 2, 283; Фасмер, там жа). Ніканчук (БЛ, 9, 59) адмаўляе этымалагічную сувязь з *варона* – хутчэй гэта субстытуцыя слова *грак*, гл. наступнае слова.



**Сівагра́к** ‘тое, што і сіваваронка’ (ТСБМ, Нас., Ласт., Байк. і Некр., Гарэц., Дэмб. 1, Меер Крыч., ТС), *сівігра́к* ‘тс’ (Бяльк.), *сівагра́ка* ‘тс’ (маг., ЛА, 1). Укр., рус. *сивогра́к* ‘тс’. Да *сівы* і *грак*, гл. (Праабражэнскі, 2, 283; Фасмер, 3, 616); паводле Ніканчука (БЛ, 9, 59), першая частка складанага слова характарызуе колер апярэння, а другая – вынік збліжэння анаматапеічнага кораня з *грак* (гл.), параўн. *сівадрака, сівакрака* (гл.).

**Сівадра́ка**, *сівадра́ха* ‘птушка сіваваронка’ (ТС, ПСл, ЛП; лельч., мазыр., ЛА, 1), *сіва́дра* ‘тс’ (лельч., ЛА, 1). Гл. *сіваграк, сівакрака* з другой гукапераймальнай часткай, збліжанай з *драць* (гл.).

**Сіва́к**$_1$ ‘неўрадлівая глеба сівога колеру’ (шчуч., дзятл., лід., Сл. ПЗБ), тое ж *сіве́ц* (віл., ганц., докш., Сл. ПЗБ; ст.-дар., Яшк.), *сіву́ха* (воран., Сл. ПЗБ). Апошняе абазначае яшчэ і ‘глей’ (там жа). Да *сівы*, паводле колеру.

**Сіва́к**$_2$ ‘птушка чырвонагаловы нырэц, Aythya ferina L.’ (гарад., Касп.; пін., Фядз.-Доўб.), параўн. рус. ярасл. *сиво́к, сиву́ч* ‘тс’, укр. *сива́к* ‘парода галубоў’, чэш. *sivák* ‘шызы голуб’. Да *сівы* (гл.); найменне па пераважаючым колеры апярэння, параўн. *сі́ўка, сявак* (гл.).

**Сівакра́ка**, *сівакра́к, сівокра́ка* ‘сіваваронка, Coracius garrulis L.’ (Маш., Мат. Гом.), *сівакра́ка, сівакра́ха* ‘тс’ (Ян.). Укр. палес. *сівокра́ка, сівокра́ха* ‘тс’. Ад *сівы* (гл.) і дзеяслова *кракаць* (гл.), што перадае гукаперайманне *кра-кра, кара-кара* і пад., гл. Ніканчук, БЛ, 9, 59. У *-краха* гіпакарыстычны суф. *-х-*.

**Сівапёс** ‘белаватая, вельмі неўрадлівая зямля’ (Юрч. Вытв.). Да *сівы* і *пясок* (гл.), параўн. *сінялёс*, гл.

**Сі́вер** ‘халодны паўночны пранізлівы вецер’ (ТСБМ, Ласт., Касп., Др.-Падб., Байк. і Некр., Сцяшк.; віц., Нар. словатв., Сержп., Ян.), *сі́верка* ‘намаразь’ (Ян.), ‘халодны вецер’ (Пятк. 2), *сі́верны* ‘халодны, сцюдзёны’ (ТСБМ, мін., Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл.), *сі́вярнік* ‘вецер з поўначы’ (Сцяшк. Сл.), *сі́верaць* ‘рабіцца шурпатым, асмуглым, грубець ад ветру, холаду (звычайна пра скуру на твары, руках і пад.)’ (ТСБМ), *сівярэ́ць* ‘халадаць’ (Сцяшк. Сл.). Укр. *сі́вер* ‘холад; халодны пранізлівы вецер’, рус. арх. *сúвер* ‘паўночны вецер’. Тлумачыцца з *север* (*сѣверъ*), дзе *и* з *ѣ* (Фасмер, 3, 616), аб умовах гэтага пераходу гл. Карскі, 1, 216. Параўн. *се́вер* *(siévir)* ‘сухі сцюдзёны вецер’ (Варл.), семантычна больш ранняя форма, гл. ЭССЯ, 8, 192.

**Сіверкі** мн. л. 'цыпкі': *сіверкі ўсыпалі ногу* (Куч.). Ад *сівераць* 'рабіцца шурпатым, трэскацца (пра скуру)', гл. *сівер*.

**Сіве́ц** 'расліна Nardus L.' (ТСБМ, Кіс., Касп., Гарэц., Ласт., Бяльк., Сл. ПЗБ, ЛА, 1). Да *сівы* (гл.), з-за светла-шэрага колеру расліны. Аналагічна *сіве́ц, сіву́ха, сі́ўка* – пра сівых мужчыну ці жанчыну (Барад.).

**Сівізна́**, *сіві́зна* 'сівіна, сівыя валасы' (ТСБМ, Нас., Ласт., Гарэц., Байк. і Некр., Бяльк., Шат., Варл.; ашм., Стан.; даўг., Сл. ПЗБ). Паводле Кохмана (Kontakty, 24), ва ўсходнеславянскія мовы запазычана з польск. *siwizna* 'сіваватасць, сівыя валасы'. Аналагічна адносна рус. *сивизна́* 'тс' гл. Віткоўскі, Słownik, 172.

**Сіві́ць** 'паступова сівець' (Нас.), укр. *сі́вити* 'тс'. Да *сівы* (гл.).

**Сі́вы** 'белы, серабрысты (пра валасы)', 'колеру попелу; шэры' (ТС, Нас., Байк. і Некр., Сержп., ТС, Сл. ПЗБ), *сівы́* 'тс' (ТСБМ, Ласт., ТС, Сл. ПЗБ, Стан.), *сы́вы* 'шэры' (Сл. Брэс.), *сіве́ць* 'станавіцца сівым' (ТСБМ). Укр. *сі́вий*, рус. *си́вый*, ст.-рус. *сивъ*, польск. *siwy*, в.-луж. *sywy*, чэш., славац. *sivý*, серб.-харв. *си̏в*, славен. *sív*, балг. *сив*, макед. *сив* 'шэры, сізы', ст.-слав. **сивъ**. Прасл. **sivъ(jь)* 'сівы, светлы, русы'. Паралелі ў літ. *šývas* 'светла-шэры, сівы', ст.-прус. *sywan* 'шэры', далей у ст.-інд. *śyāváḥ* 'карычневы, цёмна-карычневы', авест. *syāva-*, асец. *sau-* 'чорны' (Траўтман, 306; Майргофер, 3, 384), якія працягваюць і.-е. **k'ī-u̯o* < *і.-е. *k'ī-* 'цёмна-шэры' з суф. *-u̯o* > прасл. *-vъ* (Борысь, 549). БЕР (6, 633–635), Снойі (570–571), як і Покарны (540) узводзяць да і.-е. кораня **k'ei̯-* 'цёмны, сівы'. Фасмер (3, 617) сумняваецца ў сувязі з *сіні* (гл.), якую прапаноўвае Махэк₂ (543, 545), і з *сіяць*, гл.

**Сіг** 'паўночная праснаводная прамысловая рыба сямейства ласасёвых' (ТСБМ), *сіга* 'падуст' (басейн Нёмана, Жукаў). З рус. *сиг*, дзе вядома з 1563 г. (Шмялёў, ВСЯ, 5, 193; Чарных, 2, 160 – з пачатку XVI ст.). Паходжанне рускага слова спрэчнае. Большасць даследчыкаў схіляюцца да запазычання з прыбалтыйска-фінскіх моў, параўн. карэл. *siiga*, вепс. *sīg*, фін. *siika*, эст. *siig*, Р. скл. *siia* 'сіг і розныя яго падвіды' (Фасмер, 3, 617; Анікін, 494; Каламіец, Рыбы, 117–118; Папоў, Из истории, 72).

**Сіга́ла** 'вялікая вязка рыбы' (Сцяшк. Сл.). Магчыма, да *сігаць* (гл.) па тыпу *нізала* < *нізаць*, што, відаць, перадае перыядычнасць рухаў, параўн. *сцябаць* (гл.).



**Сіга́ць** 'скакаць', 'бегчы, шпарка ісці шырокімі крокамі' (ТСБМ, Нас., Бяльк., Др.-Падб., Гарэц., Байк. і Некр., Сцяшк., Жд. 1, Нар. сл., ЛА, 2), 'імкнуцца, жадаць, дамагацца' (Варл.), *сігну́ць* 'ступіць' (Нас.; карэліц., Сл. ПЗБ), *сіг* 'крок, скок' (Нас., Бяльк., Гарэц., Др.-Падб., Байк. і Некр.). Рус. *сига́ть* 'скакаць', *сиг* 'скок'. Брукнер (490) адносіць сюды ж і польск. дыял. (у XVI ст. запісана як мазавецкае) *sigać* 'кідаць', а таксама ц.-слав. *сиг* 'костка для гульні' і серб.-харв. *си̏га* 'stalactites'. Апошнія два прыклады няпэўныя, у іншых крыніцах не згадваюцца. Бліжэйшыя паралелі бачаць у ст.-інд. *śīghráḥ* 'хуткі, скоры', ст.-англ. *hígian* 'спяшыць, напружвацца, імкнуцца'; гл. Сольмсен, KZ, 38, 143; Майргофер, 3, 348. Іншая версія – ад **sęgati* (гл. *сягаць*) з другасным *-і-*, як гэта мяркуе Праабражэнскі (2, 248), менш верагодная, аднак для некаторых значэнняў тыпу лаг. *sihać* 'дамагацца' цалкам дапушчальная. Думку Расянена (FUF, 29, 198) аб запазычанні з чув. *sik-* 'скакаць', тур. *säkmäk* 'тс' Фасмер (3, 618) адвяргае з прычыны наяўнасці слова ў беларускай мове. Меркаванні Дабрадомава (Бел.-рус. ізал., 39) пра рускае і беларускае слова як булгарызм не пераконваюць.

**Сіге́нь** 'скок, крок' (Бяльк.), *сіге́нь, сяге́нь, сігаве́нь* 'крок, паласа шырынёй у адзін крок' (Яшк.), 'вялікі крок' (віц., Рам. 8). Да папярэдняга.

**Сігна́л** 'умоўны знак' (ТСБМ), *сыгна́л* 'тс' (Ласт., Некр. і Байк.). Новае запазычанне з рус. *сігнал* 'тс' ці польск. *sygnał*, што праз франц. *signal* або ням. *Signal* з сяр.-лац. *signāle* (< лац. *signum* 'знак, сігнал'), гл. Фасмер, 3, 618; Брукнер, 528.

**Сігнатурка** 'малы звон у касцёле, царкве' (Я. Брыль). З польск. *sygnaturka* 'званок' ад лац. *signāre* 'адзначаць' < *signum* 'знак'.

**Сі́дар** 'мяшок', 'абед, які бяруць з сабой' (Мат. Гом.), 'заплечны мяшок або наогул усё тое, што вязеш з сабой' (Ян.), 'вялікая сумка, з якой арыштант вандруе па этапах' (Наша Ніва, 1996, 2 верас.), *сідор* 'клунак з ядою' (Куч.). Паводле Барташэвіча (Rozprawy Slawistyczne, 1993, 7, 63 і наст.), рус. *си́дор* 'мяшок' ад уласнага імя *Сидор* < *Исидор*, параўн. больш матываванае ўкр. аргат. *мі́хась*, *міха́лок* 'мех, мяшок'. Збліжэнне з уласным імем другаснае; з ідыш *seder* 'святочная ежа, якую ў першыя дзве ночы Пасхі (пэйсаха) бяруць з сабой', што з с.-гебр. *seder* 'парадак', параўн. Штэрн, Wörterbuch, 206. Рускае слова, хутчэй за ўсё, з беларускага *сідар* ці ўкраінскага *сідор*.

**Сі́дка** ‘гонка, выганка’ (быx., Яшк. Мясц.: *сидка смолы и дегтю*). Няясна. Магчыма, да *сядзе́ць* (гл.), што звязана з доўгім працэсам выганкі, тады з рус. *си́дка* ‘сядзенне’, паколькі зыходная форма з пачатковым *сі-*, параўн. рус. *сидеть*, нехарактэрна для беларускай мовы.

**Сі́длі** ‘сеці для лоўлі птушак’ (Сцяшк. Сл.). З польск. *sidło* ‘пастка, сетка’, гл. *сіло*.

**Сік**, *сі́ка* ‘лічынкі дняпроўскай міногі’ (Яшкін, З жыцця; Інстр. 2), *сі́ка* ‘назва рыбы’: *сіка вузкая, вона маленькая і зверху ходзіць* (ПСл), *сік* зборн. ‘лічынкі ўюноў’ (круп., Сл. ПЗБ), *сік, сіква, сікаўка* ‘лічынка міногі’ (Жук.). Відавочна, ад *сікаць* (гл.). Матывацыю гл. *сікла*. Назва перанесена на назву лічынак міногі, таму што рыбы сямейства ўюноў (Cobitidae) часта рыюць сабе норкі ў муле, дзе жывуць сумесна з лічынкамі міногі (Сабанееў, Жизнь, 506). Параўн. Каламіец, Рыбы, 38 (ад дзеяслова *сікаць* ‘сычаць’).

**Сік-сік-сік** ‘воклік на авечак’ (ПСл), параўн. укр. дыял. *сі-сі́* ‘выгук, якім падклікаюць ягнят’. Няясна.

**Сікась-на́касць** ‘зігзагам’ (калінк., З нар. сл.). Рус. арл. *си́косьна́кось* ‘крыва (надзець што-небудзь, шыць што-небудзь). Другую частку спалучэнняў Фасмер (3, 23) разглядае як *на* + *косой* (але, магчыма, тут было *на* + *кось*, дзе *кось* ‘уласцівасць касога; адхіл’). Першая частка рыфмоўкі, магчыма, ад *скóса* ‘скрыва’, параўн. рус. *искось* ‘тс’.

**Сікаўка** ‘дзіцячая цацка, маленькая помпа, якая зроблена з ствала крываўніка’ (Шат.), ‘помпа (пажарная)’, ‘шпрыц’ (Др.-Падб., Байк. і Некр.), ‘спрынцоўка’ (Гарэц.), ‘дзіцячая цацка, з якой пырскаюць вадой’ (беласт., Сл. ПЗБ), *сіка́ўка* ‘тс’ (Нас.). Укр. *сікавка* ‘дзіцячая цацка’, ‘помпа (пажарная)’, рус. *сикалка, сика́вица* ‘пырскалка, дзіцячая цацка, зробленая з бузіны, алешнікаў і да т. п.’, ‘помпа’. Да *сікаць* (Праабражэнскі, 2, 284–285; Фасмер, 3, 620).

**Сікацца**. Гл. *сікаць*.

**Сікаць**, *сікацца* ‘мачыцца’ (Нас., Федар. 6), ‘пырскаць вадой з цацкі, якая завецца “сікаўкай” (гл.) (Нас.), *сікі* ‘мача’ (Шат., Стан., Сл. ПЗБ). Укр. *сíкати*, рус. *сúкать*, ‘мачыцца’, польск. *sikać* ‘пырскаць, біць струмянём’, в.-луж. *sykać*, н.-луж. *sykaś*, чэш. дыял. *sikać* ‘крапіць, пырскаць’, *sykat’*, *šykač* ‘пырскаць, мачыцца’, славац. *sykat’* ‘пырскаць; мачыцца’, *sikac, cikat’* ‘мачыцца’, серб.-харв. *сúкати* ‘шыпець, лаяцца’, славен. *síkniti* ‘шыпець, пырскнуць цуркам’, балг. *сúкам* ‘шыпець’. Фасмер (3, 620) ставіць пытанне аб выдзяленні сярод гэтых слоў дзвюх груп: са значэннем ‘пырскаць; мачыцца’ і значэннем ‘шыпець’. Скок (3, 384) серб.-харв. *сúкати* разглядае ізалявана ад заходне- і ўсходнеславянскіх дзеясловаў. Таму, відаць, следам за Махэкам₂ (538), тут трэба выдзеліць усходне- і заходнеславянскія словы са значэннем ‘біць струменем; пырскаць; мачыцца’ і рэканструяваць прасл. **sikati*, што лічыцца ітэратывам ад *сцаць* (гл.). Гл. таксама Борысь, 547 (з уключэннем славенскага дзеяслова). Інакш Праабражэнскі (2, 284 і наст.), які схіляецца да гукапераймальнага ўтварэння.



**Сікла** ‘рыба галец, Nemachilus barbatulus’ (Дэмб. 2, Жук.), ‘галец – уюн Cobitis barbatula’ (Дэмб. 1), ‘лічынка міногі Lampertra mariae Berg.’ (Яшкін, З жыцця; Інстр. 2) *сікóлка, сікоўка* ‘рыба’ (?) (Мат. Гом.). Укр. *сíква* ‘галец’, *сíкля* ‘шчыпоўка’, рус. *сúкла* ‘галец’, ‘шчыпоўка’, польск. *sikawka* ‘шчыпоўка’, чэш., славац. *sekavec, sykavec*, н.-луж. *sykanc, sykawice, sykawka*, серб.-харв. *seka, sjekaća* ‘тс’. Цяжка размежаваць назвы рыб сямейства ўюновых. Махэк₂ (540) лічыць іх усе дэрыватамі ад **sěk-* (гл. *секаўка*); Брукнер (490) – ад **sikati* (гл. *сікаўка*). Але, відаць, тут трэба выдзеліць назвы шчыпоўкі ад **sěk-*, а назвы гальца лічыць вытворнымі ад **sik-* (параўн. іншую назву гэтай рыбы: рус. пaўд. *сциколка*, укр. *(с)цикун*), таму што гальцы пры недахопе кіслароду захватваюць яго ротам і з шумам выпускаюць праз заднюю адтуліну (Сабанееў, Жизнь, 50 і наст.). Параўн. таксама *сіка, сік, сікаўка* (гл.). Лаўчутэ (Балтизмы, 131) лічыць магчымым узвесці гэтую назву да лат. *sîks* ‘маленькі, дробны’, *siklis, sīklins* ‘маленькі лясок’, *sīkuļa, sīkuļe* ‘маленькая, дробная жывёліна’, што з-за шырокай распаўсюджанасці назваў у славянскім свеце не пераконвае, гл. Анікін, Опыт, 276–277. Ён жа мяркуе пра змяшэнне назваў, матываваных каранямі *sik-* ‘мачыцца’ і *sik-/syk-* ‘шыпець’.

**Сікляк** ‘мурашка’ (Інстр. 2), *сіклíўкі, сікля́хі, сікуны́, сікýчкі* ‘малыя рудыя мурашкі’ (чэрв., віл., паст., круп., лудз., Сл. ПЗБ), *сікýшкі* ‘мурашкі’ (Сл. рэг. лекс.), *сікаўка* ‘малая рудая мурашка’: *сікаўка як сікнет ядам* (барыс., Сл. ПЗБ). Ад *сікаць* і асновы прым. *сікл-*, параўн. *сіклíвы* ‘які выдзяляе пякучую вадкасць’ (чэрв., Сл. ПЗБ). Тое ж рус. пск. *сікляха* ‘мурашка’, *сікля́шнік* ‘мурашнік’.

Лаўчутэ (Балтизмы, 131) мяркуе, што разглядаемыя назвы мурашкі таго ж паходжання, што і назва рыбы *сікла* (гл.). Асноўны прызнак, што іх аб'ядноўвае – 'невялікі, дробны' – прадстаўлены лат. *sîks* 'маленькі, дробны'. Аднак шырокае распаўсюджанне назваў мурашак з коранем *сік-* і наяўнасць такой матывацыі ў іх назвах далёка за межамі балтыйскага рэгіёна, параўн. ненец. *javoroptsa* 'мурашка' < *jaw* 'мача' і інш., цалкам адводзіць такую версію іх паходжання, гл. Анікін, Опыт, 277; Трубачоў, Труды, 1, 505–506.

**Сíкман** 'слабы напой' (Барад.). Параўн. польск. *sikacz*, разм. *sikoń* 'віно ці піва дрэннай якасці', што несумненна звязана з *siki*, *sikać* (Варш. сл.), параўн. *сікі* 'мача', гл. *сікаць*. Аднак гэта можа быць другаснае збліжэнне, параўн. у мове ідыш *schicker* 'злёгку падпіты', а таксама ст.-рус. *сике́р*, ст.-польск. *sycera* 'дурманячы напой', укр. *сикер* 'добрая гарэлка', што з лац. *sikera*, грэч. σίχερα з арам. *šikrā* або *szekar* (Брукнер, 528; Фасмер, 3, 620).

**Сіко́рка** 'сініца' (Сцяшк. Сл.). Запазычана з польск. *sikora*, *sikorka* 'тс', паводле Брукнера (490), ад *syku* 'піску', гл. *сыкаць*.

**Сіку́н₁** 'мачавы пузыр' (пін., Дразд., Сл. ПЗБ), 'хто мочыцца пад сябе' (ашм., Стан., Пятк. 2). Укр. палес. *сіку́н* 'тс'. Да *сікаць* (гл.).

**Сіку́н₂** 'братаўка дубраўная, Melampyrum nemorosum L.' (Маш.). Мабыць, да *сікаць* (гл.), таму што насенне расліны мае мешкавідны прыдатак, які падобны на мачавы пузыр. Параўн. папярэдняе.

**Сіку́нчыкі** 'шампіньёны' (маст., Сл. ПЗБ). Мабыць, да *сікаць* (гл.), але семантычны бок няясны.

**Сікура́цыя** 'грашовыя сродкі, атрыманыя за страхоўку маёмасці' (Сцяшк.). Запазычанне з польск. *sekuracyja* 'страхаванне' < *asekuracyja*, якое з лац. *ad* 'да' і *securus* 'трывалы' (Варш. сл.).

**Сікша** 'хто мочыцца пад сябе', 'падлетак' (Федар. 4), 'запальчывы чалавек' (Нас.), 'запальчывая жанчына' (Байк. і Некр.). Паводле Карскага (2–3, 38), утворана пры дапамозе суф. *-ша* ад *сікаць* (гл.). Параўн. таксама рус. пск. *сику́ша*, *сикту́ха* 'сярдзітая сварлівая баба'. Аднак не выключаны ўплыў на семантыку польск. аргат. *siksa* 'дзяўчына-падлетак, смаркачка', 'маладая прастытутка', што выводзіцца з ідыш *szikse*, ням. *Schicks(e)* 'дзяўчына; кабета лёгкіх паводзін' < іўр. *shikse (šigsa)* 'дзяўчына не яўрэйка' (Штэрн, Wörterbuch, 180; Каня, Słownik, 199). Горбач (Арго школярів, 29) падае зыходнае іўр. *šiqcāh* 'тс' для ўкр. аргат. *сікса*.



**Сíла** 'моц, энергія' (ТСБМ, Ласт., Гарэц., Стан.), 'верх, улада' (Нас.), 'моц, змога, дужасць' (Некр. і Байк.), дыял. таксама 'моц', 'мноства' (Байк. і Некр.), 'здароўе', 'праца', 'вялікая колькасць' (Сл. ПЗБ), 'шмат, багата' (ТС, Барад., Мат. Гом.); укр., рус. *си́ла*, польск. *siła*, в.-луж., н.-луж. *syła*, чэш. *síla*, славац. *sila*, серб.-харв. *си̏ла*, славен. *síla*, балг. *си́ла*, макед. *сила*, ст.-слав. **сила**. Прасл. **sila* роднаснае літ. *síela* 'душа, дух', 'пачуцце', ст.-прус. *seilin* В. скл. 'пільнасць', ст.-ісл. *seilask* 'працягвацца, гнуцца, старацца' (Траўтман, 282; Міклашыч, 296; Фасмер, 3, 621). Мур'янаў (Этимология–1980, 50–56) робіць спробу звязаць з слав. **sidlo* 'сіло', ст.-в.-ням. *silo* 'рамень', з другой ступенню аблаўта герм. **saila* > ням. *Seil* 'шнур', якія рэканструююцца з гоц. *insailjan* 'спускаць цяжар (на вяроўках)'. Борысь (548) узводзіць далей да і.-е. **se(i)-* 'напружваць(ца)', паводле Жураўлёва (Язык и миф, 577), 'сеяць', на падставе чаго рэканструюецца і.-е. **sēila* 'сперма'. Гл. яшчэ БЕР, 6, 645; Сной₁, 566; Глухак, 547.

**Сіламо́ц** 'сілком, гвалтам, прымусам' (Гарэц., Ласт.), 'вытрымка, сіла волі' (Сцяшк. Сл.), *сіламо́цццю* 'сілком, прымусам' (Нас., Бяльк., ТС, Нар. лекс., Пятк. 2), *сіломо́ць* 'сілаю' (ТС), *сіламо́цем* 'сілком', 'праз сілу' (Ян., Мат. Гом.), *сіламоцце* 'сіла, насілле' (Нас.). Да *сіла* і *моц* (гл.). Рытарычная фігура з двух аднолькавых па семантыцы слоў, з якіх апошняе лічыцца запазычаным. Параўн. аднак укр. *силомі́ць* 'сілком', для якога ўзнаўляецца зыходнае спалучэнне з *сила* і **(й)міти* 'узяць' (ЕСУМ, 5, 230–231), што на фоне беларускіх слоў падаецца верагодным, параўн. асабліва дзеясловў *сілуме́ць* 'сваволіць' (Сцяшк. Сл.).

**Сíлас** 'сакавіты корм для жывёлы' (ТСБМ), *сіло́с* 'тс', 'мешаніна' (Янк. 3), *сíлас*, *сіло́с* іран. 'вінегрэт' (Сл. рэг. лекс., Сл. Брэс.). Новае запазычанне праз рус. *сило́с* 'тс', дзе з'явілася ў 2-й пал. XIX ст. Крыніцай запазычання з'яўляецца ісп. *silos* 'падземнае глыбокае цёмнае памяшканне', 'яма для захоўвання збожжа', якое ўзыходзіць да грэч. σιρός 'мера аб'ёму', 'яма для захоўвання збожжа'; гл. Трубачоў, Дополн., 3, 622; Караленка, Лексикогр. сб., 3, 1958, 139 і наст.; КЭСРЯ, 409.

**Сíлега**, *сíляга* 'лаза' (лун., ЛА, 4; пін., Сл. ПЗБ), *сíлега* 'лаза з сіняватым налётам на чырвонай кары' (ТС), 'зараснік кошыкавай лазы, Salix viminalis L.' (жытк., стол., тур., Яшк.), *сіле́га* 'тс' (лун., ЛА, 4), *сіляга́* 'лаза' (Мат. Гом.), *сыля́га* 'дробнае і гнут-

кае галлё, лазняк' (пін., Нар. лекс.), *сілéга* 'расшчэпленае хваёвае карэнне, з якога плятуць кашы' (лун., Шатал.), *сілежына* 'адзін куст сілегі' (ТС), *шылега* 'сілега' (стол., Яшк.). Відаць, сюды ж і ст.-бел. *силяжи* 'кізіл' (Ст.-бел. лексікон). Укр. *шелюгá, шелюжúна* 'тс', рус. дыял. (без лакалізацыі) *шелюгá* 'тс', *шелюжина* 'палка, дубец з *шелюги*'. Фасмер (4, 427) параўноўвае яшчэ з рус. астрах. *шелужúна* 'доўгі дубец', рус.-ц.-слав. *шелыга* 'дубец', серб.-ц.-слав. *солыга* 'палка'. Пэўнай этымалогіі няма. Машынскі (Uwagi, 18) лічыў несумненнай сувязь з ст.-ісл. *selja*, ст.-в.-ням. *salaha* 'вярба'. Былі спробы звязваць з ням. *Sahlweide* 'вярба', лац. *salix* 'тс', ірл. *sail*, Р. скл. *sailech* 'тс'. Беларускія формы з пачатковым *сі-* можна было б звязаць, улічваючы функцыю гэтага дрэва, з коранем *сіл-*, які ў *сіло́*, *сіляць* 'нанізваць' і далей з **sei-* 'плясці', г. зн. прыняць першасную форму $^{+}$*сіляга*, дзе *-яга-* суфікс (з *-ęga*), а напісанне з *-ега* лічыць гіперкарэктным, але звязаць гэта з украінскімі і рускімі формамі цяжка. Гл. *шылега*.

**Сілізнá** 'агрэх (пры ворыве, касьбе)' (лудз., Сл. ПЗБ; рас., ЛА, 5). З *цэлізна* (гл.).

**Сілíкнуць** 'сігануць, скокнуць' (Нар. Гом.). Ад гукапераймальнай асновы, параўн. *сількаць* (гл.).

**Сіліпáць** 'прагна есці' (Мат. Маг.), рус. смал. *силипáть* 'піць з прысвістам, сёрбаннем', 'высоўваць язык', 'сцябаць'. Дыялектны варыянт дзеяслова *салупаць* (гл.), параўн. *сылыпáць* 'балбатаць': *сылыпаць языком* (Бяльк.). Анікін (Опыт, 278), дапускаючы старое запазычанне з балт. **salp-*, звязанага з літ. *sulpti* 'лізаць, ссаць' (Мартынаў, Бел.-укр. ізал., 49), усё ж схіляецца да анаматапеічнага паходжання зыходнай формы (Фасмер, 3, 714), гл. таксама Анікін, 495. Аналагічна гл. *селяпаць*. Сувязь з *сіляць* 'чэрпаць' (гл.), хутчэй за ўсё, мае другасны характар.

**Сілітавáць** 'спяшацца' (Касп.). Ад **сіліць* (гл.) < *сіла* з суф. дзеяслова незак. трыв. *-ав-*. Менш верагодна ад *сёлета* (гл.) з дыялектнай фанетыкай, г. зн. 'зрабіць яшчэ ў гэтым годзе'.

**Сіліць** 'прымушаць' (Нас., Кас.), 'адольваць, натужвацца' (Сцяшк. Сл.), *сіліцца* 'тужыцца, напружвацца' (Сл. ПЗБ), сюды ж *сілець* 'дужаць' (Ян.), ст.-бел. *силити* 'прымушаць': *питье жь закону не силать* (Альтбаўэр). Вытворнае ад *сíла* (гл.), параўн. *сілавáць* 'сілком прымушаць рабіць' (Ласт., Ян., ТС).

**Сілíць₁** 'падмацоўваць сілы ежай', *сіліцца* 'падмацоўвацца ежай' (Нас., Шымк. Собр.). Да *сíла* (гл.).



**Сілíць₂** 'душыць', *сíліцца* 'душыцца', 'вешацца' (ТС). Да *сіло́* 'пятля' (гл.), параўн. укр. *силúти* 'завязваць вузлом'; развіццё семантыкі таксама пад уплывам *сіла* (гл.).

**Сілкавáць** 'карміць, падмацоўваць ежай' (ТСБМ, Касп.), *сілкавáцца* 'падмацоўвацца' (Шат., Касп., Др.-Падб., Гарэц., Байк. і Некр., Сцяшк.); 'пабірацца, харчавацца': *сілкавацца ласкавым хлебам* (Сержп. Прымхі). Укр. *силкувáти* 'падмацоўваць', *силкувáтися* 'сіліцца, старацца, узмацняцца' Ад **сілка*, памянш. да *сіла* (гл.); параўн. укр. *сúлка* 'тс', *силкóвий* 'дужы, моцны'.

**Сілкóм** 'сілай; супраць волі, гвалтам' (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Шат., Гарэц., Мал., Бяльк., Янк. 3). Параўн. укр. *силкóм* 'тс', рус. *силкóм* 'тс'. Паводле КЭСРЯ (409), рускае слова ад *силóк* (гл. *сіло*), г. зн. Тв. скл. гэтага назоўніка, якое потым наблізілася да *сіла* (гл.). Аналагічна ўкраінскае і беларускае ўтварэнні. Параўн. *сілóм* 'сілаю' (ТС), серб.-харв. *силом* 'тс', балг. *сúлом* 'тс', якія разглядаюцца як непасрэдныя ўтварэнні ад *сіла (*sila)*, гл. БЕР, 6, 649.

**Сіло́** 'прыстасаванне ў выглядзе петляў для лоўлі птушак і дробных жывёлін' (ТСБМ, Ласт., Шат., Бяльк., Др.-Падб., Байк. і Некр., Варл.; глыб., Сл. ПЗБ), 'прывязка, якой прымацоўваецца біч да цапільна' (карм., ДАБМ, камент., 829), 'вуда' (Байк. і Некр.), 'пастка' (Касп.), *сíллё* 'з паляўнічай тэрміналогіі' (Сержп., Грам., 57), 'сіло' (Бяльк.; мядз., Нар. сл.; Нар. лекс.), *сілóк* 'сіло' (ТСБМ), *сільё* 'тс' (Арх. Федар., Сцяшк. Сл.), *сіліё* 'сіло' (Сл. ПЗБ), *сіло́*, *шыло́* 'тс' (ТС), ст.-бел. *сило*: *силомъ се ѡбесил* (Карскі, 2–3, 445). Укр. *сило́*, *сильцé*, рус. *силó*, *силóк*, *сúлья*, ст.-рус. *сило*, *сильць*, польск. *sidło* 'тс', чэш. *osidlo*, славац. *osídlo* 'пастка', ст.-слав. **сило** 'пятля'. Прасл. **sidlo*, дэрыват з інструментальным суфіксам *-dlo* ад кораня **sei-* 'звязваць', параўн. *сіліць*, *сіляць* (гл.). Роднаснае да *сетка* і *сіт*, гл. (Фасмер, 3, 621; Махэк₂, 418; Праабражэнскі, 2, 286). Паралелі ў літ. *ãtsailė* 'злучальная планка паміж дышлам і воссю', *atseilis* 'жалеза, якое ідзе ад шворана да восі', лат. *saiklis* 'завязка, саламянае перавясла', ст.-в.-ням. *seid* 'вяроўка', ст.-інд. *sinā́ti* 'звязвае' і г. д. (Траўтман, 253; Мюленбах–Эндзелін, 3, 860; Майргофер, 3, 549). Паводле Борыся (544), слова ўтворана ад незахаванага славянскага дзеяслова **siti (< *su-)* з тым жа суфіксам.

**Сілуме́ць** 'сваволіць' (Сцяшк. Сл.). Гл. *сіламоц*.

**Сількаць** 'шморгаць', *сілька́ць* 'біць', 'хутка есці' (Ян.), экспр. 'есці' (Мат. Гом.), *сількану́ць* 'сербануць' (жлоб., Жыв. сл.). Сюды ж варыянт з азванчэннем *сільгану́ць* 'сцебануць' (рагач., Сл. ПЗБ), *сільга́ць* 'сцябаць' (стаўб., Сл. нар. фраз.). Відаць, ад гукапераймання **сіль!*, што перадае ўдар гібкім дубцом ці сёрбанне са свістам. Сувязь з *сіляць* (гл.), хутчэй за ўсё, другасная.

**Сільны** 'дужы, моцны' (Др.-Падб.), 'моцны', 'пранізлівы', 'урадлівы' (чэрв., лід., карэліц., Сл. ПЗБ), *сілный* 'дужы, моцны' (Бяльк.), 'ураджайны' (ТС), *сэ́лны* 'тс' (брэсц., Нар. лекс.), *сільна, сілна, сінна* 'надта, вельмі' (Сл. ПЗБ, ТС, Ян.; калінк., З нар. сл.), параўн. укр. *си́льний*, рус. *си́льный*, польск. *silny*, серб.-харв. *си̑лан* і г. д. Да *сіла* (гл.), у тым ліку 'мноства, вялікая колькасць'.

**Сіля́ўка** 'верхаводка' (ТСБМ). Гл. *сялява*.

**Сіля́ць** 'часта цягнуць сілом або вудаю, вудзіць', 'шмат браць, чэрпаючы' (Нас., Байк. і Некр.), 'есці' (Бяльк.), 'чэрпаць, браць' (Мат. Гом., Пал., Янк.), 'чэрпаць ваду' (паўн.-усх., ЛА, 5), *селя́ць* 'наліваць', *силя́ць* 'чапляць' (Растарг.), 'нанізваць' (Гарэц.; чэрв., Нар. лекс.; Нік., Оч., Варл.), 'удзяваць нітку або шнурок' (Варл.); сюды ж *сіля́ўка* 'нізка рыбы' (лід., ЛА, 1). Укр. *силя́ти* 'нізаць', рус. *силя́ть* (рыбу) 'лавіць сілом, якое прычэпліваецца да доўгай вуды', польск. *usidlić* 'злавіць сілом', чэш. *osidliti* 'сплясці сіло', славац. *zasídlit'* 'перавязаць ніткай'. Да *сіло* (гл.), *сіллё*. Адносна значэння 'чэрпаць' параўн. рус. *заси́лить* 'зачапіць канцом буча за што-небудзь, зачарпнуць'; гл. Праабражэнскі, 2, 286.

**Сімаце́ць** 'мітусіцца': *нешта сімаціць у кустах* (чэрв., Гіл.). Гукапераймальнае, да *шамаце́ць* (гл.)?

**Сі́мвал** 'умоўнае абазначэнне, знак' (ТСБМ), *сы́мвал* 'тс' (Ласт.), *сымбо́ль* 'тс' (Некр. і Байк., Стан.), ст.-бел. *симболъ*, *симболъ* 'тс'. Крыніца запазычання грэч. σύμβολον 'знак', адкуль трапіла рознымі шляхамі: праз ц.-слав. *символъ*, параўн. серб.-ц.-слав. *симъволъ* 'тс', ст.-рус. *символ* (гл. Фасмер, 3, 623) або праз лац. *symbolum*, ст.-польск. *symbol* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 192).

**Сінаго́га** 'яўрэйскі малельны дом' (ТСБМ), *сынаго́га* 'тс' (Ласт.), 'важная асоба' (Байк. і Некр.). Ст.-бел. *синагога* (*синакгогия, сынакгокга*, пал. XVIII ст.) з ст.-польск. *synagoga*, якое з XV ст. праз лац. *synagóga* ад грэч. συναγωγή (Булыка, Лекс. запазыч., 181).



**Сіна́лька** 'ліманад' (мядз., Жд. 2). Няясна.

**Сіндзі-брындзі** 'нешта маленькае, неістотнае, або мудрагелістае': "...дзеці ўсё елі на хаду... палабізуюць якія сіндзі-брындзі да і на двор" (полац., Нар. лекс.). Імітатыўная рыфмоўка. Параўн. польск. *sinda-pinda* 'мятла (у загадцы)', *sinduk-pinduk* 'смецце (у загадцы)' (Варш. сл.), чэш. *zinknouti* 'ударыць', дыял. *(d)zingat*, таксама гукапераймальнае, якое рыфмуецца з *břinknoti* (Махэк$_2$, 716). Не выключана, што другая частка выразу мае сувязь з *брындаць* 'хадзіць, шлёпаць' (гл.), а першая з *сэндзіць* 'плявузгаць' (гл.). Параўн. *шэнды-брэнды* (гл.).

**Сіневаро́ць** 'пралеснік шматгадовы, Mercurialis perennis L.' (гродз., маг., Кіс., Байк. і Некр.). Да *сіні* і *-варочаць*; магчыма таму, што расліна пры сушцы набывае сіні або фіялетавы колер; гл. Нейштадт, Определитель, 371 і наст. Параўн. балг. *син отврат* 'расліна, якая ў вадзе набывае сіні колер' з той жа ўнутранай формай. Рус. *синеворо́т, во́рот сини* 'казялец едкі', якая, паводле Аненкава (290), часта ўжываецца ў чараўніцтве і таму, відаць, ад *приворот* 'нагавор; прыварот, прычароўванне'.

**Сіне́ль** 'шнурок з аксаміцістым ворсам' (ТСБМ), *сена́лька* 'стужка, каснік' (Сцяшк. Сл.). Праз рус. *сине́ль* 'аксамітны махровы шнур' з франц. *chenille* 'тс', што да народналац. *canicula* 'вусень, сабачка' ад *canis* 'сабака' (Фасмер, 3, 624; ЕСУМ, 5, 235).

**Сіне́льнік** 'хто фарбуе або робіць набойкі' (Нас., Гарэц., Касп., Бяльк.), *сіне́льня* 'месца, дзе фарбуюць тканіны, фарбоўня' (Нас., Бяльк., Байк. і Некр.). Да *сіні* (гл.), відаць, як найбольш распаўсюджаны колер пры фарбоўцы.

**Сіне́ц** 'рыба сямейства карпавых' (ТСБМ, Жыв. св.), 'адзін з відаў ляшча' (Жыв. св., Дэмб. 2, ТС). Назва ад "прыкметна сіняватага колеру" (Дэмб., 2, 551). Аналагічна рус. *сине́ц*, укр. *сине́ць*, польск. *siniec*, серб.-харв. *sinjac* 'тс', дыял. *синьц* 'плотка'. Каламіец (Рыбы, 27) рэканструюе прасл. **sinьcь* ад **sinь*, гл. *сіні*.

**Сі́ні** 'колер, сярэдні паміж блакітным і фіялетавым' (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк., Бяльк., Стан., Сл. ПЗБ, ТС), 'цёмны' (Ян.): *сіня хмара* (ТС), 'бесталковы' (шчуч., Сл. ПЗБ), сюды ж *сіні камень* 'купарвас' (Байк. і Некр., Бяльк.), *сіні лён* 'нямочаны лён' (астрав., Сл. ПЗБ). Укр. *си́ній*, рус. *си́ний*, ст.-рус. *синь*, рус.-ц.-слав. *синь* 'сіні колер', польск. *siny*, чэш., славац. *siný*, харв. *sȋnj*, серб. *си̑њи* 'шэраваты, сіні', славен. *sínji* 'шэры, шэраваты, сіняваты', балг., макед. *син*. Махэк$_2$ (543) прасл. форму ўзнаўляе як **sinь*, але

заўважае, што заканчэнне *n-jь* не мае аналогіі ў назвах колераў. Прасл. **sinь*, **sinьjь*. Роднаснае *сіять* і *сівы*, гл. (Фасмер, 3, 624; Скок, 3, 239–249; Брукнер, 492; Сной₁, 568); а таксама літ. *šývas* 'светлай масці', *šẽmas*, *šė̃mas* 'попельнага колеру, шэраваты', ст.-інд. *śyāmáh* 'чорны, цёмнага колеру' і інш., гл. Траўтман, 306; Персан, 32; Майргофер, 3, 383; Ерне, Die slav. Farbenbenennungen, Uppsala, 1954, 81 і наст.; БЕР, 6, 655–663. Мяркуецца, што слова роднаснае таксама ст.-іран. *axsaena*, асец. *æxsīn*, афг. *sīn* 'цёмна-шэры', што было прадстаўлена ў першай частцы скіф. *Axšaina-* у назве Чорнага мора (раней Сіняе мора, грэч. Πόντος 'Ἄξεινος), што можа быць і крыніцай для **sinь* (гл. Абаеў, 1, 220; Глухак, 548; Мартынаў, Язык, 52; Лома, Пракосово, 40). Да і.-е. *ki-* 'цёмна-шэры' з суф. *-*ńь* (Борысь, 548). Параўн. *сівы*. Інакш Сной₁ (568), які звязвае з прасл. **sьjati* 'ззяць' < і.-е. кораня **skei̯-* 'свяціцца, бліщчэць', адкуль першаснае значэнне славянскага слова 'колер ззяючага неба'. Талстыя (Полес. сб., 9) звярнулі ўвагу на палеска-сербска-харвацкую ізасему *сúне реднó* 'суровае палатно' – *сūњ* 'жаўтаваты, попельна-шэры' (акрамя значэнняў 'сіні' і 'чорны'), што дае падставы для рэканструкцыі зыходнага значэння як 'цёмна-шэры, шэры' (Іванова, Зб. Бархудараву, 288).

**Сініца₁** 'пеўчая птушка атрада вераб'іных са стракатым апярэннем' (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк.), 'птушка Parus maior L.' (Меер Крыч., Арх. Федар., Пятк. 2, ЛП, Яшк. Мясц., Янк. 1, Сл. ПЗБ), 'сініца', 'сіваграк' (ТС), ст.-бел. *синица*: *оўпрамъ ꙗко синица* (XVI ст., Карскі, 2–3, 490). Укр. *синúця*, рус. *синúца*, чэш. дыял. *sinice*, серб.-харв. *сúница*, дыял. *сjéница*, балг. *синѝца*, макед. *сеница* 'тс'. У сучаснай польскай мове слова невядома, але Брукнер (491) лічыць, што яно захавалася ў прус. *sineco* 'сініца'. Большасць даследчыкаў (напр. Міклашыч, 295; Праабражэнскі, 2, 287; БЕР, 6, 661–663 і інш.) выводзяць ад *сіні*. Фасмер (3, 625) заўважае, што першапачаткова слова, відаць, абазначала разнавіднасць *Parus caeruleus*, гл. *сінюк*. Інакш Булахоўскі (ИАН ОЛЯ, VII, 2, 113), які лічыць, што птушка была названа па сваім крыку *zifi*; потым назва, паводле народнай этымалогіі, была пераасэнсавана і звязана з *сіні*; гл. таксама Скок, 3, 251; ЕСУМ, 5, 236. Параўн. *сíньдзік* 'сініца'(гл.), а таксама рус. дыял. *зúнька* 'гайка, Parus minor' (Даль), ярасл. *сúнька* 'сініца-маскоўка', што пацвярджае апошнюю версію.



**Сініца₂** 'ягада суніца' (Тур.), 'ягада' (Янк. 2; вілен., Шн. 1). З *суніца* (гл.) пад уплывам *сіні* або з польск. *sinica* 'тс', якое таксама, паводле Варш. сл. (6, 115), з *sunica*.

**Сінíцы** 'буякі' (лід., шчуч., воран., астрав., Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл.; шчуч., гродз., пін., ЛА, 1). Да *сіні*, паводле колеру, параўн. іншую назву *сінія галóвы* (ЛА, 1). Паводле Астрэйкі (АКД, 11), семантычны рэгіяналізм, параўн. літ. дыял. *mèl̃ynė* 'тс' < *mė́lynas* 'сіні', лат. *zilenes* 'буякі' < *zils* 'сіні'.

**Сíнчык** 'сініца' (Ян.), *сíньчык* 'тс' (ПСл), *сінючóк* (навагр., Сл. ПЗБ). Гл. *сініца₁*, *сíньдзік*.

**Сінь** 'малады (малы) шчупак' (ТС, Сл. Брэс.), *сíніца* 'тс' (Сл. Брэс.), *сінюк* (Жд. 1, Дразд.), *сінчýк* 'тс' (Мат. Гом.), *сіня́ўка* 'тс' (ТС, Янк. 2, Сцяшк. Сл.), *сíні*, *сíненькі* 'тс' (ТС). Да *сіні* (гл.), назва паводле цёмнага колеру. Параўн.: "для рыб характэрна… змена лускі на працягу жыцця – ад светлых таноў да больш цёмных" (Усачова, Слав. ихт. терм., 163).

**Сíньдзік** 'сінічка' (Янк. 1), *сíндзік* 'тс' (Янк. БП). Гукаперайманьнае, ад крыку сінічкі *зінь-зінь* або *цінь-цінь*, параўн. *цíнькаць*, *цíнькание сініц* (ТСБМ). Булахоўскі (ИАН ОЛЯ, VII, 2, 113) лічыць, што слав. **sinica* – гэта ўвогуле назва птушкі па яе крыку, якая потым падверглася народна-этымалагічнаму асэнсаванню і была збліжана з *сіні*. Гл. *сініца*.

**Сінь-пóрах** 'самая малая частка, парушынка' (Нас.): *ні сінь пораху* (Сержп. Прык.), сюды ж, відаць, і *сінь-пáхъ* – без значэння ў беларускім слоўніку Шымкевіча (Шымк. Собр.). Першая частка спалучэння можа ідэнтыфікавацца з слав. **sinь* 'чорны' (гл. *сіні*), што захавалася ў фразеалагізме **sine za nogъtetь*, пра якія гл. Талстой, Слав. языкозн. VII, 273–293. Другая частка захоўвае архаічнае значэнне 'пылінка, парушынка', гл. *порах₁*.

**Сíньцеж** 'сена, якое скошана па лёдзе, дрэннай якасці' (Шат.). Відавочна, ад *сіні* 'тс', паводле цёмна-шэрага колеру, з суф. *-еж*; да суфіксацыі гл. Сцяцко, Афікс. наз., 36. Няяснае *-ц-*; параўн. *сіньцюгá* 'верхняя вопратка з фарбаванага сукна' (Нас.) < *сіні* з суф. *-юг(а)*; дзе *-ц-*, магчыма, пад уплывам іншых слоў, параўн. *сіня́ціна* 'палатно сіняга колеру' (Мат. Гом.), 'тс' і 'верхняя вопратка з такога сукна' (Нас., Касп.).

**Сінюга** 'тоўстая кішка каля страўніка, кіндзюк' (Бяльк.). Магчыма, запазычанае з рус. *синюга* 'тс', дзе з'яўляецца тэрмінам

мясаперапрацоўчай прамысловасці; зафіксавана ўжо ў 1852 г. (ССРЛЯ, 13, 843). Відавочна, ад *сіні*, паводле колеру.

**Сінюк** 'сініца' (Янк. Мат., Сцяшк. Сл.), *сінюк сіні* 'Parus caeruleus, сініца' (Ласт.). Да *сіні* (гл.). Параўн. назвы птушак ад таго ж кораня: укр. *синяк* 'дзікі шызы голуб', польск. *siniak* 'від дразда' і інш., гл. *сіняк*$_3$. Гл. таксама Антропаў, Назв. птиц, 355.

**Сінюха** 'лучына з абалоны хвоі' (Шат., Байк. і Некр.), 'драўніна, якая ўтрымлівае мала смалы' (чэрв., Сл. ПЗБ), 'тонкія і вузкія дошчачкі (лучына) для тынкоўкі сцен' (Нар. сл.), *сінючына* 'тс' (Бір. дыс.), *сіняк* 'горшы гатунак драўніны, не прыгодны для вырабу мэблі' (Нар. сл.), *сінюшка* 'лучына пад тынкоўку' (З нар. сл.), *сіні* 'аб пацямнелых дошках' (Ян.), *сініца* 'лучына з пасінелай драўніны' (Мат. Маг.). Да *сіні*, таму што не насычаная смалой абалонка дрэва хутка набывае шэра-попельны колер.

**Сінявод** – нейкая расліна з паралельнымі назвамі *конікі*, *чаравічкі* (віл., Стан.). Параўн. укр. *синьовод* 'рагулькі, Delphinium L.', якое па колеры і форме кветкі зблiжаецца з *синьовод* 'птушка зімародак, Alcedo atthis L.', што да *синій* і *вода* (ЕСУМ, 5, 239). Несумненная сувязь з *сіні* (гл.), спецыфічная форма кветак адлюстравана ў іншых назвах, што могуць нагадваць галаву воднай птушкі.

**Сіняк**$_1$ 'грыб махавік жоўта-буры' (гарад., дзятл., драг., Сл. ПЗБ; Жыв. сл.). Да *сіні* (гл.), паводле колеру, таму што грыб сінее на зломе. Параўн. таксама ўкр. *синяк* 'грыб Agarikus necator', польск. *siniak* 'грыб Boletus Cyanescens' і г. д.

**Сіняк**$_2$ 'лешч, Abramis brama L.' (Жукаў), іншыя назвы – *сіньга*, *сінец* (Жыв. св.), параўн. укр. *синяк* 'верхаводка', *синьга* 'лешч', рус. *синька* 'верхаводка', *синьга* 'лешч'. Да *сіні* (гл.), колер рыб характарызуецца як "синеватый с зеленоватым отливом" (Каламіец, Рыбы, 27). Гл. таксама *сінец*.

**Сіняк**$_3$ 'птушка попаўзень, Sitta europea L.' (ПСл), іншая назва – *сівы дзятлік* (Жыв. св.), параўн. укр. *синяк* 'голуб, Columba oenas L.'. Паводле колеру апярэння, звычайна 'цёмна-шэры', параўн. *сівак*$_2$ (гл.) і колеравую падмену ў *сіваваронка/сіняваронка* 'сіваграк' (ЛА, 1).

**Сіняк**$_4$ 'расліна Succisella Reck.' (Кіс.), сюды ж *сінякве́т*, *сіні цвет* 'расліна Echium vulgare L.' (Кіс.), параўн. укр. *синяк* 'тс', рус. *синяк* 'тс'. Да *сіні* (гл.), што абумоўлена звычайна колерам кветак.



**Сіняк**$_5$ 'сіняя неўрадлівая зямля' (Мат. Гом.), 'балотная глеістая зямля' (Сл. ПЗБ), 'ворная неўрадлівая зямля на нізкім месцы' (Сцяц.). Да *сіні* (гл.), параўн. *сівак*$_1$ (гл.).

**Сіняпёс** 'кіслая, неўвапнаваная глеба' (Сцяшк.), 'белаватая, вельмі неўрадлівая зямля' (Юрч. Вытв.). Складанае слова, першая частка да *сіні* (гл. *сіняк*$_5$) як абазначэнне светла-шэрага колеру, параўн. паралельную назву *сівапёс* (гл.); другая частка да **pěsь* (гл. *пясок*).

**Сіняўка** 'маленькая рыбка' (ПСл), 'агульная назва рыб цёмнага ці стракатага колеру або маючых цёмную спінку, напрыклад, гальяна, Phoxims phoxims L.' (Жук., Жукаў), 'шчупак' (Крыв., Янк. 2), 'быстранка' (Жук., Гіл., Жыв. св.), 'верхаводка' (Жыв. св., Сл. ПЗБ). Відавочна, ад *сіні* (гл.), параўн. *сіня́вы* 'сіняваты' (Нас., Байк. і Некр., Растарг.), сярод значэнняў якога прысутнічае і 'шэрапапялісты'. Але *сіняўка* як назва верхаводкі і падобнай да яе быстранкі можа быць і пераўтварэннем з *селяўкі*, *сіляўкі* (гл. *сялява*) пад уплывам *сіні*. Гл. таксама *сінь* і аднакаранёвыя.

**Сінята́йка** 'невялікая пеўчая птушка сямейства драздовых з яркім апярэннем' (ТСБМ), 'варакушка, Lusciola sulcica' (Байк. і Некр.). Ад *сіні* (гл.) і *шыйка* < *шыя* (гл.) паводле колеру апярэння. Параўн. рус. *синешейка* 'птушка з роду плісак, Motacilla snecica', а таксама *сінагорліца* 'род галубоў' (Ласт.), ст.-бел. *синогордлица* 'галубка' (Ст.-бел. лексікон), магчыма з польск. *sinogardlica*, *sinogarlica* 'птушка з роду галубоў', што да *sini* і *gardło* 'горла' (Варш. сл.; Брукнер, 491).

**Сіпайла** 'той, хто сіпіць, сіплы' (Гарэц., Др.-Падб., Некр. і Байк.). Ад *сіпець* (гл.) з дыялектным экспрэсіўным суфіксам *-айла* (Сцяцко, Афікс. наз., 93 і наст.).

**Сіпак**$_1$, *сіпец* 'пясчаная глеба сівага колеру' (Сцяшк.), параўн. *сіпун* 'сыпун, пясок каля рэчкі' (Бяльк.), *сіпец* 'пясчаная глеба сівага колеру' (Жд. 1), *сіпэц* 'мокры пясок' (Сл. Брэс.), *сіпель* 'неўрадлівая сівая глеба' (Варл.). Да *сіпець* (гл.); параўн. *сіпуга*.

**Сіпак**$_2$ 'грубіян' (Касп.), параўн. укр. *сіпак* 'уедлівы начальнік'. Паводле ЕСУМ (5, 256), апошняе выводзіцца з укр. *сіпати* 'тузаць', што да **sěpati*, роднаснага ст.-інд. *ksipáti* 'кідае', гл. *сепаць*.

**Сіпéць** 'утвараць сіплыя гукі', 'гаварыць сіплым голасам' (ТСБМ, Нас., Др.-Падб.), 'шыпець' (Сл. ПЗБ), 'злавацца, сварыцца' (маладз., Гіл.), 'ціха шапацець (пра дробны дождж)' (гродз., Сл. ПЗБ; гродз., З нар. сл.), 'імжаць' (гродз., лун., мазыр., ЛА, 2), 'рассыпацца, раскісаць (пра снег)' (ТС), *сіпоцéць* 'шумець, пеніцца (аб страве пры закісанні)' (ТС), *сіпáць* 'сіпець' (ТСБМ, Шат., Бір. дыс.), *сіпáты, сíплы, сíпы* 'сіплы' (ТС), *сіпáты* 'макраносы' (калінк., Арх. ГУ), сюды ж назоўнік ст.-бел. *сипанїе* 'шыпенне': *оукусить змїи безъ сипанїа* (Альтбаўэр). Рус. *сипéть* 'сіпець', укр. *осúплий*, ц.-слав. *осипнѫти*, польск. *sipieć*, чэш. *sipěti, sípati* 'сіпець, хрыпець', славац. *sipieť* 'шыпець', харв. *sípiti*, славен. *sípati, sípljem* 'пыхкаць, фыркаць', балг. *осúпвам*, макед. *осипнува* 'сіпнуць'. Гукапераймальнага паходжання; гл. Праабражэнскі, 2, 288; Фасмер, 3, 626. Параўноўваюць з лац. *sībilus* 'свіст', *sībilō, -āre* 'шыпець, свістаць, асвістваць', новаперс. *siflīden* 'свістаць, шчабятаць' (Вальдэ–Гофман, 2, 531 і наст.), з герм. **sip-* 'капаць, цурчэць' (ст.-англ. *sípisn*, англ. *seep*, с.-в.-ням. *sīfen*, гал. *sijpelen* і інш., гл. Глухак, 548). Паралелі ў літ. *šypauti* 'высмейваць, насміхацца', лат. *sīpa* 'бура' Фасмер (там жа) лічыць спрэчнымі.

**Сíпка** 'хвароба горла, хрыпата' (Нас., Сцяшк., Варл., Барад.), *сіпáчка* 'тс' (Нар. словатв.). Да *сіпець* (гл.).

**Сіповіна** 'халодная тарфяная даліна': "людзі называлі гэтую даліну і "жылай", і "сіповінай", і "нетрай"... У гэтым месцы была вечная гразь" (П. Пестрак; Яшк.). Гл. *сіпугá*, параўн. *уздухавіна* (гл.).

**Сіпýга** 'вецер і снег, мяцеліца' (Сцяшк., Нар. сл.; ваўк., Сл. ПЗБ). Параўн. рус. раз., тамб. *сипýга* 'буран нізам, пры сухім марозным ветры, калі снег нясецца пылам са свістам па зямлі'. Да *сіпець* (гл.) з суф. *-уг(а)*.

**Сіпугá** 'зямля, змешаная з глеем' (Жд. 1, Шчарб.), *сіпýга* 'тс' (дзярж., Яшк.). Да *сіпéць* (гл.). Адносна семантыкі параўн. *свішчуга* < *свісцець*.

**Сірамáха** 'воўк-адзіночка', 'сугней' (Ласт., Байк. і Некр.), 'чорны люд' (Arche, 2007, 3). Укр. *сиромáха* 'бядняк, гаротнік', *сирóма* 'тс', рус. паўд. *сиромáха* 'сірата', серб.-харв. *сирóмах* 'сірата, бядняк', славен. *siromák*, балг. *сиромáх*, макед. *сиромашец* 'тс'. Прасл. **siromaxъ*, дэрыват ад *siroma*, параўн. укр. *сирóма* 'сірата; бядняк, гаротнік', якое ад прасл. **sirъ* (гл. *сірата*), з суф. *-хъ*, гл. Слаўскі, SP, 1, 71; Сной$_1$, 569. Беларускае слова падобна на запазычанне з украінскай, асабліва, калі прыняць пад увагу значэнні ўкр. *сіромáнець, сірохмáнець* – эпітэта ваўка. БЕР (6, 697–699) заўважае, што словаўтварэнне застаецца невытлумачальным, а ўкр. *сірохмáнець* не можа служыць паралеллю, паколькі ўтворана ад *сір-* 'шэры'. Параўн. Пацюпа, Arche, 2007, 3, 209.



**Сіратá** 'дзіця або падлетак, які застаўся без аднаго або без абодвух бацькоў' (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк., Бяльк., Стан.), *сіротá* 'тс' (ТС), *сірацíць* 'рабіць сіратою' (Нас., Касп., Стан.), *сірацíна* 'сірата' (Байк. і Некр., Касп., Ласт., Нас.), ст.-бел. *сирота* 'тс'. Укр., рус. *сиротá*, польск. *sierota*, в.-луж., н.-луж. *syrota*, чэш. *sirota*, серб.-харв. *сирóта*, славен. *sirǫ́ta*, балг. *сúрота*, макед. *сирота* 'тс'. Прасл. **sirota* 'сірата' дэрыват ад прым. **sirъ* з суф. *-ota*, першапачаткова nomen abstractum. Гл. Шустар-Шэўц, 1401–1402; БЕР, 6, 700. Кантытуанты прасл. **sirъ* (гл. *сіры*) родныя літ. *šeirỹs* 'удавец', *šeirė̃* 'удава', авест. *saē* 'сіратлівы, асірацелы'; гл. Траўтман, 301; Эндзелін, Слав.-балт. эт., 196; Праабражэнскі, 2, 289; Фасмер, 3, 627; Махэк$_2$, 544. Борысь (546) выводзіць **sirъ* ад і.-е. **kei-* з суф. *-ro*.

**Сірнéга**. Гл. *сярмяга*.

**Сірóп** 'канцэнтраваны раствор соку', 'густы адвар' (ТСБМ), *сырóп* 'тс' (Ласт., Некр. і Байк.). Новае запазычанне, відавочна, праз рус. *сирóп* 'тс' (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 73, 79 і наст.) або праз польск. *syrop* 'тс'. З франц. *sirop* 'патака', якое з італ. *siroppo* ад араб. *šarab* 'напой' (Праабражэнскі, 2, 289; Фасмер, 3, 627; ЕСУМ, 5, 243).

**Сíры** 'ціхі, спакойны' (Сцяшк. Сл.), сюды ж, відаць, *сырны* 'ўбогі (пра хату)' (Нар. Гом.). Параўн. рус. *сúрый*, ст.-рус. *сиръ* 'пакінуты, адзінокі', чэш., славац. *sirý* 'сіратлівы, асірацелы', ст.-слав. сиръ 'тс'. Гл. *сірата*. Да семантыкі параўн. вытворныя серб.-харв. *сиро̑к* 'служка; бедны, няшчасны чалавек', балг. *сирáк* 'бядняк; сірата'.

**Сіры́чка** 'нейкая птушка' (хойн., Мат. Гом.). Няясна; магчыма, з *сíрын* 'невялікая птушка сямейства соў' (ТСБМ), якую Ластоўскі тлумачыць словам *пугáч* і атаясамлівае з рус. *сúрин* 'баечная птушка з жаночай галавой і грудзямі' (Ласт.), што да лац. *Sīrēn(a)* ад грэч. Σειρήν 'міфічная істота, сірэна' без пэўнай этымалогіі.

**Сірэ́на** ‘гукавы сігнал; прыстасаванне для падачы гукавых сігналаў’ (ТСБМ), *сырэ́на* ‘тс’ (Некр. і Байк.). Запазычана з франц. *sirène* ‘тс’, што выводзіцца з лац. *Sīrēn(a)* ‘казачная істота’ < грэч. Σειρήν ‘міфічны персанаж, што сваімі спевамі заманьваў мараходаў’, не выключана сувязь з лац. *sȳrinx* ‘дудка, чараціна’. Беларускае слова трапіла праз рускую і польскую мовы, гл. адпаведна рус. *сирена*, польск. *syrena* (Фасмер, 3, 626; ЕСУМ, 5, 241).

**Сірэ́нь** ‘бэз’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Новае запазычанне з рус. *сире́нь* ‘тс’, якое з ням. дыял. *Sirene*, *Syringe* ‘тс’; апошняе з лац. *syrinx*, *syringa* ‘тс’ ад грэч. σῦριγξ ‘дудка’.

**Сісля** ‘абарваная нітка ў кудзелі’ (свісл., Шатал.). Ад ⁺*свісля* < дыял. формы дзеясл. *звісаць*. Параўн. балг. *сисло́* ‘некалькі вінаградных гронак, якія пакінуты на лозах’ з аналагічным фанетычным змяненнем *св* > *с*; гл. БЕР, 6, 703.

**Сістэ́ма** ‘лад’, ‘сувязь элементаў паміж сабой, размешчаных у пэўным парадку’ (ТСБМ), *сыстэ́ма* ‘тс’ (Ласт., Некр. і Байк., Стан.). Запазычанне з заходнееўрапейскіх моў праз рус. *систе́ма* ‘тс’ ці польск. *systema*, *system* ‘тс’. У значэнні ‘нервовая сістэма’ з’яўляецца ў пачатку XX ст. (Крамко, Гіст. мовы, 2, 146). Франц. *système* з лац. *systēma* ад грэч. σύστημα ‘складанне, укладанне’; гл. Фасмер, 3, 628; Брукнер, 512; ЕСУМ, 5, 244.

**Сісю́лькі** ‘сукараткі (на нітцы)’ (мёрск., Сл. ПЗБ). Няясна. Ад *звісаць*? Суф. *-юльк-*, як у *вісюлькі* ад *вісець*.

**Сіся** дзіц. ‘цыца, цыцка’ (Ласт.), *сісі* дзіц. ‘ссаць цыцку’ (КСП), *сіся́* ў выразе (*ведае, знае*) *курыную сісю дый тую не ўсю* (Барад.), *сíська* ‘сасок’ (Нас., Касп.), ‘грудзі’, ‘сасок’ (Сл. ПЗБ), *сíська*, *сіська́* ‘тс’ (ЛА, 1), а таксама *сісе́тнік* ‘дзіця, якога кормяць грудзьмі’ (Барад.); сюды ж, відаць, ‘матачнік, ячэйка, у якой расце матка’ (палес., Анох.), *сы́ська* ‘тс’ (Сл. Брэс.). Рус. *си́са*, *сися́*, *си́ська* ‘сасок’, балг. *си́са* ‘сасок’, серб.-харв. *сȉса*, славен. *sisa* ‘жаночыя грудзі’. Прасл. **sysa*, аддзеяслоўны дэрыват ад прасл. **sysati* ‘ссаць’, роднаснага *ссаць* (гл.). Фасмер (3, 627) сувязь усх. і паўд.-слав. слоў лічыць няпэўнай і мяркуе аб познім узнікненні слова.

**Сіт** ‘адна- і шматгадовая травяністая расліна сямейства сітавых, Juncus L.’ (ТСБМ, Кіс., Байк. і Некр.), *сіта́* ‘тс’ (брасл., даўг., мёрск., Сл. ПЗБ), ‘чарот, Scirpus lacustris L.’ (Касп.), ‘сярэднеазёрная водмель, якая прыгодна для рыбалоўства і зарасла чаротам, сітняком’ (Яшк.). Рус. *сит*, *сить*, *сита́* ‘чарот і іншыя балотныя расліны’, укр. *сітня́г* ‘від воднай расліны’, зборн. рус.-ц.-слав. *ситникъ* (XI ст.), ст.-польск. *sit* ‘чарот’, польск. *sit*, *sitowie* ‘чарот, сітнік’, каш. *sit* ‘чарот’, в.-луж. *syće*, *sydina*, н.-луж. *syśe*, *syśina*, ст.-чэш. *sit*, *sítí*, славац. *sítina*, серб.-харв. *сит*, *си́та* ‘чарот’, славен. *sȋt*, *sȋta* ‘тс’. Прасл. **sitъ*, **sita* ‘расліны Juncus, Scirpus’ звязана з *сець*, *сіло́* (гл.), ад і.-е. кораня **sei̯-* ‘плясці’, таму што ўсе гэтыя расліны выкарыстоўваюцца для пляцення. Гл. Махэк$_2$, 545; Мяркулава, Очерки, 43 і наст.; Фасмер, 3, 628; SEK, 4, 272. Роднасныя літ. *siẽtas* ‘вяроўка’, *saĩtas* ‘матуз, шнур’, лат. *saĩte* ‘завязка, матузок’, літ. *siẽti* ‘звязваць’, лат. *sìet* ‘тс’; гл. Траўтман, 253; Мюленбах–Эндзелін, 3, 860; 637; Борысь, 549. Наяўнасць вытворных **sitъ*, **sita*, **sitnikъ* (гл. *сітнік*), **setъ*, паводле Мяркулавай (Этим. иссл. 6, 20), сведчыць пра існаванне дзеяслова **siti* ‘плясці’. Меркаванні пра сувязь з *сіта*, *сітавы* (гл. наступнае слова), выказаныя Праабражэнскім (2, 290), знаходзяць падмацаванне ў ст.-ісл. *sef* ‘сітнік’ і ст.-англ. *sife* ‘сіта, рэшата’, ст.-в.-ням. *sib*, нова-в.-ням. *Sieb* ‘тс’.

**Сíта** ‘прылада для прасейвання’ (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Стан., Сл. ПЗБ), *сíто* ‘тс’ (ТС), *сіто́* ‘тс’ (воран., Сл. ПЗБ), *сíтка* ‘сіта’ (Сл. ПЗБ), *сíтко*, *сітко́*, *сітцо́* ‘пчалярская сетка для засцярогі ад пчол’ (Шат., Сцяшк., Скарбы, Мат. Гом., З нар. сл., Сл. ПЗБ). Укр., рус. *си́то*, польск. *sito*, н.-луж. *syto*, чэш. *síto*, славац. *sito*, серб.-харв. *сȉто*, славен. *síto*, балг. *си́то*, макед. *сито* ‘тс’. Прасл. **sito* утворана ад **sěti* (гл. *сеяць*) з суф. *-to*; гл. Слаўскі, SP, 2, 39. Слова мае балтыйскія адпаведнікі, параўн. літ. *sietas* ‘дробнае сіта’, лат. *siẽts* ‘тс’ (Траўтман, 254; Мюленбах–Эндзелін, 3, 836, 861; Міклашыч, 296; Фасмер, 3, 628). Інакш Махэк$_2$ (545), які ўтварае ад дзеяслова **sějati* ‘сеяць’ < **sēi-o-* з першасным значэннем ‘трэсці нечым’. Гл. яшчэ Шустар-Шэўц, 1403; БЕР, 6, 709. Ужо Міклашыч (296) дапускаў сціранне розніцы паміж зыходнымі лексемамі са значэннем ‘сеяць’ і ‘прасяваць’, якія ўспрымаюцца як амонімы, гл. ESJSt, 13, 810.

**Сітава́ты** ‘сітавідны’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Шат., Сцяшк., Варл.), ‘трухлявы’ (ТС), ‘трубчасты (аб косці)’ (астрав., пух., Сл. ПЗБ), *сíтавы* ‘рэдкі, друзлы: *сітавы крам, сітавае палатно, сітавы дуб* (Янк. 2), ‘вынашаны, працерты’ (Нар. сл., Ян.), ‘сітавідны, трухлявы’ (Ян.), *сíцевы* ‘тс’ (ТС). Сюды ж *сітава́* ‘трухлявае дрэва’, *сітаве́ць* ‘трухлець, парахнець’ (Мат. Гом.). Укр. *си́тяви* ‘гні-

лы, трухлявы', *сітави* 'тс', рус. *итóвый* (пра дрэва) 'друзлы, трухлявы'. Відаць, звязана з *сіта* (гл.). Буга (Rinkt. 2, 546) у якасці адпаведніка прыводзіць літ. *sytótas mẽdžias* 'сітавае дрэва'.

**Сітавíк**, *сітнік* 'грыб масляк бычыны, рашэтнік' (віц., гом., Сярж.–Яшк.). Гл. *сітаўкі*.

**Сітавíна** 'пора' (ТСБМ, Байк. і Некр., Варл.), *сітавінка* 'тс' (Некр. і Байк.). Параўн. укр. *ситовúна* 'трухлявасць дрэва', рус. *ситóвина* 'гніль у дрэве'. Да *сітавы*, *сіта* (гл.).

**Сíтаўка** 'невялікая пералётная птушка атрада вераб'іных' (ТСБМ), *сітаўка бéлая* 'птушка Motacilla alba' (Некр. і Байк.), *сітаўка* 'пліска' (Янк. БП), *сітаўка, сытаўка* 'тс' (ЛА, 1), *сытаўка* 'тс' (Сцяшк.), *сытóўка* 'тс' (Сл. ПЗБ), *сітка* 'тс' (Янк. 1; ЛА, 1; ПСл), 'ластаўка-берагавулька' (мазыр., Цыхун, вусн. паведамл.), *сытка* 'пліска' (Пятк. 2; Нар. Гом.; ст.-дар., Нар. сл.; пух., Сл. ПЗБ; ЛА, 1), *сіточка* 'тс' (ТС). Борысь (Etymologię, 131) параўноўвае з укр. *сúтка*, балг. *сúпка* 'пліска; дзяцел, Picus minor' і выказвае меркаванне пра паходжанне ад гукаперайманання. Параўн. яшчэ ўкр. *сúтівка, сúтка, сúточка* 'пліска белая', для якіх ЕСУМ (5, 245) дапускае сувязь з *сúто* (гл. *сіта*), грунтуючыся на славац. *mlynárik* 'тс'. Антропаў (Назв. птиц, 357) прапануе рэканструкцыю прасл. дыял. **sitъka* <**sitъ* 'чарот' (гл. *сіт, сітнік*, адносна якіх гл. Фасмер, 3, 628; Скок, 3, 245) па месцы гнездавання або звычайным біятопе птушак.

**Сíтаўкі** *(ситавки)* 'від грыбоў' (Шымк. Собр.). Відаць, да *сітавы, сіта* (гл.), параўн. *рашэтнік* (гл.).

**Сітквáты** 'неаплоднены (пра яйка)' (воран., Сл. ПЗБ). Няясна.

**Сíтнік** 'расліна сямейства асаковых, што расце пераважна на сырых, балоцістых месцах' (ТСБМ, Мат. Гом., ТС), 'сіт скучаны, Juncus conglomeratus L.' (маг., Кіс.; Бяльк.), 'расліна Juncus campestris L.' (Меер Крыч.), 'чарот або сапсаванае сена' (ПСл), 'рачны або азёрны чарот' (Касп., Нік. Очерки), 'трава' (Бес.), 'сіт' (Расл. св.), *сітнік, сíднік* 'тс' (Сл. ПЗБ), *сітня́к* 'чарот лясны, Scirnus silvaticus L.' (Кіс., Мат. Гом., Байк. і Некр.), 'снапы сухога рагозу' (Пятк. 2). Укр. *сúтник*, рус. *сúтник*, серб.-харв. *ситник* 'расліна Schoenus L.'. Прасл. **sitъnikъ*, вытворнае ад мяркуемага **siti* 'плясці' (Мяркулава, Этим. иссл., 6, 20), гл. *сіт*.



**Сíтніца**$_1$ 'ажына валасістая, Luzula pilosa (L.) Willd.' (маг., Кіс.), 'ажына, Luzula' (Байк. і Некр., Інстр. 2). Да *сіт, сíтнік* (гл.); назва дадзена з прычыны змяшэння з сітнікам (гл. Аненкаў, 200).

**Сíтніца**$_2$ 'хлеб, спечаны з прасеянай мукі; сітны (або белы) хлеб' (ТСБМ, Нас., Шат., Сл. ПЗБ, Ян., Жд. 1, Янк. 2, Варл.), 'сітная мука' (Нар. сл.), *сітнік* 'сітны хлеб' (Касп., Нік. Оч., Мат. Гом., Нар. сл.), *сітня́к* (Сцяшк.), *сітны* (Нас., Др.), *сітны хлеб* (Сл. ПЗБ) 'тс', *сітні* 'пшанічны' (Сцяшк. Сл.). Дэрыват ад *сітны* 'прасеяны праз сіта', якое ад *сіта* (гл.).

**Сітрó** 'фруктовы безалькагольны газіраваны напітак' (ТСБМ). Новае запазычанне з рус. *ситрó* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 79), з'явілася ў перыяд 1920–1930 гг. (Баханькоў, Гіст. лекс., 272). Рус. *ситрó* ўтворана ад франц. *citronnade* 'сітро, ліманад' і звязана з франц. *citron* 'лімон' (гл. Трубачоў, Дополн., 3, 628).

**Сíтца**. Гл. *Сітцо*.

**Сíтцавы** 'паркалёвы' (Бяльк.), *сітцы* 'паркалі' (Касп.), *сíцец* 'паркаль' (Бяльк., Ян., Сцяшк.). Запазычанне з рус. *сúтец, сúтцевый*, якое з нідэр. *sits* 'тс'; апошняе ўзыходзіць да хіндзі *chît, chîn* або бенгалі *chits*, ст.-інд. *citrás* 'стракаты' (Фасмер, 3, 628; Праабражэнскі, 2, 290).

**Сітцó** 'сузор'е Плеяды' (ТСБМ, Шат., Сцяшк.; паст., лях., шальч., узд., Сл. ПЗБ), *сітцы* 'тс' (Касп.), *сітцó* 'сузор'е Дзевы' (Жд. 3), *сíтко* 'тс' (Сержп. Грам.), *сíцечка* 'тс' (гродз., Нар. лекс.) 'тс', *сíтка, сіткó, сíточка, сíтца* 'сузор'е Вялікая Мядзведзіца' (смарг., паст., віл., шчуч., гродз., Сл. ПЗБ; ЛА, 2). Да *сіта* (гл.); сузор'і названыя па скапленні невялікіх зорак, параўн. "...гусценька-гусценька звёзды сідзяць" (Сл. ПЗБ). Паводле Машынскага (Atlas, 1, 3), назвы з такой матывацыяй вядомыя ў Беларусі, Літве, Латвіі, Эстоніі, Фінляндыі і інш. краінах.

**Сíты** *(сiéты)* 'гэты' (беласт., Сл. ПЗБ), *сíтый* 'тс' (кам., Ск. нар. мовы; ЛА, 2): *сíтый чоловéк, сíта хáта, сíтэ дóрыво* (кам., Жыв. сл.), *сытэ* 'гэтае': *сытэ поросá худóе* (кам., Шатал.), *сíтэ, сытэ* 'гэта' (Сл. Брэс.). Спалучэнне ўказальных займеннікаў, што ўзыходзяць да **sь* і **tъ* (гл. *сей, той*): ст.-бел. *сій* 'гэты' сцягнулася ў *сі*, аналагічна *ты/тый* < *тъй, та* <*тáя, тэ* < *тóе* або *тóе* (Карскі, 2–3, 194, 213).

**Сíўка**, *сéўка* 'ржанка' (Ласт.). Гл. *сявец*.

**Сíфка** 'сеяная цыбуля' (Сл. Брэс.). Гіперкарэктнае *сіўка*, **сівка* да дыял. $^{+}$*сíваць* '-сяваць'.

**Сіха́ць**: *мала́нка сіха́е* (лельч., ДАБМ, камент., 899). Гл. *зіха́ць*.

**Сіхібо́** 'магчыма' (беласт., Ніва, 1995, 28 мая), *сіхі́бо* 'мо, можа быць' (Чэрн.), *сыхыба́, сыхы́б* 'хіба' (драг., 3 нар. сл.). Магчыма, спалучэнне ўказальнага займенніка *сі* (гл. *сей*) і злучніка *хіба* (гл. *хіба*). Параўн. *сыба́* (гл.).

**Січава́** 'кавалак сталі для высякання агню' (Касп.), *січаво́* 'крэсіва' (Нар. сл.). Гл. *сечыва*.

**Сіці́ць** 'сыпацца, імжэць (пра дробны дождж)' (Юрч. Вытв.). Параўн. укр. *сити́ти* 'дажджыць, імжэць', рус. *сити́вень* 'дробны дождж, імжа', *си́тник, ситу́ха, ситя́га* 'тс', што, паводле Слаўскага (JP, 36, 73), звязаны з балг. *си́тен* 'дробны': *си́тен дъжд* 'дробны дождж', серб.-харв. *си́тан* 'тс' і выводзяцца ад **sito* (гл. *сіта*). Гл. Трубачоў у Фасмер, 3, 628; ЕСУМ, 5, 245.

**Сія́ць** 'ззяць, зіхацець' (Бяльк., ТС), *с'яць (sjać)* 'тс' (Пятк. 2), ст.-бел. *сьѧти* 'тс' (Альтбаўэр). Гл. *ззяць*.

**Ска́ба** 'рабро' (ТСБМ, Ласт., Варл., Сцяшк.; навагр., Жыв. сл.; Сл. ПЗБ), 'рабро кошыка' (Сл. ПЗБ), *ска́бы* 'рэбры, рэберная частка тушы' (Нас., Касп., Гарэц., Др.-Падб., Байк. і Некр., Шн. 2), *ска́бка* 'раберца' (Шат.), *ска́бкі* 'рэберныя кавалкі' (Шн. 3), *ска́біна* 'рабро' (Нас., Бір. дыс., Янк. Мат.), *ска́б'я* 'тс' (3 нар. сл.), *скабу-ры́на* 'рабро ў свіней, авечак' (гродз., Жыв. сл.). Выключна беларускае. Мяркулава (Этимология–1983, 65) рэканструюе прасл. **skaba*, **skaburina* і ўзводзіць да кораня **skab-* 'драць, часаць, калоць', параўн. літ. *skõbti, skabìu* 'скрэсці, зрываць'. Сюды ж яна адносіць бел. *шкаба* (гл.), польск. *chaby* 'косці, якія тырчаць з-пад скуры' і рус. *скабри́стый* 'моцна зхуднелы'. Польскае слова Слаўскі (SP, 1, 58), аднак, выводзіць ад прасл. **chabъ* 'благі, слабы', а Брукнер (483), разглядаючы польск. *chaby* 'свіное мяса пры рэбрах' ставіць пытанне аб магчымасці запазычання. Аб запазычанні думаў і Насовіч (Нас., 580) і параўноўваў беларускае слова з літ. *skabs* 'рабро', але ў слоўніках гэта слова не адзначана. Карскі (Белорусы, 137) выводзіў з літоўскай мовы *ска́ба* 'стрэмка, клін', аднак слова са значэннем 'рабро' лічыў запазычаннем з польск. *schab*. Лаўчутэ (Балтизмы, 56) узводзіць слова да літ. *skobà* 'рабро', параўн. яшчэ літ. *skabís* 'востры', *skabèti* 'сячы, рэзаць', лат. *skabrs* 'востры'. Анікін (Опыт, 278) прапануе адрозніваць *ска́ба* 'рабро', якое лічыць балтызмам, і *ска́ба* 'стрэмка, трэска' (гл. *скабка*), што несумненна роднаснае *скабліць, скобля* (гл.). Астрэйка (АКД, 5) хоча бачыць у *ска́ба, ска́бка, ска́біна* 'рабро' семантычны балтызм, які разглядаецца як занальная намінацыя.



**Скаба́**$_1$ 'выгнуты металічны прут для злучэння чаго-небудзь, клямар', 'скобля' (ТСБМ, ТС), 'прыстасаванне, з дапамогай якога прымацоўваюцца кроквы да сцяны' (Шушк.), *ска́ба* 'ручка ў дзвярах' (Растарг.). Укр. *скоба* 'крук у дзвярах, прабой', рус. *скоба́* 'тс', серб.-ц.-слав. *скоба* 'засцежка', чэш., славац. *skoba* 'планка, засаўка', серб.-харв. *ско̏ба*, славен. *skóba* 'тс', балг. *ско́ба* 'скобка', макед. *скобичка* 'падкоўка (на падэшве)'. Прасл. **skoba* 'загнуты крукам прут, скобка' да і.-е. **(s)kāmb-* 'крывіць, гнуць'. Роднасныя літ. *kabė́ti* 'вісець', *kabẽ* 'крук', *kablỹs* 'тс', *kìbti* 'чапляцца, вешацца', лат. *kablis* 'кручок, засцежка' (Траўтман, 112). Далей параўноўваюць з лац. *scamnum* 'услон', ст.-інд. *skabhnā́ti* 'умацоўвае, падпірае', грэч. σκαμβός 'крывы, сагнуты, выгнуты'; гл. Вальдэ–Гофман, 2, 487; Майргофер, 3, 507; Міклашыч, 300–301; Фасмер, 3, 643; Махэк$_2$, 546. Гл. яшчэ Шустар-Шэўц, 1290–1292; Сной$_1$, 573 (параўноўвае яшчэ з літ. *sùkaba* 'крук, скобка').

**Скаба́**$_2$ 'скапа, птушка Pandion haliaetus L.' (Касп.; мазыр., ЛП). Укр. *скаба́* 'тс'. Параўн. укр. *скобе́ць* 'птушка Accipiter gentilis', рус. *ско́бчик* 'ястрабок; перапёлачнік', славен. *skobec* 'арол, Falco haliaetos'. Лічыцца роднасным рус. *ко́бец, ко́бчик* 'шулятнік', якія, магчыма, гукапераймальнага характару; агляд версій гл. Фасмер, 2, 267–268. Булахоўскі (ИАН ОЛЯ, VII, 2, 120) адносіць сюды ж і рус. *скопа* (гл.); але *-п-* лічыцца няясным. Гл. таксама ЕСУМ, 5, 260 (вынік дээтымалагізацыі *скопа́*, гл. *скапа*).

**Скабапу́тра** 'падкіслены суп' (даўг., Сл. ПЗБ). Паводле аўтараў слоўніка, з літ. *skābputra* 'тс'.

**Скабардзіна́** 'кашчэй (худы чалавек)' (Касп.). Лаўчутэ (Балтизмы, 131) выводзіць з лат. *skabardzîgs* 'востры, пранікаючы' < *skabar̃da* 'шчэпка, асколак, стрэмка'. Параўн. літ. *skebérda* 'востры'; балтыйскія словы ўзыходзяць да кораня **skabh-* 'абрываць; скабліць' (Траўтман, 262). У славянскіх мовах роднаснымі з'яўляюцца **skoblь*, **skobl'a* і іх дэрываты; гл. Фрэнкель, 797, 799.

**Скабёлка** 'струг' (Касп.). Гл. *скобля*.

**Скабза́цца** 'катацца па ільду' (Касп.), параўн. укр. *ско́бзатися* 'коўзацца'. Паводле ЕСУМ (5, 277), варыянт з s-mobile, што ўзыходзіць да прасл. **skъlzati/*kъlzati* (гл. *коўзацца*), параўн. рус.

4 Зак. 857

дыял. *скóлзáть* 'коўзаць', чэш. дыял. *sklouzat se* 'коўзацца', славац. *sklzat' sa* 'тс', славен. дыял. *skuzek* 'коўзкі, слізкі'. *Б* на месцы *ў (<l)*, відаць, пад уплывам *скабліць* (гл.).

**Скабíць** 'скрэбці (бульбу)' (Мат. Гом.), магчыма, сюды ж (калі гэта не другаснае ўтварэнне) *скáбіць* 'заганяць стрэмку' (Нас., Байк. і Некр.), параўн. каш. *skob'ic* 'здзіраць кару з дрэва'. Відаць, узыходзіць да прасл. **skobiti* 'скрэбці вострай прыладай', роднаснага літ. *skõbti* 'дзяўбсці, рваць, шчыпаць', лац. *scabere* 'драпаць', ст.-в.-ням. *scaban* 'тс', ням. *schaben* 'скрэбці, церці', адносна якога выказваецца меркаванне пра яго страту ў славянскіх мовах яшчэ ў праславянскі перыяд (Варбат, Этимология–1971, 3). Гл. таксама SEK, 4, 281.

**Скáбка**$_1$ 'стрэмка; трэска' (ТСБМ, Шымк. Собр., Касп., Бяльк., Сцяшк., Гарэц.; в.-дзв., Сл. ПЗБ; Мат. Гом., Мат. Маг., Янк., Юрч.; лельч., Арх. ГУ; Жд. 3), *скáба* 'стрэмка, клін' (Нас., Бяльк., Байк. і Некр.), *скáбіна* 'тс' (Юрч.), сюды ж, відаць, *скабá* 'худая жанчына', *скабáчка* 'тс' (Мат. Гом.). Укр. *скáбка*, рус. кур., смал. *скáба* 'тс'. Паводле Варбат (Этимология–1971, 3 і наст.), вытворнае ад дзеяслова з коранем **skob-*, мабыць **skobiti*, роднаснага *скобля*, *скабліць* (гл.), які быў страчаны яшчэ на праславянскім узроўні (параўн. аднак *скабіць*, гл.). Падаўжэнне галоснага ў корані сведчыць аб праславянскай старажытнасці гэтага дэрывата. Мяркулава (Этимология–1983, 64–65) аб'ядноўвае ў прасл. **skaba* значэнні 'рабро, стрэмка, шчэпка; худы' і ўзводзіць да прасл. **skab-* (гл. *скáба*). Са *скабліць* звязваюць і іншыя аўтары; гл. Міклашыч, 301; Праабражэнскі, 2, 291; Фасмер 3, 630; параўноўваецца таксама з лат. *skobârga* 'стрэмка', *skobaiga* 'тс', літ. *skobti* 'зрываць яблык' (Буга, Rinkt. 2, 307).

**Скáбка**$_2$, *скáбіна* 'кропля тлушчу ў страве' (Юрч.), параўн. славен. *skâba* 'тс', харв. *škâble* 'тс', 'тлустая пляма'. Відавочна, да *скáбка*$_1$, г. зн. 'нешта аддзеленае, адшчэпленае'. Параўн. яшчэ поўны паралелізм значэнняў у *скалка*$_1$, *скалка*$_2$. Куркіна (Диал. структура, 93) разглядае разам з *скаба*, *скабка* 'трэска, стрэмка', што да прасл. **skaba* з другасным падаўжэннем каранёвай галоснай.

**Скаблíць.** Гл. *скобла*, *скобля*.

**Скабýрка** 'скарынка зямлі (замёрзшая, якая крышыцца)' (мядз., Нар. словатв., Сцяц.). Дэрыват ад *скáба* (гл.) з суф. *-урк-*, аб якім гл. Сцяцко, Афікс. наз., 181–182. Мяркулава (Этимология–1983, 64–65) змяшчае гэтае слова ў гняздо дэрыватаў ад прасл. **skab-*; падрабязна гл. пад *скáба*. Параўн. *скарýбак* 'скарынка, засохшы верх густой стравы' (гл.), што можа сведчыць аб зыходнай форме, у якой адбылася частковая метатэза зычных.



**Скаварадá** 'патэльня' (ТСБМ; Касп., Мядзв., ТС, Сл. Брэс., Бяльк., Байк. і Некр., Сцяшк., З нар. сл., ЛА, 4), *скаравадá* (Шатал., З нар. сл.), *скаравóда* (Бяльк.), *скароўдá* (Сцяшк.), *скварадá* (Сл. ПЗБ, Жыв. сл.), *скаварэ́нда*, *скоўрадá* (Сл. Брэс.) 'тс'. Укр., рус. *сковородá*, ст.-рус. *сковорода*, польск. *skowroda*, н.-луж. *škórodej*, в.-луж. *škorodej*, ст.-чэш. *skravada*, *skrovada*, ст.-слав. **сковрада** 'прылада для катавання'. Прасл. **skovorda*, **skovordy*, *-ъve*. Этымалогія няясная. Параўноўваюць з ст.-в.-ням. *scart*, *-isan* 'кацялок, патэльня', с.-в.-ням. *scharte* ж. р., *schart* м., н. р. 'тс'; гл. Ільінскі, ИОРЯС, 24, 1, 114–115; Брандт, РФВ, 24, 176, Махэк$_2$, 548; Фасмер, 3, 644. Зычны *-в-* тлумачыцца ўплывам слав. **skvara* (гл. *скварыць*) і роднасных. Супраць Семерэны (ВЯ, 1967, 4, 14–15), які выводзіць славянскае слова з формы, блізкай арм. *skavaŕak*, перс. *sukōra* (*sukurra*) 'міска, сподак, талерка', крыніцай якіх ён лічыць грэч. σκεναρίδα, вытворнае ад σκεναριν 'маленькая пасудзіна'. Спробы выдзеліць архаічны прэфікс *ско-* *(sko-)* пры каранёвым *ворд-/вард-* (*<*vьrd-*) 'жордка, прут' (Куркіна, Этимология–1988–1990, 57–60) не пераконваюць па семантычных прычынах. Вытворныя ад *скаварада*: *скаварóднік*, *скаварадзéнь* 'чапяла', 'блін або ляпёшка, спечаныя на патэльні, праснак' (Шымк. Собр., Касп.).

**Скаварóдзіць** 'баранаваць' (Сцяшк. Сл.), *скварадзíць* 'тс' (Сл. рэг. лекс.). Да *скарадзіць* (гл.) пад уплывам *скаварада*.

**Скаварóдка** 'званец вялікі, Rhinanthus major L.' (Касп.), 'званец летні, Rhinthus aestivalis L.' (Кіс.), *скаварóдкі* 'званец вялікі' (Гарэц., Байк. і Некр.). Да *скаварада* (гл.); назва па знешнім выглядзе – плоская раскрытая чашачка і выступаючы двугубы вяночак; гл. Нейштадт, Определитель, 502 і наст.

**Скавáць** 'цкаваць' (Сл. ПЗБ, Сцяц., Сцяшк. Сл., Скарбы). Гл. *цкаваць*.

**Скáвічак** (*скáвічок*) 'мяшочак для адціскання сыру, клінок' (лун., Жыв. сл.; Сл. Брэс.). Параўн. фармальна падобнае каш.; *skovëčk* 'бярозавы сок', якое Борысь (SEK, 4, 285) выводзіць з першаснага **sъkovъ* ад **sъkati* 'выдзяляць сок'; тады гэта 'тое, пры

дапамозе чаго выціскаюць сыроватку'. Гл. яшчэ Борысь, Etymologie, 59. Сюды ж яшчэ *васкавень*, *васкавік*, *аскавень* (гл.), якія, відаць, адлюстроўваюць другаснае збліжэнне з *воск*. Параўн. *скадаў* (гл.).

**Скавы́ліць** 'гучна, моцна плакаць' (мёрск., Нар. лекс.), польск. дыял. *skavuleć* 'скавытаць (пра сабаку)'. Відавочна, гукаперaймальнае. Параўн. *скавытаць*, *скаголіць*, *скагатаць* (гл.).

**Скавы́рыць** 'галасіць, раўсці' (Касп.), параўн. старое польск. *skowyrać*, *skowérać* 'бурчаць, бубнець'. Гукаперaймальнае. Больш падрабязна гл. *скавытаць*; параўн. таксама папярэдняе слова.

**Скавыта́ць** 'жаласна павіскваць, ціха выць (пра сабаку)', 'ныць, назаляць, скардзіцца' (ТСБМ, Гарэц., Др.-Падб., Байк. і Некр., Мал., Федар. 6, Варл., Сл. ПЗБ), 'голасна плакаць' (Скарбы), *ско́выт* 'віск' (стаўб., Нар. словатв.). Укр. *скавуча́ти*, рус. *сковыта́ть*, *скавуча́ть*, польск. *skowytać*, *skowyczeć* 'тс', чэш. *skovičet*, славен. *skovíkati* 'ухаць (пра саву, пугача)'. Гукаперaймальнае; гл. Фасмер, 3, 644. Брукнер (496) параўноўвае яшчэ з польск. *kuwiek* 'вабік', *kuwiekać* 'вабіць вабікам', славен. *skovik* 'крык савы', *skovíkati* 'крычаць (аб саве)'. Узыходзіць да і.-е. **(s)kāu̯-*, **(s)kēu̯-*, **(s)kū̆-* 'выць', 'мычаць, рычаць'; гл. Бязлай, 3, 247; Борысь, 553; SEK, 4, 286.

**Скавы́ш** 'моцны пранізлівы вецер з завываннем' (ТСБМ), 'вельмі халодны пранізлівы вецер' (З нар. сл.). Паводле Сцяцко (Афікс. наз., 77), ад *скаваць* (гл.) з суф. *-ыш*. Хутчэй, да *скавыліць*, *скавытаць* (гл.).

**Скагата́ць** 'вішчаць, пішчаць' (ТСБМ, Касп., Байк. і Некр.), *скігаць*, *скігата́ць* (Нас., Байк. і Некр., Бяльк.), *скігіта́ць* (Сл. рэг. лекс.) 'тс', сюды ж *скі́гліць* 'скігітаць' (Нар. лекс.), *ско́гат* 'выццё, галашэнне' (Гарэц.). Рус. *скогота́ть* 'тс'. Гукаперaймальнае (Зяленін, Табу, 2, 50; Фасмер, 3, 644; 4, 500). Параўн. *скігаць*, *скаголіць*, *скогліць* (гл.).

**Скаго́ліць** 'галасіць, лямантаваць' (Нас., Байк. і Некр., Др.-Падб.), 'скавытаць' (Бір. Дзярж.). Параўн. *скагатаць*, *скуголіць*, *скогліць* (гл.).

***Скадаў**, *скода́ў* 'клінок, мяшочак на сыр' (ТС). Складанае слова, першая частка якога ідэнтыфікуецца з прасл. **sъkati*, **osъkati* 'выціскаць сок, вадкасць', а другая з **daviti*, гл. *давіць* 'ціснуць' (Борысь, Etymologie, 58). Параўн. *аскавень*, *скавічак* (гл.).



**Скажо́нны** 'звар'яцелы' (ТСБМ, Бяльк., Сцяшк. Сл., Растарг., Мат. Гом., Ян.), укр. *скаже́нний* 'тс'. Да *ска́зіць* < *ка́зіць* (гл.).

**Сказ**$_1$ 'фраза, выказванне, выраз' (ТСБМ, Ласт., Гарэц., Байк. і Некр.), 'аповяд пра падзеі мінулага або сучаснасці', 'расказ, апавяданне' (ТСБМ, Гарэц., Др.-Падб.), 'вымаўленне, гаворка' (ТС). Нулявы дэрыват ад *сказаць* (гл. *казаць*); параўн. рус. *сказ* 'паданне, апавяданне'. Як граматычны тэрмін лічыцца арыгінальным утварэннем без семантычных паралеляў у іншых мовах (Бідэр, Зб. Мальдзісу, 331), калі не лічыць семантычнай паралеллю чэш. *věta* 'сказ' ад старога кораня *-větiti* 'гаварыць' (Голуб–Ліер, 506).

**Сказ**$_2$, *сказік* 'бяльмо на воку' (навагр., Жыв. сл.). Гл. *каз*.

**Ска́за** 'скажэнне, вада, загана' (Нас., Гарэц., Ласт., Др.-Падб., Сержп., Байк. і Некр.), *сказ* 'скажэнне' (Байк. і Некр.), 'пашкоджанае месца' (Варл.), *сказэ́* 'пашкоджанне клубняў бульбы': *сказэ́ праз усю картофлю*, *сказава́ты* 'пашкоджаны' (шчуч., Сл. ПЗБ). Аддзеяслоўныя з нулявым суф. і суф. *-а* дэрываты ад *сказіць* < *казіць* (гл.), параўн. *сказі́ць* 'скалечыць, знявечыць' (Нас., Стан., Пятк. 2), *сказі́цца* 'скрывіцца' (Касп., Растарг.), *сказні́ць* 'знявечыць' (ТС), ст.-бел. *сказити* 'знішчыць, разбурыць' (Ст.-бел. лексікон, Альтбаўэр) і *сказнь*, *сказ* 'вызначэнне, суд, прыгавор' (Ст.-бел. лексікон). У *казёл* 'захворванне бульбы' (Юрч.), *казлы́* 'пашкоджаныя вочкі бульбы' (шчуч., Сл. ПЗБ) назіраецца кантамінацыя *сказіць* і *казёл* (гл.). Параўн. яшчэ ўкр. *сказ* 'агрэх', 'дэфект у палатне пры тканні', польск. *skaza* 'рыса; шчыліна; рана; блізна'.

**Сказо́к** 'невялікая трэшчына' (мядз., Нар. словатв.), 'невялікая трэшчына, невялікі асколак' (Сл. рэг. лекс.). Дэрыват ад *сказа*, *сказ* або ад *сказіць* < *казіць* з суф. *-ок*.

***Сказу́біцца**, *скозу́бытысь* 'пакарабаціцца, пагнуцца' (Клім.). Гл. *козуб*, параўн. *ку́зубом* 'насуперак' (ТС), а таксама ўкр. *ко́зубом ста́ти* 'змерзнуць, стаць як кара (аб адзежы)' < *козуб* 'лубяная каробка, кошык' (гл.).

**Сказы́лка** 'стрыжань птушынага пяра' (зэльв., Сл. ПЗБ). Ні фармальная структура слова, ні матывы намінацыі няясныя. Фармальна ад *ска́зіць* (гл. *сказа*) з суф. *-ыль* + *-к-*; *-л-* у суф. магло ацвярдзець па аналогіі з *кабылка*, *бабылка* і да т. п. Магчыма, 'тое, што "псуе" абскубаную курыцу' (г. зн. яе мяса).

**Скака́ць** ‘падскокваць’, ‘танцаваць’, ‘хутка бегчы’ (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Касп., Бяльк., Шымк. Собр., Пятк. 2, Сл. ПЗБ, ТС), параўн. укр. *скака́ти*, рус. *скака́ть*, польск. *skakać*, чэш. *skákati*, славац. *skákat'*, серб.-харв. *ска́кати*, *ска̑че̑м*, славен. *skákati*, балг. *ска́кам*, макед. *скака*, ст.-слав. **скакати**. Прасл. **skakati*. Ітэратыў да *скочыць* < *скок* (гл.); Фасмер. 3, 630; Махэк$_2$, 547; БЕР, 6, 716; Борысь, 550.

**Ска́кі** ‘танцы’ (Бяльк., Варл., Мат. Гом.). Да *скакаць*, *скокі* (гл.) з незвычайным пераходам *о* > *а* пад націскам.

**Скаку́н** ‘конік’ (Сл. ПЗБ, ТС; гродз., стол., Жыв. св.), ‘жук, які пералятае нібы скачкамі’ (ТСБМ), ‘блыха’ (Сл. ПЗБ, Жыв. сл., Шатал.), *скак* ‘конік’ (Мат. Гом.), *скакуне́ц* ‘тс’ (ТСБМ), *скачы́ха* ‘блыха’ (Нар. словатв.). Да *скака́ць*; параўн. рус. *скакуне́ц* ‘блыха’, укр. *скаку́н* ‘конік’, *скакуле́ць* ‘блыха’, балг. *скаку́лец* ‘конік’, макед. *скакалец*, *скакунец* ‘тс’; гл. Фасмер, 3, 630.

**Скаку́ха**, *скаку́шка* ‘вавёрка’ (Касп., Сцяшк.). Укр. *скаку́шка* ‘тс’. Да *скакаць* (гл.).

**Скал** ‘бяззубка’ (ТС). Гл. *скалка*$_3$.

**Ска́ла**$_1$ ‘прылада, пры дапамозе якой наматваюць цэўкі’ (докш., Янк. Мат.). Рус. *скала́*, *ска́ло*, *ска́лка* ‘тс’. З **съкало*, першапачаткова назоўнік з суф. *-dlo* ад **sъkati* (рус. *скать*); з інш. ступенямі чаргавання гл. *сукно*, *сукаць*, *сучыць* (Праабражэнскі, 2, 293; Фасмер, 3, 631). Параўн. *сукала* (гл.). Сюды ж, відаць, *ска́ла* ‘скрутак лубу, дубовай кары’: здымалі кару, скручвалі ў трубу – “скалу” і затаплялі “ў мачышчах” (Лакотка, Борыс, Сцежкамі дзядоў. Мн. 1986, 124). Параўн. аднак *скала́* ‘бяроста’ (гл. наст. слова), дзе больш прымальным здаецца паходжанне ад **skal-* ‘сячы, калоць’.

**Ска́ла**$_2$ ‘бяроста’ (Бломкв.). Параўн. рус. *скала́*, *ска́ла* ‘тс’, разам з *скала́* ‘каменная глыба’ звязваецца з *ска́лить* ‘трэскацца’, што да **skel-/*skal-*, роднаснага літ. *skélti* ‘расколваць’, *skalà* ‘лучына, трэска’, лат. *skals* ‘тс’ (Фасмер, 3, 630), насуперак Тапарову (Балтийские яз., 46), які лічыць падмаск. *скала́* ‘бяроста’ субстратным балтызмам. Гл. спецыяльна Анікін, Опыт, 278.

**Скала́**$_1$ ‘каменная глыба, гара з крутымі схіламі, вострымі выступамі’ (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Др.-Падб.; ашм., Стан.), ‘вельмі цвёрдая глеістая глеба’ (Касп.; астрав., Ск. нар. мовы), ‘вапняк’ (Касп., Сл. ПЗБ), ‘камяністая глеба’ (ЛА, 2), ‘буры балотны жалязняк, якім выкладаюць сцены скляпоў, ям у зямлі’, ‘празрысты лёгкі мінерал, т. зв. “чортаў палец”’ (Яшк.), “*скалою* зовутся и кремень, и кремневые орудия каменного века – «перуновы стрелы»” (Рам. 5, 176), ‘выемка ў прырэчным камені’ (лях., Архіў БЭЛА), ст.-бел. *скала* ‘каменная гара’ (XVIII ст., Карскі, 2–3, 459), укр. *скала́* ‘камень’, рус. *скала́* ‘каменны ўцёс, каменная глыба’, ст.-рус. *скала* ‘скала’, польск. *skała* ‘скала; камень’, старое ‘расколіна’, в.-луж., н.-луж. *skała* ‘скала’, чэш. *skála* ‘скала; камень’, славац. *skala* ‘камень’, славен. *skála* ‘скала’, ‘трэска’, балг. *скала́* ‘камень’, макед. *скала* ‘каменны выступ’. Прасл. **skala*. Бліжэйшыя адпаведнікі ў літ. *skeliu*, *skelti* ‘расколваць’, *skilti*, *skįlù* ‘трэскацца’, *skalà* ‘шчапа, лучына’, лат. *skala* ‘тс’, ст.-ісл. *skilja* ‘расчляняць’ і г. д.; гл. Фасмер, 3, 630; Махэк$_2$, 545, Траўтман, 264. Усё да і.-е. кораня **(s)kel-* ‘калоць, рэзаць’. Першаснае значэнне слова ‘востры камень, камень, які атрымаўся ў выніку раскалвання ў адрозненне ад каменя ў глебе, рачной гальцы і да т. п. Борысь (550) **skala* разглядае як дэрыват ад прасл. **skoliti* з рэгулярным падаўжэннем галоснага ў корані *о* → *а*, параўн. рус. дыял. *осколить* ‘абцясаць вакол, ачысціць’, якое далей да **(s)kel-*. Гл. яшчэ БЕР, 6, 718; Сной$_2$, 570 (**skala* лічыць дэрыватам ад **skaliti*, гл. *скаліць*).

**Скала́**$_2$ ‘маланка’ (капатк., ДАБМ, камент., 901; малар., іван., лях., пін., стол., лун., мазыр., Архіў БЭЛА). Фармальна, як і *скала*$_1$, да кораня **(s)kel-*, г. зн. ‘якая раскалвае (неба)’. Але магчыма і непасрэдна звязаць гэтыя два значэнні праз фальклорна-міфалагічныя ўяўленні славян, паводле якіх *скала* ‘страла Перуна (каменная)’; такія *скалы*, таксама як гром і маланка, адносіліся да арсенала Перуна (аб чым падрабязна Іванаў–Тапароў (Иссл., 85 і наст.), якія параўноўваюць з палескімі назвамі кавалкаў крэменю, якія знаходзяць на полі: *перуно́выя стрэ́лы*, *перуно́ў па́лец*. *Скал(к)а* ‘перуновая страла’ адпавядае хец. *peruna-* ‘скала’ (= камень = пярун), гл. Іванаў–Тапароў, Бел. лекс., 59, што аспрэчваецца Страхавым (Palaeoslavica, 12, 2, 251) як занадта аддаленае.

**Скала́**$_3$ ‘каляровае рэчыва чырвонага колеру ў гліне ў ганчароў’ (бабр., Нар. словатв.), *скалі́стая гліна* ‘гліна з такім рэчывам’ (там жа). *Скала́* інакш называецца *кра́сная іржа́* (там жа). Міхайлаў (вусн. паведамленне) адносіць слова да *скала*$_1$, таму што гэта праслойка звычайна больш цвёрдая, чым гліна. Сюды ж, відаць, *скала́* ‘вялікія плямы ржаўчыны на вадзе’ (ТС), гл. *скалка*$_2$.

**Скалавацéць** ‘змерзнуць; акачанець’ (Сцяшк., Сл. ПЗБ). Да *скалéць* ‘тс’ з пашырэннем асновы, гл. *калець*; зыходнае *калавáты* ‘цвёрды, як кол’, адкуль *калавáцець* ‘рабіцца цвёрда-пругкім, нягнуткім’ (ашм., Стан.).

***Скалавокі**, *скалогóкый* ‘прыжмураны, з прыжмуранымі вачыма’ (Клім.), *скалоокі*, *скалеокі* ‘тс’ (ТС). Да *скаліць* (вочы) ‘прыжмурваць’ (гл.). Укр. *скалоóкий* ‘той, які мае бяльмо на воку’, да *скалка* ‘бяльмо’.

**Скалагýдзіць** ‘збудаваць’ (Жд. 2). Няясна. Магчыма, дзеяслоў на базе *халуга* ‘халупа’, *халабýда* ‘прымітыўнае збудаванне; цыганская буда на возе’, гл.

**Скалазýб** ‘насмешнік, рагатун’ (Бяльк.; карэліц., Жыв. НС; ашм., Стан.), *скалазýбы* ‘чалавек, які часта шчэрыць зубы’ (Ян.). Складанае слова, параўн. рус. *зубоскал* ‘тс’ з адваротным парадкам элементаў. Гл. *скаліць* (зубы).

**Скаламбýха** ‘страшная пачвара, здань, якой палохалі дзяцей’ (навагр., Жыв. сл.). Няяснае слова. Хутчэй за ўсё, дэрыват з суф. *-ух(а)* ад літ. *skalam̃byti* ‘гучна ўдараць; гучна лаяць’, ‘моцна біць, калаціць’.

**Скаламýда** ‘рудая кусьлівая парода балотных мурашак, якая жыве на кургане і травах балот’ (Дразд.). Няясна.

**Скаландá** ‘пасмешышча’, ‘нікчэмнасць, дрэнь’ (Нас.), ‘скандал’: *век жывуць са скаландой* (Мат. Гом.), *скулундá* ‘аткіды, смецце’, ‘астатак’ (Бяльк.), *скуліндá* ‘дробязь, вельмі мала’ (Юрч.). Насовіч (Нас., 580) узводзіць да грэч. σχανδαλον ‘спакуса’, ‘перашкода’, параўн. *скандáл* (гл.), што магло паўплываць на семантыку. Відаць, запазычанне з літ. *skalánda* ‘доўгая адшчэпленая лучына для пляцення кошыкаў і да т. п.’, ‘трэска, асколак’, *skelénda* ‘трэска, асколак’, якія, паводле Атрэмбскага (Gramatyka, 2, 269), ад *skélti* ‘шчапаць’ з суф. *-da*. Да семантыкі параўн. *дробязь < дробны < драбіць*.

**Скаланýць** ‘страсянуць; паварушыць’, ‘перамяшаць’ (ТСБМ, Касп., Гарэц., Яруш., Чач., Шн.), ‘страсянуць’ (навагр., Сл. ПЗБ; Сержп. Прымхі), *скаланýцца* ‘ўздрыгнуць, задрыжаць’ (Байк. і Некр., Шат.), *скалатнýць* ‘патрасці’ (ТСБМ, Варл.). Ад *скалатнуць*, дзеяслова аднакратнага дзеяння, да *калаціць* (гл.) з спрашчэннем групы зычных. Няма падстаў *скаланýць* ‘скаламуціць, замуціць (ваду)’ выводзіць з літ. *skalinât*, *skaluõt* ‘паласкаць бялізну’, як сцвярджае Лаўчутэ (Балтизмы, 72), таму што іх семантыка поўнасцю адпавядае асноўным значэнням дзеяслова.



**Скалатнá** ‘муць, падонкі’ (Нас., Байк. і Некр.). Дэрыват ад *скалаціць < калаціць* (гл.) з суф. *-н(я)*.

***Скáлачка**, *скáлочка* ‘скочкі дахавыя, Sempervivum tectorum L.’ (Бейл.). Бліжэйшыя адпаведнікі – *скáлачка* ‘плямка тлушчу ў страве’ (Сл. ПЗБ), укр. *скáлочка* ‘кусок, асколак крэменю’, ‘ракавіна малюска’, балг. радоп. *скáлички* ‘дзіцячая гульня з пяццю каменьчыкамі ці костачкамі’; гл. *скалка*$_{1,2,3}$. Расліна магла быць названа па знешнім падабенстве з ракавінай або з-за адпадаючых лістоўлускавінак. Але параўн. яшчэ славац. *skalnica* ‘расліна скочкі’, якая так завецца па месцы знаходжання некаторых яе відаў; гл. Махэк, Jména, 58. Усё да кораня *скал-* (гл. *скалá*$_1$).

**Скалбóціць** ‘размяшаць’ (іўеў., Сл. ПЗБ), *скалбуцíць* ‘збоўтаць, перамяшаць’ (шчуч., Сл. ПЗБ). Да *калбатáць* (гл.), што звязана з літ. *kalbéti* ‘гаварыць’, ідыш *kalbekenen* ‘гаварыць мяшанай мовай’, ням. дыял. (усх.-прус.) *kalbêken* ‘гаварыць многа і голасна’, рус. прыбалт. *скалбéкаться* ‘пачаць гаварыць па-літоўску’, адносна якіх гл. Анікін, Опыт, 279. Параўн. аднак прасл. **skolbiti se* ‘адкрываць рот, ашчэрваць зубы; смяяцца’, якое Варбат (ОЛА, Исследов., 1975, 139) выводзіць ад **skoliti*, гл. *скаліць*.

**Скалдырэ́чыць** ‘хлусіць’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ). Відаць, звязана з рус. дыял. *скалды́рничать*, *сколды́рничать* ‘скнарыцца, скупіцца’, ‘папрашайнічаць; кленчыць’, *скалды́рник* ‘скупы, прагны; скнара’, ‘ліхвяр’ (у Гогаля). Паводле Фасмера (3, 631), апошнія не маюць надзейнай этымалогіі. У аснове экспр. *калды́р* ‘хам, жлоб’ (Наша Ніва, 2004, 12 лістап.). Канец слова *-рэчыць* нагадвае дзеяслоў *ракцí* ‘сказаць’, гл. *рэ́кнуць*.

**Скалéцкі** ‘моцны, пякучы (пра мароз)’ (Сцяшк. Сл.). Ад *скалéць* ‘змерзнуць, скачанець’ (гл. *калець*) па тыпу *кíдаць > кíдкі*.

**Скáліць** ‘агаляць, паказваць зубы (звычайна пра жывёлу)’ (ТСБМ), *скáліць (шчэ́рыць) зýбы* ‘смяяцца, рагатаць, насміхацца’, *скáліцца* ‘тс’ (ТСБМ, Гарэц., Янк. 2, ТС, ПЗБ), ‘смяяцца’ (Сл. ПЗБ, Мат. Гом., ТС, Пятк. 2, Ян.), ‘ашчэрвацца; паказваць злосць’ (Нас.), ‘прыжмурвацца’ (Мат. Гом.), *скалы́ты: скалы́т’ гóчы* ‘прыжмурвацца; прыжмурваць вочы’ (Клім.), *скалáты* ‘той, хто смяецца з іншых’ (Сл. рэг. лекс.), сюды ж *скáлікі* ‘кпіны’ (Бяльк.), фраз. *скáлачкі скáліць* ‘усміхацца’ (пра немаўля) (Нік. Посл.). Укр. *скáлити*

'скаліць (зубы)', 'прыжмурваць (вочы)', *скáлитися* 'тс', рус. *скáлить (зубы), скáлиться* 'ўсміхацца, смяяцца', польск. *skalić się* 'трэскацца, пакрывацца трэшчынамі'. Ад таго ж кораня, што і *скалá*₁, з якім звязана чаргаваннем; гл. яшчэ *шчыліна* (Міклашыч, 298; Праабражэнскі, 2, 292; Фасмер, 3, 631). Паводле Борыся (SEK, 4, 274), дэнамінатыўнае ўтварэнне ад **skala*.

**Скáлка**₁ 'крэмень, кавалак крэменя для крэсіва' (ТСБМ, Шымк. Собр., Нас., Ласт., Касп., Гарэц., Бяльк., Др.-Падб., Байк. і Некр., Мядзв., Маш., Янк., Шат., Пятк. 2, Мат. Гом., Сцяшк., Сл. ПЗБ, віц., паўн.-маг., паўн.-гродз., ЛА, 4), 'цвёрды камень, крэмень, які ідзе на выраб млынавых камянёў, а раней скарыстоўваўся для здабывання агню' (БРС), *скáліца* 'тс' (віц., Яшк.). Улічваючы спецыялізацыю значэння, хутчэй за ўсё, з польск. *skałka* 'востры асколак крэменю для выкрасання агню, які ўжываўся раней у агнястрэльнай зброі', якое ад *skała* (гл. *скалá*₁) (Брукнер, 493; Варш. сл. 6, 127). Сюды ж і ўкр. *скáлка* 'крэмень у стрэльбе'. З другога боку, параўн. адлюстраванне ў фальклоры вераванняў, што кавалкі крэменю, якія раней выкарыстоўваліся для здабывання агню – гэта асколкі двух жорнаў, з дапамогай якіх Пярун здабывае агонь (Іванаў, Тапароў, Иссл., 86 і наст.), параўн. польск. *skałka piorunowa* (Варш. сл.). Гл. таксама Страхаў (Palaeoslavica, 12, 2, 251).

**Скáлка**₂ 'кропля тлушчу ў вадкай страве' (ТСБМ, Шат., Бяльк., Янк., Байк. і Некр., Янк. 2, Некр., Мат. Гом., Мат. Маг., ТС, Сл. ПЗБ, Сцяц., З нар. сл., паўд.-зах., ЛА, 4), *скáлька* 'тс' (Вешт.), *skałka* 'плямка ў супе' (беласт., Лапіч, Term. geogr.). Укр. *скáлка*, польск. *skałka* 'тс'. Ад таго ж кораня *скалá*₁ (гл.), што да і.-е. кораня **skel-* 'біць, расчляняць', г. зн. 'нешта аддзеленае, адбітае', аналагічна набору значэнняў у іншых гнёздах слоў з коранямі **sker-*, **skab-*, параўн. *скабка*; гл. Пятлёва, Этимология–1972, 84 (мяркуе, што значэнне развілося на базе параўнання 'як лускавінка', 'як скурка', 'як плёнка'). З іншым вакалізмам параўн. *скóлька*: *жырные сколькі* (Куч.), што да прасл. **skoliti* 'расшчапляць', параўн. Борысь, Etymologie, 402. Першаснае значэнне ўсё ж, відаць, 'пырска, пена', 'водбліск': *А як пеніцца вада! Як гуляе на ёй скалка!* (Я. Колас); параўн. у Шымкевіча ўкр. *прыснули на синêмъ морѣ скалки.*

**Скáлка**₃, *скáлька* 'рачныя ракавіны, чаропкі' (Дразд.), 'слімак з ракавінай', 'ракавіна слімака' (драг., Нар. лекс.), *скал* 'бяззубка (ракушка)' (ТС), *скаль, скáлка* 'слімакова ракавіна' (Сл. Брэс.). Укр. *скáлка*, рус. *скáлка, скáлька* 'тс'. Да *скалá*₁ (гл.) (Праабражэнскі, 2, 221–222; Фасмер, 3, 631). З іншай ступенню каранёвай галоснай параўн. укр. *скóйка* 'ракавіна бяззубкі', балг. *скóлка* 'рачная мідзія, Anadonte cygnea', *скойка* 'мідзія, ракавіна мідзіі', серб.-харв. *сколка, сколька* 'тс', славен. *skoljka*, ст.-слав. **сколька, сколъка** 'ракавіна' (БЕР, 6, 771; Фасмер, 3, 647).



**Скáлка**₄, *скáлька* 'від рыбалоўнага снараду' (Касп.). Фармальна да *скалька* 'ракавіна' (гл. папяр. слова), але матывы намінацыі няясныя.

**Скáлка**₅ 'бяльмо на воку' (беласт., Лапіч, Term. geogr.). Укр. *скáлка*, польск. *skałki* (*na oku*) 'тс'. Лапіч (там жа, 32) тлумачыць 'плямка на воку' > 'плямка ў супе' і мяркуе, што апошняе значэнне запазычана з польскай мовы, што малаверагодна, параўн. архаічную палеска-карпацкую ізасему, гл. Дзендзялеўскі, Бел.-укр. ізал., 26. Да **skala* (гл. *скалá*₁); асабліва параўн. *скáла* 'бяроста', серб.-харв. *скȁла* 'скала; кавалачак; скепка' і г. д. У якасці семантычнай паралелі можна прывесці польск. *łupież* 'скурка, плеўка ў воку' < слав. кораня *łup-* (гл. *лупіць*). Падрабязна гл. Пятлёва, Этимология–1972, 81 і наст.

**Скалóціны** 'маслянка' (Касп., Шатал., Сцяшк. Сл., Варл., Жд. 2, Нар. сл., Нар. словатв.), *скалóціна, скалóтвіны* (Нас.), *скалóцьвіна* (Бяльк.), *скалóцвіны* (ЛА, 4), *скалацянка, скалóціна, скалóцьвіна* (Мат. Маг.), *скалóчыны* (Жд. 2), *скалóчанка* (Жд. 2, Жыв. сл.), *скалацянка* (Гарэц.) 'тс'. Да *скалаціць* < *калаціць* з рознымі суфіксамі. Параўн. аднакаранёвыя ўкр. *сколóтина*, часцей мн. л., рус. дыял. *сколóтина, вы́колотки* 'тс'.

**Скаль** ж. р. 'перадавы атрад пчол, які перад раеннем вылятае шукаць, выбіраць новае месца для новага роя' (гродз., дзятл., баран., свісл., Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл., Сл. Брэс., Анох., Янк. 2, Байк. і Некр., Нар. сл.), *скалá* (Анох., Сцяшк., Сцяц.), *скáльлі* (Нар. сл.), *скáлля* (Анох.), *скалля, скáля* (З нар. сл.), *скалі* (Інстр. 1; мазыр., Архіў БЭЛА), *скáло* н. р. (Сл. Брэс.) 'тс', *скалявáць* 'шукаць, выбіраць (пра пчол – новае месца перад раеннем)' (Байк. і Некр., Янк. 2, Анох., Маш., Нар. сл.), *скалíць* (Некр., З нар. сл.), *скóліваць* (Нар. сл.) 'тс'. Укр. *скаль* м. р., *скáла* 'тс', дыял. палес. *скаль* 'пчала-разведчык', рус. *скалья́* зборн. 'перадавы атрад пчол; пчолы-разведчыкі', польск. *skal* м. р. 'скаль', *skała, skarły* 'скаль', н.-луж. дыял. *skal* 'пчаліная матка'. Прасл. **jьskalь*, дэрыват з суф. *-(a)lь* ад дзеясл. **jьskati*, гл. *іскаць*, параўн. іншыя назвы: *іск, іскá*,

*пóіск, пóіска* (ЛА, 1). Гл. Ніканчук, БЛ, 6, 68 і наст.; Борысь, Etymologie, 225–227; ЭССЯ, 8, 237–238.

**Скаля́**, *скалá* ‘жабурынне’ (пін., ЛА, 1). Няясна; магчыма, звязана з *скалá* ‘іржавыя разводы на вадзе’ (гл. *скала*$_4$) або дэвербатыў ад *скаляць* ‘забрудзіць’ (гл.).

**Скалярýшча** ‘шалупайка’ (слонім., Сл. ПЗБ), *скалярýшчына* ‘лупіны ад яек’ (стаўб., Жд. 1), *склярýшчыны* ‘тс’ (Сл. нар. фраз.). Пры дапамозе метатэзы *р – л* з *скаралюшча* (гл.).

**Скаля́ць** ‘зганіць, абразіць’: *скаляў з гразёю* (жытк., ЖНС), ‘вельмі зняважыць словамі’ (ПСл), ст.-бел. *скалѧти: оумыла есми ноги мои какъ скалѧю ихъ* (Альтбаўэр). Да *кал* (гл.), *каляць* < прасл. **kal'ati* ‘пэцкаць, мазаць’ (ЭССЯ, 9, 125).

**Скамарóх**$_1$ ‘у Старажытнай Русі і ў пазнейшым часе – вандроўны акцёр’ (ТСБМ, Ласт.), ‘вандроўны музыкант’, часта ‘музыка, скрыпач на вясковым вяселлі’ (Шымк. Собр., Байк. і Некр., Др.-Падб., Янк. БП, Пятк. 2, Рам. 8), ст.-бел. уласнае імя Р. скл. *Демьянца Скомороха* (1540 г., Лінгв. дасл.), сюды ж *скамарóшнік* ‘вандроўны цыркач з мядзведзем, мядзведнік’ (віл., смарг., Сл. ПЗБ), *скамарóха* ‘тс’ (Нас.), ‘музыка’: *усяк спляша, да ні ўсяк скамарох* (Бяльк.). Рус. *скоморóх* ‘вандроўны музыкант, скакун, камедыянт’, дыял. ‘вядзьмар’, *скоморóшина* ‘тс’, стараж.-рус. (XI ст.) *скоморохъ*, серб.-ц.-слав., рус.-ц.-слав. *скомрахъ*, ст.-польск. *skomrośny, skomroszny* ‘бессаромны, няскромны’, *skowryśny, skowrośny* ‘вясёлы, жвавы’. Цёмнае слова, ніводная этымалогія не з’яўляецца пераканаўчай. Крыніцай лічылі грэч. σκῶμμαρχος ад σκῶμμα ‘жарт, штукі’, гл. Кірпічнікаў, Сб. ОРЯС 52, 1 і наст.; Фасмер, ИОРЯС 12, 2, 276; Фасмер, Этюды, 184 і наст. Аднак іншыя даследчыкі ўказваюць на тое, што слова нідзе не засведчана. Выводзілі таксама з іт. *scaramuccia* ‘камедыянт, штукар’ на падставе таго, што скамарохі часта насяць “лацінскую адзежу”; так Сразнеўскі, 3, 374. Супраць Фасмер (3, 648). Спробы славянскай этымалогіі: ад прыстаўкі *sko-* і дзеясл. *марочыць*; Мацэнаўэр, LF 20, 13 і наст.; Брукнер, 494. Пераважаюць “гукапераймальныя” версіі, напрыклад, сувязь з в.-луж. *skomorić* ‘рабіць недазволены ўчынак’, што мае гукаімітатыўны характар (Ільінскі, ИОРЯС, 23, 2, 243), паводле Шустара-Шэўца (1292), звязана з *камолы* (гл. *камель*$_2$). Фасмер (3, 648) прыводзіць яшчэ славен. *skomúcati* ‘выдаваць незразумелыя гукі’, *skomodrati* ‘вішчэць’, якія звязаны з рус. *скомлить* ‘ныць, скавытаць’. Сюды ж можна дадаць балг. радоп. *скомичем* ‘плакаць, хліпаць’, серб. пірот. *скомúчем* ‘мармытаць, невыразна гаварыць’, каш. *skamřec* ‘навязліва прасіць, клянчыць’, якое Борысь узводзіць да **skom-ъr-* (SEK, 4, 276), варыянт якога **skomorъ* Львоў (Этимология–1972, 111) лічыць зыходным для разглядаемага слова. Нельга выключыць і цалкам імітатыўную версію паходжання слова, якую прапанаваў Немец (Slavia, 57, 246 і наст.; Studia Etym. Brun., 1, 38) з **sko-morsk-*, роднаснага рус. *морщить* (гл. *моршчыцца*), што звязана з старажытным выкарыстаннем масак для адпуджвання злых сіл. У сувязі з гэтым параўн. *скамурдзіцца* ‘скрывіць морду’ (гл.). Істотнымі матывацыйнымі момантамі варта лічыць “музычныя” і “знешнія” прыкметы, гл. Жураўлёў, Язык и миф, 178–179 (там жа агляд іншых версій).



**Скамарóх**$_2$ ‘гаркушка, гальян звычайны, Phoxinus phoxinus (L.)’ (Жук., на Дняпры; Жыв. св.). Рус. дыял. *скоморóх* ‘тс’. Да *скамарох*. Параўн. апісанне рыбы ў Сабанеева (Жизнь, 496): “Последний [гальян] всегда отличается необычайной пестротой и поэтому названия *скоморох* и *красавка* гораздо более идут к нему, нежели… гольян”. Параўн. *аўдотка* (гл.).

**Скамлёты** ‘тонкая жэрдка з трыма сучкамі на канцы (знімаць яблыкі)’ (мядз., Нар. словатв.). Утворана ад **скаміць, скамлю* (гл. *скамы*) з суф. *-от-* + канчатак мн. л., першапачаткова назва дзеяння. Не выключана фармальнае збліжэнне з *камлёт* ‘саматканая суконная спадніца’ (гл.).

**Скамлíца** ‘лаўка’ (Нас.), фальк. *скамíца* ‘тс’ (барыс., Нар. сл.), *скам’íца* ‘тс’ (Ян.), *скаменíца* ‘лаўка’ (Нар. Гом.), *скамéйка* ‘лаўка, услон’ (Бяльк.). Укр. *скамнúця* ‘лаўка, услон’, рус. *скамья́, скамéйка*, дыял. *скамля́* ‘лаўка, услон’. Запазычанне ў старажытнарускую мову з с.-грэч. σκαμνί(ον), мн. л. σκαμνία ад σκάμνον, якое з лац. *scamnum* ‘лаўка’ ад *scabō, -ere* ‘церці, стругаць’ (Праабражэнскі, 2, 293; Фасмер, 3, 632; ЕСУМ, 5, 264).

**Скамурдзíцца** ‘скрывіць морду’ (Касп.). Мабыць, з **скамардзіцца*, дзе пачатак слова ўяўляе экспрэсіўнае **(s)ko-* пры дзеяслове **mъrdati* ‘махаць, рухаць, грымаснічаць’, пра апошні Куркіна (ОЛА, Исследов., 1972, 215–216) мяркуе, што ён захаваўся ў рус. *смордать* ‘камячыць, сціраць’. Адносна словаўтваральнай мадэлі параўн. яшчэ *скапэрдзіцца* (гл.).

**Скамы́** ‘драўляныя ціскі (выціскаць мёд)’ (іўеў., З нар. сл.; Сл. ПЗБ), ‘тое, чым адціскаюць сыр’ (Інстр. 1). Нульсуфіксальны дэрыват ад **скаміць* (гл. *аскома*), якое да прасл. **skomiti*, што звязана чаргаваннем галосных з **ščemiti*, гл. *шчаміць*. Не выключана захаванне архаічнай семантыкі ‘прышчэмліваць’, адкуль потым развіліся пераносныя значэнні, якія ўказваюць толькі на чалавечыя адчуванні. Параўн. *скем*.

**Сканазо́біцца** ‘скрывіцца’ (Ян.). Да *кано́зіцца* ‘капрызнічаць, крыўляцца’ (гл. *каназа*) шляхам збліжэння з *каназо́бка* ‘пасудзіна, сплеценая з лазы і саломы’ (Касп.), параўн. *конозо́біцца* ‘капрызнічаць, куксіцца’, *коно́зіцца* ‘фанабэрыцца’, *коно́за* ‘капрызная фанабэрыстая асоба’ (ТС).

**Скандава́ць**, *скандзі́раваць* ‘выкрыкваць, выдзяляючы склады ці словы’ (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр.). З польск. *scandować* ‘тс’ або з ням. *scandieren* праз рус. *сканди́ровать* ‘тс’; параўн. і старое рус. *скандова́ть* ‘тс’. Крыніца слова ў лац. *scandere* ‘паднімаць, павышаць (голас)’.

**Сканда́л** ‘непрыстойная падзея’, ‘сварка з крыкам, бойкай’ (ТСБМ, Ласт., Др.-Падб.). Запазычанне з заходнееўрапейскіх моў, параўн. ням. *Skandal*, франц. *scandale*, якія ад лац. *scandalum* ‘непрыстойнасць, непрыстойныя паводзіны’, магчыма, праз рускае ці польскае пасрэдніцтва. Ст.-слав. **сканъдалъ**, **сканъдѣлъ** ‘пастка, сетка’, ‘спакуса’, ц.-слав. *скандалъ* ‘спакуса’ непасрэдна з грэч. σκάνδαλον ‘пастка’ (Праабражэнскі, 2, 294; Фасмер 3, 632; ЕСУМ, 5, 264).

**Скандзя́біцца**, *скондзя́біцца* ‘сагнуцца зніякавець’ (ТС). Гл. *скундзябіцца*. Кантамінацыя *скундзябіцца* і **скандзюбіцца*, параўн. укр. *скандюбити* ‘сагнуць’.

**Скандры́чыцца** ‘памерці, здохнуць’ (Бяльк., Юрч. Вытв.), таксама *скандычыць* ‘звесці са свету, замарыць’, *сканды́чыцца* ‘кончыць жыццё ў муках’ (Нас.). Рус. смал., бранск *скандры́читься* ‘акалець (памерці)’; параўн. таксама рус. пск., цвяр. *кандрычить* ‘біць’, смал. ‘здзекавацца, мучыць’ (гл. *кандрычка*). Фасмер (3, 632) ставіць пытанне аб магчымай сувязі з *кондрашка* ‘апаплексічны ўдар’, якое, відаць, па прычыне табу ад уласнага імя *Кондратий* (Фасмер, 2, 310).

**Скані́** ‘спакон’ (Нас., Бяльк.). Хутчэй з рус. *искони́*, чым працяг стараж.-рус. *искони*, ст.-слав. **искони**. Апошнія з *из-кон-*, гл. *канец* (Праабражэнскі, 2, 274; Фасмер, 2, 140).



**Ска́нцы** ‘бульбяныя піражкі, начыненыя капустай’ (круп., Жд. 2), ‘бліны, начыненыя тварагом’ (брасл., Нар. словатв.). Рус. наўг., алан. *ска́нец, ска́нцы* ‘тонка раскачаная пражаная ляпёшка’, *ска́нцы* ‘сачні, вялікія, тонкія ватрушкі з “сканого” цеста’. Даль (4, 193 і наст.) адносіць да *скать* (*тесто*) ‘раскачваць у сачэнь, слаіць, рабіць слаёнае, здобнае цеста’. Іншая ступень чаргавання галосных у *сука́ць*. Няма падстаў лічыць запазычаннем (гл. Лаўчутэ, Балтизмы, 131) з літ. *skanēsis*, *skanēstas* ‘ласунак, далікатэс’ (Анікін, Опыт, 279).

**Скапа́** ‘буйная драпежная птушка сямейства ястрабавых, якая жыве каля рэк, азёр і харчуецца рыбай’ (ТСБМ), у форме “скопа тѣмно-дымчатая, Fischaar” адзначана сярод птушак Крычаўскага староства у XIX ст. (Меер Крыч.). Народныя назвы *рыбалоў* і *скаба́* (гл.). Запазычанне, параўн. рус. *скопа́* ‘тс’, укр. *скопа́* ‘тс’; у іншым значэнні ‘ястраб-перапёлачнік’ адзначана польск. дыял. *skop* і славен. *skȍpəc*, *skobec*. Бернекер (1, 535), Булахоўскі (ИАН ОЛЯ, 7, 120), Сной₁ (574) лічаць тоесным з прасл. **kobьcь* ‘драпежная птушка’ (рус. *ко́бец*, польск. *kobiec* і г. д.), але супраць Фасмер (3, 649) на падставе наяўнасці ст.-прус. *warnagcopo* ‘від ястраба’, што збліжаецца з літ. *kapōti* ‘секчы’.

**Скапава́ць** ‘зразумець, уцяміць, скеміць’ (Скарбы). Да *капаваць* (гл.). Паводле Волкавай (БЛ, 60, 137), вытворныя ад ст.-бел. *копа, капа* ‘сход сялян, што разглядаў судовыя спрэчкі’.

**Скапарэ́ць** ‘змерзнуць’ (Сцяшк. Сл.). Гл. *скапэрацiся*.

**Скапаць**. Гл. *скяпаць*.

**Ска́пач** ‘вілы (з двума зубамі) або крук для скідвання гною з воза’ (Янк. 3, Шатал.), *ска́пыч* ‘тс’ (Малч., Бяльк.), *ска́павіч* ‘тс’ (Бяльк.), *ско́пач* ‘тс’ (паст., Сл. ПЗБ), *скапа́ч* ‘тс’ (Касп.), *ско́піч* ‘тс’ (Мат. Гом.). Польск. дыял. *skopacz* ‘тс’. Ад *скапаць* < *капаць*. Параўн. *капач* (гл.).

**Скапе́ц**₁ ‘капец, месца захоўвання гародніны на зіму’ (Сцяшк., Скарбы, Жыв. сл., Нар. сл.), ‘куча бульбы’ (Янк. 1, Выг., Шатал.), ‘каморніцкі межавы насып’ (Янк. 1), ‘межавы курган’ (Нар. сл.) ‘невялікі земляны насып’ (Янк. 1), *скопе́ц, скопы́ц, скопэ́ц, скоўпэ́ц* ‘бурт’ (палес., Нар. сл.), *ско́пец, ско́пець* ‘яма для захоўвання бульбы’, ‘слупок, які аддзяляў надзелы зямлі’ (Сл. Брэс.). Дэрыват ад *скапаць* < *капаць*, паралельнае да *капец* (гл.) < *капаць*.

**Скапéц**$_2$ 'чалавек, які падвергся кастрацыі' (ТСБМ), 'кастрыраваны баран' (Касп.; ашм., шчуч., шальч., гродз., Сл. ПЗБ; ЛА, 1), *скоп* 'тс' (іўеў., Сл. ПЗБ). Укр. *скопéць* 'вылегчаны баран; кастрыраваны чалавек', *скоп*, *скін* 'тс', рус. *скопéц* 'еўнух, кастрат', польск. *skop*, *skopek* 'вылегчаны баран', чэш. *skopec* 'тс', славац. *škop* 'баран', в.-луж., н.-луж. *skop*, палаб. *sküöp* 'тс', серб.-харв. *скóпац* 'кастрат; вылегчаны баран', славен. *skópəc* 'тс', балг. *скопéц*, макед. *скопец* 'кастрат, еўнух', ст.-слав. **скопьць**, сюды ж укр. *скопúти*, рус. *скопúть*, польск. *skopić*, чэш. *skopiti*, славен. *skopíti*, балг. *скопя́*, макед. *скопи*, ст.-слав. **скопити**. Прасл. *skopъ*, *skopьcь*. Роднасныя літ. *skõpti* 'выразаць што-небудзь', лат. *šķẽps* 'кап'ё', *šķepele* 'абломак', грэч. σκάπτω 'рыю, сяку', таксама ц.-слав. *сцапъ* 'палка' < *skěpъ*. Гл. Фасмер, 3, 650; Покарны, 931 і наст.; Брукнер, 494; Махэк$_2$, 547; Шустар-Шэўц, 1294. Формы без *s*-: грэч. κόπτω 'б'ю, рублю', лац. *cāpō* 'каплун', *capulō, -āre* 'расколваць' (Траўтман, 262; Сной$_1$, 574; БЕР, 6, 778). Борысь (552) *skopъ* утварае ад прасл. *skopiti*, якое як і паралелі ад і.-е. кораня *(s)kep-/*(s)kap- маюць значэнне 'рэзаць вострай прыладай'.

**Скапéць** *(skapieć)* 'сціснуцца, зменшыцца, захірэць, згінуць': *skapièй, jak skvarka* (Федар. 4). Параўн. польск. *skapieć*, *skapać* 'змарнець, апасці, згінуць'. Да прасл. *kapěti, якое Трубачоў (ЭССЯ, 9, 146) рэканструюе на падставе польск. *kapieć* 'змяншацца, скарачацца, убываць, прападаць, чэзнуць', што суадносіцца з *kapati (гл. *кáпаць*). Сюды ж адпаведныя балг. *скáпя* 'згніць, распасціся', дыял. *скáпа* 'данасіць адзенне, парваць', макед. *скапе* 'згінуць, распасціся; загінуць, прапасці', серб.-харв. *skȁpati* 'згінуць, загінуць', славац. *skapat'* 'згінуць, здохнуць, знікнуць', укр. *скáпáтися* 'знікаць, гінуць' (лічыцца запазычаннем з польскай ці славацкай, гл. ЕСУМ, 5, 265). Развіццё значэння 'капаць', 'ападаць, выцякаць кропля за кропляй' (Брукнер, 217). Пра перыферыйнасць слова на Беларусі сведчыць замена выразу *skapièй, jak skvarka* выразам *skipièй, jak skvarka* (Федар. 4), што адлюстроўваюць спосаб спажывання сала на Палессі, параўн. *плескáць сало на рожнý на огнé – дзéржыць лýсту хлéба і кáпае тым сáлом* (ТС).

***Скапсанéць**, *скапсаніты* 'стаць драхлым, змарнавацца, састарыцца' (драг., З нар. сл.), *скапцаніéті* 'тс' (беласт., Сл. ПЗБ). Укр. *скапцаніты* 'збяднець (аб яўрэях)', польск. *korpconieć*, *kopsonieć* 'марнавацца, станавіцца ўбогім, бяднець'. Да *капцан* (гл.). Не



выключана і запазычанне польскага дзеяслова. Да праблематыкі паходжання слоў гл. Слаўскі, 2, 51.

**Скапузавáць** (*скапузувáці*) 'умець паставіцца да каго-небудзь' (гродз., Сл. ПЗБ). Да *капуза* (гл.), г. зн. 'падыйсці, зняўшы капузу, і паказаць тым самым пашану' або кантамінацыя *скапавáць* 'зразумець', якое да *капаваць* (гл.) і *капуза*.

**Скапýрыцца** 'памерці' (Сцяшк. Сл.). Гл. *скапэрацiся*.

***Скáпýсціцца**, *скáпýстытыся* 'змарнець, здаць ад старасці' (брэсц., Нар. лекс., Сл. Брэс.). Адносна рус. дыял. *скапýститься* 'схібіць, сканфузіцца' Фасмер (3, 633) мяркуе, што, магчыма, з *скапутиться* (гл. *скапуціцца*) або *сконфузиться* і набліжана да *капýста*. Хутчэй, да *скапець* (гл.) або *кáпасць* (гл. *капасны*).

**Скапýціцца** 'памерці' (ТСБМ, ТС, Варл.). Рус. калуж., маск. *скапýтиться* 'нечакана і моцна захварэць'. Ад *капут* (гл.), што з ням. *kaput* 'канец; смерць'.

**Скапы́ціць** 'стаптаць капытамі' (Нар. лекс.), *скапы́таваць* 'тс' (Варл.), *скапы́ціцца* 'спатыкнуцца' (ТСБМ, Нас., Шат., Гарэц., Юрч., Варл., Сцяшк., Жд. 2, Бяльк.), 'памерці, здохнуць' (Шат., Касп., Байк. і Некр.), 'памыліцца' (ТСБМ, Янк. Мат.), 'скасіцца, сказіцца' (Бяльк.), *скапýціцца*, *скопýціцца* 'памерці, здохнуць' (ТС). Рус. *скопы́тить* 'стаптаць капытамі, збіць', *скопы́титься* 'зваліцца ад стомленасці, хваробы; памерці', польск. *skopycić się* 'дастаць хваробу капыта (аб кані)', 'спатыкнуцца, памыліцца'. Да *капыта* (гл.); для значэння 'памерці, здохнуць' нельга выключыць уплыў папярэдняга слова.

**Скапэрáціся** *(скапэратісе)* 'памерці' (беласт., Сл. ПЗБ). *скапарэ́ць* 'змерзнуць, закачанець', *скапýрыцца* 'памерці' (Сцяшк. Сл.). Сюды ж, відаць, укр. *скапáрúтися* 'знікнуць, прапасці' (няяснага паходжання; гл. ЕСУМ, 5, 265). Няясна. У Сл. ПЗБ (4, 438) параўноўваецца з літ. *nusikaparaóti* 'памерці'. Гарачава (Этимология–1985, 63–64) узводзіць да *kopyrěti (адсутнічае ў ЭССЯ, 9) з развіццём семантыкі 'змерзнуць' → 'памерці'. Хутчэй да шырокавядомага ідышызму *капорэ* (гл. *капора*$_2$), што з ідыш *kapóres*, *kapures* 'канец, пагібель, капут', першапачаткова з герм. *kappārā* 'пакутная ахвяра' (гл. Штэрн, Wörterbuch, 106; ЕСУМ, 2, 369, 378).

**Скапэ́рдзіцца** 'памерці, прапасці' (Касп.), *скапы́рдзіцца* 'тс' (Бяльк., Юрч. Вытв., Сцяшк. Сл.), *скапýрсціцца* 'тс' (Пан. дыс.). Няясна. Гарачава (Этимология–1985, 63) далучае сюды рус. кра-

снаяр. *закопу́рдиться* 'памерці' і канстатуе экспрэсіўны характар устаўнога *-д-*. У такім выпадку да папярэдняга слова (гл.). Лабко (Бел.-польск. ізал., 69) звязвае з польск. *kopyrtnąć* 'памерці, выцягнуць ногі' з развіццём семантыкі 'перавярнуць(-цца)' → 'памерці' (аб семантыцы падрабязна гл. Толстой, Язык и народная культура, М., 1995, 213–222). Здагадка, выказаная Гарачавай (там жа), пра першапачатковае значэнне *'сковырнуться' і сувязь з асновай **kopor-/kopyr-* застаецца недастаткова аргументаванай. Семантычна беларускія словы, відаць, скантамінаваны з *скапуціцца, скапыціцца, скапусціцца* (гл.).

**Скаравада́**. Гл. *скаварада*.

**Скарага́чыць**, *скараўачуць жабы* 'аб кваканні жаб' (лун., ДАБМ, камент., 895), *скарга́чыць*: *скарга́ крычыць, скарга́чыць* (ТС). Параўн. рус. кур. *скаргы́кать* 'скрэсці, шаркаць нагамі', якое Фасмер (3, 633) лічыць гукапераймальным. Гл. *скергатаць*.

**Скарада́$_1$** 'скарадзьба, баранаванне' (Касп.), 'барана' (Ласт., Байк. і Некр.), 'барана з устаўнымі зубамі', перан. 'упартасць, маральная няўстойлівасць' (Нік. Очерки). Рус. дыял. *скорода́* 'барана'. У апошнім значэнні прасл. **skorda*, дэрыват з суф. *-a* ад прасл. **skorditi* 'баранаваць'. Мяркулава (Этимология–1973, 55) у якасці паралелі падае ўкр. гуц. *коро́да* 'моцна сукаватае дрэва', якое магло служыць прымітыўнай баранай. Гл. *скарадзіць* і наступнае слова.

**Скарада́$_2$** 'усходы, асенняя рунь' (Ян., Шатал.), 'вясновыя ўсходы яравых' (Яшк.), 'усходы' (Ян., усх.-палес., Выг., Пятк. 1), *скарадзі́цца* 'налівацца' (Шатал.), *скарадзе́ць* 'зелянець' (Пятк. 1), *скородытысь* 'усходзіць' (палес., Выг.). Укр. палес. *скорода́* 'ўсходы пасеваў, рунь'. Да *скарадзіць* (гл.), што да і.-е. **(s)ker-* з *-d-*расшыральнікам; гл. Мяркулава, Этимология–1973, 55. Архаічны семантычны дыялектызм. Параўн. аднак славен. *skráda* 'пшаніца, Triticum repens', што дае падставы для рэканструкцыі прасл. **skorda* 'штосьці калючае, завостранае' (Сной у Бязлай, 3, 247).

**Скарада́$_3$** 'цыбуля-скарада, Allium schoenoprasum L.' (Кіс.). Укр. дыял. *скорода́* 'цыбуля, Allium angulosum L.', рус. *скорода́* 'палявыя дзікія цыбуля або часнок', дан. *ско́рда* 'часнок'. Запазычанне з грэч. σκόροδον, σκορδον 'часнок', роднаснага алб. *hurdhë* 'тс' (ЕСУМ, 5, 282; Міклашыч, 303; Фасмер, 3, 652). Гл. таксама Мяркулава (Очерки, 133) з некаторымі сумненнямі адносна ўкраінскіх назваў. Параўн. наступнае слова (гл.).



**Скарада$_4$** 'асака, Carex L.' (Інстр. 2), 'асака пальчатая, Carex digitata L.' (маг., Кіс.), *скаро́да* 'тс' (Касп.). Укр. *скоро́да* 'асака'. Відаць, этымалагічна тое ж, што і *скарада$_{1,2}$* (гл.). Да семантыкі параўн. іншыя назвы, як *целарэз* і рус. том., кемер. *реза́чка* (да *рэзаць*, гл.). Але не выключаны і перанос назвы з дзікай цыбулі (гл. папярэдняе слова) з прычыны падабенства – вострае вузкае лісце. Паводле Сноя (Бязлай, 3, 247), усе назвы раслін з такімі характарыстыкамі, параўн. серб. *скрада* 'ажына, сітніца, Luzula silvatica', укр. бойк. *ско́род* 'від высокай травы', славен. *skrada, škrada* 'пшаніца, Tritium repens', як і *скарада* 'барана', узыходзяць да прасл. **skorda* 'штосьці калючае, завостранае', што ўяўляе nomen agentis ад дзеяслова, прадстаўленага ў літ. *skerͅsti* 'забіваць жывёліну, калоць', *skardýti* 'тс', лат. *šk̦ḗrst* 'расколваць; вязаць' < і.-е. **(s)ker-d-* 'рэзаць, калоць', у тым ліку ад той жа асновы і грэч. σχόρ(ο)δον 'часнок'.

**Скарада́$_5$** 'панікніца, Geum L.' (Бяльк.). Няясна. Фармальна да папярэдняга, але аснова намінацыі няясная. Магчыма, перанос са *скарада$_1$*, параўн. іншыя назвы розных відаў гэтай расліны: маг. *грабелькі*, рус. *гребник*, укр. *гребенник* (Аненкаў, 157), калі апошнія не сапсаваныя заходнеславянскія назвы, параўн. чэш. *hrebičková bylina* 'гваздзіковае зелле', таму што сухі корань яе мае пах гваздзікоў; чэшская назва з'яўляецца ўласна перакладам грэчаскай назвы расліны, гл. Махэк, Jména, 106.

**Скарадзі́ць** 'разрыхляць бараной зямлю', 'пакідаць баразну, след' (ТСБМ, Нас., Яруш., Гарэц., Др.-Падб., Байк. і Некр., Касп., Бяльк., Янк. 1, Растарг., Юрч.), *скаро́дзіць* 'тс' (Шымк. Собр., Ласт., Шат., Гарэц., Варл., Сцяшк., Байк. і Некр.), *скородэ́тэ* 'тс' (кам., Сл. ПЗБ). Укр. *скоро́дити*, рус. зах. і паўд. *скороди́ть*, польск. *skródlić* 'тс'. Звязана чаргаваннем з рус. царк. *оскорд* 'вялікая сякера', ст.-слав. **оскрѣдъ** 'матыка'. Прасл. **skorditi*. Паралелі ў літ. *skardýti* 'разрываць (зямлю), здрабняць', лат. *skàrdit* 'таўчы, здрабняць, крышыць', літ. *skerͅsti* 'калоць (свіней)', лат. *šk̦ḗrst* 'расколваць, разразаць (аб тушы)', ст.-прус. *skurdis* 'кірка, матыка', ст.-англ. *sceort* 'кароткі', англ. *short* 'тс', с.-в.-ням. *scherze* 'абрэзак, скіба'. Балтаславянскі корань **skerd-* (**skird-* літ.), **skurd-* > **skord* (Фрэнкель, 802; Махэк$_2$, 421), далей да і.-е. **sker-* 'рэзаць' з *-d-*расшыральнікам, гл. Мяркулава, Этимология–1973, 55. Гл. яшчэ Фасмер, 3, 652; ЕСУМ, 5, 282.

**Скáрадзь**, *скарадá* ‘жмінда, скнара’ (Касп.), *скарэ́да* ‘тс’ (Сержп., Растарг.), *скáріда* ‘нягодны; сквалыга’ (Бяльк.), ст.-бел. *скаредный* ‘агідны, брыдкі’, ‘благі, кепскі’ (Ст.-бел. лексікон). Параўн. укр. дыял. *скáрідь* ‘погань’, рус. *скáред, скáреда* ‘сквапны, сквалыга’, польск. *szkarada* ‘брыда’, чэш. *škareda* ‘пачвара’, славац. *škaredý* ‘агідны, брыдкі’, в.-луж. *škerjeda* ‘бруд, гідота’, н.-луж. *škarjeda* ‘тс’, серб.-харв. *скȁредан* ‘брыдкі, непрыстойны’, балг. *скарéден* ‘эканомны, скупы’, радоп. *скáрадлиф* ‘лютаежлівы, капрызны ў ядзе’, макед. *скареден* ‘непрыстойны’, ст.-слав. скарадъ ‘брудны, агідны’, якія працягваюць прасл. **skarędъ*; апошняе мае паралелі ў ст.-інд. *ava-skaras* ‘экскрэменты’, *apa-skaraḥ* ‘тс’, ст.-ісл. *skarn* н. р. ‘гной’, ‘памёт’, лац. *mūskerda* ‘мышыны кал’ і г. д. Іншыя версіі і літ-ру гл. Фасмер, 3, 634; Глухак, 553; БЕР, 6, 729; ЕСУМ, 5, 266 (*скарéда* ‘скнара’ лічыцца русізмам). Сумніўна Жураўскі (Гіст. лекс., 92), які ст.-бел. *скаредный* ‘агідны, брыдкі’ лічыць паланізмам пры наяўнасці стараж.-рус. *скарадъ, скарѣдъ* ‘агідны’, серб.-ц.-слав. *скарѣдъ* ‘тс’. Гл. таксама *шкарадзь*. Магчыма, сюды ж *карадлівы* ‘чуллівы, крыўдлівы’ (Нас.), асабліва *карáдзіцца* (гл.), сярод значэнняў якога ‘прыкідвацца бедным, сквалыжнічаць’. Гл. Мяркулава, Этимология–1973, 56.

**Скарáза** ‘свавольнік, гарэза’ (шчуч., Сл. ПЗБ). Гл. *кароза.*

**Скаракóл** ‘дзве ніткі, скручаныя ў адну’ (Жд. 2). Казлова (Этимология–1982, 51) параўноўвае з балг. *крачóл* ‘калашына’, дыял. *кракéл* ‘крук, кручок’, макед. *кракел* ‘крук’, в.-луж. *kročel* ‘крок’, на падставе якіх ўзнаўляецца прасл. **(s)korkъlъ*/**(s)korčьlъ*, дэрываты прасл. **(s)korkъ*, што з семантычнага боку недастаткова абгрунтавана. Параўн. *карачкі* і *карачун* (гл.).

**Скаралю́па**, *скаралю́піна* ‘шалупайка’ (шчуч., беласт., Сл. ПЗБ). Кантамінацыя *скаралюшча* і *лупіць* (гл.), параўн. укр. *шкарлýпа* ‘тс’.

**Скаралю́шча** ‘шкарлупіна яйка’ (Сцяшк.; маст., гродз., Сл. ПЗБ, Жыв. сл., Скарбы), *скаралю́шчына* ‘тс’ (Сцяшк., Шатал.), ‘створка ракавіны малюска’ (ТС), *скаралю́шчо* ‘шкарлупіна яйка’ (Сцяшк., Сцяц.), *скаралю́шка, шкаралю́шка*, мн. л. *скаралю́шчэ* ‘ракавіна малюска’ (ТС), *скаралýшча* ‘ракавіна бяззубак і слімакоў’ (ашм., Стан.), *скаралýшчачка* ‘ракавіна’, ‘хіцінавае покрыва жука’ (смарг., Сл. ПЗБ), *скалярýшчына* ‘лушпіна ад яйка’ (Жд. 1), *скалярýшчыны* ‘лупіны ад яек’ (стаўб., Сл. нар. фраз.). Параўн. укр. *шкаралýща* ‘шкарлупіна, скура, кара’, ст.-рус. *скоролуща*



‘лупіна, шалупайка’, рус.-ц.-слав. *скралуща* ‘тс’, славен. *škraljušt* ‘смятанка’, макед. дыял. *skrál’uš, скърлушина* ‘луска ад рыбы’. Да прасл. **skor-* (гл. *скорка*) і **lušča*: *луска, лушчыць* (гл.); Праабражэнскі, 2, 308; Брандт, РФВ, 24, 175; Мацэнаўэр, LF, 20, 19 і наст.; Фасмер, 3, 652; Бязлай, 3, 247 (вынік кантамінацыі **skor-upa*, **skor-pa* і пад. з **luščiti*); ЭССЯ, 11, 90 (рэканструюецца форма без рухомага *s-* прасл. **korlušča* < **kora* + **luščiti*).

**Скарамя́га**, *скарамя́ка* ‘скаромнік, той, хто ў пост есць скаромнае’ (Нас., Шат.), *skaramiáka* ‘хто крадзе скаромнае’ (Варл.). Да *скóрам* (гл.) з экспр. суф. *-яг(а)*, *-як(а)*, якія ўтвараюць назвы асоб агульнага роду, аб якіх гл. Сцяцко, Афікс. наз., 130, 132.

**Скараніць** ‘абняславіць’ (глыб., чэрв., карэліц., слонім., Сл. ПЗБ), *скарáніць* ‘тс’ (карэліц., Весці АН БССР, 1969, 4, 131). Арашонкава і інш. (там жа) параўноўваюць з літ. *ker̃noti* ‘сварыцца, лаяць’, што не зусім добра дапасуецца фанетычна. У якасці крыніцы магло б разглядацца яшчэ ўсх.-літ. *kìrinti* ‘дражніць, гаварыць з’едліва’, лат. *karinât* ‘дражніць, злаваць’, роднасныя *карыць* (гл.), гл. Фрэнкель, 644. Сюды ж і *скараніʹшчыць* ‘тс’, ‘аблаяць, зняславіць’ (Сцяшк. Сл.), якое было скантамінавана са *зніщчыць*.

**Скарáч** ‘ручнік (з доўгімі махрамі)’ (ТСБМ; гродз., Шн. 1; Выг., Сл. Брэс.), ‘ручнік з апошняга куска палатна, якое выткана на канцах з “анучамі”’, г. зн. з ніткамі, якія недатканыя і звіваюцца ў шнуркі (гродз., Шн. 3; Сл. Брэс., Уладз.; астрав., смарг., воран., навагр., іўеў., лід., трак., шальч., Сл. ПЗБ), ‘кухонны ручнік, брудная ануча’ (трак., Сл. ПЗБ; Шатал., Сцяшк., Інстр. 1), ‘абрус’ (Жд. 1, Скарбы), ‘абрус, якім накрываюць хлебную дзяжу’ (Жд. 2), ‘тоўстае палатно’ (Кольб.), сюды ж перан. ‘брудны чалавек; хто выпэцканы’ (шчуч., трак., свісл., Сл. ПЗБ), *скарáчка* ‘кужэльны ручнік’ (Сцяшк. Сл.), *скарáчык* памянш. (ваўк., Сл. ПЗБ); слова вядома яшчэ ў пагранічных польскіх гаворках: *skaracz* ‘ручнік з кутасамі на канцах’, *skarińis* ‘такі ручнік, ануча, кухонны ручнік’. Хутчэй за ўсё, літуанізм. Урбуціс (Baltistica, VI (2), 152) узводзіць да літ. дыял. *skarínis* (*skarinys*) ‘ручнік’ з субстытуцыяй суф. *-inis* (*-inys*) слав. *-ач* або да *skar̃čius* ‘ручнік, сурвэтка’. Аднак Лаўчутэ (Балтизмы, 38) дапускае магчымасць адваротнага запазычання *skar̃čius* з беларускай у літоўскую і ў гэтым выпадку імавернай крыніцай запазычання лічыць літ. *skarà* ‘вялікая хустка’. Аналагічна Цы-

хун, Лекс. балтызмы, 53. Да лінгвагеаграфіі гл. яшчэ Непакупны (Связи, 195), які бачыць працяг слова ў палескай форме з метатэзай *роскáч* 'тс' (хутчэй, да *рáсы* 'махры, растрапаныя канцы, акраўкі' (ТС), гл. *раса₂*). У сувязі з недастатковай аргументаванасцю балтыйскай этымалогіі цікавымі падаюцца спробы звязаць слова з серб.-харв. дыял. *škora* 'вузел, пятля', *skȍrak* 'тс', польск. дыял. *skory* 'вузлікі на моцна скручаным шнурку', што паводле асноўнай прыкметы 'апошні кавалак палатна з заплеценымі ў вузлы канцамі асновы' дазваляе рэканструяваць зыходнае **skora* 'вузялок, пятля', што да і.-е. **sker-* 'круціць, скручваць', якое можна разглядаць як раннюю праславянскую інавацыю, выцесненую амонімам **skora* 'кара, шалупайка, шкарлупа, скура', гл. *скорка* (Борысь, Czak. stud., 83–85). У народнай мове захоўваецца сувязь з *скарáць* 'пакараць', паколькі *скарачом* каралі малых дзяцей за непаслухмянасць (Цых.).

**Скарб** 'казна; скарб; маёмасць; багацце' (ТСБМ, Нас., Шымк. Собр., Байк. і Некр., Варл., Сл. ПЗБ, Гарэц., Др.-Падб., Касп., Сцяшк.), 'схаваныя каштоўнасці' (Сл. ПЗБ), *скáрба* 'казна' (Шпіл.). Запазычанне з польск. *skarb* 'тс', таксама як і рус. *скарб*; гл. Кюнэ, Poln., 96; Фасмер, 3, 633; Праабражэнскі, 2, 294. Польскае слова ўзыходзіць да ст.-в.-ням. *scerf*, нов.-в.-ням. *scher(p)f* 'манета' (Міклашыч, 298; Праабражэнскі, там жа), якія звязаны з ст.-в.-ням. *scarbôn* 'рабіць надрэзы' і першапачаткова азначала манету з зубчастым краем (Клюге–Гётце, 514; Праабражэнскі, там жа). Ст.-бел. *скарбъ* з ст.-польск. *skarb* (Булыка, Лекс. запазыч., 299). З польск. таксама *скарбóвы(й)* 'казённы' (Нас., Касп.), 'дзяржаўны або грамадскі' (Варл.), *скáрбніца* 'сховішча' (Байк. і Некр.), *скарбнíца* 'будынак, дзе захоўваюць грошы ў гатоўцы' (Ласт.); гл. Кюнэ, там жа.

**Скарбарыха** 'ажына шызая, Rubus caegius L.' (Кіс.). Няясна. Параўн. яшчэ *цербалін* (гл.).

**Скарбéжыцца** (*скорбéжыцца*) 'скруціцца ў скруткі' (ТС). Да *карбéж* 'рубец, засечка, зарубка, штрых' (ТС); гл. *карб*.

**Скáрбец** 'скрынка для захавання грошай (асабліва царкоўных)' (Нас.), *скарбéц* 'тс' (Байк. і Некр.), 'капліца з магільнымі склепамі' (Сцяшк.). З польск. *skárbiec* 'памяшканне для захавання грошай, кладоўка' (Кюнэ, Poln., 96). Ст.-бел. *скарбець* з ст.-польск. *skarbiec*; гл. Булыка, Запазыч., 299. Сюды ж, відаць, *скáрбец* 'жывёлагадоўчая ферма' (Сл. рэг. лекс.) – з незразумелай матывацыяй (для "грамадскай" жывёлы?).



**Скáрбнік** 'захавальнік або распарадчык скарбу, казны' (Гарэц., Байк. і Некр.), 'прызначаная асоба для збору і захавання фінансавых сродкаў' (Ласт.), 'кладаўшчык' (Барад.). З польск. *skarbnik* < *skarb* 'скарб'; гл. Кюнэ, Poln., 96.

**Скарбóнка** 'скрыначка для збору царкоўнай міласціны', 'скрыначка, бляшанка з вузкай шчылінай для збірання, назапашвання грошай' (Нас., ТСБМ, Гарэц., Др.-Падб., Байк. і Некр., Бяльк.), *скорбóнка* 'тс' (ТС), *скарбёнка* 'тс' (Шат., Касп., Барад.). Запазычанне з польск. *skarbona, skarbonka* 'тс'; гл. Кюнэ, Poln., 96. У аснове польскага слова ляжыць ст.-польск. *karbona* 'царкоўная конаўка', запазычанае ў ст.-бел. *карбона* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 178), якое потым было скантамінавана з *скарб* (гл.). *Karbona* праз с.-лац. *corbona*, па адной версіі, было запазычана з грэч. καρβονας 'божыя грошы' (Міклашыч, 288) або з гебр. *korbān* 'ахвярны дар' (Борысь, 550).

**Скарбóўка** 'будка, дзе захоўваецца ўвесь скарб плытагонаў' (ТС). З *скарбóвы* < *скарб* (гл.) або змяненне *скарбонка* па актыўнай мадэлі назоўнікаў на *-оўка*.

**Скáрга** 'незадаволенасць, нараканне', 'заява аб непрымальных дзеяннях ці з'явах' (ТСБМ, Нас., Др.-Падб., Байк. і Некр., Сержп.), *скаргá* (Гарэц.), *скáрка* 'тс' (Мал.). Укр. *скáрга*, ст.-рус. (XIV ст.) *скарга* 'тс'. Ва ўсходнеславянскіх мовах запазычанне з польск. *skarga* з прычыны наяўнасці *-ар-* (Карскі, Белорусы, 146; Кюнэ, Poln., 96; Фасмер 3, 633). Этымалогію гл. *скардзіцца*. Ст.-бел. *скарга, скаркга* запазычана ўжо ў XIV ст. з ст.-польск. *skarga* (Булыка, Лекс. запазыч., 53).

**Скаргá₁** 'чапяла' (Сцяшк.). Не вельмі яснае слова, параўнальны матэрыял адсутнічае. Відаць, нейкая кантамінацыя з словам *качаргá* (гл.).

**Скаргá₂**, *скіргá* 'прыдзірлівая, з'едлівая асоба', 'скупы чалавек' (ТС), сюды ж *скорганýць* 'злосна сказаць' (там жа). Гл. *карга*.

**Скáрдзіцца** 'выказваць незадавальненне', 'падаваць скаргу' (ТСБМ, Байк. і Некр., Касп.), *скáрдзіць* (Др.-Падб.), *скáржыцца* (Нас., Гарэц., Байк. і Некр., Сержп. Прымхі). З польск. *skarżyć (się)* (гл. Кюнэ, Poln., 96; Фасмер, 3, 633), адкуль зваротнай дэрывацыяй *скáрга*. Польскі дзеяслоў разам з в.-луж. *skoržić* 'скардзіцца', н.-луж. *skjaržyś* 'тс' тлумачыцца як запазычанне ў заходнеславянскія мовы з ням. бавар. *schergen* 'абвінавачваць, скардзіцца',

што не бярэцца пад увагу пры разглядзе серба-лужыцкіх слоў, гл. Шустар-Шэўц, 1296. Больш пераканальнымі здаюцца спробы вызначэння славянскага паходжання слова Ільінскага (ИОРЯС, 23, 2, 233), што параўноўваў з славен. *skŕgati* 'стракатаць', і Брукнера (493), які лічыў роднасным рус. *скрежет* і яго аднакаранёвым, а таксама Борыся (550), паводле якога гукаперайм альнае прасл. **skrъgati* 'скрэгаць', семантычна змянялася ад 'скрэгаць, ныць' да 'лямантаваць'. Беларускі матэрыял падмацоўвае апошнюю версію, параўн. *скорганyць*, *скірга*, *скарга* (гл.).

**Скарзá**, *скóрзік* 'вухачыстка' (Ласт.). Няясна, магчыма, гэта аўтарскі наватвор на базе *скрозь* (гл.) з метатэзай, параўн. *скорзьдóнне* 'бяздонне, прорва, апраметная' (Ласт.), калі гэта не памылка друку (параўн. у іншым месцы *скрозьдоная*). Іншая магчымасць – аддзеяслоўны назоўнік ад *скарзáцца* 'распушыцца' (смарг., Сл. ПЗБ), далейшыя сувязі якога няясныя; параўн. рус. *кóрзать* 'абрубаць сукі, знімаць кару', укр. *кóрзати* 'плясці, сцягваць', серб.-харв. *кр̏зати* 'сціраць, сточваць', славен. *kŕzati* 'рэзаць тупым нажом', на іншай ступені вакальнага чаргавання – *кéрзаць* (гл.), што да **kъrzati* (ЭССЯ, 9, 243; Фасмер, 2, 199, 327; ЕСУМ, 3, 17; Скок, 2, 217; Бязлай, 2, 105).

**Скарлýпка** 'лупінка' (лід., Сл. ПЗБ). Гл. *шкарлупіна*.

**Скарóжыць** 'сагнуць, зламаць' (Касп.), 'знявечыць' (Сцяшк. Сл.), 'скрывіць' (дзярж., Гіл.), 'паралізаваць' (шчуч., ваўк., Сл. ПЗБ). Да *карóжыцца* 'рабіць сутаргавыя рухі' (гл.), *карэ́жыць* 'гнуць, ламаць, выварочваць з коранем' (Стан.), *карэжыцца* (гл.).

***Скароздра**, *скорóздра* 'скараспелы плод' (беласт., Сл. ПЗБ). Укр. *скорóздра* 'скараспелка', *скорóздря* 'ранні авёс'. Складанае слова, утворанае ад *скóра* 'хутка' ці *скóры* 'хуткі, ранні' і *зрадзіць* 'урадзіць' (Жд. 1) з перастаноўкай зычных, параўн. *зрадлíвы* 'ўраджайны'. Іншы варыянт – ад **zьrěti* 'спець' (гл. ЕСУМ, 5, 282) – дапускае ўстаўное *-д-*.

**Скарóмны** 'паводле рэлігійных прадпісанняў – забаронены для яды ў час посту (пра мяса, сала, малако і пад.)' (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Др.-Падб., Сл. ПЗБ), *скарóмніна* 'скаромная ежа' (Касп., Варл., Шатал.), *скарóміна* 'тс' (Нар. сл., Сл. ПЗБ, Шатал.), *скарóмнае* 'тс' (Пятк. 2), *скорóмнэ* 'тс' (ТС, Сл. Брэс.), *скарамíнка* 'сала (кусочак) свіное' (Сцяшк. Сл., Скарбы), *скарóміць* 'запраўляць страву' (Сл. ПЗБ), *скарóміцца* 'есці скаромнае' (ТСБМ, Др.-Падб., Касп.). Да *скóрам* (гл.).



**Скарпáць** 'скалупаць' 'зрыць' (Байк. і Некр., Сл. ПЗБ), *скорпáць* 'скалупнуць' (ТС). Гл. *корпаць*.

**Скарпéткі** 'вязаныя пальчаткі' (віц., Шн. 3), *скарпэ́ткі*, *скурпэ́ткі* 'шкарпэткі' (Сл. рэг. лекс.). Гл. *шкарпэткі*.

**Скарпіён** 'ядавіты павук' (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк.), ст.-бел. *скоропей* 'тс'. Карскі (1, 257) прыводзіць склонавую форму слова з т. зв. другім поўнагалоссем ст.-бел. *скоропіамъ* (XVI ст.), для якой падае рэканструяваную аснову **skъr̥p-*. Запазычана з ст.-слав. **скоръпии**, што з грэч. σκορπίος 'тс' (Фасмер 3, 654). Сучаснае беларускае слова, відаць, з рускай мовы.

**Скарпунец** 'звязка?': *нізкі верасовых скарпунцоў* (ЛіМ, 1971, 19 лют.). Няясна (ад *скарпаць*?, гл.).

**Скарстýлі** 'свежаніна' (шальч., Сл. ПЗБ). Гл. *сквярста*.

**Скарýба**, *скорýпа* 'шарпак' (астрав., беласт., Сл. ПЗБ). Адносна семантыкі і распаўсюджання гл. Астроўскі, ABSl, 27, 126. Гл. *скарупа*.

**Скарýбак** 'скарынка, засохшы верх густога варыва' (Сцяшк.), *скарубóк* 'прыгарка' (паст., Сл. ПЗБ). Да *скарупа* (гл.) з дыялектным інтэрвакальным азванчэннем глухога зычнага.

**Скарýбка** 'кусочак сала' (Касп.). Відавочна, ад **skora* (гл. *скорка*) з суф. *-уб(к)а*. Да суфіксацыі гл. Сцяцко, Афікс. наз., 141. Не выключана метатэза з *скабурка* (гл.). Гл. *скарупа*.

**Скарýза** 'упарты, гарэза, свавольнік', *скарýзіцца* 'ўпарціцца, капрызіць' (Касп.). Гл. *каруза*.

**Скарýпа** 'шкарупа, струп' (Нас., Байк. і Некр.), 'шкарупіна' (Ласт.), *скорýпа* 'шарпак' (беласт., Сл. ПЗБ), *скарýба* 'тс' (там жа), *скарýпка* (Нас.), 'скурка, шкарлупка' (Ласт.), 'струпок' (Байк. і Некр.), *скарýпнуць* 'пакрывацца струпам; засыхаць, пакрывацца як бы карою (гаворыцца аб нечым мяккім)' (Нас., Байк. і Некр.), ст.-бел. *скорупа*, *шкорупа* 'чарапок' (Ст.-бел. лексікон). Гл. *шкарупа*, *шкарлупіна*. Ст.-бел. *скорупа*, *шкорупа* з ст.-польск. *skorupa*, гл. Булыка, Лекс. запазыч., 103; яшчэ раней такую думку выказаў Карскі (Белорусы, 149). Пытанне аб паходжанні слоў з *-б-* і *-п-* застаецца да канца не высветленым. Яны несумненна суадносяцца з прасл. **koruba*/**korupъ*. Трубачоў (ЭССЯ, 11, 105) на падставе *кóруп* 'скінутая гадзюкай ці вужом скура ў час лінькі' (шальч., Сл. ПЗБ) узнаўляе прасл. **korupъ*, на фоне якога формы з *-b-* разглядаюцца як другасныя, узнікшыя ў выніку азванчэння ("аслаб-

лення”) першапачатковага *-р-*, параўн. серб. *корўпина* ‘кара, кажура, шалупінне’, макед. *корупка* ‘скурка, кажура, шкарлупа’ і інш. У сувязі з гэтым пытанне аб запазычанні з польскай уяўляецца спрэчным, паколькі гэтыя словы ўзаемадзейнічаюць з блізкімі па семантыцы кантынуантамі прасл. **skorolupa* (гл. *шкарлупа*). Адсутнасць паўнагалосся Карскі (1, 255) тлумачыў недастаткова высветленымі акцэнтнымі прычынамі або пропускам ненаціскнога галоснага. Прасл. **skorupa* (побач з **skorupъ*, **skorъpa*) узнаўляецца на падставе ўкр. *шкорýпа* ‘цвёрдая скарынка на зямлі’, польск. *skorupa* ‘шкарлупіна, панцыр, чарапок, цвёрдая абалонка зямлі, шарпак’, чэш. дыял. *škorupa*, *škorapa* ‘тс’, славац. дыял. *skorupa*, *škorupa*, в.-луж. *skorpawa*, *škorpawa* ‘шалупіна, скурка, кара’, н.-луж. *škórpina* ‘тс’, серб.-харв. *скȍруп* ‘плёнка на гарачым малацэ’ (гл. Сной у Бязлай, 3, 246–247).

**Скарцавáцца** ‘скурчыцца, сагнуцца’ (Сцяшк.), ‘прымасціцца, прылегчы’ (стаўб., Жыв. сл.), *скарцавáць* ‘адолець, асіліць, кінуць скруціўшы, зламаўшы’ (Скарбы). Магчыма, да *карцець* (гл.), параўн. балг. *кърття* ‘выкарчоўваць, выломваць, разбіваць’, макед. *крти* ‘ламаць, разбураць’. Значэнне ‘адолець, асіліць’ з ‘падмяць (пад сябе), скруціць’. Па лінгвагеаграфічных і фанетычных прычынах можа разглядацца як запазычанне ці трансфармацыя польск. *skarcić* ‘паўстрымаць, пакараць, збэсціць’.

**Скарчэ́ць** ‘скарчанець’ (Шат.). Да *корч* (гл.).

**Скаршэ́ніцца**, *скаршнéць* ‘састарыцца, здрахлець’ (ігн., Сл. ПЗБ). Аўтары слоўніка выводзяць з літ. *káršti* ‘дажываць свой век’.

**Скары́нка** ‘цвёрды вонкавы слой хлеба, пірага і пад.’, ‘верхні зацвярдзелы слой чаго-небудзь’ (ТСБМ, Ласт., Шат., Гарэц., Касп., Стан., Бяльк., Мядзв., Варл., Пятк. 2, Др.-Падб., Байк. і Некр., Шн. 2, Сл. ПЗБ), *скоры́нка* ‘тс’ (пруж., Сл. ПЗБ), *скары́на* ‘тс’ (Нас.), сюды ж уласнае імя *Скары́на* (Стан.), ст.-бел. *скорина* ‘тс’ (XVII ст., Козыраў, Очерки, 155). Укр. *скорúна*, рус. смал., пск. *скорúнка* ‘тс’. Дэрыват з суф. *-ін(к)а* ад *скора* (гл. *скорка*) < **(s)kora* ‘кара, скура’, якое потым, відаць, было выціснута паланізмам *скура*. Суадносіцца з прасл. **korina*, гл. ЭССЯ, 11, 70.

**Скарэ́ніваць**, *скаранíць* ‘выкараніць; давесці да галечы’ (Нас.). Да *корань* (гл.). Аналагічна ў іншых славянскіх мовах: укр. *скоренúти*, рус. *искоренять*, чэш. *vykořeniti* і г. д. Узыходзіць да прасл. **jьzkoreniti*, гл. ЭССЯ, 9, 38.



**Скасавáць** ‘адмяніць, ліквідаваць’ (ТСБМ, Нас., Ласт., Байк. і Некр.), ‘ліквідаваць, знішчыць’ (Касп., Сл. ПЗБ, Бяльк., ТС). Да *касаваць* (гл.).

**Скасагóр**, *скасагóрыца* ‘пакаты бок гары’ (слаўг., Яшк.; шальч., Сл. ПЗБ). Гл. *касагор*.

**Скастры́ць$_1$** ‘вылегчаць, выкласці’ (Барад.). Магчыма, архаізм, што ўзыходзіць да прасл. **kostriti*, для якога Трубачоў (ЭССЯ, 11, 162) адмаўляе сувязь з балк.-лац. *castro* ‘рэзаць, пакладаць’, ці да **kostyrь* (да **kes-/*kos-* ‘рэзаць’, гл. БЕР, 2, 666). Ва ўсякім разе, можна дапусціць уплыў слоў, што ўзыходзяць да названых форм, на вытворнае ад русізма *кастрúровать* пры народным *пакладаць*, *лягчаць*. Гл. наступнае слова.

**Скастры́ць$_2$** (*skastryć*) ‘закінуць’ (Вяр.). Вярыга (там жа, 18) выводзіць з *кастрá* ‘кастрыца’ (< **kostra* з шырокім колам значэнняў, гл. ЭССЯ, 11, 158–159), заўважаючы, што ў “polaków litewskich” *kostro* ‘сажань, касцёр дроў, куча галля’. Семантыка паказвае на магчымую сувязь з **kostriti*, параўн. смал. *кастрúть* ‘рубаць дровы’ (Дабр.).

**Скасýрыцца** ‘паглядзець коса’ (Барад.), *скасы́руваць* ‘крыўдаваць; пляткарыць’, *скасы́рны* ‘незычлівы, нядобразычлівы’ (Ян.), сюды ж *скусорыцца* ‘коса глядзець на каго-небудзь’ (Шымк. Собр.). Да *скоса*, *коса* (гл. *касы*) з суфіксальным нарашчэннем *-ур-/-ыр-*, параўн. *касаýрыць* (гл.), дзе перад суфіксам з’яўляецца прыстаўное *-в-*, прыставачнае ўтварэнне *скасавýрыцца* ‘скасіцца, паглядзець скоса’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Бяльк.), ‘скасіць вочы; злавацца’ (Мат. Гом.).

**Скасцíць** ‘сапсаваць’ (Нас.), ‘вылаяць’ (Касп.). Гл. *касціць*.

**Скат$_1$** ‘камплект пярэдніх або задніх колаў’ (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Касп., Сцяшк., Маслен.), ‘вязанка лапцей’ (ПСл). Рус. *скат* ‘камплект чатырох колаў’. Да *скатаць*, аддзеяслоўнае ўтварэнне (Трубачоў, Дополн., 3, 635).

**Скат$_2$** ‘нахіл, схіл’ (ТСБМ, Бяльк., Др.-Падб., Яшк.). Этымалагічна тое ж, што і *скат$_1$*. Сюды ж *скáцісты* ‘пакаты, спадзісты’ (Сцяшк., З нар. сл.).

**Скáтка** ‘шынель, скручаны ў трубку і звязаны на канцах для нашэння цераз плячо’ (ТСБМ). З рус. *скáтка* ‘тс’ < *скатать* ‘скруціць’.

**Скаўгáніць** ‘абгаварыць каго-небудзь’ (слонім., Жыв. сл.), ‘неахайна зрабіць што-небудзь’: *каўган як зробіць ні так, ні сяк,*

*дык кажуць скаўганіў* (зэльв., Сл. ПЗБ). Ад *каўгáніць* 'рабіць кепска, абы-як' (карэліц., там жа) або *кóўган*, **каўгáн* 'галава; аб круглай вялікай галаве', гл. *калган*$_2$. У рус. гаворках, апрача асноўнага значэння 'гладыш', 'посуд рознай формы', азначае яшчэ 'тоўсты абрубак дрэва', 'цурбан', адкуль па распаўсюджанай мадэлі 'дурань, няўмека'. Гл. таксама *каўган*.

**Скаўпáсіць** (*скоўпáсіць*) 'абрабіць з большага, абы-як', *скоўпáчыць* 'паблытаць, пакалмаціць' (ТС). Да *каўпак* (гл.), у тым ліку 'старая ўкладка валасоў у жанчын (стажком)'. Параўн. тыпалагічную паралель: балг. *на калпáк* 'абы-як, так-сяк, любому (раздаваць)'.

**Скаўрóнак** 'жаваранак' (Сцяшк., Шатал.). З польск. *skowronek* 'тс'. Апошняе да прасл. **skovornъkъ*, параўн. рус. *сковорóнок*, укр. *шковорóнок*, якое ўзводзіцца да **skvorovorn(ъkъ)* і набліжаецца да *скварэц* (гл.) (Булахоўскі, ИАН ОЛЯ, 7, 117) або раскладаецца на прыстаўку *sko-* і **vornъ* (гл. *воран*), як мяркуе Брукнер, 496. Інакш Махэк$_1$ (450), які прапанаваў у якасці зыходнага гукапераймальнае *skvir-/skvor-*, пашыранае суфіксамі *-anъ/-onъ/-nъ*, што не пераконвае. Агляд форм і літ-ры гл. Фасмер, 3, 644; Борысь, 553; Антропаў, Назв. птиц, 358. Параўн. *жаваранак* (гл.).

**Скаўрэ́лы** 'закарэлы, заскарузлы' (Касп.). Як відаць з ілюстрацыі *не купляй скаўрэлага парасёнка*, гутарка, відавочна, ідзе не толькі аб закарэлым, але і аб худым, хілым парасяці. У такім выпадку тут, магчыма, кантамінацыя *карэлы* (гл.) і *чаўрэ́ць* 'станавіцца хілым, вянуць, сохнуць' (гл.), што дае **скаўрэць*, якое ўтворана з прыст. *с-* ад *карá* (гл.) г. зн. 'пакрыцца карой', перан. 'захірэць'.

**Скáцерць** 'абрус' (Тарн., Бяльк., Сцяшк.; лудз., Сл. ПЗБ; ДАБМ, камент., 925–929), *скáцерка, скацёрка, скáцерсць, скáцер* (Нас., Касп., Бяльк., ЛП, Пятк. 1, Рам. 5, Шатал., Ян., Юрч., Ян., Янк. Мат., Жд. 2, Сцяшк., Мат. Маг., ДАБМ, там жа). Спрадвечнасць слова ў беларускай мове бясспрэчная (ДАБМ, к. 325), але ў частцы гаворак, відаць, сучаснае пранікненне з рускай, параўн. "…скацер, а даўней абрус" (Сл. ПЗБ, 4, 443). Рус. *скáтерть, скáтерка, скатёрка*, стараж.-рус. *скатерть* (XII ст.). Звычайна тлумачыцца з усх.-слав. **дъскатьрть*, ад **дъска* 'стол' (гл. *дошка*) і *тьрть* < **terti* 'церці, адкуль пасля падзення рэдукаваных і спрашчэння групы



зычных атрымалася сучасная форма (Міклашыч, 353; Бернекер, 1, 246; Праабражэнскі, 2, 255; Фасмер, 3, 635), або як запазычанне з нова-в.-ням. дыял. *Scheter*, с.-в.-ням. *schëtter, schëter* 'тонкая баваўняная тканіна'; гл. Брандт, РФВ, 22, 114.

**Скацё** зборн. 'каровы' (мядз., Сл. ПЗБ). Ад *скот, скаціна* (гл.) з суф. зборнасці *-jo*, аднак на Лагойшчыне гэтая форма была ўспрынята як назоўнік н. р. *skació* 'адна штука статка', пры *skaciaty* 'статак' (Варл.). Параўн. таксама аднаўленне значэння зборнасці ў *скацёж, скацёжка* 'тс' (Ласт.).

**Скацíна** 'чатырохногая сельскагаспадарчая жывёла' (ТСБМ, Байк. і Некр.), 'свойская жывёла' (ЛА, 1; Нас., Касп., Бяльк., Сержп. Прык.), *скоцíна* 'жывёла', 'грубы, бяздушны чалавек' (ТС), *скот* 'тс' (Маш., Бяльк.; в.-дзв., лід., пух., Сл. ПЗБ; Ян.), *скацíна, скот* лаянк. 'погань, падла, хамула' (Ласт.). Ст.-бел. *скотина* (XVI ст., Скарына), *скоть кравїи и ѡвечьи* (Альтбаўэр); апошняе, паводле Мацкевіч і Грынавяцкене (ЖНС, 213), было карэлятам слова *быдло*, гл. Укр., рус. *скот, скотíна*, ст.-рус. *скотъ* 'скаціна; маёмасць', 'грошы, падатак', *скотьніца* 'казна', ст.-польск. *skot* 'скаціна', в.-луж., н.-луж. *skót* 'тс', чэш. *skot* 'буйная рагатая жывёла', серб.-харв. *ско̏т*, славен. *skòt* 'дзіцяня жывёліны, прыплод' і *skotína* 'гной, кал жывёлы', балг. *скот* 'скаціна', ст.-слав. **скотъ** 'скаціна, маёмасць, грошы; жывая істота'. Прасл. **skotъ*. Адна з асноўных версій – запазычанне з германскіх моў з прычыны адсутнасці, як лічылі, надзейных сувязей на славянскай глебе. Параўноўвалі з гоц. *skatts* 'манета', ст.-ісл. *stattz* 'падатак', ст.-сакс. *skot* 'манета; маёмасць', ст.-в.-ням. *scaz* 'манета', нова-в.-ням. *Schatz* 'скарб'; гл. Кіпарскі, Gemeinslav., 186 і наст.; Фасмер, 3, 655. Аднак германская лексічная група таксама не мае надзейнай этымалогіі; да таго ж славянскае слова захавала больш старое значэнне 'статак', у герм. толькі ст.-фрыз. *sket* 'грошы, статак', што дало падставы бачыць у германскіх мовах запазычанне з славянскага, гл., напр., Праабражэнскі, 2, 310; Брукнер, AfslPh, 23, 626; таксама Ільінскі (РФВ, 73, 283 і наст.), які звязваў **skotъ* чаргаваннем галосных з *шчацінне* (гл.). Супраць па фанетычных прычынах Фасмер (там жа) з-за немагчымасці вытлумачыць герм. *tt* у гэтым выпадку. Пераважаюць версіі славянскага паходжання: Мартынаў (Лекс. взаим., 183 і наст.: славянскае пранікненне ў прагерманскую); Жураўлёў (Этимология–1981, 38–44), Шустар-Шэўц (1297) – ад

**kotiti se* 'нараджаць (аб жывёлах)' з *s*-рухомым або прыставачным з развіццём значэння 'нараджаць (дзіцянят)' – 'дзіцяня' – 'маладая жывёліна' – 'скаціна'. Агляд версій гл. яшчэ Трубачоў, Происх., 99 і наст. Станкевіч (Зб. Унбегаўну, 222) прапанаваў вывядзенне **skotъ* < **skop-tъ*, што да **skopiti* (гл. *скапец₂*) і тлумачыць гемінацыю *t* у прагерманскім *skatta* 'статак, маёмасць'. Крытыку гэтай этымалогіі гл. Страхаў, Palaeoslavica, 13, 2, 18 ("сохранение узкой технической конкретики в обобщенном наименовании не представляется вероятным").

**Скацу́к** 'блыха' (Сцяшк.; карэліц., Шатал., ЛА, 1). Да *скака́ць, скочыць* з суф. *-ук*, які ўтварае назвы жывых істот паводле ўласцівага ім дзеяння (гл. Сцяцко, Афікс. наз., 78); *-ц-*, відаць, экспрэсіўнага паходжання або пад уплывам *пацук*.

**Скача́г** 'малы язь' (ТС). Паводле Усачовай (Слав. ихт. терм., 73), да *скакаць* (гл.), бо можа выскокваць з вады, параўн. рус. *лету́н* 'дробны лешч'; суф. *-аг* < *-ак*?

**Скачане́ць** 'адубець' (Сцяшк. Сл.). Да *кача́н* (гл.), г. зн. 'зрабіцца цвёрдым, як качан'. Цікавая паралель серб. косава-мятох. *скоча̄нӥт* 'змерзнуць'.

**Скачаро́жыцца** 'сагнуцца' (Юрч. Фраз. 1), *скучуры́жыцца* 'памерці, здохнуць' (Бяльк.). Да *качарга* (гл.), *качарэжка*.

**Скачо́к** 'конік (насякомае)' (Мат. Маг., Шымк. Собр.), 'жукдрывасек' (Бяльк.). Да *скакаць* (гл.), самастойныя ўтварэнні ў розных славянскіх мовах: рус. пск. *скачо́к* 'конік', балг. самак. *скачо́к* 'тс' і інш.

**Скачы́ха** 'блыха' (ТСБМ, Нар. словатв.). Да *скакаць, скочыць* з суф. *-ых(а)*. Параўн. *скакуха*.

**Скашавы** *(скашавый)* 'жартаўлівы' (Шымк. Собр.). Няясна.

**Скашалі́цца** 'збіцца, стоўпіцца' (Юрч.). Да *кашэль* (гл.).

**Сквалы́га** 'скнара, жмінда' (ТСБМ), 'скнара, ганебны скупец', *сквалы́жнік* 'тс', *сквалы́жны* 'скупы', *сквалы́жнічаць* 'быць скнарай' (Нік. Очерки). Рус. *сквалы́га* 'скнара, скупы', дыял. *скалы́га* 'тс', *сквиля́га* 'тс', укр. *сквиря́га* 'тс'. Зблiжаецца з рус. *скулить* 'скавытаць, ныць' (Трубачоў у Фасмер, 3, 636), што з улікам варыянтаў дазваляе ўзвесці да кораня **skval-/*skūl-/*skoul-*, якому роднасныя ст.-ісл. *skjol* 'укрыццё', с.-в.-ням. *schûlen* 'быць скрытным, таемнічаць', швед. *skyla*, нарв., дац. *skjule* 'прыкрываць, хаваць', што да і.-е. **(s)keu-* (Новое в рус. этим. 1, 209). Каламіец (ЕСУМ, 269) зблiжае ўкраінскае і рускае словы з гукаперайманьным укр. *скви́рити* 'плакаць, скавытаць', рус. *кви́литься* 'скардзіцца, нудзіцца'. Калі насуперак Новое в рус. этим. (208), што дапускае запазычанне слова з рускай мовы, лічыць яго ў беларускай мове арганічнай з'явай (пра што сведчыць фіксацыя Нікіфароўскім), то натуральным было б вывядзенне з *кволіцца* 'жаліцца на слабасць, ныць' (гл.), перан. 'прыкідвацца бедным', параўн. *скволе́ць* 'аслабець, зрабіцца слабым' (Нас.), да словаўтварэння параўн. *маталыга* (гл.). Зблiжэнне з рус. *шкулить* 'збіраць грошы тайна' (гл. *шкеліць*) і іншыя версіі (гл. Фасмер, 3, 636; Новое в рус. этим., 208–209) падаюцца неверагоднымі.

**Сква́па** 'прагнасць, зайздрасць, хцівасць' (Нас., Гарэц., Байк. і Некр., Бяльк.), *сквап* 'тс' (Нас.), *сква́пны* 'прагны' (ТСБМ, Ласт., Касп., Др.-Падб., Шат., Бяльк., Сл. ПЗБ, ЛА, 4), *сква́пін* 'тс' (Мат. Маг.), *сква́піцца* 'зайздросціць' (ТСБМ, Байк. і Некр., Жыв. сл., Інстр. 3). Укр. *сква́пний, скваплúвий* 'паспешлівы, таропкі', польск. *skwapliwy* 'паспешны, ахвотны'. Да *квапіць, квапны* (гл.). Зблiжэнне Насовіча (там жа) з літ. *skaugeti* 'зайздросціць' і меркаванне Карскага (Белорусы, 163) пра запазычанне з польск. *skwapa* нельга прызнаць аргументаванымі.

**Сква́ра** 'гарачыня, спёка' (Нас., Гарэц.), *сквар* 'тс' (Нас., Др.-Падб., Бяльк., Янк. БП), 'гарачыя вуголлі; гарачыня' (Сцяшк. Сл.). Укр. *сквар* 'спякота', *шква́ра* 'тс', рус. *сква́ра, шква́ра* 'агонь, гарэнне; вытапкі, выжаркі', стараж.-рус. *сквара* 'агонь, спёка; ахвярапрынашэнне; дым, чад', польск. *skwar, skwara* 'спёка', чэш. *škvár, škvára* 'акаліна', славац. *skvara* 'шлак', серб.-харв. *цква̏ра*, *сква̏ра* 'растопленае сала; мазь для валасоў з тлушчу', славен. *skvára* 'кропля тлушчу на паверхні вадкасці', ст.-слав. **сквара, скваръ** 'жар, агонь', 'чад, дым (ад ахвяры, якую спальваюць)', 'пах гарэлага мяса'. Прасл. **skvarъ, skvara*, нульсуфіксальны і з суф. *-a* дэрываты ад **skvariti* (гл. *скварыць*). Мяркулава (Этим. иссл., 2, 114–116) мяркуе, што значэнне 'спёка, спякота' ў беларускай і ўкраінскай мовах развілося пад польскім уплывам, што цяжка давесці, параўн. народную прыказку: *стар любіць сквар, а молад любіць холад* (Нас. Сб.), а першасным значэннем было 'спальванне ахвярнай жывёлы', прадстаўленае ў старaславянскіх і старажытнарускіх словах.

**Скварж**, *сквіржс* 'скручаная пятля на нітцы' (кам., кобр., ЛА, 5), *сквыржс* 'закрутка на нітках' (кобр., Ск. нар. мовы), *скваржі* 'скруткі на прадзенай нітцы' (Горбач, Зах.-пол. гов.). Хутчэй за ўсё, ад **vьrzti* (гл. *вярзці*), параўн. балг. *вържа* 'вязаць, рабіць вузел', з гіпатэтычнай прыстаўкай **sk(o)-*.

**Сква́рка**, *шква́рка* 'падсмажаны або звараны кусочак сала' (ТСБМ, Гарэц., Др.-Падб., Бяльк., Касп., Байк. і Некр., Сцяшк., Жд. 2, Шатал., Сл. ПЗБ, Нар. сл., ТС, ЛА, 4), 'скрылік сала; кавалак сала' (Сл. ПЗБ), *скваро́к* 'скварка' (Ян.). Укр. *шква́рка*, рус. *сква́рка*, *шква́рка*, *шкво́рка*, польск. *skwarka*, *skwarek*, в.-луж. *šwjerč* 'вытапкі', н.-луж. *šwark*, *škwark*, чэш. *škvarek* 'скваркі, вытапкі', славац. *škvarka* 'вытапкі'. Дэвербатыў ад *скварыць* (гл.) з суф. *-к(а)*. Карскі (Белорусы, 157) лічыў запазычаннем праз польск. *skwarek* з ням. *Schwarte* 'свіная шкурка; шкварка', на якое паўплывала *варъ*, *сквара* 'жар'.

**Сква́рыць** 'пячы, смаліць (пра летнюю спёку)' (Нас.), 'тс (пра моцны мароз)' (Шат.), 'пячы на агні (пра сала і пад.)', 'запраўляць скварaным салам' (ТСБМ, Нас., Др.-Падб., Байк. і Некр., Сл. ПЗБ, Сцяшк., ЛА, 4). Укр. *шква́рити*, польск. *skwarzyć* 'тс', чэш. *skvařiti* 'вытапліваць тлушч, скварыць', славац. *škvarit'* 'тушыць; пражыць'. Сюды ж рус.-ц.-слав. *раскврѣти* 'спражыць', ст.-чэш. *skvřieti sě* 'пражыцца, растопліваццa', в.-луж. *škřěć* 'плавіцца з шыпеннем', н.-луж. *škřěś* 'тс', славен. *cvréti* 'пражыць'. Прасл. **skvariti*, **skverti* 'растапліваць (на агні) (тлушч)', 'прыпякаць, смажыць'. Ізаляванае славянскае слова. Найбольш верагодным лічыцца гукапераймальнае паходжанне і супастаўленне з коранем **skvьr-* (гл. *скварэц*, *сквярціся*); гл. Праабражэнскі, 2, 296; Голуб–Копечны, 371. Мяркулава (Этим. иссл. 2, 114–116) збліжае з гукапераймальным **ščeverъ* 'дрэнны пах ад гарэлага', якое выводзіцца на падставе паўн.-рус. *ще́вер* 'дрэнны пах і трэск ад гарэлага', а першасным значэннем лічыць 'спальваць ахвярную жывёліну'. Роднасць з рус. *скве́рный* Праабражэнскі (там жа) і Фасмер (3, 636) лічаць сумніўнай. Махэк₂ (615) дапускае магчымасць паходжання слова ад кораня **ver-* 'варыць', а *sk-* лічыць мадыфікатарам кораня накшталт прыстаўкі *ко-*. Сной₁ (65) мяркуе аб роднасці са с.-н.-ням. *smoren* 'тушыць (ежу)' (адкуль ням. *schmoren* 'тс') і паходжанні ад і.-е. кораня **skĕu-* 'рэзаць' з уплывам значэння 'растапліваць (тлушч)'. Борысь (556) удакладняе, што



**skvariti* з'яўляецца каузатывам ад прасл. **skverti* 'тапіць, распускаць праз падагрэў, смажанне' з заменай каранёвага галоснага *е* → *о* і наступным падаўжэннем *о* → *а*.

**Сквaрэ́ц** 'шпак' (Бяльк., Бір. дыс., З нар. сл.). Укр. *скворе́ць*, рус. *скворе́ц*, польск. *skworzec*, ст.-польск. *skorzec*, каш. *skòrc*, в.-луж., н.-луж. *škorc*, славац. *škorec*, чэш. *skorec*, старое *skvorec*, *škvorec*, серб.-харв. *скво́рац*, *шкво́рак*, *чво́рак*, славен. *skvórəc*, *škórəc*, балг. *скоре́ц*, *скворе́ц*. Прасл. **skvorьсь*, дэрыват ад гукапераймальнага кораня **skver-/*skvor-* (гл. *сквярціся*), паколькі крык шпака нагадвае *skvär*; гл. Праабражэнскі, 2, 297; Булахоўскі, ИАН ОЛЯ, 7, 113; SEK, 4, 286; параўн. рус. *сверча́ть*, якое таксама гукапераймальнага паходжання. Параўнанне з рус. *ско́ворон* 'жаўранак' і рэканструкцыя **сковьрьць* (параўн. аднак макед. *сковран* 'шпак') адвяргаецца Фасмерам (3, 637). Гл. яшчэ Міклашыч, 305; Брукнер, 499; Махэк₂, 549; Скок, 3, 276; БЕР, 6, 738; Борысь, 553.

**Сквера́ч** 'івалга' (ТС). Да *сквярціся* (гл.).

**Скверашча́ць** 'туркацець, выдаваць траскучы гук' (Нас., Байк. і Некр.), *сквярашча́ць* 'капрызнічаць, плакаць' (Сцяшк.). Дзеяслоў суадносны з назоўнікам *сквера(с)т* 'крык жабы; лаянка' (Нас.), параўн. укр. *скве́ресть*, *скверещáти* 'тс', суфіксацыя характарызуе інтэнсіўнасць дзеяння, у аснове якога гукапераймальны корань **skvьr-*, гл. наступнае слова.

**Скве́рня** 'смурод, гразь, брыдота', *скверната́* 'нечыстота', *скверня́вый* 'брыдкі, гразны' (Нас.), *сквірна́*, мн. л. *сквярны́* 'нагар, бруд на кноце лямпы' (Варл.), ст.-бел. *скверныи* 'брудны' (Альтбаўэр). Укр. *скве́рна*, *скве́рний*, рус. царк. *скве́рна*; *скве́рный*, старaж.-рус. *скверна* 'агіднасць, брыдота', *скверьнъ* 'брыдкі', чэш., славац. *skvrna* 'пляма', славен. *skvȓna*, *skrȗna* 'агіднасць', ст.-слав. **скврьна**, **скврънa**. Прасл. **skvьrna*, **skvьrnъ*. Набліжэнне да рус. *скаред*, польск. *szkarada* 'агіднасць, брыдота', грэч. *σκῶρ*, *σκατός* 'гной, адкіды' на аснове блізкасці значэнняў Фасмер (3, 637) лічыць сумніўным з-за наяўнасці *-v-*. Сной₁ (576) выводзіць ад **skveriti* (гл. *скварыць*) 'растапліваць тлушч' з першасным значэннем 'замаслены, тлусты'. Паводле Махэка₂ (311), роднаснае з чэш. дыял., славац. *kvarit'*, укр. *ква́рити*, серб.-харв., славен. *kvariti* 'псаваць', што падтрымлівае Мяркулава (Этимология–1982, 43 і наст.), ўзнаўляючы прасл. **skvьrěti* 'гніць', якое сумесна з **skvьriti* утвараюць адно этымалагічнае гняздо.

**Скве́рыць** 'пячы (пра холад, мароз)' (Адм.). Да гукапераймальнага **skvьr-*, гл. *сквярціся* 'трашчаць, сычаць', параўн. *траскучы, трашчаць* (пра мароз), гл.

**Сквіл** 'пранізлівы крык, лямант' (Нас., Гарэц., Яруш., Байк. і Некр.), 'віск' (Юрч.), 'жаласны піск, лямант' (Др.-Падб.), *сквíла* 'спрэчка' (Нас.), *сквíліць* 'пішчэць пранізліва і жаласна' (Др.-Падб.). Гл. *кваліць*.

**Сквярста́**, *сквярсты́*, *свірста́*, *сквярсту́ля*, *сквірстуны́*, *сквярты́*, *скарсту́лі* 'частаванне з выпадку заколвання кабана', 'свежаніна' (Сл. ПЗБ). З літ. *skerstúves* 'тс' (там жа). Непакупны (Пр. бел. філ., 91) арэал слоў дэфінуе як браслаўска-ашмянскі і прыводзіць у якасці сiноніма *пагалоўшчына* 'тс'. Лаўчутэ (Балтизмы, 148) адносіць слова да балтызмаў, паходжанне якіх недастаткова аргументавана, што, відаць, было абумоўлена недахопам дыялектнага матэрыялу ў час укладання слоўніка.

**Сквярці́ся** 'верашчаць, трашчаць, стракатаць, сквірчэць', 'нудна плакаць, вішчаць, пішчаць' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Др.-Падб., Байк. і Некр., Шн. 3, Сл. ПЗБ): *скверыцца як рапуха, чого ён там скверыцца?* (Сержп. Прык.), *сквярэцца жывое мясо* (Сержп. Прымхі); *скверцíса, шкве́рціса* 'тс' (ТС), *сквірчэ́ць* 'тс' (ТСБМ, Ласт.); *saróka skwirczýć* (Пятк. 2), *сквірэ́ць, сквірчэ́ць* 'аб сале і марозе' (Шат.), *скве́рыцца* 'плакаць і капрызіць' (Шат.), 'слаба гарэць': *не гарыць, а скверэцца* (Сержп. Прык.), *скве́рсца* 'скварыцца (пра сала)', 'утвараць рэзкія гукі (пра жаб)', 'плакаць, хныкаць' (Юрч.), *жаба сквярэ́цца* (полац., ДАБМ, камент., 895), *скве́рцца* 'гаварыць рыпучым голасам' (Юрч. Вытв.), *скве́рцісі* 'капрызіць, плакаць' (кліч., Жыв. сл.). Укр. дыял. *сквири́тися* 'плакаць, пішчаць', *сквирча́ти* 'трашчаць, сычэць', рус. бранск. *скве́ртъся* 'плакаць пранізлівым голасам (аб дзіцяці)', смал. 'пранізліва пішчаць (пра птушак)', польск. *skwierczeć* 'трашчаць, стракатаць, пішчаць', славац. *skvrkat'* 'бурчаць (у жываце)', серб.-харв. *скв́рчати*. Іншая ступень чаргавання ў *скварэц* (гл.). Гукапераймальны корань *skvьr-* (Праабражэнскі, 2, 296; Фасмер, 3, 637), варыянт **skverk-* (Скок, 1, 284). Параўн. *скварыць* і *скверашчаць*.

**Скелз** 'адхон, скос' (Нас., Гарэц., Байк. і Некр.). Метатэза *е* і *л* у *склез* (гл.) або вычляненне назоўніка з прыслоўя польск. *skiełzem* 'крыва, у бок', якое ад ст.-польск. *skiełznąć się* 'выслізнуцца, саслізнуцца', параўн. Карскі, Белорусы, 149; Цвяткоў, Запіскі, 2, 1, 71.



Сюды ж *ске́лзы* 'цуглі' (Ласт.), *ске́лзаць* 'зацугляць' (Сцяшк. Сл.), вытворныя ад *ке́лзаць* (гл.), для якіх Карскі (Белорусы, 145) дапускаў вывядзенне з польск. *kieł* 'кол', што вельмі сумніўна. Польск. *kiełzać* 'слізгацца' роднаснае *коўзацца*, гл.

**Скем** 'двое козлаў для змацавання склееных дошак пры працы' (Шат.), *скем, шкем* 'лісіцы (сціскаючае прыстасаванне)' (ТС). Звязанае чаргаваннем галосных з *скамы* (гл.), што ўзыходзіць да **(s)koměti* 'ціснуць; балець, ныць' (Варбат, Этимология–1973, 28). Падрабязней гл. Цыхун, БЛ, 59, 116–118. Адносна праблематыкі захавання *ск* перад *е* гл. *скяпа́ць*. Сюды ж *ске́мка* 'палка, расшчэпленая на канцы, ляшчотка' (мядз., Нар. словатв.), *ске́мчык* 'станок для ткання паясоў' (іўеў., Сл. ПЗБ).

**Скемены́** 'зеў (у кроснах)' (ігн., Сл. ПЗБ). Паводле аўтараў слоўніка, з літ. *skiemenys* 'тс'.

**Ске́моцень** 'моцны мароз' (ТС). Да **скеміць* 'сціснуць, шчыпаць', параўн. укр. *скемíти* 'калоць, ныць, балець', рус. *скоми́ть* 'балець, ныць, шчаміць', роднасным да *аскома* і *шчаміць* (гл.). Параўн. *скем* (гл.).

**Скеп** 'жэрдка ў плоце' (Сцяшк. Сл.). Аддзеяслоўны дэрыват ад *скяпаць* (гл.) з нулявым афіксам.

**Скепаць**. Гл. *скяпаць*.

**Скепíна** 'шчыліна' (Нас., Гарэц.). Да *скяпаць* (гл.). Польск. *skiepina* з беларускай (Варш. сл.). Параўн. *ске́пка*.

**Ске́піць**. Гл. *скяпаць*.

**Ске́пка** 'лучынка, трэска, аскалёпак' (Шат.; маз., Яшк. Мясц.; Байк. і Некр., Янк., Пятк. 2, ТС), 'адна лучына' (жытк., Нар. словатв.), *скы́пка* 'лучына' (кам., Жыв. НС), *скёпка* 'трэска; асколак' (Нас.). Укр. *скíпа, скíпка*, рус. дыял. *ске́па, ске́бка, скúпа* 'тс'. Ад *скяпа́ць* (гл.) з суф. *-к(а)*. Сюды ж *ске́пка* 'дзеянне па дзеяслову *скяпаць*' (Нас.), прыметнік *ске́пкі* 'колкі' (Байк. і Некр.).

**Ске́пнік** 'грыб лось (пеўнік стракаты), Sarcodon imbricatus (Fr.) Karst.' (Касп.). Відаць, да *скяпаць, ске́пка* (гл.), таму што грыб мае «пашчапаную» калючую паверхню. Параўн. яго навуковую назву *вожычнік стракаты*, а таксама іншыя народныя назвы: *скепанка, ёршык, вожык, сямірога* (Сярж.–Яшк.).

**Ске́пня** 'касцёр дроў' (лях., ЛА, 1). Да *скяпаць* (гл.).

**Ске́псціць** 'схібіць, памыліцца', *ске́пьсціцца* 'блажэць, пагаршацца' (Ласт., Некр. і Байк.), *ске́псіцца* 'сапсавацца' (Касп.), *ске́пціцца* 'тс' (карэліц., Нар. словатв.). Да *кепскі, кепска* (гл.).

**Скергата́ць**, *скергета́ць, скіргета́ць, скаргата́ць* ‘скагатаць, прарэзліва крычаць (пра птушак, жаб)’, ‘адрывіста смяяцца’ (ТС), 3 ас. адз. л. *скергéчэ, скіргíчэ, скрыгéчэ* (пра сароку) (ЛА, 1). Параўн. рус. *скрегота́ть*, вынік метатэзы *кре – кер, скра – скар*, гл. *скрыгатаць*.

**Скердзь**, *скерць* ‘галоўны пастух’ (гродз., шальч., трак., Сл. ПЗБ), *скерць* ‘авечы пастух’ (Сцяшк. Сл.), ст.-бел. *скердь (skierdź)* ‘наёмная праца’ (Яблонскіс), польск. дыял. *sk'erc'* ‘вясковы пастух, старшы пастух’. Выводзяць з літ. *sker̃džius, ker̃džius* ‘пастух’, што ўзыходзіць да і.-е. **kerdh-* ‘чарга, стойла, статак’ (Фрэнкель, 242; Сабаляўскас, LKK, 12, 7 і наст. Лаўчутэ, Балтизмы, 33). Анікін (Опыт, 279) мяркуе пра польскае пасрэдніцтва, што патрабуе дадатковай аргументацыі.

***Скéрыць**: *скíрыты зýбы* ‘абы-чаго смяяцца’, *скíрыцца* ‘тс’ (кам., З нар. сл.). Варыянтнае ўтварэнне да *шчэ́рыць зубы*, гл. *шчэрыць*, параўн. таксама *шкéрыць* ‘усміхацца, шчэрыць зубы’ (гл.). Паводле Векслера (Гіст., 92), *sk'* у пачатку слова з’явілася ў паўднёварускіх гаворках у выніку змены спалучэння *sc'*, што паходзіць з першапачатковага *sk* (прасл. < *$sk_o$air-*) параўн. макед. *цери се* ‘касавурыцца, пазіраць скоса’, чэш. *ceriti zuby* ‘скаліць зубы’.

**Скíба**, *скíбка* ‘луста хлеба’ (ТСБМ, Нас., Шымк. Собр., Ласт., Касп., Байк. і Некр., Варл., Бяльк., Гарэц., Сцяшк., Шн. 3, Мал., Янк. 3, ТС, Сл. ПЗБ, Бір. дыс., ЛА, 4), ‘пласт, вал зямлі, які адкідаецца плугам пры ворыве’ (ТСБМ, Шат., Бес., Сл. ПЗБ), *скíбка* ‘трэска’, ‘невялікі кавалак’ (Сл. Брэс.), ст.-бел. *скиба* ‘луста’ (Альтбаўэр). Праз польск. *skiba* ‘луста хлеба’, ‘пласт зямлі’ (Кюнэ, Poln., 96; Брукнер, 493) з ст.-в.-ням. *scîba* ‘луста’; Карскі (Белорусы, 157) у якасці зыходнай формы ўказваў н.-ням. *Skeebe (Scheibe)*, што да ісл. *skífa* ‘луста’, аднак апошняе, як і дапушчэнне аб спрадвечнаславянскім паходжанні (набліжаецца да *скубаць*; гл. Ільінскі, РФВ, 78, 203), абвяргаецца Фасмерам (3, 639). Ст.-бел. *скиба* ‘луста; скіба’ запазычана з ст.-польск. *skiba* ў пачатку XVI ст. (Булыка, Лекс. запазыч., 102). Гл. таксама Коген, Запіскі, 2, 236–237, дзе аўтар схіляецца да прапановы Ільінскага аб роднасці з *скубаць* (гл.) і ўзводзіць да ням. *schiebe*, с.-в.-ням. *scîba* і названую форму да і.-е. **skeib-/*skeub-*, суадносную з і.-е. **skep-/*skop-*, прадстаўленай у *аскепак, шчапаць, скапец₂* (гл.).



**Скíвіца**, мн. л. *скíвіцы* ‘кожная з дзвюх костак твару, у якіх умацаваны зубы; пашчэнкі’ (ТСБМ, Байк. і Некр.; віл., Стан., ТС, КЭС, Дразд., ЛА, 3), ‘выпукліна пад вокам, ягадка’ (Ласт.), ‘зубны пратэз’ (ТСБМ), *скíвыца* ‘сківічная косць’ (Дразд.; узд., КЭС), *скíбіца* ‘скронь’ (Сцяшк.; гродз., Мат. АС), *скíбіцы* ‘пашчэнкі’ (ЛА, 3), *ськíва* ‘пашчэнка’ (Дразд.), *skíwicy* ‘ніжняя сківаца каня’ (Тарн.), *сківíца* ‘шула’ (В. Адамчык, Маладосць, 1993, 10, 156). Беларуска-ўкраінская лексіка-семантычная ізалекса, параўн. укр. дыял. *скíвіца, скúвица, ск'ів'іц'а* ‘сківіца’, гл. Ніканчук, Бел.-укр. ізал., 63–64. Слова няяснага паходжання. Мартынаў (Лекс. Палесся, 11) прапануе дастаткова позняе запазычанне з усходнебалтыйскіх гаворак; дакладная крыніца не выяўлена, параўноўваецца з лат. *šķieva* ‘трэшчына ў дрэве’. Трубачоў (Слав. языкозн., V, 182) лічыць слова старажытным (мяркуемае прасл. **skyvica*), аднак падкрэслівае яго ізаляванасць. Аўтары ЕСУМ (5, 271) адносяць укр. *скúвиця* да запазычанняў з беларускай мовы, звязваючы яго з *скіба* (гл.). Хутчэй да *ківа́ць* (гл.), параўн. *качкí* ‘пашчэнкі’ (Растарг.).

**Скíгаць**, *скігата́ць* ‘плакаць, выць; вішчаць (аб дзіцяці або парасяці)’ (Нас., Гарэц., Байк. і Некр., Бяльк.), *скігата́ць* ‘тс’ (Гарэц., Сл. рэг. лекс.), *скíгліць* ‘тс’ (пін., Нар. лекс.), *скíгліці* ‘тс’ (Сл. Брэс.). Гукаперайманне. Параўн. *скагатаць, скуголіць* (гл.).

**Скід** ‘узараны загон з двайной баразной пасярэдзіне, склад’ (лёзн., Яшк.; полац., Нар. лекс.). Да *скідваць*, аналагічна *склад₃* (гл.) < *складваць*.

**Скíдак** ‘неданошанае дзіця’ (Ласт., Байк. і Некр.), *скíдыш* ‘тс’ (Касп.). Рус. *скúдок, скúдыш* ‘тс’, укр. *скúдка* ‘неданошанае ягня’. Да *скідаць, скінуць* ‘дачасна пазбаўляцца цяжарнасці’ (гл. *кідаць* у адпаведным значэнні) з суф. *-ок, -ыш*.

**Скíдзель** ‘той, хто скідае, напрыклад, гной з возу’ (Нік. Очерки). Да *скідаць, кідаць* (гл.).

**Скíдзень** ‘пярэваранцень’ (Нас., Байк. і Некр.). Польск. дыял. *skidzień* ‘ваўкалака’. Ад *скіда́цца* ‘прымаць іншы выгляд’, ‘ператварацца, пераварочвацца ў ведзьму’ (Нас., Байк. і Некр., ТС), да *кідаць* (гл.). Параўн. *скінуцца* (гл.).

**Скíдзіны** ‘амецце’ (пін., Шатал.), *скы́дыны* толькі мн. л. ‘адходы пры прасяванні зерня, якія застаюцца зверху’ (драг., Выг.). Да *скідваць* з суф. *-ін-*, параўн. *скíдываць* ‘часаць лён’. Гл. *кідаць*.

**Скік** ‘скок’ (Ян., ПСл; смарг., Сл. ПЗБ), сюды ж *скікáць* ‘скакаць’ (Ян., ПСл, Сцяшк. Сл.; паст., шальч., швянч., Сл. ПЗБ), *скікнуць* ‘скокнуць’ (ПСл, Сцяшк.), *скігáць* ‘скакаць’ (Сцяшк. Сл.), *скéчыць* ‘скочыць, скокнуць’ (Сцяшк.), *скікýн* ‘конік (насякомае)’ (ПСл), параўн. укр. дыял. *скік, скікнýти* ‘тс’, польск. дыял. *skik, skikać, skiknąć*. Арэальная інавацыя, суадносная з *скок, скакаць* (гл.). Аўтары Варш. сл. мяркуюць пра кантамінацыю з *kicać* ‘скакаць (пра зайца)’. Сюды ж, магчыма, польск. дыял. *skikść!* ‘скок’, якое Лаўчутэ (Балтизмы, 132) адносіць да балтызмаў паводле спалучэння *-kść* < літ. *-kšt* і арэала распаўсюджання выклічніка. Няясна.

**Скікануць**. Гл. *скакаць*.

**Скікаць**. Гл. *скакаць*.

**Скілýндзі** ‘скручаны здор у форме рулета’ (ігн., Сл. ПЗБ). Параўноўваецца з літ. дыял. *skelúndzis*, літар. *skilándis* ‘страўнік, напханы мясам’ (там жа), запазычана ў старабеларускую мову з літоўскай (1506 г., Булыка, Лекс. запазыч., 119); меркаванні пра польскае пасрэдніцтва (Анікін, Опыт, 280) цяжка давесці. Гл. таксама *шкілундзя*.

**Скíмліць** ‘скуголіць, ціха вішчэць’ (лаг., Гіл.), *скíмлытэ* ‘ціш-ком плакаць ад крыўды’ (драг., Нар. словатв.). Параўн. укр. *скíмлити* ‘ныць, ціха жаласна плакаць’. Гукапераймальнае, параўн. балг. *скимтя́* ‘ціха вішчэць, плакаць, хліпаць’, якое выводзіцца з імітатыва *ским!*, што перадае скуголенне, гл. БЕР, 6, 749. Гл. таксама *скомліць*.

***Скімяніцца**, *скíмынытыся* ‘скнарнічаць’ (кобр., ЖНС, Ск. нар. мовы). Няясна, магчыма, звязана з **скеміць* ‘ціснуць’, гл. *скем*. Параўн. таксама *скемены* (гл.).

**Скіндачка** ‘старажытны дзявочы галаўны ўбор (у выглядзе ручніка)’ (Малч.). Укр. *скиндя́чка, скиндя́к* ‘стужка’, *киндя́к* (у Грынч. са знакам пытання) ‘стужка, матэрыя’, рус. пск., цвяр. *киндю́к* ‘чырвоная баваўняная тканіна’. Ст.-рус. *кандакъ, киндякъ* ‘тс’. Пэўнай этымалогіі няма, гл. Фасмер, 2, 234. Сам ён параўноўвае з уйг. *köŋnäk* ‘кашуля’, чагат. *köŋläk* ‘тс’, што няпэўна. На іншы шлях запазычання скіроўвае ст.-бел. уласнае імя *Ярош Скиндеръ* (1434), што выводзіцца ад *скиндер* ‘той, хто прадае ці робіць істужкі’ (гл. Усціновіч, Лінгв. дасл., 1968, 155).

**Скíнуцца** ‘распрануцца’, ‘прыкінуцца’ (Ян.), ‘распрануцца да галізны, поўнасцю распрануцца’ (Янк. 3), ‘ператварыцца (у што), пераварочвацца (у каго)’ (Нар. Гом., Растарг.), ‘падскочыць, ускінуцца’, ‘перакінуцца, ператварыцца’ (ТС). Паводле Янкоўскага (Янк. 3, 117), звязана з тэхналогіяй пераўвасаблення праз Тв. скл. т. зв. скідвання – ператварэння, што грунтуецца на змешванні, параўн. *ячмень аўсом скінуўся* (там жа), г. зн. ‘моцна засмечаны аўсом’, параўн. *скинимся травинаю* (Растарг.), *воўком мог скінуцца* (ТС) і пад. Да *скінуць, кінуць* (гл.); Санько (Крыўя, 1996, 1, 91) мяркуе, што тут назіраецца ўплыў літ. *kisti (kiñto, kito)* ‘мяняцца, змяняцца’.



**Скíнуць** ‘зваліць, саштурхнуць уніз’, ‘зняць, распрануць’, ‘заўчасна нарадзіць’, ‘зняць з пасады’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Сл. ПЗБ, ТС, Ян.). Гл. *кінуць, кідаць*.

**Скіпáць** ‘шчапаць, калоць трэскі, лучыну’ (Шымк. Собр., Бяльк., Юрч. Вытв., Мат. Маг.; бялын., Нар. сл.; ЛА, 1). Гл. *скяпаць*.

**Скíпер** *(скíпяр)* ‘той, хто кіруе баржай’ (Скарбы). Гл. *шкіпер*.

**Скіпéць$_1$** ‘ускіпець, адкіпець, сплысці пры кіпенні, зварыцца (пра малако)’ (Бяльк., Сцяц., Сл. ПЗБ; мядз., Нар. словатв., Федар. 4; драг., Ск. нар. мовы; Юрч. Вытв.). Да *кіпéць* (гл.).

**Скіпéць$_2$** ‘згарэць яркім полымем’ (ТСБМ, Юрч. Вытв., Сл. ПЗБ), ‘разнервавацца, абурыцца’ (ТСБМ, Арх. Федар., Бяльк.), ‘зайсціся ад плачу’ (Бяльк., Юрч. Вытв.), ‘прапасці, згінуць’ (ТС), ‘раптоўна памерці, хутка скончыцца (пра жывёлу)’ (Сцяц. 2, Сцяшк. Сл.), *скіпець на нажы* ‘загінуць ад нажа, ад нажавой раны, вакол якой спяклася кроў’ (ТСБМ, Бяльк., Юрч. Вытв., Нар. Гом., ТС). Да *скіпець$_1$*; спецыфічнае значэнне ў выразе *скіпець на нажы* вядома ва ўкр. *скипíти на ножы* ‘тс’ і ўзнікла, паводле Ларына (История, 34), на базе пераносных значэнняў **kipěti* (гл. *кіпець*), што перадаюць душэўны стан: ‘дайсці да шаленства, лютасці’, ‘так раз’юшыцца, што схапіцца за нажы’.

**Скіпінáр** (Нас.). Гл. *шкіпінар*.

**Скíпціцца** ‘памерці, здырдзіцца’ (в.-дзв., паст., Сл. ПЗБ). Аўтары слоўніка параўноўваюць з літ. *kèpteléti* ‘тс’, далёкім у фармальных адносінах; хутчэй да *скепсціцца* (гл.), ужытага эўфемістычна.

**Скірд**, *скірдá, скíрта, скы́рта*. Гл. *сціртa*.

**Скіркавáць** ‘адзывацца скірканнем – пра птушак глухароў’ (Сцяшк.), *скíрканне* ‘крык глухароў’ (Інстр. 2). Гукаперайманне. Параўн. укр. *кúркати* ‘рэзка, пранізліва крычаць, крыкнуць (аб

курыцы)’, выкл. *кирр!* ‘аб пранізлівым крыку спалоханай курыцы’. Параўн. *кіркаць* (гл.), якое суадносіцца з літ. *kir̃kti* ‘крычаць (аб гусях)’.

**Скірпа** ‘мера насечаных дроў’ (Байк. і Некр.). Магчыма, з лат. *kīrpa* ‘капна’, балт.-ням. *Stirpe* ‘капна ў полі’. Менш верагодна кантамінацыя *скірда, скірта* і *тарпа, торп* (гл.).

**Скірыць**, *скірыцца*: *скірыты (зубы)* ‘смяяцца, насміхацца’ (брэсц., пін., З нар. сл.), *скы́рытыса* ‘смяяцца’ (Сл. Брэс.). Гл. *скéрыць*.

**Скірыцца**. Гл. папярэдняе слова.

**Скіта́цца** ‘блукаць, бадзяцца; вандраваць’ (Касп., ТС, Ян., Сержп. Прымхі; в.-дзв., узд., шальч., Сл. ПЗБ), *скíтнік* ‘бадзяга’, ‘адзінокі чалавек’ (Ян.). Параўн. укр. *скита́тися*, рус. *скита́ться* ‘тс’, славен. дыял. *skítati se*, серб.-харв. *скúтати се*, балг. *скúтам (се)*, макед. *скита се*, ст.-слав. **скытати сѧ**. Прасл. **skitati sę*, роднаснае літ. *kutéti* ‘устрэсваць’, *kutrùs* ‘бойкі’, ст.-ісл. *skunda* ‘хутка збіраць, прыбіраць, спяшацца’, ст.-в.-ням. *scutten* ‘трэсці, штурхаць’ і г. д.; гл. Фасмер, 3, 641; Шустар-Шэўц, 1289 (адносіць сюды в.-луж. *skićić*, чэш. *skytati*, славац. *skytat’* з развіццём значэння ‘бадзяцца’ ≥ ‘прапаноўваць сябе’); Куркіна, Этимология–1971, 75; SEK, 4, 307–308.

**Скíцер** ‘кавалак (сала)’ (бярэз., Сл. ПЗБ), ‘вялікі кусок сала’ (бярэз., бых., кіраў., ЛА, 4), *скіцéр* ‘свежаніна, якую даюць суседзям, родным’ (Мат. Гом.), ст.-бел. *скитера* (*скитерть*) ‘кавалак сала’ (1530 г., Булыка, Лекс. запазыч., 119). Паводле Непакупнага (Связи, 195–196), слова ў формах *скіцер, аскіцер* паходзіць з літ. *sketerà* ‘шыя (жывёліны); карак’, *sketẽrius* ‘тс’, ‘кавалак сала’, якое ў значэнні ‘свежаніна; кавалак мяса або сала, што нясуць суседзям пасля забою свінні (цяляці, авечкі)’ распаўсюджана ў Жлобінскім р-не, на Чачэршчыне і ў Быхаўскім р-не. Аднак, паводле яго заўвагі, *-i-* застаецца няясным. Агляд літ-ры гл. яшчэ Лаўчутэ, Балтизмы, 50.

**Скíчка** ‘блыха’ (смарг., Сл. ПЗБ), *skiczki* ‘блохі’ (Арх. Федар.). Утворана ад *скікаць*, гл. *скік*.

**Склад**$_1$ ‘месца захоўвання (тавараў, матэрыялаў і пад.)’, ‘састаў’, ‘стан’, ‘постаць, целасклад’, ‘манера, спосаб выказваць думкі, гаварыць, пісаць’ (ТСБМ, Нас., Шат., Гарэц., Байк. і Некр., Варл., Янк. 3, ТС, Сл. ПЗБ), ‘лад, логіка, стройнасць’ (Пятк. 2), ‘штабель дроў’ (Шатал.), ‘павець’ (Сл. ПЗБ), *склáдзік* ‘кладоўка’ (Сцяшк., Сл. ПЗБ, Жд. 1), *складáнец* ‘постаць, целасклад’ (Ян.), ст.-бел. *складанка* ‘збор, даход’ (Ст.-бел. лексікон). Аддзеяслоўны дэрыват ад *скласці, складу* < *класці* (гл.). БЕР (6, 754) на падставе агульнаславянскага распаўсюджання, параўн. рус. *склад*, польск. *skład*, чэш. *sklad* і г. д. узнаўляе прасл. **sъkladъ*, але гэта няпэўна з прычыны прадуктыўнасці словаўтваральнай мадэлі. Значэнне ‘састаў’, магчыма, калька польск. *skład* ‘тс’, але яе практычна нельга адрозніць ад уласнабеларускага ўтварэння; аналагічна значэнне ‘спецыяльнае памяшканне’, што для старабеларускай і рускай выводзіцца з польск. *skład* ‘magazyn’ (Віткоўскі, Słownik, 173; Гарбуль, Slavistica Vilnensis, 2004, 171).

**Склад**$_2$ ‘адзінка вымаўлення, сілаба, частка слова’ (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Варл., Гарэц., Шат.; ашм., Стан.). Слова як лінгвістычны тэрмін з’явілася ў XIX ст. (Гіст. лекс., 250). Да *складаць* < *скласці*; параўн. і рус. *читать по складам* ‘аб тым, хто яшчэ не ўмее бегла чытаць’, а таксама *слог* ‘склад’ < *сложúть* ‘скласці’.

**Склад**$_3$ ‘дзве барозны ворыва, пласты якіх пакладзены адна на другую’ (Шат., Шатал., Сцяшк., Дэмб., Юрч., Янк. 3, ТС, Сл. ПЗБ, Выг., Варл., Стан., Жыв. сл.), ‘узараны загон з двайной баразной пасярэдзіне’ (Яшк.), ‘частка загона’ (гом., Нар. словатв.). Укр. *орати у склад* ‘араць, пачынаючы з сярэдзіны загона такім чынам, што пласты кладуцца ўсярэдзіну’, чэш. *orati do skladu* ‘тс’, польск. *skład* ‘сярэдняя ўзвышаная частка загона’, славац. *sklad* ‘тс’, серб.-харв. *скла̑д* ‘склад’. Этымалагічна тое ж, што і *склад*$_1$. Спецыяльна гл. Махэк$_2$, 251–252.

**Склада́нчык** ‘складаны нож’ (ТСБМ, Янк. 3, Мат. Гом.), *складáнік* ‘тс’ (Касп.). Кандэнсацыя словазлучэння *складаны нож*, параўн. *складáны нóжык* ‘тс’ (Варл.), да *складаць* < *скласці* (гл.).

**Складу́жына** ‘пакосы, якія кладуцца адзін на другі’ (Сл. Брэс.), *складзю́жыны* ‘два радкі сена, якія накладаліся адзін на адзін’ (Выг.). Да *скласці, складу* або да *склад* (гл.) з суф. *-ін(а)* праз прамежкавую ступень **складуга (*складзюга)*, пра суф. *-уг(а)* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 66.

**Склане́нне** ‘змяненне па склонах’ (ТСБМ, Байк. і Некр.). Як і рус. *склонéние* ‘тс’, з польск. *skłonienie*, што калькуе лац. *incli-*

*natio*, *deklinatio* 'тс' (Кохман, Stosunki, 126), параўн. сучаснае польск. *deklinacja* 'тс'. Гл. *склон*.

**Скла́пка** 'стрэмка' (круп., Жыв. сл.). Відаць, да *скабка*$_1$ (гл.) пад уплывам *склобка* 'скобля' (гл.), параўн. укр. *засколобити* 'застраміць' (< **skolbiti*, гл. Варбат, ОЛА, Исследов., 1975, 137). Да змяшэння асноў параўн. *скабіць* і *скло́біць* 'скрэсці бульбу' (Мат. Гом.).

**Склез** 'адхон' (Яруш.). З польск. *sklez* 'тс': *sklezią, na skleziu* 'адхонам, на адхону'. Польск. слова да кораня *скліз-*, *сліз-* (гл. *слізкі*) (Варш. сл.). Параўн. *скелз* (гл.).

**Скле́зень** 'малы, малеча' (Нас., Касп., Бяльк.), 'пра слабую, худую (звычайна маладую) істоту' (Янк. Маг., Барад.), 'хілае, капрызнае дзіця' (Юрч., Яўс.), 'худы чалавек, няўдаліца' (Сл. рэг. лекс.), 'слізень' (Бяльк.), *склязнёнак* 'фізічна слабая істота' (Мядзв.), 'нованароджанае недаразвітае дзіця' (Мат. Маг.). Панюціч (Лексіка, 86) выводзіцца ад *скліць* 'скуліць, ныць' (гл.), параўн. *скліза* 'кволае, хваравітае дзіця' (Юрч.), што ў далейшым было набліжана да *слізкі* (гл.), параўн. *склізня́* 'смоўж', 'капрызная дзяўчынка', 'слізота, галалёд' (Яўс.), *склі́зень* 'слізняк', 'нікчэмны чалавек' (Нар. Гом.). Не выключаны, як пачатковая аснова, дзеяслоў *склецъ* 'чэзнуць' (гл.). Аб суф. *-з(а)*, *-ень*, *-інь*, якія ўтвараюць экспрэсіўныя назвы асоб, гл. Сцяцко, Афікс. наз., 38, 41, параўн. *слімаза*, *слімень* (гл.).

**Скле́йны** (*склейный*) 'умелы, панятлівы' (Юрч. Фраз. 1), *скле́йна* 'ўмела, па-майстэрску' (Юрч. Вытв.). Няясна; магчыма, ад размоўнага *мець клей (клёк) у галаве* 'быць разумным', параўн. *клій* 'жыццёвыя сілы' (кам., Жыв. НС).

**Скле́ндзіць** 'скрывіць, скруціць' (ТС). Няясна. Параўн. польск. *sklęczyć* 'сагнуць у дугу, скрывіць', што аднак далёкае ў фармальных адносінах. Санько (Крыўя, 1996, 1, 92) выводзіць з літ. *sklendė* 'засаўка; закрутка', параўн. *кленды* (гл.).

**Склеп** 'паглыбленае ў зямлю памяшканне для захоўвання прадуктаў', 'падзямелле для дамавін з нябожчыкам' (ТСБМ, Нас., Шат., Арх. Федар., Касп., Нік. Очерки, Др.-Падб., Бяльк., Байк. і Некр.; ашм., Стан.; Гарэц., Янк., Сцяшк., Сл. ПЗБ; ЛА, 4), 'скляпенне над подам печы' (Шушк., Мат. Гом.), 'труна' (Маш.), 'труна з шасці дошак' (ТС), *склеп*, *склёп* 'труна з накрыўкай-дашкам' (стол., петрык., ЛА, 3), *склёп* 'падзямелле' (Растарг.).



Запазычанне з польск. *sklep* (Карскі, Белорусы, 146; Кюнэ, Poln., 96), таксама як і рус. *склеп*, гл. Фасмер, 3, 641. Ст.-бел. *склепъ* < ст.-польск. *sklep* запазычана ў канцы XV ст. (Булыка, Лекс. запазыч., 98). Параўн. *скляпенне* (гл.).

**Скле́рны** 'сыры, халодны': *сёння такі склерны дзень* (Сцяшк. Сл.). Відаць, да *склецъ* (гл.) або сапсаванае рус. *скве́рный*, гл. *скве́рня*.

**Скле́ціць** (*sklécić*) 'абы-як збудаваць драўляную будыніну' (Варл., Сцяшк. Сл.), 'паставіць хату ў выглядзе клеці' (Байк. і Некр.), 'скласці ў клетку (дровы)' (Сцяшк. Сл.). Да *клецъ* (гл.); у першым значэнні, мажліва, з польск. *sklecić* 'тс', параўн. *klecić* 'будаваць абы-як'.

**Склецъ** 'зябнуць, мерзнуць, стыць' (ТСБМ; кіраў., Нар. сл.), 'гібець, чэзнуць' (ТС). Параўн. укр. дыял. *склі́ти* 'чэзнуць, уміраць', славен. *skleti*, *skeleti* 'прычыняць вострыя рэзкі боль'. Паводле Бязлая (Eseji, 106), з прасл. **tъsklěti*, рэфлексы якога захаваліся ва ўкр. *тосклu̇вий*, рус. *тосклúвый*, польск. *ckliwy*, н.-луж. *tesliwy*, чэш. *tesklivý*. Сюды ж рус. *склúво* 'млосна, моташна', *цклúво* 'тс', польск. *ckliwo* 'моташна, нудна', славац. *cklivo* 'тс', што ўзыходзяць да **tъska* 'сум, гора' (гл. *таскавацъ*). Гл. Фасмер, 4, 642; Слаўскі, 1, 106; ЕСУМ, 5, 276–277. Шывіц-Дулар (Зб. Лекаву, 318–323) мяркуе, што ў аснове славенскага дзеяслова назоўнік **kъlъ* 'расток' і 'зуб' (гл. *ікол*), ад якога ўтвораны дзеясловы **kъlěti* і **kъliti*, што маюць адпаведныя формы з рухомым *s-*. Параўн. *скліць*.

**Склём** 'холад' (барыс., Жд. 2). Да *склецъ* (гл.). Няяснае словаўтварэнне; гіпатэтычна тут можна меркаваць аб форме дзеяслова **скленіць*, тады першапачаткова аддзеяслоўны субстантыў **склён*.

**Склі́зкі** 'слізкі' (Нас., Ласт., Байк. і Некр., Юрч., Ян., Сцяшк.), *склі́знуць*, *склізо́та*, *склізь* 'слізь' (Нас., Гарэц., Байк. і Некр.). Укр. *склúзнути* 'выслізнуць, уцячы', рус. *склúзкий*, *склúзнуть*, славен. *sklizək*, серб.-харв. *скли̏зак*, *кли̏зак* 'склізкі', *клúзити* 'слізгаць(ца)', ц.-слав. *скользати*, *скользнѫти*. Фасмер (3, 642) лічыць, што тут скрыжавалася некалькі асноў, параўн. яшчэ чэш. *klouzati* 'слізгаць', *kluzký* 'склізкі', славац. *klzký* 'тс', *klzat'se* 'слізгаць, спаўзаць' (гл. пад *коўзацъ*). Гл. яшчэ *слізкі*. Рэканструкцыю прасл. **skъlьzъkъ* або **skъlьzъkъ* Фасмер (там жа) лічыць няпэўнай. Глухак (554) рэканструюе **sklizъkъ*, якому адпавядаюць *склізкі*, рус.

*склйзкий*, славен. *sklizek*, што ўзыходзіць да і.-е. **(s)lei-* (гл. *сліна*); і **slizъkъ*, якому адпавядаюць *слізкі*, рус. *слизкий*, польск. *ślizki*, чэш. *slizký*, славен. *slízek*, што ўзыходзіць да **slizь* (гл. *слізкі*). Астроўскі (ABSl, 29, 155) *склізкі* лічыць вынікам кантамінацыі *скоўзкі* (гл. *коўзацца*) і польск. *ślizki* 'коўзкі; слізкі', што цяжка давесці, перш за ўсё, па лінгвагеаграфічных прычынах.

**Склізо́к** 'галец, Nemachilus barbatulus L.' (Жукаў). Да *склізкі* (гл.), бо рыбка з тонкай скурай без лускі (Жыв. св., 76), іншыя назвы: *сліж, сліжык* (гл.).

**Скліме́ць** 'плакаць, хныкаць', *склімá* 'плакса, піскуха' (Юрч.). Няясна; магчыма да *слім* (гл.) з *-к-*, як у *склізкі/слізкі*, з нетыповым семантычным развіццём.

**Скліць**₁ 'скуліць, ныць' (Касп.). Магчыма, іншая ступень чаргавання да *склець* (гл.).

**Склі́ць**₂ 'шкліць' (Нас.). Гл. *шкліць*.

**Скло́бка** 'від матыкі з жалезным пальцам замест лапаткі для чысткі ўнутры вялікіх прадметаў' (Маш.), 'скобля' (Пятк. 1), *склóбка, шклóбка* 'тс' (ТС), *склы́бка* 'тс' (Шатал.), *склэ́бка* 'тс' (Сл. Брэс.), *склóбля* 'прылада для прыгатавання борці (нож з ручкай)' (Сержп. Борт.). Укр. палес. *склóбка* 'прылада для здымання кары з дрэва'. Відаць, ад *склобі́ць* 'здымаць кару з дрэва' (ПСл), 'скрэбці' (ТС), 'чысціць рыбу, скрэбці малую бульбу' (Вешт.), што ў выніку метатэзы з *скаблі́ць* 'ачышчаць кару з дрэва; ачышчаць бульбу ад шалупіння' (Варл., Бяльк., Касп.), 'часаць': *скабліла ногі* (Касп.), *скóблыты* 'абіраць бульбу' (Сл. Брэс.).

**Скло́ка** 'сварка, непрыязныя адносіны' (ТСБМ), 'калатня, гармідар; віхор, ураган' (Ласт.), 'моцны вецер з дажджом': *нахопітца склока да й пакруціць, паломіць усе збожэ* (Сержп.). Параўн. укр. *склóка* 'сварка' (з рус., гл. ЕСУМ, 5, 276), рус. *склóка* 'тс', якое Якабсон (IJSLP, 1959, 1–2, 270) узводзіць да *клок* (гл.), параўн. таксама *клакатáць* 'сварыцца' (Мат. Гом.), гл.; сюды ж *склы́ка* 'лаянка, варожасць' (Касп., Мат. Гом.), 'сваркі, калатня' (Растарг.), якое Трубачоў (Дополн., 3, 642) лічыць экспрэсіўным пераўтварэннем *склока*; хутчэй да *клы́чыць* 'шкуматаць, блытаць; дражніць (злаваць)', гл. Фасмер (3, 642) рус. *склы́ка* разглядае як дэрыват ад *клык* (гл.). Першасным значэннем трэба прызнаць 'блытаць, круціць', параўн. *клочча* 'адходы пры апрацоўцы льну' (гл.), рус. *склóчить* 'склычыць, пераблытаць' (Ласт.).



**Склон**₁ грам. 'склон' (ТСБМ, Байк. і Некр., Гарэц., Др.-Падб., Стан.). Утварэнне на ўласнай глебе ад запазычаных граматычных тэрмінаў *скланéнне* (гл.), *скланя́ць*, параўн. рус. *склонéние, склоня́ть*. Крукоўскі (Уплыў, 42) лічыць беларускае слова запазычаннем з рускай мовы.

**Склон**₂ 'схіл' (Гарэц., Ласт., Сл. ПЗБ, Др.-Падб., Яшк.), 'нахіл' (ТС). У сучаснай літаратурнай мове, хутчэй за ўсё, з рус. *склон* 'схіл', аднак у народнай мове можа быць самастойным утварэннем, параўн. *кланіць* (гл.) і наступнае слова.

**Скло́ннасць** 'схільнасць, дар, талент', 'прыхільнасць' (Ласт.), сюды ж *скланяць* 'схіляць у карысць каго-небудзь ці чаго-небудзь', *склóнны* 'прыхільны' (там жа), ст.-бел. *склонити* 'схіліць' (Альтбаўэр), параўн. рус. *склóнность, склоня́ть, склóнный* 'тс'. Паводле Кохмана (Stosunki, 125–126), насуперак Фасмеру (3, 642: калька франц. *inclination* 'схільнасць'), з польск. *skłonność* – калька з лац. *inclinatio* 'тс', што трапіла ў рускую мову праз старабеларускую, гл. таксама Віткоўскі, Słownik, 173. У сучаснай літаратурнай мове калькуюцца ўтварэннямі з коранем *-хіл-*, што не выключае захавання народных форм ад *кланіць* (гл.).

***Склума́чыць**, *склумáчыты* 'скомкаць' (Клім., Сл. Брэс.). Кантамінацыя *скамячыць* і *клумак* 'клунак', гл.

**Склынбо́ваць** 'туга звязаць (пра сноп)' (пруж., Сл. ПЗБ). Да *клынбэль, кныбель, кнібель* (гл.), паводле націску, паланізм, аднак у польскіх слоўніках не фіксуецца (**sknębłować*?).

**Склюд**. Гл. *склют*.

**Склю́ндра** 'скупяндзя; пляткарка' (брэсц., Нар. лекс.). Няясна, магчыма, ад *склюд, склют* 'жмінда' (гл.) з экспрэсіўнай суфіксацыяй. Параўн. укр. *шлю́ндра* 'неахайная жанчына; шлюха'.

**Склю́піцца** 'сагнуцца' (мядз., Нар. словатв.). Запазычанне з польск. *sklupić się* 'збіцца ў камяк; згусціцца; сагнуцца, скурчыцца' < *klupić się*. Апошняе роднаснае літ. *klaũpti, klaupiù* 'спатыкацца, падаць на калені', *klùpti, klumpù* 'спатыкацца, падаць', лат. *klàupat* 'спатыкацца' і г. д. Падрабязна гл. Слаўскі, 2, 242 і наст. Параўн. таксама *клыпаць* (гл.).

**Склют**, *склюд, шклют* 'цяслярская сякера з шырокім лязом' (ТСБМ, Шат., Касп., Сцяшк., Мядзв., Выг., Сл. ПЗБ, Сержп. Прымхі; кліч., Жыв. сл.), 'скупы' (Касп.; в.-дзв., Сл. ПЗБ), 'худы (гарбаты), нязграбны чалавек' (Жд. 2, Янк., Сл. Брэс., Скарбы;

віл., Нар. сл.; віц., Нар. лекс.), 'худы, высокі, гарбаты чалавек' (Сцяц.), 'жмінда' (Касп.), 'люты мароз' (Шатал.), *склюціна* 'худы' (мёрск., Нар. словатв.), *склюд* 'вялікі нос' (Наша слова, 2000, 12 студз.), ст.-бел. *склють* 'цяслярская сякера' (Яблонскіс). Запазычанне з літ. *skliũtas* 'цяслярская сякера'; гл. Брукнер, 494; Аткупшчыкоў, Лекс. балтызмы, 33; Урбуціс, Baltistica, 5 (2), 152 і наст. Свобада, Studies in Slavic Linguistics and Poetics, N. Y. – London, 1968, 247. Агляд літ-ры гл. яшчэ Лаўчутэ, Балтизмы, 22; Анікін, Опыт, 282. З літоўскага запазычаны таксама рус. *склюд*, укр. *склюд, шклюд*, польск. *sklut* 'тс'. Формы з *ш- (sz-)* з'явіліся на славянскай глебе. *Склютаваць* 'рабіць склютам' (Жд. 1), паводле Урбуціса (там жа), магчыма, таксама з літ. *skliutúoti* 'тс', а *склюдаваць* (ТСБМ) утвораны ўжо на беларускай глебе, таму што літоўскі назоўнік з *-d-* не адзначаны. Ст.-бел. *склють, скгклють* 'тс' фіксуецца з 1561 г.; гл. Булыка, Лекс. запазыч., 95.

**Скляпе́нне** 'дугападобнае перакрыцце, якое злучае сцены'; 'падвальнае памяшканне' (ТСБМ, Нас., Касп., Др.-Падб., Байк. і Некр., Сцяц., Варл.), 'унутраная частка, паднябенне ў печы' (Сцяшк., Шушк.), *скляпе́нне, склепова́нне, склеп* 'тс' (зах.-бел., ЛА, 4). З польск. *sklepienie* 'тс' (Кюнэ, Poln., 96).

**Скляпіцца** 'пакрыцца тонкім лядком' (Скарбы), *скляпля́цца* 'зацягвацца лёдам' (Сцяшк.). З польск. *sklepić się* 'зрабіць скляпенне; закрыцца, зацягнуцца' (Астроўскі, ABSl, 29, 153). Гл. *склеп*.

**Скна́ра** 'скупы' (ТСБМ, Нас., Ласт., Гарэц., Шат., Касп., Бяльк., Байк. і Некр., Янк., Варл., ТС, Ян., Растарг.), *скнэ́ра* 'тс' (Сл. ПЗБ), *скны́ра* 'тс' (ТС), *скна́рына* 'тс' (Юрч.), *скна́рыць* 'выпрошваць; жміндзіць' (Касп., Байк. і Некр.), *скно́рыць* 'тс' (Ласт.), *скнары: да работы скнары* 'ахвочы, прагны' (Б. Сачанка), *скны́ры* 'скупы' (ТС). Запазычанне з польск. *sknara, sknera* 'тс' (Карскі, Белорусы, 149; Кюнэ, Poln., 97). Слова лічыцца выключна польскім (Брукнер, 494). Не адзначана ў ст.-бел., таму, відаць, запазычанне даволі позняе. Польскае слова – дэвербатыў ад *sknerać* 'скардзіцца, хныкаць', гукапераймальнага паходжання; гл. Борысь, 551.

**Скнепа** 'скнара, жмінда' (Шымк. Собр.). Няясна; магчыма, да *кніпаць* 'вязаць' (гл.), што лічыцца балтызмам (Лаўчутэ, Балтизмы, 68), або роднаснае ўкр. *скні́ти* 'ныдзець, мучыцца', якое звязана з *склецъ*, гл. (ЕСУМ, 5, 276). Менш верагодная сувязь з рус. *скни́па* 'вош' (< с.-грэч. σκνίπα 'камар, блыха', гл. Фасмер, 3, 643).



***Скнеціць**, *скнэ́тыты* 'сасцябаць (звычайна пра дождж)', *кнэ́тыты* 'біць, сцябаць' (Клім.). Магчыма, да *гнесці* (гл.), параўн. укр. *гніти́ти* 'гнясці; біць', з аглушэннем пачатковага *г*.

**Скны́га** 'дакучліва хныкаючы, плачучы' (Пан. дыс.), *скныгата́, скныго́ўце* 'кволы, слабы чалавек', *скны́гаць* 'дакучліва хныкаць, пішчаць' (там жа). Магчыма, ад *кныкаць* 'паражываць', гл.

**Скны́да** 'скнара' (карэліц., З нар. сл.). Кантамінацыя *скнара* і *ныдзець, ныднік*, гл.

**Скня́га** 'скнара' (Барад.). Да *кня́гаць* 'канючыць, выпрошваць', гл.

**Ско́ба** 'дручок, палка (у плоце)' (Сцяшк. Сл.). Відаць, да *ска́ба* (гл.).

**Ско́бля** 'цяслярская прылада ў выглядзе нажа з ручкамі на канцах' (ТСБМ, Шат., Касп., Яшк. Мясц., Бяльк., Варл., Янк. Мат., Сл. ПЗБ), *скабёлка* 'тс' (Касп.), *скабялёк* 'струг з адной ручкай' (Нік. Очерки). Укр., рус. *ско́бель*, рус.-ц.-слав. *скобль*, польск. *skobla*, чэш. *skoble* 'жалезная скобка ў хамуце', славац. *skobl'a*, славен. *skȍblja*, серб.-харв. *ско̏бља* дыял. 'клямар', балг. *ско́бел*. Прасл. **skobelь*, **skobla*. Ад страчанага яшчэ на праславянскім узроўні, як мяркуе Варбат (Этимология–1971, 3 і наст.), **skobiti*, параўн. аднак *скабіць* (гл.), каш. *skobić* 'здзіраць кару з дрэва' (гл. SEK, 4, 281), з суф. *-el'-*, *-l'a*. Параўн. літ. *skõbti*, *skobiù* 'скрэбці, зрываць', *skabýti*, *skabaũ* 'тс', *skabùs* 'востры', лац. *scabō*, *-ere* 'скабліць, скрэбці, часаць', гоц. *skában* 'скрэбці, стрыгчы' і інш. Гл. Траўтман, 262; Мюленбах–Эндзелін, 3, 863; Вальдэ–Гофман, 2, 484; Фасмер, 3, 643. Младэнаў (584) выводзіць ад **skoba* (гл. *скаба́*); Брукнер (494) таксама параўноўвае формы, што адпавядаюць *скаба́* і *скобля*. Гл. яшчэ БЕР, 6, 761; Сной$_1$, 573.

**Ско́варад** 'калодзезь з ланцугом, прымацаваным да ва́ла' (Сцяшк.). Гл. *коварат*$_2$.

**Ско́гат** 'віск, енчанне' (Гарэц., Др.-Падб., Яруш., Байк. і Некр., Мядзв.). Гл. *скагатаць*. Сюды ж *ско́гліць* 'вішчаць (пра сабак і парасят)' (Шымк. Собр.), 'скавытаць' (ТС), 'плакаць, хныкаць' (Растарг.), *ско́гліць, скаго́ліць* 'брахаць з завываннем (пра сабак); голасна плакаць з усхліпамі' (Варл.), параўн. укр. *скі́глити* 'кігікаць (пра кнігаўку)', дыял. *ского́літи* 'тс', рус. смал. *ского́лить* 'вішчаць, енчыць (пра жывёлу)'. Гукапераймальнага паходжання, гл. Фасмер, 3, 644; ЕСУМ, 5, 271.

**Скóіцца** ‘адбыцца’ (ТС), ‘знябыцца, абцяжарыцца’ (Варл.). Прыставачнае ўтварэнне ад **kojiti*, параўн. укр. *скóїти* ‘зрабіць нешта нядобрае, учыніць’; чыстая аснова прадстаўлена ў *койкнуць* ‘памерці’, гл.

**Скок** – дзеянне паводле дзеяслова *скакаць* (гл.) (ТСБМ, Нас., Ласт., Байк. і Некр.), дыял. таксама *скік* (гл.), *скок, скóкі* ‘танцы’ (ТСБМ, Ласт., Гарэц., Касп., Сержп. Прымхі, Сл. ПЗБ), таксама і *скакі*, гл. Укр. *скок, скік*, рус. *скок*, бранск. ‘скокі, танцы’, ст.-рус. *скокъ* ‘скакун’, польск., в.-луж., н.-луж. *skok*, чэш., славац. *skok* ‘скок’, серб.-харв. *ско̑к* ‘скок; вадапад’, славен. *skȍk* ‘скок’, балг. *скок* ‘скок; вадапад’, макед. *скок* ‘скок’. Прасл. **skokъ*, якое мае паралелі ў літ. *šókti* ‘скакаць; танцаваць’, лат. *sâkt* ‘пачынаць’, ст.-в.-ням. *giscëhan* ‘здарацца’ і інш.; гл. Фасмер, 3, 645 з літ-рай. Борысь (552) параўноўвае яшчэ з літ. *kuokìnė* ‘вячоркі са скокамі’ < *kuokas* (старое) ‘скок; скокі’, *skúoč* ‘гоп!’ і ўзводзіць да і.-е. **(s)kōk-* ‘хутка рухацца ўгару’ ад і.-е. **kāk-/ k̑āk-*; гл. яшчэ БЕР (6, 766–767), дзе мяркуецца пра і.-е. корань **(s)kek-*. Гл. *скочыць*.

**Скóлькі$_1$** ‘плямы тлушчу ў варыве’: *жырные сколькі* (Куч.). Гл. *скалка$_2$*.

**Скóлькі$_2$** ‘колькі’ (ТСБМ, Ласт., Касп., Байк. і Некр., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС), *сколь* ‘тс’ (ТС). Гл. *колькі*. Сюды ж *скóлюзна* экспр. ‘колькі’ ад асновы **skol’*- (параўн. рус. *сколь* ‘як многа’) і суф. *-уз-*, які выражае значэнне вялікай колькасці, адсюль *сколюзнасць* ‘багацце’ (Мат. Гом.).

**Скóма** ‘аскома’ (Бяльк., Байк. і Некр.; ТС; гродз., Нар. лекс., Скарбы), ‘ахвота’ (Мат. Гом.). Гл. *аскома*.

**Скóміць** ‘скрыпець’: *скоміл чабатамі* (ваўк., Рам.). Рэдкая фіксацыя бяссуфікснага дзеяслова ад *ском-* у зыходным (“слыхавым”) значэнні. Гл. наступнае слова.

**Скóмліць** ‘нудзець, енчыць, ныць’ (Сл. рэг. лекс.; зэльв., Нар. лекс.), *скíмлыты* ‘цішком плакаць ад крыўды’ (драг., Нар. словатв.), *скомлыты, скы́млыты* ‘скуголіць, енчыць ад непапраўнага гора’ (пін., Нар. лекс.; драг., З нар. сл.). Параўн. укр. *скíмлити* ‘ныць; ціха жаласна плакаць’, рус.-ц.-слав. *скомълати* ‘бурчаць’, рус. дыял. *скомли́ть* ‘тс’, польск. *skomleć* ‘скавытаць, скуголіць, канькаць’, чэш. *skomliti* ‘выць’, в.-луж. *skomlić* ‘бурчаць’, н.-луж. *skomliś* ‘скавытаць, бурчаць’, славен. *skomljati* ‘стагнаць, скардзіцца; нудзіцца’. Прасл. **skomъliti*, хутчэй за ўсё, гукапераймальнага па-



ходжання. Можа быць звязана з *скома* ‘аскома’, *скоміць* ‘скрыпець’ (гл.), параўн. Праабражэнскі, 2, 304–305; Ільінскі, ИОРЯС, 23, 2, 243; Фасмер, 3, 649. Іншыя меркаванні гл. Бязлай, 3, 245 (праз рухомае *s-* зводзіць да рус. *коми́ть* ‘сціскаць’ і далей да роднаснага літ. *kamúoti* ‘мучыць, пазбаўляць сілы’), Шустар-Шэўц, 1292–1293 (звязвае з **komarъ*, гл. *камар*), Махэк$_2$, 547 (кантамінацыя асноў **skol-*, што да літ. *skãlyti* ‘завываць’ і **skom-*, гл. *скома*), да якога далучаецца ЕСУМ, 5, 273.

**Скон** ‘момант наступлення смерці’ (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Стан., Мат. Гом., Растарг.). Да *канаць, кон* (гл.).

**Скоп$_1$** ‘вылегчаны баран’ (іўеў., шальч., Сл. ПЗБ; ушац., кам., ЛА, 1). Гл. *скапец$_2$*.

**Скоп$_2$** ‘гурт, кампанія, грамада’ (Бяльк., Сцяшк. Сл.), *скопам* ‘гуртам, натоўпам’ (Бяльк.). Гл. *капá*.

**Скóпак** ‘вядро’ (Сцяшк. Сл.). Параўн. укр. дыял. *скопéць*, *шкóпок* ‘дайніца’, польск. *skopek*, *szkopek* ‘драўляная дайніца’. Запазычанне праз польскую мову, у якасці крыніцы прыводзяць ст.-в.-ням. *skaph* ‘пасудзіна (для вадкасцей)’ (Брукнер, 494–495; ЕСУМ, 5, 279).

**Скóрам** ‘тлустая скаромная ежа’ (Нас.; брасл., ашм., воран., кам., Сл. ПЗБ). Укр., рус. *скóром*, старaж.-рус. *скоромъ* ‘тлушч, масла’, ‘скаромная ежа’, рус.-ц.-слав. *скрамъ* ‘тлушч, маслістасць’, польск. *skrom* ‘тлушч, сала’, серб.-харв. *скра̏ма* ‘плеўка, футра, струп’, балг. *скрам* ‘слой тлушчу пад ежай’, макед. *скрама* ‘плёнка, пенка (на паверхні вадкасці)’. Прасл. **skormъ* ‘тлушч’ таго ж паходжання, што і *корм, карміць* (гл.), ад і.-е. кораня **(s)ker-* ‘рэзаць’, з *-m-*пашыральнікам, г. зн. ‘тое, што аддзіраецца, адразаецца, напрыклад, слой тлушчу, сала і г. д.’; гл. Фасмер, 3, 653; Брукнер, 496; Скок, 3, 269; БЕР, 6, 790; Пятлёва, Этимология–1974, 16; Мартынаў, Этимология–1968, 17. Іншыя версіі: параўнанне з лац. *cremor* ‘густы сок, які здабываецца з раслінных рэчываў’ (гл. Патабня ў Праабражэнскага, 2, 308), або з літ. *šėrti* ‘карміць скаціну’, грэч. κορέννῦμι ‘накормліваю’ і г. д. (Вальдэ–Гофман. 1, 204) – адхіляюцца па фанетычных прычынах. Параўн. *корм*.

**Скорб** м. р. ‘смутак’ (ТС). Укр. *скорб* ‘тс’, рус. *скорбь*, ст.-рус. *скърбь*, серб.-харв. *ск̑рб* ‘клопат’, славен. *skȓb* ‘тс’, балг. *скръб*, ст.-слав. **скръбь** ‘мýка, няшчасце, гора’. Прасл. **skъrbь* ‘смутак,

клопат', *skъrběti 'смуткаваць; тужыць', якія роднасныя літ. дыял. skur̃bti 'смуткаваць', skurbė 'смута, гора, нястача', лат. skúrbt, skurbstu 'хмялець, траціць прытомнасць', skur̂ba 'галавакружэнне; ап'яненне; цечка (у авечак)'. Паводле Ларына (История, 42), сучасныя значэнні пераносныя на базе першаснага 'хвароба'. Мяркуюць, што славянскія словы маюць агульнае паходжанне з рус. вяц. *скóрблый* 'ссохлы, зморшчаны; заскарузлы, закарэлы' (сюды ж адносяцца зафіксаваныя Ластоўскім *скóрбнуць* 'карэць; дубець', *скóрблік* 'крухмал', *скарбліць* 'прыдаваць жорсткасць тканіне'), якое суадносіцца з ст.-ісл. *skarf* 'зморшчаны, худы, востры', ст.-в.-ням. *skar(p)f*, с.-в.-ням. *scharpf* 'востры', што ўрэшце ўзыходзяць да пашыранай формы і.-е. *(s)ker- 'рэзаць': *(s)kerb(h)-/ *(s)kreb(h)-, параўн. серб.-харв. *oskŕbiti* 'параніць' і 'задаць смутку', а таксама 'клапаціцца'. Паводле Мартынава (Язык, 44), апошняе – вынік перабудовы семантыкі ў паўднёвых славян пад уплывам іншамоўных пранікненняў.

**Скóрка** 'скарынка' (Касп., Растарг., ТС, Сл. ПЗБ), *скорá* 'тс' (ТС), ст.-бел. *скора* 'скура'. Працяг прасл. *(s)kora, *(s)korъka, якія ў рус. арл., разан. *скорá* 'кара дрэў', *скóрка* 'скарынка', укр. *скíра, скíрка* 'скура', дыял. *скóра* 'кара, скура', ц.-слав. *скора* 'кара', польск. *skóra, skorka* 'скура, скарынка', в.-луж. *skora, skórka* 'тс', н.-луж. *skóra, škóra, škorka* 'тс', чэш. *skora* 'скура', славен. *skóra, skórja* 'кара, скарынка'. Да і.-е. кораня *(s)ker- 'рэзаць, аддзяляць, з першасным значэннем '(здзёртая) скура, (неапрацаваная) скура жывёліны'. Бліжэйшыя адпаведнікі ў літ. *skarà* 'адрэзаны шкут', лат. *skara* 'кучаравая воўна, абрывак', ст.-в.-ням. *scëran* 'стрыгчы', лац. *scortum* 'скура', літ. *skírti, skiriù* 'раздзяляць' (Траўтман, 266–267; Мюленбах–Эндзелін, 3, 872 і наст.; Брукнер, 495; Фасмер, 3, 650–651; Махэк$_2$, 547; Сной$_1$, 574; Борысь, 553). Меркаванні Козырава (Очерки, 156) пра замацаванне ў беларускай мове *скорка* 'скарынка' пад уплывам польск. *skórka* 'тс' з улікам лінгвагеаграфіі назвы не маюць падстаў. Гл. яшчэ *скура* і *кара, скарынка*. Да таго ж кораня належаць *скрабаць, шчарбіна*. Гл. таксама Новое в рус. этим., 209; ЕСУМ, 5, 280; Глухак, 550, 610; БЕР, 6, 805.

**Скорс**, *скорш* 'загнутая частка полаза' (брэсц., Нар. словатв.), *скóрсы, ускóрсы, скóрчні* 'галоўка ў палазах' (ЛА, 2), *скóршні* 'тс' (барыс., Сл. ПЗБ), *скóрчэнь, скóрсэнь, скóрсінь, скóрсень* 'загнуты канец полаза', 'планка, што ідзе ад галоўкі полаза да першага капыла' (Маслен.). Укр. *скорс* 'загнуты канец полаза ў саней; адрэзак пня, які служыць балванкай для вырабу люлькі', *скóрсина* 'частка дрэва, якая выкарыстоўваецца на палазы', *кóрса* 'полаз у саней', *корс* 'выгін полаза', *скóрца* 'загнуты канец полаза', польск. дыял. усх. *korsa, korza*, звыч. мн. л. *korsy, korzy* 'загнутыя часткі палазоў, насы палазоў', з украінскай, гл. Слаўскі. 2, 498 і наст. Украінскія словы Слаўскі (там жа) ставіць у сувязь з рус. *корёжить* 'карабаціць', дыял. *коргá* 'крывая галіна; палка, загнутая на канцы і г. д.', далей да і.-е. *kr̥-g-: *kr̥-ǵ-. У ЭССЯ (13, 240) падаецца прасл. *kъrsъ, да якога апрача ўкраінскіх лексем узводзяцца яшчэ чэш. *krs* 'маларослае чахлае дрэва', *krsek* 'карлікавае дрэва', *krsati* 'змяншацца, апускацца', ст.-рус. *корсокъ* 'кавалак, пласт, скіба', якія параўноўваюцца з ст.-інд. *kr̥śá* 'худы, слабы чалавек', авест. *kərəsa-* 'худы', што ўзыходзяць да экспрэсіўнага і.-е. *krko-. ЕСУМ (3, 43) узнаўляе прасл. *kъrsъ/*kъrsь < *і.-е. кораня *kr̥-k'-, паралельнага *kr̥-k-, ад якога ўтворана прасл. *kъrčь 'корч'. Іншая версія ў Пятлёвай, якая на рускім дыялектным матэрыяле з гэтым коранем узнаўляе прасл. *kъrsati < *kъrt-s-ati 'рэзаць', гл. Этимология–1976, 137–139.



**Скóры** 'які адбываецца з вялікай хуткасцю; хуткі' (ТСБМ, Некр. і Байк., ТС), 'хуткі (у рабоце)' (ЛА, 3), 'хуткі, нецярплівы' (Сл. ПЗБ), *скóра* 'хутка, жвава' (Варл.). Укр. *скóрий*, рус. *скóрый*, стараж.-рус. *скоръ*, польск. *skory* 'скоры', *skoro* 'як толькі, амаль', в.-луж. *skerje*, н.-луж. *skóro* 'скора; амаль', чэш. *skorý* 'скоры', *skoro* 'амаль', славац. *skorý*, серб.-харв. *скôро* 'нядаўна', славен. *skóro, skōraj* 'скора; амаль', балг. *скóро* 'скора, хутка', макед. *скоро* 'хутка; нядаўна; у хуткім часе; амаль', ст.-слав. **скоръ** 'хуткі, раптоўны; лёгкі'. Прасл. *skorъ, *skoro. Роднасныя літ. *skėrỹs* 'саранча', лат. *šķir̃gata, šķirgãlis* 'яшчарыца', грэч. σκιρτάω 'скачу', ст.-ісл. *skári* 'маладая чайка', с.-н.-ням. *scheren* 'спяшацца'. Гл. Покарны, 934; Фасмер, 3, 654 (там жа і літ-ра); Младэнаў, 585. Ад і.-е. кораня *sker- 'рэзаць' > 'хуткі рух'; гл. БЕР, 6, 781–782. Сной$_1$ (574) выводзіць ад і.-е. *skoro-<*sker- і параўноўвае з ст.-ням. *scerōn* 'разбэшчаны, нахабны' і роднаснымі. Роднасць з ст.-в.-ням. *rasc*, ням. *rasch*, мяркуемая Махэкам$_2$ (547), па фанетычных прычынах адмаўляецца Шустарам-Шэўцам, 1295.

**Скос** 'валок скошанай травы' (ТС), 'пакошаны луг' (крыч., ДАБМ, камент., 856), *скóша* 'тс' (лельч., там жа), *скóскі* 'апошні дзень касьбы' (Варл.). Ад *скасіць* (гл. *касіць*).

**Скот**$_1$. Гл. *скаціна*.

**Скот**$_2$ 'схіл' (Янк. 3). Звязана чаргаваннем галосных з *скат* 'тс', якое ад *скаціць(ца)* < *каціць*, гл.

**Скóўзка**, *скóўзко* 'слізка, коўзка' (Скарбы, ТС), *скоўзнýць* 'саслізнуць' (ТС). Формы суадносныя з прасл. **skl̥zati (*skl̥ziti)*, працягам якога з'яўляюцца ўкр. *сковзати(ся)*, рус. дыял. *скóльзать, скóльзать(ся)* 'коўзацца на лёдзе', ст.-польск. *skiełzać się* 'нахіляцца да чаго-небудзь' (параўн. прыслоўе *skiełzem* 'крыва, коса', гл. *скелз*), чэш. *sklouzati(se)* 'коўзацца, катацца на лёдзе, снезе', славац. *sklzat'(sa)* 'коўзацца', прадстаўленыя пераважна на паўночнаславянскай тэрыторыі, акрамя харв. кайк. *skuzek* 'слізкі', што з'яўляецца выключным архаізмам на паўднёваславянскай тэрыторыі. Названыя формы з рухомым *s*- проціпастаўлены формам без яго з каранямі **kl̥z-* (гл. *коўзацца*) і **chl̥z-*, параўн. балг. *хлъзгаво* 'слізка' (Борысь, Czak. stud., 93–94; Etymologie, 354–355). Па паходжанні названыя карані, хутчэй за ўсё, маюць анаматапеічны (імітатыўны) характар, параўн. выклічнік *коўзь!*, які можа быць старой дэрывацыйнай асновай слова.

**Скóчка** 'блыха' (ТСБМ, Ласт., Сцяшк., Бір. дыс., Байк. і Некр., Жд. 1, Сержп. Прымхі). Да *скочыць, скакаць*, з суф. *-к(а)*.

**Скóчкі** 'шматгадовая травяністая, з сакавітым лісцем расліна сямейства таўсцянкавых' (ТСБМ), 'расліна Sempervivum L.' (Кіс.), *скóчка* 'скочкі' (Янк. 3, Сл. Брэс., ТС, ЛА, 1). Укр. *скóчка*, польск. *skoczek, skoczki* 'тс'. Да *скакаць, скочыць* (гл.), таму што маладыя разеткі расліны, адрываючыся, адскакваюць ад мацярынскай расліны.

**Скóчыкі** 'агаткі двухдомныя, Antennaria dioica Gaertn.' (Кіс.), *скóчкі* 'тс' (Жд. 2). Відавочна, да *скочыць* (гл. *скакаць*). Матывы намінацыі не зусім ясныя, магчыма, аналагічна папярэдняму слову, таму што ад парасткаў расліны, якія ляжаць на зямлі, адрастаюць новыя разеткі лісцяў.

**Скóчыць** – аднакратны дзеяслоў да *скакаць* (гл.). Варбат (Этимология–2003–2005, 24–25) прасл. **skočiti* выводзіць ад ***ščekti* (> **ščekati*, гл. *шчыкаць*) з ітэратыўнай *-i-* асновай пры каранёвым вакалізме ў ступені **o*, пацверджаннем чаго з'яўляецца *шчыкатáць* 'бегчы, дробна перабіраючы нагамі', гл.



**Скра** 'іскра' (Нас., Бяльк.). Ад *іскра* з адпадзеннем пратэтычнага *і*.

**Скрабакі**, *скрабакé* 'атопкі ад старых ботаў' (Шат.), *скрабнí, скрэ́батні* 'чаравікі' (Касп.), *скрабатьí* 'дрэнныя боты' (Варл.). Рус. тамб. *скрéбни* 'дрэнныя боты', яросл. 'вялікі, няўклюдны абутак', кастр. *скрéшни* 'атопкі ад ботаў, ад якіх адрэзаны халявы'. Да *скробаць* (гл. наступнае слова; параўн. асабліва значэнне ў Насовіча: 'рабіць непрыемнае шарканне ботамі').

**Скрáбаць** 'рабіць шум, скрабучы, драпаючы што-небудзь' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Байк. і Некр., Бяльк., Варл.), *скрóбаць* 'скрэбці, шаркаць нагамі' (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр.), гіперкарэктнае *скрёбыць* 'скрабаць, шкрабаць' (Бяльк.). Рус. *скробáть* 'скрэбці', укр. *скробáти, шкробáти*, польск. *skrobać*, в.-луж. *škrabać*, н.-луж. *škrabaś*, чэш. *škrábati*, славац. *škrabat'*, славен. *škrábati*. Роднасныя літ. *skrabėti* 'шамацець', лат. *skrabêt* 'скрасці', с.-н.-ням. *schrapen* (**skrapôn*) і г. д. (гл. Фасмер 3, 658; Махэк$_2$, 613). Іншая ступень чаргавання ў *скрэбці* (гл.). Сной$_1$ (636) узнаўляе прасл. **skrabati*, якое лічыць новаўтварэннем.

**Скрáвак** 'акравак, беражок' (Ласт.), 'абрэзак' (віл., Сл. ПЗБ; Сцяшк.), 'скосак' (Мат. Гом.), 'малы кусочак хлеба' (навагр., Нар. сл.). Параўн. польск. *skrawek* 'тс', якое ад *skraw* 'асколак, трэска' < *skrawać* (Варш. сл.). Слова чаргаваннем галосных звязана з *крóіць, крóю* (гл.), аналагічна да польск. *stawać:stojać, napować:napajać* і г. д. (Брукнер, 268), што можа сведчыць пра запазычанне. Аднак значэнне 'малы кавалачак хлеба' зближае слова з *акрáец, акрáйчык* 'тс', *скрáйка* 'тс'. Гл. *скрайчык*.

**Скравіны** 'тое, што застаецца пры веянні і ачыстцы збожжа' (*...скравины и мекина*) (Анім. дад.). Гл. папярэдняе слова. Утварэнне, відаць, ужо на беларускай глебе, таму што польскае з гэтым суфіксам не адзначаецца. Магчыма, ад **скраіны* 'тое, што падае з краю', гл. *край*$_1$.

**Скрáга** *(skraha)* 'скнара, скупы багацей' (ТС, Пятк. 2), *скрагнá, скрэгнá* 'тс' (ТС), сюды ж, магчыма, і *скразéнь* 'тс' (віл., Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *скря́га* 'тс' (з рус., гл. ЕСУМ, 5, 289), рус. *скря́га, скрьíга* 'тс'. Не мае надзейнай этымалогіі. Найбольш верагодным здаецца зближэнне з балг. *скръндза* 'тс', *скрéжав* 'скупы', паколькі ўсе гэтыя формы ўзводзяцца да і.-е. **(s)kreng-*, **(s)krengh-* – назалізаванай асновы, вытворнай ад кораня і.-е. **(s)ker-* 'мор-

шчыць, моршчыцца', што дае значэнне 'сціснуты, сагнуты', параўн. балг. *стѝснат* 'скупы' (Бярнар, RÉS, 40, 31). Варбат (Этимология–1970, 70 і наст.) дадае сюды формы, вытворныя ад асновы **kręg-* 'сагнутае', напрыклад, укр. *кре́жити* 'берагчы, скупіцца', якому адпавядае балг. *кръ̀ндза* 'скнара' без рухомага *s-*; семантычныя паралелі – *жмінда* (гл.), рус. *жмот, прижи́мистый* 'скнара, скупы'. Палескія формы *скрагна, скрэгна* можна было б, відаць, разглядаць як больш архаічныя, якія ў метатэзаваным выглядзе захавалі зыходнае спалучэнне *-ng-*, аднак гэта малаверагодна. Запісаны на Тураўшчыне выраз *скрэгна́ скрэгні́ць*, г. зн. 'ные, стогне', скіроўвае пошукі ў бок гукапераймальнай асновы, параўн. *скрыгаць, скрогаць, скрэгаць* (гл.). Параўн. Фасмер, 3, 659–660 (з аглядам ранейшых версій); ЕСУМ, 5, 289. Гл. таксама *скрэнда.*

**Скрагакі́** 'скураныя боты без падэшвы' (віл., Нар. сл.). Да *скро́гаць, скрагыта́ць* (гл. *скрэгаць*). У семантычных адносінах параўн. *скрабакі* (гл.).

**Скрадзі́**, *скрядзі́* 'кавалак мяса жывёліны, якое сапсавалі пры забоі' (воран., LKK, 16, 189). З літ. *skerdžiaĩ* 'тс' < *skeȓsti* 'рэзаць, заколваць' (Лаўчутэ, Балтизмы, 72).

**Скра́дка** 'схованка' (Мат. Гом.). Вытворнае ад *скрада́ць* 'красці', *скрада́цца* 'падкрадацца' (Ласт.), гл. *крадком, красці.*

**Скра́жка** 'створка ракавіны малюска', 'малюск' (Ян.). Укр. палеск. *скра́жка, скра́шка* 'тс'. Цьмянае слова; магчыма, ад гукапераймальнага *скро́гаць* (гл. *скрэгаць*) з суф. *-j-* і *-k(a)* і падаўжэннем галоснага ў назоўніку, з мяркуемым значэннем 'тое, што скрэгае, храбусціць'. Магчыма, старажытнае ўтварэнне.

**Скразня́к** 'скразны вецер' (ТСБМ). Да *скразны́* < *скрозь* з суф. *-ак*. Сюды ж *скрасе́нны* 'нідзе не сточаны, суцэльны' (Варл.) з аглушэннем *-з-* у інтэрвакальным становішчы, відаць, пад уплывам маўленчай формы *скрось.*

**Скрайзо́ліць** 'скрэсліць' (стаўб., Жд. 2). Да *крэйзаць* (гл.); да словаўтварэння параўн. *грымзо́ліць*, гл. *грымзолі.*

**Скра́йчык**, *скраёк* 'гарбушка, першы або апошні кусок хлеба ад бохана' (Вешт., Сл. Брэс.), *скра́йка* 'тс' (беласт., Сл. ПЗБ). Да *край* з суф. *-чык, -ок, -к.* Параўн. *акрайчык.*

**Скрак** 'худая запушчаная жывёліна' (гродз., ЖНС), 'худы занядбаны чалавек' (бяроз., Ск. нар. мовы). Няясна. Магчыма, суадносіцца з *храк* (гл.).



**Скрамі́ць(ца)** 'уціхамірыць' (Нас.). З польск. *skromić* (*się*) 'тс'. Апошняе ад *скром-* (гл. *скромны*) (Варш. сл.).

**Скрампава́ць** 'моцна ўвязаць вяроўкамі' (Шат., Сержп.). З польск. *skrępować* 'тс'.

**Скрасе́нне** 'нядзеля' (Бяльк.; арш., Нар. сл.). З рус., ц.-слав. *воскресе́нье* 'тс'.

**Скра́ўза** 'кавалачак мяса ў супе' (гродз., ЖНС). Няясна.

**Скрозь** прысл. і прыназ. 'усюды, кругом', 'заўсёды, праз увесь час', 'праз, цераз што-небудзь; навылёт' (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Сл. ПЗБ, ТС, Варл.), *скрузь* 'тс' (Мат. Гом.), *скрозь* 'праз', 'супроць' (Ян.); а таксама *крозь, кроз, круз, крызь* 'праз, скрозь', 'усюды' (ТС). Укр. *скрізь*, рус. *скрозь*, польск. *skroś, wskroś*, чэш., славац. *skrz, skrze*, серб.-харв. *скро̑з*, славен. *skròz*, балг. дыял. *скръз*; таксама ўкр. *крізь*, славац. *krez, kroz*, серб.-харв. *кро̏з, кро̏за*, балг. *кроз, кръз*, ст.-слав. **скрѣзѣ**. Прасл. **(s)kъrъ* > **(s)kъrsъ* 'насупраць, праз', параўн. літ. *skeȓsas* 'папярок'. Далей дапускаюць кантамінацыю **kers-* і **skvozě* (рус. *сквозь*), а корань **kers-* узводзіцца да і.-е. **kerts-* ад **kert-* 'рэзаць'. Гл. Фасмер, 3, 658 з літ-рай; БЕР, 6, 805; Махэк$_2$, 549 (< прасл. **skrozě*); ESSJ SG, 1, 237–238.

**Скро́йка** 'луста хлеба' (Байк. і Некр.). Рус. дыял. *скрой, скро́я, скро́ек* 'тс', укр. *скро́йка* 'выкрайка', чэш. *skrojek* 'скібка хлеба; скрылік чаго-небудзь', серб.-харв. *скро̑ка* 'адрэзак; сегмент'. Да *скроіць* < *кроіць* (гл.) з суф. *-к(а).*

**Скром** 'заечы тлушч, які ўжываецца як лякарства пры вонкавых ранах' (Нас., Байк. і Некр.). З польск. *skrom* 'скаромная тлустая ежа; заечы тлушч' (Карскі, Белорусы, 149; Цвяткоў, Запіскі, 2, 1, 60; Кюнэ, Poln., 97). Параўн. *скорам.*

**Скро́міць**, *скрэ́міць* 'зрэзаць верх хвоі' (ТС). Да *кром*$_1$ 'хвоя са спілаванай вяршыняй для борцей'(гл.).

**Скро́мны** 'неганарысты', 'стрыманы, умераны, сціплы' (ТСБМ), 'скнарлівы' (навагр., З нар. сл.), *скрамі́ць* 'заспакойваць' (Нас.), *скрэ́мнічаць* 'быць сціплым' (Ян.). Паходжанне слова не вызначанае. Як мяркуе Крукоўскі (Уплыў, 74), з рус. *скро́мный*, аднак у рускай мове слова фіксуецца адносна позна і лічыцца паланізмам (Брукнер, 496; Віткоўскі, Słownik 174 і інш.). Паводле Тапарова (Этимология–1994–1996, 158), значэнне слова можа трактавацца падвойным чынам – як 'той, хто трымаецца ў пэўных рамках' і 'той, хто трымаецца з краю', г. зн. знае сваё месца і не

прэтэндуе на большае. У залежнасці ад гэтага прасл. **skromьnъ*, рэфлексы якога яшчэ ў польск. дыял. *skromny* 'скупы', каш. *skromn* 'скупы; бедны, худы', в.-луж. *skromny* 'тс', чэш. *skromný*, славен. *skrómen*, серб.-харв. *скроман* (< з чэш., Скок 3, 271), балг. *скром* 'тс', *скро́мен* 'тс', выводзіцца ад кораня **krom-*, параўн. рус. *кро́мы* 'кросны; рама ў кроснах', першапачаткова 'той, хто трымаецца ў рамках'; гл. Сабалеўскі, РФВ, 70, 87; Фасмер, 3, 658; Бернекер, 1, 622. Аднак больш прымальным падаецца другое значэнне, захаванае ў рус. *кро́мы* 'ўскраіна', в.-луж. *skromny*, *přikromny* 'які знаходзіцца з краю, крайні', што дазваляе звязаць слова з *скроміць*, *кром*$_1$ (гл.). Урбанчык (JP, 26, 6 і наст.) рускае слова лічыць запазычаннем з польск. *skromny*; ён мяркуе, што польскае з ст.-чэш. *skrovný* 'тс', якое да *крыць* (гл.), што адмаўляюць Басай і Сяткоўскі (Słownik, 317). Гл. таксама Глухак, 555 (першасна адносілася да жывёлы, якую вылегчалі, абрэзалі, "скрамілі").

**Скронь** 'бакавая частка чэрапа ад вуха да лобнай косці' (ТСБМ, Байк. і Некр., Сцяшк., ТС), *скронь*, *скро́на* 'тс' (паст., астр., шчуч., смарг., шальч., Сл. ПЗБ), *скронь* 'вейка' (Нас.), 'калена': *пасадзі дзіця на скроні* (Мат. Маг.). Паводле фанетыкі (склад *-ро-*), запазычанне з польск. *skroń* 'скронь' (Цвяткоў, Запіскі, 2, 1, 60). Параўн. укр. *скро́ня* 'тс', рус. *скоро́нь* 'тс', дыял. *скорыньй* 'сківіца', рус.-ц.-слав., серб.-ц.-слав. *скрания* 'скронь', каш. *skrńå* 'скронь, шчака', чэш. *skráň* 'тс', славац. *skráň*, *škraňa* 'выпукласць на шчацэ, ягадка', в.-луж. *skrőń*, н.-луж. *skŕono* 'скронь, ягадка', славен. *skrânj*, *skrenja* 'падбародак, ягадка, сківіца'. Прасл. **skornь*. Усе версіі не вельмі надзейныя. Параўноўвалі з ст.-ісл. *hvarmr* 'павека' і, далей, з лац. *parma* 'кароткі круглы шчыт'. Паралель у грэч. κρανίου 'чэрап' (Мацэнаўэр, LF, 20, 20 і наст.; Брукнер, 496) адвяргаецца Фасмерам (3, 653) па фанетычных прычынах. Махэк$_2$ (548) набліжае да прасл. **černъ* 'карэнны зуб'. Аднак не выключана праславянскае паходжанне і ўзвядзенне да **skrena* на падставе н.-луж. *škrjeny* мн. л., дыял. *škrjena* 'верхняя сківіца' (Шустар-Шэўц, 1290), што дазваляе трактаваць беларускія і ўкраінскае словы як рэфлексы старога **skronь* (Сной у Бязлай, 3, 248). Магілёўскае *скронь* 'калена' або памылковы запіс, або змена значэння ў выніку дээтымалагізацыі.

**Скропль** 'сухія гнілушкі для падкурвання пчол' (лун., Шатал.). Фармальна да незафіксаванага дзеяслова **скропіць*, *скраплю*



з суф. *-jo*; калі меркаваць па суфіксацыі, архаізм. Да кораня *кроп-*, які ў рус. *кро́пкий*, *скро́пкий* 'крохкі, ломкі', апошняе з **krъpъkъ*, звязанага чаргаваннем з *крупа*; гл. Фасмер, 2, 282.

**Скру́жваць** 'аддзяляць збожжа ад адходаў пры дапамозе рэшата' (в.-дзв., Шатал.; Сцяшк.), *кружава́ць* і *скружава́ць* 'тс' (полац., Нар. лекс.; навагр., віл., Сл. ПЗБ), *скружа́ць* 'тс' (Байк. і Некр.), *скружоўваць*, *скру́жваць* 'веяць рэшатам', *скру́жваць* 'веяць змятаннем' (ц.-палес., Выгонная, Лекс. Палесся). Укр. *скругля́ти*, *скружляти*, рус. дан. *скру́живать*, польск. *skrężać*, *krążyć*, серб.-харв. *skružívati*, *skrúžiti*, славен. *skrožíti*. Магчыма, ужо прасл. **skrǫgiti* 'веяць рэшатам кругавымі рухамі'. Да *круг*, *кружыць*; гл. Слаўскі, 3, 76. У гэтым значэнні – вельмі старажытны славянскі земляробчы тэрмін; гл. спецыяльна Выгонная, там жа, 80.

**Скру́жкі**, *скру́шкі*, *скру́жсыны* 'амецце, адходы пры ачыстцы збожжа' (талач., рас., Шатал.; ц.-палес., Выгонная, Лекс. Палесся, 83), *скружа́віны* 'не выбітыя цэпам каласы, што ляжаць наверсе рэшата пры скружванні' (Жд. 1). Укр. дыял. *скру́жкі*, польск. *skrążki*, *skrążyny*, *skrążak* 'невялікае рэшата, якое служыць для "скружвання"', *krużyny* 'скружкі', серб.-харв. *skrúžak*, *skruška*, славен. *skrȏžek*, *skrožki*, *skrožina* 'тс'. Прасл. **sъkrǫgъkъ*. Да *скружваць* (гл.).

**Скруну́ць** 'павярнуць' (Сл. Брэс.). Няясна; мабыць, з **скрутнуць* з пераходам *тн* > *н* або з чаргаваннем ад *кранаць*, гл.

**Скру́пель** 'скупы' (паст., Сл. ПЗБ). Дэрыват з суф. *-ель* ад асновы *скруп-*, якая ў *скрупул*, *скрупулат* (гл.).

**Скру́пул** 'малая колькасць, крупинка' (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр.), *скру́пулка* памянш. (Нас., Байк. і Некр.). З польск. *skrupuł* 'дробная адзінка вагі (у аптэкарскай справе)', таксама як і рус. *скру́пул* 'тс' (Кюнэ, Poln., 97); польскае да лац. *scrupulus* 'маленькі востры каменьчык; сумненне, апаска' (Варш. сл., 6, 181).

**Скрупула́т** 'гаспадар, дбайны да кожнай дробязі', *скрупуля́тка* 'гаспадыня, ашчадная да дробязі' (Нас.). З польск. *skrupulat*, *skrupulatka* 'тс', якія да *скрупул* (гл.).

**Скрупулёзны** 'дакладны да дробязей' (ТСБМ). Відавочна, новае запазычанне з рус. *скрупулёзный* 'тс' (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 76 і наст.), у ст.-бел. запазычаннях не адзначана. Рус. з лац. *skrupulosus* 'тс'.

**Скру́так**$_1$ ‘звязка пачэсанага льну, лыка і г. д.’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Сцяшк., Шатал., Сл. ПЗБ, Інстр. 3), ‘здор, скручаны рулонам’ (Сл. ПЗБ), *скру́тка* ‘скрутак’ (Сл. ПЗБ), *скру́цень* ‘скрутак лазовай кары’ (ТС), гіперкарэктнае *скрю́тык* ‘скрутак’ (Бяльк.). Да *скруціць* < *круціць* з суф. *-ак*; аналагічна ў іншых славянскіх мовах; параўн. укр. *скру́ток*, *скру́тень*, рус. *скру́ток* ‘тс’.

**Скру́так**$_2$ ‘няшчасце’ ў выразе: *каб на цябе скрутак* (бяроз., КЭС), *скрут* ‘злом, скон’ (Барад.); параўн. у Янк. БФ.: *на скрут галавы* ‘небяспечна, бязглузда рабіць што-небудзь’. Да *скруціць* < *круціць* (гл.); таксама ўкр. *скру́та* ‘цяжкае становішча’, рус. дыял. *скру́тно* ‘цяжка’.

**Скру́тях**, *скру́тех* ‘сукруціна, ва́да занадта моцна або няроўна спрадзенай пражы ў выглядзе перакручаных месц, а таксама вада палатна з такой пражы ў выглядзе няроўнасцей’ (Уладз.). Ад *скруціць* < *круціць*; першасная суфіксацыя, відаць, *-ак*, потым, як экспрэсіўнае, *-ах*. Гл. *сукруціна*.

**Скру́ха** ‘туга, маркота’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Сцяшк., Др.-Падб.), ‘сум, раскаянне’ (Нас., Гарэц.), *сукру́ха* ‘тс’ (Нар. Гом.), *скрух* ‘смутак’ (Шн. 2), *скрухлі́ва* ‘сумна’ (Сцяшк. Сл.), *сукру́шны* ‘спачувальны’ (ТС). Ст.-бел. *скруха* ‘раскаянне; шкадаванне, жаль’ з 1577 г. < ст.-польск. *skrucha* (Булыка, Лекс. запазыч., 134). Аднакаранёвае з *крух* (гл.).

**Скруці́цца** ‘скурчыцца, згарнуцца’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ), ‘пакалечыцца’ (Сцяшк. Сл.), ‘звіцца, скруціцца’ (ТС), ‘упасці мёртвым, згінуць’ (Скарбы, Варл., ТС), ‘ашалець’ (Пятк. 2, Ян., Сцяшк. Сл.), ‘кінуцца ў гулі; звязацца з дрэннай кампаніяй’ (Мат. Гом., Ян.). Да *круціць* (гл.) у розных значэннях.

**Скру́шчык** ‘кавалак хлеба’ (Вештарт, Лекс. Палесся), *скру́шок* ‘хлябец, булка, якая даецца таму, хто прыходзіць наведаць парадзіху’ (пін., ЖНС). Да *крух*, *кругха́* (гл.).

**Скрыбату́ха** ‘часотка’ (Касп.). Ад **скрабатаць*, што да *скрэбці* (гл.) з суф. *-ух(а)*. Аб семантычнай мадэлі ‘драць, часаць’ → ‘часотка’ гл. Мяркулава, Этимология–1970, 302.

**Скры́га** ‘крыга’, ‘пласт узаранай зямлі’, *скрыга́н* ‘скрыль’ (Шатал.; віл., шчуч., Сл. ПЗБ), *скры́га*, *скрыжа́ліна* ‘кавалак лёду, мёрзлай зямлі, солі і інш.’ (Варл., Ян.). Гл. *крыга*. Семантыка пад уплывам *скрыль* (гл.).

**Скрыгата́ць** ‘утвараць гукі скрыгату’, ‘скрыпець’, ‘рыпець’, ‘вішчаць’ (ТСБМ, Др.-Падб., Байк. і Некр., Касп., Гарэц., Сл. ПЗБ), *скрыгіта́ць* (Нас., Янк. 2, Сцяшк., Скарбы), *скрагата́ць* ‘тс’ (Др.-Падб.), *скры́гаць* ‘тс’ (Нас., ТСБМ, Шат., Бяльк.), *скро́гат* (Нас., ТСБМ, Бяльк., Гарэц., Др.-Падб., Байк. і Некр.), *скры́гат* (ТСБМ, Др.-Падб.), ст.-бел. *скрыгнуть зубамі* (Альтбаўэр). Укр. *скреготáти*, *скрéгіт*, рус. *скрежетáть*, *скрежетáть*, *скрéжет*, ст.-рус. *скрегътати*, *скрежьтати*, *скрьгътати*, рус.-ц.-слав. *скрьгътати*, польск. *zgrzytać*, чэш. *skřehotati* ‘каркаць, квакаць’, серб.-харв. *шкргу́тати* ‘скрыпець’, славен. *skŕgati*, *skrgútati* ‘трашчаць’, балг. *скъ́рцам* ‘скрыплю’, макед. *скрца* ‘тс’, ст.-слав. **скрьжьтъ** ‘скрогат (зубоў)’. Гукапераймальнае (Фасмер, 3, 656–657; Махэк$_2$, 549). Параўноўваюць з ст.-ісл. *skrǽkr* ‘крык’, *skrǽkja* ‘крычаць’, англ. *schriek* ‘тс’, с.-н.-ням. *schrêken* ‘гучна смяяцца’, літ. *kregždė̃* ‘ластаўка’, *kregéti* ‘рохкаць’ і г. д. (Фасмер, там жа). Борысь (739) узнаўляе прасл. **skъrgati* ‘скрыгаць’, ад якіх утвораны інтэнсіўныя дзеясловы з суф. *-ъt-*, *-ot-*.



**Скры́гла** ‘стрыжань птушынага пяра’ (свісл., Сл. ПЗБ), *скрыглёк* ‘скрылёк (бульбы)’ (гарад., там жа), *скры́гель*, ‘скрылік’ (Скарбы), *скрыга́ль*, *скрыге́ль* ‘кавалак сала’ (Ян., Мат. Гом.), *скрыгля́ць* ‘наразаць скрылямі’ (Сцяшк.). Нейкая кантамінацыя, магчыма, *скрыль* (гл.) і *стругаць*, або ад *скрыга* з *-л*-суфіксацыяй. Не выключана, што слова паходзіць з *скрыдла* (гл.), параўн. Філін (Происх., 272 і наст.) аб генезісе *kl*, *gl* < *tl*, *dl* на славянскіх тэрыторыях, сумежных з балтыйскімі.

**Скрыгля́ць** ‘наразаць тонкімі скрылікамі’ (Сцяшк.). Да папярэдняга слова, параўн. *скрыль* (гл.).

**Скры́дла** ‘крыло’ (Байк. і Некр.; воран., Шатал.), *скры́длы* мн. л. ‘тс’ (Сцяшк., Інстр. 2), *скры́дла*, *скры́дло*, *скры́длы*, *скры́для* ‘крыло’, ‘рагач у калаўроце’ (паст., смарг., гродз., шальч., Сл. ПЗБ), *скры́дэлка* памянш. (лаг., КЭС), *скры́далкі* ‘плаўнікі’ (рас., Шатал.), сюды ж *скра́дла* ‘крылле’: *пявун як замахае сваім скрадлам* (Мат. Гом.). З польск. *skrzydło* ‘крыло’ (Цвяткоў, Запіскі, 2, 1, 83). Ст.-бел. *скридло*, *скрыдло* кан. XVI – пач. XVII ст., з ст.-польск. (Булыка, Лекс. запазыч., 204). Гл. *крыло*.

**Скры́дня** ‘крыга’ (валож., Сл. ПЗБ). Кантамінацыя *скрыга* з асновай *скрыд-*, якая ў *скрыдэль* (гл.), аформленае суф. *-н(я)*.

**Скрыдэ́ль** ‘скрыль’, памянш. *скрыдэ́лек*, *скрыдэ́лак* (беласт., ашм., гродз., Сл. ПЗБ), *скры́длікі* ‘страва з цёртай бульбы’ (Сцяшк.

Сл.), сюды ж, ідаць, *скрыдлéўе* 'скібы змёрзлай зямлі' (віц., Хрэст. дыял.). Кантамінацыя *скрыль* і *скрыдла, скрыдля* (гл.).

**Скрыло́** 'крыло' (Ласт., Сл. ПЗБ, Стан.), *скры́льлі* 'крылы' (Ласт.), *скры́лы* 'тс' (Сл. ПЗБ), *скры́лья* 'крылле' (там жа). Варыянт з рухомым *s-* ад **skridlo/*kridlo* (гл. ЭССЯ, 12, 153). Гл. *крыло*.

**Скрыль** 'луста, скіба' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Байк. і Некр., Касп., Мядзв., Бяльк., Янк. Мат., Жд. 1), 'пласт узаранай зямлі' (в.-дзв., Сл. ПЗБ), 'вашчына' (там жа), 'жменя льну' (мядз., там жа), 'губа на дрэве' (ТС), *скрылí* 'нарэзаная і падсмажаная бульба' (Бяльк., Мат. Гом., Янк. Мат.), *скрылькí* 'суп з бульбы' (барыс., Жд. 1), *скрыль* 'соты з мёдам у раме' (віл., З нар. сл.), памянш. *скры́лік, скрыля́ць* 'рэзаць скрылямі' (ТСБМ, Касп., Нас., Ласт.; ашм., Стан.; Сл. ПЗБ). Рус. зах., паўд. *скрыль* 'трэска, лучына, луста хлеба', польск. дыял. *skrzyl* 'бераг, край', чэш. *skřidla, škřidla* 'сланец, чарапіца', славац. *škridla* 'тс', серб.-харв. *скри́ла, шкри́ља, шкриљац* 'тонкая каменная плітка', славен. *skríl* 'сланец', *skríla* 'каменная плітка', *škríl, škríla* 'сланец; ільдзіна'. Прасл. **skridlь* або **skridla* 'штонебудзь расшчэпленае, расколатае, адрэзанае'. Мяркулава (Этимология–1982, 46–47) узнаўляе прасл. **skriti* 'рэзаць', адкуль выводзіцца смал. *скрыляць* 'шчыпаць'. Сной$_1$ (575) дзеяслоў рэканструюе як **skristi, skridǫ* 'рэзаць', які да і.-е. базы **skreid-* 'рэзаць, шчапаць'. У якасці паралеляў ён прыводзіць гоц. *diskretends* 'торгаючы, ламаючы', ням. бавар. *schritzen* 'ламаць, торгаць', нова-в.-ням. *schritz* 'разрэз'. Фасмер (3, 659) звязвае з *кроіць, крою* (гл.). З прычыны праславянскага і агульнаславянскага характару слова нельга лічыць яго запазычаным з літ. *skrȳlis* 'варэнікі; аладкі; абрэзкі цеста' (Лаўчутэ, Балтизмы, 39 з літ-рай), параўн. Анікін, Опыт, 283 з літ-рай.

**Скрымéць** 'дранцвець, церпнуць, пачынаць балець' (Тур.). Няясна.

**Скрындзíць** 'плакаць, ныць, капрызіць' (Арх. Федар.). Гл. *скрэнда*.

**Скрындо́ла** старое 'аглобля сахі' (ТСБМ). Гл. *крынджалы*.

**Скры́ня** 'драўляная пасудзіна для складвання ці ссыпання, скрынка', 'драўляная пасудзіна з вечкам і замком, сундук, куфар' (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Гарэц., Др.-Падб., Мал., Мядзв., Бяльк., Шат., Касп., Сцяшк., Пятк. 2, ТС, Булг., Шатал., Бір. дыс., Нар. словатв., Сл. ПЗБ, Шушк., Жыв. сл.), 'аконная або дзвярная шуфляда' (Тарн., Шушк., ТС), 'драўляная аправа ў жорнах' (шальч., лід., Сл. ПЗБ), 'дадатковы зруб на дне калодзежа' (Некр., Сцяшк., Шатал., Бір. дыс., ТС, Нар. лекс.), 'вулей' (ігн., вільн., Сл. ПЗБ), 'дамавіна з чатырох дошак' (ТС), 'шуфляда ў стале' (Нар. сл.), 'форткі акна' (Шушк.), 'ступка (медная)' (Мат. Гом.), *скры́нка* 'сундук' (мазыр., Яшк. Мясц.), *скры́нка* 'чатырохсценная пасудзіна' (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Сл. ПЗБ). Асноўная версія: беларускае, як і ўкр. *скри́ня*, рус. *скрин, скри́ня, скри́нка* 'тс', запазычаны з польск. *skrzynia, skrzynka* 'тс' (Карскі, Белорусы, 157; Кюнэ, Poln., 97) або чэш. *skříně* 'тс' (Фасмер, 3, 657). Крыніца заходнеславянскіх слоў у лац. *scrīnum* 'цыліндрычная скрынка для захавання папер'; гл. Махэк$_2$, 550; Голуб–Копечны, 334–335; Младэнаў, 586; Скок, 3, 270) або з ст.-в.-ням. *scrîni* 'шафа' (Фасмер, там жа, Кіпарскі, Gemeinslav., 264 і наст., Сной$_1$, 575), якое ўзыходзіць да той жа лацінскай крыніцы. Праабражэнскі, 2, 312; Брукнер (498), Шустар-Шэўц (700–701) дапускаюць магчымасць спрадвечнаславянскага паходжання і роднасць з рус. *крынка*. Гл. яшчэ БЕР, 6, 796.

**Скрып** 'хвошч палявы, Equisetum arvense' (ваўк., Сл. ПЗБ, Скарбы, Кіс., Інстр. 2). Укр. дыял. *скрип* 'тс', рус. *скрыпу́н* 'хвошч палявы', польск. *skrzyp, skrzyb* 'хвошч, Equisetum L.', чэш. дыял. *skřip* 'тс', славац. дыял. *škrip*, в.-луж. *šćipk* 'тс'. Да *скрыпець*, таму што расліна скрыпіць, калі яе мнуць або калі ёй чысцяць што-небудзь (Махэк$_2$, 550). Борысь (Etymologie, 665–666) разглядае паўночнаславянскае **skrip* 'Equisetum' як супольную інавацыю часткі славянскіх дыялектаў, што ўзнікла ў перыяд распаду праславянскай моўнай супольнасці.

**Скры́пацень** 'грузд' (брэсц., пін., Жыв. сл.), *скрыпíца* 'тс' (чэрв., Сл. ПЗБ). Сюды ж *скрипица* 'грыб, Agaricus extinctorius L.' (Меер Крыч.). Да *скрыпець* (гл.).

**Скры́пацца** 'часта хадзіць у хату і з хаты, часта адчыняць дзверы' (дзярж., карэліц., Нар. сл.), *вы́скрыпаць хату* 'выстудзіць хату, часта ходзячы то на двор, то са двара' (там жа). Магчыма, да *скрыпéць* (гл.); параўн. пару прасл. **skripěti – *skripati* 'скрыпець, скрыгітаць' (SEK, 4, 301), але Варбат (Этимология–1981, 19) бачыць магчымасць пры параўнанні з літ. *skrýbauti* 'хутка рухацца', роднаснага з літ. *skriebti* 'чыркаць', узнікнення значэння 'часта хадзіць' на базе 'рэзаць' у гняздзе і.-е. **(s)krei-*; г. зн. 'рэ-

зацьхуткімі шматразовымі рухамі', 'скрабсці' – 'хадзіць туды-сюды', што пацвярджаецца, на яе думку, балг. *скрѝпъл* 'жывое рухавае дзіця'. Параўн. наступнае слова (гл.).

**Скрыпа́цца** 'блытацца': *ніткі скрыпа́юцца* (віц., ЛА, 4). Да *крыпаць* (гл.).

**Скры́пель**, *скры́пень* 'гу́ба' (мазыр., Жыв. сл.), *скрыпе́ль* 'тс' (ТС, Пятк. 2, Ян.; мазыр., Жыв. сл.), *скры́пель* 'тс' (бярэз., Сл. ПЗБ), *скры́пень* 'губка для высякання агню' (бабр., ЛА, 4). Карскі (Труды, 479) заўважае "толькі палескае", аднак гл. *скры́пель*, *скрыпе́ль* 'грыб-трутавік' (асіп., бярэз., бых., саліг., стол., лельч., ельск., ЛА, 1), *скрыпе́нь* 'тс' (добр., ганц., барыс., ЛА, 1). Да *скрыпець* (гл.). Параўн. балг. *скрипе́ц* 'від ядомага грыба, які расце на дрэве'; дэрываты ад гэтага дзеяслова існуюць таксама ў іншых славянскіх мовах. Гл. БЕР, 6, 798.

**Скры́пень** 'расліна Epilobium angustifolium Scop.' (ТСБМ, Кіс., Дэмб.), *скрыпе́нь* (Касп.), *скрыпун*, *скрыпель*, *скрыпнік* (Кіс.); *скрыпіцень* (Мядзв.), *скрыпу́н* (Сцяшк.) 'тс', *скрыпе́ль* 'дзедзвель, Sonchus paluster L.' (кругл., ЛА, 1), іншая народная назва – *хробуст*. Рус. дыял. *скрипу́н*, *скры́пень*, *скры́пник*, *скрыпе́й* і г. д. 'тс'. Да *скрып*, *скрыпець*; прынамсі Махэк (Jména, 149) мяркуе аб адным паходжанні гэтай назвы з чэш. *skřipina* 'чарот'. Матывы намінацыі не заўсёды зусім ясныя; магчымы перанос назвы з адной расліны на іншыя па знешнім падабенстве.

**Скрыпе́ць** 'утвараць скрыпучыя гукі; рыпець', 'жыць абы-як, з цяжкасцю падтрымліваючы свае сілы' (ТСБМ), *скры́паць* 'тс' (Байк. і Некр.). Укр. *скрипі́ти*, рус. *скрипе́ть*, ст.-рус. *скрипати*, польск. *skrzypać*, в.-луж. *křipać*, н.-луж. *kśipaś*, чэш. *skřípati*, славац. *škripat'*, *škripiet'*, серб.-харв. *шкри́пати*, славен. *škrípati*, балг. *скрѝпя* 'тс'. Прасл. **skripati*, **skripěti* 'скрыпець'. Фасмер (3, 657 і наст.), Махэк$_2$ (550) лічаць гукапераймальным. Параўноўваюць з лат. *skripstêt* 'хрусцець, скрыпець, грымець', *kripš(k)êt* 'тс', літ. *krìpštereti* 'ціха шамацець', ст.-в.-ням. *scrîan*, *screiôn* 'крычаць'; гл. Мюленбах–Эндзелін, 2, 280; Вальдэ–Гофман, 1, 291–292. Сной$_1$ (637) удакладняе, што гэта да і.-е. базы **(s)krei-p*, **krei-k* (параўн. *крычаць*, што азначала хрыплыя натуральныя гукі). Варбат (Этимология–1981, 16 і наст.) падцвярджае гіпотэзу Цупіцы (Gutturale, 126) аб роднасці слав. **skripati* з групай ст.-ісл. *hrīfa* 'рэзаць' і далей з гняздом і.-е. **(s)ker-* 'рэзаць' на матэрыяле паўднёваславянскіх



дзеясловаў і імён са значэннем 'шчыліна, расшчэп', а таксама назваў пазоў, блокаў і г. д. Гл. яшчэ БЕР, 6, 799; Шустар-Шэўц, 701; Борысь, 555.

**Скрыпёнкі**: *сядзець на скрыпёнках* 'сядзець на кукішках' (Касп.). Няясна. Магчыма, звязана з серб.-харв. дыял. *скри́пим* 'скочыць'.

**Скрыпі́ца** 'кошык' (Бяльк.). Гл. *скрыпка$_2$*.

**Скрыпі́цы**: *pan... kajdanoszy hotuje, a skrypicy na ruczycy* (Зянк.). Кольберг (Kolb., 385) тлумачыць 'пастронкі', што недакладна, параўн. тлумачэнне Шымкевічам укр. *скрипни́ци* 'драўляныя клешчы, якія надзявалі на ногі злачынцам' (Шымк. Сл., 127), параўн. таксама *скрипи́ца*, *скрепи́ца* 'драўляныя кайданы або калодка'. З іншай суфіксацыяй укр. дыял. *скри́пці* 'блокі ў кроснах', польск. *skrzypic*, *skrzypce* 'кайданы, калодка', чэш. *skřipec* 'блок у кроснах', 'дыба, прыстасаванне для катавання', славац. *škripec* 'тс', в.-луж. *skřipk* 'блок у кроснах', серб.-харв. *шкрипац* 'блок', славен. *škrípec* 'блок', 'клешчы', балг. *скрипе́ц* 'частка кроснаў; блок', макед. *скрипец* 'блок'. Прасл. **skripьсь*. Трубачоў (Ремесл. терм., 135) адносіць да **skripěti* 'скрыпець'. Варбат (Этимология–1981, 17–18) у сувязі з апошняй версіяй падкрэслівае, што ўсе вышэйпамянёныя рэчы маюць паз, шчыліну, адкуль 'прыстасаванне з пазам, жолабам для змацавання, сціскання, сцягвання' і г. д., што дэманструе сувязь з зыходным дзеясловам. Гл. таксама БЕР, 6, 798 з літ-рай; ЕСУМ, 5, 288 (слова не звязана з гукапераймальнай асновай **skrip-*, а непасрэдна выводзіцца ад і.-е. **sker-* 'рэзаць, калоць' з семантычным развіццём 'раскол' – 'клямшчотка, клешчы', 'дыба', 'блок'). Борысь (Etymologie, 666–669) выводзіць назвы рознага тыпу дэталяў, сярод іх каш. *skřëpk* 'бэлька, у якой паварочваюцца вароты; калодка, ступа з гняздом для восі варот', з прасл. **skripъ*, **skripa*, фармальна тоеснага прасл. **skripъ*, **skripa* 'скрып, трэск, скрыгат', якое ў познепраславянскую эпоху набыло спецыфічнае (тэхнічнае) значэнне. Паводле Басая і Сяткоўскага (Słownik, 668), польск. *skrzypiec* 'прылада для катаванняў' можа быць багемізмам, але не выключаецца і захаванне ўласнага архаізма.

**Скры́пка$_1$** 'смычковы музычны інструмент' (ТСБМ, Ласт., Шат., Байк. і Некр., Др.-Падб., Бяльк., ТС, Сл. ПЗБ). Рус. *скри́пка*, укр. *скри́пка*, польск. *skrzypce* 'скрыпка, ліра'. Звязана з *скрыпе́ць*

(гл.; Фасмер 3, 658; Борысь, 555). Інакш аб словаўтварэнні Шанскі (КЭСРЯ, 413): ад *скрипа* – варыянт ж. р. да *скрип* 'выклічнік, што азначае скрыпенне' з суф. *-к(а)*. Варбат (Этимология–1981, 20) выводзіць ад **skripati* 'хутка рухацца', што звязана з хуткімі рухамі смычка, параўн. ням. *Geige* 'скрыпка' і дыял. *geigen* 'рухаць узад і ўперад, туды-сюды'.

**Скры́пка₂** 'венцер, рыбалоўная прылада ў выглядзе конуса або рэшата для зімняй лоўлі' (чач., Жыв. НС; кір., Нар. сл.; Браім, Рыбалоўства), *бучы* або *крыпкі* 'пляцёныя або зробленыя з лучыны конусы, якія апускаюцца ў палонкі' (Меер Крыч.). Відаць, ад *скрыпка₁* паводле знешняй формы; параўн., аднак, *скрыпіца* 'кошык' (гл.), што выяўляе сувязь з *крыпаць* 'блытаць' (гл.), г. зн. 'плясці', параўн. *скрыпа́ны* 'неўпарадкаваны' (ігн., Сл. ПЗБ), *скрыпа́цца* 'зблытацца' (там жа), гл.

**Скрыпт** 'рукапіс, манускрыпт' (Гарэц., Др.-Падб.), ст.-бел. *скриптъ* 'ліст, пісьмо' (Ст.-бел. лексікон). Запазычанне з польск. *skrypt* 'афіцыйная папера, дакумент; вэксаль'; або непасрэдна з лац. *scriptum* 'лінія, рыса; пісьмовае сачыненне, тэкст' (Варш. сл., 6, 183).

**Скрыпу́н** 'расходнік пурпуровы, Sedum purpureum L.' (Кіс., Касп.), 'від пустазелля' (Скарбы). Рус. *скрипу́н* 'расходнік'. Да *скрыпець* – расліна скрыпіць у руках, калі яе церці або ціснуць, гл. Аненкаў, 325; іншая народная назва – *заячча капуста* (Кіс.).

**Скрыпушка** 'смалёўка, Silene cucubalus Wib.' (Кіс.), *скрыпу́ха* 'скрыпень' (Сл. ПЗБ), укр. дыял. *скрипуха* 'зубнік, Crepis L.'. Польск. *skrzypka* 'ляскаўка, Silene inflata L.', паводле Варш. сл., паходзіць ад *skrzyp* 'скрып', што, відаць, суадносіцца з іншымі назвамі – *за́ячча капу́ста*, рус. *за́ячья капу́ста*, паралельныя да назваў ад кораня *скрып-*.

***Скрэбтаві́нне**, *скрыбтові́нне* 'аскрэбкі (звычайна з кораняплодаў)' (Клім.). Да інтэнсіўнай формы ад *скрабаць* (гл.) – *скрабата́ць* 'скрэбці' (Ласт., Сцяшк. Сл.), *скрабоці́ты* 'скрабці, шастаць' (Сл. Брэс.), параўн. укр. *скребта́ти* 'тс', з суф. *-він(е)*, які ўтварае назвы адходаў пры адпаведных дзеясловах (Сцяцко, Афікс. наз., 22). Гл. наступнае слова.

**Скрэ́бці** 'драпаць', 'здзіраць, счышчаць', 'чысціць, абчышчаць (гародніну, рыбу)', 'чухаць', 'стругаць', 'трывожыць, непакоіць'. (ТСБМ, Касп., Шат., Сл. ПЗБ, Сцяшк., ЛА, 1, 4), *скрэбці́* 'тс' (ТС), *скрабсці́* (Касп., Варл., Шатал., Сл. ПЗБ, ЛА, 1), *скрабці́* (Сл. ПЗБ, ЛА, 1, Др.-Падб.), *скрэ́сць* (Гарэц., Др.-Падб., Ласт., Юрч.), *скрэ́сці* (Сл. ПЗБ, ЛА, 1), *скрэ́бціся* 'чухацца' (Жд. 1). Укр. *скребти́*, рус. *скрести́*, *скресть*, славен. *škrébati*, дзеясловы з інш. ступенню чаргавання гл. на *скрабаць*. Роднасныя літ. *skrebéti* 'шумець, шамацець, шастаць', *skrãbalas* 'бразготка', *ãtskrabas* 'рэшткі', лат. *skrabt* 'скрэбці, скабліць, часаць, драпаць', *skrabstît* 'скрэбці', с.-н.-ням. *schrapen* (**skrapôn*), ст.-ісл. *skrapa* 'драпаць, выкрэсліваць', англ. *scrape* 'скрэбці', лац. *scrobis* 'яма' (гл. Фасмер 3, 656 з літ-рай; Новое в рус. этим., 210). Сной₁ (636) рэканструюе прасл. **skre(b)ti*, якое ўзыходзіць да і.-е. **(s)kerb(h)-* 'рэзаць, аддзяляць вострым прадметам'.

**Скрэ́гаць** 'ліпець, хварэць, чуць жыць' (карэліц., Нар. словатв.). Гукапераймальнага паходжання, роднаснае *скрыгаць* (гл.), з семантычным пераносам 'выць, ныць, скуголіць' → 'хварэць, ліпець'. Параўн. яшчэ *скрыпе́ць* 'скрыпець' і 'быць чуць жывым, з цяжкасцю падтрымліваць свае сілы' (швянч., Сл. ПЗБ). Праблематычна Пятлёва (Этимология–1986–1987, 68), якая ўзводзіць да **(s)kręgati*, ад кораня **(s)kręg-*, параўн. **kręgnoti* 'згібацца' (ЭССЯ, 12, 142 і наст.) < і.-е. *(s)kreng-*, *(s)krengh-* < і.-е. **(s)ker-* 'моршчыцца'.

**Скрэ́дама** *(скрэ́дома)* 'невядома куды, дзе (пайсці, загінуць)': *пропаў скрэ́дома* (Альп.). Вытворнае ад *скрада́цца* 'красціся' прыслоўе па тыпу *крадко́м*, укр. *крадько́ма* 'хаваючыся, скрытна', параўн. *скра́дка* 'схованка' (Цыхун, РС, 2006, 10, 21); словаўтваральны тып, вядомы паўднёвым (параўн. славен. *mukoma* 'з цяжкасцю') і ўсходнім славянам, сустракаецца ў старабеларускай пісьменнасці пры ўтварэнні слоў, якія абазначаюць пэўны час, напрыклад, *лягомо* 'час, калі кладуцца спаць', гл. Дзенісенка, Псковские говоры, 1979, 4–8.

**Скрэ́нда** 'жмінда' (слонім., Жыв. сл.), 'кабета заможная, але скупая, якая ўвесь час наракае, што ў яе нічога няма' (Федар. 4), 'чалавек, які ўвесь час скардзіцца на што-небудзь, ныцік', *скрэ́ндзіць* 'надакучліва скардзіцца' (Сл. рэг. лекс.), 'пішчаць, енчыць, выпрошваць' (Варл.). Няясна. Магчыма, анаматапеічнага паходжання, параўн. *skréndaje, jak kóleso nieszmarówanoje* (Федар. 4, 280), серб. косава-мятох. *скренцат*, *скренцам* 'адсутнічаць; памерці'. Беларуска-балгарская ізалекса, параўн. балг. *скрѣндза* 'жмінда',

якое разглядаюць (гл. БЕР, 6, 806; Варбат, Этимология–1970, 70) як другую ступень агаласоўкі да рус. *скря́га* (гл. *скрага*) < прасл. **skręga* 'скупы', аднак гэта не бясспрэчна ў словаўтваральных адносінах. Магчыма параўнаць з рус. пск., цвяр. *кре́нить* 'плакаць, хныкаць', аб якім гл. Варбат, Морфон., 149. Тады **крэ́ніць* – **скрэ́ніць* – *скрэ́нда* з суф. *-да*, аб якім Сцяцко, Афікс., наз., 34. Гл. яшчэ Коген (Запіскі, 2, 9, 84–95), які, разглядаючы *скрэ́нда* 'худая карова', *шкры́нда* 'худы конь або кабыла', выдзяляе суф. *-энда*, а корань **skъr-* выводзіць з і.-е. **sk̥r-*, захаванага ў літ. *skrándas, skránda* 'стары кажух', лат. *skrandas* 'старая ануча', які ўяўляе ступень кораня і.-е. **sker-/*skor-*, прысутнага ў *ско́рка* (гл.), *скарэ́ць*, літ. *skárti*, грэч. χείρω 'рэзаць', лац. *cortex* 'кара', *skortum* 'скура'; ад **skōr-* выводзіцца *скарадзь, скарада* (гл.) і грэч. σκῶρ 'гразь'.

**Скрэнт** 'дэталь пярэдняй часткі воза ў выглядзе бруска, у якую ўстаўляюцца ручкі' (Скарбы). З польск. *skręt* 'паварот, выгін', параўн. запазычанае *скрэнт* 'круты паварот' (шальч., Сл. ПЗБ), шляхам семантычнага пераносу 'дзеянне, вынік дзеяння' → 'прылада, пры дапамозе якой ажыццяўляецца дзеянне'. Параўн. укр. дыял. *скрент* 'передок воза' таго ж паходжання (ЕСУМ, 5, 285).

**Ску́бці** 'шчыпаць', 'ашчыпваць', 'тузаць', 'дзерці', 'вырываць, адрываць', 'грызці (траву)' (ТСБМ, Касп., Шат., Сл. ПЗБ, ЛА, 1, Ян.), дыял. *ску́бсці* 'тс' (Сл. ПЗБ, ЛА, 1; ашм., Стан.), *ску́сць* 'тс' (Нас., Бяльк.), *скуба́ць* 'тс' (Нас., Гарэц., Шат., Растарг.; ашм., Стан.; Мат. Гом., Сцяшк., ТС, Байк. і Некр., Ласт., Сл. ПЗБ). Укр. *скубти́*, рус. *скубти́, ску́бсти, скуба́ть*, польск. *skuść, skubać*, в.-луж. *skobać, skubać*, н.-луж. *skubaś*, чэш. *skubati*, ст.-чэш. *skústi*, славац. *škubať*, серб.-харв. *ску̏псти*, славен. *skúbsti*, балг. *ску́бя*, макед. *скубе*. Прасл. **skubti* 'скубці пер'е, птушку, воўну'. Роднаснае з літ. *skùbti* 'спяшацца', *skubrùs* 'хутка', гоц. *af-skiuban* 'адхіляць', ст.-в.-ням. *scioban* 'рухаць', ст.-ісл. *skúfa* 'рухаць, штурхаць' і інш. Гл. Траўтман, 263; Покарны, 955; Скок, 3, 274; Фасмер, 3, 660; БЕР, 6, 806–807. Снойₗ (576) выводзіць ад і.-е. базы **skeu̯bh-* 'рабіць кароткія рухі'; гл. таксама Борысь, 556.

**Скуго́ліць** 'жаласна выць, падвываць (пра жывёліну)' (ТСБМ, Касп., Др.-Падб., Сцяшк., Мядзв., Інстр. 3), 'тлуміць галаву, надакучаць' (Сл. ПЗБ), 'плакаць' (Мат. Гом.), *ску́гліць, скуглі́ць* 'вішчаць' (ТС, Ян., Сл. ПЗБ), *скугіта́ць* 'скуголіць' (Шатал.), *скугі́чыць* 'тс' (Сл. ПЗБ), *скуго́рыць* 'тс' (Нас.). Укр. *скугні́ти, скуго́таті* 'рохкаць', *скуго́лить* 'пішчаць, верашчаць', *ску́глить* 'выць', рус. дыял. *ску́горыць, скуго́лить, ску́гліть* 'тс' і 'ныць, скардзіцца', чэш. *skuhrati* 'ныць, хныкаць', славац. *skuhrať* 'скардзіцца'. Гукаперайманне, параўн. Махэк₂, 550; Фасмер, 3, 660. Першасная форма захавалася ў *ску́гаць* 'скуголіць, вішчаць, кугакаць' (ТС), пашыраная ў далейшым суф. *-(о)лі-, -іта-, -ічы-, -оры-*, якія характарызуюць інтэнсіўнасць дзеяння. Паколькі існуе рус. дан. *ску́гор*, чэш. *skuhrač* 'скупы', параўноўваюць яшчэ з літ. *skaugé* 'зайздрасць', *skaugùs* 'зайздлівы', *skaugéti* 'зайздросціць', лат. *skàuģis* 'зайдроснік, незычлівец', *skàust* 'зайздросціць, жадаць благога'; гл. Зубаты, AfslPh, 16, 413; Мюленбах–Эндзелін, 3, 876 і наст. Аб семантычнай мадэлі 'ныць, скардзіцца' → 'скупы' гл. Пятлёва, Этимология–1970, 214–215.



**Скудзе́льніца** 'пралля, якая са сваёй работай прыходзіць да сяброўак' (стаўб., карэліц., Жыв. сл.), 'папрадуха' (навагр., дзярж., Нар. сл.). Да *кудзе́льны* < *кудзеля* (гл.) з суф. *-іц(а)*; укр. *куде́льна хижа* 'памяшканне, дзе бываюць вячоркі, дзе прадуць кудзелю'. *Скудзе́льство* 'вячоркі' (Сл. рэг. лекс.), мяркуючы па суфіксацыі (*-ств-*), можа быць паланізмам. Параўн. *кудзельніцы* 'тс', гл. Пачатковае *с-*, відаць, ад першаснага *⁺с кудзеляй* (ісці) або ў выніку збліжэння са старым *скудзе́ль* 'гаршчок' (ТСБМ).

**Скуёўдзіць** 'моцна памяць' (чавус., Нар. сл.), *скуёўдзіцца* 'сагнуцца, скорчыцца' (Растарг.), 'збянтэжыцца, разгубіцца' (Сцяшк. Сл.). Гл. *куёўдзіцца*, этымалагічна непразрыстае. З іншай суфіксацыяй параўн. *скуёўчыць* (бярэз., вусн. паведамленне С. Запрудскага).

**Скуйна́** 'ігліца', 'галінкі хвоі', 'месца, пакрытае ігліцай' (гродз., Сл. ПЗБ), *ску́віна* 'кастрыца ад ільну' (Сцяшк. Сл.), сюды ж *скуётнік* 'хваёвыя і яловыя іголкі' (навагр., Жыв. сл.). З літ. *skujà* 'шыпулькі, ігліца' (Сл. ПЗБ, там жа), з адаптацыяй пры дапамозе суф. *-н(а), -ін(а)*. Форма *скуётнік* ад літ. *skujótas* 'пакрыты ігліцай'. Літ. і лат. *skujà* роднаснае слав. *хвоя*; гл. Фрэнкель, 821; Мюленбах–Эндзелін, 3, 902; Зданцэвіч, LP, 8, 1960, 348.

**Скукарэ́чаны** 'згорблены' (Яўс.), *скукару́чыцца, скукарэ́чыцца* 'згорбіцца, сагнуцца', зняваж. 'памерці (у курчу)' (Нас.), *скакару́чыць* 'сагнуць' (Наша слова, 1992, 19 жн.), *скукарэ́жыць* 'скруціць, сагнуць' (Барад.), Апошняе падобна на *скаро́жыць* (гл.), аднак, хутчэй за ўсё, тут азванчэнне зычнага ў зыходным *кукарэ́-*

*чыцца* 'горбіцца, каробіцца, корчыцца' (Нас., Касп.), якое Трубачоў (ЭССЯ, 13, 88–89) узводзіць да прасл. **kukorъ* 'горб', вытворнага з *-r-* суфіксацыяй ад **kuka* 'крук', параўн. *кука*₂ (гл.).

**Скукла́ць** 'з'есці, зжэрці' (Нас.). Запазычанне з польск. *skukłać* 'змяць; збіць, змардаваць'. Апошняе да *kukłać* < *kukła*, *kukiełka* 'калач, рулет' < лат. *cucullus* і *cuculla* 'галаўны ўбор' (Брукнер, 280). Іншага паходжання *ску́кліць* 'нанізаць' (паст., Сл. ПЗБ) – ад *ку́кла* 'звязка, нізка'.

**Скула́** 'гнойны нарыў, фурункул' (Нас., Шымк. Собр., Байк. і Некр., Касп., Бяльк., Сцяшк., Сержп., ЛА, 3), 'нарыў, фурункул', 'залатуха' (Сл. ПЗБ), 'нарыў', 'нарасць на дрэве' (ТС), *ску́ла* 'гнойны нарыў, фурункул' (ТСБМ, Ласт., Растарг.; ашм., Стан.; Варл., ЛА, 3, Клім.), 'рожа (хвароба)' (Бес.), 'нарыў', 'залатуха', 'трахома', 'прыступ эпілепсіі' (Сл. ПЗБ), 'выступ на твары, ягадка' (ТСБМ, Сцяшк.). Укр. *ску́ла* 'скула, шышка на целе', рус. *скула́* 'косць чэрапа', дыял. 'пухліна, фурункул', польск. *skuła* 'скула, нарыў, хвароба горла', дыял. 'хвароба капыт у кароў і свіней', чэш. *skula*, *skulina*, *škulina* 'шчыліна, адтуліна', славен. *skȗla* 'нарыў, хвароба капыт', серб.-харв. *skȕla* 'нарыў, кароста, хвароба капыт', балг. *ску́ла* 'рана, язва', *ску́ли* 'прышчы, нарывы, струпы' і 'косці чэрапа', макед. *скула* 'сківіца, ягадка'. Этымалагічныя версіі спрэчныя. Параўноўвалі з прасл. **skala*, **skelina* (гл. *скала́*₁, *шчыліна*); гл. Праабражэнскі, 2, 315; Махэк₁, 450; Голуб–Копечны, 335, што Фасмер (3, 661) і Куркіна (Этимология–1971, 69–70) лічаць сумніўным па фанетычных прычынах. Няпэўная роднасць з літ. *káulas* 'косць' (Брукнер, ZfslPh, 4, 213). Паводле Куркінай (там жа), аднаго паходжання з **kyla* 'кіла'; ад і.-е. **(s)kōulā* 'гнуць, згінаць, быць выпуклым', адкуль 'пухліна, уздуцце, выпукласць', але гэта не тлумачыць значэння 'адтуліна; шчыліна'. Бярнар (Бълг. изсл., 272–273) лічыць, што значэнне балг. *скула* 'рана, язва' семантычна аб'ядноўвае значэнні 'скула' і 'шчыліна'. Ільінскі (РФВ, 78, 200) і Скок (3, 272) мяркуюць аб роднасці са с.-в.-ням. *schiel* 'трэска, адломак', што таксама спрэчна. Следам за Ільінскім Коген (Запіскі 2, 1, 237) узводзіць слова да і.-е. **skoul-* як варыянта **skeu̯el-*, прыводзячы ў якасці паралелі рус. *выль* 'гуля, шышка' < і.-е. **ūl-*, параўн. лац. *ulcus* 'балячка'.

**Ску́лачнік** 'мальва кучаравая, Malva crispa L.' (Кіс., Дэмб. 1, Інстр. 2), тое ж *ску́льнік* (Нас., Гарэц.), *ску́лашнік* (Касп.), *ску́лішнік* (Бяльк.). Да *скула* (гл.), таму што лісце расліны як размякчальны сродак прыкладваецца да скул, нарываў. Магчыма, сюды ж *скула́* – "гэта ў нас так водарасць завуць, зялёную, махнатую, з чырвонай верхавінкай" (У. Караткевіч, Маладосць, 1987, 1, 156).



**Ску́лле** 'дэталь ткацкага станка': *скулляў трэба набіць многа* (Мат. Гом.). Няясна. Відаць, тое ж, што і ўкр. *ска́лля* 'клёпкі бочкі, цэбра', 'лучына, трэска'. Гл. *ска́ла*₂.

**Скулунда́**. Гл. *скаланда*.

**Скуль** 'адкуль' (ТСБМ, Бяльк., Байк. і Некр., Др.-Падб., Касп., Сержп. Прымхі, Пятк. 2, ТС, Сл. ПЗБ, Гарэц., Мал., Сцяшк., Янк. БП, Нік.), *скуоль* (Бес.), *ску́льля* (Сцяшк.), *ску́ляка* (Нік.) 'тс'. Гл. *адкуль*, параўн. *стуль*, гл.

**Ску́льнік**₁ 'увярэднік' (паст., Сл. ПЗБ). Да *ску́ла* 'нарыў, фурункул', як *увярэднік* да *верад* (гл.).

**Ску́льнік**₂ 'кастрыца' (Сл. рэг. лекс.). З **скуйнік* (гл. *скуйна*) у выніку дыялектнай мены *й* ↔ *л*.

**Скуля́снік** 'трыпутнік ланцэталісты, Plantago lanceolata L.' (Бейл.). Да *скула* (гл.). Матывы намінацыі такія ж, як і ў *скулачнік* (гл.).

**Скума́т** 'шматок, кавалачак, абрэзак (тканіны)', 'жмут, пук' (Нас.), 'акравак' (Касп., Барад.; віц., ЛА, 4). Гл. *шкумат*.

**Скума́ць** 'разумець, дагадвацца' (Нас.); параўн. польск. *skumać* 'вывучаць', чэш. *zkoumati* 'вывучаць, даследаваць', славен. *skumati* 'ціха, няясна выяўляць свае жаданні', 'мець падазрэнні на кагонебудзь', укр. палес. *скума́сни* 'нудны, паганы, страшны' (Лысенка, ССП). З прасл. **sъkumati* < ад і.-е. кораня **kou-m-* з *s*-mobile (гл. Куркіна, Этимология–1971, 61 і наст.; Трубачоў, Труды, 1, 284). Роднасным лічыцца слав. *čuti*, *čujǫ* з зыходным і.-е. коранем **keu̯-/*skeu̯-* (гл. Махэк₂, 716; Бернекер, 1, 643). Не выключана сувязь з *куме́каць* 'цяміць, кеміць, разбірацца, разумець' (гл.).

**Ску́мбрыя** 'невялікая марская прамысловая рыба' (ТСБМ). Новае запазычанне праз рус. *ску́мбрыя* 'тс' (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 87 і наст.). з новагрэч. δκουμβρί, мн. л. -ιά, ст.-грэч. δκόμβρος 'скумбрыя або макрэль' (гл. Фасмер 3, 662; падрабязней гл. Мотузенко, Этимология и семантика, Кишинев, 2006, 333).

**Скундзя́біцца** 'сагнуцца' (Сл. Брэс.), *скундзя́біцца, скондзя́біцца* 'змарнець, зніякавець' (ТС), *скундзёбіцца* 'сагнуцца' (Сцяшк. Сл.). Экспрэсіўнае ўтварэнне з няяснай зыходнай формай, параўн. *кун-*

*дзя́бацъ* ‘шкандыбаць’, што, відаць, праз стадыю **кундзяба* ўзыходзіць да *кундзя* ‘тоўстая непаваротлівая жанчына’, *ку́ндзеву, ку́ндавы* ‘худы, змарнелы’ (ТС), паходжанне якіх спрэчнае (гл.). Параўн. укр. *скандзю́бити* ‘скурчыць, звесці’, якое прыводзіць у сваім «Словаре украинского наречия» Шымкевіч, відаць, з *с-ка-н-дзюба* (гл. *дзюба*), дзе *с-* і *ка-* прыстаўкі, а *-н-* – інфікс. У беларускім слове адбылася метатэза *а – у → у – а.*

**Ску́пелець** ‘згарэць’ (ТС). Ад *купіць, купець* (гл.) з нарашчэннем *-ел-* або праз прамежкавы назоўнік **скупель* ‘тое, што згарэла’.

**Ску́піцца** ‘сабрацца ў гурт, злучыцца ў кампанію’ (Нік. Оч., 2, Варл.), *ску́пытысь* ‘тс’ (Клім.), ст.-бел. *скупити* ‘сабраць, злучыць’ (Ст.-бел. лексікон). Да *купа* (гл.), параўн. вытворныя *ску́пка* ‘група, гурт’, *скупо́ўвацца* ‘збірацца ў купу’ (ТС).

**Скупы́** ‘празмерна ашчадны (пра чалавека)’, ‘няпоўны (пра памер)’ (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Варл., Сл. ПЗБ), *скупу́* ‘тс’ (ТС), *скупэ́й* ‘тс’ (кам., Сл. ПЗБ), *скупы́й* ‘тс’ (Бяльк.). Укр. *скупи́й*, рус. *скупо́й*, ст.-рус. *скупъ*, польск. *skąpy*, в.-луж. *skupje* ‘скупа, недастаткова’, н.-луж. *skuṕe* ‘тс’, чэш. *skoupý*, славац. *skúpy*, серб.-харв. *ску̑п* ‘дарагі; скупы’, славен. *skộp* ‘скупы’, балг. *скъп* ‘дарагі, скупы’, макед. *скап*, ст.-слав. **скѫпъ**. Прасл. **skǫpъ* не мае агульнапрынятай этымалогіі. Пашыраная гіпотэза – ад і.-е. **skom-* , якое ў *аскома, шчымець* (гл.) з фармантам *-р*; гл. Брукнер, 493; Голуб–Копечны, 334; Скок, 3, 273; Шустар-Шэўц, 1299. Ад і.-е. каранёў са значэннем ‘рэзаць’ утвараюць Младэнаў (588) (< **sek-*) і Сной$_1$ (574) (< **skap-* < **skep-*). Іншыя супастаўленні, напрыклад, з літ. *kum̃pas* ‘крывы’, *kum̃pti, kumpstú* ‘выгінацца’, грэч. καμπή ‘выгін’ (Цупіца, Gutturale, 108), або Махэка$_2$ (548) з рус. *гоно́бить, гоноши́ть* ‘капіць, збіраць’ лічацца сумніўнымі; гл. Фасмер, 3, 662. Агляд этымалагічных версій гл. яшчэ БЕР, 6, 817–818.

**Скупянда́** *(скупінда́)* ‘скупы, сквапны чалавек, скнара’ (ТСБМ, Барад.), *скупе́нда* ‘тс’ (ТСБМ, ТС, Марц.), *скупе́ндра* ‘тс’ (саліг., Сл. нар. фраз.), *скупенджа́, скупя́нджа* ‘тс’ (ТС, Пятк. 2, Мат. Гом.), *скупяндзя́ (скупіндзя́)* ‘тс’ (Ласт., Байк. і Некр., Сцяшк., Касп., Варл., Сл. ПЗБ), *скупындя́* ‘тс’ (Сл. Брэс.), *скупэ́ндзя* ‘тс’ (Гіл.), *скупяндзе́й, скупендзя́й* ‘тс’ (Ласт., Растарг.); *скупярда́ (скупірда́)* ‘тс’ (Бяльк.), *скупярдзя́* (Байк. і Некр.), *скупірдзя́га* ‘тс’ (Бяльк., Сержп.), *скупярдзя́ка (скупірдзя́ка)* ‘тс’ (Байк. і Некр., Касп., Ян., Бяльк., Мат. Гом.), *скупердзя́й* ‘тс’ (ТС). Параўн. укр. *скупе́нда, скупе́ндра, скупи́ндя, скупердя́, скупердя́га, скупердя́ка, скупердя́й* ‘тс’, рус. *скупендя́, скупендзя́й, скупердя́й* ‘тс’. Утварэнні ад *скупы* (гл.) з рознымі экспрэсіўнымі суфіксамі ад асноў на *-н-* і *-р-*, якія ўвайшлі ў склад суфіксаў, параўн. балг. дыял. *скъ́пен* ‘дарагі’ і *скъпе́рник* ‘хто дорага прадае’, ‘скупердзяй’, *скъпинджо́свам се* ‘скупіцца’ і пад. Карскі (2–3, 30) гук *д* узводзіў да кораня *dē-* у суфіксе *-ендзе́й (скупяндзей)*, а суфікс *-ірдзя́й (скупірдзяй)* лічыў другасным, а яшчэ раней (2–3, 27) выводзіў першы з іх з польскай мовы, што не мае падстаў, перш за ўсё, па лінгвагеаграфічных прычынах.



**Ску́ра** ‘верхняе покрыва цела чалавека і жывёлы’, ‘выробленая шкура жывёлы’ (Нас., ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Касп., Сл. ПЗБ, ТС, ЛА, 3). Ва ўсходнеславянскіх помніках *скура* з’яўляецца пасля XVI ст., да XV ст. – ст.-бел. *скора* (Ст.-бел. лексікон). З прычыны наяўнасці *-у-* лічыцца запазычаннем з польск. *skóra* (Карскі, Белорусы, 146; Цвяткоў, Запіскі, 2, 1, 56), таксама як чэш. дыял. *skura* і рус. *шкура* (Махэк$_2$, 547; Фасмер, 4, 451). Польскае слова, як і формы з каранёвым *-о-* (гл. *скорка*) працягваюць прасл. **skora*, вытворнае ад і.-е. **(s)ker-* ‘рэзаць’.

**Скура́нік**, *скура́нка* ‘кажан’ (вільн., трак., Сл. ПЗБ). Да *скура(ны)* (гл.).

**Скурапе́жка** ‘кавалак тонкага сала’ (Касп.). Відавочна, ад *скарупа* (гл.) з метатэзай галосных пад уплывам *ску́ра*. Паколькі суф. *-еж-* утварае назоўнікі ад дзеяслоўных асноў (параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 36), трэба дапусціць існаванне дзеяслова **скарупіць*.

**Скура́т$_1$** ‘акравак скуры’ (ТСБМ, Нас., Ласт., Байк. і Некр., Касп., Гарэц., Др.-Падб., Янк., Сл. ПЗБ). Польск. *skurat*, рус. *шкура́т* ‘тс’. Да *скура* (гл.) з суф. *-ат*; гл. Карскі, 2–3, 30; Фасмер, 4, 45.

**Скура́т$_2$** ‘кажан’ (слонім., лід., Арх. Федар.; воран., Сл. ПЗБ; Сцяшк. Сл.; гродз., докш., івян., воран., ЛА, 1), *скура́ч* ‘тс’ (свісл., Шатал.), *шкура́т* ‘тс’ (ганц., глус., мазыр., ЛА, 1). Да папярэдняга слова; відаць, арэальная інавацыя, параўн. літ. *šikšnys* ‘кажан’ < *šikšna* ‘скура’, аналагічна да *кажан* < *кожа* ‘скура’.

**Ску́рацъ** ‘здабыць, атрымаць з хітрасцю’ (ТС), *ску́ратэ* ‘быць пабітым’ (брэсц., Нар. лекс.). З польск. *skórać, skurać, wskórać* ‘дабіцца, атрымаць, выстарацца’, у тым ліку ‘атрымаць (пакаранне)’, якое Брукнер (634) выводзіць ад *kory – korzyści* (гл. *карысць*).

**Скурла́т** 'акравак скуры' (ашм., шальч., Сл. ПЗБ), 'кажан' (Байк. і Некр.; воран., Шатал.; шальч., Сл. ПЗБ). З польск. *skórłat*, *skurłat* 'старая скура для лаплення', якія, паводле Варш. сл. (6, 171), ад *skóra* 'скура' + *łata* 'лата'. Параўн. *скурат*$_1$.

**Скуро́жыць** 'скруціць, знявечыць' (ТС), 'сагнуць' (Сцяшк. Сл.). Гл. *курожыцца, скарожыць*.

**Скурто́ніць** 'набыць з дапамогай махінацыі, нячэсна' (Сл. рэг. лекс.). Няясна.

**Ску́сны** 'смачны' (Нас., Ян.), *ску́сна* 'смачна' (Бяльк., Растарг.). Запазычана з рус. *вкусный* 'тс' вусным шляхам, параўн. заўвагу Растаргуева: "преимущ. в городской речи... в деревнях *смашна*" (Растарг., 244).

**Скусо́рыцца** *(скусо́рицца)* 'коса глядзець на каго-небудзь' (Шымк. Собр.). У выніку перастаноўкі галосных, гл. *скасурыцца*.

**Скут** 'скрутак, кавалак палатна, прызначаны для бялення' (Касп.; астрав., глыб., шуміл., калінк., Сл. ПЗБ; Уладз.; сен., Сл. нар. фраз.; ЛА, 4, Нік. Очерки), 'кавалак, абрэзак палатна' (Сл. рэг. лекс.), *ску́так* 'акравак; скрутак палатна' (глыб., Сл. ПЗБ), 'палатно, якім кума пакрывала дзіця пры абрадзе хрышчэння' (хойн., Арх. ГУ), *скуто́к* 'скрутак палатна' (Сцяшк. Сл.). Укр. дыял. *скут* 'жаночае зімовае паліто на ваце', ц.-слав. *скутъ* Бярында тлумачыць *одѣ(н)е*, а Зізаній *ве(р)хнее одѣніе*, рус. паўн.-усх. *ску́ты* 'цёплыя анучы', ст.-рус. *скутъ* 'кавалак тканіны; верхняя вопратка', старое н.-луж. *skut* 'шматок, акравак', серб.-ц.-слав. *ску̑тъ* 'крысо адзежы', серб.-харв. *ску̑т* 'край, падол', балг., макед. *скут* 'крысо, шляк адзежы'. Прасл. **skutъ*. Лічыцца запазычаннем з ст.-герм.; параўн. гоц. *skaut(s)* 'край, вугал, шляк', ст.-ісл. *skauti* м. 'чатырохвугольны кавалак тканіны', нарв. *skaut* 'жаночая хустка'; гл. Кіпарскі, Gemeinslav., 201; Праабражэнскі, 2, 316; Фасмер, 3, 663; Скок, 3, 275. Брукнер (186) супастаўляў славянскае слова з *хуста* (гл.) і літ. *skiáutė* 'аскравак, абрэзак', Фасмер (там жа) лічыць гэта непрымальным, як і версію Даля і Кіпарскага (там жа) з *кутаць* (гл.), што вельмі верагодна, параўн. *скутаць* 'ухутаць, уцяпліць' (Нас.) пры *сувой* (да *віць*, гл.) 'скрутак палатна'. Гл. яшчэ БЕР, 6, 812–813. Лінгвагеаграфія і семантыка не даюць падстаў лічыць запазычаннем з літ. *skùtas* 'кавалак палатна', як гэта мяркуюць аўтары Сл. ПЗБ (4, 474).



**Ску́так**$_1$ 'вынік, вывад; паляпшэнне спраў' (ТСБМ, Байк. і Некр., Сцяшк.), 'прыбытак' (Касп.), 'ужытак' (Нас.), 'паразуменне, згода, аднадумнасць' (Скарбы); *скутак: дабіцца скутку* 'ўпарадкаваць, раскласці належным чынам думкі ці рэчы' (Мілк.). Запазычанне з польск. *skutek* 'вынік, вывад', якое да **kutiti* 'упрыгожваць, убіраць' (Кюнэ, Poln., 98), магчыма звязанага з *кутаць* (гл.). *Скуткава́ць* 'карыстацца' (Нас.) таксама з польск. *skutkować* 'прыносіць карысць, памагаць'. Ст.-бел. *скутокъ* 'вынік, канец' з ст.-польск. *skutek* фіксуецца з 1507 г. (Булыка, Лекс. запазыч., 193).

***Ску́так**$_2$, *ску́ток* 'нясцерпнае становішча' (драг., З нар. сл.), *скутова́цца* 'мучыцца, цярпець боль' (ТС). Няясна. Магчыма, звязана з *ску́чыць* 'сумаваць': *баба скучыць без вас* (ТС), параўн. серб.-харв. *ску́чити* 'прыцясніць, паставіць у невыносныя ўмовы', а таксама каш. *skąčëc* 'енчыць, скардзіцца, капрызіць', чэш. *skučeti* 'выць, скавытаць', славац. *skučať* 'тс', славен. дыял. *skúčati* 'тс', што ўзыходзяць да прасл. **skučiti* 'скавытаць', звязанага з **ščemiti* (гл. *шчаміць*), што ўрэшце лічыцца зыходным для *скучна* 'сумна, нудна' (Ян.), *ску́чно* 'тс' (ТС), якія ўспрымаюцца ў сучаснай мове як русізмы, параўн. рус. *скучно* 'тс'. Аднак фанетычныя цяжкасці (немагчымасць *т* > *ч*) прымушаюць крыніцу слова бачыць у *скутак*$_1$ праз значэнне 'выйсце са становішча' – 'цяжкае становішча', параўн. *трээ шукаць іньшаго скутку* (Сержп. Прымхі, 188), *ён і хворым памагае, й у клопаце дае скутак* (Сержп.). Параўн. Фасмер, 3, 661; ЕСУМ, 5, 290; Борысь, Etymologie, 647–648.

**Ску́ф'я** 'спічастая шапка з чорнага або фіялетавага аксаміту ў праваслаўнага духавенства, манахаў' (ТСБМ). Стараж.-рус. *скуфия*, датуецца 1347 г. (Сразнеўскі, 3, 399). Запазычанне праз пасрэдніцтва с.-грэч. σκούφια з іт. *scuffia* 'шапка', якое, відаць, германскага паходжання; гл. Фасмер, 3, 663; БЕР, 6, 815. Для беларускага слова магчыма запазычанне з рус. *ску́фья* 'тс'.

**Скучуры́жыцца** 'акачурыцца' (Бяльк.). Ад **кучурыга*, параўн. рус. *кочеры́га* 'качан, храпка' па мадэлі *акачурыцца*.

**Скяпа́ць**, *скепа́ць*, *скіпа́ць*, *с(ь)капа́ць* 'шчапаць' (Нас., Касп., Шн. 1; віц., Нар. словатв.; бялын., Нар. сл.; Мат. Маг., Растарг.; в.-дзв., Сл. ПЗБ), *ске́паць* 'сячы' (ПСл). Укр. *скіпа́ти*, рус. *скепа́ть* 'расшчапляць, калоць', ст.-рус. *поскѣпани* 'расколатыя', *оскѣпище*, *оскѣпъ* 'дрэўка кап'я'. Галоўная цяжкасць – наяўнасць *к* перад *ѣ*,

якое тлумачылі па-рознаму. Шахматаў (Очерк, 176), Брандт (РФВ, 24, 174), Сабалеўскі (РФВ, 53, 8) і інш. лічылі ўсходнеславянскія формы наватворам ад рэгулярнага **сцѣпати* > **стѣпати, скепати*, паколькі існуюць балг. *цепя* 'калю (дровы)', серб.-харв. *цијèпати, цùјепа̄м* 'расколваць, разрываць', поруч з **ščepati*, гл. *шчапаць*. Адсюль Фасмер (3, 638) і Махэк$_2$ (626) мяркуюць аб існаванні прасл. **skъp-* > *ščъp-* і **skoip-* > *scěp-*. Якабсон (IJSLP, 1959, 1–2, 270) лічыць пачатковае *ск-* у +*скѣпати* заканамерным перад *ѣ* з *-oi-*. Паводле апошніх даследаванняў, наяўнасць **s* перад **k* з'яўляецца фактарам, які можа стрымліваць палаталізацыю (Крысько, Слав. языкозн., XIII, 350). Меркаванні пра спалучэнне *ске-* ў беларускай мове гл. Карскі 1, 368 (адзначае яго старажытнасць), Цвяткоў, Запіскі, 2, 1, 72 (немагчыма даць фанетычнае тлумачэнне), Векслер, Гіст., 92 (лічыць рысай, характэрнай для т.зв. кіеўска-палескага прадыялекта), а таксама Коген, Запіскі 2, 9, 84 і наст.

**Слабада́$_1$** гіст. 'у XI–XVI стст. сяліба вольных людзей, прадмесце', 'вялікае гандлёвае ці прамысловае сяло, пасёлак'; памянш. *слабо́дка* (ТСБМ, Ласт.), 'гаспадарчае пасяленне сялян, вызваленых ад прыгону, на пэўнай адлегласці ад сяла' (Пятк. 2). Укр., рус. *слобода́*, ст.-рус. *свобода, слобода* 'тс', ст.-польск. *słoboda* 'невялікі пасёлак, пасяленне сялян', гл. *слабода*. Трубачоў (История терм., 170) першаснае тэрміналагічнае значэнне дэфініруе як 'сумесна жывучая родная група' (гл. *свабода*), якое потым зазнала значныя змены. У рус., бел., укр. формах з націскам на канцы ён адзначае старажытную інтанацыйную асаблівасць, характэрную для зборных дэрыватаў. Карскі (1, 145) пры серб. *слобо̀да* 'свабода' лічыць канцавы націск у слове заканамерным.

**Слабада́$_2$** 'агульная назва скаціны' (Арх. Федар.; пруж., івац., ДАБМ, камент., 887), 'статак кароў' (Сцяшк. Сл.). Хутчэй за ўсё, з *слабы* (гл.) з суф. *-oda*, які яшчэ праславянскі (гл. Слаўскі, SP, 1, 63); семантычная паралель у *худоба* (гл.) ад *худы*.

**Слабіна́** 'нетрывалае, слабое месца' (ТСБМ), 'воля, свабода, безнагляднасць', 'нядужы, хілы чалавек' (Яўс.), *сла́бінка* 'слабасць, недахоп' (Нар. Гом.), сюды ж *слабе́нё (słabienio)* 'бакавая частка жывата да клуба' (Арх. Федар.). Параўн. укр. *слабина́* 'слабасць', 'пахвіна ў жывёлы', рус. *слабина́*, в.-луж. *słabina*, н.-луж. *słabina*, чэш. *slabina*, славац. *slabina*, серб.-харв. *сла̀бина*, балг. *слабина́*, макед. *слабина* 'пахвіна'. Прасл. **slabina* 'слабіна', вытворнае ад **slabъ* (гл. *слабы*), параўноўваюць з літ. *pa-slẽpenes* 'пахвіна' (Голуб–Копечны, 335; БЕР, 6, 828). Bezlaj, Eseji 116, V

**Слабня́к** 'апошні асенні рой' (Анох.). Да *слабы* (гл.).

**Слабо́да** 'свабода, воля, вольнасць' (Нас., Шат., Касп., Бяльк., Сержп., Мал., Ян., Янк. 1, Выг., Сл. ПЗБ, ТС), 'свабода', 'адпачынак' (Сл. ПЗБ), *слабода* і *слабада* 'воля, вольнасць' (Пятк. 2), *слобо́да* 'свабода' (ТС). Укр. *слобода́*, рус. дыял. *слобо́да*, ст.-рус. *слобода*, чэш. дыял. *sloboda*, славац. *sloboda*, серб.-харв. *слобо̀да*, славен. *slobóda*, балг. *слобода́* 'тс', макед. *слобода*. Паводле БЕР (6, 884–886), ужо прасл. **sloboda*. Супраць праславянскага характару Фасмер (3, 672–673), таму што засведчаныя прыклады ўсе даволі познія. З **svoboda* (гл. *свабода*) у выніку дысіміляцыі *v–b* > *l–b*; гл. Фасмер, там жа; Гуер у Махэка$_2$, 597; Міклашыч, 332; Праабражэнскі, 2, 322–323; Младэнаў, 591; Сольмсен, РФВ, 49, 51. Трубачоў (История терм., 171) дапускае магчымасць пераходу *v – l* на стадыі існавання *v* як сананта *u̯*. Борысь (Czak. stud., 44) на падставе харв. чак. *sloba* 'свабода', якое выводзіцца з **svoba* 'тс', мяркуе, што дысіміляцыя павінна была адбыцца вельмі рана, пакуль захоўвалася білабіяльная вымова *v*. Іншыя аўтары лічыліся з уплывам кораня **slav-* (гл. *слава, славянін*), гл. Атрэмбскі, LP, 1, 143; таксама **slabъ* (гл. *слабы*), гл. Брандт, РФВ, 24, 184; ЕСУМ, 5, 305–306. Карскі (1, 341) сумняваецца ў фанетычным характары змены і далучаецца да меркавання Брандта, адзначаючы даўні яе характар.

**Слабы́** 'які мае невялікую фізічную сілу, недастаткова дужы', 'нямоцны, нетрывалы' (ТСБМ, Байк. і Некр., Гарэц., Касп.; гродз., брэсц., ЛА, 5), 'мізэрны, слабасільны, хілы, кволы' (Ласт.), *сла́бы(й)* 'тс' (Бяльк., ЛА, 5). Укр. *слаби́й*, рус. *сла́бый*, ст.-рус. *слабъ*, польск., в.-луж., н.-луж. *słaby*, чэш. *slabý*, серб.-харв. *сла̏б*, славен. *slàb*, балг. *слаб* 'слабы, худы, хілы', макед. *слаб* 'тс', ст.-слав. **слабъ**. Прасл. **slabъ*. Роднасныя: літ. *slõbti, slobstù, slabai̇̃* 'слабець, траціць прытомнасць', лат. *slãbt* 'абмякнуць, панікнуць', ст.-в.-ням. *slaf* 'слабы, вялы', с.-в.-ням., н.-ням. *slap* 'тс', гоц. *slēpan* 'спаць', магчыма, лац. *labor, labi* 'падаю, кульгаю', *laborāre* 'цяжка працую, падаю ад стомленасці'; гл. Младэнаў, 588; Праабражэнскі, 2, 316–317; Фасмер, 3, 664; Траўтман, 270; Вальдэ–Гофман, 1, 739;

Махэк$_2$, 551. Скок, 3, 277; ЕСУМ, 5, 294; Брукнер, 499 лічаць слова славяна-германскім, а балцкія формы разглядаюць як запазычанні з польскага. Райхельт (KZ, 39, 25), Праабражэнскі (там жа), Скок (там жа) і інш. рэканструююць і.-е. аснову **(s)lab-*, **(s)lōb-* > лац. *lābor*, *labi* ‘слізгаць, праслізгваць’; гэту лацінскую паралель прымае і Фасмер (там жа). Махэк$_2$ (551) даўгату *a* ў славянскім слове, параўнальна, напрыклад, з ст.-в.-ням. формай, лічыць экспрэсіўным падаўжэннем. Борысь (537) узводзіць да і.-е. **(s)lē̆b-/*(s)lō̆b-/*(s)lā̆b-* ‘быць абвіслым, слабым’. Гл. яшчэ БЕР (6, 824–827) з аглядам іншых версій.

**Сла́ва** ‘шырокая вядомасць, прызнанне’ (Гарэц., Кос., Некр. і Байк.), ‘рэпутацыя’ (Ласт., Федар. 4, Пятк. 2), ‘думка іншых людзей’ (Сержп.), ‘ганьба’ (Ян.), ‘ганьба, дрэнная пагаласка’, ‘ацэнка, рэпутацыя’ (ТС), ‘чуткі, размовы’ (ТСБМ), ‘хвала, гонар’ (Гарэц., Некр. і Байк.). ст.-бел. *слава* ‘агульная думка, рэпутацыя; хвала, гонар; шырокая вядомасць’ (Сташайтэне, Абстр. лекс., 77). Укр., рус. *сла́ва*, польск., в.-луж., н.-луж. *sława*, чэш., славац. *sláva*, серб.-харв. *сла̏ва* ‘слава, праслаўленне’, ‘свята ў гонар пэўнага святога’, славен. *sláva*, балг. *сла́ва*, макед. *слава* ‘праслаўленне, родавае свята’, ст.-слав. **слава**. Прасл. **slava*. Як сцвярджае Махэк$_2$ (552), поствербальны дэрыват ад прасл. **slaviti*. Звязана чаргаваннем галосных з *слова* (гл.). Роднасныя літ. *šlóvė* ‘гонар; хвала’, *šlãvinti* ‘славіць’, лат. *slava*, *slave* ‘пагалоска; слава’, грэч. χλέος ‘слава’, ст.-інд. *çrávas* н. р. ‘хвала, слава, гонар’; гл. Траўтман, 307 і наст.; Мее, Études, 208; Буга, РФВ, 75; 145; Фасмер, 3, 664 з літ-рай. Корань **slav-/*-slav-* часта сустракаецца ў славянскіх складаных імёнах тыпу: *Славамір*, *Станіслаў*, *Барыслаў* і пад. Гл. яшчэ БЕР, 6, 829–830. *Сла́віць* ‘праслаўляць’ узыходзіць да прасл. **slaviti*, параўн. укр. *сла́вити*, рус. *сла́вить*, польск. *sławić*, в.-луж. *sławić*, н.-луж. *sławić*, чэш. *slaviti*, славац. *slavit'*, серб.-харв. *сла̏вити*, славен. *slavíti*, балг. *сла́вя*, макед. *слави*, ст.-слав. **славити**. Гл. аб дзеяслове Фасмер, 3, 664; БЕР, 6, 833 з аглядам літ-ры. Праблему складаюць адносіны назоўніка і дзеяслова. Трубачоў (SlW, 33) сцвярджае, што **slava* > **slaviti*, падобна да іншых выпадкаў утварэння каузатыўных дзеясловаў ад назоўнікаў тыпу **bava* > **baviti*, **trava* > **traviti* і пад., г. зн. слова ўяўляецца як сярэдняе звяно дэрывацыйнага рада: **sluti* (гл. *слыць*) > **slava* > **slaviti*, гл. таксама Трубачоў, Труды, 1, 148–150. Супрацьлеглага пункта погляду, выказанага Махэкам$_2$ (там жа), прытрымліваюцца Немец (SlW, 20 і наст.) і Шаўр (Slavia, 49, 1–2, 19–25), згодна з якімі слова паходзіць ад **slaviti*, утворанага шляхам дэпрэфіксацыі **proslaviti*, **oslaviti*, паколькі прэфіксальныя формы больш раннія за непрэфіксальныя, паводле матэрыялаў “Слоўніка старaславянскай мовы”; развіццё ўяўляецца як **sluti* > **oslaviti* > **oslava* > **slaviti* > **slava*, паколькі першапачаткова **slaviti* не значыла ‘праслаўляць’, а ‘пашыраць добрыя звесткі аб некім’, што неістотна. Адносіны **slava* да **slova* (гл. *слова*), паводле Ломы (Пракосово, 171), уяўляюцца наступным чынам: або **slava* ад **slova* шляхам падаўжэння карэннай галоснай *ŏ* > *å*, або як поствербатыў ад дзеяслова **slaviti*, які ў сваю чаргу з’яўляецца ітэратывам ад **sloviti* ‘выслаўляць, выражаць’, што ўтварыўся як дэмінатыў ад **slovo*.



**Слава́р** ‘слоўнік’ (Гарэц.). Параўн. рус. *слова́рь*, славен. *slovar* ‘тс’. Запазычана з рускай мовы. Чэшская крыніца для славянскіх моў адмаўляецца, гл. Басай–Сяткоўскі, Słownik, 322.

**Славі́ст** ‘спецыяліст у галіне славістыкі, славянскай філалогіі’, *славі́стыка*, *славісты́чны*, якія ад ням. *Slavist*, *Slawist* (з 1-й пал. XIX ст.) < лацінскай назвы славян *S(c)lāvī* (гл. *славянін*) (Рэйзак, 580) або ад лац. *slavus* ‘славянскі’ (Голуб–Ліер, 441).

**Сла́віць**, *сла́віцца* ‘мець славу, шырокую вядомасць у якіх-небудзь адносінах; усхваляваца, праслаўляцца, ушаноўвацца’. Гл. *слава*.

**Славу́ты** ‘агульнавядомы; праслаўлены’ (ТСБМ, Нас., Гарэц., Байк. і Некр.), сюды ж ст.-бел. *словутичъ* ‘слаўны, славуты (пры звароце да каго-небудзь)’ (Ст.-бел. лексікон). Укр. *славу́тний* ‘тс’, рус. дыял. *слову́тный* ‘славуты, шанаваны, багаты’, *пресловýтый* ‘праслаўлены’, старaж.-рус. *словутьнъ*, ст.-рус. *Словутичь* – эпітэт Дняпра, польск. *sławętny*, *sławetny* (набліжана да *sława* – Брукнер, 499), каш. *słavutny*, *słavuty*, чэш., славац. *slovutný*. Дэрываты ад **slovǫtъ*, першаснага незалежнага дзеепрыметніка цяп. часу ад прасл. **slovǫ*, **sluti*, гл. *слыць* (Фасмер, 3, 673; Махэк$_2$, 557). Паўночнаславянская інавацыя **slovǫtъ*, **slovǫtьnъ*. *Славэ́тны* ‘знаны, праслаўлены’ (Ласт.) запазычана з польскай. Гл. яшчэ Басай–Сяткоўскі, Słownik, 320–321 (адмаўляецца чэшскае паходжанне слова).

**Славянін**, *славя́не* 'група роднасных па паходжанні і блізкіх па мове народаў' (ТСБМ). Параўн. укр. *слов'яни́н, слов'я́ни*, рус. *славяни́н, славя́не*, стараж.-рус. *словѣне* – назва ўсходнеславянскага племені паблізу Ноўгарада, *словАне*, польск. *Słowianie* 'славяне', в.-луж. *Słowjan, Słovjanojo*, н.-луж. *Słowjan*, чэш. *Slovan, Slované*, славац. *Slovan, Slovania*, серб.-харв. *Сло̀вен, Slavén, Слове́ни, Slavéni, Сло̀венин*, славен. *Slovān, Slováni, Slovéni*, балг. *славя́нин, славя́ни*, макед. *Словен(ин), Словени*, ст.-слав. **словѣнинъ, словѣне** у адносінах да славянскага племені вакол Салуні. Прасл. **slověninъ*, мн. л. **slověne*, с.-лац. *Sclavi, Sklavini, Sclaveni* 'славяне', с.-грэч. Σκλαβηνοί 'славяне'. Асноўныя версіі: Трубачоў (Этимология–1980, 12–13) найбольш перспектыўнай лічыць версію Якабсона (IJSLP, 1959, 1–2, 271) ад **slovo* (гл. *слова*), які спасылаецца на аналогію ў стараж.-рус. *кличане* 'паляўнічыя, якія падымаюць звера крыкам': *кличь* (гл. *клікаць*), а таксама на апазіцыю *словѣне – нѣмци*; але сам Трубачоў прапануе ўтвараць **slověninъ* не ад імя, а ад дзеяслова **slovǫ, *sluti* (гл. *слыць*) 'зразумела гаварыць' – 'быць гучна аклікнутым' з суф. *-jan*, параўн. ст.-рус., рус.-ц.-слав. *слути, слову* 'лічыцца, называцца, славіцца' (таксама Глухак, 561), роднасным і слав. **slava* (гл. *слава*). Супраць роднасці з **slovo* Фасмер (3, 663), які лічыць, што ўтварэнні на *-ěninъ, -aninъ* сустракаюцца толькі ў вытворных ад назваў месцаў, таму разглядае слова як вытворнае ад гідроніма, параўн. стараж.-рус. *Словутичь* – эпітэт Дняпра, *Слуя* – рака ў былой Смаленскай губ., гідронімы польск. *Sława, Sławinica*, серб.-харв. *Славница*, якія набліжаюць да грэч. κλύζω 'адмываю', лац. *cluō* 'ачышчаю', *cloāca* 'каналізацыйны сток'. Іншыя версіі – ад уласных імён на *-slav* (Бадуэн дэ Куртэнэ, JP, 3, 62 і наст.; супраць Мікала, РФВ, 48, 271); супастаўленне з грэч. λαός, λϜαός ад σλαϜός 'народ' (Мікала, там жа). У сувязі з гэтай думкай параўн. гоц. *piuda* 'народ', ням. *deutsch* 'нямецкі', лац. *teutōnes* 'немцы' ад і.-е. **teut* 'народ'; гл. Младэнаў, 588–589; Скок, 3, 281–283; Бернштейн, Фонетика, 90–91. Агляд літ-ры гл. яшчэ БЕР, 6, 834 і наст., ЕСУМ, 5, 307; SEK, 4, 320; Бязлай, 3, 265; Трубачоў, Этногенез$_2$, 93, 312, 335–336 і інш.

**Слакатáць** 'казытаць' (Сержп.; браг., Нар. словатв.), *слокотáць* 'тс' (ТС), *слакатáць, слекатáць, слокотáць, шлакатáць* 'тс' (ЛА, 3), сюды ж *слóкат* 'ласкатанне', *слóкатка* 'шлокат, козыт', *слóкатна*



'шлокатна' (Ян.). Укр. дыял. *слокотáти*, рус. зах. *шлокотáть*, алан. *шелоктáть* 'тс', чэш. дыял. *loktat'*, *lochtati*, ст.-чэш. *loktati* побач з *lektati, lechtati*. Махэк$_2$ (325) мяркуе аб варыянтах прасл. **lokъtati, *lekъtati, *lъktati* (для польск. *łektati*), якія ён лічыць роднаснымі літ. *kuteloti* і *kãtulti* 'тс', *kutulỹs* 'козыт', прычым для славянскіх слоў дапускае рад метатэз: *k–t–l → l–k–t; ъ–e > e–ъ, ъ–o > o–ъ*. Застаецца пытанне аб анлауце ўсходнеславянскіх слоў. Фасмер (4, 424) рус. *шелоктать* утварае ад экспрэсіўнай прыстаўкі *ше-* і слова, блізкага да *лоскотать* (гл. *ласкатаць*). Відаць, таго ж прыставачнага характару *с-* і *ш-*. Гл. яшчэ *ляхотна*. Усе прыведзеныя формы сведчаць, што і корань гэтых слоў, насуперак Махэку, вызначыць цяжка, паколькі яны зазналі розныя экспрэсіўныя змены (*к–х–ск*) і ўплыў іншых слоў, параўн. макед. *скокотка* 'ласкатаць'. Для беларускага слова не выключана метатэза з *ласкатаць* (гл.).

***Слакíта**, *слокíта* 'непагадзь, слота' (івац., Нар. сл.). Відавочна, аднакарэннае з рус. *сля́коть*, асабліва параўн. рус. дыял. *слякúша* 'слота', *-о-*, магчыма, пад уплывам *слота* (гл.). Мае паралелі ў серб.-харв. *слѐка* 'марскі праліў', польск. *śląkwa* 'дажджлівае надвор'е, снег уперамешку з дажджом', *śląknąć* 'прамакаць'; слав. словы параўноўваюць з літ. *sliñkti, slenkù* 'паўзці, выгінацца', *slankė* 'сыпучы пясок', *slinké, -éju* 'спаўзаць' (гл. Фасмер, 3, 682).

**Сла́лам** 'скарасны спуск на лыжах з гары па спецыяльнай трасе' (ТСБМ). Новае запазычанне з рус. *сла́лом* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 80), якое з нарв. *slalom* 'лыжня з невялікім ухілам' (Трубачоў–Фасмер, 3, 666; ЕСУМ, 5, 295).

**Сла́нец$_1$** 'лён, які сцелюць у процілегласць мочанаму' (ТСБМ, Жд. 2; дзісн., Яшк. Мясц.), *слане́ц* 'тс' (Нас., Касп., Байк. і Некр.), *сланцы́* 'маніцы' (мядз., Нар. сл.). Да *слаць$_2$*. Аналагічна рус. *стла́нец, сла́нец, сла́нцы* 'лён і маніцы, якія сцелюць пад дождж і расу'.

**Сла́нец$_2$** 'горная парода, якая мае слаістую будову' (ТСБМ). Запазычанне з рус. *сла́нец* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 73). Рус. слова з **стьланъ*: *стелю, стлать* (Фасмер, 3, 666), таму што гэта парода ляжыць пластом (Праабражэнскі, 2, 387).

**Слане́ц** 'слонка, вальдшнэп' (Гарэц., Байк. і Некр.). Утварэнне ад запазычанага *слонка* (гл.), відавочна, ужо на беларускай глебе з суф. *-ец*.

**Сланéчнік** ‘расліна Heliantus L.’, ‘насенне гэтай расліны, якое ядуць як ласунак’, дыял. *сланэ́чнік, сланэ́шнік, сланóшнік, слóмачнік* ‘тс’ (ТСБМ, Нас., Шат., Касп., Кіс., Сцяшк., Сл. ПЗБ, ТС, Інстр. 1, Жыв. сл.), ‘дзевясіл, Inula helenium L.’ (Касп.). З польск. *słonecznik, słoniecznik* < *słonce* ‘сонца’ (Цвяткоў, Запіскі, 2, 1, 59), таму што расліна паварочвае галоўкі за сонцам; калька лац. навуковай назвы, якая ад грэч. ἥλιος ‘сонца’; гл. Махэк, Jména, 243.

**Сланíна** ‘саланіна’ (Касп.), ‘свіное сала’ (Сцяшк., Скарбы, Сл. ПЗБ), ‘сала; тоўстае сала’ (Сл. Брэс.), ‘доўгі тоўсты кусок сала’ (Сл. ПЗБ). З польск. *słonina* ‘свіное сала’ (Арашонкава, Бел.-польск. ізал., 10), што да *соль* (гл.), г. зн. ‘салёнае верхняе свіное сала’, параўн. *саланіна* ‘тс’ (< прасл. **solnina*), гл.

**Сланíць** ‘хіліць; прыстаўляць’ (Нас., Ласт.), *сланíцца* ‘хіліцца, прыхіляцца, адхіляцца’ (Нас., Ласт.), часцей з прыстаўкай: *засланíць, прысланíць, сланя́ць* ‘хістаць, вадзіць у бакі’ (ТСБМ), *сланя́цца* ‘хадзіць туды-сюды (звычайна без мэты)’, ‘злёгку хістацца’ (ТСБМ, Сержп.), ‘хістацца’ (воран., Сл. ПЗБ, Варл.) – ітэратыў да зваротнай формы, як і рус. *слоня́ться* (КЭСРЯ, 415). Укр. *слонúти* ‘сшываць дзве паловы штаноў у хаду’, *слоня́тися* ‘сланяцца; ісці няцвёрдай хадой, пакачвацца’, рус. дыял. *слонúть* ‘прыстаўляць’, ‘сшываць кускі тканіны буйнымі шыўкамі’, *заслонúть, прислонúть*, польск. *słonić, słaniać się*, в.-луж. *zasłonić*, чэш. *sloniti, cloniti* ‘засланяць’, славац. *slonit', clonit'*, серб.-харв. *заслóнити*, славен. *slonéti* ‘абапірацца, прыхіляцца’, балг. *заслоня́*. Прасл. **sloniti* параўноўваюць з лат. *slenêt* ‘біць, калаціць’, *slànît* ‘накідваць; біць’, ст.-інд. *śráyatē* ‘прыхіляецца’, *śráyati* ‘прыстаўляе, накладвае’, далей з літ. *šliẽti, šliejù* ‘прыхіляць’, лац. *clīno, -āre* ‘нахіляць, гнуць’ і інш., якія да і.-е. кораня **k̂lei-*, **k̂loi-*, **k̂li-* ‘хіліцца, прыхіляцца’. Гл. Брукнер, 500; Фасмер, 3, 675; Махэк$_2$, 556; Фрэнкель, 1004; Шустар-Шэўц, 1306, 1737; ЕСУМ, 5, 308. Варбат (Этимология–1972, 44) разглядае **sloniti* як каузатыў да **slęnǫti* ‘дасягнуць, прыстаць’.

**Сланы́** ‘козлы (для пілавання бервяна на дошкі)’ (ашм., Яшк. Мясц.). Хутчэй за ўсё, да папярэдняга слова (гл.) або да *слон* ‘лава’ (гл.).

**Сланя́цца**. Гл. *сланіць*.



**Слапóк** ‘пастка, мышалоўка’: *мыш прынадзіць у слапок* (Маладосць, 1973, 9, 73). Параўн. укр. *слоп, слiп, слопéць* ‘тс’, рус. *слопéц* ‘тс’, польск. *słop, słap, słopiec, słopki*, чэш., славац. *slopec*, в.-луж. *słapać* ‘лавіць, хапаць’, н.-луж. *słapaś* ‘тс’. Прасл. **slopъ* ‘пастка’, анаматапеічнага паходжання, параўн. *шлапаць* (гл.), роднаснае англ. *slap* ‘лёгкі ўдар, пляскач’, н.-в.-ням. *schlapp* ‘хлоп’, тахар. В *släpp-* ‘упасці (на зямлю)’ (Шустар-Шэўц, 1302; Фасмер, 3, 675; Бязлай, 3, 255; ЕСУМ, 5, 303).

**Слáсты** ‘прылада для адціскання сыру’ (Сцяшк. Сл.), ‘пастка’, ‘ціскі’, ‘прыстасаванне для сушкі травы’ (Сл. ПЗБ). З літ. *slãstai* ‘тс’ (Сл. ПЗБ, 4, 478).

**Сласць** ‘задавальненне’ (Нас.), *сласнóта* ‘сладастраснасць’ (Гарэц.), *слáсны* ‘смашны’, *сласные рэчы* ‘ласункі’ (Нас., Арх. Федар., Растарг.), сюды ж *сласцёны* ‘аладкі, ляпёшкі’ (Нас., Шымк. Собр.). Таксама як і ўкр., рус. *сласть* запазычана з ц.-слав. *сласть* < ст.-слав. **сластъ** ‘салодкая ежа, смак, асалода’ (гл. Фасмер, 3, 667). Прасл. **solstь* ‘прыемны смак, слодыч’ < **sold-tь* ад **sold-ъkъ* (гл. *салодкі*) з адпаведнікам у літ. *sáldti* (*sãlsta, sãldo*) ‘стаць салодкім’, гл. Слаўскі, SP, 2, 47. Параўн. ст.-бел. *слодость* ‘саладосць; прыемнасць’ (Альтбаўэр) – запазычанае з польск. *słodość* ‘тс’.

**Слатá**. Гл. *слота*.

**Слацíць** ‘жыць, перабіваючыся’ (Касп.). Няясна. Сюды ж, відавочна, і *слотíты* ‘надакучаць, часта турбаваць’ (драг., З нар. сл.). Магчыма, ад **слата, слота* (гл.). Першапачаткова ‘надакучаць, як слата’.

**Слаць**$_1$ ‘пасылаць, адпраўляць’ (ТСБМ, Нас., Ласт., Байк. і Некр., Варл., ТС). Параўн. укр. *слáти*, рус. *слать*, ст.-рус. *сълати*, польск. *słać*, в.-луж. *słać*, н.-луж. *słaś*, чэш. *posláti*, славац. *slat'*, серб.-харв. *сла̏ти*, славен. *posláti*, ст.-слав. **сълати**. Прасл. **sъlati* роднаснае гоц. *saljan* ‘прыносіць, ахвяраваць’, ст.-ісл. *selja* ‘перапраўляць, пераносіць, прадаваць’ (Траўтман, 292; Мікала, Ursl. Gr, 1, 79) і, далей, алб. *sūljem* ‘кідаюся, бягу’, гал. *hollen* ‘бегчы рыссю’ (гл. Фасмер, 3, 667; там жа і іншыя, менш верагодныя, збліжэнні). Сной$_1$ (474) адзначае, што прымальнай этымалогіі **sъlati* няма. Ондруш (Studia Slavica, 6, 1960, 193 і наст.) спрабуе звязаць яго з літ. *selė́ti* ‘прыйсці’, *salti* ‘цячы’, семантычна абгрунтоўваючы гэта на прыкладзе хец. *piyami* ‘пасылаю’ < *paimi* ‘іду’, г. зн. ‘па-

сылаць' ← 'загадаць ісці'. Гл. яшчэ Махэк$_2$ (552), які на іншых і.-е. прыкладах разглядае аналагічнае семантычнае развіццё. Борысь (557) узводзіць да і.-е. *sel-/*sol-/*sl- 'узяць; хапаць'; праславянскае слова, на яго думку, развілося ад першаснага каузатыўнага дзеяслова са значэннем 'рабіць так, што хто-небудзь штосьці бярэ' → 'пасылаць, каб нехта штосьці атрымаў'. Гл. яшчэ ЕСУМ, 5, 296 з аглядам літ-ры.

**Слаць$_2$**, *сцяліць* 'класці, раскладваць, распасціраць, укладваць' (ТСБМ, Нас., Сержп. Прымхі, ТС, Варл., Сцяшк., Сл. ПЗБ). Укр. *сла́ти, стели́ти*, рус. *стлать, стели́ть*, старараж.-рус. *стьлати*, польск. *słać, ścielić*, в.-луж. *słać* 'сцяліць', н.-луж. *słaś, stłaś*, чэш. *stlát*, славац. *stlat'*, славен. *stláti*, балг. *сте́ля*, ст.-слав. **стьлати**. Прасл. *stьlati, *steljǫ роднаснае лат. *slāt, slāju* 'накладваць, упакоўваць', грэч. στέλλω 'рыхтую, пасылаю', лац. *lātus* 'шырокі' (< *stlatus*); да і.-е. *stel- 'расцілаць'; гл. Траўтман, 286; Мюленбах–Эндзелін, 3, 924; Фасмер, 3, 753–754; Сной$_1$, 609; Борысь, 557; ЕСУМ, 5, 296–297; Міклашыч, 324; Покарны, 1018–1019; Махэк$_2$, 578. Фасмер (там жа) адзначае, што побач з і.-е. коранем *stel- прадстаўлены і *stern-: лац. *sternō, -ere, strātum* 'расцілаць, насыпаць', грэч. στόρνῡμι 'тс' (параўн. прасл. *storna, гл. *старана*); Шустар-Шэўц, 1301–1302; Глухак, 558; Бязлай, 3, 317–318.

**Сле́га**, *слі́га́, слігаві́на* 'лага; кладзь, доўгае бервяно, якое кладуць на сохі' (Бяльк., Касп.), *сле́гі* 'рэі' (калінк., Арх. ГУ), *слёгі* 'лагі' (в.-дзв., Сл. ПЗБ), *слі́га* 'вясло для кіравання плытом' (гродз., Сл. ПЗБ), 'падваліна' (в.-дзв., рас., Сл. ПЗБ, ЛА, 4), *слюгаві́на* 'падваліна' (брасл., Сл. ПЗБ), 'брус, якім замацоўваюць насціл маста' (докш., там жа), 'лагі' (в.-дзв., там жа). Укр. *слі́гі* 'тоўстыя перакладзіны', рус. *слега́* 'брус, жардзіна', дан. *слёга* 'тонкая доўгая жардзіна', *сляга́* 'тонкае доўгае бервяно, рычаг'. Словы няяснага паходжання. Аўтары Сл. ПЗБ (4, 481) выводзяць ад літ. *slẽgos* 'лагі', што, відаць, роднаснае літ. *slė́gti* 'ціснуць', *slė̃ktis* 'прэс', з якімі параўноўвае словы Праабражэнскі (2, 321); формы на *-я-* ўзводзяць да *слаг- і набліжаюць да літ. *sleñksnis, sleñkstis* 'парог', гл. Фасмер, 3, 681; ЕСУМ, 5, 298. Калі прыняць за асноўнае значэнне 'лага', то, хутчэй за ўсё, ўзыходзіць да прыставачнага дзеяслова *sъ-legti 'пакласці побач, легці разам, упасці',



каранёвая частка якога можа мець падаўжэнне *-e-* > *-ě-*, параўн. Борысь, Czak. stud., 80; Etymologie, 601 (рэканструюе прасл. *sъlěga/*sъlęga). Гл. *слюга, сліж$_3$*.

**След** 'адбітак ступні нагі, капыта, лапы', 'знак уздзеяння' (ТСБМ, Ласт., Касп., Некр. і Байк., Сцяшк., ТС, Пятк. 2, Сл. ПЗБ), 'права, прычына, падстава' (Нас.), 'дарога, сцежка; часовая мяжа на сенажаці паміж участкамі' (Яшк.), ст.-бел. *следъ* 'мера зямлі' (Ст.-бел. лексікон). Укр. *слід*, рус. *след*, старараж.-рус. *слѣдъ*, польск. *ślad*, в.-луж., н.-луж. *slěd*, чэш., славац. *sled*, серб.-харв. *слије̑д*, славен. *slę̑d*, балг. *следа́*, макед. *следа*, ст.-слав. **слѣдъ**. Прасл. *slědъ. Роднасныя літ. *slidùs* 'гладкі, слізкі', лат. *sliẽds* 'след, каляіна', ст.-прус. *slidenikis* 'сабака-сышчык', с.-в.-ням. *slîten* 'слізгацець', ст.-в.-ням. *slito* 'сані', нова-в.-ням. *Schlitten* 'тс', грэч. ὀλισθάνω 'я слізгаю'; гл. Траўтман, 269; Торп, 539; Мюленбах–Эндзелін, 3, 932, 957–958; Фасмер, 3, 668; БЕР, 6, 858; Махэк$_2$ (553) літ. *slidús* лічыць запазычаннем з польскай. Сной$_1$ (579) узводзіць да і.-е. кораня *(s)leidh- 'слізгаць; паўзці' з першасным значэннем для прасл. 'каляіна, санная дарога'. Прасл. таксама *slěditi, працяг яго ў *сляддзіць*, укр. *сліди́ти*, рус. *следи́ть*, польск. *śledzić*, в.-луж. *slědźić*, н.-луж. *slěźiś*, чэш. *slíditi*, славац. *sliedit'*, серб.-харв. *слије̏дити*, славен. *slediti*, балг. *следя́*, макед. *следи*; гл. Фасмер, там жа; БЕР, 6, 862.

**Следапы́т** 'той, хто добра распазнае сляды, хто высочвае каго-небудзь па слядах' (ТСБМ). З рус. *следопы́т*, дзе, як мяркуюць, з'яўляецца калькай англ. *pathfinder*, мабыць, у сувязі з перакладам рамана Ф. Купера "The Pathfinder", рус. выданне – у 1841 г. Да *след* і *пытаць*; Трубачоў у Фасмер, 3, 668.

**Следзь** 'селядзец' (Сцяшк., Скарбы), *слез, следзь* 'тс' (Сл. ПЗБ), *следз, следзь, следь* 'тс' (Сл. Брэс.). З польск. *śledź* 'тс'. Сюды ж *следзе́ўка, слядзе́ўка, сле́дзя* 'гатунак белай бульбы прадаўгаватай формы' (Скарбы).

**Сле́дчы** 'хто вядзе следства' (ТСБМ). Крукоўскі (Уплыў, 119) безпадстаўна лічыць калькай рус. *сле́дователь*, параўн. польск. *śledczy* 'тс' і іншыя назвы службовых асоб, шырока вядомыя ў Вялікім княстве Літоўскім і ў Рэчы Паспалітай (ст.-бел. *ловчий* 'арганізатар вялікакняжацкага палявання', *крайчий* 'прыдворны, які разразаў ежу, што падавалася вялікаму князю', а таксама

створанае па гэтай мадэлі *мостовничий, сокольничий* і пад.). Параўн. і народнае *следзіць* 'асочваць': *пошлі следзіць по следам, то нашлі* (ТС).

**Слень** 'луска' (мазыр., Шатал., ТС; чач., ЛА, 1), *слінь* 'тс' (тураў., ЛА, 1), *свень* 'тс' (мазыр., ЛА, 1), *слень* 'слізь' (ТС). Рус. урал., астрах. *слён, слень* 'цвёрдая слізь, якой рыба пакрываецца на зіму'. Паводле Міклашыча (307), звязана з *слізь, слізкі* (гл.); Фасмер (3, 669) прапаноўвае разглядаць як ступень чаргавання да *сліна* (гл.), магчыма, **сльнь* або **слень*, а таксама прапаноўвае сувязь з *глень*, з якога можа быць пераўтворана пад уплывам слоў на *сл-*.

**Слепандá** *(сьлепандá)* экспр. 'сляпы, слепаваты чалавек' (ашм., Стан.), *слепéнда* 'падслепаватая жанчына', *слепенджá* 'тс' (ТС), *слепандзя́* 'пра таго, хто кепска бачыць' (Скарбы), *слепяндзя́* 'тс' (Сцяшк. Сл.; в.-дзв., Шатал.), *слепэньдя́* 'тс' (бяроз., Сл. ПЗБ), *сляпандзя́* 'тс' (віл., там жа), *сьліпіньдзя́* 'хто не сочыць за сваёй работай' (Варл.), *сляпíндра, сьліпіндрá* 'слепаваты чалавек' (Янк. 3, Яўс.). Карскі (2–3, 30) лічыць новаўтварэннямі пры дапамозе складаных суфіксаў, параўн. *скупяндá* (гл.). Аднак некаторыя з гэтых фармантаў (*-енда, -ендзя, -янда, -янджа, -інда, -індра*, гл. Сцяцко, Афікс. наз., 43, 98, 108) вядомыя і ў іншых славянскіх мовах (адносна балг. *-ендра, -индра* гл. Младэнаў, СЕ, 4, 2, 70).

**Сле́пет₁** зборн. 'пчолы (дзікія)', 'дупло, у якім жывуць дзікія пчолы' (Мат. Гом.), 'мёд з дупляных лясных вулляў' (Сцяшк. Сл.), *слепетá* зборн. 'дзікія пчолы' (ПСл, Нар. Гом.), *сле́пат* 'тс' (Некр., Маш.; палес., Сержп. Бортн.), *сле́пят* 'тс' (Маш.), *сле́паты* 'тс' (Некр.), *сле́пет, сле́пят, сле́пяты, сле́патні, сле́пні, сляпні́, сле́пцы, сляпцы́* 'тс' (ЛА, 1), *сле́петы, сле́петні* 'тс' (ТС, Шатал.), *сле́пета, сле́пето, сле́пецень, сле́пацень, сле́пет, сле́пят, сле́пец, сляпáк* 'дупло, дзе пчолы' (ЛА, 1); *слепатне́* 'лясныя пчолы, што жывуць у дуплах' (ганц., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *слепеть (свепеть)* 'дзве борці, злучаныя разам на дрэве' (Ст.-бел. лексікон). Укр. палес. *сле́пень, слєпотєнь, сліепетєнь* 'тс'. Паводле Машынскага (Pierw., 188), узыходзіць да прасл. **svep-*. Хутчэй за ўсё, у выніку збліжэння з *сляпень* (гл.), параўн. *лезці сле́петнем (слепіцэю)* 'лезці нахабна, назойліва' (ТС). Параўн. ЕСУМ, 5, 304. Гл. *свепет*.

**Сле́пет₂** 'кураслеп дуброўны, Anemone nemorose L.' (Шат., Сл. ПЗБ, Кіс.), 'казялец, Ranunculus L.' (Сл. ПЗБ), *слепатá* 'тс'



(там жа). Калі меркаваць па іншых назвах раслін (*сляпуха, кураслеп, слепнік* (Сцяшк. Сл.), рус. *куричья слепота*, укр. *сліпота, курослíп*), ад *сляпы-* (гл.) з суф. *-et-, -ot-* (*-e-* ў суфіксе можа быць пад уплывам каранёвага галоснага, гл. Вондрак, Vergl. gr., 1, 450); паводле Аненкава (34), у народнай медыцыне першая з названых раслін ужываецца супраць курынай слепаты. Параўн. ЕСУМ, 5, 305.

**Сле́пець** (*сьле́пяць*) 'сырая пагода з мокрым снегам' (навагр., Жыв. сл.). Рус. *слепня́к* 'мокры снег камякамі'. Ад *сляпы*, параўн. *сляпы́ снег* 'снег пры яркім сонцы' (Сцяшк. Сл.), магчыма, 'такі, што слепіць вочы', гл. *сляпучы* 'які слепіць вочы' (там жа); мяркуючы па рэдкасці суфікса *-etь* (параўн. Вондрак, Vergl. gr., 1, 483), даволі архаічнае ўтварэнне.

**Сле́сар** 'рабочы-металіст' (ТСБМ, Байк. і Некр., Пятк. 1), *сле́сар* 'тс' (Янк. 2, Сцяшк. Сл.), *слóсар* 'тс' (Сцяшк.), *слясáр* 'тс' (Ласт.). Ст.-бел. *слесарь*, паводле Булыкі (Лекс. запазыч., 89), праз ст.-польск. *ślosarz* з ням. *Schlosser* 'тс'; паводле Новавейскага (Zapożyczenia, 11), польск. *ślusarz* з с.-в.-ням. *sloȝȝer* 'тс'. Параўн. яшчэ ст.-бел. *слосар* 'тс' (Вярхоў, Наз., 17). Варыянтнасць у народнай і літаратурнай мове сведчыць аб розных крыніцах запазычання і розных ступенях адаптацыі.

**Сле́цце** *(сьле́цьце)* 'пляды' (Arche, 2007, 3), *сьле́ціва* 'зяленіна, гародніна', *сьле́ціўя* 'тс' (Ласт.). Параўн. рус. дыял. *сле́тье* 'ураджай; жыта; гародніна'. Відаць, да *лета* 'летняя пара, пара спеласці' (гл.); меркаванні Пацюпы (Arche, 2007, 3, 209) пра сувязь з укр. *літь* 'цечка', *лíтити* 'апладняць' могуць мець падставы пры ўмове паходжання гэтых слоў ад *лíто* (гл. *лета*), параўн. ЕСУМ, 3, 272. Параўн. таксама *сле́тнік (сьле́тнік)* 'стары знямоганы конь, якога куплялі танна вясной для выкарыстання летам' (полац., Шатал.).

**Слёз** 'струменьчык вады, які б'е з крыніцы' (ТС). Да *слізіць* (гл.).

**Слёзкі** 'дрыжнік, Briza L.' (ТСБМ, Касп., Гарэц., Сл. ПЗБ, Кіс.), 'расіца, Drosera rotundifolia L.', *слёзка* 'чорнагалоў, Prunella L.' (Нас.), 'фуксія' (ушац., Жыв. сл.; ТС). Часта ў складаных назвах тыпу *зязюліны слёзкі*, параўн. *слёзкі божэй мáцеры* 'гваздзік палявы' (ТС), *божыя слёзкі* 'тс' (Кіс.), *слёзкі авечыя* 'сачавіца' (Сл. ПЗБ) і г. д. Аналагічна і ў іншых славянскіх мовах: рус. *слёзки*

‘гваздзіка, Dianthus deltoides’, *кукушкины слёзки* ‘дрыжнік’, чэш. *slzy Panny Marie* ‘тс’. Да *сляза* (гл.), мабыць, паводле формы каласкоў, круглявых або яйкападобных.

**Слёзнік** ‘чальчак, Lythrum salicaria L.’ (Ласт., Кіс., Мат. Гом.), іншая назва *плакýн* (Ласт.). Да *сляза* (гл.), паводле Ластоўскага (Ласт., 799), “народ верыць, што ад яго плачуць ведзьмы і чэрці”; паводле Мат. Гом., “капае з ее сок”.

**Слі́ба** *(сьлі́ба)* ‘хіба’ (Яўс.), ‘хіба’ і ‘каб’ (Бяльк.). Гл. *сіба* ‘тс’ з няяснай заменай *слі-/хі-*, аднак параўн. *слі́паць/хлі́паць* ‘хныкаць’ (ТС). Першую частку можна атаясаміць з укр. *сли* < *еслú*, рус. *éсли* ‘калі’ (< **jestьli*), аднак семантыка пярэчыць такому збліжэнню. Гл. *сіхібо*, *хіба* (гл.).

**Слібізава́ць** ‘чытаць па складах’, ‘вучыцца якому-небудзь рамяству’ (ТСБМ, Нас., Шымк. Собр.), *сьлібізава́ць* ‘чытаць па складах’ (Байк. і Некр., Варл.), *слібізава́ць, слябізава́ць* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), *слі́бізам* ‘па складах (чытаць)’ (брасл., Сл. ПЗБ). Кюнэ (Poln., 98) узводзіць беларускае слова да польск. *sylabizować*, народнае *ślabizować, ślebizować* ‘тс’, якія да с.-лац. *syllabizare* < лац. *syllaba* ‘склад’ (Брукнер, 528). Карскі (Белорусы, 163) мяркуе пра пасрэдніцтва ням. *Sillabisieren* ‘тс’. Гл. яшчэ Вярэніч, БЛ, 10, 61.

**Слібіць** *(сьлібíць)* ‘ільсніцца’ (Ласт.), *сьлібá* ‘амальгама’ (Ласт., Байк. і Некр.). Няясна, параўн. польск. дыял. *ślibrzny* ‘сярэбраны, срабрысты’.

**Слі́ва** ‘фруктовае дрэва, Prunus domestica L. і яго плод’ (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Бяльк., Кіс.), *сьлі́віна* ‘слівавае дрэва’ (Касп., Мат. Гом.). Укр., рус. *слúва*, серб.-ц.-слав. *слива*, польск. *śliwa*, в.-луж. *slowka*, н.-луж. *sliwa*, чэш. *slíva*, славац. *sliva*, серб.-харв. *сли̏ва, шљи̏ва*, славен. *slíva*, балг. *слúва*, макед. *слива*. Прасл. **sliva*. Лічаць вытворным (або субстантываваным прыметнікам ж. р. – Сной₁, 581) ад прым. **slivъ*, які захаваўся ў славен. *slîv* ‘блакітнаваты, колеру слівы’ (гл. Махэк₂, 555). Роднаснымі лічацца лац. **līvos* ‘сіняваты’, *līveō, -ēre* ‘мець сіняваты колер’, *līvidus* ‘сіні, свінцовага колеру’, далей, ст.-в.-ням. *slêha, slêwa* ‘цёрн’, ст.-ірл. *lī* ‘колер, бляск’ (Траўтман, 269; Фасмер, 3, 670), якія да і.-е. кораня **(s)lī-* (**sləi-; *slōi-*) ‘сіняваты’; гл. Покарны, 715–716.

**Слі́вень** ‘род бязногай, падобнай на змяю яшчаркі’ (ТСБМ), ‘род злой, гавораць сляпой, змяі’ (Нас.), ‘мядзянка (змяя)’ (Байк. і Некр.), ‘род змяі’ (Касп.), *сьлі́вень* ‘слімень, медзяніца-гадзюка’ (Бяльк., Сцяшк.), *слі́вянь, слі́вень* ‘вераценніца, якую лічаць ядавітай змяёй’ (Сл. ПЗБ). Рус. зах. *слúвень* ‘тс’, польск. дыял. *śliwień* ‘ядавітая змяя’. Паводле Фасмера (3, 670), табуістычнае пераўтварэнне з *слéпень* (гл. *сляпень*, як другую назву вераценніцы, Сл. ПЗБ) пад уплывам *слі́ва*, таму што змяя мае свінцова-шэрую афарбоўку; мала верагодным ён лічыць запазычанне з літ. *slibinas*, *slykỹnas* ‘казачны злы змей’, як гэта мяркуе Карскі (РФВ, 49, 21); прыводзіцца сярод слоў, балтыйскае паходжанне якіх цяжка давесці (Лаўчутэ, Балтизмы, 148). Параўн. *слі́мень*.



**Слі́га** ‘дошка пад нахілам’ (Касп.), *слі́гі* ‘падваліны’ (віц., ЛА, 4). Гл. *слéга*.

**Сліж₁** ‘галец’ (Сцяшк., Мат. Гом., Сл. ПЗБ), ‘невялікая сомападобная рыбка’ (Нар. лекс.), *слі́жык* ‘галец’ (Гіл.), ‘дробная рыбка’ (Бяльк.), ‘дробная рыбка, падобная на ўюна’ (Нар. лекс.), *сліж, слі́з* ‘галец’ (Сцяшк.), ‘уюн’ (Скарбы), ‘малюск’ (Сл. ПЗБ), ст.-бел. *слижъ* ‘галец’ (Ст.-бел. лексікон). Укр. *слі́ж* ‘галец, Cobitis barbatula’, рус. *слиз* ‘рыба Blennius, з пароды вугроў’, польск. *śliz, śliż, śliżyk* ‘галец, Nemalhilus barbatula’, в.-луж. *sliž* ‘уюн’, *šliž* ‘галец’, н.-луж. *sliž* ‘смоўж’, славац. *slíž* ‘рыба галец’, чэш. дыял. *slíž, šlíž, šliž* ‘тс’. Паўночнапраслав. **slizъ*, **slizio-* (Фасмер, 3, 671). Звязана з *слізкі* (гл.), таму што гэтыя рыбы пакрытыя тоўстым слоем слізі (Міклашыч, 307; Праабражэнскі, 2, 322), паколькі большасці з названых рыб характэрна выдзяленне слізі (Каламіец, Рыбы, 40). Сумненні ў Махэка₂ (555) з прычыны таго, што назва адносіцца да розных рыб, але, відаць, яны неапраўданыя. Басай і Сяткоўскі (Słownik, 380–381) адводзяць меркаванне пра запазычанне польск. *śliżek* праз чэш. *sližek* з ням. *Schleisse* ‘рыба Nemachilus barbatulus’.

**Сліж₂** ‘праснак’ (Сцяшк.), ‘печыва з мукі’ (ЛА, 5), *слі́жы* ‘праснакі, якія ядуць на калядную Куццю з цёртым макам’ (Сцяшк. Сл.), ‘клёцкі’ (смарг., Сл. ПЗБ), ‘піражкі’ (ашм., шальч., Сл. ПЗБ), *слі́жыкі* ‘тс’ (Нас.; гродз., Сл. ПЗБ), ‘піражкі’ (паст., іўеў., воран., Сл. ПЗБ), *слі́зік* ‘праснак’ (Сцяшк. Сл.), *слі́зікі* ‘кавалачкі пшанічнага цеста, адвараныя ў вадзе і залітыя макавай сумессю’ (Скарбы). Польск. *śliż(yk)*, чэш. *sliž* ‘від ежы’, дыял. *slíž(ek)*, славац. *slíž*, у тым ліку і ‘мучныя клёцкі, якімі кормяць гусей перад забоем’. Беларускае, лічачы па лакалізацыі, відаць, з польскай.

Махэк$_2$ (555) этымалогію лічыць няяснай, але не выключае, што гэта дэрыват ад *слізкі*; да гэтага параўн. тлумачэнне Насовіча (Нас., 590): іх ядуць з сытой або макавым малаком, ад чаго яны робяцца слізкімі.

**Сліж$_3$** 'доўгае бервяно, якое кладзецца па баках маста для ўмацавання насцілу' (Сцяшк., ПСл; віл., лід., Сл. ПЗБ; ЛА, 5), 'бервяно, па якім спускаюць на ваду лодку' (ТС), 'бервяно, па якім усцягваюць наверх цяжкія калоды' (ПСл, ЛА, 5), *сліжакі, сліжы́* 'лагі' (воран., віл., Сл. ПЗБ), *слеж* 'падваліна' (брэсц., кобр., Нар. сл.), *слёжык* 'аснова печы' (іван., Нар. сл.), *слі́жка* 'шасток у хаце для адзежы' (Касп.), *сліз* 'падоўжная бэлька ў гаспадарчых будынках на сохах' (ЛА, 4), *сліс, сліш* 'тс' (Сл. ПЗБ). Укр. *слиж* 'папярочны брус у столі з прутоў', *сляж* 'тс', *слéжик* 'адзін з слупоў, на якіх пастаўлена печ'; сюды ж ст.-польск. *śleżej* 'бервяно пры будове моста', польск. дыял. *śleżyna* 'доўгая жэрдка, да якой прыбіваюцца штакеціны', чэш. *slizej* 'ледарэз; бервяно, што ахоўвае млын ад ільдзін', *sluzaj, sluzej* 'бервяно ў аснове моста', славац. дыял. *šlezaj* 'бервяно, перакінутае праз раку; бервяно паверх насцілу моста'. Махэк$_2$ (559) меркаваў, што заходнеславянскія тэхнічныя тэрміны грунтуюцца ў рэшце рэшт на ням. *Schleuse* 'шлюз' (гл. *шлюз, слюз*), а зыходнымі трэба лічыць формы з *-и-* (< ням. *-eu-*), параўн. *слюга* (гл.). Борысь (Etymologie, 599–601) атаясамлівае паходжанне заходнеславянскіх і ўсходнеславянскіх форм, што ўзыходзяць да **sъlěga/*sъlęgti*, прыставачных дэрыватаў **legti, *ležati, *lěgati* 'лажыць, лажыцца', гл. *ляжаць, слега*. Усё гэта не выключае ўзаемнага ўплыву на форму і семантыку народнага і запазычанага тэрмінаў.

**Сліжа́** *(сьліжа́)*, *сьліжані́на* 'вараныя сухія фрукты': *наварыла сьліжы з яблыкаў* (Ласт.). Гл. *сліж$_2$*.

**Слі́жань** 'смоўж, слімак' (Яўс.). Да *слізкі* (гл.), параўн. *сліж$_1$*.

**Слі́жба** 'колькасць': *ніколі не бачыла такой сліжбы людзей* (Мат. Гом.). Калі гэта не памылка пры запісе, гл. *сці́жба*, то верагодней за ўсё кантамінацыя апошняга і *лічба* 'лік, колькасць'.

**Слізгаві́ца** 'слізгата' (Сл. ПЗБ, Скарбы), *слізгаві́ца* 'галаледзіца' (Сцяшк. Сл.); параўн. польск. *ślizgawica* 'тс', макед. *лизгавица* 'слізкая дарога, галаледзіца'. Мяркуючы па націску і выбухным *г*, можа быць паланізмам. Аналагічна Астроўскі, ABSl, 29, 150. Да *слізгаць* (гл.).



**Слі́зганка** 'слізкае месца; коўзанка' (ТСБМ), *слі́згаўка* 'месца на лёдзе, дзе магчыма коўзацца' (Нас., Яшк.). Рус. цвяр. *слизгáлка* 'каток', польск. *ślizgawka* 'тс', макед. *лизгáлка* 'слізкае месца; галаледзіца'. Да *слізгаць* (гл.). Варыянт *слізгáўка*, паводле Сл. ПЗБ (4, 483), з польскай.

**Слізга́ць** 'рухацца па гладкай, слізкай паверхні, не адрываючыся ад яе; коўзаць' (ТСБМ), *слізгацца* 'коўзацца' (ТСБМ, Касп.), *слізгáцца* 'тс' (Нас., Варл., Сл. ПЗБ), *слізáцца* 'выслізваць, быць слізкім; коўзацца на нагах' (Нас.), *слізгóта* 'стан паверхні пры абледзяненні' (Сл. ПЗБ, Сцяшк.). Рус. пск. *сли́згáть*, польск. *ślizgać się*, *ślizgać* 'тс', балг. *сли́згам се* 'коўзацца, паслізнуцца; падаць, паслізнуўшыся', макед. *(с)лизга се* 'коўзаць, коўзацца, паслізнуцца'. Прасл. **slizgati (sę)* (Слаўскі, 4, 251) экспрэсіўны дзеяслоў з суф. *-g-* або *-zg-* ад **slizati* < і.-е. **slei̯-g-* 'слізкі, слізгацца'; Борысь, 617. Сувязь з *слізь, слі́зкі, сляза* (гл.) адзначаюць Міклашыч, 300; Праабражэнскі, 2, 300; Брукнер, 531; Фасмер, 3, 671; БЕР, 6, 877. Для шэрага форм характэрна чаргаванне *-г-/-к-*, параўн. *слі́зкаць* 'слізгацець', *слі́зкацца* 'катацца на каньках' (Байк. і Некр.), відаць, пад уплывам *слізкі*, гл.

**Слі́зень** 'слізняк, смоўж' (Ян., ТС), *слі́зянь* 'вераценіца' (віл., Сл. ПЗБ), параўн. укр. *слі́зень* 'тс'. Да *слізкі* (гл.) па тыпу *слівень, слімень* (гл.).

**Слі́зік** 'праснак' (Сцяшк. Сл.), *слéдзікі, слі́зікі* 'піражкі; варэнікі', 'крухмальныя локшыны', 'кусочкі пшанічнага цеста, адвараныя ў вадзе і залітыя салодкай сумессю' (Скарбы, Сл. ПЗБ). Гл. *сліж$_2$*.

**Слізі́ць** 'сачыцца', 'мокнуць (пра рану)' (Сл. ПЗБ, ПСл), *слізі́ць*, *слізі́ць* 'тс' (ТС), сюды ж, відаць, і *слю́знуць* 'прэць, гніць' (Варл.). Параўн. укр. *слизи́ти* 'сачыцца', славац. *slizit'* 'прапускаць вадкасць', славен. *slizéti* 'сачыцца', серб.-харв. *слизити* 'пацяху цячы, сачыцца', *sliziti* 'тс', балг. дыял. *слизи́* 'пацяху прасочваецца праз якую-небудзь перашкоду, сочыцца'. Борысь (Czak. stud., 82) адносіць сюды і ўкр. *слі́знути* 'таяць', н.-луж. *šliznuś* 'таяць, распускацца (пра снег, масла)', старое польск. *śliznąć* 'пакрывацца сліззю, рабіцца слізкім (пра мяса і інш.)', *śliżeć* 'станавіцца слізкім, вільготным (пра сала)', славен. *slizniti* 'таяць (пра снег, масла)' і рэканструюе прасл. **sliziti* 'выдзяляць з сябе вільгаць, слізь', што суадносіцца з **slizъkъ* (з суф. *-ъkъ*), гл. *слізкі, слізь*. Параўн. БЕР, 6, 878; SEK, 4, 309.

**Слі́зкі** 'гладкі, такі, на якім цяжка ўтрымацца, устаяць або які цяжка ўтрымаць', 'пакрыты слізззю' (ТСБМ, Байк. і Некр., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС), *слізь* 'цягучая і слізкая маса' (ТСБМ), *слізата́* 'слізкасць' (Сл. ПЗБ), *слізо́та* 'заледзянелая дарога' (тс), 'калі пад нагамі слізка' (Варл.), *слі́знуць*, *слізі́ць* 'пакрывацца слізззю, прэць' (ПСл), *слі́дзікі* 'піражкі' (брасл., Сл. ПЗБ). Укр. *слизький*, рус. *скли́зкий*, польск. *śliski*, чэш. *slizký*, *slzký*, славац. *slizký*, славен. *slízek*, балг. *слизък*, ст.-слав. **сльзъкъ** 'ліпкі; сакавіты'. Прасл. **slizъkъ* утворана ад прасл. **slizь* з суф. *-ъкъ*, параўн. укр. *слиз*, рус. *слизь*, чэш., славац. *sliz*, славен. *slȋz* 'слізь', балг. *слиз*. Роднасныя ст.-ісл. *slíkr* 'гладкі', ст.-в.-ням. *slîhhan* 'красціся', с.-в.-ням. *slîk* 'глей', грэч. λίγδην 'дакранаючыся да паверхні', ст.-ірл. *sligim* 'пэцкаць'. Гл. Міклашыч, 300; Праабражэнскі, 2, 300; Фасмер, 3, 671; Траўтман, 270; БЕР, 6, 876–878 з аглядам літ-ры. Узводзіцца да і.-е. **sleu̯g'-* 'слізгаць, слізкі' (Покарны, 663–664; Сной₁, 581; Борысь, 617; SEK, 4, 312). Гл. яшчэ Махэк₂, 555; Шустар-Шэўц, 1315; ЕСУМ, 5, 300.

**Слізо́рак**, *слізо́рык* 'сцізорык' (Нас., Варл.). Гл. *сцізорык*; *-л-*, магчыма, пад уплывам *слізкі* (гл.).

**Слізуны́** 'грыбы маслякі' (Сл. рэг. лекс.), сюды ж *слізу́х* 'масляк' (Сцяшк.), *сліжа́к* 'казляк' (Яўс.). Да *слізкі* (гл.).

***Слім**, *слым* 'вераценніца' (малар., Цыхун, вусн. паведамл.). Гл. *слімень*.

**Слімаза́рны**, *слімазу́рны* 'запэцканы слінай; малы, хілы', 'марудлівы, дробязны (аб працы)' (Нас.), *слімаза́рны* 'няўдалы, нязграбны' (Сцяшк. Сл.), 'плюгавы' (Янк. 2), 'мізэрны' (Сержп.; кам., ЖНС), *слемаза́рны* 'ўбогі, варты жалю, слёз' (Нар. Гом.), *слямаза́рный* 'дробны' (Сл. Брэс.), *слімаза́рнік*, *слімазу́рнік* 'гадкае запэцканае дзіця', 'благі працаўнік, рамеснік' (Нас.), *слімаза́рнік* 'неахайны, апушчаны чалавек' (Чач., Касп., Федар. 4), *слімазу́рыць* 'пэцкаць', 'марудліва займацца нечым' (Нас.), *слімаза́* 'плакса' (КСП). Параўн. укр. арг. *шлямаза́рник* 'вучань, што нестаранна піша', польск. *ślamazarny*, *szlamazarny*, *ślimazarny* 'павольны; расхлябаны, бездапаможны; вялы', *ślamazara* 'няўклюда, нядара, недарэка', каш. *slamaza* 'марудны, пазбаўлены энергіі чалавек'. Сцяцко (Афікс. наз., 41) *слімаза́* разглядае як назоўнік агульнага роду, утвораны пры дапамозе непрадуктыўнага суф. *-з-(а)*, што характарызуе асобу па негатыўнай працэсуальнай прыкмеце, ад *слі́маць* 'плакаць' (КСП) па тыпу *раўці – рэўза*. Да падобнай версіі паходжання каш. *slamaza* схіляецца Борысь (SEK, 4, 308), мяркуючы пра зыходныя формы **ślimaza*, *ślimaga*, якія пазней зблізіліся з запазычаным *ślam* < ням. *Schlamm* 'глей, мул, гразь', ад якіх выводзіць польскія словы Брукнер (530). У якасці слова-ўтваральнай асновы прымаецца **slim-* 'слізь, сліна' < прасл. **slimъ* або **slima*, гл. SEK, 4, 311; Бязлай, 3, 260; параўн. *слім*, *слімень* (гл.). Аднак аргатычнае ўжыванне дапускае і іншую версію паходжання слова ці, ва ўсякім выпадку, уплыў на семантыку славянскага слова з боку яўр.-ням. (ідыш) *schlimasel* 'злы лёс', як гэта меркаваў Карскі (Белорусы, 173). Шульман (Полымя, 1926, 8, 216) лічыць крыніцай беларускага *сьлімазальнік* 'пэцкаль, мурза, няўдачнік' ід. *Schlimesalnik* 'тс'. Гл. таксама Альтбаўэр, JP, 17, 49 і наст. Горбач (Арго школярів, 35) украінскі аргатызм выводзіць ад *ма́зати*, гл. *мазаць*, і яўр. *šlim-mazzalnik* 'няўдачнік, бедалага' з ням. *schlimm* 'дрэнны' і яўр. *mazzal* 'доля, шчасце'. Сучасны аргатызм *шлемазл* 'няўдачнік' (гл. Евреи Гродно, Гродно, 2000, 118) < ід. *Schlamassel* 'цяжкая, заблытаная сітуацыя, пры якой індывід церпіць прыкрую няўдачу', што з біблейскага яўр. *Schla* > *Schlau* + ід. *Massel* 'шчасце', для якога дапускаецца кантамінацыя з ням. *Schlimm* 'дрэнны, паганы' (Штэрн, Wörterbuch, 189).



**Сліма́к** 'малюск, які мае ракавіну і рухаецца вельмі марудна' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Жыв. св.), 'смоўж' (Нас., Гарэц., Бяльк., Байк. і Некр., Сцяшк., Сл. ПЗБ, ТС), 'палявы смоўж' (Касп.), *слюма́к* 'слізняк, смоўж' (віц., Жыв. НС), *сляма́к* 'тс' (Сл. ПЗБ). Укр. *слима́к*, польск. *ślimak* 'смоўж, слімак', чэш., славац. *slimák* 'тс', балг. *сли́мак* 'смоўж, Helix', макед. дыял. *сли́мок* 'тс'. Праслав. **slimakъ*, роднаснае грэч. λείμαξ, Р. скл. λείμακος 'смоўж без ракавіны', лац. *līmāx*, *-ācis* 'слімак', ст.-ісл. *slím* 'слізь, глей', с.-н.-ням. *slîm* 'ціна, гразь', ірл. *slenum* 'гладкі', якія да і.-е. **(s)leim-* 'слізкі'. Гл. таксама *сліна* і роднасныя (слімак пакідае пасля сябе слізісты след – гл. Махэк₂, 554; Траўтман, 269; іншую літ-ру гл. Фасмер, 3, 672; Трубачоў, Проспект, 79). Карскі (Белорусы, 157) меркаваў пра польскае пасрэдніцтва праз збліжэнне з лац. *limax*, што не мае падстаў.

**Сліма́кі**, *слімаке́* 'сліна (пры плачы)' (Нас.; зэльв., Нар. словатв.). Да папярэдняга слова. Параўн. польск. дыял. *ślimaczyć się* 'плакаць, хныкаць' < *ślimak* (Варш. сл., 6, 729).

**Слімáць** 'слініць' (воран., Сл. ПЗБ), *слíмаць* 'плакаць' (КСП). Параўн. балг. дыял. *слúмя* 'слініць, мазаць слінай'. Прасл. **slimati*, **slimiti*, вытворныя ад **slimъ*, **slima* 'слізь, сліна', параўн. славен. дыял. *slíma*, харв. *sli͡ m* 'слізь, сліна', роднасныя ст.-ісл. *slim* 'слізь', ст.-англ. *slim* 'слізь, сліна', англ. *slime*, гал. *slijm*, ст.-в.-ням. *slim*, ням. *Schleim* 'тс', што ўзыходзяць да і.-е. **sléi-mo-s* (БЕР, 6, 879; Глухак, 562).

**Слімбáты** 'слінявы' (слуц., Жыв. сл.). Да папярэдняга слова, праз экспрэсіўны назоўнік **слімба* (аб суф. *-б(а)* гл. Сцяцко, Афікс. наз., 33), параўн. *слімакавáты* 'пакрыты слінай, мокры ад сліны' (ТСБМ), утворанае ад *слімак*, *слімакі* (гл.).

**Слíмень** 'мядзянка, вераценніца' (ТСБМ, Ласт., ТС, Ян.), 'земнаводнае Angulis fragulis L.' (Янк. 3, Пятк. 2, Жыв. св., Сл. ПЗБ), *слімéнь* 'тс' (Сцяшк.), 'тоўсты, тлусты, сыты (чалавек)' (Ян., Юрч.), *слíмень* 'смоўж' (ТС, Мат. Гом), *сляме́нь* 'невялікая змяя, Anguis fragilis L.' (Касп.). Параўн. каш. *slëḿėń* 'земнаводнаė Anguis fragilis L.', 'слімак' (беспадстаўна трактуецца ў SEK, 4, 311 як "выключна кашубскае"), балг. радоп. *сéл'мен'*, *сóл'мен'* 'слімак'. Прасл. **slimenь* утворана пры дапамозе суф. *-en-* ад асновы **slim-* 'слізкі' па тыпу **golenь* ад **golъ*, параўн. *слімак*, *слім* (гл.). Першаснае значэнне, відаць, 'слімак, слізень', перанесенае на мядзянку ці вераценніцу па матывах табу.

**Слíна** 'цягучая вадкасць у роце' (ТСБМ, Гарэц., Ласт., Касп., Шат., Сл. ПЗБ, ТС, Сержп., Варл.), *слíня* 'тс' (Нас., Байк. і Некр., Сл. ПЗБ), *слíніць* 'мачыць слінаю' (ТС, Варл., Сцяшк.), 'плакаць' (Жд. 2, Варл.), *слíняты*, *слінкáты* 'слюнявы' (Сцяшк. Сл.), *слю́на* 'сліна' (ЛА, 3), *слю́ня* 'тс' (Гарэц., Бяльк., ЛА, 3). Укр. *слúна*, дыял. *слюнá*, рус. *слúна*, *слинá*, *слюнá*, стараж.-рус. *слина*, польск. *ślina*, в.-луж., н.-луж. *slina*, чэш., славац. *slina*, серб.-харв. *сли̏на*, славен. *slína*, балг. *слúна*, *слю́нка*, макед. *слинка*, ст.-слав. **слина**. Прасл. **slina*, **sl'una*. Бліжэйшыя адпаведнікі ў лат. *sliẽnas* 'слюні, густая слізь', *sliẽnât* 'пырскаць (пра сліну)', *sliẽkas* 'слюні'; да і.-е. **(s)lei̯-* 'слізкі, клейкі', гл. Траўтман, 269; Мюленбах–Эндзелін, 3, 939; Міклашыч, 307; Покарны, 662–663. Бязлай (3, 260) параўноўвае яшчэ з формамі без пачатковага зычнага грэч. ἀλίνω 'намазваю', лац. *linere* 'мазаць, пэцкаць'. Фасмер (3, 672) гэтыя паралелі лічыць сумнiўнымі. Сной$_1$ (580) разглядае як роднаснае *слізь*, *слізкі* (гл.). Гл. яшчэ Махэк$_2$, 555; Скок, 3, 285–286; БЕР, 6, 880; Глухак, 562; Жураўлёў, Язык и миф, 200–201; Шустар-Шэўц, 1314–1315; Борысь, 616; ЕСУМ, 5, 300–301. Карскі (1, 19) тлумачыць формы з канцавым *-ня* ўплывам мяккасці папярэдняга склада і дзеяслова *слініць*.



**Слíнзіць** 'плакаць' (Сцяшк. Сл.). Да *слíніць* 'тс' (гл. *сліна*) праз **слінза* 'плакса' як *рэ́ўза* 'тс' ад *раўці* 'плакаць'.

**Слінь** 'слізь', 'смоўж', *слíнько* 'ёрш', 'слінявы чалавек' (ТС), *слінь* 'луска' (чач., ЖНС). Параўн. балг. *слин* 'мазоль', дыял. *слинь* 'тс'. Відаць, самастойнае аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *сліні́ць* 'пускаць слюні' (гл. *сліна*). Балгарскія словы ўзыходзяць да прасл. **slinъ*, аналагічнага **slimъ* (БЕР, 6, 879), гл. *слімаць*. Параўн. таксама *слізь*, *слізіць* (гл.), што ўзводзяцца да адной асновы і.-е. **(s)lei̯-* з рознымі пашыральнікамі. Чаргаванне мяккіх і цвёрдых асноў у славянскіх мовах тлумачыцца субстантывізацыяй першасных прыметнікаў тыпу **slinъ* > **slinь*, гл. Фурлан у Бязлай, 3, 262. Параўн. *слень* (гл.).

**Слíчны** 'прыгожы, цудоўны' (Нас.), 'прыгожы, прывабны' (Бяльк., Нар. Гом., Сцяшк. Сл.). Як і ст.-бел. *сличный* 'прыгожы, прывабны, цудоўны, чароўны' (Ст.-бел. лексікон) з польск. *śliczny* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 195). Апошняе да *lice* 'твар' (Брукнер, 298); гл., напрыклад, *ліцавáць*. Адносна падобных утварэнняў у славянскіх мовах, што ўзыходзяць да **sъličьnъjь*, гл. Трубачоў, Проспект, 81.

**Слішч** 'смоўж' (ТС). Хутчэй за ўсё, да *слізкі* (гл.) у выніку субстантывацыі першаснага **slizъkъ*, параўн. *сліш* 'смоўж' (Сл. ПЗБ); магчымы ўплыў наступнага слова.

**Слíшча** 'сцелішча; месца, дзе сцелюць лён' (ТС; рас., чэрв., Сл. ПЗБ; Сцяшк., Шатал., Жд. 1, З нар. сл., Нар. лекс.). Укр. *слúще*, рус. дыял. *стлúще*, польск. дыял. *śliszcze* 'тс'. Прасл. паўночнаслав. **stьliště*. Да **stьlati* 'слаць' з суф. *-iště*; гл. Праабражэнскі, 2, 387.

**Слóва** 'адзінка мовы, маўлення', 'фраза, выказванне', 'мова' (ТСБМ, Нас., Шат., Бяльк., Байк. і Некр., Др.-Падб.), *слóво* 'тс' (ТС, Федар. 4), *словíна* ж. р., экспр. 'тс' (ТС), сюды ж *словéчно* 'вусна' (мазыр., Нар. Гом.), ст.-бел. *слово* 'адзінка маўлення', 'выказванне', 'выражэнне волі, загад', 'павучэнне' (Сташайтэне, Абстр. лекс., 75). Укр., рус. *слóво*, польск. *słowo*, в.-луж., н.-луж.

*słowo* 'слова', чэш. *slovo* 'слова', *sloveso* 'дзеяслоў', славац. *slovo*, серб.-харв. *сло̏во* 'літара', славен. *slovọ̑* 'развітанне', *slóvọ* 'літара; слова', балг. *сло́во*, макед. *слово* 'літара', ст.-слав. **слово**, Р. скл. **словесе**. Прасл. **slovo* 'слова' (аснова на *-es*). Роднасныя ўсх.-літ. *šlavė̃* 'пашана; ушанаванне, слава', *šlàvinti* 'славіць, шанаваць', лат. *slava*, *slave* 'пагалоска; рэпутацыя; пахвала; слава', авест. *srāvah-* 'слава, павага; кліч', грэч. κλέος 'слава', ст.-ірл. *clú* 'слава'; гл. Траўтман, 368; Мюленбах–Эндзелін, 3, 920; Фрэнкель, 1008; Майргофер, 3, 389; Мее, Études, 356–357; Покарны, 606–607. Узводзяць да і.-е. кораня **k'leu̯os* < **k'leu̯-* 'чуць, слухаць' (Сной$_1$, 583). У славянскіх мовах звязана чаргаваннем галосных з *слава*, *слыць* (гл.). Гл. Фасмер, 3, 673; Глухак, 563; Махэк$_2$, 557 (падкрэслівае, што ў склад прасл. **slovo* уваходзіў семантычны кампанент 'пашана, слава', прадстаўлены ў **slověti*, **sloviti*, ст.-слав. **благословити** 'гаварыць, прапаведваць, велічаць, славіць'). Гл. яшчэ Скок, 3, 288–289; Трубачоў, Этимология–1968, 58; Шустар-Шэўц, 1308; Сной$_1$, 583; Борысь, 559; ЕСУМ, 5, 306.

**Сло́дыч** 'уласцівасць салодкага; салодкі смак' (ТСБМ, Нас.), 'задавальненне, асалода' (Сержп.). Запазычанне з польск. *słodycz* 'тс', аб чым сведчыць наяўнасць *-ło-*, гл. Карскі 2–3, 39; Цвяткоў, Запіскі, 2, 1, 60. Параўн. *саладосць*, *салодкі*.

**Слой$_1$** 'пласт чаго-небудзь' (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., ТС, Сцяшк., З нар. сл., Сл. ПЗБ), 'гадавы круг у зрэзе дрэва' (Сл. ПЗБ, Сцяшк.). Укр. дыял. *слій*, *слой* 'пражылкі ў драўніне', 'пасма, валакно', рус. *слой* 'пласт', польск. *słój* 'пласт; пражылкі ў драўніне', чэш. *sloj* 'пласт, гадавое кальцо ў дрэве', славац. *sloj* 'пласт', славен. *slòj* 'брудная лужына; горны пласт', балг. *слой* 'пласт; корка лёду', макед. *слој* 'пласт'. Прасл. **sъlojь* < **sъliti*, г. зн. першапачаткова 'тое, што злілі' з чаргаваннем у корані *i/o*, параўн. *лой*, *пралой* (гл.). Гл. Бернекер, 1, 729; Праабражэнскі, 2, 323, 387; Фасмер, 3, 674; Сной$_1$, 581; Борысь, 559. Роднасць **sъlojь* з ст.-прус. *slayan* 'полаз саней', літ. *šliẽti*, *šliejù* 'прыхіляць', лат. *sliet* 'тс', авест. *srayati* 'ён прыхіляецца', ст.-сакс. *hlinōn* 'прысланяць, абапірацца' (Траўтман, 309; Мюленбах–Эндзелін, 3, 939 і наст; Махэк$_2$, 555) і рэканструкцыя **slojь* Фасмерам (3, 674) лічыцца менш верагоднай. Апошнюю версію рашуча падтрымлівае Трубачоў (Ремесл. терм., 256–257), які рэканструкцыю **sъlojь* адносіць толькі да *слой$_2$* (гл.). Агляд версій гл. яшчэ ЕСУМ, 5, 302–303.



**Слой$_2$** 'гліняны паліваны посуд з накрыўкай' (ПСл), '(высокая) шкляная або гліняная пасудзіна' (ТСБМ, Нас., Ласт., Сл. ПЗБ, З нар. сл., ЛА, 5), *слоі́к* 'тс' (ТСБМ, Нас., Касп., Др.-Падб., Бяльк., ТС, Сл. ПЗБ, Варл., Сцяшк., З нар. сл., ЛА, 5), 'высокі гліняны збан' (Шат.), *сло́вік* (< *слоі́к*) 'слоік' (Сл. ПЗБ, Сцяшк., Жд. 1, Сл. Брэс.). Укр. *слой*, *слоїк* 'шкляны або гліняны посуд', дыял. *слій*, *слой* 'міска; куфаль', польск. *słój*, *słoik* 'шкляная банка', в.-луж. *słojk* 'пасудзіна для масла', н.-луж. *słoj* 'міска, бляшанка'. Брукнер (500), Борысь (559) не аддзяляюць ад *слой$_1$* (гл.), а Трубачоў (Ремесл. терм., 256–257) рэканструюе прасл. **sъlojь*, утворанае з прыст. *сѣ-* і іменнай асновы *-*lojь*: **liti* 'ліць', якое потым наблізілася да **slojь* 'слой, пласт', што адбылося ў польскай мове ў перыяд яе ўжо адасобленага жыцця, паколькі там тое і другое дало *słój*. Украінскую форму ён разглядае (там жа) як запазычанне з польскай, тое ж трэба, відаць, прызнаць і для беларускага слова. Гл. таксама ЕСУМ, 5, 307.

**Сло́кат** 'казытка' (ЛА, 3; Ян.), *сло́кот* 'тс' (ПСл, ТС). Параўн. балг. дыял. *скло́кут* 'тс' пры больш распаўсюджаным *ско́кот* 'тс', паводле БЕР (6, 757) з няясным устаўным *-л-*, што можа сведчыць пра кантамінацыю. Гл. *слакатаць*.

**Сло́ксня**, *сло́кшня* 'лубяное валакно' (воран., шальч., Сл. ПЗБ), *сло́кшыны*, *сло́кшыня* 'тс' (воран., іўеў., шальч., навагр., Сл. ПЗБ). З літ. *slúoksna* 'тс' (там жа).

**Слон$_1$** 'буйная траваядная млекакормячая жывёліна з доўгім хобатам і двума біўнямі' (ТСБМ, Ласт.), *слонь* (Байк. і Некр.). Укр. *слон*, *слонь*, рус. *слон*, стараж.-рус. *слонъ*, рус.-ц.-слав. *слонь*, польск., в.-луж. *słoń*, н.-луж. *słon*, чэш., славац. *slon*, славен. *slȍn*, серб.-харв. *сло̏н*, балг., макед. *слон*. Форма *слонь* у беларускай, таксама як і ва ўкраінскай (аб апошняй гл. Фасмер, 3, 674), з польскай. Слова спрэчнага паходжання. Старое тлумачэнне **slonъ* ад **(pri)sloniti sę* 'прысланіцца, прыхіліцца' заснавана на сярэдневечных уяўленнях, што слон не можа згінаць каленяў, а таму спіць, прысланіўшыся да дрэва, параўн. рус.-ц.-слав. *егда хощетъ спати дубѣ ся въслонивъ спитъ* (гл. Праабражэнскі, 2, 324; Брандт, РФВ, 24, 180 і наст.; Брукнер, 500; Младэнаў, 591), адхіляецца Фасмерам (там жа) і Кіпарскім (ВЯ, 1956, 5, 137) як народная этымалогія, таму што ў славян, як заўважае Фасмер, не было магчымасцей назіраць за звычкамі гэтай жывёліны. Па фанетычных

і гісторыка-культурных прычынах найбольш прымальная версія аб запазычанні з цюркскіх моў, параўн. тур., карач., азерб., крым.-тат. *aslan* 'леў'; літаратуру гл. Фасмер (там жа); аналагічна Сной$_1$ (581), Борысь (558). Да пераходу значэння параўн. *верблюд*, які ў канчатковым выніку ўзыходзіць да грэч. ἐλεφας 'слон' (гл. Кіпарскі, там жа), асец. *dombaj* 'зубр', якое ў сучасным ужыванні стала абазначаць ільва (Абаеў, ВЯ, 1958, 1, 121), а таксама семантычнае новаўтварэнне рус. пск. *слон* 'лось'. Якабсон (IJSLP, 1959, 1–2, 27) прапануе супастаўленне з тахар. *kloŋ*; Іванаў (Этимология–1975, 153 і наст.) лічыць гэтую форму прамежкавай паміж цэнтральнаеўразійскімі і сібірскімі формамі гэтага міграцыйнага тэрміна і параўноўвае славянскія словы з формамі тыпу кіт. **sδaŋ*, тыбец.-бірм. *slaŋ* 'слон', параўн. Глухак, 563. Гл. яшчэ Махэк$_2$ (556) – аб версіі Ошціра (Slavia, 6, 1 і наст.), што ўзнаўляе праформу **slop-n-* і роднасць з грэч. ἐλεφας, Р. скл. ἐλεφαντος. Да апошняй версіі параўн. Скок, 3, 286. Гл. яшчэ Шустар-Шэўц, 1304; ЕСУМ, 5, 307–308.

**Слон$_2$** 'лаўка, услон' (Нас., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС, Сцяшк., Шатал., Ян., Скарбы), *слонь* 'вялікае крэсла' (Сцяшк. Сл.); памянш. *сло́нец* (Нас., Касп., Бяльк.), *сло́нчык* (Нас., Бяльк., Шатал., Скарбы), *сло́нак* (Сл. ПЗБ, Жыв. сл.), *слі́нчык*, *сло́нчык*, *слу́нчык* (Сл. Брэс.). З *аслон*, *услон* (гл.) з адпадзеннем галоснага (пратэзы) або непасрэдна ад *слані́ць* (гл.) як аддзеяслоўны назоўнік, параўн. *слоніца* 'вялікая складаная рама на ўсю бакавую сценку хаты як аснова кроснаў' (Серб.), рус. пск. *слон* 'засланка ў печы' і інш.

**Слон$_3$** 'жэрдка, з якой робіцца *ключні́к* (тоўстая жардзіна з калочкам на канцы, якім яна вешалася на кладзь, выконваючы ролю крокры ў страсе на сохах)' (ельск., Нар. сл.). Да **sloniti* (гл. *восланкі*, *услон*).

**Слон$_4$** 'сланечнік' (Касп., Жд. 2, Шатал.; в.-дзв., Сл. ПЗБ), *сло́нкі* 'семачкі сланечніку' (чэрв., Жыв. сл.). Відаць, скарачэнне з *сланечнік*, *сломачнік* або з *слонца$_2$* 'сланечнік' (гл.).

**Сло́нка** 'птушка Scolopax rusticola L.; лясны кулік, вальдшнэп' (ТСБМ, Нас., Касп., Бяльк., Байк. і Некр.), *сло́мка* 'тс' (Гарэц., Інстр. 2; мазыр., петрык., Нікан.). Запазычанне з польск. *słąka*, дыял. *słęka* 'бакас'; яшчэ ў XVI ст. яно пісалася *słanka* і *słęka* (Брукнер, 500). Этымалогію гл. пад *слука*.



**Сло́нца$_1$**, *сло́нцэ* 'сонца' (Нас., Шымк. Собр., Шн., 1, Касп., Байк. і Некр., Сл. ПЗБ, ТС, Скарбы, Нар. Гом., Нар. словатв.), *сло́нцо* 'тс' (Сл. Брэс., Ян.), сюды ж *сло́нко* 'тс' (Сл. ПЗБ, Сцяшк., Скарбы), ст.-бел. *слонце*, *слонцэ* 'тс' (Ст.-бел. лексікон). З польск. *słońce* 'тс'; гл. Карскі, 1, 259; Кюнэ, Poln., 98; Арашонкава, Бел.-польск. ізал., 10.

**Сло́нца$_2$** 'сланечнік' (Шат.). З польск. *słońce* 'тс'.

**Сло́пы** 'пахілы': *слопая страха* (мін., Сл. ПЗБ); таксама тапонім *Слопішча* (Жучк., КТС). Фармальна слова можна звязаць з рус. *ослоп* 'дубіна, кругляк; дурань', дыял. *ослопи́на* 'доўгая жардзіна', стараж.-рус. *ослопъ* 'дубіна, палка'; далей параўноўваюць з славен. *poslȍpje* 'будынак' (Міклашыч, 432); супраць супастаўлення з **chlopati* 'ляскаць, бразгаць', як гэта меркаваў Мацэнаўэр (LF, 12, 172), Фасмер (3, 161). Бязлай (3, 91) дапускае роднасць з літ. *slaptú*, *paslaptú* 'тайнік, сховішча', лат. *slapsts* 'кут, сховішча'. Але словаўтварэнне (меркаваўся б дзеяслоў **слопіць*) і семантыку вытлумачыць цяжка.

**Сло́сар** 'слесар' (Сцяшк.), *слёсар* 'тс' (лаг., Сл. ПЗБ). З польск. *ślosarz* 'тс'. Ст.-бел. *слосаръ*, таго ж паходжання, што і ст.-бел. *слесаръ* (гл. *слесар*).

**Сло́сны** 'пакаты': *слосная страха* (воран., ЛА, 4), 'пахілы' (воран., Сл. ПЗБ). Аўтары слоўніка (4, 489) параўноўваюць з літ. *slĩsnai* 'тс'.

**Сло́та$_1$** 'сырое надвор'е з дажджом і мокрым снегам' (ТСБМ, Нас., Варл., Сцяшк., Байк. і Некр., Сержп. Прымхі; ЛА, 2), 'нешта вільготнае, ліпкае, назойлівае' (Жыв. сл., Нар. словатв.), *слата́* 'сырое вільготнае надвор'е' (ТСБМ, Сцяшк., Гарэц., Шат., Др.-Падб., Байк. і Некр., ПСл, Сл. ПЗБ), 'назола, прыліпала' (Ян., Нар. лекс.), *слота́* 'тс' (ЛА, 3), *слоць* 'мокрае надвор'е' (Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл.), *слю́та* 'слота', *слута́*, *слюта́*, *слёта́*, *слю́та*, *слоць*, *слокі́та* 'тс' (ЛА, 2). Сюды ж *слоті́ты* 'надакучаць, часта турбаваць' (драг., З нар. сл.). Укр. *слота́*, *сльота́*, рус. *сло́та́*, *слоть*, стараж.-рус. *слота* 'непагадзь', польск. *słota*, чэш., славац. *slota*, славен. *slóta*, серб. дыял. *слȍта* 'тс', балг. *сло́та* 'град'. Прасл. **slota*. Роднасныя літ. *šáltas* 'халодны', *šaltis* 'холад, мароз', *šálti* 'мерзнуць', лат. *sal̂ts* 'халодны', авест. *sarəta-* 'халодны', новаперс. *serd* 'тс'. Гл. Траўтман, 298. Далей параўноўваюць з нарв. *sletr* н. р., *sletta* 'дождж';

гл. Фасмер, 3, 675 з іншай літ-рай. Да і.-е. кораня *k̑el- у значэнні ‘мерзнуць, халодны’ (Покарны, 1, 552; Гарачава, Этимология–1976, 62). Махэк$_2$ (556) беспадстаўна аддзяляе *slota* у значэнні ‘нягоднік, жулік’, *slotit* ‘абражаць’ ад *slota* у першасным значэнні. Паводле Карскага (Белорусы, 149), варыянт з націскам на першым складзе запазычанне з польск. *słota*, што цяжка давесці. Бязлай (3, 265), Борысь (559) параўноўваюць з літ. *šlapa* ‘непагадзь, даждлівае надвор’е’, лат. *slapt* ‘зрабіцца вільготным, мокрым’, грэч. κλέπας ‘вільгаць, макрата’, якія да і.-е. *k’lep- ‘вільготны, мокры’; тады прасл. *slota < *slopta. Гл. яшчэ Скок, 3, 287; ЕСУМ, 5, 311–312.

**Сло́та$_2$** ‘насланае няшчасце’ (Касп.), ‘нешта як бы чарамі насланае’ (Варл.); сюды ж, відаць, *слата́ слато́й* ‘незлічона, шмат’ (Барад.). Ад *слаць* (гл.) з суф. *-от(а)*, аб якім гл. Сцяцко, Афікс. наз., 34.

**Сло́ўнік** ‘збор размешчаных у пэўным парадку слоў з тлумачэннем або перакладам на іншую мову’ (ТСБМ, Байк. і Некр.). Паводле Гіст. мовы (2, 146), слова з’явілася ў пачатку XX ст. Відавочна, паланізм: з польск. *słownik* ‘тс’. Да *слова* (гл.). У славянскіх мовах, магчыма, калька лац. *vocabularium* ‘тс’ ад *vocabulum* ‘слова’.

**Слуга́** ‘чалавек для асабістых паслуг, прыслужнік’ (ТСБМ, Ласт., Шат., Сцяшк., Жд. 1, 2, Нар. сл.), *слу́га* ‘пашана, якую выказваюць дзеці ручкай старэйшым’ (Нас.), сюды ж *слугава́ць* ‘прыслужваць’ (ТСБМ). Укр., рус. *слуга́*, стараж.-рус. *слуга*, польск. *sługa*, чэш., славац. *sluha*, серб.-харв. *слу́га*, славен. *slúga*, балг. *слуга́*, макед. *слуга*, ст.-слав. **слоуга**. Прасл. *sluga. Роднасныя ў балтыйскіх і кельцкіх мовах: літ. *slaugýti*, *slaugaũ* ‘падтрымліваць, дапамагаць’, *slaugà* ‘паслуга; слуга’, ірл. *slúag* ‘атрад’, *teglach* (< *tegoslougo-) ‘дамачадцы’ і інш.; гл. Траўтман, 269; Буга, РФВ, 66, 248 і наст.; Махэк$_2$, 557; Фасмер, 3, 676 з аглядам літ-ры. З прычыны ізаляванасці слова ў славянскіх мовах і няяснасці словаўтварэння (практычнай адсутнасці суф. *-г(а)*) шэраг этымолагаў (Шахматаў, AfslPh, 33, 92; Файст, WuS, 6, 45, Мікала, РФВ, 48, 273) лічаць слова запазычаннем з кельцкай. Катэгарычна супраць Фасмер (там жа), Лер-Сплавінскі (RS, 18, 6). Слаўскі (SP, 1, 60) следам за Вондракам (Vergl. gr., 1, 400) бачыць тут стары і.-е. суфікс *-a*, які ўтвараў nomina agentis. Што датычыцца кораня слова, то на славянскай глебе яго звязвалі з *slū- (гл. *слынуць*), гл. Міклашыч (308), але наяўнасць групы *sl-* у літоўскай і кельцкай паралелях сведчыць аб немагчымасці гэтай роднасці, гл. Фасмер, там жа. Борысь (560) рэканструюе семантыку і.-е. дыял. (балта-славянскае і кельцкае) *slaṷgā ‘дружына (воінаў)’ > ‘дапамога, паслуга’ > ‘той, хто дапамагае, робіць паслугі’. Бязлай (3, 266–267) узводзіць да і.-е. *sloṷgā ‘дапамога, служба’. Ад *слуга* ўтвораны дзеяслоў *служы́ць* ‘працаваць па найме ў сферы разумовай або фізічнай працы, звязанай не з вытворчасцю, а з абслугоўваннем каго-небудзь, чаго-небудзь’, ‘выконваць воінскія абавязкі’, ‘выконваць абавязкі слугі, прыслугі’, ‘выконваць якія-небудзь абавязкі ў адносінах да каго-небудзь; выконваць чыю-небудзь волю’; прасл. *služiti; гл. Борысь, там жа.



**Слу́два** ‘закалец у хлебе’, перан. ‘шчыльны, спрасаваны іл’ (ТС). Укр. *слу́два* ‘скала; сталактыт’, рус. дыял. *слу́да* ‘круты бераг ракі’, ‘камяністая глеба’, стараж.-рус. *слуда, слуды*, Р. скл. *слудъве* (адкуль беларуская і ўкраінская формы), ‘гара, круча, уцёс’, ц.-слав. *слудъвьнъ* ‘абрывісты, круты’. Параўноўвалі (Міклашыч, 308) з рус. *слуд* ‘заліўны луг’, *слудь* ‘шарон’, якое, магчыма, мае і.-е. паралелі: нарв. *sludd*, дац. *slud* ‘снег і дождж упярэмешку’, нова-в.-ням. *Schlott*, *Schlutt* ‘гразь; адліга’, с.-н.-ням. *slôten* мн. л. ‘град’, *slôt* ‘іл, лужа’; гл. Фасмер, 3, 676–677; далейшыя сувязі няясныя. Гл. яшчэ ЕСУМ, 5, 309–310.

**Слу́жачы** ‘службовец, чалавек на дзяржаўнай службе’ (ТСБМ). Субстантываваны дзеепрыметнік ад *служы́ць* < *služiti, параўн. укр. *служи́ти*, рус. *служи́ть*, польск. *służyć*, чэш. *sloužiti*, в.-луж. *služić*, н.-луж. *služyś*, славен. *slúžiti*, серб.-харв. *слу́жити* ‘быць на службе; абслугоўваць, частаваць’, балг. *слу́жа* ‘быць на службе; карыстацца, валодаць’, макед. *служи* ‘быць на службе; абслугоўваць’, ст.-слав. **слоужити** ‘тс’, якім адпавядаюць літ. *slaugýti* ‘падтрымоўваць, дапамагаць’, *slaugà* ‘служба, служэнне’, суадносныя з *слуга* (гл.). Магчыма, запазычана з рускай мовы, параўн. народнае *слуга́чы* ‘služка’ (Нас.), якое ў сваю чаргу можна суаднесці з польск. *służący* ‘тс’.

**Слу́жба** ‘работа, заняткі; месца работы’, ‘богаслужэнне’, ‘выкананне воінскіх абавязкаў’ (ТСБМ, Нас., Ласт., Шат., Бяльк., Пятк. 2, Сцяшк., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *служба* ‘выкананне воінскіх абавязкаў; прыгон, прымус; богаслужэнне, выкананне святарскіх

абавязкаў' (Сташайтэне, Абстр. лекс., 67–68). Параўн. укр., рус. *слу́жба*, стараж.-рус. *служьба*, польск. *służba*, серб.-харв. *слу̏жба*, славен. *slȗžba*, балг. *слу́жба*, макед. *служба*. Прасл. **služьba*, утворана ад **služiti* 'служыць' з суф. *-ьb(a)*; гл. Слаўскі, SP, 1, 61; Махэк$_2$, 557.

**Службі́ста** 'добры працаўнік' (смарг., беласт., Сл. ПЗБ). З польск. *służbista* 'тс'. Таксама з польскай прыметнік *службо́вы* (ТСБМ) < *służbowy* і дыял. *служонца*, *служо́нцая* 'служанка' (Сл. ПЗБ) < *służący*.

**Службо́вік** 'кілішак', *службо́вая чарка* 'чарка ёмістасцю 100 грам' (Скарбы). Да *службовы* (гл. *служба*), відаць, пераўтварэнне старога *казённы*, г. зн. 'мера, зацверджаная дзяржавай (казной)'.

**Служы́ць**. Гл. *слуга*.

**Слука́** 'слонка' (Байк. і Некр., Пятк. 2, ПСл), 'казадой' (саліг., Нар. словатв.), *слук* 'чырвоны лясны кулік, вальдшнэп, Scolopax rusticola L.' (Меер Крыч.), *слука́*, *слуква́*, *слухва́* 'тс' (усх.-палес., стол., Нікан.), *случа* 'тс' (Інстр. 2). Укр. *слу́ква* 'тс', рус. дыял. *слу́ка́*, польск. *słonka*, дыял. *słęka*, ст.-польск. *słęka* 'бакас', н- луж. *sluka*, чэш. *sluka*, дыял. *slúka*, славац. *sluka*, серб.-харв. *слу̏ка*, *шљу̏ка*, славен. *slǫ́ka* 'тс'. Праслав. **slǫka*. Роднасныя літ. *slankà* 'кулік', лат. *slùoka* 'слонка', ст.-прус. *slanke* 'вялікі кулік' (Траўтман, 268; Мюленбах–Эндзелін, 3, 944). Далей па розных матывах дапускаюць роднасць з літ. *sliñkti* 'красціся, прабірацца', *slankà* 'той, хто ходзіць крадучыся', лат. *slìkt* 'красціся', ст.-в.-ням. *slingan* 'варушыцца, хістацца' і г. д. (Зубаты, LF, 20, 406 і наст., Махэк$_2$, 558), таму што птушка мае "згорбленую, крадучуюся паходку" (Брэм) або амаль не рухаецца ў няволі на працягу дня (Махэк$_2$, там жа). Бязлай (Eseji, 117) збліжае з польск. *ślęczeć* 'сядзець на кукішках', чэш. дыял. *osl'aknut'* 'разгультаіцца', славен. *slekniti se* 'пакласціся'. Інакш Брукнер (500), які лічыць назву птушкі гукапераймальнай і параўноўвае з польск. *ślęczeć* 'енчыць, павіскваць, скуліць'. Гл. яшчэ Фасмер, 3, 678; Сной$_1$, 581; ЕСУМ, 5, 310; Антропаў, Назв. птиц, 360.

**Слуп** 'бервяно або тоўсты брус, умацаваны вертыкальна, стаўма' (ТСБМ, Нас., Шат., Байк., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ), памянш. *слупо́к* (ТСБМ, Сл. ПЗБ), *слу́пак* (Сл. ПЗБ); *слупо́к* 'грубка' (Сцяшк.), *слупе́ц* 'папярочная планка ў граблях, у якую набіваюць зубы' (Шатал., ЛА, 4). З польск. *słup*, *słupek* 'тс' (Карскі 1, 356; Цвяткоў,



Запіскі 2, 1, 59; Кюнэ, Poln., 98), якое да прасл. **stъlpъ* (гл. *стоўп*), параўн. кантамінаваную форму *стлуп (стлупъ)* 'тс' (Шымк. Собр.).

**Слу́па**', *слупа́* прысл. 'дубка (станавіцца)', *слупка́* 'тс' (ганц., шчуч., Сл. ПЗБ), *слупкава́ць* 'станавіцца дубка' (іўеў., там жа). Да *слуп* (гл.) па тыпу прыслоўяў на *-а*, параўн. *ду́ба*, *стаяка́* і пад.

**Слупня́к** 'вострая інфекцыйная хвароба, якая прыводзіць да сутаргі мышцаў' (ТСБМ). Да *слуп* (гл.); калька рус. *столбня́к* 'тс'.

**Слух**. Гл. *слых*.

**Слуха́ўкі** 'навушнікі' (Скарбы). З польск. *słuchawki* 'тс', *słuchawka* 'тэлефонная трубка'. Параўн. сучаснае разм. *слу́хаўка* 'тс'.

**Слу́хаць** 'успрымаць слыхам', 'разглядаць (судовую справу)', 'прымаць пад увагу чые-небудзь указанні' (ТСБМ, Ласт., Нас., Шымк. Собр., Касп., Байк. і Некр., ТС, Сл. ПЗБ), ст.-бел. *слухати*, *слышати*, *слышети* 'тс' (Альтбаўэр). Укр. *слу́хати*, рус. *слу́шать*, дыял. *слу́хать*, польск. *słuchać* 'слухаць', *słuszać* 'слухацца', в.-луж. *posłuchać*, *słušeć*, н.-луж. *słuchaś*, *słušaś*, чэш. *slušeti* 'падыходзіць, быць да твару', славац. *slušat'*, серб.-харв. *слушати*, славен. *slúšati*, балг. *слу́шам*, макед. *слуша*, ст.-слав. **слоушати**. Прасл. **sluchati* і **slušati* < **sluxěti*, якія ад **sluchъ* 'слых' (Фасмер, 3, 679), гл. *слых*. Адпаведнікі літ. *klausýti* 'слухаць, слухацца', ст.-прус. *klausiton* 'пачуць', ст.-в.-ням. *hlosên* 'слухаць, слухацца'; з іншай ступенню вакалізму: ст.-інд. *śrósati* 'ён чуе', ст.-сакс. *hlust* 'слых; вуха; слуханне', якія працягваюць і.-е. **k'leu̯-s-* 'чуць'. Гл. яшчэ Махэк$_2$, 558–559; Сной$_1$, 583; Глухак, 564; Борысь, 560; ЕСУМ, 5, 310–311.

**Слухмя́ны** 'паслушны' (Нас., Касп., Растарг., Байк. і Некр.). Параўн. укр. *слухм'я́ний* 'тс'. Карскі (2–3, 43) мяркуе пра запазычанне з украінскай, дзе вядомы варыянт *слухня́ний* 'тс', параўн. *слуха́вы* 'тс' (Нас.). Да словаўтварэння параўн. *руцьмя́ны*, *ціхмя́ны* (гл.).

***Слуць**, ст.-бел. *слути* 'лічыцца, называцца' (Ст.-бел. лексікон). Гл. *слыць*.

**Случа́й** 'выпадак, здарэнне' (Нас., Шат., Растарг., ТС, Ян., Сл. ПЗБ), *слу́чай* 'тс' (Растарг., Бяльк.). Укр., рус. *слу́чай*, серб.-харв. *слу̏ча̄j*, славен. *slučȃj*, балг. *слу́чай*, макед. *случај*, ст.-слав. **съլоучаи**. Прасл. **sъlučajь* утворана з суф. *-jaj* ад **sъlučati sę* 'здарацца'; гл. Слаўскі, SP, 1, 86 і наст. Апошняе да *лу́чыць* (гл.); гл. Фасмер, 3, 679; Бязлай, 3, 266. Дыялектнае *случа́цца*, *случы́цца*

'здарацца' (Ян.; в.-дзв., Сл. ПЗБ), *случя́тыся* 'тс' (кам., Сл. ПЗБ), магчыма, з рус. *случа́ться* 'тс'.

**Слу́шны** 'разумны, абгрунтаваны; практычна карысны' (ТСБМ, Нас., Ласт., Варл., Байк. і Некр., Барад., Сл. ПЗБ), сюды ж ст.-бел. *слушне* 'справядліва' (Ст.-бел. лексікон). Укр. *слу́шний* 'належны, адпаведны, прыстойны', польск. *słuszny*, в.-луж. *słušny* 'справядлівы, уласцівы, належны', н.-луж. *słušny* 'належны', чэш. *slušný* 'прыстойны, добры'. Паўночнапрасл. **slušьnъ* прыметнік ад прасл. **slušati* 'чуць' (гл. *слухаць*), дыял. паўн. 'быць прыналежным, належаць, служыць; стасавацца'; гл. яшчэ Махэк$_2$, 558 і наст.; Брукнер, 501 і наст. У беларускай і ва ўкраінскай з польскай; гл. ЕСУМ, 5, 311.

**Слы́за** 'кавалак сала', *слы́жка* 'тс' (Сл. Брэс.). Мабыць, з дыялектнай фанетыкай да *сліж$_2$*; магчыма, паводле формы: брусок адрэзанага сала.

**Слы́нуць** 'лічыцца, славіцца, быць вядомым' (Нас., Байк. і Некр.), ст.-бел. *слынути* 'славіцца' (Ст.-бел. лексікон); сюды ж *слынь* 'пагалоска, чутка' (Ласт.). Укр. *слúнути*, польск. *słynąć*, чэш. *slynouti* 'тс'. Паводле Слаўскага (SP, 1, 45), прасл. **slynǫti* – дэрыват з суф. *-nǫ-* ад прасл. **sluti*, гл. *слуць*, *слыць*.

**Слых** 'успрыманне гукаў', 'вестка' (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Шат., Варл., Нар. словатв., Сл. ПЗБ), *слух* 'тс' (Ласт., Байк. і Некр., Бяльк., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *слухъ* 'тс' (Альтбаўэр), *слых* 'пагроза' (ашм., Стан.), 'рэха' (навагр., Жыв. сл.), *слух* 'паслухмянасць, пакорлівасць' (Барад.), *слыха́ць* безас. 'чуваць, чутна' (БРС, Нас., Ласт.), *слы́хі* 'пагалоскі' (в.-дзв., бярэз., Сл. ПЗБ). Сюды ж фразеалагізмы *слыхом не слыхаць* (Рам. 6), *ні слыху, ні дыху* (Пятк. 2). Аддзеяслоўнае ўтварэнне, прасл. **sluxъ*; параўн. укр., рус. *слух*, польск. *słych*, *słuch*, чэш., славац. *sluch*, серб.-харв. *слŷх*, славен. *slúh*, балг., макед. *слух*, ст.-слав. **слоухъ**, што да прасл. **sluxati*, **slyšati*. Параўн. укр. *слиха́ти*, рус. *слыха́ть*, *слы́шать*, ст.-слав. **слышати**, польск. *słyszeć*, в.-луж. *słyšeć*, н.-луж. *słyšaś*, чэш. *slyšeti*, славац. *slyšat'*, серб.-харв. *сли̏шати* 'выслухоўваць, распытваць аб зададзеным', славен. *slíšati*. Паводле Махэка$_2$ (559), прасл. **slyšati* з'яўляецца ітэратывам да прасл. **slušeti* (гл. *слухаць*). Роднаснае літ. *klausýti* 'слухаць', *paklústi* 'слухацца', ст.-в.-ням. *hlosēn* 'слухаць, слухацца', нов.-в.-ням. дыял. *losen* 'слухаць', авест.



*a-srušti-* 'непаслухмянасць', ст.-інд. *śrọ́sati* 'ён чуе'. Гл. Траўтман, 308; Мюленбах–Эндзелін, 3, 920; Вальдэ–Гофман, 1, 238; Майргофер, 3, 394; Фасмер, 3, 680; Сной$_1$, 583; Борысь, 560–561; ЕСУМ, 5, 301.

**Слыць** 'быць вядомым; лічыцца знаным, славіцца' (ТСБМ, Нас.), ст.-бел. *слути* 'лічыцца, называцца' (Ст.-бел. лексікон). Параўн. укр. *слúти* 'славіцца', рус. *слыть* 'тс', стараж.-рус. *слути* 'звацца', ст.-польск. *słuć*, чэш. *slouti*, славац. *slut'* 'тс', славен. *slúti* 'славіцца', серб.-харв. *слу́тити* 'прадчуваць, здагадвацца', макед. *слути* 'тс', ст.-слав. **слоути** 'выразна гаварыць, агалашаць'. Прасл. **sluti* роднаснае лат. *sluvêt* 'слыць', *slũt* 'зрабіцца вядомым', ст.-в.-ням. *hlût* 'гучны', ірл. *clunim* 'чую', лац. *clueō*, *cluēre* 'называцца; быць слаўным', грэч. κλέω 'слаўлю, усхваляю', ст.-інд. *śrutiḥ* 'слых, вуха, слуханне', да і.-е. *k'léu̯* 'чуць'; гл. Траўтман, 307; Мюленбах–Эндзелін, 3, 942–943; Майргофер, 3, 372–374; Фасмер, 3, 680 з іншай літ-рай; Махэк$_2$, 557; Скок, 3, 289–290; Глухак, 564 (лічаць сербска-харвацкае слова вытворным ад **slutъ* 'хто слухае'); Бязлай, 3, 267–268; Борысь, 557–558; ЕСУМ, 5, 301. Далей гл. *слава*, *слова*, з якімі яно звязана чаргаваннем галосных.

**Слы́шыць** 'уціхамірваць, супакойваць, рабіць паслушным чыёй-небудзь волі' (ашм., Стан.). Відаць, каузатыў да *слухаць*, *слухацца* 'быць паслухмяным', гл.

**Слю́га**, *слюга̀* 'суцэльнае бервяно пад вокнамі' (ЛА, 4), 'бервяно ў мосце', 'бервяно, па якім усцягваюць калоды' (ЛА, 5). Гл. *слега*.

**Слюда́** 'празрысты слаісты мінерал' (ТСБМ), 'жылка для вуды' (ТС). Укр., *слюда́*, рус. *слюда́*, дыял. *слуди́нка*, *слудья* 'тс', чэш. *slída* (з рус. – Голуб–Копечны, 337), славац. *sluda*, *slieda* (з чэш. – Махэк$_2$, 554), славен. *sljúda* (з рус. – Сной$_1$, 581), балг. *слю́да*. Пэўнай этымалогіі няма. Дапускаюць роднасць з рус. *слуда́* 'круты бераг ракі' (Праабражэнскі, 2, 332), якое таксама этымалагізуецца няпэўна; магчыма, яно роднаснае рус. *слуд* 'наледзь, вада на лёдзе', *слудзь* 'шарпак'. Міклашыч (341) набліжаў да чэш. *šleta* 'сланец' і н.-ням. *schleet*; супраць Фасмер (3, 680), які ўключае сюды і рус. арх. *слюз* 'замерзлая наледзь на паверхні лёду'. Беларускае слова, відаць, таксама з рускай.

**Слюз$_1$**, *слюс*, *слюш* 'слізь', 'плесня' (беласт., віл., воран., Сл. ПЗБ, ЛА, 4), *слюз* 'слізь' (ТС; рас., Шатал.), 'слізкае гнойнае рэ-

чыва на сапсутым мясе ці сапрэлым целе' (Варл.), 'слімак' (лельч., Нар. лекс.), *слюж* 'смоўж, слімак' (Жыв. св.), сюды ж *слюзкі* 'слізкі' (ТС), *слюзнуць* 'прэць, гніць' (Варл.), *слюза* 'слізь' (бяроз., Сл. ПЗБ), *слюзь, слюсь* 'тс' (в.-дзв., шчуч., ашм., Сл. ПЗБ). Укр. *слюз* 'слізь', рус. *слюз* 'тонкая скурка, скурачка', *слуз* 'тс', ст.-рус. *слузъ* 'слізь; макрота', польск. *śluz* 'слізь', серб.-харв. *slȕz, slȕza* 'слізь; макрота', славен. *slȗz* 'слізь', балг., макед. *слуз* 'тс', ст.-слав. **слоуzъ** 'страўнікавы сок'. Прасл. **sluzъ* параўноўваюць з літ. *šliū̃žes* 'санны след', *šliūžaĩ* 'канькі', *šliaũžti* 'паўзці, слізгацца', швейц.-ням. *slûche* 'цягнуцца', гал. *sluiken* 'падкрадвацца', што да і.-е. **sel-*, якое, на думку Глухака (565), узыходзіць да гукаперайманяя (імітатыву). Паводле Борыся (Czak. stud., 43), зыходным для назоўнікаў з розным вакалізмам з'яўляецца дзеяслоў **sliziti* 'выдзяляць з сябе, сачыць вільгаць, вільготную клейкую субстанцыю', гл. *слізь, сляз, слізіць*. Гл. таксама SEK, 4, 312; Глухак, 564; ЕСУМ, 5, 312. Гл. *склізкі, слізкі*.

**Слюз**$_2$ 'шлюз' (ТС), ст.-бел. *слюза* 'тс' (Ст.-бел. лексікон). Гл. *шлюз*.

**Слюма́чыць** 'слініць' (Касп.). З *слюнячыць* < *слюна* (гл.) з асіміляцыяй зычных *л – м*, або непасрэдна да *слімаць* (гл.).

**Слю́на** 'сліна' (ЛА, 3), *слю́ня* 'тс' (Бяльк.), *слю́нькі* 'слінкі; плач, слёзы', *слю́нька* 'ёрш' (Ян., Мат. Гом.), *слюніць* 'ціха плакаць' (Шымк. Собр.). Укр. дыял. *слю́на, слюна́* 'тс', рус. *слюна́*, балг. *слю́на*. Няясна. Меркавалі, што з **slina* (гл. *сліна*) пад уплывам **pl'ujǫ* 'плюю' (Брандт, РФВ, 23, 298 і наст., Махэк$_2$, 555, са знакам пытання). Міклашыч (307) і Бернекер (IF, 10, 163) выводзілі з **spl'una*, супраць Праабражэнскі (2, 332); ЕСУМ (5, 313) узнаўляе прасл. **sl'una* < **sleu-na*, звязанае чаргаваннем галосных з **slina* < **slei-na*. Сюды ж *слюні́ць* 'слініць' (Нас.).

**Слюпата́** 'вялікая слота' (люб., Нар. словатв.). Кантамінацыя *слота* (гл.) і *хлюпаць* (гл.); параўн. таксама *хлю́па* 'слота, непагадзь' (Бяльк.).

**Слю́та** 'мокрае, дрэннае надвор'е' (Нас.; гом., Нар. сл.; люб., паст., Сл. ПЗБ; Нар. словатв.), *слюта́* 'тс' (ТС, Мат. Гом.). Няяснае слова. Хутчэй за ўсё, з *слота* (гл.) пад уплывам слоў з *слю-* у корані (гл. *слюз*). Укр. дыял. (палес.) *слюта́* 'навязлівы чалавек; дрэннае надвор'е' лічаць беларусізмам і вынікам кантамінацыі *сло́та, слата́* 'тс' і *плю́та* 'дажджлівае надвор'е' (ЕСУМ, 5, 313).



Параўн. рус. усх.-сіб. *слю́тие, слю́тье* 'вільготнае, урадлівае лета', што, хутчэй, можна суаднесці з *лета, слецце* (гл.).

**Слю́шкі** *(сьлюшкі)* 'дзіцячая гульня, крэглі' (Бяльк.). Няясна.

**Сляба́нак** 'драўляная канапа' (Сл. рэг. лекс.). З польск. *szlaban*, якое з ням. *Schlafbank* 'скрыня для спання (калі века знімаецца)'; гл. Брукнер, 550.

**Слявя́да** 'дакучлівы чалавек' (Сцяшк.; карэліц., З нар. сл.), 'хто слабасільны' (баран., Сл. ПЗБ), 'пра чалавека, які нудна і доўга гаворыць' (стаўб., Жыв. сл.), *слявя́дзіць* 'доўга і нудна гаварыць' (там жа), *слябядзі́ць* 'сачыць' (Сл. рэг. лекс.). Да *лебядзіць* (гл.). Збліжэнне з літ. *šlavė̃dra, šlevė̃dra* 'распутны чалавек, бадзяга, прайдзісвет' (гл. Лаўчутэ, Балтизмы, 132) сумніўнае.

**Слядзёнік** 'халоднакроўны' (Нас.). Запазычанне з польск. *śledzienik, śledzionik* 'іпахондрык'. Апошняе ад *śledziona* 'селязёнка'; параўн. рус. *сплин* 'іпахондрыя' < англ. *spleen* 'сплін' < *spleen* 'селязёнка'.

**Сляз** 'мальва', *сля́са, слясь, слязю́к, шляз* 'тс' (Кіс., Ласт.), *сля́зік* 'гарлянка?' (Сл. ПЗБ). Параўн. укр. дыял. *сляз* 'тс', *слюз, сліз* 'мальва, алтэя', рус. дыял. *слі́зник* 'алтэя', польск. *ślaz*, чэш. *sléz, sliz*, славац. *slez*, в.-луж. *šlěz*, н.-луж. *slěz*, славен. *sléz* 'алтэя', серб.-харв. *слȅз, сљȅз*, балг. дыял. *сляс* 'расліна, лістамі якой кормяць курэй', макед. *слез* 'мальва'. Прасл. **slězъ*, **slizъ* 'мальва, алтэя' звязаны з **slizь* (гл. *слізкі*) і **sluzъ* (гл. *слюз*), паколькі расліны змяшчаюць слізістую субстанцыю (Махэк$_2$, 554; Брукнер, 530). Запазычанне некаторых усходнеславянскіх форм слова (*сляз*, укр. *сляз*) з польскай мовы (ЕСУМ, 5, 299, 313) грунтуецца на фанетычных крытэрыях (*-я-* на месцы *-ě-*). Паводле Борыся (Etymologie, 624), праславянская форма слова ўяўляе дэвербатыў ад **sliziti* 'сачыцца' (гл. *слізіць*).

**Сляза́** 'вадкасць з вачэй (пры плачы і інш.)' (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Сл. ПЗБ), *слеза́* 'тс' (ТС). Параўн. укр. *сльоза́*, рус. *слеза́*, стараж.-рус. *сльза*, польск. *łza*, в.-луж. *sylza*, н.-луж. *łdza*, чэш., славац. *slza*, серб.-харв. *сȕза*, славен. *sólza*, балг. *сълза́*, макед. *солза*, ст.-слав. **сльза**. Прасл. **slьza* або **slьdza*; Фасмер (3, 668) з перавагай да першай формы. Роднаснае *слізкі, слізь* (гл.); Бязлай (3, 289) прасл. **slьza* лічыць дэвербатывам, першасна nomen actionis > nomen acti ад прасл. **slьzati* 'слізгаць, паўзці (слізганне, коўзанне)' > 'тое, што слізгае' → 'кропля, сляза'. Параўноў-

ваюць з с.-н.-ням. *slik*, *slîk* 'слізь', нов.-в.-ням. *schlickern* 'праліваць', с.-в.-ням. *slîch*, *slich* 'глей' (літ-ру гл. Фасмер, там жа). Махэк₂ (559) рэканструюе прасл. **sьlza*, што не адпавядае ўсходнеславянскім формам, для якіх ён дапускае мэтатэзу *ьl* > *lь*. Гл. таксама ЕСУМ, 5, 311.

**Сля́кацъ** 'слота, мокрае надвор'е' (ЛА, 2), *сля́коць* 'тс' (ТС). Параўн. укр. дыял. *сля́ка, сля́коть, слякота́* 'тс', рус. *сля́коть* 'тс', ст.-польск. *śląkwa*, *słęka*, польск. *słąka* 'дажджлівае надвор'е, снег з дажджом', серб.-харв. *сле̏ка* 'марскі прыліў'. Прасл. **slęk-/ *słǫk-*, адсюль польск. дыял. *ślęknąć* 'прамокнуць, вымакнуць', відаць, гукапераймальнага паходжання, параўн. літ. *šlẽkti* 'пырскаць', *šlakas* 'кропля' (Фасмер, 3, 682; ЕСУМ, 5, 314; Астроўскі, ABSl, 27, 127).

**Сля́мга** *(сьля́мга)* 'мачта' (Ласт.). Няясна.

***Сляпай**, *слепа́й* 'незабудкі' (лельч., Жыв. сл., ПСл). Да *сляпы* (гл.) з суф. *-ай*, які ўтварае назвы асоб па выразнай знешняй прыкмеце, параўн. Сцяцко, Афікс. наз., 145. Семантычная матывацыя не зусім ясная, магчыма, з прычыны бледнага колеру кветак ці малых памераў, параўн. *сляпы́ (слепу́)* 'вузкі, малы' (ТС). Не выключаны перанос назвы з іншай расліны, параўн. *курына слепота́* 'незабудкі' (ТС) і *слепет₂* (гл.).

**Сляпе́нь** 'насякомае Tabanus L.' (ТСБМ, Байк. і Некр., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ, ЛА, 1), *сляпа́к* 'сляпень' (ТСБМ, Сцяшк., Шатал., Нар. словатв., ТС), *сляпе́ц* 'тс' (Скарбы), *сляпня́к* 'тс' (Нар. лекс.), *сляпе́нь* 'вераценніца' (Нас., Касп., Сл. ПЗБ). Укр. *сліпень* 'насякомае Tabanus', *сліпи́й овод* 'авадзень', *слі́пинь* 'змяя', *сліпа́к* 'вераценніца', рус. *сле́пе́нь* 'насякомае Tabanus', польск. *ślepak* 'авадзень', *ślepiec* 'тс', в.-луж. *slepc*, н.-луж. *slěpc* 'тс'. Да *сляпы*, таму што, па народных уяўленнях, калі авадзень упіваецца, робіцца як бы сляпым і яго можна зняць, не спалохаўшы, а вераценніцу лічаць сляпой з-за малога памеру вачэй. Гл. Фасмер, 3, 669; Бязлай, 3, 259; Шустар-Шэўц, 1311–1312; ЕСУМ, 5, 303–304; Новое в рус. этим., 210–211. Сюды ж, мабыць, *слепень: слепням у вочы лезе* (Сержп.), *сле́пецень* у выразе *лезці слепетнем* і *слепіца: лезці слепіцэю* 'лезці нахабна, назойліва' (ТС, Пятк. 2).

**Сляпы́** 'невідомы, пазбаўлены зроку', 'невыразны, неразборлівы (пра тэкст)', 'мутны, цьмяны, непразрысты', 'непрыглядны, беспрасветны', 'без выйсця, праходу (пра вуліцу)' (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Касп.), дыял. *сляпы́, сліпэ́й, сляпо́й* 'сляпы', 'які мае слабы зрок' (Ян., Пятк. 2, Сл. ПЗБ), *слепы́, слепу́* 'невідомы; са слабым зрокам', 'вузкі, малы' (ТС). Укр. *сліпи́й*, рус. *слепо́й*, стараж.-рус. *слѣпыи*, польск. *ślepy*, в.-луж. *slepy*, н.-луж. *slěpy*, чэш., славац. *slepý*, серб.-харв. *сли̏jeп*, славен. *slẹ̑p*, балг. *сляп*, макед. *слеп*, ст.-слав. **слѣпъ**; іншая ступень чаргавання: ст.-слав. **осльпнѫти**, ст.-чэш. *osl'núti*, чэш. *oslnout* 'асляпіць', польск. *olśnąć (oślnąć)* 'аслепнуць'. Прасл. **slěpъ* без задавальняючай этымалогіі. Набліжэнне да фармальна блізкіх літ. *slẽpti* 'таіць, хаваць', лат. *slèpt* 'хаваць' (Міклашыч, 307; Праабражэнскі, 2, 331–332) малаверагодна па семантычных прычынах, а супастаўленне з літ. *žlìbas* 'які мае слабы зрок', *žlìbti* 'траціць зрок, слепнуць' (Махэк₂, 554; Янaчек, Slavia, 24, 1–3) – па фанетычных; гл. Фасмер, 3, 669–670; Трубачоў, там жа. Не выключана паходжанне з больш ранняга **sloịp-/*slip-*, якія ўзыходзяць да і.-е. **sleịp-* 'намазваць' (Тапароў, ИЭРЯ, 1, 1960, 11 і наст.); параўн. прасл. **lěpiti* 'ляпіць' без рухомага *s-*. Тады першаснае значэнне слав. **slěpъ* 'той, хто мае залепленыя, склееныя, нагноеныя вочы', як яго дэфінуе Борысь (615), параўн. лац. *lippus* 'са слабым зрокам, з нагноенымі вачамі'. Ваян (Gram. comp., 1, 303) мяркуе, што ступень рэдукцыі **sьlp-* не адлюстроўвае чаргавання *oị:ĭ*, а магла ўзнікнуць другасна, у дзеясловаў на *-nǫti*. Бязлай ( 3, 259) адзначае таксама няяснасць словаўтваральнага боку пры прыняцці гэтай версіі. Шаўр (Slavia, 50, 52 і наст.) мяркуе пра дэвербатыўнае паходжанне слова. Гл. яшчэ Шустар-Шэўц, 1312; Скок, 3, 284–285; ЕСУМ, 5, 304; Глухак, 562; Новое в рус. этим., 211.

**Сляса́к** 'прыстасаванне ў выглядзе рычажка ў клямцы, пры дапамозе якога адчыняюцца і зачыняюцца дзверы' (ТСБМ, Касп., Сцяшк., Жд. 2, Янк. 2), *сляса́к, сліса́к, слейса́к* 'тс' (Бяльк., Сл. ПЗБ), *слю́сак* 'тс' (ТС), сюды ж *сляса́к (сліса́к)* 'дошчачка або пучок саломы, якія ўстаўляюцца ў прарубку ў бярозе для стоку бярозавага соку' (Бяльк.), *сліса́к* 'шабля' (Шымк. Собр.). З польск. *ślosak*, *ślusak*, *szlisak* 'рычажок у клямцы'. У польскай, відавочна, з ням. *Schluß* 'затвор, затычка', *Schloss* 'замок, засоў'; гл. Варш. сл.; ЕСУМ, 5, 313. Аднак значэнне 'шабля', гл. таксама *слісачок* 'жалезца, пры дапамозе якога паварочваецца засоў' (Шымк.

Собр.), робіць гэтую этымалогію праблематычнай. Параўн. і літ. *slė́sna* 'ступня, плюсна'.

**Сля́сіць** экспр. 'украсці' (Сцяшк.). Рус. дыял. *сля́сить* 'тс', *сля́мзить* 'тс', *сля́бзить*, *сля́пзить* 'тс' і інш. Фасмер (3, 681) параўноўвае з рус. дыял. *ля́мза* 'злодзей, зладзюжка', *ля́мзить* 'красці'. Апошняе не мае пэўнай этымалогіі (Фасмер, 2, 551). Сувязь з польск. *łamzak* 'махляр', чэш. *lamzak* 'тс' з ням. *Lappsack* Фасмер (там жа, са спасылкай на Карловіча) лічыць сумніўнай.

**Сма́га**$_1$ 'моцнае жаданне піць', 'недахоп вільгаці, суша, спёка' (ТСБМ, Нас., Шымк. Собр., Бяльк., Пятк. 2, Шат., Нік. Очерки, Касп., Байк. і Некр., ТС, Сл. ПЗБ), *сма́га*, *сьмя́га* 'тамленне, млосць', *сма́га* 'белы згустак на губах' (Ласт., Варл.), 'засмягласць вуснаў пры гарачцы', 'іржа на збожжы' (Арх. Федар.), 'марыва ад спёкі', 'загар' (Гарэц.), *сма́гнуць* 'знемагаць, мучыцца ад смагі, гарачыні', 'перасыхаць, сохнуць (пра губы, горла, рот)' (ТСБМ, Шат., Касп., Бяльк.; драг., З нар. сл.; пух., Сл. ПЗБ), 'марнець' (ганц., Сл. ПЗБ), *сма́жыць* 'гатаваць на агні (мяса, рыбу, грыбы і пад.)', безас. 'пра сухасць у роце, выкліканую смагай', 'апякаць прамянямі, паліць (пра сонца)' (ТСБМ, Нас., Байк., Шат., Сцяшк., ТС, Сл. ПЗБ, ЛА, 4). Укр. *сма́га*, *сма́гнути*, *сма́жити* 'тс', рус. зах., паўд. *сма́га*, *сма́гнуть*, *смя́гнуть*, *сма́жить* 'тс', стараж.-рус., ст.-рус., ц.-слав. *смага* 'агонь; сухасць; гарачка', ст.-польск. *smaga* 'сухасць у роце', *smażyć* 'сушыць, падпякаць', в.-луж. *smaha* 'загар', *smahnyć*, *smažić*, н.-луж. *smaga* 'апёк; поле пад парам', *smagnuś*, *smažyś*, чэш. старое *smaha*, *smáha* 'пах нечага спаленага', *smahnouti* 'сохнуць, сушыцца', славац. *smažit'* 'сушыць', харв. дыял. *smȁga* 'вялікая прагавітасць', серб.-харв. *смȁгнути* 'пацямнець, загарэць', славен. *smága* 'смуглая скура', *smágniti* 'тужыць'. Цяжка звесці да адной праформы. Прасл. **smaga* выводзяць з **smažiti* 'сушыць на сонцы' па тыпу **slava* – **slaviti* (гл. Бязлай, 3, 268), параўноўваюць з літ. *smogóti* 'сушыць' (гл. Рэйзак, 584), дзе кароткая ступень вакалізму суадносіцца з **smagnǫti* 'тс'. Вакалізм славянскіх слоў тлумачыцца ўплывам **pražiti* 'пражыць' і роднасных, аднак поўнасцю прыняць версію перашкаджаюць формы з каранёвым *-о-* (гл. *смаголь*). Махэк$_2$ (559) набліжае гэтыя словы да ням. *schmachten* 'сохнуць, мучыцца смагай або голадам'. Гл. Фасмер, 3, 663 з іншай літ-рай, Шустар-Шэўц, 1317. Міклашыч (311) і Праабражэнскі (2, 333) адносяць сюды ж *смуглы* (гл.) з іншай ступенню чаргавання. Паводле Куркінай (Этимология–1985, 11), для праславянскага стану характэрна этымалагічнае гняздо з чаргаваннем асноў **smeg-/*smog-/*smaga*. Гл. яшчэ *смяга*.



**Сма́га**$_2$, *смага́* 'налёт пылу, копаці' (смарг., чэрв., Сл. ПЗБ). Семантычная кантамінацыя *смага* і *смуга* (гл.).

**Сма́га**$_3$ 'гора, бяда', *сма́гнуць* 'гараваць, бедаваць' (слуц., Моўныя адзінкі і кантэкст, Мн., 1992, 268), *сма́га* 'гора, бяда, няшчасце' (Сл. рэг. лекс.). Параўн. укр. дыял. *смага́* 'бяда'. Няясна; магчыма, працяг семантычнага развіцця *смага*$_1$ (гл.), *сма́гнуць*. Параўн. ЕСУМ, 5, 315.

**Смагарэ́льцы** 'прыгарэлая вараная бульба' (пін., Нар. лекс.; івац., Жыв. сл.), *смагарэ́лцы*, *смагорэ́лці* 'тс' (Сл. Брэс.). Гаплалогія з *смага* + *гарэць*. Параўн. *смаржок*.

**Сма́гла**$_1$, *смаґла*, *шма́ґло* 'прагна', 'старанна', 'моцна' (Сл. ПЗБ), 'дужа, моцна, са смагай' (Мар. дыс.). Да *смага*$_1$, гл. (< 'са смагай, з моцным жаданнем').

**Сма́гла**$_2$, *шма́ґло* 'хутка' (брасл., Сл. ПЗБ). З польск. дыял. *smagło* 'тс', якое да польск. *smagnąć* 'ударыць'; аб польскім слове гл. Борысь, 561.

**Сма́глы**$_1$ 'смуглы' (ТС), *сма́ґлы*, *смя́ґлы*, *шма́ґлы* 'перасохлы (пра губы)', 'загарэлы' (беласт., Сл. ПЗБ). Укр. *смаглі́й* 'смуглы чалавек', *сма́глий* 'цемнаватага колеру, загарэлы; даспяваючы', рус.-ц.-слав. *смаглыи* 'смуглы, цёмны', польск. *smagły* 'са скурай цёмнага колеру, загарэлы', н.-луж. *smagły* 'загарэлы'. Прасл. **smaglъ(jь)*, вытворнае ад прасл. **smagnǫti*, гл. *смага*$_1$; Рачава, Studia Etym. Brun., 3, 326; Борысь, 561; Шустар-Шэўц, 1317.

**Сма́глы**$_2$, *сма́ґлы*, *шма́ґлы* 'сухарлявы, тонкі', 'сухі, пляскаты', 'схуднелы' (Сл. ПЗБ), 'тонкі, доўгі (пра дубец)' (смарг., шчуч., Сл. ПЗБ). З польск. дыял. *smagły* 'тонкі, гнуткі, стройны', якое з польск. *smagnąć* 'ударыць'; гл. Борысь, 561. *Сма́глы*, *сма́ґлы* 'дужы, сільны, моцнага целаскладу', 'злы', 'вясёлы' (ігн., ашм., Сл. ПЗБ), 'цяжкі' (ігн., Сл. ПЗБ), 'нізкі і тоўсты' (Федар. 4) пад уплывам літ. *smagus* 'вясёлы, дужы, цяжкі', з якім параўноўваюць аўтары Сл. ПЗБ (4, 497), гл. таксама Грынавяцкене, LKK, 30, 122.

**Сма́гнуць**, *сма́гнуті* 'ударыць' (беласт., Сл. ПЗБ). З польск. *smagnąć* 'тс'; не з літ. *smógti* 'тс', як мяркуюць аўтары Сл. ПЗБ (4, 497).

**Смаго́ль** 'галавешка ад смольнага палена' (Шат.), сюды ж, відаць, *смагалі́* 'грыбы белага колеру з крэмавым адценнем' (смаляв., Весці АН БССР, 1972, 1, 83), *смуго́ль* 'загарэлы на сонцы' (Барад.). Рус. зах. *смо́голь* 'смоль', пск. *смо́гарье* 'дровы для начной лоўлі рыбы', польск. *smogorz* 'торф', н.-луж. *smogor* 'тс', ст.-чэш. *smogor*. З прычыны наяўнасці ў іншаславянскіх формах каранёвага *-о-* лічыцца звязаным чаргаваннем галосных з *смага*, гл. (Фасмер, 3, 689).

**Смагу́ла** 'працавіты, але скупаваты чалавек' (мядз., Нар. словатв.). Да *смага*, *смагнуць* з суф. *-ул-(а)*, аб якім гл. Сцяцко, Афікс. наз., 42.

**Смак** 'адчуванне ў роце ад ежы, пітва і інш.', 'апетыт', 'задавальненне, ахвота' (ТСБМ, Шымк. Собр., Нас., Ласт., Гарэц., Касп., Байк. і Некр., Шат., Растарг., Стан., Пятк. 2, Сл. ПЗБ, ТС), *сма́кі* 'прысмакі' (Скарбы, Барад.). Як і рус. *смак* і роднасныя праз польск. *smak* з ст.-в.-ням. *gismac* або с.-в.-ням. *gesmac(h)* 'смак'; гл. Кюнэ, Poln., 97; Міклашыч, 309; Брукнер, 503; Фасмер, 3, 683. Паводле Маньчака (ABSl, 21, 302), з ст.-в.-ням. або с.-в.-ням. *smac* 'тс'. З польскай паходзяць *смачны* < *smaczny* і *смакава́ць* < *smakować*; гл. Праабражэнскі, 2, 334; Фасмер, там жа. Ст.-бел. *смакъ* (XV ст.) і *смаковати* (XVI ст.) паходзяць з ст.-польск. *smak* і *smakować* (Булыка, Лекс. запазыч., 128, 189).

**Смакі́ша** 'сыракваша' (бялын., Нар. сл.). З *самакіша*, *съмакіша* (там жа, 55) ад *сам* і *кіснуць* (гл.) з суф. *-j-a*. Параўн. таксама рус. пск., наўг. *простоки́ша* 'сыракваша'.

**Смако́цыя** 'смаката, вельмі смачная страва' (брэсц., Нар. лекс., Сл. Брэс.). Пераўтварэнне *смако́цце*, *смака́та*, вытворных ад *смак* (гл.), пад уплывам запазычаных слоў з суф. *-цыј-а* тыпу *акупацыя*, *экзекуцыя* або непасрэднае ўтварэнне ад *смак*.

**Смакта́ць** 'уцягваць у рот, аблізваць, ссаць' (ТСБМ, Нас., Шымк. Собр., Ласт., Байк., Шат., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ), *смокта́ць* 'тс' (ТС), *смакці́ць* 'тс' (Шатал.), 'есці вельмі мала, перабіраючы' (Нар. лекс.). Укр. *смокта́ти* 'смактаць; прагна піць', рус. дыял. *смокта́ть* 'тс', польск. *smoktać*, *smokać* 'смактаць; цмокаць (на каня)', балг. дыял. *смо́хтам* 'ссаць, уцягваць у сябе ротам'. Гукапераймальнае; гл. Праабражэнскі, 2, 336–337; Брукнер, 503–504; Фасмер, 3, 690; ЕСУМ, 5, 326 (рэканструюецца позняе **smoktati*, звязанае з гукаімітатыўным **smokъ*, гл. *цмок*, *цмокаць*).



**Смактуга́** 'нізкае месца на полі, дзе вымакае рунь' (зэльв., Нар. словатв.). Да *смактаць* (гл.) з суф. *-уг(а)*. Сюды ж *смакту́н* 'падзолістая глеба' (ашм., Сл. ПЗБ), *смакту́нь* 'халодная неўрадлівая глеба' (Скарбы) з суф. *-ун*, *-унь*, а таксама магчымы наватвор Ластоўскага *смакту́г*, *смактугі́* 'помпа' (Ласт.).

**Смакту́лька** 'зябер прыгожы, Galeopsis speciosa Mill.', *смакту́н* 'тс' (нясвіж., ЛА, 1), *смо́кта* 'тс' (ТС). Да *смактаць* (гл.), таму што кветкавыя трубачкі расліны змяшчаюць многа цукрыстай вадкасці (параўн. іншую назву *сысункі́* 'тс'). Паводле Аненкава (151), з'яўляецца ласункам дзяцей, якія высмоктваюць гэты сок.

**Смакту́н** 'кветка канюшыны' (ТС, Мат. Гом.), *смакту́шкі* 'чырвоная канюшына', *смакту́шка* 'дзяцеліна' (лун., драг., ЛА, 1), *смокту́шка* 'галоўка канюшыны, коцікі вярбы' (ТС). Да *смактаць* (гл.), семантычная матывацыя як у папярэдняга слова.

**Смактуны́**, *смоктуны́* 'пакрывец лекавы, Anchusa officinalis L.' (бяроз., Нар. лекс.). Відавочна, да *смактаць* (гл.). Параўн. іншую назву гэтай расліны: *мядоўка* (Кіс.).

**Смала́₁** 'загусцелы сок хваёвых і іншых раслін', 'пра назойлівага, надакучлівага чалавека' (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр.; ашм., Стан.; астрав., драг., Сл. ПЗБ), 'жывіца сасны' (Пятк. 2), *смола́* 'тс' (ТС), ст.-бел. *смола* 'тс' (Сташайтэне, Абстр. лекс.), сюды ж *смалі́ць* 'насычаць смалой' (ТСБМ, Байк. і Некр.). Укр., рус. *смола́*, стараж.-рус., серб.-ц.-слав. *смола* 'тс', польск. *smoła*, в.-луж., н.-луж. *smoła*, палаб. *smüla* 'смала; пекла, печ', чэш. *smůla*, славац. *smola*, серб.-харв. *смо̀ла*, славен. *smóla*, балг. *смола́*, макед. *смола*. Прасл. **smola* утворана ад і.-е. кораня **(s)mel-* 'гарэць, тлець' (Сной₁, 586). І.-е. адпаведнікі: лат. *smeļi* мн. л. 'смольныя паленні', літ. *smėla* 'тлее', *smelà* 'смала', н.-ням. *smelen* 'гарэць доўга і дымна', с.-ірл. *smál*, *smól*, *smúal* 'агонь, попел' (Праабражэнскі, 2, 337; Фасмер, 3, 690; Шустар-Шэўц, 1322; Сной₁, 586; Глухак, 566; Скок, 3, 294; ЕСУМ, 5, 326–327). Махэк₂ (563), Борысь (563) лічаць **smola* дэрыватам ад незахаванага ў славянскіх мовах дзеяслова **smelti* 'тлець, злёгку гарэць', суадноснага з **smaliti*, гл. *смаліць*.

**Смала́₂**, *смыла́*, *смэла́*, *смо́лка* 'малодзіва' (бяроз., пін., хойн., Шатал.), *смала́*, *смаліна́*, *смо́лак*, *смо́лка* '(ліпкае саланаватае)

малако перад ацёлам' (Мат. Гом.), *смола́* 'тс' (ТС), *смо́лка* 'тс' (Шат., Сцяшк., Мат. Маг., Сл. ПЗБ). Гл. папярэдняе слова. Семантычнае развіццё аналагічна развіццю ў *сера* 'малодзіва' (гл.).

**Смалгава́ты** 'смуглявы' (Мат. Гом.). Метатэза з **смаглаваты* < *смаглы*$_1$ (гл.); параўн. таксама ўкр. *смаглюва́тий, смагля́вий* 'смуглявы'.

**Сма́лец** 'шмалец' (Шат., Сцяшк., Вешт.), 'шмалец; нагар у люльцы' (ТС), *сма́лец, сма́ляц, сма́лець* 'тс' (смарг., баран., беласт., Сл. ПЗБ). З польск. *smalec* 'тлушч' (Сл. ПЗБ, 4, 498). Ужо ст.-бел. (XVI ст.) *смалець* 'топлены тлушч, шмалец' < ст.-польск. *smalec* < ням. *Schmalz* (Булыка, Лекс. запазыч., 117). Борысь (561) удакладняе паходжанне ст.-польск. *smalc* < с.-в.-ням. *smalz* 'топлены тлушч; шмалец, тлушч, масла'. Гл. *шмалец*.

**Смалі́на** 'сасна як матэрыял' ("chwója, a jeżeli jest już materjałem – smalína", Пятк. 1), *смало́вае дзе̏рэво* 'тс' (Пятк. 1, ЛА, 1), *смолі́на* 'сасна', *смо́льнік* 'хвойнік (зараснік, драўніна)' (ТС). Да *смала*$_1$ (гл.).

**Смалі́ца**: *лезці смаліцай* 'неадчэпна, напорыста, настойліва, нахабна лезці' (Скарбы). Да *смала*$_1$ (гл.), параўн. *прычапі́ўся, як смала* 'тс'.

**Смалі́ць** 'паліць', 'хвастаць', 'страляць', 'што-небудзь хутка рабіць (напр., ісці)' (ТСБМ, Нас., Сержп., ТС, Сл. ПЗБ), 'абпальваць шэрсць, смаліць свінню' (Шымк. Собр., Бяльк., Касп., Сцяшк.), 'пыліць' (в.-дзв., Сл. ПЗБ), 'марозіць' (беласт., Сл. ПЗБ), 'шпарка ісці' (Скарбы), 'выгаварваць, дапякаць словам' (Нас., Сцяшк.), *сма́ліць* безас. 'моцна хацецца', *смыле́ць* 'моцна балець, пячы' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), *смальну́ць* 'стукнуць' (ТС), *смуле́ць* 'паспешна ісці' (ТС). Укр. *смали́ти* 'абпальваць, апякаць', 'піць, цягнуць', рус. зах., паўд. *смали́ть* 'паліць, апякаць', польск. *smalić* 'апякаць; курыць, піць (многа)', каш. *smalëc są* 'тлець', в.-луж. *smalić* 'смаліць (свінню, курыцу)', н.-луж. *smališ* 'паліць'. Прасл. дыял. **smaliti*. Паводле Фасмера (3, 684), Брукнера (503), звязана чаргаваннем галосных з *смала*$_1$ (гл.). Шустар-Шэўц (1317) у якасці і.-е. паралеляў прыводзіць яшчэ ст.-ірл. *smāl, smōl, smūal* 'агонь; попел', літ. *smilkti, smilkstù* 'пыліць, дыміць'. Борысь (561–562) прапануе разглядаць **smaliti* як шматкратны дзеяслоў ад прасл. **smoliti* (з рэгулярным падаўжэннем каранёвага галоснага *o > a*, які часткова захаваўся ў славен. дыял. *smolíti* 'паліць', *smolíti se* 'апаліцца, прыпаліцца'), што ўзыходзіць да незахаванага прасл. **smelti*



(гл. *смала*$_1$). Гл. яшчэ Міклашыч, 309, 311; Покарны, 969, 971; ЕСУМ, 5, 305–306.

**Смалу́да** 'дзікая расліна, карэнні якой па смаку нагадваюць моркву' (Адм.). Параўн. укр. *смовдь* 'дзікая пятрушка, Peucedanum L.', польск. *smłod, smłód* 'гладыш шыракалісты, Laserpitium latifolium L.', 'расліна Peucedanum L.', чэш. *smldí, smldník* 'тс', славен. *smlȇd* 'расліна Peucedanum oreoselinum L.', харв. чак. *smlȇd* 'herbae genus', *smudnjak* 'расліна Peucedanum L.'. Назва няяснага паходжання. Без беларускага матэрыялу рэканструююць формы **smьldь*, **smeldь*, **smoldь* і **sml̥dь*, а таксама адносяць да асноў з чаргаваннем прасл. **smeld-/*smьld-/*smold-*, што працягваюць і.-е. **smel-* 'тлець, гарэць' (параўн. літ. *smėla* 'тлее, гарыць') з пашырэннем *-d-*, параўн. *смала*$_1$ (гл.), *смо́лда* 'смолка, Viscaria vulgaris Bernh.' (Мат. Гом.). Куркіна (Диал. структура, 114) на падставе славен. *smlȇd* 'жоўты', якое супадае з славенскай назвай расліны Peucedanum, матывуючым прызнакам лічыць жоўты колер, што падмацоўваецца народнай назвай рус. *желтолен*, аднак гэта няпэўна. Фурлан (Бязлай, 3, 271), улічваючы паралельную назву ўкр. *мовдь* 'расліна Peucedanum oreoselinum L.', параўноўвае з літ. *meldà, méldas* 'чарот', лат. *mę̄ldi, mę̄ldri* 'тс' і звязвае з **moldь* (гл. *малады*), якое значыла не толькі 'які мае мала гадоў', але і 'мяккі, дробны', а адпаведны корань і.-е. **mold-* меў таксама значэнне 'мачыць, памягчаць', што магло б сведчыць пра ўжыванне расліны Peucedanum у якасці лячэбнага сродку. Менш верагодная версія Махэка$_2$ (561), звязаная з пераносам назвы з асновай **smld-*, параўн. ст.-чэш. *smldie* 'купена, Polygonatum multiflorum All.', чэш. *smldí* 'малінія', старое польск. *smilz* 'вострыца, Deschampsia caespitosa P.B.', на расліну Peucedanum, паколькі стабілізацыя значэння 'Peucedanum' адбылася яшчэ ў праславянскую эпоху, гл. Лабко, БЛ, 18, 60. Гл. таксама Брукнер, 503; Врубель, Term. bot, 31; Басай–Сяткоўскі, Słownik, 324; Бязлай, Eseji, 81–82.

**Смаль** 'пах гару' (Нас., Гарэц., Касп., Бяльк.), 'смала ў люльцы' (Бяльк.), *сма́лінь* 'гар' (Нар. сл.), *смылінь* 'тс' (Нар. лекс.), *сма́ліна* 'тс' (Нас.). Да *смаліць* (гл.) з рознымі суфіксамі.

**Сма́льня** 'настырлівая, гарэзлівая дзяўчынка' (кіраў., Нар. сл.). Да *смала*$_1$ і роднасных; кандэнсацыя фразеалагізма *смоллю прыстаць* 'прычапіцца, не адставаць'.

**Смаля́нка**$_1$ 'смолка, Viscaria viscosa Aschers' (Шат., Кіс., Сцяшк., Мат. Гом., Сл. ПЗБ), 'зязюльчын светнік, Coronaria flos

cuculia L.' (Kic., Жыв. сл.), *смаля́нка, смалёўка* 'травяністая расліна сямейства гваздзіковых з белымі, ружовымі, чырвонымі кветкамі' (ТСБМ). Да *смаляны* < *смала*$_1$ з суф. *-к-*, параўн.: *смалянка ліпне, як смала* (Сл. ПЗБ). Далей гл. *смолка.*

**Смаля́нка**$_2$ 'гатунак груш' (ТСБМ, Мат. Гом.), *смоля́нка* 'гатунак груш і яблыкаў' (ТС). Параўн. польск. *smolanka*, чэш. мар. *smol'enka*, славац. *smolnatka* 'гатунак груш'. Да *смала*$_1$; паводле Махэка$_2$ (563), таму, што гэтыя грушы, як толькі пачынаюць гнісці, становяцца ўнутры чорнымі, як смала.

**Смаля́нка**$_3$ 'пацук з доўгім хвастом' (Байк. і Некр.), *смалля́нка, смыля́нка, смыльня́нка* 'пацук' (Нас., Шымк. Собр., Касп., Бяльк., ЛА, 1), *смальчу́г* 'пацук (самец)' (З нар. сл.), *смалю́га* 'пацук' (Мат. Маг.). Да *смала*$_1$, *смаляны*; першапачаткова, відаць, 'чорны пацук'.

**Смаля́нка**$_4$ 'паганы грыб' (Мат. Гом.). Польск. *smolucha* 'атрутны грыб'. Да *смала*$_1$, *смаляны*, відаць, паводле колеру.

**Смаля́нка**$_5$ 'грыб лісічка' (брэсц., Сярж.–Яшк.; Сл. Брэс.), *смоля́нкі, смоло́вікі* 'лісічкі' (ТС). Да *смаліна* 'сасна' (гл.), *смаловы* 'сасновы' і, далей, да *смала*$_1$ (гл.), відаць, па месцы вырастання, параўн. іншыя назвы *сасня́нка, падсо́снаўка* (Сярж.–Яшк.).

**Смара́гд** 'назва некаторых мінералаў зялёнага колеру' 'ізумруд' (ТСБМ, Некр. і Байк.), ст.-бел. *смарагдъ, измарагдъ* 'тс' (Булыка, Запазыч., Ст.-бел. лексікон). Параўн. стараж.-рус. *смарагдъ, измарагдъ*, укр. *смарагд, шмарагд*, рус. *смара́гд* 'тс' з грэч. σμάραγδος, ξμαραγδος, для якіх мяркуецца царкоўнаславянскае пасрэдніцтва, гл. ЕСУМ, 5, 316; Праабражэнскі, 2, 334. Ст.-бел. *шмарагдъ, шмаракгдусъ, смаракгдъ* праз польск. *szmaragd, smaragd* узыходзіць да той жа крыніцы; гл. Булыка, Лекс. запазыч., 141. Пасрэдніцтва ід. *Smaragd* 'тс' для сучаснага слова (Шульман, Полымя, 1926, 8, 213) не з'яўляецца абавязковым.

**Смарахну́цца** (*смырахну́цца*) 'спалохацца, спужацца' (Бяльк.). Да прасл. кораня **merk-/*mork-* (гл. *марока*). Параўн. варыянт гэтага кораня з канчатковым *-ch-* у польск. *mierzchnąć* 'тускнець, бляknуць; змяркацца' і ўкр. *ме́рхнути, ме́рхти* 'тс'. Брукнер (346) прыводзіць цікавае рус. маск. *мараморохи*, якое скарыстана ў А. Белага: "... под мараморохом зимы", якое ён лічыць падвоеннем ад *морак* і зменай на *-ch-* заканчэння кораня. Семантыку бел. слова магчыма было б тлумачыць як 'дайсці да стану непрытомнасці (рус. *обморока*) ад страху' – 'спужацца, спалохацца'.



**Смарга́нец**, *смарганéц* 'расліна Holcus L.' (Байк. і Некр., Kic.), 'метлюжок, Poa pratensis L.' (Kic.). Няясна, магчыма, да *смо́ргаць* 'ірваць' (гл.), параўн. *смарга́ць* 'тузаць', *смарга́ны* 'пацёрты' (Байк. і Некр.), аднак матывацыя застаецца няяснай. Відаць, звязана нейкім чынам з *сморг* 'гарачая пара, прыпар' (гл.), *смарго́вы* (гл. наступнае слова), што суадносяць слова з іншай назвай расліны – *пажарніца* (гл.), параўн. *смарганец росце на погорэлом полі* (лельч., Арх. ГУ).

**Смарго́вы** 'ясны дзень сярод лета, прыдатны для земляробаў' (Нас.). Гл. *сморг.*

**Смарда́** 'парэчкі, смародзіна' (Бяльк.). Магчыма, вынік моцнай рэдукцыі другога галоснага ў **смарада́* (гл. *смародзіна*). Але не выключаны ўплыў яшчэ ст.-польск. *smard* 'смурод'.

**Смаржо́к** 'ядомы грыб з маршчыністай шапкай, Morchella esculenta (Pers.) Fr.; Morchella conila Perg.', *смарчо́к* 'тс' (ТСБМ), *смаржо́к, смаршо́к, смаршчо́к, смарчо́к* 'тс' (ЛА, 1, Сярж.–Яшк.), *сморжкы* 'грыбы Morchella' (Бейл.), а таксама *сморж* 'тс' (малар., Сярж.–Яшк.), ст.-бел. *сморщкы* 'тс' (Скарына). Укр. *сморж, смо́ржій, змо́рика, сморч*, рус. *сморчо́к*, польск. *smarz, smardz*, в.-луж. *storž, smorža*, н.-луж. *smarž*, чэш. *smrž*, славац. *smrž*, серб.-харв. *смр́чак*, славен. *smŕček*, макед. *смрчка*. Прасл. **smъrčь, smъržь* (потым з другасным суф. *-ъk-*). Фасмер (3, 692) звязвае з *смаркаць* і *сморгаць* (гл.), што да прасл. **smъrkati, *smъrgati*. Мяркулава (Очерки, 168 і наст.) мяркуе, што гэтыя словы з'яўляюцца вымаўленчымі варыянтамі аднаго дзеяслова, магчыма, з экспрэсіўнай менай заднепаднябенных *-к-* і *-g-*, а семантычна яны выступаюць як сінонімы са значэннем 'тузаць, шморгаць' і, не выключана, мелі адценне значэння 'сцягваць, сціскаць, мяць, моршчыць', адкуль у аснове назвы грыба магло быць уяўленне як аб нечым памятым, зморшчаным. На карысць гэтага сведчыць *сморжкы́* 'сукруткі': *пэрэкручэная пражка, збыраюцца сморжкы* (Уладз.). Рэйзак (586), узводзячы назвы да тых жа праславянскіх дзеясловаў, першасным значэннем лічыць 'слізкі грыб', параўн. лат. *smur̃gat* 'мазаць, пэцкаць', літ. *smìrgas* 'соплі', што не ўзгадняецца з вонкавым выглядам грыба, ён таксама звяртае ўвагу на падобнасць славянскіх назваў да ням. *morchel* 'смарчок'. Махэк$_2$ (562) мяркуе, што слова мае "праеўрапейскае" паходжанне.

**Смарка́ць**, *смарка́цца* ‘ачышчаць нос’. Параўн. укр. *сморка́ти*, рус. *сморка́ть(ся)*, страж.-рус. *смъркати*, ц.-слав. *смръкати, смръкъ* ‘смаркачы’, польск. *smarkać, smark* ‘смаркачы’, в.-луж. *smorkać*, н.-луж. *smarkaś*, чэш. *smrkati*, славац. *smrkat'*, серб.-харв. *шмр́кати*, славен. *smŕkati, smŕk* ‘соплі’, балг. *смъ́ркам*, макед. *смрка, шмрка*. Прасл. **smъrkъ*, **smъrkati* (або **smr̥kati*) роднаснае літ. *smùrgas* ‘соплі’, *smurkštinti* ‘запэцкаць, забрудзіць’, лат. *smurgât*, новаперс. *morg* ‘соплі’; усё з і.-е. **smerk-/*smerg-* (параўн. *сморгаць*). Гл. Фасмер, 3, 691; Махэк$_2$, 562; Шустар-Шэўц, 1323; Сной$_1$, 586; Рэйзак, 586; Борысь, 562. Сюды ж *смаркачы́* ‘соплі’, *смарка́ч* ‘малады нявопытны чалавек’, *смарку́ль* ‘тс’.

**Смаркач$_1$** ‘ёрш’ (Мат. Гом.), *сморка́ч* ‘тс’ (Крыв.). Да *смаркаць* (гл.), г. зн. слізкая або пакрытая слізззю рыба; параўн. таксама палескія сінонімы: *сопе́ль, сопліве́ц, слі́нявец, слізуне́ц*; гл. Крывіцкі, Зб. Крапіве, 200 і наст.

**Смарка́ч$_2$** ‘грыб масляк’ (узд., Нар. словатв.). Да *смаркаць* (гл.). Таксама як і ў дачыненні да рыб (гл. папярэдняе слова) назва слізкіх грыбоў; гл. Мяркулава, Очерки, 156, 181 і наст.

**Смарка́ч$_3$** ‘маленькая лямпа без шкла, газніца, капцілка’ (Шат.; воран., бярэз., Сл. ПЗБ), *смарка́чка* ‘тс’ (Касп.; в.-дзв., глыб, Сл. ПЗБ), *смырка́чык* ‘тс’ (Бяльк.), *смарка́чык (сморка́чикъ)* ‘маленькая свечка, зробленая з рэштак свечачнага лою шляхам макання, якую яўрэі ўжывалі падчас шабасу’ (Нас., Сержп. Прымхі), *смарка́чык* ‘газніца’ (бярэз., Сл. ПЗБ). Польск. *smarkaczka* ‘свечка з благога лою, якая хутка тоне ў ім’. Усё да *смаркаць* (гл.).

***Смаркач**, *сморка́ч* ‘невылегчаны баран’ (драг., З нар. сл.). Гл. *маркач*.

**Смаро́дзіна** ‘чорныя парэчкі, смародзіна’ (ТСБМ), *смаро́да, смуро́да, смаро́днік, смуро́дзіна, сму́роды, смаро́дніна* ‘адна ягада або куст смародзіны’ (ЛА, 1). Укр. *смоpо́дина* ‘чорныя парэчкі’, рус. *сморо́дина* ‘парэчкі; чорныя парэчкі’, польск. *smrodzina, smrodynik*, дыял. *smardlina, smarglina*, чэш. *smradinka, smradina*, славац. *smrdlenka*. Параўн. таксама каш. *smarʒёna* ‘чорныя парэчкі’, *smarglёna* ‘чаромха’, н.-луж. *smrod, smrodyn* ‘чаромха; крушына’, серб.-харв. *смр̏дика* ‘крушына’, славен. *smŕdež* ‘тс’, балг. *смрдлика* ‘чаромха’, макед. *смрделика* ‘від ядлоўцу’. Прасл. **smorda, *smordina* ‘парэчкі, чорныя парэчкі’. Да слав. **smordъ* ‘моцны пах, смурод’ (гл. *сморад*); расліна названая так з-за моцнага паху’, аналагічна



нова-в.-ням. *Stinkbaum* пры *stinken* ‘смярдзець’. Для паўднёваславянскіх моў Мяркулава (Очерки, 213 і наст.) узнаўляе форму з асновай **smord-* у значэнні ‘расліна з моцным пахам’. Гл. таксама Праабражэнскі, 2, 338; Фасмер, 3, 691–692; Махэк$_2$, 561; Шустар-Шэўц, 1324; SEK, 4, 321.

**Смарчо́к**. Гл. *смаржок*.

**Сма́шны** ‘смачны’, *сма́шна* ‘смачны’ (Нас.). З *смачны* (гл. *смак*) з адлюстраваннем вуснага вымаўлення *-чн-* як *-шн-*.

**Смегава́цца** *(сьмігува́цца)* ‘гараваць у нястачы’ (Юрч.). Няясна; параўн. *сміганучь* (гл.).

**Сме́лы** ‘які не паддаецца страху; храбры, адважны’ (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк., Бяльк., ТС, Пятк. 2, Сл. ПЗБ), *сме́ліць* ‘рабіць смелым’ (Нас., Ласт.). Укр. *смі́лий*, рус. *сме́лый*, польск. *śmiały*, чэш. *smělý*, славац. *smelý*, серб.-харв. *смȅо*, славен. *smȇl* (з серб.-харв.), балг. *смел*. Прасл. **sъmělъ*, першапачаткова дзеепрыметнік прошлага часу на *-l-* ад дзеяслова **sъmětі* (гл. *смецъ*); Бернекер, 2, 47; Праабражэнскі, 2, 341–342; Фасмер, 3, 684; Сной$_1$, 584–585; Махэк$_2$, 560; Рэйзак, 585; Борысь, 617.

**Сме́рглы** ‘сапсаваны’, *сме́ргнуцца* ‘псавацца’: *яйца смергнуцца* (Яўс.). Відаць, да *смярдзець* (гл.), першапачатковае **smьrdly*, параўн. польск. *śmiardły* ‘сапсаваны; пратухлы’, дыял. *śmiardwy* ‘смярдзючы’ з заменай спалучэння *-*dl-* на *-гл-* у адпаведнасці з вядомым дыялектным усходнеславянскім працэсам, гл. Векслер, Гіст., 101; параўн. дыял. *егла (jegla)* ‘ёлка’ пры польск. *jodła* ‘тс’ (Непакупны, Связи, 186). Па лінгвагеаграфічных прычынах малаверагодна непасрэднае запазычанне з польскай мовы. Параўн. *прасмергнуць* (гл.).

**Смерд** ‘у старажытнай Русі – залежны селянін-земляроб’, ‘чалавек з простанароддзя’ (ТСБМ), *смердзь* ‘смурод’, ‘просты селянін’ (Нас.), ст.-бел. *смердъ* ‘селянін’ (Ст.-бел. лексікон). Укр., рус. *смерд* ‘селянін’, страж.-рус. *смьрдъ*, польск. *smard*, дыял. *śmierdź* ‘тс’, палаб. *smårdi* ‘сялянства’, ст.-слав. **смрьдъ** ‘залежны селянін-земляроб’. Прасл. дыял. **smьrdъ* ад **smьrděti* ‘смярдзець’ (гл. Праабражэнскі, 2, 334; Фасмер, 3, 684 з літ-рай), як пагардлівая назва земляроба з боку прадстаўніка пануючага класа. Параўноўвалі яшчэ з літ. *smir̃das* ‘той, хто пахне’, лат. *smir̃ža* ‘тс’, але яны, як мяркуе, напрыклад, Скарджус (Slav., 202), хутчэй запазычаны з славянскіх моў. Гл. яшчэ Брукнер, 536; Махэк$_2$, 561–562;

ЕСУМ, 5, 317; Шустар-Шэўц, Этимология–1984, 234–236 (набліжае да літ. *mẽrdelis* 'аслабелая ад голаду істота').

**Смерк** 'змярканне' (ТС), *смерóк* 'тс' (ПСл). Да *меркнуць* (гл.).

**Смерць₁** 'спыненне жыццядзейнасці, гібель арганізма' (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС). Укр., рус. *смерть*, стараж.-рус. *съмьрть*, польск. *śmierć*, в.-луж. *smjerć*, н.-луж. *sḿerś*, чэш. *smrt*, славац. *smrt'*, серб.-харв. *смр̑т*, славен. *smŕt*, балг. *смърт*, макед. *смрт*, ст.-слав. **съмрьть**. Прасл. **sъmьrtь* роднаснае літ. *mir̃tis*, *mirtis* 'смерць', лат. *mir̃te* 'тс', ст.-інд. *mṛtis*, лац. *mors*, Р. скл. *mortis* 'тс', гоц. *maúrþr* 'забойства' ад і.-е. **mer-* 'паміраць'. Большасць даследчыкаў (гл. Траўтман, 187; Махэк₂, 562; Фасмер, 3, 685–686; Сной₁, 586–587, Борысь, 618 і інш.) звязваюць частку **sъ-* у праславянскім слове з ст.-інд. *su-* 'добры', першапачаткова 'добрая', г. зн. 'свая, натуральная', і, далей, з слав. займеннікам *svo-* (гл. *свой*). Аднак Трубачоў (Проспект, 82 і наст.) разглядае слав. **sъmьrtь* як праславянскі наватвор з прыст. **sъ-* параўнальна з больш старым **mьrtь* < і.-е. **mṛt-s*, параўн. чэш. *mrt* 'адмёршая частка; неўрадлівая зямля'; гл. Глухак, 567.

***Смерць₂**, *смэрть* 'вусень' (кам., ЛА, 1), *смяртéльнік* 'начны матылёк' (Сцяшк. Сл.). Да папярэдняга слова, відаць, на базе ўяўленняў пра дрэнны знак, які падае начны матылёк, што залецеў у хату, прадвеснік смерці, падрабязней гл. Гура, Символика, 487–488); параўн. *цьма* 'тс' (гл.), што перанесена на вусеня як стадыю ў развіцці матылька.

**Смéта** *(смѣта)* 'разлік' (Шымк. Собр.), рус. *смéта* 'каштарыс'. Паводле Фасмера (3, 686), з **съмѣта*, што да *мéціць* (гл. *мета*); параўн. балг. *смéтка* 'падлік, разлік', макед. *сметка* 'разлік; справаздача'.

**Смéтнік₁**. Гл. *смецце*.

**Смéтнік₂** 'верабей', 'аўсянка' (Бяльк.), *сметнічóк* 'верабей' (Мат. Гом.), *смятнюк* 'тс' (лельч., Нар. лекс.), *смяцюх*, *смяцюр*, *смэтюр* 'жаваранак' (Шатал.), *смытюх*, *снэцюх* 'тс' (Сл. Брэс.), *смяцюх*, *смяцюк* 'аўсянка' (Сл. ПЗБ). Укр. *посмíтюха*, *посмітюшок* 'жаваранак хахлаты', польск. дыял. *posmiciuch*, *śmieciuch* і пад. – назвы розных птушак, якіх можна часта сустрэць на сметніках і пустках; да кораня *смет-* (гл. *смецце*) (Струтыньскі, Nazwy, 104; Антропаў, Назв. птиц, 361). Гл. *смяцюх*.



**Смех** 'праяўленне весялосці, радасці і пад.' (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк., Бяльк., ТС, Сл. ПЗБ), 'тс' і 'жарт, забава' (Яўс.), *смеў (сьмеў)* 'тс', мн. л. *смéвы: смевы ды перасьмеўкі* (Ласт.). Параўн. укр. *сміх*, рус. *смех*, польск. *śmiech*, в.-луж., н.-луж. *směch*, чэш. *smích*, славац. *smiech*, серб.-харв. *смȉјех*, славен. *smẹ̑h*, балг. *смях*, макед. *смев*, ст.-слав. **смѣхъ**. Прасл. **směchъ* утворана з дапамогай суф. *-chъ* ад **smьjati sę* 'смяяцца'; гл. Слаўскі, SP, 1, 70; узыходзіць да і.-е. **smoisos* 'тс' (Фасмер, 3, 684 з літ-рай; Сной₁, 584; Борысь, 617). Формы з *в(ў)* у выніку фанетычных змен. Гл. *смяяцца*.

**Смéцце** 'дробныя адкіды, рэшткі чаго-небудзь; драбяза' (ТСБМ, Некр. і Байк., Растарг., Сл. ПЗБ, Сержп., ЛА, 3, Касп., Сцяшк.), *смéцье* 'тс' (ТС), *смяццё* 'тс' (Нас., Шымк. Собр., Ласт., Растарг., Сл. ПЗБ, Скарбы), *смéцейка* 'самае дрэннае зерне, якое пры веянні кладзецца перад мякінай' (Шат.), 'дрэннае, пашкоджанае зерне' (Сл. Брэс.), сюды ж *смéтнік* 'месца для смецця, звалка' (ТСБМ, Некр. і Байк., ТС, Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *смíття* 'смецце', рус. *смéтье* 'тс', 'мякіна', польск. *śmiecie*, в.-луж. *smjecie*, чэш. *smetí*, *smet'*, славац. *smet*, серб.-харв. *смѐће*, *смет*, славен. *smetjè*, *smet*, балг., макед. *смет* 'тс'. Прасл. **sъmetьje*, **sъmetь*. Ад **sъmesti* (гл. *месці*) з суф. *-ьje*, *-ь*, першапачаткова nomen actionis; гл. Слаўскі, SP, 1, 85; таксама Фасмер, 3, 687; Махэк₂, 361; Шустар-Шэўц, 1319; Сной₁, 584; Борысь, 618.

**Смець** 'мець смеласць, права; адважвацца' (ТСБМ, Нас.), ст.-бел. *смети* 'адважыцца, асмеліцца' (Ст.-бел. лексікон). Параўн. укр. *сміти*, рус. *сметь*, польск. *śmieć*, в.-луж. *směć*, н.-луж. *směś*, чэш. *smíti*, славац. *smiet'*, серб.-харв. *смјȅти*, славен. *smẹ̑ti*, балг. *смéя*, макед. *смее*, ст.-слав. **съмѣти**. Прасл. **sъměti* лічыцца роднасным гоц. *mōþs* 'гнеў' ст.-в.-ням. *muot* 'дух, гнеў', грэч. μῶσθαι 'імкнуцца', лац. *mōs* 'воля, звычай', гл. Бернекер, 2, 47; Вальдэ–Гофман, 2, 114; Фасмер, 3, 687–688. Узвядзенне да і.-е. кораня **mē-* 'мераць', як гэта мяркуюць Бернекер (там жа), Ван-Вейк (ZfslPh, 13, 88), Шустар-Шэўц (1318), Фасмер (там жа) лічыць менш прымальным. Супраць Бязлай (3, 270–271), які выказвае нязгоду з вышэйпрыведзенымі індаеўрапейскімі паралелямі, таму што славянскі імперфектыўны дзеяслоў не мог утрымліваць прэфікс **sъ-*. Чоп (SR, 1954, 5–7, 233 і наст.) узводзіць слав. **sъměti* да і.-е. **sŭmē-*

з паралелямі ў літ. *sūmdau, sumdyti*, вал. *chwyfio* 'рухацца', ірл. *dosennaim* 'гнаць, паляваць' з развіццём семантыкі 'рухацца, імкнуцца' > 'смець, жадаць дасягнуць'. Гл. таксама ў Сной₁, 585; Глухак, 565 (у якасці паралеляў падаецца ст.-інд. *śamati* 'працуе', с.-ірл. *сита* 'туга' і інш.). Борысь (618) разглядае **sъmětі* як магчымы кампазіт з **sъ- < *sŭ-* 'добры, добра, вельмі' і не захаваным самастойна праславянскім дзеясловам **mětі*, < і.-е. **mē-/mo-* 'старацца, мець моцную волю', адкуль першаснае значэнне **sъmětі* было б 'вельмі старацца, імкнуцца да чаго-небудзь', 'мець адвагу, смеласць у імкненні да чаго-небудзь'.

**Сме́шкі** 'смех, жарты, жартачкі' (Нас., Гарэц., Касп., Шат., Ласт., Некр. і Байк., Янк. 2). Малаверагодна запазычанне з польскай мовы (на падставе націску), гл. Цвяткоў, Запіскі, 2, 1, 84. Параўн. *сме́шка* 'жарт, насмешка' (ТС, Сл. рэг. лекс.), серб.-харв. дыял. *сме́шка* 'тс', макед. *смешка* 'вясёлае апавяданне, анекдот' і інш.

**Сміґану́ць** 'пакурыць' (Жд. 2), *смы́гнуць* 'зрабіць зацяжку (пры курэнні)' (Яўс.). З польск. *śmignąć* 'хвоснуць, сцебануць, стрэльнуць', роднаснае *śmagać* 'сцябаць' < *smaga* (Брукнер, 533; 502), гл. *смага*. Нельга выключыць гукапераймальнае паходжанне (параўн. *цмыг!*, гл. *цмыгаць*), што з улікам лінгвагеаграфіі здаецца больш прымальным. Параўн. *смыжсыць* (гл.).

**Смідзін** *(смиди́н)* 'куст чырвоных ягад' (зах.-палес., Бел.-укр. ізал.). Паводле Дзендзялеўскага (там жа, 25), заходнепалескі рэгіяналізм. Няясна; магчыма звязана з укр. дыял. *смідь* 'мох', *смідова́тий* 'прарослы мохам', для якога ЕСУМ (5, 322) мяркуе пра сувязь з ст.-польск. *śmiady* 'цёмны, смуглы', гл. *смядзіць*.

**Смільга́**, *смілга́* 'метлюжок лугавы' (паст., астрав., Сл. ПЗБ), *сміл(ь)га* 'мятліца палявая, Agrostis L.' (мядз., смарг., Праблемы філал.). Непакупны (там жа; Связи, 186) выводзіць з літ. *smìlga* 'тс'. Як "гібрыдную фразему" разглядае Букявічутэ (Balto-słow. zw. jęz., 66) беларускае дыялектнае *як смы́глы* (пра худога, слабога чалавека), што адпавядае літ. *keip smilga*, дзе апошняе слова мае значэнне 'дрыжнік, Briza L.'.

**Смі́рны** 'ціхі, маўклівы, рахманы' (Некр. і Байк., Жд. 3), *смір (сміръ)* 'цішыня, спакой' (Нас.), *смірыцца* 'памірыцца' (мін., Сл. ПЗБ), *смі́рна* 'навыцяжку, не варушачыся і не размаўляючы (пра стойку пры камандзе)' (ТСБМ), 'сціпла, нясмела, скромна' (Бяльк.), *смірне́ць* 'станавіцца ціхім' (Нас.), Вытворныя ад *мір* 'цішыня, спакой' (Праабражэнскі, 2, 336; Махэк₂, 364). Аналагічныя дэрываты і ў іншых славянскіх мовах: рус. *сми́рный, сми́рно!*, укр. *сми́рный, смирни́ты*, чэш. *smírny, (u)smířiti*, серб.-харв. *сме̑ран* 'скромны, рахманы, мірны', балг. *сми́рен* 'уціхаміраны', *сми́ря* 'супакоіць, уціхамірыць' макед. *смирен* 'спакойны, ціхі, рахманы', *смири* 'супакоіць, прымірыць', ст.-слав. **съмѣрѥнъ (съмѣрьнъ)** 'уціхаміраны, пакорны, прыніжаны'. Дапускаецца змяшэнне вытворных ад **mirъ* і **měra* ў познепраславянскі перыяд (ЕСУМ, 5, 322).



**Смог** 'забруджанае дымам і пылам паветра ў выглядзе імглы' (ТСБМ). Запазычана ў XX ст. праз рус. *смог* 'тс' з англ. *smog* 'тс', дзе ўзнікла ў выніку кантамінацыі *smoke* 'дым' і *fog* 'імгла' (Глухак, 566; Сной₂, 674; ЕСУМ, 5.325).

**Смок₁** 'вясёлка, радуга' (Гарэц., Бяльк., Шатал.; ашм., Стан.; свісл., Сцяшк. Сл.; астрав., Сл. ПЗБ), *шмок (szmok)* 'вясёлка' (Арх. Федар.). Укр. *цмок*, польск. *smok powietrzny* 'тс'. Магчыма, аддзеяслоўнае ўтварэнне ад *смактаць* (гл.), з прычыны распаўсюджанага ў славян уяўлення, што вясёлка смокча ваду з мора, рэк і азёр для дажджу (Толстой, ОЛА, Исследов., 44–45). Аднак больш верагодна, што слова тоеснае са *смок₃, цмок* (гл.), і ў гэтым выпадку адлюстроўвае архаічную семантыку; параўн. заўвагу ў Іванава і Тапарова (Иссл., 146 і наст.) "об общеафриканских представлениях о змеях – поглотителях вод, чаще всего выступающих в виде радуги"; гэтыя ўяўленні шырока распаўсюджаны і ў іншых месцах свету (Мифы, 1, 469).

**Смок₂** 'помпа; жалезная вадасцёкавая труба; пажарная труба, шланг' (Нас., Гарэц., Байк. і Некр.), 'соска' (Сцяшк. Сл.). Укр. *смок*, польск. *smok* 'тс'. Да *смактаць*, параўн. Брукнер, 503; Праабражэнскі, 2, 336–337; ЕСУМ, 5, 325.

**Смок₃** 'змей, дракон' (Нас., Гарэц., Байк. і Некр.; кам. Жыв. НС), 'казачная істота, якая сваім дыханнем прыцягвае да сябе сваю ахвяру' (Варл.), 'міфічная істота' (Сцяшк. Сл.), ст.-бел. *смокъ: смокъ, яду напо(л)нены* (Рам., Выбр. тв., 79). Гл. *цмок*.

**Смо́калкі** 'зарніца звычайная, Linaria vulgaris Mill.' (КЭС). Няясна. Магчыма, ад **смокаць < смактаць*, таму што дзеці некалі смакталі салодкія кветкі гэтай расліны.

**Смо́ква** 'плод смакоўніцы; інжыр, вінная ягада', 'смакоўніца' (ТСБМ, Ласт.), *смо́квы* 'ірга, ягады іргі' (капыл., люб., Трухан,

вусн. паведамл.), ст.-бел. *смоква* ‘інжыр, вінная ягада’: *смоква созрѣла* (Альтбаўэр). Укр., рус. *смо́ква*, серб.-харв. *сѐква*, славен. *smókva*, балг. *смо́ква*, макед. *смоква*, ст.-слав. **смокы, смокъва**. У заходнеславянскіх мовах слова лічыцца запазычаннем з іншых славянскіх моў, параўн. Варш. сл., 6, 243; Махэк₂, 561; Шустар-Шэўц, 1321. Слова спрэчнага паходжання. Паводле традыцыйнага погляду, які ўзыходзіць да Капітара (гл. Машынскі, Этымология–1997–1999, 120; гл. таксама Фасмер, 3, 689), прасл. **smoky* запазычана з гоц. *smakka* ‘смоква, фіга’ або **smakko* ‘смачны плод’, менавіта з балкана-германскага; яно роднаснае нова-в.-ням. *schmecken* ‘прыходзіцца да смаку’, літ. *smaguriai* мн. л. ‘прысмакі’ або, як мяркуе Скок (3, 293–294), запазычана з даіндаеўрапейскай міжземнаморскай мовы. Па іншай версіі, гэта спрадвечнаславянскае слова, якое параўноўваюць з славац. *smokva* ‘чырвоная ягада’, *smokvica* ‘суніцы’, чэш. *smok* ‘сок раслін’, славен. *smȏk* ‘прыправа да хлеба’, ‘ялавічына’, серб. *смо́к* ‘прыправа; масла, сыр; ператопленыя сала і тлушч, якімі запраўляюць ежу’, балг. *смок* ‘пасоленае мяса’. Ілліч-Світыч (ЭИРЯ, 1962, 2, 73 і наст.) узнаўляе прасл. **smokъ* ‘сакавітае вільготнае рэчыва, галоўным чынам расліннага паходжання’ (гл. *смактаць*), пры гэтым гоцкае слова лічыцца запазычаннем з славянскіх моў або незалежным запазычаннем з трэцяй крыніцы, гл. Бязлай, 3, 272–273; Скок, 3, 294. Аналагічна Сной₁, 585; Рэйзак, 585; Шустар-Шэўц, 1321–1322. Агляд версій гл. Глухак, 566.

**Смо́лак** ‘жэрдка, якая кладзецца на кроквы ўверсе ўздоўж хаты’, ‘шасток (каля печы)’ (Сцяшк.; гродз., Нар. лекс.; Сл. ПЗБ). Польск. дыял. *smołak* ‘адна з дзвюх жэрдак, якія падкладваюцца пад саху для перавозкі замест колаў’. Гл. *сволак* ‘тс’, хутчэй за ўсё, другасна збліжанае з *смала*₁, гл. Варш. сл., 6, 244. Гл. таксама *асмолак*.

**Смо́лка** ‘лугавая травяністая расліна сямейства гваздзіковых з ружовымі кветкамі і клейкімі зверху сцябламі’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Касп., Бяльк.), ‘смалянка, Melandrium Roche’ (Нас., Байк. і Некр.), *смо́лка, смо́лда* ‘смалянка’ (Мат. Гом.), *смаля́нка, смаля́нька* ‘расліна смолка’ (Сл. ПЗБ). Да *смала*₁ (гл.) з-за клейкіх уласцівасцей расліны; аналагічна рус. *смо́лка, смо́льник*, польск. *smołka*, чэш. *smolnička*, якое, як заўважае Махэк (Jména, 78), калькуе польск. *smołka*.



**Смоль** ‘смала, смаліна’, ‘гарэлае, дым’ (ТСБМ, Ласт., Бяльк., Байк. і Некр.), ‘смольныя дровы’ (Касп.). Параўн. укр. *смоль* ‘нешта вельмі чорнае’ рус. *смоль* ‘смала’ славен. *smolje* ‘ядловец’. З чаргаваннем галосных гл. *смала, смаль*.

**Смо́льно** ‘строга’: *smolno prykazać* (Арх. Федар.), *смо́лно* ‘настойліва, пастаянна’: *аб том смолно жупіць, але ёй ніхто веры не дае* (Сержп. Прымхі). Да *смала, смоль* (гл.), першапачаткова, магчыма, ‘навязліва’, параўн. *смо́ллю (лезці)* ‘неадчэпна, настырна’ (Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл.).

**Смо́рад** ‘смурод, непрыемны пах’ (Байк. і Некр., Ласт., Гарэц., Растарг.), *смо́род* ‘тс’ (ТС, Рам. 6). Гл. *смурод*.

**Сморг** ‘летні час, гарачая пара’ (Нас.), ‘пільная праца’ (Бяльк.), *сморк* ‘гарачая летняя пара’ (Бяльк.). Няясна. Магчыма, да *смо́ргаць, смарга́ць* ‘тузаць, торгаць, шморгаць’, адсюль ‘тое, што непакоіць, прымушае спяшацца’. Параўн. таксама ст.-бел. *сморкъ (сморцъ)* ‘хмара, смерч’ (Ст.-бел. лексікон), якое збліжаецца з *морак* ‘змрок’ і далей з *марока* ‘клопаты, цяжар; нешта заблытанае’ (гл.), чэш. *smršť* ‘віхор’ і ўсх.-слав. *сморч* ‘дождж, віхура’. Апошняе Брукнер (503) параўноўвае з рус.-ц.-слав. *смркати* ‘уцягваць, усмоктваць’.

**Смо́ргаць** ‘шморгаць’ (ТСБМ, Нас., Бяльк.), ‘абрываць са сцябла галоўкі ільну’ (Сцяшк.), ‘рваць лён; часаць лён на грэбень; шморгаць носам’ (Жд. 2), ‘часаць лён’ (Шатал., Нар. сл.), ‘часаць лён на грэбень’ (Касп.), ‘цярабіць лён’, ‘рваць’, ‘шараваць’, ‘шморгаць (носам)’ (Сл. ПЗБ), *смо́ргацца* ‘прадзірацца ад носкі, трэння’ (Байк. і Некр.), *смарге́ль* – аддзеяслоўная часціца (Нас.), *смэ́ргацца* ‘смаркацца’ (Нар. словатв.). Няма падстаў разглядаць як балтызм, параўн. Лаўчутэ, Балтизмы, 72. Генетычна суадносіцца з укр. *шмо́ргати* ‘тузаць, торгаць’ рус. *сморка́ться* ‘ачышчаць нос’, польск. *smarkać* ‘тс’, чэш. *smrkati* ‘тс’, балг. *смъркам* ‘уцягваць паветра’ і інш., роднасным лат. *smur̃gât* ‘мазаць, пэцкаць’, літ. *smir̃gas* ‘смаркачы’ і пад. (Анікін, Опыт, 283). Гл. *шморгаць*. Сюды ж *смаржо́к* ‘вузел (на нітцы)’ (Сл. Брэс.).

**Сморж** ‘грыб Morchella’ (ТСБМ, Сярж.–Яшк.). Гл. *смаржок*.

**Смоўж** ‘слімак’ (ТСБМ, Нас., Шымк. Собр., Гарэц., Ласт., Шат., Бяльк., Касп., Сцяшк., Жыв. сл.; віл., в.-дзв., чэрв., баран., Сл. ПЗБ), *смуж* ‘тс’ (Бяльк., Шатал.), *смуг* ‘тс’ (Клім., Сл. Брэс.). Параўн. укр. *смовж, смовз, смо́вжик* ‘попаўзень, Sitta europea L.’,

старaж.-рус. *смолжь* ‘слімак’, польск. *małż* ‘малюск’, каш. *smałž* ‘слімак’, ст.-польск. *smołżowe* ‘шкарлупіны’, палаб. *tau̯z* ‘смоўж’, чэш. *mlž* ‘малюск’ (з польск. – Махэк$_2$, 370). Прасл. **(s)ml̥žь* з далейшымі няяснымі сувязямі. Сюды ж і балг. формы *ме́лчев, ме́лчов, ме́лчо* ‘смоўж’, якія БЕР (3, 729) узводзіць да і.-е. **(s)mel-* ‘слізкі’. Магчыма, звязана з *моўзаць* ‘кусаць без зубоў, мусоліць, слюнявіць’ (гл.). Гл. Фасмер, 3, 690; SEK, 4, 330; ЕСУМ, 5, 325.

**Смо́чка** ‘асака балотная, Carex acutiformis Ehrh.’ (Шат.), *смоч, смо́чка, сма́чаль* ‘расліна падвей’ (бярэз., Сл. ПЗБ), *смоч* ‘тс’ (пух., Жыв. сл.), *смыч, смы́чаль* ‘від асакі’ (Жыв. сл.), *смы́чка* ‘падвей’ (Жыв. сл.), *сму́чай* ‘тс’ (лельч., Жыв. сл.), *сму́чай* ‘ранняя асака на мокрых месцах’ (ТС). Цыхун (вусн. паведамл.) адносіць да *смыкаць* (гл.) (дзеці смыкаюць гэтыя расліны, каб дастаць салодкае карэнне). Тады першасная форма з *-ы-* ў корані, а *-о-*, відаць, пад уплывам *смактаць*. Варыянты з *-у-* каранёвым паходзяць з палескіх гаворак, дзе *ы* > *у*.

**Смуга́**, дыял. *сму́га́* ‘дымка, туман’ (ТСБМ; смарг., воран., Сл. ПЗБ), ‘ціна’, ‘нізкае месца; гразкае балота’ (віл., смарг., карэліц., гродз., іўеў., Сл. ПЗБ), ‘нанос пасля таяння снегу’ (віл., ашм., лаг., Сл. ПЗБ; Сцяшк. Сл.), ‘туман’; ‘копаць ад тытуню ў цыбуку’ (Шат.), ‘чорная плесня’ (Касп.), ‘самагон’ (Жд. 2), *сму́га* ‘імгла, туман; раса, шкодная збожжу’ (Байк. і Некр.), ‘паласа туману’ (стол., Нар. лекс.), ‘цёмная або светлая палоска на небе, пахмурнасць’ (ТС), ‘брудны налёт, паласа пены на вадзе’ (Жыв сл.), ‘рудая вада на балоце’ (ЛА, 2), ‘смутак’, ‘вяршкі’ (Мат. Гом.), ‘брудная паласа на адзенні, на целе’, ‘мокрая вузкая нізіна’ (ТС), ‘непраходнае балота’, ‘няўдобіца на балоце’ (палес., падрабязна гл. Талстой, Геогр., 192 і наст.), *смуг* ‘паласа’ (ТС), ‘стаячая вада, забруджаная тванню’ (Сцяшк.), ‘гразь на траве пасля раставання снегу’ (Шатал.), ‘вузкая палоска зямлі’ (слонім., З нар. сл.), ‘паласа сенажаці’ (Тур.), ‘багністая пратока’ (лельч., Нар. лекс.), *смужа́віна, смуга́віна* ‘палоска на небе; пахмурнасць’ (ТС), *сму́жнік* ‘зараслі маладога лесу’ (ТС), *смужня́к* ‘гразкае балота’ (люб., Сл. ПЗБ), ‘невялікі хваёвы лес, які расце астраўкамі на балоцістых месцах’ (ваўк., Сл. ПЗБ), *смужэ́* ‘багна, балота’ (Сцяшк. Сл.); ст.-бел. *смуга, смугъ* ‘вузкая і доўгая паласа зямлі; цясніна’ (Ст.-бел. лексікон), укр. *сму́га* ‘рыса; штрых; паласа’, рус. паўд. *сму́га* ‘пляма (напр., ад праса) у выглядзе паласы’, польск. *smug*,



*smuga* ‘паласа; паласа поля, луга’, дыял. ‘балота’, каш. *smug* ‘вузкі вільготны лужок’, ‘стаячая вада; невялікая сажалка’, в.-луж. *smuha* ‘паласа, лінія’, н.-луж. *smuga* ‘тс’, чэш. *šmouha* ‘брудная паласа’, дыял. *smuha* ‘сухая паша’, ‘тс’, славац. *smuha, šmuha* ‘прадаўгаватая пляма’, славен. *smúga* ‘лінія, паласа’, серб.-харв. *сму̑га* ‘від глебы; рачны нанос’, балг. дыял. *сму́га* ‘сцежка, след праз сенажаць або поле’. Прасл. **smuga/*smugъ* ‘паласа, штрых, лінія’, ‘цёмная паласа на светлым фоне’ (Борысь, Etymologie, 219) роднаснае лат. *smaugs* ‘тонкі, стройны’, літ. *sùsmauga* ‘звужэнне’, ст.-ісл. *smuga* ‘паглыбленне, пралаз’, с.-в.-ням. *sich smougen* ‘туліцца’; гл. Фасмер, 3, 693 з літ-рай. Махэк$_2$ (562) ставіць пытанне аб магчымым раздзяленні значэнняў ‘паласа, лінія’ і ‘чорная пляма, паласа, бруд’. Шустар-Шэўц (1324–1325) аб’ядноўвае гэтыя значэнні і адносіць да і.-е. базы **(s)meugh-* ‘курыць’, зыходным пунктам для спецыялізацыі значэнняў было б ‘паласа, лінія, пляма, якая ўзнікла пад уздзеяннем цяпла, сонечнага святла і г. д.’. Борысь (563) узводзіць таксама да і.-е. **(s)meug$^h$*, але без дэфініцыі першаснага значэння праславянскага слова. Тады сюды ж і *сму́глы* (гл.), рус. *сму́глый*, укр. *сму́глий*, якія Фасмер (там жа) следам за Покарным (971) аддзяляе ад **smuga*. Бярнар (Бълг. изсл., 341–342) узводзіць да кораня і.-е. **smeug-/*(s)meik-*, прадстаўленага ў ст.-слав. **смъкати сѧ**, што ад **мъкнѫти** ‘цягнуць, валачы’. Гл. таксама *шмыгаць*.

**Сму́глы**$_1$ ‘з больш цёмнай афарбоўкай (у параўнанні са звычайным колерам) скуры’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Касп., Сцяшк.; іўеў., Сл. ПЗБ), сюды ж *смуго́лы* ‘бляклa-чырвоны, ружаваты’, *смуго́ль* ‘загарэлы, зрудзелы на сонцы’ (Барад.). Укр. *смуглий*, рус. *сму́глый*, рус.-ц.-слав. *смугльныи* ‘цёмны’, серб.-харв. *смугао*. Лічыцца роднасным літ. *smáugti* ‘цiснуць, душыць’, с.-в.-ням. *smouch* ‘дым’, англ.-сакс. *sméocan* ‘дыміць’, англ. *to smoke* ‘дыміць, курыць’, грэч. δμύχω ‘вару; смажу на слабым агні’ і інш., гл. Фасмер, 3, 693 з іншай літ-рай. На падставе існавання формы *смяглы* (гл.) Брандт (РФВ, 24, 181) і інш. дапускалі чаргаванне галосных **smǫg-:*smęg-*, якія працягваюць і.-е. **(s)mūk(h)/(*s)meuk(h)-/(*s)meug(h)-* ‘дыміць, павольна спальваць; дым’; гл. ЕСУМ, 5, 330. Міклашыч (311), Праабражэнскі (2, 340) меркавалі таксама аб сувязі са *смага* (гл.), як у пары *хмура/ хмара*. У Огледна св. (69–70) выводзіцца з прасл. **smugъ*, акрамя серб. *смуг* ‘попельна-шэры’,

прадстаўленага і ў бел. *смуга* 'імгла, імжа', як варыянта да **smoglъ*, што паходзіць ад незахаванага **smognǫti*. Гл. таксама Рачава, Studia Etym. Brun., 3, 326.

**Сму́глы₂** 'гонкі (пра дрэва)' (брасл., Сл. ПЗБ). З польск. *smukły* 'высокі і шчуплы; тонкі, стройны', якое ад ст.-польск. *smuknąć* 'пагладзіць, дакрануцца'; гл. Борысь, 564.

**Смугу́н** 'дыван, тканы ў палосы' (Сл. Брэс.; малар., Сакал.). Да *смуга* (гл.).

**Смужня́к** 'грузкае балота', 'невысокі хваёвы лес, што расце на балоцістым месцы' (ваўк., люб., Сл. ПЗБ), *смыжняк* 'зараслі, парасля' (Арх. Федар.), *сму́жнік* 'зараслі маладога лесу' (ТС), *смыжнік* 'гушчар' (ЖНС), *смызнік* 'хмызняк' (Скарбы). Няясна. Відаць, роднаснае *хмызня́к* (гл.). Адносна паралелізму пачатковага **sm-/*xm-* гл. Борысь, Etymologie, 586. Узыходзіць да прасл. **smyzъ*, гл. *смыза*.

**Сму́ніць** 'пацерці звітую вяроўку, каб зрабіць яе больш мяккай', 'трапаць абутак, адзежу; зношваць збрую' (Нік. Очерки), *сьму́ніць* 'церці, выціраць', сюды ж *асму́ніць* 'абсмыгаць, абцерці, абтрапаць' (Ласт.). Параўн. рус.-ц.-слав. *присмѧнѫти* 'прывянуць', *присмѧдитисѧ* 'прыгарэць'. Вытворнае ад прасл. дыял. **smǫditi* 'паліць, капціць, вэндзіць', якое лічыцца фанетычным варыянтам **svǫditi* 'тс', суадноснага з *svęděti* 'быць высушаным, знаходзіцца ў гарачыні', што ўзыходзіць да і.-е. **(s)uendh-* 'памяншацца, убываць, вянуць' Змена *sv* > *sm* пад уплывам слоў тыпу *смала, смага* (гл.). Параўн. укр. дыял. *сму́дитися* 'смажыцца, пражыцца', польск. *smądzić* 'вэндзіць', *swędzić* 'свярбець', *smędzić się* 'ледзве гарэць', в.-луж. *smudźić* 'смаліць', н.-луж. *smuźiś* 'абпальваць, смаліць', чэш. *smouditi* 'паліць, капціць', славац. *smudit'* 'чадзіць, капціць', серб.-харв. *сму́дити* 'смаліць; абпальваць', славен. *smoditi* 'паліць, прыпальваць', балг. *смъдя* 'свярбець', макед. *смади* 'абпальваць', роднасныя ст.-англ. *swindan* 'знікаць, прападаць', ням. *schwinden* 'тс'. Гл. Глухак, 567; SEK, 4, 330; Бярнар, Бълг. изсл., 265–266; Шустар-Шэўц, 1324; ЕСУМ, 5, 330–331. Параўн. *смурыжсыць* (гл.).

**Смурглі́** 'соплі' (гродз., Сл. ПЗБ), *смэ́рглі* 'тс' (Сцяшк. Сл.), *смэ́ргі* 'тс' (дзятл., Сл. ПЗБ); сюды ж *смэргу́ль* 'смаркаты чалавек' (Жд. 2), *смэ́ргля* 'тс' (Скарбы), *смэ́ргель, смэ́ргля* 'сапляк, недаростак' (Скарбы), *смаргу́ль* 'вельмі скупы чалавек' (в.-дзв., Шатал.). Выводзяць з літ. *smùrgliai* 'тс' (Сл. ПЗБ, 4, 507), што можна аднесці толькі да часткі форм. Хутчэй экспрэсіўная дэфармацыя дэрыватаў ад *сморгаць* (гл.).



**Смуро́д** 'непрыемны, агідны пах' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Ласт., Касп., Бяльк., Шат., Байк. і Некр., Сержп. Прымхі, Сл. ПЗБ), *смо́рад* 'тс' (Нас., Бяльк., Ласт., Байк. і Некр.), сюды ж *смуро́д, смаро́д* 'чорныя парэчкі' (ТС), *смуро́да* 'тс' (Бяльк.), *смуро́ды* 'тс' (Касп., Нік. Очерки). Укр. *смо́рід*, рус. *смо́род*, стараж.-рус. *смородъ*, польск. *smród*, в.-луж. *smród*, н.-луж. *smrod* 'смурод; кал; чаромха', чэш., славац. *smrad*, серб.-харв. *сра̏д*, славен. *smrȃd*, балг. *смра̀д*, макед. *смрдеа*, ст.-слав. **смрадъ**. Прасл. **smordъ* (іншая ступень чаргавання ў *смярдзець*, гл.) дакладна адпавядае літ. *smárdas* 'смурод, агідны пах', лат. *smar̂ds* 'пах', *smarda* 'пах; апетыт; жаданне', гоц. *smarna* 'кал', грэч. μορύσσω 'рабіць чорным, пакрываць сажай, копаццю'; гл. Фасмер, 3, 691–692; Махэк₂, 561–562. Галосны *-у-* ў першым складзе тлумачыцца ўплывам кораня *смур-/хмур-* (параўн. рус. *пасмурный* 'пахмурны'), а таксама польск. *smród*. Фанетычная змена *о* > *у*, што сустракаецца ў некаторых дыялектах, не можа вытлумачыць такі пераход, бо ў час такой змены корань павінен быў гучаць як **smaród-* (Векслер, Гіст., 115). Сной₂ (563) разглядае **smordъ* як дэвербатыў ад прасл. **smorditi* (параўн. польск. *smrodzić*), каузатыўнага дзеяслова ад прасл. **smŕděti* 'смярдзець' (гл.).

**Смуры́жыць** 'вадзіць па чым-небудзь; пацірaць, церці' (ТСБМ, Нік. Очерки, Бяльк.), 'шаркаць нагамі пры хадзьбе' (Сцяшк. Сл.), 'змякчаць вяроўку трэннем' (Юрч.), *смура́жыць* 'тс' (Бяльк.). Гл. *мурыжсыць*, няяснага паходжання; магчыма, да *муругі* 'рыжы (гл.), параўн. балг. *му́ргав* 'смуглы', рус. *сму́рый* 'цёмна-шэры' што можа быць звязана з *смуніць* (гл.). Фасмер (3, 693) рус. *смурыгать* 'церці, часаць' следам за Праабражэнскім (2, 338) разглядае як ітэратыў да *сморгать* (гл. *сморгаць*).

**Сму́та** 'мяцеж, паўстанне, беспарадак', 'душэўнае замяшанне, трывога, хваляванне' (ТСБМ, Нас., Бяльк.), 'смутак, сум' (Нас., Шымк. Собр., Бяльк.), *смут* 'тс' (Бяльк.). Укр. *сму́та* 'сум, журба; закалот, рокаш, хваляванне', рус. *сму́та* 'мяцеж, сумятня, разруха; замяшанне, хваляванне', стараж.-рус. *съмуть* 'сарамлівасць, хваляванне', славац. *smut, smuta* 'сум, журба', серб.-харв. *сму̏та*

‘завіруха’, балг. *смут* ‘бунт, беспарадкі; сумятня’, макед. *смут* ‘бунт, беспарадкі; сумятня, разгубленасць’. Прасл. **sъmǫta* < **sъmǫtiti*, параўн. ст.-слав. **съмѫтити** ‘усхваляваць, узбурыць, збянтэжыць’. Да *муціць*, гл. (Фасмер, 3, 694; ЕСУМ, 5, 331).

**Сму́так** ‘пачуццё суму, маркоты, жалю’ (ТСБМ, Нас., Гарэц., Касп., Ласт., Байк. і Некр., ашм., Стан.), ‘цяжкі час, цяжкі стан, цяжкія абставіны’ (Растарг.), ‘нуда, сум, цяжкія думкі’ (Варл.), *сму́ток* ‘тс’ (ТС), *сму́тны* ‘сумны, невясёлы’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Нас., Касп., Шат., ТС, Сл. ПЗБ), *смуткава́ць* ‘сумаваць, маркоціцца’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Нас., Гарэц., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *смуток* ‘сум, маркота’ (Альтбаўэр), *смутныи* ‘сумны, невясёлы’ (XVII ст., Карскі, 2–3, 446). Укр. *сму́ток* ‘смутак’, *сму́тний* ‘смутны’, рус. *сму́тный* ‘няяркі, невыразны’, польск. *smutek, smętek, smutny*, чэш. *smutek, smutný*, славац. *smútok, smutny*, балг. *смътен* ‘невыразны, няясны’, макед. *сматен* ‘тс’, ст.-слав. **съмѫтьнъ** ‘устрывожаны, збянтэжаны’. Прасл. **smotъkъ*, **sъmotьnъ* ад **sъmotiti* (гл. *смута*). Мяркуецца, што **sъmotek* раней уяўляўся як бажаство, якое ўвасабляла ‘смутак, маркоту’, параўн. каш. *smątk* ‘д’ябал’, укр. гуц. *смуч* ‘чорт’ (Н. Хобзей, Гуцульска міфологія, 2002, 167), і *сму́ток* ‘чорт’ (КСТ), параўн. *a smútki jehó wiedajuć* (Федар. 4). Гл. Цыхун, Бел.-польск. ізал., 148; SEK, 4, 324. Борысь (SEK, 4, 325) і Брукнер (329) лічаць міфалагічнае значэнне другасным.

**Смутуя́сіць** ‘пляткарыць’ (Касп.). Не вельмі яснае ізаляванае слова. Відаць, складанае; першая частка да *смута, муціць* (гл.), другая частка, магчыма, да асновы *яс-*, якая ў польск. дыял. *jasać* ‘крычаць, вішчаць’, чэш. *jasati* ‘радавацца, весяліцца’, укр. *ясá* ‘погаласка, шум’.

**Сму́чай** ‘ранняя асака на мокрых месцах’ (ТС), *смыч, смоч, смыча́ль* ‘тс’ (Жыв. сл.), *смы́чка, смы́чаўка, смы́каўка* ‘ядджаль, асака светла-зялёнага колеру, якая пачынае расці ранняй вясной’ (ЛА, 1, Расл. св.), *смыча́ль* ‘тс’ (Жыв. сл. ЛА, 1), *смуча́й* ‘травяністая расліна, падвей’ (ПСл). Параўн. укр. *смича́й, смуча́й* ‘падвей, Eriophorum vaginatum L.’, *смича́ль* ‘азёрная расліна’, харв. дыял. *smȗcal* ‘нейкая трава’. Відаць, да *смыкаць, смукаць* ‘тузаць, цягаць, вырываць’ (гл.), параўн. *му смучай сму́каем на шчоткі* (ПСл). Паводле ЕСУМ (5, 321), матывацыя тлумачыцца лёгкасцю аддзялення лістоў ад кораня.



**Смучыні́на** ‘барана з зубамі з сукоў’ (Касп.). Дэрыват з суф. *-ін(а)* ад ⁺*смычаны*, залежн. дзеепр. прош. ч. дзеяслова *смыкаць* (гл.).

**Сму́шак** ‘шкурка, знятая з нованароджанага ягняці, а таксама футра са шкурак такога ягняці’ (ТСБМ, Сержп.), ‘душагрэйка з аўчыны’ (Нар. сл.). Параўн. укр. *смух, сму́шок* ‘выробленая аўчына’, рус. дыял. *смух, сму́шек* ‘тс’, польск. *smuch, smusz, smuszek*, в.-луж. *smóška* ‘тс’. Паводле Брукнера (504), з нов.-в.-ням. *Schmasche* ‘скура ягняці’, с.-в.-ням. *smaschîn* (XIV ст.), *smasse* (XV ст.); аднак паходжанне нямецкага слова таксама няяснае. Гл. яшчэ Праабражэнскі, 2, 341, Фасмер, 3, 694 (ва ўсходнеславянскіх з польскай) ЕСУМ, 5, 332.

**Смы́жыць** ‘цягнуць; цягацца па свеце, мыкацца’ (Ласт.), ‘гатаваць ежу’ (Жд. 3), ‘курыць’ (Яўс.). Калі прыняць за зыходнае значэнне ‘курыць’, то, хутчэй за ўсё, суадносіцца з прасл. **smyzъ* (гл. наступнае слова), што працягвае і.-е. **smū-g'-/*smeu-g'* ‘туман, дым’ (гл. ЭССЯ, 8, 46). Нельга выключыць таксама ўплыў гукапераймальных слоў тыпу *цмыг, цмыгаць* (гл.).

**Смыза́** ‘імжа’ (ашм., Сл. ПЗБ), ‘мноства, цьма машкары’ (ашм., ЛА, 5). Параўн. укр. *смиз* ‘увярэднік, Pedicularis L.’, што дазваляе суаднесці з *хмыз (хміз)* ‘сухія сцяблі хмелю’, *хмыза́ (хмуза́)* ‘гушчар, хмызняк’ (ТС), якія ўзводзяцца да **smyzъ* < і.-е. **smū-g'/*smeu-g'*, параўн. ням. *Schmauch* ‘густы дым’, англ. *smoke* ‘дым’. Пра суадноснасць значэнняў ‘дым, туман’ – ‘зараслі’ гл. ЭССЯ, 8, 46. Значэнне ‘машкара’ развілося, магчыма, пад уплывам **gъmyzъ*, параўн. *гмыз* ‘насякомыя’ (Ласт.), падрабязней пра яго гл. Пацюпа, Arche, 2007, 3, 207–208.

**Смык**₁ ‘прыстасаванне для ігры на струнных інструментах’, старое ‘прымітыўная барана’ (ТСБМ, Касп., Шымк. Собр., Сл. ПЗБ, ТС, Пятк. 2, Бяльк., Байк. і Некр.), ‘калодзежны журавель’ (івян., стаўб., глус., ДАБМ, камент., 810; Янк. 2, Сл. рэг. лекс.), *смыч* ‘тс’ (шчуч., Нар. сл.), ‘пугаўё’ (шальч., Сл. ПЗБ), ‘дэталь (дужка) у прымітыўным такарным станку’, ‘прылада для лоўлі бадзяжных сабак’ (Скарбы), *смычо́к* ‘смык (у музычных інструментах)’ (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Сл. ПЗБ), ‘прылада для трапання шэрсці’ (ТСБМ). Укр. *смик* ‘смык; вага калодзежнага жураўля’ рус. зах., паўн. *смык* ‘смык; від бараны’, *смычо́к* ‘смык (муз.)’, стараж.-рус. *смыкъ* ‘струнны музычны інструмент’, *смычькъ* ‘музыкант, які грае на *смыкѣ*’, польск. *smyk* ‘смык (муз.); від са-

ней', *smyczek* 'смык', н.-луж., в.-луж. *smyk* 'смык (муз.)', чэш. *smyk* 'валакуша, лесаспуск', *стyčec* 'смык (муз.)', славац. *smyk* 'валакуша'. Прасл. **smykъ* і **smyčьkъ*; паводле Борыся (564), позняя праславянская інавацыя ад прасл. **smykati* (гл. *смыкаць*). Гл. таксама Праабражэнскі, 2, 341; Фасмер, 3, 695; Махэк$_2$, 384–385; ЕСУМ, 5, 320; Трубачоў, Ремесл. терм., 128 (рэканструюе зыходнае **sъmъkъ*).

**Смык$_2$** 'перашыек' (слаўг., Яшк.), *смы́чка* 'невялікае паселішча паміж дзвюма вёскамі' (ушац., Нар. лекс.). Параўн. укр. *смик* 'павадок для паляўнічых сабак', рус. *смык* 'стык', польск. *smyk*, *smycz* 'павадок', чэш. *smyčka* 'пятля'. Дэрываты ад прасл. **sъmykati* 'замыкаць, злучаць' (Борысь, 564; ЕСУМ, 5, 320–321).

**Смы́каць** 'выскубваць, шчыпаць, тузаць' (ТСБМ, Шымк. Собр., Гарэц., Байк. і Некр., Ласт., Сержп. Прымхі, Сл. ПЗБ, ТС), 'часаць' (Уладз.). Параўн. укр. *сми́кати* 'тс', рус. дыял. *смы́кать* 'тузаць, праць, церці', польск. *smykać* 'тузаць, зрываць', чэш. *smýkati* 'цягнуць, валачыць', славац. *smýkat'* 'тс', в.-луж. *smykać* 'слізгаць', н.-луж. *śmykaś* 'соўгаць, тачыць', серб.-харв. *сму́цати* 'сцягваць, зрываць'. Прасл. **smykati*, роднаснае літ. *šmùkti* 'спаўзаць, спадаць', лат. *šmukt* 'уцякаць, саслізгваць' < і.-е. **(s)meuk-/*(s)meug-* (Фасмер, 3, 694–695; Шустар-Шэўц, 1325–1326; SEK, 4, 325–326). Гл. таксама формы без рухомага *s-* пад *мыкаць$_2$*.

**Смы́кса** 'пахатуха (хто ходзіць па хатах)' (бяроз., ЖНС; брэсц., З нар. сл.), *смэ́кса* 'тс' (кобр., ЛА, 3). Да *смыкаць* (гл.).

**Смыле́ць** 'балець, пячы, гарэць' (ТСБМ, Ласт., Бяльк., Юрч. Сін.), 'прыпальвацца' (Нас., Касп.), 'абсмальвацца (пра валасы, шэрсць)' (Нас., Касп.; ашм., Стан.), сюды ж, відаць, *смыле́ць* 'бегчы, ляцець' (ТС), *смыля́ць* 'кідаць, шпурляць; біць, лупцаваць' (Юрч.), *смыль* 'пах гарэлага' (Нас.). Звязана чаргаваннем з *смаліць* (гл.).

**Смылікí** 'гарэлкі (гульня)' (Касп.). Да *смылець* (гл.), аналагічна *гарэлкі* < *гарэць* (гл.).

**Смысл** 'розум' (Нас.), *смы́сліць* 'разумець, цяміць' (Нас.), *змысл* 'сэнс' (Байк. і Некр.), *смы́сел* 'сэнс, значэнне; розум', *смы́сьліць* 'разумець, цяміць' (Некр. і Байк.), *змысьля́ць* 'здумляць' (Ласт.). Параўн. укр. *смисл* 'сэнс, разуменне, сутнасць, карысць', 'сэнс, розум', рус. *смысл*, *смы́слить* 'разумець', польск. *smysł*, *zmysł* 'адчуванне, розум, сэнс', н.-луж., в.-луж. *zmysł* 'тс',



чэш. *smysl* 'тс', славац. *zmysel* 'сэнс, розум, адчуванне, разуменне', серб.-харв. *сми̑сао* 'сэнс, значэнне, схільнасць', славен. *smísel* 'сэнс', балг. *сми́съл* 'сэнс, мэта, змест, карысць', ст.-слав. **съмыслъ** 'думка, намер, погляд'. Поствербальнае ўтварэнне ад **sъmysliti* < *mysliti* (гл. *мысль*) (Махэк$_2$, 385). Гл. яшчэ Сной$_1$, 585.

**Смы́чаны** толькі мн. л. 'атрэп'е' (карэліц., Шатал.). Да *смык*, *смыкаць* (гл.).

**Смычо́к**. Гл. *смык$_1$*.

**Смя́га** 'сухасць на губах', 'смага' (Нас., Касп.), 'млявасць, млосць' (Ласт.), *смя́гнуць* 'запякацца, засыхаць ад гарачыні' (ТСБМ, Байк. і Некр., Нас., Касп.), 'смажыцца ў зачыненым посудзе' (Касп.), 'вянуць' (Гарэц.), 'пячыся на сонцы, адчуваць прагу да вады, быць мляўкім' (Варл.), *смя́глы* 'засохлы ад гарачыні' (ТСБМ, Байк. і Некр., Сл. ПЗБ), *смя́гці*, *смя́хці* 'сохнуць (па кім-небудзь)' (віл., Сл. ПЗБ). Рус. дыял. *смя́гнуть*, *пересмя́гнуть* 'перасохнуть (аб губах), патрэскацца': *смя́га во рту*, стараж.-рус. *прѣсмѧгнути* 'высахнуць, запячыся', чэш. *osmahlý* 'загарэлы', славац. *zusmehlý*, славен. *prismegniti* 'пасохнуць (пра расліны)'. У рускай таксама формы з *-к-*: *пересмя́клый*, *пересмякло во рту*. Зыходнае **smęgnǫti* – вынік назалізацыі каранёвага галоснага, прадстаўленага ў **smog-*, гл. *смаголь* (Куркіна, Диал. структура, 73). Паводле Махэка (гл. Фасмер, 3, 695), гэта экспрэсіўная палаталізацыя зыходнага *смага* (гл.) або яго кантамінацыя з **mekъkъ* (гл. *мяккі*).

**Смя́глы**. Гл. *смаглы*.

**Смя́дзіць** *(сьмя́дзіць)* 'чадзіць, дыміць' (Бяльк.), 'рабіць смуглым' (Стан.), сюды ж *смя́ды (сьмя́ды)* 'чарнявы, смуглы' (там жа), *засмя́дзіць* 'абпаліць' (Бяльк.), ст.-бел. *смѣдыи*, *смедыи* 'пачарнелы, смуглы': *смеда есмъ, понеже ожьгло мѧ солнъце* (Скарына; Карскі, 2–3, 476), *смядость* 'чарната, смугласць' (Ст.-бел. лексікон), *смѧдъ* 'пачарнелы, смуглы' (Альтбаўэр), *Смядынь* – рака ў Смаленскай вобл. (Ст.-бел. лексікон). Параўн. укр. дыял. *смя́діти* 'плеснявець, пакрывацца сліззю', *сни́діти* 'выцвітаць; рабіцца брудным, іржавым', рус. *Смедва*, *Смедовка* – назвы рэк у Тульскай і Разанскай губ., польск. *śniedzieć* 'пакрывацца вокіслам медзі', старое *śmiady* 'смуглы', чэш. *snědý* 'смуглы', старое *smědý* 'цёмна-карычневы', славац. *snedý* 'тс', славен. *smę̑d* 'тс', серб.-харв. *сме̏ђ* 'карычневы, кары; смуглы, гнеды'. Прасл.

**smĕditi*, **smĕdъ(jь)*, роднаснае гоц. *bi-smeiten* 'запляміць, пэцкаць', ст.-в.-ням. *smīzan* 'фарбаваць, мазаць; біць, удараць' англ.-сакс. *smittian* 'запляміць, запэцкаць', *smitte* 'пляма' < і.-е. **smeid-*, гл. Покарны, 966. Зблізкаюць таксама з **mĕdь* (Брукнер, 633; Бернекер, 2, 46), з літ. *smėlus* 'светла-шэры', *pasmėlęs* 'карычняваты', літ. *smélti* 'цямніць, брудзіць, бляднець' < і.-е. **smel-* 'тлець, жэўраць', ад якога і **smaliti*, гл. *смаліць* (Махэк$_2$, 662). Гл. Фасмер, 3, 684; Бязлай, 3, 269; Глухак, 565; ЕСУМ, 5, 339.

**Смярдзе́ць** 'вылучаць смурод, дрэнна пахнуць' (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Сл. ПЗБ), *смердзе́ць* 'тс' (ТС). Параўн. укр. *смерді́ти*, рус. *смерде́ть*, стараж.-рус. *смьрдѣти*, польск. *śmierdzieć*, в.-луж. *smjerdźić*, н.-луж. *smerźiś*, чэш. *smrděti*, славац. *smrdiet'*, серб.-харв. *смрдјети*, славен. *smrdẹti*, балг. *смърдя*, макед. *смрди*, ст.-слав. **смрьдѣти**. Прасл. **smьrděti* дакладна адпавядае літ. *smirdė́ti*, лат. *smir̃dēt* 'смярдзець', лац. *merda* 'кал, нечыстоты' ад і.-е. **smerd-* 'смярдзець', гл. Траўтман, 271; Мюленбах–Эндзелін, 3, 965; Махэк$_2$, 561; Фасмер, 3, 685; Шустар-Шэўц, 1321; Сной$_1$, 586; ЕСУМ, 5, 317. Параўн. *смерд*, *смурод*.

**Смярто́льнік** 'начны матыль' (Сцяшк. Сл.). Гл. *смерць$_2$*.

**Смярто́льны** 'смяротны, смертны' (ТСБМ, Нас.), 'невыносны (пра боль)' (Сл. ПЗБ), сюды ж *смярто́льнічкі* 'абутак для нябожчыка' (там жа), *смерце́льно* 'смяротна', *смярто́льнік* 'начны матыль' (Сцяшк. Сл.), 'незапамінайка' (Жд. 2), ст.-бел. *смертелный (смертельный)* 'смяротны'. Запазычана з ст.-польск. *śmiertelny* 'тс', што ў сваю чаргу з ст.-чэш. *smrte(d)lný* 'тс', якое тлумачыла лац. *mortalis* 'тс' (Цвяткоў, Запіскі, 2, 1, 57; Булыка, Лекс. запазыч., 196; Басай–Сяткоўскі, Słownik, 381). З той жа крыніцы, відаць, праз старабеларускую, рус. *смерте́льный* 'тс' (Віткоўскі, Słownik, 175; Фасмер, 3, 685). Народнае *смяро́тны* 'смяртэльны, смертаносны' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Ласт., Касп., Шат., Байк. і Некр., Бяльк., Растарг.) утворана ад **смерота*, параўн. экспрэсіўнае (табуізаванае?) *смяро́тка* 'смертухна' (Ласт., Некр. і Байк.), што да *смерць* (гл.). Непасрэдныя ўтварэнні ад апошняга *смярце́нны* 'смяротны' (Ян.), *сме́ртны* 'тс' (ТСБМ), ст.-бел. *смертныи (смер'тныи)* 'тс' (Альтбаўэр).

**Смя́так** 'згушчэнне чаго-небудзь вадкага; вільгаць толькі-што зрубленага дрэва' (Нас.), *смя́тка* 'недаваpаная частка яйца' (Сцяц.). Рус. *смя́тка* 'вадкі, некруты стан (аб яйку)'. Ад *месці* (гл.); Праабражэнскі, 2, 343; Фасмер 3, 695.



**Смята́на** 'густы і тоўсты верхні слой скевашанага малака' (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Гарэц., Касп., Бяльк.; ашм., Стан.; Сл. ПЗБ), 'вяршкі' (Гарэц.; ашм., Стан.), 'страва з цёртага канаплянага семя' (ЛА, 1, 4; Сл. ПЗБ, ТС), *смята́нка* 'вяршкі' (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Сл. ПЗБ). Параўн. укр. рус. *смета́на*, польск. *śmietana*, ст.-польск. *śmiotana*, дыял. *smiętana*, каш. *sḿotana*, в.-луж. *smjetana*, н.-луж. *sḿetana* 'расліна Ulmaria pentapetala', *zmjatana* 'вяршкі', чэш., славац. *smetana* 'вяршкі', серб.-харв. *сметана*, славен. *smẹtanéa*, харв. дыял. *smȅtana*, балг. *смета́на*. Прасл. **sъmetana* выводзяць ад форм, роднасных прасл. **metati* (гл. *мята́ць$_1$*), **sъmetati*, г. зн. 'знімаць, скідваць', параўн. макед. *сметина* 'тс'. Насавы *ę* ў польск. дыял. *smiętana* тлумачаць другаснай назалізацыяй, як у *między* 'паміж'. Але паколькі існуе рум. *smîntînă* 'смятана', *smîntîresc* 'знімаць вяршкі', якія выводзяцца з славянскіх форм, можа быць узноўлена прасл. **sъmętana*, што зблізкаецца з ст.-слав. **масти, матж** 'мяшаць'; гл. Міклашыч, 189; Бернекер, 2, 44; Траўтман, 181–182. Далей мяркуюць, што вельмі рана *ę* і *n* у гэтым слове дысіміляваліся, што дало прасл. **sъmetana*. Гл. Фасмер, 3, 686–687; Брукнер, 533; Махэк$_2$, 560; Сной$_1$, 584–585; Шустар-Шэўц, 1321; Борысь, 618; ЕСУМ, 5, 320. Паводле Развадоўскага (Wybór, 1, 289–291), абедзве формы слова паралельныя, пры гэтым форма з насавым лічыцца дыялектнай (гл. Слаўскі, SP, 1, 132; Новое в рус. этим., 212).

**Смята́нік** 'дзядкі аптэчныя, Agrimonia eupatoria L.' (Касп., Кіс. маг.). Укр. *смета́нник* 'тс', польск. дыял. *śmietannik* 'тс', таксама і інш. расліны: Trifolium montanum, Lilium martagon, н.-луж. *snietana* 'вятроўнік вязалісты, Filipendula ulmaria Maxim.'. Праабражэнскі (2, 335) утварае ад *sъmetana* (гл.), гл. таксама Гаўлава (Studia Etym. Brun., 3, 99), якая сцвярджае, што мар. *smetaník* 'таемнік, Lathrae squamaria L.' даваўся каровам пасля піцця, каб яны давалі тлустае малако. ЕСУМ (5, 320) тлумачыць выкарыстаннем расліны для выпарвання збанкоў для малака.

**Смята́нка** памянш. 'смятана', 'верхні густы і тоўсты слой малака, вяршкі' (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Сл. ПЗБ). Да *смятана* (гл.); у другім значэнні паланізм, параўн. польск. *śmietanka* 'вяршкі'.

**Смята́нне** ‘вылет пчалінай маткі (на аблёт)’ (Мат. Гом.). Параўн. рус. *смётываться, сметáться* ‘аб роі, які толькі што адраіўся; пасля выхаду з вулля асесці кучкай’ (Даль, без лакалізацыі) < *метать(ся)* ‘кідаць(ца)’. Беларускае, відаць, з рускай, улічваючы адзінкавасць фіксацыі і лінгвагеаграфію.

**Смяце́й** ‘спарыння’ (Сцяшк., Нар. словатв.), ‘галаўня (хвароба раслін)’ (Сл. ПЗБ), *смяце́нь (сметэ́нь)* ‘тс’ (Шатал.). Гл. *сняцей*.

**Смяцю́х** ‘від жаваранкаў, якія не адлятаюць у вырай’ (Скарбы), ‘шэрая сініца’ (Сцяшк. Сл.), *сьмэтю́шка* ‘жаваранак чубаты, Galerida cristata L.’ (стол., Нікан.), укр. *сміт́юх* ‘тс’. Да *смецце* (гл.), бо птушкі ўзімку збіраюцца каля сметнікаў. Гл. *сметнік₂*.

**Смяя́цца** ‘праяўляць весялосць, радасць смехам’, ‘насміхацца’ (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк., Сл. ПЗБ), *смія́цца* ‘тс’ (Бяльк.), ‘жартаваць’ (Стан.), *смея́цца* ‘тс’, ‘усміхацца’ (ТС), ст.-бел. *смѣатисѧ* (Альтбаўэр). Укр. *смія́тися*, рус. *смея́ться*, стараж.-рус. *смияти ся*, польск. *śmiać się*, в.-луж. *smjeć so*, н.-луж. *smjaś se*, чэш. *smáti se*, славац. *smiat’ sa*, серб.-харв. *смѐjати се, смѝјати се*, славен. *smẹ́jati se*, макед. *смее се*, балг. *сме́я се*, ст.-слав. **смиѩти сѧ**. Прасл. **smьjati sę* роднаснае лат. *smiêt, smeju, smêju* ‘смяяцца, жартаваць, узнімаць на смех’, ст.-інд. *smáyatē* ‘смяяцца’, англ. *smile* ‘смяяцца’, лац. *mīrus* ‘цудоўны’; гл. Покарны, 967; Фасмер, 3, 688; Мюленбах–Эндзелін, 3, 968; Майргофер, 3, 548; Махэк₂, 559; Шустар-Шэўц, 1319. Да і.-е. кораня **smei̯-* ‘смяяцца’ (Сной₁, 584; Борысь, 617; Варбат, Этимология–1965, 117; Мельнічук, Этимология–1984, 142; ЕСУМ, 5, 324) або **(s)mei-* ‘тс’ (Глухак, 565).

**-снабі́ць**, параўн. *сыснабіць* (**саснабіць*) ‘заспакоіць, супакоіць’ (Бяльк.). Магчыма, роднаснае ст-слав. **сънабъдѣти** ‘захаваць, зберагчы, выратаваць’, адкуль рус. *снабди́ть* ‘забяспечыць’, чэш. *snábdĕti* ‘назіраць, сузіраць, забяспечваць’, серб.-харв. *снабдети* ‘забяспечыць’, ц.-слав. *набъдети* ‘ахоўваць’, прыставачнага ўтварэння ад *бъдъти*, што да прасл. **bъděti* ‘быць бадзёрым, клапаціцца’, гл. Фасмер, 3, 696; Трубачоў, Этимология–1972, 28; Глухак, 568.

**Снава́дла** ‘прылада для снавання красён’, ‘станок для снавання красён’ (в.-дзв., ігн., Сл. ПЗБ), *снаві́дла* ‘тс’ (паст., вільн., Сл. ПЗБ). З польск. *snowadło*, аб чым сведчыць суф. *-dło*; польскае слова ўзыходзіць да прасл. **snowadło* < **snovati* ‘снаваць’.



**Снава́ць** ‘рабіць аснову тканіны’ (ТСБМ, Гарэц., Шат., Байк. і Некр., Касп.; ашм. Стан.; Нар. сл., Жыв. сл., Сл. ПЗБ, ЛА, 1), *снова́ць* ‘тс’ (ТС, Уладз.), *снува́ць* ‘тс’ (Нас., Бяльк., в.-дзв., Сл. ПЗБ), *снава́ць* ‘рухацца ў розных кірунках, туды і сюды’ (ТСБМ), ‘хадзіць без работы’ (Жд. 3), *снава́цца* ‘снавацца; ледзь рухацца’ (Касп., Пятк. 2), ‘хадзіць без работы, справы’ (Жд. 3, Шатал., Нар. лекс.). Параўн. укр. *снува́ць*, рус. *снова́ть*, ст.-рус. *сновати*, рус.-ц.-слав. *сноути*, польск. *snuć (się), snować (się)*, в.-луж. *snować*, н.-луж. *snowaś*, чэш. *snouti, snovati* ‘снаваць’, перан. ‘рыхтаваць, задумваць нешта’, славац. *snovat’* ‘матаць, наматваць’, серб.-харв. *сно̀вати*, славен. *snováti*, балг. *снова́*, макед. *снове*. Прасл. **(o)snovati* роднаснае лат. *snaujis* ‘пятля’, гоц. *sniwan* ‘спяшацца’, ст.-ісл. *snúa* ‘вярцець, матаць, плесці’, да і.-е. кораня **sneu-* ‘вярцець, паварочваць’; гл. Покарны, 1, 977; Фасмер, 3, 699; Чарных, 2, 182; Скок, 3, 298; Трубачоў, Ремесл. терм., 122; Шустар-Шэўц, 1329; Бязлай, 3, 280–281; Борысь, 565; ЕСУМ, 5, 338. Пераноснае значэнне ‘хадзіць туды і сюды; хадзіць без справы’ Махэк₂ (564) тлумачыць старым спосабам снавання пры дапамозе калкоў у сцяне або ў зямлі, калі той, хто снуе, мусіў рухацца туды і сюды, папераменна ў абодвух напрамках. Варыянт *снуваць* пад уплывам формы цяп. часу *сную*; гл. Варбат, Морфон., 115.

***Снавіда**, *сновы́да* ‘чалавек, які мала спіць па начах’ (драг., З нар. сл.). Укр. *снови́да* ‘лунацік’. Ад *сон* і *відзець*; гл. Фасмер, 3, 700; ЕСУМ, 5, 337. Няясна, ці адносіцца сюды рус. дыял. *снофи́да, снафи́да* ‘апатычны, вялы, сонны чалавек’, з-за цяжкасцей пры тлумачэнні *-ф-*; гл. Фасмер, там жа.

**Снага́** ‘магчымасць, здольнасць, сіла’ (ТС). Параўн. укр. *сна́га́* ‘сіла’, *снажни́й* ‘моцны’, рус. наўг. *сна́га* ‘сіла, намаганне, поспех’, *сна́жный* ‘дужы’, рус.-ц.-слав. *снага* ‘поспех, дзейнасць’, польск. *snaga* ‘старанне, імкненне’, *snażyć się* ‘старацца’, каш. *snåžëc* ‘рабіць прыгожым’, чэш., славац. *snaha* ‘намаганне, моцнае жаданне’, серб.-харв. *сна́га* ‘сіла, моц, чысціня’, *сна̑жити* ‘ўзмацняць, умацоўваць; чысціць’, славен. *snága* ‘чысціня’, макед. *снага* ‘цела, тулава’, балг. *снага́* ‘цела, сіла’, ст.-слав. **снага** ‘жаданне, намаганне’. Прасл. **snaga* не мае пэўнай этымалогіі. Бязлай (3, 278–279) выводзіць з і.-е. **snāgo-* ‘чысты, лепшы’ або **snógo-*, якое магчыма параўнаць, напрыклад, з грэч. νηγάτεος ‘прыгожы (пра туніку)’; лат. *snaigs* ‘гнуткі, стройны’, *naigs* ‘прыткі, цвёрды’.

Борысь (SEK, 4, 339) значэнне 'чысты' лічыць другасным, вытворным ад 'старанны'. Варбат (Этимология – 1964, 28–30) дапускае роднасць з *наглы* (гл.), падкрэсліваючы іх семантычную блізкасць: 'сіла, дзейнасць, імкненне' – 'хуткі, раптоўны'; тады **snaga* ад страчанага славянскага дзеяслова з коранем *(s)nag-* з *s*-mobile. Гл. яшчэ Фасмер, 3, 696; Махэк₂, 564; ЕСУМ, 5, 332; Глухак, 568; Басай–Сяткоўскі, Słownik, 325–326.

**Снадзь**, *сна́дзіва* 'інструмент' (Стан.), *сна́дзіцца* 'аснашчацца', сюды ж (відаць, наватвор) *аснада* 'забеспячэнне прыладамі, прыстасаваннямі' (Ласт.). Параўн. стараж.-рус. *снадь* 'паверхня, верхняя частка', серб.-ц.-слав. *снадь* 'павярхоўны'. Прасл. **snadь* 'аплецены, спрадзены ці вытканы верхні слой, паверхня чаго-небудзь', што ўяўляе архаічны дэрыват з суф. **-dь* без матывацыі на славянскай глебе, параўн. лат. *snāt* 'злёгку скручваць, сплятаць', *snāte* 'ільняная покрыўка', гл. Борысь у SEK, 4, 337. Сюды ж ст.-бел. *снать (снатъ)* 'відавочна, напэўна, відаць' (Ст.-бел. лексікон), аналагічна *снадбы*: *а потрафило бы повстати людем против нас снадбы живо были нас пожерли* (Псалтыр XVI ст.; Карскі, 2–3, 495), што можна суаднесці з ст.-польск. *snad, snadź* 'можа' (што лічыцца няпэўным багемізмам, гл. Басай–Сяткоўскі, Słownik, 325), сучасным польск. *snadź* 'відавочна, напэўна, праўдападобна', н.-луж. *snaź* 'можа, можа быць, верагодна, магчыма', в.-луж. *snadź* 'тс', чэш. *snad*, дыял. *snad'* 'магчыма, хіба, пэўна', славац. *snád'* 'магчыма, відаць, верагодна', каш. *snod, snad* 'зараз, адразу', што ўяўляюць акасцянелую форму назоўніка ў функцыі прыслоўя, значэнне якога развілося на базе семантыкі 'павярхоўны' (Борысь, там жа). Гл. таксама Фасмер, 3, 696; ЕСУМ, 5, 332. Гл. *снасць*.

**Сна́дна** 'зручна, выгадна', *сна́дны* 'выгодны' (Нас.), сюды ж *сна́дні* 'добра' (Мат. Маг.), ст.-бел. *снадный* 'зручны, выгадны, лёгкі', дыял. укр. *сна́дний* 'лёгкі, падатлівы, шчодры', рус. смал. *сна́дный* 'выкананы старанна і дакладна; акуратны'. З польск. *snadny* 'лёгкі', *snadnie* 'зручна, лёгка' (Карскі, Белорусы, 149). Борысь (SEK, 4, 336) заходнеславянскія формы ўзводзіць да прасл. **snadьno*, з якога **snadьnъ* ад назоўніка або прыслоўя **snadь*, гл. *снадзь*.

**Сна́йпер** 'меткі стралок, майстар меткай стральбы' (ТСБМ). Новае запазычанне з рус. *сна́йпер* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 82); у апошнім з англ. *sniper* < *snipe* 'страляць з укрыцця, паляваць



на бакасаў', што звязана з *snipe* 'бакас' (Черных, 2, 182; ЕСУМ, 5, 332).

**Снара́д** 'гарматны боепрыпас' (ТСБМ), 'ступка з таўкачом' (Сцяшк. Сл.), *знара́д* 'гарматны набой' (Некр. і Байк.). Ст.-рус. *снарядъ* сустракаецца ў перадачы слоў гетмана Хадкевіча ў 1615 г.: *велѣлъ ис снаряду палит*, што можа сведчыць пра наяўнасць слова ў спецыфічным значэнні 'гармата' ў старабеларускі перыяд, у той час, як у рускіх помніках шырока ўжывалася *нарядъ* 'артылерыя' (Адзінцоў, Этимология–1981, 89–90). У сучаснай літаратурнай мове, хутчэй за ўсё, запазычана з рус. *снаряд*. Гл. Трубачоў, Дополн., 3, 697; ЕСУМ, 5, 333. Гл. *нарад*.

**Снасць** 'неабходныя інструменты, прылады, прыстасаванні для якога-небудзь занятку' (ТСБМ, Байк. і Некр., Шат., Касп., Сержп., Пятк. 2, Сцяшк., ТС; брасл., пух., лях., Сл. ПЗБ), 'збруя, панарад' (Кольб., Сл. ПЗБ), 'вяроўка, канат' (Ласт.), *снась, снасць* 'доўгая пяньковая вяроўка, якая выкарыстоўваецца для тармажэння плыта' (падзв., Нар. сл.), *снасць (або нарад) до кросён* 'прыстасаванне для ткання' (Уладз.), *снасць*, мн. л. *снасці*: *рыболоўные снасці* 'прыстасаванні для рыбнай лоўлі' (Крыв.), *сна́сці* 'лапці, сплеценыя з вяровак' (Сакал.), *снасці́на* 'хамут' (Сержп. Прык.). Укр. *снасть* 'каркас; касцяк', рус. *снасть* 'прылады, інструменты', стараж.-рус. *снасть* 'прылады, збруя; узбраенне, даспехі'. Прасл. паўн. **snastь*, паводле Слаўскага (SP, 2, 44), утворана пры дапамозе з суф. *-t'-* ад прасл. **snaditi* 'злучаць, змацоўваць, прыладжваць'; параўн. яшчэ і стараж.-рус. *снадь* 'паверхня, верх'. Аналагічна Праабражэнскі, 2, 344; Фасмер, 3, 696–697. Праславянскі дзеяслоў не мае пэўнай этымалогіі. Лічаць роднасным *снадны, снадзь* (гл.). У якасці паралеляў прыводзяць таксама лат. *snāt* 'нямоцна скручваць', ст.-ірл. *snáthe* 'ніць', ст.-англ. *snód* 'павязка на галаву'; гл. Мюленбах–Эндзелін, 3, 973–974; Фасмер, тамсама; ЕСУМ, 5, 333.

**Снаўдулі́**, *снаўда́лі, снаўдэ́лі* 'агаткі, Antennaria Gaertn.' (брасл., швянч., ігн., Сл. ПЗБ). З літ. *snaudãlės* 'тс', ад *snausti* 'драмаць', параўн. *ад іх спаць хочацца* (там жа).

**Снег** 'зімовыя атмасферныя ападкі' (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк., Сл. ПЗБ, ТС), *снег, снігá* ж. р. 'тс' (Бяльк.), ст.-бел. *снѣгъ* 'тс' (Альтбаўэр). Укр. *сніг*, рус. *снег*, польск. *śnieg*, в.-луж. *sněh*, н.-луж. *sněg*, чэш. *sníh*, славац. *sneh*, серб.-харв. *сни̏јег*, славен. *snȇg*, балг.

*сняг*, макед. *снег*, ст.-слав. **снѣгъ**. Прасл. **sněgъ* роднаснае ст.-прус. *snaygis*, літ. *sniẽgas*, лат. *snìgs* 'снег', гоц. *snaiws* 'тс', грэч. νείφες 'ідзе снег', лац. *nīvit* 'тс', ням. *Schnee* 'снег', а таксама ст.-інд. *snihyati* 'мокнуць, станавіцца клейкім' і інш. (гл. Траўтман, 272–273; Покарны, 974) да і.-е. **(s)nei$^{u}$h-/*snig$^{u}$h* 'снег'; Фасмер, 3, 697 з літ-рай; Махэк$_2$, 564. Сной$_1$ (587–588) мяркуе, што прасл. **sněgъ* і і.-е. **snig$^{u}$h* першапачаткова абазначала 'нешта клейкае, ліпкае, вільготнае'. Гл. яшчэ Шустар-Шэўц, 1327–1328; Скок, 3, 297; Борысь, 619; ЕСУМ, 5, 334–335.

**Снед** 'адтуліна, уваход у вуллі, калодзе' (ЭШ, рук.), *снедзь* 'дошчачка, якой закладваецца ўваход у вулей' (ТС, Нар. Гом.). Гл. *снет*.

**Сне́даць** 'есці раніцай' (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Гарэц., Касп., Шат., Растарг., Бяльк., Сержп., Ласт., Сл. ПЗБ, ТС). Укр. *снідати* 'снедаць', рус. зах., паўд. *снеда́ть, сне́довать* 'снедаць, закусваць, перахватваць', ст. польск. *śniadać*, в.-луж. *snědać*, н.-луж. *snidaś*, чэш. *snídat* 'тс', серб.-харв. *snijedati* 'з'ядаць усё', славен. *snédati* 'з'ядаць, згрызаць, апусташаць, ласавацца', ст.-слав. **сънѣдати** 'спажываць'. Прасл. **sъnědati* – дэрыват ад ітэратыва **ědati* < **ěть, *ěsti* 'ем, есці', пры **sъněsti* 'з'есці'. Гл. Фасмер, 3, 697; Махэк$_2$, 228; Шустар-Шэўц, 1327; Трубачоў, Проспект, 83. Традыцыйна маецца на ўвазе прэфікс **sъn-* (гл., напрыклад, Карскі 1, 324), аднак Шустар-Шэўц (Этимология–1988–1990, 95) бачыць тут прыстаўку **sъ-* і ўстаўны *-n-*. Аддзеяслоўны дэрыват *сне́данне* 'яда раніцай' (ТСБМ, Нас., Ласт., Байк. і Некр., Гарэц., Касп., Шат., Растарг., Сл. ПЗБ), *сне́данье* 'тс' (ТС), *сняда́нне* 'тс' (Бяльк., Сл. ПЗБ, Варл.), як і ўкр. *сніданне*, польск. *śniadanie*, в.-луж. *snědanie*, н.-луж. *snidańe*, чэш. *snídaně*, разглядаецца як паўночнаславянская інавацыя; гл. Вештарт, Лекс. Палесся, 90 і наст. Сюды ж *сняда́нка* 'дзяўчына, якая праводзіць нявесту ў дом жаніха' (Касп.), параўн. лун. *сьне́дальніцы* толькі мн. 'сваячкі маладой, якія прыязджаюць да маладых раніцай пасля шлюбнай ночы', укр. ров. *снідалніцы* 'тс' (Гура, С і БФ, 1995, 322), укр. *снідальниця* 'якая снедае (у прыватнасці, у вясельным абрадзе)', гл. ЕСУМ, 5, 335.

**Снедзік** 'гусіная цыбуля жоўтая, Gagea tutea Ker.-Gaevl.' (гродз., Кіс.). Укр. *снідок* 'тс', рус. дыял. *снедо́к* 'маркоўнік'. З польск. *śniedek, śniadek* 'гусіная цыбуля'. Паводле Махэка$_2$ (564), польскае слова (чэш. *snědek* з польскай) ад кораня **sněd-*



(гл. *снедаць*), г. зн. 'ядомы', паколькі цыбуліны гэтых раслін ядуць. Гл. таксама ЕСУМ, 5, 335.

**Сне́жань** 'дванаццаты месяц каляндарнага года' (ТСБМ, Гарэц., Ласт., Байк. і Некр.). Толькі беларускае; часткова (у карагнёвай частцы) яму адпавядае рус. дыял. *сне́жа* 'люты'. Утворана па традыцыйнай народнай мадэлі назваў месяцаў замест *студзень* раней 'дванаццаты месяц', цяпер 'першы'. Магчыма, ад *снежны* 'багаты снегам' ці *снежыць* 'ісці (пра снег)' з суф. *-ань*, гл. *снег*. Спецыяльна гл. Шаўр, Этимология–1971, 98, 100.

**Снет** 'дошка, якая закрывае бакавы ўваход у калодны вулей' (Маш., чэрв., 3 нар. сл., ТС), *сні͡ет* 'верхняя накрыўка борці', 'накрыўка ў вуллі, наверсе востра абчасаная' (Маш.), '(у борці зверху) дубовая дошка даўжынёй да 1,5 м, шырынёй 15 см і таўшчынёй 8–10 см' (Пятк. 1), *снедзь* 'дошка для закрывання лятка, уваходу' (ТС, Мат. Гом.), *сні͡едь* 'тс' (Сержп. Борт.), *сні͡ед* 'тс' (Сержп. Грам.), *снет, снёт, сніт, сне́то, снето́к* 'дзверцы ў стаячым вуллі' (ЛА, 1), *сніт* 'лінія, па якой распілоўвалася дрэва ўдоўж ці ўпоперак' (беласт., Сл. ПЗБ), *сніці́на* 'снет' (зэльв., Сл. ПЗБ). Сюды ж, відаць, *сні́тка* 'невялікая луста, скібка' (Скарбы). Укр. *сніт* 'дошка, цурбан', рус. *снеть* (*снедь* са знакам пытання ў Даля) 'дошка, якая закрывае бакавы ўваход у вулей', польск. *śniat, śniad* 'ствол дрэва', 'на адсечаным дрэве тое месца, дзе яно адсечана ад кораня', 'дошчачка для закрывання даўжэі ў борці', каш. *sńat* 'калода, дрэва', н.-луж. *snět* 'кусок дрэва (толькі ва ўласных імёнах)', чэш. *snět* 'ствол дрэва', дыял. 'галінка', 'звязка або слой бярвенняў у плытагонаў', славац. *sneť, snietka* 'галінка'. Прасл. **sněть* < і.-е. **snoito-*, што ўзыходзіць да і.-е. кораня **sneit-* 'рэзаць', кантынуантамі якога з'яўляюцца таксама гоц. *sneiþan*, ст.-ісл. *sníða* 'рэзаць, жаць', ст.-в.-ням. *snīdan* (сучаснае *schneiden*) 'рэзаць', ст.-ісл. *sneið* 'адрэзаны кавалак', швед. дыял. *sneis* 'тонкая галінка'. Гл. Покарны, 974; Фасмер, 3, 698; Махэк$_2$, 564; Шустар-Шэўц, 1328; SEK, 4, 341; ЕСУМ, 5, 336.

**Снігі́р** 'гіль, Pyrrhula vulgaris Briss.' (Пятк. 2), *снігáр* 'чубатая сініца' (ПСл). Гл. *снягір*.

**Сні́зак** (*сні́зык*) 'кажух разам з сярмягай' (віц., Шн. 3). Параўн. зах. і паўд.-рус. *сні́зка* 'армяк і тулуп зверху', *сні́зок, сні́зки* 'кажух з каптанам, кажух з армяком, пара верхняй адзежы, для

цяпла’. Да *ніз* (гл.), параўн. выраз *адзець пад ніз* ‘апрануць пад верхнюю адзежыну што-небудзь’.

**Сніпе́ць** ‘шыпець, сыкаць’: *гадзюка сьніпіць* (астрав., Сл. ПЗБ, ЛА, 1). Магчыма, да *сіпець* (гл.) з устаўным *-н-* пад уплывам літ. *šnypšti* ‘тс’ (Сл. ПЗБ).

**Сні́тка$_1$** ‘расліна, Aegopodium L.’ (ТСБМ, Ласт., Касп., Меер Крыч., Сцяшк.; мін., віц., Кіс.; ашм., бярэз., мін., шчуч., навагр., Сл. ПЗБ; ЛА, 1), *сньі́тка* ‘тс’ (Нас., Бяльк.; маг., Кіс.; Дэмб. 1; бялын., Нар. сл.; круп., Сл. ПЗБ, ЛА, 1), *сніць, шныць* ‘маладыя лісточкі агароднай расліны’ (Гарэц.). Укр. *снітка, снить, снит, сни́тка*, рус. *сныть, сни́тка, сныть, сньі́тка*. Дыял. прасл. (усх.-слав.) **snětь/*snitь* – рэканструкцыя Мяркулавай (Очерки, 62 і наст.), якая супастаўляе іх з польск. *śniat* ‘ствол дрэва’ (XVII ст.), чэш. *snět* ‘галіна’, *snítek, snítka* ‘калода’, славац. дыял. *snět* ‘ствол дрэва’, *sneto* ‘галіна’, а таксама ўкр. закарп. *snit, snita* ‘калода’, якія ўзводзяцца да і.-е. **snoi̯t-*, суадноснага з **snei̯t-* ‘рэзаць’. Параўн. гоц. *sneiþan*, ст.-в.-ням. *snīdan*, ням. *schneiden* ‘рэзаць’. Матывацыя – тоўсты ствол расліны (“дудка”). Гл. Махэк$_2$, 564. Іншая версія – параўнанне з прасл. **snětъ* ‘галаўня (у збажыне)’ (гл. *сняцей*), што не супадае па значэнні; гл. Фасмер, 3, 698–699 з літ-рай.

**Сні́тка$_2$** ‘птушка пліска’ (ПСл). Да *сітка* (гл. *сітаўка*) з устаўным *-н-*.

**Сні́тка$_3$** ‘невялікая луста, скібка’ (Скарбы). Няясна. Магчыма, да *сніт* ‘дошка’ (гл. *снет*) або непасрэдна з ням. *Schnitt* ‘разрэз’, *Schnitz* ‘кавалак, скрыль’, сюды ж, відаць, і выраз *выстругало его, як снітку* (пра бягунку) (Федар. 4, 345).

**Сні́ца** ‘скабка або пласцінка (драўляная ці металічная), якой змацоўваюць закругленыя дошчачкі; асабліва два колцы ў дышлі пад падушкай калёс, якія служаць для павароту калёс’ (Нас.), *сніціна* ‘дошчачка, якой закрываюць бакавы ўваход у калодачны вулей’ (зэльв., Сл. ПЗБ), *сні́цы* ‘крыжавіна, перакладзіна ў перадку воза, куды ўстаўляецца канец дышля’ (Маслен.), ‘пярэдняя і задняя часткі калёс’ (ПСл). Укр. *сни́ця* ‘падоўжная жэрдка ў возе, плузе; частка воза, дзе замацаваны дышаль’, рус. *сни́ца, шни́ца* ‘адзін з двух брускоў, між якімі ўмацоўваецца дышаль’, польск. *śnica, sznica*, чэш. дыял. *snica, šnyce, snice*, в.-луж. *snica* і *šnica*, н.-луж. *snica* ‘тс’. Міклашыч (312) лічыў слова няясным. Існуючыя этымалогіі спрэчныя. Паводле Праабражэнскага (2, 344), рускае слова



запазычана з польскай, а там з ням. *Schnitt* ‘разрэз, прарэз’ або *Schnitz* ‘кавалак, скрылік’. Фасмер (3, 699), а следам за ім і Махэк$_2$ (564), Шустар-Шэўц (1329) выводзяць з **ojesьnica* ад **oje*, Р. скл. *ojese* ‘дышаль, аглобля’. Гл. *вайе*. Зближэнне з *сныч, снычок* ‘засаўка ў замку’ (Ласт.), рус. дыял. *сныч* ‘стрыжань у дзвярным замку’, ‘шпонка, якая змацоўвае дошкі’, што звязваюць з *снаваць* (Гараеў, 334), сумніўнае (гл. Фасмер, 3, 702). Не выключана сувязь з ст.-бел. *снитие* ‘злучэнне, сыходжанне’, *снити* ‘дайсці, дасягнуць; легчы, упасці’, што да **iti* з прыстаўкай **sъn-* (гл. *ісці*).

**Сні́цар** ‘майстар, які пры дапамозе жалезных або дротавых скабак змацоўвае рэчы або пласцінкі ў адно цэлае’ (Нас.). Таксама як і ўкр. *сни́цар* ‘рэзчык па дрэве і метале’, запазычана з польск. *snycerz, snicarz, snicerz* ‘майстар разьбярства па дрэве’, якое ўзыходзіць да н.-в.-ням. *Schnitzer* ‘рэзчык’ і, далей, с.-в.-ням. *snitzere*, нова-в.-ням. *schnitzen* ‘рэзаць (па дрэве)’; гл. Кюнэ, Poln., 98; Брукнер, 505; ЕСУМ, 5, 334. Ст.-бел. *шницарь* (*сницаръ*) ‘рэзчык’ (першая палова XVII ст.) < ст.-польск. *sznicarz, snycar* (XV ст.) (Булыка, Лекс. запазыч., 89).

**Сніць** ‘бачыць сон (сны), бачыць у сне’, ‘марыць аб чым-небудзь’, ‘спадзявацца на што-небудзь’ (ТСБМ, Гарэц., Касп., Варл., Байк. і Некр., Сл. ПЗБ), *сніцца* ‘бачыцца ў сне’ (ТСБМ, Ласт., ТС, Сл. ПЗБ). Укр. *сніти, снітися*, рус. *сни́ться* ‘тс’, польск. *śnić* ‘бачыць у сне’, ‘марыць аб чым-небудзь’, чэш. *snít* ‘тс’, серб.-харв. *са́њати, сни́вати* ‘тс’, славен. *sanjati* ‘марыць’, балг. *съня* ‘бачыць у сне’, макед. *сони* ‘тс’. Прасл. **sъniti* ‘сніць’ дэрыват ад прасл. **sъnъ* ‘сон’ (Борысь, 619). Сюды ж таксама *сні-трава* ‘сон-трава’ (Бяльк.).

**Сні́чна** ‘шчыльна’(Касп.), *сні́шна* ‘тс’ (Шымк. Собр.). Рус. смал. *сни́шно* ‘тс’. Мабыць, да *сніца* (гл.), аднак не выключана сувязь з *снед, снет, сніт* ‘лінія, па якой распілоўвалася дрэва’, гл., пра што сведчыць “спецыфічнае” смал. *сни́дно* ‘шчыльна’ (Бел-рус. ізал., 59).

**Сно́за** ‘скабка’ (Мат. Гом.), *сно́зы* ‘частка кроснаў – вертыкальныя планачкі, якія праходзяць скрозь абедзве паловы набілак’ (Уладз.), ‘рэбры ў кошыку’ (капыл., ЛА, 4), ‘бакавая акантоўка акна’ (Сцяшк. Сл.), *сно́зік* ‘прыстасаванне ў лежаку (вуллі), зробленае з планак, якія ўтвараюць упор для плечукоў рамак’ (Анох.). Укр. *сно́за, сніз* ‘рэбры ў кошыку’, ‘тонкія палачкі для падтры-

манне сотаў', рус. кур. *снóзы* 'тс', таксама 'жэрдачкі для птушкі ў клетцы', паўн. *сня́зы* 'крыжападобна пакладзеныя планкі ў вуллі', *сну́за* 'затычка ў ярме', польск. *snoza* 'драўляная клямка', *snozik* 'драўляная рамка ўнутры вулля'. Варбат (Морфон., 41, 43) узнаўляе прасл. **snoza*, **snaza*, звязаныя чаргаваннем галосных. Да прасл. **noziti* 'пратыкаць, прабіваць' (гл. *нож*), параўн. таксама рус. *вонзить*. Гл. яшчэ Праабражэнскі, 2, 345; Фасмер, 3, 700; ЕСУМ, 5, 337. Борысь (SEK, 4, 341) рэканструюе прасл. дыял. **sъnoza*, дэвербатыў ад **sъ-noziti*, суадноснае з *занозы* 'вертыкальныя планкі ў кроснах'. Сюды ж *зну́за* 'звязь двух розных рэчаў' (Ласт.) з іншым вакалізмам.

**Сноп** 'звязка зжатых сцёблаў' (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк.; ашм., Стан.; Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС). Укр. *сніп*, рус. *сноп*, стараж.-рус. *снопъ*, польск., н.-луж., в.-луж., чэш., славац. *snop*, серб.-харв. *сно̏п*, славен. *snȍp*, макед., балг. *сноп*, ст.-слав. снопъ. Прасл. **snopъ* лічыцца роднасным ст.-в.-ням. *snuaba* 'павязка', *snuobili* н. р. 'ланцужок', да і.-е. **(s)neu-* 'вязаць'; Махэк₂ (564) тлумачыць праславянскую семантыку як 'тое, чым звязваюць' → 'тое, што звязана'. Сной₁ (588) узводзіць **snopъ* да і.-е. пашыранай базы **snəpo* 'тое, што звязана' і, далей, да і.-е. базы **sneh-p* 'звязваць'; Борысь (565) – да і.-е. **snēp-*/**snop-*/**snəp-*. Гл. яшчэ Фасмер, 3, 700 з літ-рай; ЕСУМ, 5, 334–335; Шустар-Шэўц, 1329.

**Снóпурха**, *снéпурка*, *сóпурка* 'рыбы галец, Nemachilus barbatulus L. і шчыпоўка, Cobitis taenia L.' (Крыв.), *снопáр*, *сóпурха*, *сóпуха*, *снóпурха* 'пячкур' (палес., Жыв. св.). Няясна. Параўн. *сóпурха* (гл.).

**Снóта** 'клопат, апекаванне', 'спрыт' (Касп.). Укр. *снóта* 'цнота', рус. дыял. маск. *снóта* 'здагадка, кемлівасць, спрыт', смал. 'цнота'. Гл. *цнота*.

**Снóўдаць**, *снóўдацца* 'хадзіць, рухацца туды і сюды (часцей без мэты)', 'бадзяцца' (ТСБМ, Ласт., Байк., Касп., Сцяшк., Варл., Жд. 3, Сл. ПЗБ; гродз., З нар. сл., мёрск., Нар. лекс.), 'снаваць' (Байк. і Некр.), *сну́дацца* 'тс' (Шат.), *снóўдацца*, *сны́даць* 'тс' (Касп.), *снáўдацца* 'валачыцца' (Ян.), *снаўдáцца* 'тс' (Сл. ПЗБ). Сюды ж *снаўдáль* 'хто ходзіць без справы' з літ. *snaudā̃lius* 'соня' (там жа). Лаўчутэ (Балтизмы, 73) адносіць да балтызмаў, параўн. літ. *snaudà*, *snaudala* 'чалавек, які любіць паспаць' < *snausti* 'драмаць', 'быць павольным, марудным'. Розніца ў значэннях узнікла, відаць, пад уплывам *снаваць* 'хадзіць туды і сюды' (гл.). Гл. таксама Свобада, Studies in Slavic Linguistics and Poetics, N. Y. – London, 1968, 246. Гл. наступнае слова.



**Сну́дзіць** 'нацягваць вяроўку або нітку з мэтай злавіць каго-небудзь' (Нас.), 'настройваць, наладжваць, арганізоўваць' (Гарэц., Др.-Падб.), *снудзíць* 'ненадзейна прыстасоўваць для лоўлі' (Юрч. Вытв.), *снудá* 'пастка' (Бяльк.). Няясна. Магчыма, звязана з славен. *snúditi se* 'шмыгаць, снаваць', якое Куркіна (Диал. структура, 116) лічыць этымалагічна тоесным літ. *snauduliúti*, *snausti* 'драмаць, спаць; марудзіць, вагацца', *snaudà* 'дрымота, марудлівасць', лат. *snaũda* 'тс', што ўзыходзяць да і.-е. **snou-* з пашыральнікам *d* і зыходнай семантыкай 'снаваць, матаць'. Прасл. **snuditi*?

**Снуз** 'чарада, шэраг': *цілый снуз кныгув* (кам., Жыв. НС). Звязана з *нізаць*, *нізка* (гл.) або *сноза* (гл.).

**Сну́лля** 'станок або прыстасаванне, пры дапамозе якога снуюць кросны' (Касп., Жд 2; віл., Сл ПЗБ), 'губіца, мера палатна ўдаўжыню (4–5 метраў)' (Жд. 1), *сну́лька*, *сну́льня* 'снулля (прыстасаванне)' (Сл. ПЗБ). Дэрываты з суф. *-л(я)*, *-лл(я)* ад *снуць* (гл.); аб суфіксацыі гл. Сцяцко, Афікс. наз., 53–54. Не выключана, што *снулля* з'яўляецца вынікам пераўтварэння дыял. *снойля* 'снавадла' (віл., Сл. ПЗБ): *снуўля* – *снулля*. Сюды ж *сну́йка* 'тс' (Варл., Сцяшк.).

**Снуць** 'снаваць' (астрав., трак., Сл. ПЗБ). Укр. дыял. *сну́ти*, польск. *snuć*, рус.-ц.-слав. *сноути*, чэш. *snout*, н.-луж. *snuś*, славен. *snúti* 'снаваць'. Сной₁ (589) узнаўляе прасл. **snuti*, якое ён лічыць асновай для ўтварэння прасл. **snovati*. Аднак Шустар-Шэўц (1329) бачыць тут пазнейшую форму інфінітыва, утвораную ад асновы цяперашняга часу, параўн. *сную*, *снуеш* і пад. Гл. *снаваць*.

**Сныхá** 'жывая бойкая дзяўчына' (Бяльк.). Зыходзячы з дыялектнай фанетыкі, гэта рэдкі выпадак фіксацыі на беларускай моўнай тэрыторыі прасл. **snъxa* 'нявестка, жонка сына', параўн. укр. дыял. *снóха*, рус. *сноха́*, стараж.-рус. *снъха*, польск. дыял. *sneszka*, старое *snecha*, чэш. *snacha*, серб.-харв. *сна̏ха* 'братава або сынава жонка', славен. *snaha*, *sneha*, балг. *снъха́*, макед. *снаа*, ст.-слав. снъха; роднаснае ст.-інд. *snuṣā́*, грэч. νυός, лац. *nurus*, ст.-ісл. *snor*, ст.-англ. *snoru*, ст.-в.-ням. *snur*, ням. *Schnur*, што ўзыходзяць да і.-е.

*snusós ‘радавая сувязь’, адкуль форма ж. р. *snusa < sneu̯- ‘звязваць, злучаць’, гл. *аснова, снаваць*. Менш верагодна вывядзенне *snusā̆ з і.-е. *sūnu-sū- ‘сынава жонка’. Гл. Трубачоў, История терм., 131 і наст.; Глухак, 568; Шаўр, Etymologie, 60–62 (аддае перавагу другой версіі); Фасмер, 3, 700; ЕСУМ, 5, 337–338. Семантыка беларускага слова пярэчыць пазнейшаму запазычанню з рускай мовы і, не выключана, узнаўляе першаснае значэнне *снаваць* ‘хутка рухацца’.

**Снягíр** ‘гіль, лясная птушка’ (ТСБМ, Сцяшк.), *снягýр, снягýрка, снягýрчык* ‘тс’ (Жыв. св.), *снегýр* ‘тс’ (лях., Сл. ПЗБ, Нар. лекс.), *снегíрчык, снігíр, снығíр, сногíр* ‘тс’ (ТС), *снігíр* ‘птушка Pyrrhula vulgaris Briss.’ (Пятк. 2), *сняжóк* ‘тс’ (Сцяшк. Сл.), *сняжýрка* ‘птушка падарожнік, Piectrophanes nivalis’ (Ласт.). Укр. *снігáр, снігýр, снигíр*, рус. *снегúрь, снигúрь* ‘гіль’; з іншымі суфіксамі: польск. *śniegula* ‘птушка падарожнік зімні’, чэш. *sněhule*, в.-луж. *sněhula*, н.-луж. *sněgula* ‘снягір’, славац. *snehuliak*. Да *sněgъ ‘снег’ з суф. *-urъ, -yrъ, -ulъ*; гл. Шустар-Шэўц, 1328. Рускія формы з *-и-* у корані тлумачацца асіміляцыяй галосных: **снѣгырь* > *снигырь*. Гл. Міклашыч, 312; Фасмер, 3, 698. Сюды ж таксама *снягýрка* ‘сінічка’ (Янк. 1). Назвы звязаны са з’яўленнем птушак на фоне выпаўшага снегу.

**Снягóўцы** ‘гумавыя жаночыя боцікі’ (Сцяшк., Скарбы, Шатал., Нар. лекс., Жыв. сл., Нар. словатв.), *снегаўцы́* ‘тс’ (Мат. Гом.), ‘зімовы абутак з кароткімі халяўкамі’ (Жд. 1), *снягóўцы* ‘зімовыя боцікі’ (Сл. ПЗБ), *снегóўцы* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), ‘галошы’ (Сл. ПЗБ), *снегóвец, сніговэц* ‘кароценькі гумавы боцік’ (Сл. Брэс.). З польск. *śniegowce* ‘тс’; гл. Арашонкава, Бел.-польск. ізал., 11; Сл. ПЗБ, там жа. Адаптаванае *снéжнікі* ‘тс’ (ашм., Стан.).

**Сняк** ‘веснавое ягня’ (Жыв. св.). З **вясняк* ‘тс’, параўн. *весьня́к* ‘маладая жывёліна, якая нарадзілася вясною’ (петрык., Жыв. сл.), шляхам адсячэння пачатку слова.

**Сняќаць** ‘смаркаць’ (Сл. ПЗБ, Станк., Скарбы). Да *сякаць* (гл.) з устаўным *-н-*. Гл. *таснякаць*.

**Снятóк** ‘дробная азёрная рыбка сямейства корушкавых’ (ТСБМ; віц., З нар. сл.; Жук.), ‘гальян азёрны’ (маг., Жук.), *снядкі (снѣдки)* ‘сорт рыбы’ (дзісн., Яшк. Мясц.), *снітка* ‘нейкая рыба’ (пін., там жа). Рус. наўг. *снитóк, снятóк*, паўн.-усх. *снетóк*. Ст.-рус. *снѣтъ* (XVI–XVII стст.). Дапускаецца запазычанне са швед. дыял. *stint* ‘дробная марэна’, дац. *stint* ‘рыба накшталт вугра’, або с.-н.-ням., н.-ням. *stint*, адкуль ням. *Stint* ‘корушка’, або з фін. *sintti* ‘сняток’ з наступнай мэтатэзай; гл. Міклашыч, 312; Праабражэнскі, 2, 347; Тапароў, Этимология–1978, 158 і наст. Фасмер (3, 698) мяркуе таксама аб магчымасці запазычання ў ст.-рус. форме **смлтъ* з нейкай скандынаўскай крыніцы і потым пераходу ў **снлтъ* аналагічна ст.-рус. імені *Къснлтинъ* = *Константин*. Для славен. *snẹ̑tec*, серб.-харв. *snetac* Бязлай (3, 280) дапускае запазычанне з рускай. Гл. таксама ЕСУМ, 5, 333–334. Параўн. *стынка* (гл.).



**Сняцéй**, *снэтэ́й* ‘сажа (хвароба хлебных злакаў)’ (бяроз., Шатал.), *сніцéй* ‘тс’ (івац., Нар. сл.), *снытэ́й* ‘тс’ (пін., Кольб.; стол., Нар. лекс.), *снятый, сніт* ‘тс’ (палес., гл. Выгонная, Лекс. Палесся, 76 і наст.), *смяцéй, смяцяй* ‘тс’ (гродз., Сл. ПЗБ), *снітэ́й, снэтэ́й* ‘тс’ (Сл. Брэс.). Укр. *снить, снітíй, смітíй* ‘тс’, польск. дыял. *śnieć*, в.-луж. *sněc, snjeć*, н.-луж. *sněś*, чэш. *snět’, snět*, серб.-харв. *сни̏јет* ‘тс’, *смѐтлика* ‘галаўня ў кукурузы’, славен. *snẹ̑t, smet, smetljaj* ‘галаўня ў збожжы’, балг. *снéтей* ‘тс’. Прасл. **sněťь*, **sněťъ* ‘сажа’ Махэк₂ (564) лічыць звязаным з чэш. *nítiti* ‘распальваць агонь’, прасл. **gnětiti* ‘запальваць’; гл. яшчэ Мяркулава (Очерки, 64), якая падкрэслівае натуральнасць семантычнага развіцця; ‘запаліць агонь’ → ‘абпаленае палена, галавешка’ → ‘раслінная сажа’; да семантыкі параўн. *cáжа*, рус. *головня*, серб.-харв. *гáра*, нова-в.-ням. *Brand* (ад *brennen* ‘гарэць’) ‘тс’. Менш верагодныя супастаўленні Шустара-Шэўца (1326–1327) з прасл. **snetъ* ‘калода’ (гл. *снет*), а таксама рэканструкцыя прасл. **sъ-gnětъ* (Скок, 3, 297), супраць чаго Бязлай, 3, 279–280; гл. яшчэ Фасмер, 3, 698–699; Будзішэўска, Słown., 300; Міклашыч, 312; ЕСУМ, 5, 336–337.

**Со** ‘вокліч, якім падганяюць вала’ (ТС). Скарочанае ад *ксо* ‘тс’, гл. *цоб*.

**Собаль** ‘драпежны звярок сямейства куніцавых’, ‘футра гэтага звярка’ (ТСБМ), *сóбаль, сабóль* ‘тс’ (Некр. і Байк.), *сабóль* ‘тс’ (Ласт., Стан.), ст.-бел. *собаль* ‘футра собаля; асобны падатак’ (Сташайтэне, Абстр. лекс., 162). Укр. *сóболь*, польск. *soból*, в.-луж. *soboł*, чэш. *sobol*, славац. *sobol’*, балг. *соболéц* ‘суслік’, што дае падставы для рэканструкцыі прасл. **sobolь* (ЕСУМ, 5, 340), паходжанне якога застаецца няясным. Выказвалася думка (Зубаты, AfslPh, 16, 413; Праабражэнскі, 2, 348) аб роднасці са

ст.-інд. *çabálaḥ, çabaráḥ* 'стракаты, плямісты'. Версіі фіна-угорскага (Бруcкнер, 506; Голуб–Копечны, 344) або цюркскага паходжання, параўн. тур. *samur* 'собаль', Фасмер (3, 703–704) лічыць нездавальняючымі. Відаць, праз заходнеславянскія слова пранікла ў заходнееўрапейскія мовы: ст.-в.-ням. *tebelus/ zobel* 'собаль' (XI ст.), ст.-франц. *sable*, італ. *zibellino*, с.-н.-ням. *sabel*, адкуль ст.-ісл. *safali*. Гл. яшчэ Махэк$_2$, 565; Сной$_1$, 589; Борысь, 566; ЕСУМ, 5, 340.

**Со́біць**, звычайна безасабовае *со́біла* 'прыйсці ў галаву, навесці на думку зрабіць што-небудзь нечаканае' (ТСБМ, Касп., Шат., Гарэц., Янк. 3), 'прышлося, выпала' (Варл.). Укр. *собі́чити* 'прысвойваць', рус. *со́бить* 'запасіць, збіраць', *со́биться* 'збірацца, рыхтавацца', польск. *sobić* 'запасіць, збіраць; прысвойваць', чэш. *sobiti(si)* 'прысвойваць', серб.-харв. *sobičati se* 'асвойвацца, прывыкаць (да горада, людзей)'. Ад займенніка *сабе* (гл.), параўн. Махэк$_2$, 565.

**Со́бскі** 'ўласны' (Ласт.; мёрск., Жыв. НС; Касп.). Да *соб-* (гл. *собіць*, *асобны*).

**Со́ваць** 'перамяшчаць, ставіць, устаўляць', безасабова таксама пра рэзкі боль (ТСБМ, Сл. ПЗБ, ТС), 'піхаць, утыкаць, утыркаць' (Некр. і Байк.), *сува́ць* 'тс' (Нас., Ласт.), *со́вацца* 'ўсоўвацца', 'хадзіць з месца на месца' (ТСБМ), 'павольна рухацца' (Сл. ПЗБ), *со́вацца*, *со́ўвацца* 'соўгацца' (ТС), *сува́цца* 'хістацца, піхацца' (Нас., Ласт.). Укр. *сова́ти*, рус. *сова́ть*, стараж.-рус. *совати* 'кідаць кап'ё', польск. *suwać*, в.-луж. *suwać*, н.-луж. *suwaś*, ст.-чэш. *sovati*, славац. *zasuvat* 'засоўваць, перасоўваць', серб. дыял. *со́вам се*, *су́вам се* 'працягваць руку за чым-небудзь', славен. *sováti*, балг. *со́вам*, ст.-слав. **совати** 'кідаць'. Прасл. **sovati* роднаснае літ. *šáuti* 'совацъ; саджаць (хлеб у печ)', 'страляць', лат. *šaũt* 'страляць; хутка соваць; штурхаць', далей гоц. *skewjan* 'ісці', алб. *heth* 'кідаю; вею зерне', ст.-в.-ням. *scioȝan*, ст.-ісл. *skjóta* 'страляць, рухаць, штурхаць'; параўноўваюць яшчэ з ст.-інд. *suvati* 'прыводзіць у рух', хец. *šuu̯āi-* 'штурхаць, рухаць'. Гл. Траўтман, 300; Мюленбах–Эндзелін, 4, 9–10; Фасмер, 3, 705; Махэк$_2$, 592–593; Шустар-Шэўц, 1380–1381. Борысь (588) форму **sovati* лічыць другаснай ад **suti*, **sovǫ* па аналогіі з **davati* 'даваць'; і.-е. корань **(s)keu̯-* 'кідаць, пасоўваць, ціснуць'. Гл. таксама *сунуць*.



**Совы** фальклл. 'шэры, сівы?': "Бадай, зязюлька, бадай, совая, цэлы век кукавала" (Восеньскія і талочныя песні, 1981, 215). Няясна (памылка ў запісе – *сівая*?).

**Со́да** 'агульная назва натрыевых солей вугальнай кіслаты' (ТСБМ, Некр. і Байк.), *со́днікі* 'млінцы на содзе' (КЭС). З рус. *со́да* або польск. *soda* 'тс' з новалац. *soda* (гл. Фасмер, 3, 706; Праабражэнскі, 2, 349; Варш. сл., 6, 259) у заходнееўрапейскіх мовах: параўн. н.-ням. *Sode*, франц. *saude*, іт., ісп. *soda* 'сода'.

**Со́дні** 'суткі, доба, пара' (дзісн., Ласт.). Параўн. рус. *со́денный* 'тое, што адбылося ў нашы дні, сучасны нам'. З прыст. *со-* і *дзень* у мн. л.

**Со́духі** 'канцы, смерць' (ТС), *салдухі* 'тс' (Ліцв.). Гл. *садухі*.

**Со́йка$_1$** 'лясная птушка Carrubis glandarius L.' (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Касп., Сцяшк., ТС, Пятк. 2), *со́я* 'тс' (Нас., Меер Крыч., Маш., Пятк. 2). Укр., рус. *со́я*, *со́йка*, ярасл. *со́йга*, ст.-рус. *соя*, польск. *soja*, *sójka*, в.-луж. *soja*, чэш., славац. *sojka*, серб.-харв. *со̏јка*, славен. *sȏjka* 'від галкі', балг. *со́йка*, макед. *сојка*. Прасл. **soja*, **sojьka*. Лічыцца роднасным **sьjati* (гл. *сіяць*) і (з чаргаваннем галосных) ц.-слав. *присое* 'асветленае месца'; гл. Міклашыч, 313; Брукнер, 506; Фасмер, 3, 731; Булахоўскі, ИАН ОЛЯ, 7, 120; Шустар-Шэўц, 1331. Паводле іншай версіі, **soja* роднаснае грэч. κισσα, ст.-в.-ням. *hëhara*, ст.-англ. *hrāgra*, корань якіх Махэк$_2$ (566) лічыць няясным; магчыма, гэта гукапераймальныя назвы. Фасмер і Булахоўскі (тамсама) мяркуюць, што птушка ў славянскіх мовах названая па яркім апярэнні, а не па крыку, які передаецца як *rätsch*, *rää*, *krää*, *kää* (Брэм.). Гл. яшчэ Сной$_1$, 591; ЕСУМ, 5, 344; паводле Борыся (567–568), гэта аддзеяслоўны наз. ад прасл. **sьjati* 'сіяць' < і.-е. **skəi-/*sk'i-* 'мігцець; мяняцца'.

**Со́йка$_2$** 'сайка, булка з салодкага цеста' (Мат. Гом.), 'прадаўгаватая галушка з талакнянага цеста або з тоўчанай бульбы' (лудз., в.-дзв., Сл. ПЗБ; ЛА, 4). Відаць, з *сайка* (гл.); *-о-*, магчыма, вынік гіперкарэктнасці. Назва галушкі паводле формы.

**Со́йка$_3$** 'лядзяш, што звісае са страхі' (віц., Нар. сл.). Няясна. Магчыма, тое ж, што і *сойка$_1$*, г. зн. што-небудзь ззяючае, бліскучае.

**Со́йка$_4$** 'след ад рога на скуры жывёліны' (Сцяшк. Сл., ЛА, 1). Рус. сіб. *со́йка* 'спіца для чысткі люлькі; малады рог аленя, лося яшчэ без лапат і сучкоў' выпадковае супадзенне, таму што, па-

водле Анікіна (500), запазычаны з бурац.+*соёо(н)* < *hoёо* 'ікол, іклы' ці манг. *соё(н)* 'тс'. Няясна; магчыма, этымалагічна тое ж, што і *сойка*$_1$ (гл.), г. зн. 'тое, што выдзяляецца, блішчыць на скуры'.

**Со́йка**$_5$ 'песня валачобнікаў хлопцам у велікодныя дні' (Скарбы). Відаць, ад слоў песні пра сойку (гл. *сойка*$_1$), параўн. *канапелька* 'песня дзяўчатам, якую спяваюць валачобнікі ў велікодныя дні', *спеваць кота* 'спяваць калыханку' (ТС) і пад.

**Сойм** 'сейм' (Байк. і Некр., Гарэц., Др.-Падб.), 'збор, з'езд' (Ласт.), *со́йма* 'зборышча': *п'яная сойма* (слуц., А. Кулакоўскі), ст.-бел. *соимъ*, старое *съемъ* 'сход прадстаўнікоў шляхты ў Рэчы Паспалітай', 'змова' (?): *почалъ с нѣмъци соимы чинити* (Віленскі летапіс XV–XVI стст.), *соймі́к* 'сход прадстаўнікоў шляхты ВКЛ'. Укр. *сойм* 'сейм', *со́йма* 'натоўп', рус. дыял. *сойм* 'сялянскі сход', *сойма, суйм, суём* 'тс; натоўп; бойка'. З прыстаўкі **съ-* і кораня **jьт-* ад **jęti* 'браць' (Фасмер, 3, 707). Аднак з улікам польск. *sejm* 'сход', ст.-польск. *sjem* 'тс', славен. *sȅjem* 'рынак, кірмаш', серб.-харв. *sajȁm* 'тс' магчыма рэканструяваць прасл. **sъjьтъ* 'сход, збор', аддзеяслоўны назоўнік, паводле Ластоўскага, ад *сыймацца* 'падыймацца' (Ласт.), параўн. ст.-бел. *съимуть на Вельи, вышеи Ковна двѣ мили* (Летапіс Аўрамкі XV ст., гл. Карскі, 2–3, 373). Інакш Сной (Бязлай, 3, 224), які выводзіць славенскае і сербскахарвацкае словы з **sъпьтъ* 'тс'. Гл. *сейм*.

**Сок** 'вадкасць у раслінных і жывёльных арганізмах, у глебе і інш.' (ТСБМ, Бяльк., Сцяшк., Сл. ПЗБ, ТС), 'бярозавік' (Сержп. Прымхі), 'тук' (слонім., Нар. лекс.), ст.-бел. *сокъ* 'вадкае ў пладах'. Укр. *сок, сік*, рус. *сок*, польск. *sok*, в.-луж., н.-луж., *sok* 'сачавіца', чэш. дыял. *sok*, славац. *osoka* 'сок (грыбны)', серб.-харв. *со̑к*, славен. *sọ̑k*, балг., макед. *сок*, ст.-слав. **сокъ** 'сок, напой'. Прасл. **sokъ* мае адпаведнікі ў літ. *sakaĩ* мн. л. 'драўняная смала', ст.-прус. *sackis* 'тс'; іншая ступень чаргавання: лат. *sveķi* мн. л. 'смала', алб. *djak* 'кроў', грэч. ὀπός 'сок', якія да і.-е. **s(u̯)okᵘo-* 'сок расліны, дрэва', з і.-е. **suekᵘ-*, як мяркуюць, 'мокры, вільготны'. Гл. Траўтман, 248; Мюленбах–Эндзелін, 3, 645; 1142; Фасмер, 3, 708 з літ-рай, а таксама Махэк$_2$, 566; Сной$_1$, 591; Борысь, 566; ЕСУМ, 5, 251. Параўн. *сачавіца, сочыва*.

**Со́кал** 'драпежная птушка сямейства сакаліных, Falco' (ТСБМ, Байк. і Некр.), часцей *сако́л* 'тс' (Гарэц., Федар., Ласт., Стан.).



Укр. *со́кіл*, рус. *со́кол*, дыял. *соко́л*, польск. *sokół*, в.-луж., н.-луж. *sokoł*, чэш., славац. *sokol*, серб.-харв. *сȍкō*, славен. *sókol*, балг. *соко́л*, макед. *сокол* 'тс'. Прасл. **sokolъ* 'птушка Falco'. Лічаць роднасным ст.-інд. *çakunas, çakúnis* 'нейкая птушка; вялікая птушка' (гл. Фасмер, 3, 708–709 з літ-рай). Міклашыч (313), Брукнер (506), Шустар-Шэўц (1332) звязваюць з гукапераймальным *сакатаць*, а Борысь (566) мяркуе, што **sokolъ* – дэрыват ад прасл. **sočiti* (гл. *сачыць*), таму што гэта драпежнік высочвае і даганяе птушку. Паводле Пятлёвай (Этимология–2000–2002, 21–22), першасным значэннем магло быць 'рассякаючы, раздзіраючы', што ўзыходзіць да дзеяслова з семантыкай 'рэзаць, сячы, рваць', якая захавалася ў *соколі́ць* 'мярэжыць' (ТС); пра корань *сок-* са значэннем 'рэзаць' гл. Куркіна, ОЛА, Исследов., 1994–1996, 202. Ускосным пацвярджаннем такога развіцця можа служыць дэрыват *сакольнік* у цытаце: "... жыў гэты дзед больш за сто гадоў. Так усе і клікалі – сакольнік. <...> калі пасавалі найлепшыя хірургі, звярталіся да сакольніка" (Я. Колас), – які, відаць, быў амонімам да *сако́льнік* 'той, хто даглядае лоўчых птушак, трэніруе і палюе з імі', першасна звязаным з дзеясловамі тыпу славен. *sókati, sókniti* 'ўкалоць (напр., нажом)' і рус. дыял. *соко́лик, соколе́ц, сокола́к* 'чорная жыла вялікага пальца рукі, vena pollicis; у коней жыла наназе, з якой пускаюць кроў'. Тады да **sěkti* (гл. *сячы*), параўн. варыянтнасць галоснага ў *сякера/сакера*. Іншыя версіі гл. Пятлёва, там жа.

**Со́лад** 'брадзільны прадукт', 'асалода, слодыч' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), 'салодкі смак', 'прарошчаны ячмень на піва' (Варл., Сл. ПЗБ, Пятк. 1), 'брага' (Сцяшк.), *со́лда* 'салодкая прыправа' (ТС), *со́ладзь* 'змолатае прарошчанае збожжа' (Сл. ПЗБ), 'нешта салодкае' (Ласт., Шат., Жд. 1, Сл. ПЗБ). Укр., рус. *со́лод*, ст.-рус. *солодъ*, польск. *słód*, в.-луж. *słód*, н.-луж. *słod*, чэш., славац. *slad*, серб.-харв. *сла̑д*, славен. *sléd*, балг., макед. *слад*. Прасл. **soldъ*. Далей гл. *салодкі* (Фасмер, 3, 712–713; Махэк$_2$, 551; Шустар-Шэўц, 1303).

**Со́лам'е** 'падоўжаная бэлька ў гаспадарчых памяшканнях на сохах' (ЛА, 4), 'праход у печ, чалеснікі' (ЛА, 4, Пятк. 1, Шушк.), *со́ламеня, со́ламень, со́лен* 'тс' (ЛА, 4), *со́ламя, со́ламянь* 'полымя (у печы)' (Сл. ПЗБ). Гл. *саламя*.

**Со́лтыс** 'у Заходняй Беларусі сельскі стараста' (ТСБМ, Сл. ПЗБ), *со́лтус, со́лтас* 'тс' (Сл. ПЗБ). З польск. *sołtys* 'часовы

начальнік, які назначаецца панам вёскі', дыял. *sołtys*, *sałtys*, *szałtys*. Запазычанне з с.-в.-ням. *schultheiȝ* 'той, хто загадваў, вызначаў павіннасці або даваў сведчанні' ад с.-в.-ням. *schult*, *schulde* 'павіннасць, абавязак' і *heiȝen* 'распараджацца, загадваць'; першасная форма з XIII ст. *szołtys* > *sołtys* у выніку мазурэння (Борысь, 567). Ст.-бел. *шолтысъ*, *шелтысъ*, *солтысъ* з польскай, гл. Булыка, Лекс. запазыч., 25; але польскае слова ён памылкова лічыць запазычаннем з нямецкай пры пасрэдніцтве венг. *szöltes* 'тс'. Басай–Сяткоўскі (Słownik, 329) адкідаюць чэшскае пасрэдніцтва (параўн. Новавейскі, Zapożyczenia, 16).

**Соль** 'соль як прыправа да ежы' (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС), *сóля* 'тс' (б.-каш., ГЧ). Параўн. укр. *сіль*, рус. *соль*, ст.-рус. *соль*, польск. *sól*, в.-луж. *sól*, *sel*, н.-луж. *sol*, чэш. *sůl*, славац. *soľ*, серб.-харв. *сȏ*, славен. *sọ̑l*, балг., макед. *сол*, ст.-слав. **соль**. Прасл. **solь* роднаснае лат. *sā̀ls* 'соль', літ. *sólymas* 'расол', лац. *sāl*, грэч. ἅλς м. р. 'соль', ж. р. 'мора', гоц. *salt*, ст.-в.-ням. *salz* 'соль'; апошняе выводзіцца з **salta-*, што ад дзеяслова **saltan* 'саліць'. У сувязі з гэтым звяртае ўвагу дзеяслоў *солíцца* 'сыпацца': *шчоб песок не соліўса ў вóду* (ТС), балг. *соля́* 'саліць', 'пасыпаць чым-небудзь дробным', макед. *соли* 'саліць' і 'сыпаць (пра дробны снег)', што, магчыма, сведчыць пра аддзеяслоўнае паходжанне назоўніка, які можа мець і іншыя значэнні, параўн. славен. *solika* 'крупы; дробны град'. Маючы гэта на ўвазе, прапануецца (Фурлан у Бязлай, 3, 288) рэканструкцыя амоніма **solь* 'град', на думку Куркінай (Этимология–1994–1996, 206), беспадстаўна; ва ўсякім разе, можна дапусціць для праславянскай другаснае значэнне дзеяслова **soliti* 'сыпаць'. Гл. Траўтман, 249; Мюленбах–Эндзелін, 3, 803; Фасмер, 3, 751; Махэк$_2$, 592; Сной$_1$, 591; Фурлан у Бязлай, 3, 287–288; Борысь, 572; ЕСУМ, 5, 252–253. Параўн. яшчэ *салодкі*, *сóлад*.

**Сом** 'рыба Silurus glanis L.' (ТСБМ, Касп., Сл. ПЗБ, ТС, З нар. сл.). Параўн. укр., рус. *сом*, польск. *sum*, ст.-польск. *som*, н.-луж. *som*, чэш., славац. *sumec*, серб.-харв. *сȍм*, славен. *sòm*, балг., макед. *сом*. Прасл. **somъ* роднаснае літ. *šãmes*, лат. *sams* 'тс'. Далей сувязі няясныя. Тапароў – Трубачоў (Лингв. анал., 247) прапаноўваюць у якасці крыніцы фін. *sampi* 'асётр', марыйск. *šamba* 'мянтуз'. Параўнанне славянскага слова з лац. *salmō* 'ласось, селядзец' у Праабражэнскага (2, 355), Младэнава (593) абвяргаецца Фасмерам (3, 716). Гл. яшчэ Траўтман, 298; Фрэнкель, 962; Махэк$_2$, 592; Машынскі, Pierw., 188; Фрыск, 1, 771, а таксама Сной$_1$, 592, Борысь, 586 (узводзяць да і.-е. **k'am-* 'палка, жэрдзь'); Каламіец, Рыбы, 106–109 (крытычны разгляд версій).



**Сóма** 'хутка, імкліва, нястрымна' (Сцяшк. Сл.; мядз., Нар. словатв.). Няясна, магчыма, з *соўма* (гл.) у выніку пераходу *оў* > *о*.

**Сóмец** 'сак (рыбалоўная сець)' (Скарбы), *сóмець*, *сóмцік* 'сак' (гродз., Сл. ПЗБ), *сóмцік* 'рыбалоўная прылада (як буч)' (гродз., З нар. сл.). З літ. *sámtis* 'тс' (Сл. ПЗБ, 4, 520).

**Сóмінец** 'кароткае бервяно паміж вокнамі' (ТС), *сóмчык* 'шула' (ЛА, 4), *сумáк* 'прасценак, міжаконне' (Ян.). Гл. *самінец*. Параўн. таксама *цу́нік* 'кароткія бярвенні ў прамежках паміж вокнамі', *цунь* 'тс' (ТС), што схіляе прыняць за зыходныя формы з *-у-*: польск. *sunik*, *sumik*, *suńec*, славац. *sútyk*, укр. *су́мець*, для якіх Бонк (SFPS, 5, 236 і наст.) дапускае значэнне 'бервяно ў сцяне драўлянага будынка, якое ўстаўляецца ў паз слупа; абрамленне аконнага або дзвярнога праёму' і, як тэхнічныя тэрміны, выводзіць з **sunǫti* (гл. *сунуць*), што не вельмі пераконвае. Магчыма дапусціць кантамінацыю ці зближэнне з **sъtъkъ*, параўн. рус. алан. *сомóк* 'грэбень страхі', балг. дыял. *смок* 'бэлька ў склепе' і інш.

**Сон$_1$** 'спанне', 'тое, што сніцца' (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Бяльк., Сл. ПЗБ). Параўн. укр., рус. *сон*, польск., чэш., славац. *sen*, в.-луж. *són*, н.-луж. *soń*, славен. *sə̀n*, серб.-харв. *са̏н*, балг. *сън*, макед. *сон*, ст.-слав. **сънъ**. Прасл. **sъnъ* з **sъpnъ*, роднаснага *спаць* (гл.). Роднасныя: літ. *sãpnas* 'сон; тое, што сніцца', лат. *sapnis* 'тое, што сніцца', ст.-інд. *svápnas* 'сон; тое, што сніцца', лац. *somnus* 'сон'. Гл. Фасмер, 3, 716–713 з літ-рай; Махэк$_2$, 541; Шустар-Шэўц (1334); Глухак, 540.

**Сон$_2$** 'травяністая расліна з вялікімі ліловымі кветкамі-званкамі, якая цвіце рана ўвесну' (ТСБМ, Бяльк., Сцяшк., Мат. Гом., Жыв. сл., Сл. ПЗБ, ТС), 'розныя віды расліны Pulsatilla L.' (Кіс., Меер Крыч.), *сон-трава* 'расліна сон' (Байк. і Некр., Касп., Нар. лекс., Кіс.), *сонь* 'тс' (Сл. ПЗБ), *сóнчык* 'тс' (гродз., Кіс., Сл. ПЗБ), *сасóннік* 'тс' (Шат.), *бáбін сон* 'расліна Crocus Heuffelianus Herb.' (Бейл.). Укр. *сон*, *сон-зілля*, *сон-травá* 'расліны Anemone pulsatilla L. і Anemone pratensis L.', рус. *сон*, *сон-дрéма* 'расліна Pulsatilla palena, сон', таксама *сон*, *сон-травá* 'расліна Atropa belladonna'.

Назвы раслін у іншых славянскіх мовах: польск. *sasanka*, ст.-польск. *sesenki*, *sasenki*, *sesanki*, чэш., славац. *sasanka* 'анемона', серб.-харв. *са́са* 'тс', балг. *са́са́н*, *съ́сън* 'анемона' і 'пралеска, Hepatica triloba', дыял. *съса́нка*, *саса́нка* 'анемона'. Этымалогія няпэўная. Дурыданаў (Зб. Лер-Сплавінскаму, 81 і наст.) славянскія словы лічыць звязанымі з ст.-егіп. *s-šš-n* 'лотас', араб. *susan* 'лілія', тат. *susan* 'касач'. Яны былі запазычаны з ст.-грэч. σουσον 'лілія' і ў праславянскай набылі формы **sъsьnъ*, **sъsьnъ* або **sъsenъ*. Пасля вакалізацыі ераў паводле народнай этымалогіі былі звязаны з **sъnъ* 'сон', што не беспадстаўна, таму што некаторыя віды раслін, напрыклад Pulsatilla patens L., у беларускай народнай медыцыне ўжываюцца як заспакаяльны і снатворны сродак (гл. Лекарственные растения и их применение. Минск, 1976, 482), а ў Сафійскім краі ў Балгарыі кветкі расліны кладуць у калыску дзецям. Іншая версія звязана з тым, што расліны роду *Anemone* у час дажджу і ноччу закрываюць кветкі, што звешваюцца ўніз (нібы спяць), гл. Краўчук, БЛ, 6, 66–67. Ва ўсходнеславянскіх мовах слова, відаць, было поўнасцю атаясамлена з *сон*$_1$. Гл. яшчэ Махэк$_2$, 537–538; ЕСУМ, 5, 352.

**Сон-трава́** 'расліна сон, Pulsatilla patens L.' (гродз., Аненкаў, Кіс.), *сні-трава́* 'тс' (Бяльк.). Гл. *сон*$_2$.

**Со́нейка**, *со́няйко*, *со́ўнейко* 'божая кароўка, Coccinella' (пін., карэліц., ЛА, 1; ТС). Да *сонца* (гл.). Шырока распаўсюджаная мадэль другаснай намінацыі ў розных мовах, што звязана з яркасцю афарбоўкі або міфалагічнымі ўяўленнямі («пасланец сонца»), параўн. укр. *со́нечко*, чэш. дыял. *sluníčko*, в.-луж. *bože słónčko* 'тс', для якіх выводзіцца праформа **sъlnьčьko* з тыпалагічнымі паралелямі ням. *Sonnenkälbchen*, *Sonnenkäfer* і інш., параўн. Шывіц-Дулар, Traditiones, 26A, 67. Для беларускіх назваў праформа была б **sъlnьnьko* (змены *ъl > оў/о* і *ньк > йк*). Параўн. *со́нейко* 'сонца' (Нас.)

**Со́нечнік** 'расліна Helianthus annuus L.' (Байк. і Некр., Ласт., ТС, Ян.), *со́ўнечнік*, *со́ўнешнік* 'сланечнік' (Шатал., Жыв. св.), *со́ўнях* (лельч., Жыв. сл.), *сон*, *со́начнік*, *со́нца*, *со́ўнешнік* 'тс' (Мат. Гом.), *сон* 'круг ад сланечніку' (браг., З нар. сл.). Да *сонца*, калька запазычанага *сланечнік* (гл.). Не выключаны і ўкраінскі ўплыў, параўн. укр. *со́няшник*, *со́нях*. Форма *сон* утворана ў выніку рэдукцыі. Сюды ж *со́нкі* 'семачкі' (Мат. Гом.).



**Со́нца** 'нябеснае свяціла', 'святло, цяпло, якое вылучаецца гэтым свяцілам' (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Бяльк., Касп., Сл. ПЗБ), *со́нцэ* 'тс' (ТС, Пятк. 2), *со́нцо* 'тс' (Сержп.), *со́нейка* памянш.-ласк. 'тс' (ТСБМ, Ласт., Касп., Байк. і Некр., Бяльк., Сл. ПЗБ), *со́нейко* 'тс' (Сержп., ТС, Федар. 4), *со́ўнейко* 'тс' (ТС). Укр. *со́нце*, рус. *со́лнце*, стараж.-рус. *сълньце*, польск. *słońce*, в.-луж. *słónce*, в.-луж. *słónco*, н.-луж. *słyńco*, чэш. *slunce*, славац. *slnce*, серб.-харв. *су̑нце*, славен. *sǫ́nce*, балг. *слъ́нце*, макед. *сонце*, ст.-слав. **слъньцє** 'тс'. Прасл. **sъlnьce* 'з'яўляецца дэмінутывам да **sъlnь* (параўн. рус. *по́солонь* 'па сонцу', славен. *soln* 'бляск у вачах') < **sūl(n)-*; утварэнне аналагічнае *сэрца* (гл.). Роднаснае літ. *sáulė* 'сонца', лат. *saũle*, ст.-прус. *Saule*, ст.-інд. *svar-*, гоц. *sauil* 'тс', грэч. ἥλιος; далей гоц. *sunnō*, ст.-в.-ням. *sunna* 'сонца'; і.-е. аснова **sauel-*/**sūl-*/**sun-* на *-l*/*-n*; гл. Фрэнкель, KZ, 63, 168; Траўтман, 251; Мюленбах–Эндзелін, 3, 773; Фасмер, 3, 710–711 з іншай літ-рай; Махэк$_2$, 558; Шустар-Шэўц, 1305; Бязлай, 3, 290; Борысь, 558; ЕСУМ, 5, 354.

**Соп**, *со́па* 'сажа'. Гл. *со́пуха*.

**Со́пат** 'дым, сажа', 'чалеснікі' Гл. *сопуха*.

**Со́пка**$_1$ 'гара конусападобнай формы, вулкан' (ТСБМ), 'купіна' (Касп., ЛА, 5), 'магільны насып' (Шатал., ЛА, 2), 'вялікі курган, старажытная магіла круглай формы' (віц., Яшк.), 'курган, грудок' (ТС), 'намагільны насып' (в.-дзв., Сл. ПЗБ), 'кратавінне' (рас., Сл. ПЗБ). Рус. (арх.) *со́пка* 'невялікая гара, якая стаіць асобна', 'вулкан; невялікі востраў', дыял. 'узгорак', *соп* 'насып', стараж.-рус. *съпъ* 'насып, узгорак, гара'. Выводзяць ад *соп*, якое да *сыпаць* (Міклашыч, 334; Праабражэнскі, 2, 357; Траўтман, 293), параўн. таксама каш. *sëра* 'кратавінне' ад *sëрас* 'сыпаць' (SEK, 4, 264). Даль (4, 273) узводзіць да *сопеть*, гл. *сапці*; Фасмер (3, 719) дапускае сувязь з гэтым дзеясловам толькі для значэння 'вулкан'. Паводле Крукоўскага (Уплыў, 73), бел. *сопка* з рускай, але гэта, магчыма, толькі ў значэнні 'вулкан'. У іншых славянскіх мовах (чэшскай, польскай) таксама з рускай, гл. Голуб–Копечны, 334; Варш. сл., 6, 268; Басай–Сяткоўскі, Słownik, 329.

**Со́пка**$_2$ 'канапа' (ТС), *со́ўка* 'тс' (маст., Сл. ПЗБ). Памяншальнае ад *сафа́* 'мяккая шырокая канапа', якое праз рус. *софа́* 'тс' або польск. *sofa* з франц. *sofa*, італ. *sofá* 'канапа, сафа';

заходнееўрапейскія словы ўзыходзяць да араб. *suffia* 'падушка на вярблюжым сядле' (Фасмер, 3, 729).

**Со́пкі** 'разварысты, рассыпісты' (ТСБМ, Байк. і Некр., Шат., Касп., Бяльк., Барад., Жыв. сл.), 'даўкі (пра сыпкую, сухую ежу)' (Ласт.), 'несакавіты (пра ягады)', 'мяккі (пра снег)' (Сл. ПЗБ). Укр. палес. *со́пкий* 'тс'; усе да **съпъкъ*; іншая ступень чаргавання кораня ў *сыпаць* (гл.). Параўн. стараж.-рус. *съпъ* 'насып, узгорак, гара', *сопка*, а таксама *рассыпісты* 'сыпкі, разварысты'; гл. ЕСУМ, 5, 355.

**Со́плі**, *со́пля* 'слізь, выдзяленні з носа; смаркачы' (ТСБМ), *со́пель* 'тс' (Шат.), *со́плі* 'соплі', 'ледзяшы' (ТС, Сл. ПЗБ), 'ледзяшы' (Сцяшк.), *сопе́ль* 'лядзяш', 'ёрш' (ТС), *со́пэль, су́пель* 'лядзяш' (івац., Нар. сл.; ЛА, 2), *сапе́ль* 'сопля, лядзяш' (Нас.). Укр. *со́піль*, Р. скл. – *сопля* 'сопля; лядзяш', рус. *со́пля*, стараж.-рус. *сопль* 'тс', польск. *sopel* 'сопля; лядзяш', чэш. *sopel*, славац. *sopel'*, серб.-харв. *sopalj* 'нарасць над дзюбай індыка', дыял. *сопу̀ль* 'сліна', балг. *сопо́л* 'сопля'. Паводле Борыся (567), прасл. **sopьlь*, **sopolь* дэрыват ад прасл. *sopti* (гл. *сапці*) з суф. *-ъlь*, аднак Слаўскі (SP, 1, 111) дэрывацыйную аснову лічыць тут няяснай. Сюды ж адносяць ст.-ісл. *safi* 'сок дрэва', лац. *sapa* 'сіроп з вінаграднага сусла', арм. *ham* (*sapto-*) 'сок', авест. *vī-sāpa-* 'той (або тое), што мае атрутныя сокі'. Гл. яшчэ Махэк$_2$, 567; Фасмер, 3, 719; Скок, 3, 306; ЕСУМ, 5, 355. Меркаванне Астроўскага (ABSl, 29, 151) пра развіццё другаснага значэння 'лядзяш' пад польскім уплывам цяжка абгрунтаваць, параўн. балг. *со́пови* 'ледзяшы на стрэсе' (Гераў).

**Со́пурха**, *со́пурка, сно́пурха, сне́пурха* 'галец, Nemachillus barbatulus L.' і 'шчыпоўка' (Крыв.), *снопа́р* 'галец, сліжык', *со́пурха, со́пуха, сно́пурха* 'пячкур' (палес., Жыв. св.). Няясна. Усачова (Слав. ихт. терм., 74) для *со́пурка* 'шчыпоўка' мяркуе пра зыходнае *сапець* 'сапці', аднак матывацыя няясная, як і фармальныя трансфармацыі назвы.

**Со́пуха** 'сажа (у пячным коміне)' (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Сцяшк., Жд. 3, З нар. сл., Жыв. сл., Нар. словатв., Сл. ПЗБ, ТС, Сл. Брэс.), 'ліпучы бруд ад лучыннага і газнічнага дыму' (Варл.), 'вусце печы' (ТСБМ), 'комін, скляпенне коміна' (Гарэц., Касп.), 'чалеснікі печы' (Шатал.), *со́пух* 'цёплы дух ад печы' (Сцяшк. Сл.), 'сажа' (Бяльк.), 'брудная заношаная адзежына' (навагр., Нар. сл.), 'чалеснікі печы' (Нар. словатв.), *сапу́ха* 'сажа' (Сцяшк., Сержп. Прык.), 'засланка' (Мат. Гом.), таксама *сол* 'сажа' (ТС), *со́па* 'тс' (Сл. ПЗБ). З іншай суфіксацыяй сюды ж *со́пат, со́пар* 'дым, сажа' (Ласт., Нас.), *со́пат* 'чалеснікі' (ЛА, 4). Укр. *со́пу́ха* 'сажа', 'чорная, як сажа, кашуля', *со́пух* 'чад', рус. дыял. *со́пуха* 'душнік у печы', *сопуха́* 'сажа ў коміне або ў курной хаце', польск. дыял. *sopicha* 'прастор у хлебнай печы', 'сажа, чад', 'адтуліна коміна', чэш. *sopouch* 'комін', ст.-чэш. *sopúch*, дыял. *capouch*, славац. *sopuch*, *sopucha* 'тс', славен. *sópih*, *sopúh* 'дым, чад'. Ад **sopěti* (гл. *сапці*) з суф. *-иха*; гл. Праабражэнскі, 2, 357; Фасмер, 3, 720; Махэк$_2$, 567; ЕСУМ, 5, 355; Бязлай, 3, 290; SEK, 4, 344; Дзімітрова-Тодарава, Studia Etym. Brun. 3, 60 (< прасл. **sорихъ*, **sорuха*).



**Со́пці** 'сапці', 'спаць' (Нас.), 'сапці' (Байк. і Некр.). Параўн. славен. *zasópsti* 'заснуць, праспаць'. Паводле Сноя (SR, 36, 1, 102), рэдкая беларуска-славенская ізасема **sopti* 'спаць' сведчыць, што значэнне 'спаць' у асновы і.-е. **sup-* развілося на базе 'дыхаць'. Параўн. *сапці, спаць, сон* (гл.).

**Сор**. Гл. *сур*.

**Со́рак** 'лік і лічба 40' (ТСБМ, Байк. і Некр., Стан.), *со́рок* 'тс' (ТС), ст.-бел. *сорок*. Укр., рус. *со́рок*, стараж.-рус. *сорокъ* 'сорак', 'звязка з 40 скур собаля'. Польск. *sorok* 'звязка з 40 скур собаля' (XVI–XVII стст.) запазычана з рус. (Брукнер, 507). Гэтае слова замяніла больш старажытнае *четыре десяте*. У старабеларускай мове яшчэ ў XVII ст. для абазначэння лічэбніка ўжывалася *четыредесять* і *сорокъ*, а ў XVI і XVII стст. *сорокъ* таксама шырока ўжывальнае як адзінка лічэння футравых скурак (гл. Скурат, Меры, 167–168). Існуючыя этымалогіі спрэчныя. Тлумачылі (Міклашыч, 316; Брукнер, там жа і інш.) з грэч. (τε)σσαρακοντα 'сорак', новагрэч. σαράντα, або з грэч. τεσσαρακοστή, с.-грэч. σαρακοστή 'саракадзённы пост', але гэта версія не ўлічвае значэння 'звязка футравых скурак'. Таму дапускалі сувязь з *сарочка* (гл.) аналагічна ст.-сканд. *serkr* 'кашуля' і '200 скур'; гл. Кіпарскі, Gemeinslav., 100; Фасмер, 3, 722–723 з літ-рай. Грунталь (AfslPh, 42, 318) прыводзіць яшчэ славац. *meru* 'сорак' з венг. *mérő* 'футра'. Трубачоў (у Фасмер, 3, 723) не выключае магчымасці запазычання ст.-усх.-слав. **сьркъ*, да якога можа ўзыходзіць *сорак*, з цюркскіх моў, параўн. тур. *kirk* 'сорак', з дысі-

міляцыяй $k - k > s - k$. Агляд праблематыкі гл. Жураўлёў, Язык и миф, 641–642. Гл. яшчэ ЕСУМ, 5, 356.

**Со́рам** ‘збянтэжанасць, хваляванне ад усведамлення свайго ўчынку’, ‘ганьба’, ‘сарамяжлівасць’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Нас., Сержп., Шат., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС, ЛА, 3), *со́рам, сарамо́к* ‘дзетародны член’ (Нас.), *сарамаце́не* ‘палавыя органы’ (Сержп.), ст.-бел. *сорамота* ‘стыд’ (Альтбаўэр). Укр. *со́ром*, рус. *со́ром* і таксама *срам*, якое запазычана з ц.-слав. *срамъ*, стараж.-рус. *соромъ*, польск., н.-луж. *srom, sromota*, серб.-харв. *сра̑м*, славен. *srȃm*, балг., макед. *срам*, ст.-слав. **срамъ**. Прасл. **sorтъ* лічыцца родналсным авест. *fšarəma-* м. р. ‘сорам’, новаперс. *šarm*, ст.-в.-ням. *har(am)*, лат. *šermelis* ‘жах, жудасць’, далей таксама, відаць, літ. *šarma* ‘іней’ (аб апошнім гл. Ларын, История, 67–68: зыходным значэннем слова было ‘холад’ і на балтыйскай глебе ‘іней’). Гл. таксама Траўтман, 299; Фасмер, 3, 724 з літ-рай, Шустар-Шэўц, 1351; Бязлай, 3, 303; Борысь, 573; Глухак, 572; ЕСУМ, 5, 357.

**Сорт** ‘гатунак’, ‘від, род’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Сл. ПЗБ). Паводле Крамко (Гіст. мовы, 2, 238), запазычанне пачатку XX ст. з рус. *сорт* ‘тс’. У рускай мове, пачынаючы з пач. XVIII ст., з франц. *sorte* ‘тс’ < лац. *sors*, Р. скл. *sortis* ‘жэрабя; доля; лёс’ (гл. Праабражэнскі 2, 359; Фасмер, 3, 725).

**Со́рта** ‘трос, канат’ (калінк., Арх. ГУ). Няясна.

**Со́рыць** ‘траціць, губляць’ (Касп.). Відаць, з рус. *сор* ‘смецце’, *сори́ть* ‘раскідваць смецце’, параўн. выраз *сори́ть деньга́ми* ‘бязмэтна траціць грошы’; аднак у гэтым выпадку цяжка вытлумачыць змену націску. Параўн. *пасорыць, распасорыць* (гл.).

**Сос**$_1$ ‘шаша’ (Сл. Брэс.; драг., Сл. ПЗБ). З польск. *szosa* з асіміляцыяй $ш - с > с - с$ і стратай канцавога галоснага. Сюды ж *сош* ‘тс’ (Скарбы; кам., Жыв. сл.) з метатэзай зычных, параўн. таксама *со́ша* ‘тс’ (Ян.).

**Сос**$_2$ ‘нагар, смала з цыбука ў люльцы’ (ТСБМ, Варл.; брасл., астрав., лаг., швянч., воран., шальч., Сл. ПЗБ; Скарбы). Дэвербатыў ад *ссаць* ‘смактаць’, параўн. *насос*$_2$ ‘тс’ (гл.).

**Сос**$_3$ ‘соус, падліўка’ (Ласт.), ‘вадкая частка стравы’ (навагр., Жыв. сл.), ‘мачанка’ (Сцяшк.). З польск. *sos* ‘соус’, запазычанага з заходнееўрапейскіх моў, параўн. ням. *Sosse* ‘тс’, франц. *sause* ‘тс’. Гл. *соус*.



**Со́снік** ‘бор’ (Сл. ПЗБ; чаш., ЛА, 5), *со́сняк* ‘зараснікі хвоі’ (вільн., Сл. ПЗБ). Утворана ад *со́сна* ‘расліна Pinus silvestris’, ‘хвоя’ (Ласт., Растарг., Стан., Расл. св.; беласт., Зб. Памяці Закрэўскай, 481), ‘борць’ (Пятк. 1). Перыферыйны характар назвы з націскам на першым складзе (паўночны захад, Смаленшчына, Заходняя Браншчына, Палессе, Беласточчына) сведчыць пра яе архаічны характар у параўнанні з *сасна́* (гл.), што пацвярджае і ц.-слав. *соснь* ‘піхта’. Агляд версій паходжання назваў дрэва гл. Янышкава, Балк. ез., 43, 2–3, 307–314. Пераважаючую версію ‘бортнае дрэва’, магчыма, пацвярджаюць запісы Раманава ў замове: *золотник золотый, стань на своем мести, на золотом кресли, на батьковым сосновании* (Рам., 5, 54–55), дзе апошняе слова трактуецца як ‘сяліба, двор’ (Нар. Гом.), магчыма, да *аснова* (гл.) – ‘дрэва для заснавання вулля’?

**Со́сьлі** ‘ледзяшы, што звісаюць са страхі’, *со́сьлівъя (пагода)* ‘калі нарастаюць ледзяшы на стрэхах’ (беш., Нар. сл.). Няясна; магчыма, да *ссаць* (гл.), параўн. славен. *seselj* ‘соска’.

**Со́тка** ‘сотня’ (ТСБМ, Сцяшк., Шат.), ‘пляшка (100 г гарэлкі)’ (Ян.), ‘адна сотая частка якой-небудзь адзінкі, меры (гектара і пад.)’ (ТСБМ, Ян.), звычайна *со́ткі* мн. л. ‘выдзелены ўчастак зямлі для апрацоўкі’, ‘прысядзібны ўчастак’ (Сл. ПЗБ). Укр., рус. *со́тка* ‘тс’. Да *соты* (гл.) з суф. *-к-*.

**Со́тнік** ‘начальнік сотні воінаў’ (ТСБМ, Некр. і Байк.), ‘паліцэйскі чын у час прыгоннага права’ (Стан.), ‘галоўны плытагон’ (ваўк., віл., Сл. ПЗБ). Укр. *со́тнік*, рус. *со́тник*, ст.-слав. **сътьникъ**; да *сот-* (гл. *соты*), з суф. *-н-* і *-ік*. Калькуе грэч. ἑκατοντάρης ‘сотнік, цэнтурыён’ ад ἑκατον ‘сто’; гл. Фасмер, 3, 728.

**Со́тня** ‘адзінка ліку, роўная ста’ (ТСБМ, Некр. і Байк., ТС, Бяльк., Сержп. Прымхі). Укр., рус. *со́тня* ‘тс’. З **сътьня* (гл. *сто*). Фасмер, 3, 728.

**Со́ты**$_1$ ‘ячэйкі з воску, вуза’ (ТСБМ), *саты́* ‘тс’ (в.-дзв., Сл. ПЗБ), *со́ты, со́тая, со́тые* ‘тс’ (Анох.). Укр. *со́ти*, рус. *сот, со́ты*, рус.-ц.-слав. *сътъ*, серб.-харв. *са̑т, са̑ће*, славен. *sȃt*, балг. *сът*, макед. *сот*. Прасл. **sъtъ*. Этымалогія няпэўная. Параўноўвалі з ст.-інд. *sátas* ‘сасуд’. Махэк (LF, 55, 156) выходнай формай лічыў **sъpto-*, якое звязана чаргаваннем галосных з *све́пет* (гл.). Бязлай (3, 219), аспрэчваючы версію Махэка аб непасрэднай сувязі **sъtъ* і **svepetъ*, схіляецца да думкі Мікалы (Ursl. Gr., 3, 25) аб

паходжанні слова з і.-е. *sup-to > прасл. *sъ(p)tъ, звязанага з прасл. *suti, *sypati (гл. *сыпаць*) 'трэсці', літ. *sùpti, supù* 'калыхаць; акружаць', з якімі роднаснае ц.-слав. *свепити се* 'калыхацца'. Сумніўная версія Машынскага (Pierw., 216), які набліжаў *sъtъ да *sojo̧, *sojiti 'калоць'. Трубачоў (у Фасмер, 3, 728) следам за Ільінскім (РФВ, 62, 239) найбольш верагодным лічыць сувязь з *сытá* (гл.). Гл. таксама Глухак, 537.

**Сóты₂** – парадкавы лічэбнік да *сто* (ТСБМ, Некр. і Байк.), *сóтны* 'тс' (Ласт., Некр. і Байк.). Укр. *сóтий*, рус. *сóтый*, польск. *setny*, в.-луж. *stoty*, чэш., славац. *stý*, серб.-харв. *сто̑т*, славен. *stǫ́ti, stǫ́tni*, балг. *стóтни*, макед. *стоти*, ст.-слав. **сътьнъ**. З *sъtъ, *sъtьnъ; далей гл. *сто*; Фасмер, 3, 728.

**Сóус** 'прыправа, падліва да стравы' (ТСБМ), *сóлус* 'тс' (Сцяшк.), *сóлас, сóлус* (Сл. ПЗБ). Новае запазычанне з рус. *сóус* 'тс' (Крукоўскі, Уплыў, 80), дзе з франц. *sauce* 'соус'< лац. *salsa* 'пасоленая (поліўка)', магчыма, праз англ. *sause* 'соус' (Праабражэнскі, 2, 362; Фасмер 3, 728).

**Сóўбіль** 'недарэка, які мяшаецца ў чужыя справы' (Варл.). Відаць, да *соваць* (гл.), утворана ад варыянта асновы *-сóўваць* (параўн. *засóўваць, перасóўваць* і пад.) праз дэвербатыў *соўба з суф. *-ель* (фанетычна *-іль*).

**Сóўгаць** 'перасоўваць што-небудзь з месца на месца', 'рухаць, соваць чым-небудзь у розных кірунках (звычайна па паверхні)', 'тыкаць, совать' (ТСБМ), 'габляваць' (шальч., Сл. ПЗБ), 'соваць, тыкаць' (ТС), *сóўгацца* 'хадзіць туды-сюды, сланяцца', 'пасоўвацца паволі, з цяжкасцю; рухацца, перамяшчацца' (ТСБМ, ТС; ашм., шальч., Сл. ПЗБ, Жд. 1), 'хадзіць узад і ўперад' (Янк. 1, Нар. Гом.), *соўгенýць* 'рэзка сунуць' (ТС), *совгнýты* 'штурхануць' (Сл. Брэс.), *соўгнýтэ* 'тс' (брэсц., Нар. лекс.), *соўг* 'пра соўганне' (мсцісл., Нар. лекс.), *саўгéць*! 'кідок камянём' (Арх. Федар.), *саўгáк* 'стары чалавек' (Наша Ніва, 1998, 26 кастр.), *сóўгала* 'чалавек, які сноўдаецца без справы і заняткаў' (Янк. 3). Укр. *сóвгати* 'соваць; соўгаць', *сóвганка* 'коўзанка'. Няясна. Для ўкраінскага аўтары ЕСУМ (5, 342) мяркуюць аб кантамінацыі *сóвати* і *ковзати* (< **ковгати*), што не вельмі пераканаўча; магчыма, гэта звонкі дублет да *соўкаць* (гл. наступнае слова).

**Сóўкаць** 'калыхаць' (Жд. 2), 'трымаць дзіця на руках', 'няньчыць', 'гадаваць' (мядз., Нар. словатв., Сл. ПЗБ), *сóўкацца* 'хадзіць з кута ў кут; блытацца' (калінк., хойн., Арх. ГУ). Інтэнсіў ад *соваць* (гл.), параўн. *сóўваць* 'соваць' (Арх. Федар.), *сóўвацца* 'хадзіць за кім-небудзь, бадзяцца' (Сл. ПЗБ), магчыма, праз стадыю інтэр'екцыі *соў(к)!* (пра хуткі рух). Меркаванне пра развіццё спецыяльных значэнняў 'гадаваць, даглядаць' пад уплывам літ. *sáugoti* 'берагчы, сцерагчы' гл. Санько, Крыўя, 1996, 1, 92.



**Сóўкі** 'няцвёрды (аб зімняй дарозе)' (Нас.), 'рыхлы (пра снег)' (Юрч.), *сóўкая дарога* 'занесеная снегам' (Мат. Маг.). Рус. *сóвкий* 'мітуслівы, неразважлівы (чалавек)'. Да *соваць*; аб рус. слове гл. Варбат, Этимология–1983, 38.

**Сóўма** 'гвалтоўна, напорыста' (Сцяшк. Сл., Сл. ПЗБ), 'знянацку, нечакана' (Барад.). Дзеепрыслоўе ад *соваць* (гл.), утворанае па тыпу *бегма, лежма* і пад. Да семантыкі параўн. *соўнýць* 'штурхнуць' і *сýнуць* 'сунуць, пайсці гуртам' (ТС), параўн. укр. *совманýти* 'штурхнуць', што таксама звязваюць з *сóватися* 'совацца', *сунýти* 'піхнуць' (ЕСУМ, 5, 343). Магчыма, сюды ж *соўмáк, соўмáн* 'ціхі, негаваркі чалавек, што паводзіць сябе незалежна' (ТС), *соўмáч* 'нелюдзімы чалавек' (лун., ЛА, 3), гл. *саўміла*. Наўрад ці звязана з тур. *sovmak* 'гнаць, праганяць, адганяць'.

**Сóўпацца**, *сóвпатись* 'сноўдацца, совацца', *совпнýтись* 'таркануцца, усунуцца' (Сл. Брэс.), *сóвпатыся* 'соўгацца, таптацца' (пін., Нар. лекс.). Укр. палес. *сóвпатис* 'цягнуцца па снезе або балоце', *совпнýти* 'торкнуць', перан. 'папракнуць', *совпнýтись* 'торкнуцца, штурхнуцца'. Анікін (Этимология–1982, 67) узнаўляе прасл. *sъlpati sę, *sъlpnǫti (sę) на аснове семантычнага паралелізму польск. *wyknąć* (język, palec) 'вытаркнуць (язык)' і *wysalapić* (język) як сіноніма гэтага выразу; далей гл. *салупаць*. Менш пераканаўча ЕСУМ (5, 343), дзе мяркуецца аб кантамінацыі *сóвати* або *совгати* і *човпти* 'чаўпці'.

**Сóхі**. Гл. *саха*.

**Сóхнуць** 'рабіцца сухім' (ТСБМ, Бяльк., Сцяшк., ЛА, 5), *сóхці* (Шат., Сл. ПЗБ, ЛА, 5). Параўн. укр. *сóхнути*, рус. *сóхнуть*, польск. *schnąć*, в.-луж. *skhnuć*, н.-луж. *schnuś*, чэш. *schnouti*, славац. *schnut'*, серб.-харв. *сàхнути*, славен. *sehníti*, балг. *съ́хна*, ст.-слав. **съхнѫти**. Прасл. *sъxnǫti 'сохнуць'. Звязана чаргаваннем галосных з прасл. *suchъ (гл. *сухі*). Гл. Фасмер, 3, 730; Махэк, 591; Шустар-Шэўц, 1287; Бязлай, 3, 223.

**Со́цкі** старое ‘выбарная асоба з сялян, памочнік паліцыі’ (ТСБМ): *socki, dziesiacki, dawaj padwodu* (Федар. 4). Да *сотка* (гл.), г. зн. ‘выбарны ад ста сялян’, параўн. *сотнік* (гл.).

**Со́чыва** ‘варэнне’ (Байк. і Некр.), ‘малачко з расцёртых канапель або маку’ (Ласт.), укр. *сочéва* ‘зерне сачыўкі’, рус. *со́чиво* ‘сок, малако з льнянога семені’, ст.-рус. *сочиво* ‘зерне сачыўкі’, славен. *sočivje* ‘стручковыя плады; гародніна’, *sočȋvo* ‘бабовыя’, серб. *со̏чӣво* ‘тс’, харв. чак. *sȍčivo* ‘тс’, балг. *со́чиво* ‘суп’, макед. дыял. *сочиво* ‘фасоля’, ст.-слав. **сочиво** ‘сачыўка’. Прасл. **sočivo*, вытворнае ад **sokъ*, гл. *сок* (Фасмер, 3, 731; ЕСУМ, 5, 364). Рэканструкцыя першаснага значэння ‘ежа, яда’ на базе каузатыва **sočiti* ‘рабіць мокрым, мачыць’ > ‘гатаваць’ па тыпу *варыць – варыва* (гл. Фурлан у Бязлай, 3, 282–283) падаецца верагоднай, аднак патрабуе дадатковай аргументацыі, параўн. Куркіна, Этимология–1994–1996, 206. Гл. таксама *сачыўка*.

**Со́шка** ‘падстаўка з развілкай, якая выкарыстоўваецца пры стральбе з упору, а таксама прыстасаванне для ўпору ствала ручнога кулямёта, мінамёта’ (ТСБМ, Байк. і Некр.), ‘плужок’ (Нас.), ‘акучнік’ (ТС, Сл. ПЗБ), ‘баразна’ (Сл. ПЗБ). Памянш. да *саха* (гл.)

**Со́шкі**, гл. *саха*; таксама ‘прымітыўны ткацкі станок’ (Шат., лун., Шатал.; ганц., Сл. ПЗБ), ‘часовая ўкладка лёну на полі’ (рас., Шатал.), г. зн. на сошках, на падстаўках.

**Со́я** ‘травяністая расліна сямейства бабовых’ (ТСБМ, Кіс., Сцяшк.). Новае запазычанне з рус. *со́я* ‘тс’ (параўн. Крукоўскі, Уплыў, 73, 88); у апошняй праз заходнееўрапейскія мовы, параўн. ням. *Soja*, англ. *soya* з япон. *shōyū* ‘соявы алей’ < кіт. *čiangyu* ‘тс’; гл. SWO, 690; ЕСУМ, 5, 364.

**Соя́** ‘сойка’ (Куч.). Гл. *сойка*.

**Спабе́кнуць** ‘надзівіцца’: *не спабе́кнулі, як ены за ею плакалі* (Ян.). Няясна.

**Спабо́рнік** ‘сапернік, канкурэнт, прэтэндэнт’ (ТСБМ, Ласт.). Аўтарства слова прыпісваецца Ластоўскаму, гл. Пацюпа ў Станкевіч, Язык, 1160. Відаць ад *спаборніцтва* ‘саперніцтва, змаганне, барацьба’, што з’яўляецца калькай рус. *соревнование* ‘тс’.

**Спава́га** ‘няспешна’ (Куч.), *спо́вага* ‘спакваля’ (ТС), *спава́гі* ‘паволі, няспешна’ (Барад.), *спава́гу* ‘паважна, салідна’ (Байк. і Некр.). Да *паважна, павага* (гл.).



**Спаві́нка** ‘вяроўка з трох і болей частак’ (Касп.). Да *спавіваць*, далей да *віць* (гл.).

**Спаві́ч** ‘доўгая вузкая палоска тканіны, якой спавіваюць маленькіх дзяцей’ (ТСБМ, Сцяшк., Сл. ПЗБ), *спавіч* ‘тс’ (Касп.); іншыя дыялектныя назвы: *спаве́яч* (Мат. Гом.), *спаві́вач* (ТС), *спаві́льнік* (Шатал.), *спаві́ч* (Жыв. сл.); апошняе таксама ‘палатно, якім пакрывала кума дзіця ў час хрышчэння’ (нараўл., Арх. ГУ). Да *спавіць, спавіваць* (ТСБМ, Ласт., Шымк. Собр., Байк. і Некр., Касп.) < *па-віць*. Тая ж семантыка ў рус. *сповива́льник*, чэш. *povijan* і г. д.

**Спавяда́ць** ‘выслухоўваць пакаянне ў грахах’ (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Сл. ПЗБ), ‘каяцца; лаяць, бэсціць’ (Юрч.), *спавяда́цца* ‘каяцца ў грахах’ (ТСБМ, Нас., Растарг., Ласт., Байк. і Некр.), *спо́ведзь* ‘пакаянне’ (ТСБМ, Нас., Ласт., Байк. і Некр., Сл. ПЗБ). Укр. *сповіда́ти, спо́відь*, рус. *испове́дывать(ся)*, стараж.-рус. *исповѣдовати*, польск. *spowiadać(się), spowiedź*, в.-луж. *spowědać so* ‘спавядацца’, *spowědź*, н.-луж. *spowědaś se, spowěź*, чэш. *zpovídat (se), zpověď*, славац. *spovedat (sa)*, серб.-харв. *исповедати (се)*, *ȉspovȇd*, славен. *spóvedovati (se), spóved*, балг. *изповя́дам, и́зповед*, макед. *исповедува, исповед*. Тэрмін хрысціянскай тэрміналогіі да прасл. **povědati* ‘паведаць, патлумачыць’ < **vědati* ‘ведаць’; усходнеславянскія, лужыцкія і паўднёваславянскія з **jьz-povědati*; *споведзь* < **jьzpovědь*; гл. Шустар-Шэўц, 1344–1345. У канфесійным значэнні калька лац. *con-fiteri* ‘прызнавацца’ (Басай–Сяткоўскі, Słownik, 334).

**Спага́да** ‘спачуванне, сімпатыя’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Стан., Варл.), *спага́д* (Стан.), *спагадзі́на* ‘тс’ (Барад.). Аддзеяслоўныя назоўнікі ад *спагада́ць* ‘адносіцца са спагадай, спачуваць, праяўляць літасць’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Арх. Федар., Касп., Пятк. 2, ТС), якое да прасл. **goditi* < **godina* (гл. *год*).

**Спада́к** ‘ніжняе бервяно драўлянага збудавання’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ), ‘падваконнік’, ‘насціл на санях’ (Сцяшк., Шатал., Сл. ПЗБ), ‘апорны палазок у плузе’, ‘нарог, які падразае зямлю’, ‘ніжні камень у жорнах’ (ТС, Сл. ПЗБ), ‘частка воза ў выглядзе кузава ці платформы’ (Скарбы). Да *спод* (гл.). Параўн. *сподак*.

**Спада́р** ‘гаспадар’ (Нас.), ‘госпад’, ‘гаспадар, пан’ (Стан.) сучасныя ветлівыя звароты *спада́р, спада́рыня* (ТСБЛМ; Беларусіка, 19, 224), ст.-бел. *сподарь* (Станкевіч, Язык, 651; Карскі, 1, 372),

9 Зак. 857

*сподарыня* (Ст.-бел. лексікон). Укр. *сподáрь* 'тс'. З *гаспадар* з адсячэннем *га-*; параўн. *спажа*. Этапы адпадзення фіксуюцца ў ст.-бел. *осподарь* (1407), *сподарь* (1489), *осповже* (1489), гл. Карскі 1, 371–372. Параўн. *спадáрка* 'гаспадарка' (навагр., Сл. рэг. лекс.)

**Спадзявáцца** 'мець надзею' (ТСБМ, Шымк. Собр., Касп., Федар. 4, Ласт., Растарг., Байк. і Некр., Сл. ПЗБ), *сподзевáцца* 'тс' (ТС), *сподзéцца* 'тс' (там жа), *спадзявáнне, спадзéя* 'надзея' (Нас., Ласт.). З польск. *spodziewać się* 'тс', якое з *s-po-dziewać*; аб корані гл. *надзея*. Карскі (1, 339) меркаваў пра ўстаўку *-в-* у сярэдзіне слова.

**Спáдкі** мн. л. 'маёмасць, якая пасля смерці ўладальніка пераходзіць у карыстанне каго-небудзь' (ТСБМ, Нас., Касп., Байк. і Некр., Нік. Очеркі, Сержп., Янк., Шат. Нар. сл.; в.-дзв., гродз., круп., докш., пруж., Сл. ПЗБ), 'рэчы, якія застаюцца пасля ад'езду гаспадароў з дому' (Сцяшк.). Ст.-бел. *спадокъ* 'спадчына' з ст.-польск. *spadek* 'тс' (Булыка, Лекс. запазыч., 78). Форма мн. л. ужо ў беларускай мове. Польск. *spadek* < *spaść* 'дастацца некаму ў спадчыну пасля памерлага' < *padać* (гл. *падаць*); гл. Борысь, 568. Гл. яшчэ Кюнэ (Poln., 98). *Спадкаéмец* 'той, хто атрымлівае спадчыну' (ТСБМ, Байк. і Некр.) (ад *спадкі* і *мець*) – калька польск. *spadkobierca* 'тс'.

**Спаднíца**, дыял. *станíца, сподніца,* 'жаночае адзенне, а таксама частка сукенкі ад таліі ўніз' (ТСБМ, Касп., Байк. і Некр., Шымк. Собр., Федар. 4, Ян., Сл. ПЗБ, ТС). Да *сподні* < *спод* (гл.) з суф. *-іц(а)*. З іншымі суфіксамі: *спóдне* 'бялізна' (Сл. Брэс.), *спадняк* 'хатняя спадніца з порту' (Інстр. 1), *спóднік* 'сподняя спадніца' (Жд. 1, Сцяшк.). Параўн. *ісподнік. Спадніца*, лічачы па акцэнтуацыі, можа быць запазычаннем з польск. *spódnica* 'тс'.

**Спадня́к** 'ніжні камень у жорнах' (Мат. Гом., Шатал., ТС). Праз прыметнік *сподні* да *спод* (гл.) з суф. *-ак*.

**Спадóба**: *да спадóбы (быць, прыйсціся)* 'спадабацца, быць каму-небудзь па гусце' (ТСБМ), 'густ' (Сцяшк.). Сюды ж *спадóбаць* 'упадабаць, пакахаць' (Ян.). З польск. *spodoba* 'тое, што падабаецца, на што ўказвае нацiск'.

**Спадóк** 'рыззё' (ТС). Дэрыват ад асновы цяперашняга часу дзеяслова *спасці, спаду* з суф. *-ок*. Тое, што *спадáе* 'скідваецца'.

**Спáдчына** 'маёмасць, гаспадарка, якая пасля смерці ўладальніка пераходзіць у чыю-небудзь уласнасць' (ТСБМ, Байк. і Некр., Гарэц.; мін., ЛА, 3; Касп.). Укр. *спáдщина* 'тс'. Беларуска-украінская інавацыя. Ад *спадкі* (гл.) з суф. *-ін(а)*.



**Спажá** 'Прачыстая (15/28 жніўня)' (Нас.; мядз., Жыв. сл.; віл., паст., шальч., Сл. ПЗБ), 'свята Спас' (Др.-Падб.). Рус. *спóжка* 'назва двух памінальных свят Багародзіцы 15 жніўня і 8 верасня'. Скарачэнне *госпожа* ў значэнні 'Багародзіца', параўн. стараж.-рус. *Госпожинъ день* 'Прачыстая'; гл. Фасмер, 3, 737. Параўн. *спадар* (гл.).

**Спажы́нкі** 'Прачыстая' (Нас.), *Спажынá* 'Спас (6/19 жніўня) (Сл. ПЗБ), *спажы́наўка* 'спасаў пост' (Касп.). Рус. зах., паўд. *спожи́нки* 'пост перад Прачыстай'. Паводле Фасмера (3, 737), з *госпожинки* ад *госпожа* 'Багародзіца' пад уплывам *спожин* 'свята ўраджаю, жніво'. Зблıжана з *дажы́нкі* 'канец жніва, свята ўраджаю', *спажы́ць* (Федар. 4), *спожы́ць* 'выкарыстаць' (ТС), *спажываць* 'карыстацца' (Сержп., Пятк. 2), параўн. няяснае *спажываць* 'перажываць' (Ян.).

**Спакваля́**, *спаквалá* 'пастунова, патроху, марудна, павольна' (ТСБМ, Гарэц., Шат., Бяльк., Сцяшк.), *споквоя часок приду* 'пачакаўшы' (Нас.), *споквалá, споклавá* 'тс' (ТС), *спахваля́* 'паволі, пастунова' (Касп.); з іншай прыстаўкай: *спракваля* (калінк., З нар. сл.), *спраквалá* (рагач., Сл. ПЗБ), *спраквóм* (Жд. 1). Рус. дыял. *спрохвалá* 'тс' з вядомай зменай *кв* > *хв*. Шуба (Прыслоўе, 127) мяркуе, што гэта прыслоўе ўзыходзіць да кораня *квол-* (гл. *кволы, кволіць*), канкрэтна – да назоўніка *паквóл (паквóль)*, існаванне якога пацвярджаецца прыслоўямі *паквóльна* 'вольна' (Кос.), укр. *паквóлом* 'павольна, марудна'. Хутчэй, гэта дзеепрыслоўе ад *паквóлець* 'рабіцца вальней', *сквóлець* 'аслабець', *паквóліць* 'пачакаць' (Нас.). Гл. *пакваля*.

**Спакóй** 'супакой, супакаенне' (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Федар. 4, Сл. ПЗБ), *спокóй* 'тс' (ТС), *спакóйны* 'ціхі, мірны' (ТСБМ, Байк. і Некр., Ласт., Сл. ПЗБ), *спокóйны* 'тс' (ТС). Укр. *спóкій*, польск. **spokój**, в.-луж. *spokoj*. Дэрыват з прыстаўкай *с-* ад прасл. **pokojь* 'мір, цішыня' (Борысь, 569). **Pokojь* звязаны з прасл. **počiti*, параўн. рус. *почи́ть* 'памерці', *почивáть* 'спаць', ст.-слав. **почити** 'адпачыць', славен. *počiti* і г. д. Гл. Фасмер, 3, 305; 347; Махэк₂, 468. Параўн. меркаванні Кохмана (Stosunki, 24), Віткоўскага (Słownik, 177) пра запазычанне з польскай, што патрабуе гістарычнай аргументацыі. Параўн. *адпачынак*.

**Спакóн** (веку) ‘спрадвеку’ (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Сержп. Прык.), *спакóну* ‘па прадвызначэнні’ (Гарэц.). Рус. *испокóн*, нар. *спокóн* ‘спрадвеку’. З стараж.-рус. *поконъ* ‘пачатак’ (Фасмер, 2, 141), гл. яшчэ *кон, канец*.

**Спакýса** ‘спакушэнне, прынада’ (ТСБМ, Ласт., Касп., Байк. і Некр.). Параўн. укр. *спокýса* ‘тс’. Аддзеяслоўны назоўнік ад *спакусíць* ‘прывабіць, схіліць, прынадзіць’ (Касп., Сержп.) паводле польск. *skusić* ‘тс’ і *pokusa* ‘прынада’, што да *kusić* з першасным значэннем ‘каштаваць, браць пробу’ < прасл. **kusiti*, параўн. укр. *скусúти* ‘прынадзіць, прывабіць’, рус. *искусúть* ‘паспрабаваць, даведацца’, ‘схіліць’, чэш. *zkusiti* ‘паспрабаваць, выпрабаваць’, славац. *skúsit*’ ‘тс’, н.-луж. *skušyś* ‘спрабаваць’, серб.-харв. *ìskusiti* ‘паспытаць, выпрабаваць’, балг. *изкуся* ‘тс’, макед. *искуси* ‘тс’, ст.-слав. **искоусити** ‘тс’, што ўзыходзіць да **jьzkusiti*, дзе *и* (насуперак Брукнеру, 235) мае першасны характар, паколькі **kusiti* з’яўляецца агульнаславянскім запазычаннем з гоц. *kausjan* (Басай–Сяткоўскі, Słownik, 318; ЭССЯ, 13, 135).

**Спанáтрыць** ‘унадзіцца’ (Жд. 2), ‘прызвычаіцца, прывыкнуць, прывучыць’ (Скарбы, Юрч.), ‘вынюхаць, адчуць карысць’ (Арх. Федар.), ‘разабрацца, зразумець праз пэўны час’ (ашм., Стан.), ‘здагадацца, скеміць’ (Варл., Сл. ПЗБ), *спанáтрываць* ‘разумець’ (Касп.), *спынутрувáцца* ‘ўнадзіцца’ (Бяльк.), *спанатравáць* ‘паназіраць’ (Сл. ПЗБ). Параўн. балг. дыял. *спантрéвам* ‘разумець’, адносіны да якога застаюцца няяснымі. Да *панатрыць* (гл.), няяснага паходжання. Аўтары Сл. ПЗБ (4, 529) параўноўваюць з польск. *spenetrować* ‘агледзець, высачыць’, што з лац. *penetrare* ‘пранікаць, дасягаць, урывацца’.

**Спанцы́рка** ‘верхняя жаночая кароткая вопратка’ (ТС). Відаць, праз польск. *spencer*, *spencerek* ‘кароткая куртка, каптан’, ням. *Spéncer*, *Spénzer* ‘жаночая кофта; вузкі каптан’. Запазычана з англ. *spencer* ‘куртка, кароткі сурдут’, што паходзіць ад імені лорда Спенсера, які ў 1796 г. увёў ва ўжытак такі тып адзення (Брукнер, 508; Фасмер, 3, 733; ЕСУМ, 5, 368).

**Спарнíца** ‘нарыў паміж пальцаў’ (шчуч., Сл. ПЗБ). Да *спарыць* < *парыць* (гл.) з суф. *-іц(а)*.

**Спарня́** ‘кавалак хлеба, які закопваюць у зямлю ў час дажынак, каб на будучы год быў добры ўраджай’ (паст., астрав., Сл. ПЗБ), ‘барада (абрад у час жніва)’ (вілен., ЛА, 3), ‘спор’ (брасл., Сл. ПЗБ), ‘прыбытак’ (Касп.). Да *спарыць* ‘добра расці (пра збожжа)’ (Жд. 2), *спор, споры* (гл.).



**Спарóміць** ‘падганяць, прыскорваць’, *спарóміцца* ‘спяшацца’, ‘паспяваць, упраўляцца’ (Нас.), ‘назапашваць, збіраць; запасіць’, *спóрам* ‘назапашванне’ (Ласт.). Відаць, да *спор*, у аснове дзеепрыметнік на *-ом* ад *спарыць* ‘памнажаць, прыбываць’ (Нас.).

**Спарóн** ‘выкідыш, аборт’ (Ласт., Байк. і Некр.). Аддзеяслоўны назоўнік ад *спараніць* ‘скінуць’ (Ласт.), што да *раняць* (гл.).

**Спáрта** ‘драсён, Polygonum L.’ (Мат. Гом.). Відаць, да *спор*$_1$, але словаўтварэнне няяснае.

**Спарýда** ‘пабудова; гмах будынка’ (Беларусіка, 19, 225). З укр. *спорýда* ‘будыніна’, ад *спорýдити* ‘збудаваць, узнесці’, што да прасл. дыял. **vъz-po-rǫditi*, якое чаргуецца з **vъz-po-ręditi*, параўн. рус. *соорудить* ‘тс’ (ЕСУМ, 5, 381). У сувязі з гэтым, застаюцца сумненні адносна балтыйскага паходжання ўсх.-слав. *аруд* (гл.), ст.-бел. *орудъ* ‘засек’, выказаныя Супруном (ЭСБМ, 1, 152), на фоне ст.-рус. *орудница* ‘кладоўка зброі’, укр. дыял. *оруда* ‘праца’ і пад., на якім настойвае Анікін, Опыт, 90. Параўн. таксама *рад*$_1$.

**Спарыжавáць** ‘паралізаваць’ (Скарбы, Жд. 2), *спарыжувáць* ‘тс’ (Мат. Гом.), *спарыжовáць* ‘тс’, *спарыжóваны* ‘паралізаваны’ (ТС). Дэфармаванае *спаралізавáць* ‘прывесці ў стан паралічу’, *спаралізавáны* ‘пазбаўлены руху’ (ТСБМ) ці, хутчэй, польск. *sparaliżować*, *sparaliżowany* ‘тс’. Гл. *параліч*.

**Спарыння́** ‘паразітны грыб на збожжы, Claviceps purpurea Tul. (L.)’ (ТСБМ), *спары́ня, спарыня́, спары́ння* ‘тс’ (Шчарб.; шчуч., мядз., глыб., в.-дзв., Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *споринья́* ‘тс’, рус. *спорынья́* ‘тс’, ‘поспех, працвітанне, прыбытак’, стараж.-рус. *спорыня* ‘багацце, лішак; ураджай’. Да *спор*$_1$. Паводле Трубачова (гл. Фасмер, 3, 738), пераход да значэння ‘спарынне’, мабыць, меў эўфемістычны характар, хутчэй за ўсё, на базе знешняга падабенства зросшыхся каласоў (гл. *спор, спарыш*) з каласамі, заражанымі Claviceps purpurea.

**Спарыня́** ‘прывітанне з пажаданнем спору’ (Варл.). Да *спор*$_1$, *спорны* (гл.).

**Спары́ш**$_1$ ‘два спараныя прадметы (пра плады, расліны і пад., якія зросліся)’ (ТСБМ, Касп., Бяльк., Шат., Байк. і Некр., Др.-Падб., Мядзв., Рам., 8, Жыв. сл., Сл. ПЗБ), ‘дзве-тры баразны бульбы (часцей пры мяжы), недастаткова аддаленыя адна ад другой, каб

зрабіць радкі' (Лекс. і грам., 15; Сцяшк.), 'гліняныя гаршчочкі, злучаныя разам' (Касп.; в.-дзв., Шатал.; Сцяшк.), *спарышы* 'зросткі (агуркоў)' (Мат. Гом.), *спарышка* 'спараныя каласкі, дрэвы, агуркі і інш.' (Сл. ПЗБ). Рус. *спорышка* 'арэх-двайчатка', *спорина* 'тс'. Да *спор*$_1$, *споры* (гл.). З ад'ідэацыяй да *пара*$_2$ (гл.), параўн. *спарыкоўваць* 'аб'яднаць разам, злучыць' (ТС).

**Спарыш**$_2$ 'аднагадовая расліна сямейства драсёнавых' (ТСБМ), *спарышнік* 'расліна драсён, Polygonum L.' (Кіс., Касп., ТСБМ), 'канюшына раллявая, Trifolium arvense' (Кіс.). Укр. *спориш*, рус. *спорыш* 'расліна Polygonum aviculare', польск. *sporysz* 'тс', в.-луж. *sporušk*, н.-луж. *spóriš* 'вярбена', чэш., славац. *sporyš* 'вярбена', серб.-харв. *спориш* 'крываўнік, Axillea L.', славен. *sporíš* 'вярбена', балг. *спореш* 'крываўнік'. Прасл. **sporyšь*, гл. *спор*$_1$, *споры*; абазначала расліны, якія маюць вялікую колькасць насення або даюць вялікі прырост. Гл. Міклашыч, 318; Фасмер, 3, 738; Махэк$_2$, 571; Бязлай, 3, 300; Шустар-Шэўц, 1343; ЕСУМ, 5, 380.

**Спарыш**$_3$ 'спарынне' (Выг.; нараўл., Сл. ПЗБ). Гл. *спарыння*.

**Спарыш**$_4$ 'міфічная істота ў выглядзе чорта ці птушкі, што прыносіць багацце або садзейнічае чараўнікам' (Суднік, Дыялекты, 199; кам., Жыв. НС), *спарышка*: *taki klicz abo dumka* (ад згадвання якіх справы папраўляюцца) (Пятк. 2). Да *спор*$_1$ 'прыбытак, удача, поспех'. Адносна семантыкі гл. Валодзіна, Бел. міф.$_2$, 485–486.

**Спас**$_1$ 'Збавіцель; адна з назваў Хрыста', 'назва кожнага з трох асенніх царкоўных свят' (ТСБМ), 'Спас, свята 6/19 жніўня' (Шат., Сл. ПЗБ, Жыв. сл.), *Спас* 'імя аднаго са святых' (Пятк. 2, Федар. 4), *іспас* 'свята' (Серж. Прымхі), *спасіцель* 'тс' (Ян.), сюды ж *спасаўка* 'пост перад Спасам' (ТСБМ, Касп., Байк. і Некр., Скарбы, Ян., Сл. ПЗБ), 'сорт груш (яблык), якія паспяваюць перад Спасам' (ТСБМ), *спасоўка* 'тс' (ТС), 'двухтыднёвы прамежак часу перад і пасля Спаса' (ТС), *спасоўкі* 'восеньскія мухі' (Сл. ПЗБ), ст.-бел. *Спас* 'Збавіцель, Хрыстос'. Укр. *Спас* 'Збавіцель', *спасівка* 'пост у канцы лета', 'сорт яблык (груш)', рус. *Спас* 'Збавіцель, Хрыстос', адкуль *Спасов день*, стараж.-рус. *Съпасовъ дьнь* (6 жніўня); таксама рус. *Спас* 'свята (6/19 жніўня). Ад ст.-слав. **съпасъ** < **съпасти** 'берагчы, ратаваць', стараж.-рус. *съпасти* 'выратаваць' < прасл. **pasti* 'пасвіць; берагчы'; гл. Фасмер (3, 732), які адзначае тут кальку грэч. σωτήρ 'Збавіцель'. Гл. таксама ЕСУМ, 5, 366.



**Спас**$_2$ 'ратунак, выратаванне' (Жд. 3, Ян., Шатал., ТС). Скарочана з *спасенне (спасенье)* (ТС, Нас., Шат., Гарэц.) ад *спасці* 'выратаваць' (Сл. ПЗБ), што праз царкоўнаславянскую з ст.-слав. **съпасти**. Гл. папярэдняе слова.

**Спасны** 'адкормлены' (Выг., Сл. Брэс.), 'непераборлівы і добры да яды' (ТС; лун., Шатал.; Сл. Брэс.,Жыв. сл., ЛА, 4, Скарбы), 'вынослівы' (Мат. Гом.). Дэрыват ад асновы цяп. ч. дзеяслова *спасвіць – спасу* з суф. *-н(ы)*. Але *спаслы* 'тлусты, адкормлены' (Жд. 1), 'вынослівы' (брасл., Сл. ПЗБ), аўтары слоўніка (там жа, 4, 533) лічаць паланізмам, параўн. польск. *spasły* 'адкормлены, сыты, тлусты'. Магчыма, палес. *спасны* паходзіць з той жа польскай крыніцы з заменай *-л-* на *-н-*.

**Спасоб'е** 'дапамога' (Шат.), 'пенсія' (Янк., Мат. Гом.). З рус. *пособие* 'дапамога'; параўн. *пособа* 'дапамога, падтрымка' (Нас.). З выразу **po sobě* (гл. *сябе*); гл. Фасмер, 3, 340.

**Спасобіць** 'садзейнічаць, дапамагаць', *спасабляць* (Нас.). Да этымалогіі гл. *пасабіць*.

**Спатакаць** 'набыць з цяжкасцю, так-сяк' (лаг., Стан.; Варл.), *спотакаць* 'зладкаваць, зрабіць' (ТС). Семантычна немагчыма вывесці з *патакаць* 'патураць' (гл.). Ад займенніка *так*, магчыма, праз дзеяслоў **такаць* з шырокай семантыкай, што замяшчае шырокі спектр канкрэтных значэнняў, параўн. балг. *таковам* 'нешта рабіць' і пад. Параўн. таксама рус. *такать* 'гнаць, падганяць', што звязана з **točiti*, **tekti*, гл. наступнае слова (гл. Фасмер, 4, 12). Аднак пры гэтым застаюцца значныя семантычныя цяжкасці.

**Спатачаваць** 'сачыць, падглядваць; выкрываць, лавіць (на чым-небудзь); разумець' (Нас., Стан.). Насовіч (Нас., 608) выводзіў з **tekti* 'бегчы, рухацца', гл. *уцякаць*. Няпэўна. Магчыма, ітэратыў да папярэдняга слова. Тады да *такаць* 'паддакваць, пагаджацца', параўн. рус. *такать* 'тс', *тачить* песціць, апекавацца', балг. *тача* паважаць, шанаваць', гл. *так* (Трубачоў у Фасмер, 4, 29).

**Спаткаць** 'выйсці насустрач, сустрэць' (ТСБМ, Нас., Касп.; ашм., Стан., Бяльк., Сл. ПЗБ, Рам. 6), *спатыкаць* 'сустракаць' (ТСБМ, Нас., Ласт., Байк. і Некр., Касп., Барад., Бяльк., Сл. ПЗБ). Прыставачнае ўтварэнне ад *паткаць*, *патыкаць* 'сустрэць, сустракаць' (гл.).

**Спаты́чка** ‘(нечаканая) сустрэча’ (Нас., Байк. і Некр.), ‘сутычка, сварка’ (Нас., Сл. ПЗБ). Утворана ад *спатыкаць* (гл. *спаткаць*) па ўзору польск. *potyczka* ‘тс’ або непасрэдна ад польск. з прыст. *с-*.

**Спахо́вы** ‘адхоны, адлогі’ (ПСл, Сл. ПЗБ, ЛА, 2), ‘пахілы’ (беласт., Лапіч, Term. geogr.), *спахова́ты* ‘тс’ (ЛА, 2), *спахо́вісты* ‘тс’ (Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *спахо́вий, спахова́тий, спахова́стий* ‘пахілы, спадзісты’, польск. дыял. *spachowy, spachowaty* ‘тс’. Няясна. Магчыма, да *спаха́ць* ‘выпрацаваць да канца’, *спаха́ны* ‘спрацаваны, сцёрты’ (ТС), што да *пахаць* (гл.) – тады ‘згладжаны’, параўн. *спахо́мы* ‘пакаты’ (Сцяшк. Сл.) – дзеепрыметнік ад *спахаць*? Сюды ж, відаць, і *спахало́вы* ‘псіхічна хворы’ (там жа). Параўн. польск. *pachać* ‘мясці, зграбаць’ (Варш. сл.). Параўн. ЕСУМ, 5, 382 (мяркуюць пра кантамінацыю тыпу *спуск* з *пахілы*).

**Спахо́мы** ‘пакаты (бераг)’ (Сцяшк. Сл.). Няясна; параўн. польск. *pachać* ‘капаць; зразаць’ (Фасмер, 3, 220). Гл. *пахаць*.

**Спа́цыр** ‘прагулка’ (Скарбы). Праз польск. *spacer* ‘тс’ і, магчыма, ід. *Spacir* ‘тс’ (Шульман, Полымя, 1926, 8, 212) з ням. *Spazier* ‘тс’. Гл. *шпацыр*.

**Спаць** ‘знаходзіцца ў стане сну, спячкі’ (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк., Бяльк.; ашм., Стан.; Сл. ПЗБ, ТС). Параўн. укр. *спа́ти*, рус. *спать*, стараж.-рус. *спати*, польск. *spać*, в.-луж. *spać*, н.-луж. *spaś*, чэш. *spat*, славац. *spat'*, серб.-харв. *спа̏ти*, славен. *spáti*, балг. *спя*, макед. *спие*, ст.-слав. **съпати**. Прасл. **sъpati* (ад **sъ(p)nъ* ‘сон’), роднаснае ст.-інд. *svápiti, svápati* ‘ён спіць’, англ.-сакс. *svefan* ‘спаць’, ст.-ісл. *sofa* ‘тс’, лац. *sōpiō* ‘усыпляць’; гл. Фасмер 3, 732–733 з літ-рай; Глухак, 571. Гл. таксама Борысь (568), які славянскае слова і роднасныя ўзводзіць да і.-е. кораня **suep-/*sūp-* ‘спаць’. Гл. таксама *сопці, сапці*; паводле Сноя (SR, 36, 1, 107), значэнні ‘спаць’ і ‘дыхаць, сапці’ развіліся ў корані і.-е. **suep-* вельмі даўно, бо ў праславянскі перыяд матывацыя ‘дыхаць’ > ‘спаць’ не была ўжо актуальнай.

**Спа́чча** ‘здарэнне’ (Бяльк.). Ад *спадаць* (**спад-ча*?), параўн. кантэкст: *такая спачча: з крышы забіцца* (там жа).

**Спень** ‘шпень, кароткі выступ, завостраная кароткая палачка і інш.’ (ТС), укр. дыял. *спінь* ‘востры канец верацяна’. Апошняе, паводле Трубачова (Ремесл. терм., 100; Труды, 1, 778), роднаснае н.-луж. *špeńc* ‘стрэмка, асцюк, калючка, жала, страла, расток’ < **spěnьcь, *spьnьcь* < прасл. дыял. **spьnь, spinь*, што звязана з лац. *spīna* ‘іголка, шып’, *spīnus* ‘цёран’. Можа паходзіць таксама з рум. *spin* ‘калючка, іголка’ (ЕСУМ, 5, 374). Гл. аднак *шпень* ‘штыр, стрыжань’, ‘вастрыё ў верацяне’, *шпе́ніць* ‘шчыльна састаўляць’, якія несумненна да польск. *śpień* ‘злучэнне, запанка’, параўн. *шпо́нка* ‘драўляны шып, якім замацоўваюцца дошкі’ (Ян.), што, хутчэй за ўсё, звязана з ням. *Spahn* ‘трэска’. Няясна, магчыма, вынік налажэння семантыкі розных па паходжанні слоў.

**Спех** ‘паспешлівасць, спешка’ (ТСБМ, Бяльк, Барад.), ‘поспех, спор’ (Нас., Байк. і Некр., Сл. ПЗБ), ‘хуткасць, поспех’ (ТС). Параўн. укр. *спіх*, рус. *спех, успе́х*, польск. *śpiech*, в.-луж., н.-луж., чэш. *spěch*, славац. *spech*, славен. *spẹh* ‘паспешлівасць; працвітанне’, балг., макед *спех*, ст.-слав. **спѣхъ** ‘паспешлівасць, прага’. Прасл. **spěхъ*. Да *спець* (гл.). Параўн. лац. *spēs*, мн. л. *spērēs* ‘чаканне; надзея’ У праславянскай чакалася б **spěs-*; канчатковае *-х* тлумачыцца аналогіяй: **spěхъ*: **spěti*, як **grěхъ*: **grěti*; гл. Фасмер, 3, 734 з літ-рай; Сной, 700; Шустар-Шэўц, 1138–1139.

**Спець** ‘рабіцца спелым, выспяваць (пра гародніну, злакі і пад.)’ (ТСБМ, Ласт., Сл. ПЗБ, ТС). Параўн. укр. *спі́ти*, рус. *спеть*, стараж.-рус. *спѣти* ‘спяшацца, імкнуцца, садзейнічаць’, польск. *śpiać* ‘спяшацца, наганяць’, в.-луж. *spěć* ‘удавацца’, чэш. *spěti* ‘спяшацца’, славац. *spiet'* ‘тс’, серб.-харв. *до́спијети* ‘даспець, паспець’, славен. *spéti* ‘спяшацца, спець’, балг. *спе́я* ‘спець’, ст.-слав. **спѣти, спѣѭ**. Прасл. **spěti, *spěję* ‘спець; спяшацца; дасягаць’ роднаснае літ. *spė́ti* ‘паспяваць; мець час, мець вольны час’ лат. *spēt* ‘пераадольваць, магчы’, ст.-інд. *sphāyāte* ‘ён працвітае, сыцее’, ст.-в.-ням. *spuoten* ‘спяшацца’, лац. *spatium* ‘прастора, працягласць’, да і.-е. **spe-* ‘удавацца, добра расці’. Гл. Покарны, 983; Траўтман, 274; Фасмер, 3, 734 з іншай літ-рай; Шустар-Шэўц, 1338; Бязлай, 3, 297; Борысь, 619; ЕСУМ, 5, 375–376. Уваходзіць у гняздо прасл. **spěхъ* (гл. *спех*), **spěšiti* (гл. *спяшацца*), **sporъ* (гл. *спор*[1]).

**Спіж** ‘медзь, медзяны посуд’ (Нас., Ласт., Байк. і Некр., Гарэц.); сюды ж *спіжо́вы* ‘медны’ (Нас.): *звинять званочкі спіжовыя* (гарад., Рам. 8). З польск. *spiż, śpiż*, радзей *śpiża* ‘медзь, бронза для пасуды або званоў’, якое з с.-в.-ням. (*glocken*) *spise* ‘медзь



9а Зак. 857

(для званоў)'; гл. Карскі, Белорусы, 163; Кюнэ, Poln., 99. Ст.-бел. *спижа*, *пижа*, *спижъ* 'прадукты харчавання', 'бронза', гл. Булыка, Лекс. запазыч., 189; але ст.-бел. слова аб'яднала значэнні ст.-польск. *śpiża* 'медзь' і *spiża* 'прадукты харчавання' (гл. наступнае). Аб польскім слове гл. Борысь, 568.

**Спіжа́к** 'каструля з ручкай' (Сцяшк. Сл.). Да *спіж*, гл.

**Спіжа́рня** 'кладоўка, камора' (ТСБМ, Ласт., Касп., Нас., Булг., Касп., Сл. ПЗБ, ЛА, 4), 'варыўня' (Гіл.), ст.-бел. *спижарня* 'кладоўка, памяшканне для захавання харчовых прадуктаў'. З польск. *spiżarnia* 'тс' (Карскі, Белорусы, 163; Кюнэ, Poln., 99), якое ад ст.-польск. *spiża* 'прадукты, харчаванне', запазычанага з ст.-в.-ням. *spîse* 'яда, харчаванне, правіянт; хатняя гаспадарка', сучаснае ням. *Speise* 'яда, харчаванне', што ўзыходзіць да с.-лац. *spesa* < *spensa* < лац. *expēnsa* (*pekunia*) 'выдатак, кошт'; гл. Борысь, 568.

**Спі́на** 'задняя (у жывёл – верхняя) частка тулава' (ТСБМ, ТС; лід., карэліц., мін., Сл. ПЗБ; браг., Шатал.), *спі́на* 'хрыбет' (Пятк. 2), 'вільчык' (Сл. ПЗБ); таксама *спіна́*, *спэна́* 'спіна', 'прадаўгаватая горка' (ТС). Укр. *спи́на*, рус. *спина́* 'спіна'. Лічыцца запазычаннем праз ст.-польск. *spina* 'хрыбет' (параўн. націск) з лац. *spīna* 'спінны хрыбет, пазваночнік'; гл. Міклашыч, 318; Брукнер, 509. Фасмер (3, 735) прапаноўвае яшчэ бачыць роднасць з лат. *spina* 'прут', лац. *spīna* 'цёран; шып, хрыбет', ст.-в.-ням. *spinula* 'шпілька', тахар. А *spin-* 'крук, колышак', с.-н.-ням. *spîle* 'ражон'. Гл. яшчэ ЕСУМ, 5, 371; Трубачоў, Проспект, 81.

**Спіра́ць**$_1$ 'перыць' (Сцяшк. Сл.; слонім., Сл. ПЗБ). Да *перыць*, *праць* з галоснай у ступені падаўжэння.

**Спіра́ць**$_2$ 'спіхваць, зганяць' (Нас.), 'сціскаць (ад холаду)' (шчуч., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *спирати* 'адвесці ад уладання, пазбавіць праваў', 'не пагаджацца, пярэчыць' (Ст.-бел. лексікон). Паводле Брукнера (442), адбыўся перанос дзеяння з фізічнага ў маральны план, у выніку апошняе значэнне стала пераважаць, параўн. *спіра́цца* 'спрачацца, супраціўляцца' (Нас., Ласт.), 'вясці слоўную спрэчку' (Варл.), ст.-бел. *спиратися* 'спрачацца, пярэчыць' (Ст.-бел. лексікон), гл. *спор*$_2$. Апошняе значэнне ўжо праславянскае, параўн. укр. *спира́тися* 'спрачацца, праяўляць упартасць', польск. *spierać się* 'тс', ст.-слав. **пьрѣник** 'спрэчка' і інш. Усё да *перці*, гл.

**Спірт** 'алкаголь, гаручая вадкасць' (ТСБМ, Байк. і Некр.), *спі́ртус* 'тс' (Стан., Некр. і Байк., Сержп.), *спіры́т* 'тс' (Стан.).



Запазычана праз польск. *spirytus* 'тс' і рус. *спирт* 'тс' ці непасрэдна з старога ням. *Spirit* 'тс', што з лац. *spīritus* 'дух', ад *spīrāre* 'дыхаць'; пераход 'дух' → 'алкаголь' адбыўся ў жаргоне алхімікаў (Сной$_2$, 738). Гл. Брукнер, 509; Фасмер, 3, 735; ЕСУМ, 5, 372.

**Спі́ца** 'адзін з драўляных або металічных стрыжняў, які злучае калодку кола з вобадам' (ТСБМ, Бяльк., Маш., Маслен., Дэмб. 2, Пятк. 2, Сл. ПЗБ, ТС), 'стрыжань' (ТСБМ), 'шыла для пляцення лапцей' (ТСБМ, Бяльк., ЛА, 4, Сл. ПЗБ), 'стрэмка', 'драўляны цвік, якім змацоўваюць бярвенні', 'калок, які забіваюць у хвою пад борць; спічак, на якім трымаецца ў вуллі вашчына і пад.' (ТС). Укр. *спи́ця*, *шпи́ця*, рус. *спи́ца*, ст.-рус. *стъпица* 'ткацкі чаўнок; кол', *стьпи́ца*, польск. *szpica*, *śpica*, в.-луж. *stpica*, *stwica*, чэш. *špice*, н.-луж. *špica*, ст.-чэш. *stpica*, славац. *spica*, серб.-харв. *спи̏ца*, славен *špíca* 'спічак, стрыжань'. Прасл. дыял. **stьpica* 'тонкі кавалак дрэва', 'спіца ў коле' роднаснае лат. *stups*, *stupe* 'памяло', *stupas* 'пух; дробныя галінкі', ст.-інд. *stupes* 'чуб', грэч. στοπός 'палка, ручка, сцябло'; праславянскі дыялектызм набліжаюць да літ. *stìpinas* 'спіца', мн. л. *stipinaĩ* 'падпоркі ў саней', *stiprùs* 'моцны, здаровы', лат. *stiprs* 'тс', с.-в.-ням. *stīf* 'жорсткі; прамы'. Гл. Траўтман, 287; Махэк$_2$, 621; Мюленбах–Эндзелін, 3, 1108; Фасмер, 3, 735; Шустар-Шэўц, 1362. Параўнанне ці вывядзенне з ням. *Spitze* 'вастрыё' (Міклашыч, 317; Карскі, Белорусы, 157) або з ням. *spitz* 'востраканцовы' (Праабражэнскі, 2, 365) Фасмер (тамсама) лічыць беспадстаўным; гл. таксама Скок, 3, 310; Бязлай, 4, 98–99. Сяткоўскі (Басай–Сяткоўскі, Słownik, 330) дапускае змяшэнне **stъpica* 'спіца ў калясе', 'калок' з запазычаннем з нямецкай. Сюды ж *спі́цка* 'касцяное шыла для падплятання лапцей' (Касп., ЛА, 4), *спіця́к* 'тс' (ЛА, 4), 'малаток для драблення камянёў' (Скарбы).

**Спіча́к** 'верхняя завостраная частка чаго-небудзь', 'шпіль на будынку', 'плоскае выгнутае шыла для падплятання лапцей' (ТСБМ), 'верцел' (Гарэц.), 'невялікі шчупачок', 'стары лось' (ТС), *спіча́сты* 'востраканцовы' (ТСБМ, Касп., Сл. ПЗБ). Да *спіца*; значэнні пад уплывам польск. *szpic*, ст.-польск. *szpica*, *śpica*, якое з ням. *Spitze* 'вастрыё'; чэш. *špice* 'тс'; гл. Брукнер, 553; Борысь, 606; Махэк$_2$, 621; *спіча́сты* з польск. *spiczasty*, *szpiczasty* < *szpica*, гл. Кюнэ, Poln., 98.

**Спла́вы** ‘матачнае кровацячэнне’ (Арх. Федар.; паст., Сл. ПЗБ), ‘выдзяленні (у жанчын)’ (іўеў., Сл. ПЗБ). Блізкае славен. *splȃv* ‘аборт’, паводле Сноя$_2$ (685), да прасл. **jьzplavъ*, аддзеяслоўнага назоўніка ад **jьzplaviti* ‘сплавіць’. Суфіксальны дэрыват ад *плавіць* (гл.), параўн. *аплавы*.

**Спле́нье**, *сплёнка* ‘традыцыйнае асенняе свята’ (ТС), *спле́не* ‘Прачыстая (15 жніўня ст. ст.)’ (ганц., гарад., Сл. ПЗБ), *сплынне́* ‘тс’ (Клім.). З *Успеніе* ‘Прачыстая’; *-л-*, магчыма, пад уплывам формы 1 ас. адз. л. дзеяслова *спаць – сплю*.

**Спля́таць**, *сплята́цца* – дзеясл. незак. тр. да *сплесці* < *плесці* (гл.)

**Спо́ведзь**. Гл. *спавядаць*.

**Спо́гадзь** ‘спагада’ (ТСБМ, Гарэц., Чач.; слуц., Дасл. бел.-рус., 1960, 111). З польск. *spogodź* ‘тс’; аднак магчыма і самастойнае ўтварэнне паводле характэрнай мадэлі тыпу *загарадзь*, *пожадзь* і пад., гл. Пацюпа, Arche, 2007, 3, 200.

**Спод** ‘ніз, ніжняя частка чаго-небудзь; бок прадмета, процілеглы яго верху; дно чаго-небудзь; адваротны бок (тканіны, аркуша і пад.)’ (ТСБМ, Нас., Гарэц., Байк. і Некр., Шат., Касп., Бяльк., ТС), ‘под печы’ (Сл. ПЗБ, Бяльк.), ‘падэшва’, ‘насціл’ (Сл. ПЗБ), ‘з-пад’ (ТС), ‘ніц, адваротны бок тканіны’ (Гарэц.), *спо́дак* ‘ніз’ (Нас.), сюды ж *спо́дні* ‘ніжні’ (Нас.), ‘іспадні, нацельны’ (Байк. і Некр.), *сподо́ве* ‘ніжні слой сена, саломы ў стагу, скірдзе’ (Сл. Брэс.). Укр. *спід, спо́ду*, рус. *испо́д*, стараж.-рус. *исподъ*, польск. *spód*, в.-луж. *spód*. З **jьzpodъ* ад прасл. **jьz* ‘з’ і **podъ* (гл. *под*); Борысь, 570. Гл. *іспод*; сюды ж *спо́дкі, спо́дка* ‘вязаныя рукавіцы’ (Касп., Сл. ПЗБ, Бяльк.), гл. таксама *іспадка, іспо́дні* (дыял. *спо́нні, спудо́ні*).

**Спо́дак** ‘невялікая талерка з паднятымі берагамі, на якую ставіцца кубак або шклянка’ (ТСБМ, Касп., Ласт., Сл. ПЗБ, Байк. і Некр., ЛА, 5). З польск. *spodek* ‘тс’.

**Спо́дні** ‘які размешчаны ўнізе’, ‘які надзяваецца пад іншае адзенне або непасрэдна на цела; ніжні (пра бялізну)’ (ТСБМ, Нас., Касп.) Гл. *ісподні*.

**Спол** ‘чарпак для вылівання вады з лодкі’, *спо́лік* ‘тс’ (ТС; жытк., Нар. словатв.; Маш.), укр. *шпол* ‘шуфель, драўляны чарпак для вылівання вады з лодкі’, *шпо́ла* ‘шуфлік’, польск. *spółek*, *spółka* ‘шуфлік, драўляная лапатка для вылівання вады з лодкі’, *spułek* ‘тс’, каш. *spòłk*, *špòl* ‘тс’, серб.-харв. дыял. *ìspol*, *ìspō*, *ìspolac* ‘тс’, балг. дыял. *и́зпол* ‘тс’, макед. *и́спол* ‘тс’. Прасл. **jьspolъ*, варыянт **jьspola* ‘драўляная лапатка, шуфлік’ ад дзеяслова **polti* ‘прыводзіць у рух, махаць чым-небудзь, падкідваць нешта’, з якога ў выніку спецыялізацыі развіліся значэнні ‘ачышчаць збожжа, правейваць’ (гл. *палаць*) і ‘выплюхваць, выліваць ваду з чаўна, лодкі’, што дае падставы для рэканструкцыі дзеяслова **jьz-polti* ‘тс’ (Міклашыч, 259; Скок, 2, 594–595; Борысь, Etymologie, 552–557).



**Спо́лка** ‘суполка, таварыства’ (Скарбы). З польск. *spółka* ‘тс’; параўн. *суполка* (гл.).

**Спо́льга** ‘спакой, спачынак’ (Ян.). Да *польга* ‘тс’, гл. *польза*.

**Спо́на** ‘перашкода’ (Нас.), *спо́нкі* ‘запінкі’ (навагр., Нар. сл.), *спо́нка* ‘запінка’ (лях., Сл. ПЗБ), ‘кнопка’ (Сцяшк. Сл., Жд.), ст.-бел. *спонъка* ‘аплятанне’ (Ст.-бел. лексікон). З польск. *spona, spina* ‘засцежка, пражка’, якое працягвае прасл. **spona*, параўн. укр. *спона, спі́на* ‘тс’, чэш. *spona* да прасл. **sъpinati*, дзеяслова з ступенню падаўжэння ў корані, польск. *sponki* ‘бранзалеты’ (Брукнер, 510). Да *пяць, -пінаць*, якое, напрыклад, у *запінацца* з чаргаваннем.

**Спор**$_1$ ‘удача, поспех у чым-небудзь’ (ТСБМ), ‘карысць, пажытак’ (Ласт.), ‘прыбытак; поспех’ (Нас., Гарэц.), *спор (спорь)* ‘ураджай’ (Пятк. 2), параўн.: “wiedźmy… łopatą dǝ pieczenia chleba biorą spór z żyta” (Маш., 221), *спор, спара́* ‘памнажэнне, павелічэнне’: “Спор табе ў дзяжу! Спор вам на хлеб” – прыгаваруюць, каб не мінаўся хлеб” (мін., чэрв., рагач., Сл. ПЗБ), ‘дастатак’: *въ гумнѣ спора* ‘пажаданне пры ўлазінах’ (мазыр., Яшк. Мясц.), ‘пажаданне ў рабоце’ (ЛА, 5), *спо́рны* ‘выніковы, паспяховы’, ‘эканомны, шчодры’, ‘густы (пра дождж, снег)’ (Нас., ТСБМ, Шат., Гарэц., Сл. ПЗБ, ТС). Параўн. укр. *спо́рий* ‘выніковы, паспяховы’, *спориня́* ‘поспех, прыбытак, рост’, рус. *спо́рый* ‘тс’, *спорынья́, спорина́* ‘прыбытак, рост’, стараж.-рус. *спорь* ‘багаты’, польск. *spory* ‘не малы, дастаткова вялікі’, в.-луж., н.-луж. *spóry* ‘багаты, шчодры’, чэш. *sporý* ‘выніковы, моцны’, славац. *sporý*, серб.-харв. *спо̏р* ‘павольны, працяглы’, славен. *spòr* ‘багаты, пажыўны’, балг., макед. *спор* ‘прыбытак; ураджай’. Прасл. **sporъ* ‘выдатны; багаты; пажыўны’ з’яўляецца прыметнікам ад прасл. **spěti* ‘спець’ (гл.) з суф. *-r-*. Мае адпаведнікі ў ст.-інд. *sphirás* ‘сыты; багаты’, лац. *prosper* (**prosparos*) ‘шчаслівы; спрыяльны’, ст.-ісл. *sparr* ‘ашчадны; пашкадаваны’. Іншая апафанічная ступень у прасл.

*spěti (гл. *спець*). Гл. Фасмер, 3, 737 з іншай літ-рай; Скок, 3, 313; Махэк₂, 570–571. Шустар-Шэўц (1343–1344) узнаўляе прасл. наз. **sporъ* 'прыбытак, ураджай' і прым. **sporъ-jь* 'спорны, паспяховы'. Гл. яшчэ Варбат, Этимология–1965, 120; Тапароў, Этимология–1980, 652; ЕСУМ, 5, 380.

**Спор₂** 'сварка, спрэчка' (Бяльк.), *спор, спо́рка* 'супраціўленне' (Нас.), *спор, спо́рка* 'сварка, спрэчка' (ТС), *спо́рыць* 'спрачацца' (паст., смарг., Сл. ПЗБ; ТС), *спо́раць* 'ісці ў заклад' (в.-дзв., Сл. ПЗБ), *спо́рыцца* 'спрачацца' (Шат.; віц., Сл. ПЗБ; Бяльк.), *спо́роваць* 'тс' (Нас.), *спо́рываць* 'тс' (Касп.). Укр. *спір, спо́ритися* 'спрачацца', рус. *спор, спо́рить*, стараж.-рус. *съпоръ*, польск. *spór*, чэш., славац. *spor*, серб.-харв. *спо̑р* 'спор; судовы працэс', славен. *spór* 'спрэчка'. Прасл. **sъporъ* аддзеяслоўны назоўнік ад прасл. прэфіксальнага дзеяслова **sъ-perti sę* < прасл. **perti* (гл. *перці*) (Борысь, 570–571; Фасмер, 3, 737). Параўн. *спіраць*, гл.

**Спор₃** 'чорнае зерне ў коласе' (ТС, Выг., ЛА, 5). Этымалагічна тое ж, што і *спор₁*. Параўн. *спарыння, спарыш₃*.

**Спо́рнік** 'дамавік, які прыносіць спор' (іўеў., Сл. ПЗБ). Да *спор₁* (гл.).

**Спо́рны**. Гл. *спор₁*.

**Спорт** 'фізічныя і разумовыя практыкаванні, спаборніцтвы' (ТСБМ, Некр. і Байк.). Запазычана праз рус. *спорт* або польск. *sport*. З англ. *sport*, дзе першапачаткова значыла 'забава, пацеха', а з XVII ст. 'спаборніцтва'. Узнікла праз аферэзу з *disport* 'забаўляцца, гуляць', запазычанага з ст.-франц. *desporter* (< *porter* 'насіць', параўн. *імпарт, экспарт, порт*). Гл. Глухак, 572; Сной₂, 738; ЕСУМ, 5, 381.

**Спо́саб** 'прыём, метад', 'парадак, характар, манера, склад', 'рэальныя ўмовы, сродак, магчымасць ажыццяўлення чаго-небудзь' (ТСБМ, Гарэц., Ласт., Байк. і Некр., Федар. 4), 'матэрыяльны дастатак, сродкі' (Варл.), 'неабходнае для жыцця' (Сержп. Прымхі), 'доля': *дзеўка без спосабу* (пра векавуху) (Сержп.). Укр *спо́сіб*, рус. *спо́соб*, польск. *sposób*, чэш. *způsob*, славац. *spôsob*, серб.-харв. *спо̀соба*. Параўн. *пасоба* 'дапамога' (Нас.), рус. *посо́бие*, якія з выразу **po sobě* (гл. *сябе*); Міклашыч, 331–332; Фасмер, 3, 738. Якабсон (гл. у Фасмера, там жа) усходнеславянскія словы лічыць запазычаннем праз польскую з ст.-чэш. *zpósob*. Аналагічна Кохман, Stosunki, 126. Сяткоўскі (гл. Басай–Сяткоўскі, Słownik, 334) чэшскі ўплыў бачыць толькі ў развіцці абстрактных значэнняў. Борысь (570) рэканструюе паўн.-прасл. **sъposobъ* як аддзеяслоўны дэрыват ад **sъposobiti* < **posobiti* < **po sobě*, параўн. *спасобіць* 'падрыхтоўваць, запасаць' (Нас.), ст.-бел. *спосо́бяти* 'падрыхтаваць, сабраць' (Ст.-бел. лексікон).



**Спра́ва** 'дзейнасць, занятак', 'абавязак', 'рэч, з'ява' (ТСБМ, Байк. і Некр., ТС), 'прадмет дзейнасці, справаздача, рашэнне' (Нас.), 'прадмет дзейнасці ці інтарэсу' (Ласт., Бяльк., Касп.), 'здарэнне' (Сержп.), 'набыццё адзення, абутку, абноўка' (Нік. Очерки), 'уборы, адзенне' (ТС), ст.-бел. *справа* 'дзейнасць (?)' (Скарына). Параўн. укр. *спра́ва*, польск. *sprawa*, чэш. *sprava* 'дзейнасць і яе мэта', серб.-харв. *спра̏ва* 'інструмент, прыбор, прыстасаванне', балг. *спра́ва* 'тс', макед. *справа* 'тс'; сюды ж, відаць, прыслоўе (XVI ст.) ст.-рус. *справа: пришли къ государю справа воеводы его* (Яновіч, Наречие, 54). Дэрываты ад *справіць* 'зрабіць, выканаць, ажыццявіць', што да *правіць, правы* (гл.), якія, відаць, няма падстаў адносіць да праславянскіх утварэнняў.

**Спраўнкі**, адз. л. *спраўнак* 'заняткі, справы', 'рэч, якую хто-небудзь каму-небудзь справіў, купіў' (ТСБМ, Нас., Сцяшк., Касп., Варл., Барад.. Жд. 2), 'пакупка' (беласт., Сл. ПЗБ, Нар. Гом.). З польск. *sprawunek* 'тс', на што ўказвае суф. *-унак*; гл. Гіст. лекс., 260.

**Справядлі́вы** 'згодны з правам, праўдай, аб'ектыўнымі фактамі; праўдзівы' (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт.; ашм., Стан.; Бяльк.), 'праўдзівы, чэсны, правільны' (Сл. ПЗБ), 'сапраўдны': *справедлі́вы грыб* 'баравік, Boletus edulis Bull.' (Пятк. 2, ЛА, 1), ст.-бел. *справедливъ* 'праведны, праўдзівы, міласцівы' (Альтбаўэр). Паводле Борыся (571), усходнеславянскія словы (укр. *справедли́вий*, рус. *справедли́вый*) з польск. *sprawiedliwy*, якое, у сваю чаргу, з чэш. *spravedlivý*; апошняе з больш ранняга *spravedlný* пад уплывам прыметнікаў на *-dl-ivý* (тыпу *mlčedlivý* 'ціхі, маўклівы'), дэрывата ад назоўніка *sprava* 'справа', якое ад **praviti* (гл. *правіць*). Гл. яшчэ Кохман, Stosunki, 127–129; Віткоўскі, Зб. Лімінгу, 178; Басай–Сяткоўскі, Słownik, 335 ("nie jest to formacja prasłowiańska").

**Спра́га₁** 'праход у агароджы', 'жэрдка, якой закрываюць праход у агароджы' (Варл., Сл. ПЗБ), *про́га* 'праход у агароджы' (полац., Нар. лекс.), ст.-бел. *спро(к)га* 'тс' (Яблонскіс). З літ. *spragà*, дыял. *pragà* 'праход, прахон, пралом, шчыліна' (гл. Лаўчутэ, Балтизмы, 50).

**Спра́га₂** ‘смага’ (Арх. Федар., Ласт.). Дэвербатыў ад *спрагці* ‘падсмажыць’ (Сл. нар. фраз.), параўн. выраз *kab ciebie spraha sprahła!* (Федар. 4), гл. *прагці*. Іншы выраз *каб ты спрогся!* (праклятце), што да *спро́гчыся* ‘здохнуць’ (Сцяцко Сл.), відаць, звязаны з літ. *sprogti* ‘здыхаць’, гл. таксама *апрэгчыся*.

**Спрага́ць** ‘запрагаць, злучаць у адну запрэжку’ (ТСБМ, Нас., Ласт., Байк. і Некр.), *спрага́цца* ‘злучаць кожны па каню (валу) у адной вупражы’ (Пятк. 2, Варл.). Гл. *прыпрэжка*.

**Спрадве́ку** ‘здаўна; заўсёды’ (ТСБМ, Нас., Касп., Гарэц., Бяльк., Байк. і Некр., Стан.), *спрадве́ку*, *спрадвякоў* ‘тс’ (Сл. ПЗБ). Адваротны дэрыват ад *спрадве́чны* ‘старадаўні, шматвяковы’ (гл. *прадвечны*), аформлены паводле прыслоўя *спаконвеку* (гл.).

**Спражэ́нне** ‘змяненне дзеяслова па асобах, ліках і часах’ (ТСБМ, Байк. і Некр.). Калька лац. *coniugatio* ‘тс’. У якасці адпаведнай формы для калькавання дзеяслова магло паслужыць ст.-бел. *спрягнути* ‘злучыць, змацаваць’ (Ст.-бел. лексікон), што мае аналагічную семантыку, гл. *спрагаць*. Мяркуецца, што ўзорам паслужыла польск. *sprężenie* ‘coniugatio’ (1542), суадноснае з *sprzężenie* ‘запрэжка’, чэш. *spřežení* ‘тс’, гл. Каранчэўскі, Polska term. gram., 10; Басай–Сяткоўскі, Słownik, 336. У якасці лінгвістычных аналагічныя тэрміны замацаваліся, акрамя ўсходнеславянскіх, у балгарскай мове.

**Спра́жка** ‘засцежка’ (ТСБМ, Нас., Некр. і Байк., Шат., Стан., Пятк. 2, Сл. ПЗБ, ЛА, 4). Параўн. польск. *sprzążka* ‘тс’, славен. *préga* ‘тс’, балг. радоп. *спр᾽ога*, *спрӧжда* ‘тс’. Узыходзіць да **pręgti*, прадстаўленага ў *спрагаць* (гл.), *запрагаць*, *выпрагаць* і інш. Гл. *пражка*. Куркіна (Диал. структура, 69) узводзіць да **sъpro̢dja/*sъprędja* ад **sъprędti*, роднасным літ. *spręsti* ‘абцягваць, вымяраць’, чаму пярэчыць балгарская форма з *г*. Гл. таксама Брукнер, 436; Фасмер, 3, 394.

**Спракуве́ку** *(спраку-веку, спра́ку ве́ку)* ‘спрадвеку, здаўна’ (Сержп., Ян.; карм., Сл. нар. фраз.; асіп., ваўк., чэрв., слуц., Сл. ПЗБ). Адваротны дэрыват ад *спракаве́чны* ‘старадаўні, шматвяковы’ (калінк., Арх. ГУ, Сцяшк. Сл., ТС), што да *пракавечны* ‘тс’ ад *прок* (гл.), параўн. *ад пра́ку ве́ку* ‘здаўна’. Бузук (гл. Буз., 257) бачыў тут цікавы прыклад змены слова ў выніку ўтварэння рыфмы. З прычыны дээтымалагізацыі ўзніклі формы *спрадка́* ‘спрадвеку’ (Ян.) ад *продак* (гл.), *спрако́н* ‘спрадвеку’ (Ласт.) – кантамінацыя *спакон* (гл.) і *спракавечны*, *спракувеку*.



**Спрат** ‘начынне’ (Нас., Байк. і Некр., Сцяшк.), ‘памяшканне, месца для захоўвання, сховішча’, ‘месца, дзе можна схавацца’, ‘тайнік’ (ТСБМ, Варл., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *спрятъ* ‘хатні скарб, гаспадарчыя прылады, начынне’ (Ст.-бел. лексікон). Паводле Булыкі (Лекс. запазыч., 186), ст.-бел. *спратъ* (*спрадъ*, *спретъ*) ‘інвентар, маёмасць, рэчы’, ‘прадмет дамашняга туалету’, ‘месца захавання’ з ст.-польск. *sprzęt* ‘тс’. Польскае слова з’яўляецца аддзеяслоўным назоўнікам ад прыставачнага *sprątać*, што да прасл. **prętati* (гл. *пратаць*); параўн. Борысь, 572, адкуль, відаць, і *спронт* ‘шапік для посуду’ (Сл. рэг. лекс.). Няясныя адносіны да серб.-харв. *спра̏т* ‘паверх’, якое Путанец (Rasprave, 29, 242–245) разглядае як метатэзу **stropъ* (гл. *строп₂*), а вакалізм *о > а* тлумачыць уздзеяннем субстрата. Сумніўна.

**Спрачацца** ‘весці спрэчкі; пярэчыць каму-небудзь’ (ТСБМ). З польск. *sprzeczać się* ‘тс’.

**Спро́гчыся** ‘здохнуць’ (Сцяцко Сл.). Гл. *апрэгчыся*.

**Спро́нжка** ‘спражка’ (Шат., Сцяшк., Жд. 1), *спро́нжка*, *спро́нишка*, *спро́нчка* (Сл. ПЗБ). З польск. *sprzączka* ‘тс’ (Сл. ПЗБ, там жа), *sprzążka* (Брукнер, 436).

**Спро́ца** ‘рагатка’ (Сцяшк.). Гл. *проца*.

**Спружы́на** ‘пругкая металічная палоска або спіраль’ (ТСБМ, Гарэц., Ласт., Бяльк.), *спрунжына* ‘тс’ (Байк. і Некр., Сл. ПЗБ), *спрунджы́на* ‘тс’ (Бяльк.), *спранджы́на* ‘тс’ (Варл.). З польск. *sprężyna* ‘тс’; параўн. укр. *спружи́на* ‘тс’; у іншых славянскіх мовах без *s-*. Шульман (Полымя, 1926, 8, 211) мяркуе пра пасрэдніцтва мовы ідыш праз форму *Sprusschine* ‘тс’, што цяжка давесці. Гл. *пружына*.

**Спружыно́ўка** ‘барана, дзеянне якой заснавана на дзеянні пружын’ (ТСБМ), ‘культыватар’ (Сцяшк.), *спружыны́ўка* ‘культыватар’ (Сл. ПЗБ). З польск. *sprężynówka* ‘тс’. Параўн. *пружыноўка*.

**Спрут** ‘гібель’: *на спруты* ‘на чорта’ (беласт., Дзядзька Квас, Роздум на калёсах, Беласток, 1995, 57), *спру́та* ‘смерць; халера’ (Сцяц. Сл.), ‘пагібель’ (кам., ЖНС). Адваротны дэрыват ад *спруцііцца* ‘памерці’ (ТС), ‘стаць пруткім’ (Стан.). Гл. *прут*, *апруцянець*.

**Спрывяль** ‘абрыў’ (шчуч., З нар. сл.). Няясна; магчыма, балтызм.

**Спры́ндзіцца** ‘згінуць, загінуць’ (Скарбы; шчуч., З нар. сл.; Сл. ПЗБ), ‘згарнуцца, скруціцца’ (Сцяшк. Сл.), сюды ж *spryndziło*

*dziasna* (Арх. Федар.) з няясным значэннем. Параўн. *прындзіцца* (гл.). Несумненна, экспрэсіўнае ўтварэнне з шырокім спектрам значэнняў, што абцяжарвае вызначэнне зыходнага. Запісанае Развадоўскім *спірындзжыць* у складзе кляцьбы са значэннем 'каб цябе спёрла!', суаднесенае з літ. *sprę́sti* 'рашаць', прызнаецца Лаўчутэ (Балтизмы, 149) недастаткова аргументаваным балтызмам. Магчыма, экспрэсіўны варыянт з назалізацыяй да *спры́цціцца* 'згінуць, памерці' (Сцяшк. Сл.), гл. *спрыта*.

**Спрыт** 'дасканаласць, умельства', 'фізічная лоўкасць, паваротлівасць, хуткасць у руках' (ТСБМ, Бяльк., Сл. ПЗБ), 'кемлівасць' (Ласт.), *спры́тны, спры́тнасць* (Касп., Байк. і Некр., Гарэц., Сцяшк., Сл. ПЗБ, ТС). З польск. *spryt, sprytny* (Кюнэ, Poln., 99 з літ-рай), якое выступае ў польскай мове з XVIII ст. як запазычанне з франц. *esprit* 'дух; задума, розум; здольнасць, талент і да т. п.'; гл. Брукнер, 510; Борысь, 571. Ужо Карскі (Белорусы, 146) сумняваўся ў этымалогіі, прапанаванай упершыню Ліндэ, схіляючыся да выказанай раней Міклашычам (266) думкі пра сувязь з *прыць* (гл.). Мартынаў (Лекс. Палесся, 16–17) звязвае з гоц. *sprauto* 'хутка', чаму пярэчыць Смулкова (Бел.-польск. ізал., 118–119), якая бачыць тут налажэнне значэнняў розных па паходжанні слоў – паланізмаў *спрыт, спрытны* і *прыткі, прытны* (гл.). Гл. таксама Фасмер, 3, 391–392; Булахаў, Бел. мова, 57.

**Спры́та** 'прыстасаванне (кол), з дапамогаю якога моцна сціскаецца вяроўка пры звязванні паклажы, закрутка' (Сцяц. Сл.), сюды ж *спры́ціць* 'моцна звязаць (спавіць)' (там жа), *спры́цціцца* 'загінуць, памерці' (Сцяшк. Сл.). Параўн. *запры́ць* 'туга звязаць пры дапамозе закруткі' (ваўк., Сл. ПЗБ), *пры́тны* 'круты' (Сцяшк.), што дазваляе суаднесці з **prъtiti* 'круціць', роднасным літ. *spráusti* 'уціскваць', *sprū̃sti* 'вырывацца, выслізгвацца'. Гл. *прыткі*$_1$, *прытыць*. Сюды ж, відаць, *спры́ты* 'ражкі (у коласе)' (Сцяшк. Сл.) на аснове вобразнага пераносу.

**Спры́тна** 'па чарзе, па парадку, адно за адным' (Арх. Федар.), *спрытна́* 'па парадку (браць)' (Сцяц. Сл.), 'суцэльна, нічога не пакідаючы; пагалоўна' (ашм., Стан.). Да *прытны* (гл.).

**Спры́ха** 'спіца (у колах)' (Сцяшк. Сл., Сл. ПЗБ), 'пруток для вязання' (смарг., шчуч., Сл. ПЗБ), *спрых* 'тс' (Шатал.). З польск. *sprycha* 'кол, жэрдзь; спіца ў коле', якое з ням. *Spriess* 'кол, шэст' і *Speiche* 'спіца ў коле' (гл. Брукнер, 510). Сюды ж, магчыма, *спры́хі (sprychy)* 'штукі, жарты' (Арх. Федар.), параўн. *шпількі* 'насмешкі'.



**Спры́чча** 'здарэнне' (Жд. 1). Не можа разглядацца асобна ад *пры́чча* 'хвароба, немач', гл. *пры́тча* (< **pritъča* 'выпадак').

***Спрышчыцца**, *спры́шчытыс'* 'памерці, скачанець' (Клім.). Гарачава (Этимология–1985, 64) выводзіць з *спры́шчыты* 'адмарозіць' (Клім.); звычайна *спры́шчыць* 'спячы' (Сцяшк. Сл.), 'спапяліць' (ТС). Да *прышчыць* (гл.).

**Спрыя́ць** 'садзейнічаць' (ТСБМ, Нас., Бяльк., Касп., Сержп. Прымхі). Да *прыяць* (гл.).

**Спрэ́жда** 'спярша' (Рам. 6), 'раней' (Бузук, Спроба, 58). Бузук (там жа) сумняваецца ў паходжанні слова, якое прыпамінае рус.-ц.-слав. *прѣжде* < ст.-слав. **прѣжде** 'раней'. Магчыма, кантамінацыя апошняга з *пярэж* 'тс' (гл.).

**Спрэс** 'скрозь' (ТСБМ, Сцяшк.; навагр., іўеў., пух., Сл. ПЗБ), 'цалкам' (Сержп.), *спрэ́су* 'зусім' (Сержп. Прымхі; стаўб., З нар. сл.; Жд. 3), *спро́сь* 'скрозь' (Сцяшк. Сл.). З *з-праз* (гл. *з* і *праз*). Шуба (Прыслоўе, 52) адзначае, што слова ўспрымаецца ўжо як невытворнае. Няпэўна.

**Спрэ́чка** 'спаборніцтва на словах, дыскусія' (ТСБМ, Нас., Касп., Байк. і Некр.), *спрэ́чны* 'сварлівы' (Сл. ПЗБ), дзеясловы *спрача́цца* (ТСБМ), дыял. *спрэча́цца* (ТС). З польск. *sprzeczka* 'тс' (Кюнэ, Poln., 99 з літ-рай). Сюды ж утворанае на аснове беларускага слова *спрэ́ка* 'тс' (Нас.). Далей гл. *прэч*.

**Спудлава́ць** 'прамахнуцца' (Касп.), *спудлі́ць* 'зрабіць памылку, прамахнуцца' (Сцяшк. Сл.). З польск. *spudłować, pudłować* 'тс', *pudło* 'промах, памылка' < нова-в.-ням. *Pudel* 'памылка', *pudeln* 'зрабіць промах, памылку (пры гульні ў кеглі)'; гл. Кюнэ, Poln., 99; параўн. Брукнер, 447.

**Спыні́ць** 'затрымаць', 'прыпыніць, перарваць' (ТСБМ, Др.-Падб.), *спыні́ти* 'тс' (беласт., Сл. ПЗБ), *спыня́ць, спыня́цца* 'затрымліваць, затрымлівацца' (ТСБМ, Байк. і Некр., Сл. ПЗБ), *спі́на* 'меры стрымлівання' (драг., З нар. сл.). Гл. *прыпыніць, пыніць*.

**Спяша́цца**. Гл. наступнае слова.

**Спяшы́ць** 'імкнуцца хутчэй ісці, рабіць' (Сл. ПЗБ), *спешы́ць* 'тс' (ТС), *спяша́цца* 'тс' (ТСБМ). Укр. *спіши́ти*, рус. *спеши́ть*, ст.-рус. *спѣшити*, польск. *spieszyć się*, в.-луж. *spěšić*, н.-луж. *spěšyś*, чэш. *spíšiti*, славен. *spẽšiti* 'прыспешваць, паскараць, спяшыць',

балг. *спеша*, ст.-слав. **спѣшити**. Прасл. **spěšiti* вытворнае ад **spěхъ* (гл. *спех*). Гл. Фасмер, 3, 735; Шустар-Шэўц, 1138–1139; Бязлай, 3, 296–297.

**Сра́ка** 'задніца, ягадзіцы' (Нас., Шат., Сл. ПЗБ), 'задняя частка тулава ў рака, насякомых' (брасл., паст., драг., Сл. ПЗБ), перан. 'камель (снапа)' (віл., навагр., баран., Сл. ПЗБ), 'ніжняя частка ступы' (драг., Сл. ПЗБ), *сра́чка* перан. 'частка бульбіны, якая не мае зародкаў парасткаў' (шальч., Сл. ПЗБ), таксама *сра́ка, сра́чка* 'пятка яйца' (ЛА, 1). Укр., рус. *сра́ка* 'задніца, ягадзіцы', польск. *sraka* 'тс'. Дэрыват ад прасл. **sьrati* 'cacare', параўн. *срацьь*, укр. *сра́ти*, рус. *срать*, польск. *srać*, в.-луж. *srać*, н.-луж. *sraś*, чэш. *sráti*, славац. *srat'*, серб.-харв. *сра̏ти*, славен. *sráti*, балг. *сера́*, макед. *сере*. Прасл. **sьrati*, **serǫ* звязана чаргаваннем галосных з *сур* (гл.), рус. *сор* 'смецце'. Роднасныя: лат. *sā̃rņi* 'адкіды, бруд', ст.-інд. *śárdhate* 'псаваць паветра' авест. *sairya-* 'гной, памёт', фрыз. *skern* 'экскрэменты' (Покарны, 947–948): Параўнанне з ст.-інд. *sárati* 'цячэ', *sarás* рэдкі', лац. *serum* 'сыроватка' (Младэнаў, 578; Махэк₂, 571) Фасмер (3, 740) лічыць менш верагодным. Усё да і.-е. кораня **sker-* 'спаражняцца'; гл. Шустар-Шэўц, 1347–1348; Глухак, 573; Скок, 3, 315; Бязлай, 3, 303; ЕСУМ, 5, 396–397.

**Сро́гі** 'строгі; суровы' (Ласт.). Гл. *строгі*.

**Сро́дак** 'прыём, спосаб дзеяння, захады' (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Др.-Падб.). Ст.-бел. *сродокъ, сродекъ* 'сярэдзіна; сродак', запазычанне з ст.-польск. *środek* 'сярэдзіна; сродак' (Булыка, Лекс. запазыч., 186). Сучаснае бел. слова, відаць, працягвае ст.-бел., гл. яшчэ Карскі, Белорусы, 149; Кюнэ, Poln., 99. Далей да прасл. **serda* 'сярэдзіна', **sьrdь-* 'сэрца'.

**Срэ́бра** 'серабро' (ТСБМ), *срэ́бра, сры́бра* 'тс' (Варл.), *сры̂бро* 'тс' (Федар. 4), *срэ́бла* 'тс' (Гарэц.), ст.-бел. *сребро* 'тс' (Альтбаўэр). З польск. *srebro* 'тс', аднак Карскі (1, 251) дапускаў у якасці крыніцы запазычання і ц.-слав. *сребро*. Далей гл. *серабро*. Сюды ж назвы раслін, утвораныя на сваёй глебе: *срэ́бнік* 'агаткі, Antennaria dioica Gaertn.', *срі́бнык* 'зябер, Galeopsis L.' (ЛА, 1) з-за бліскучай афарбоўкі.

**Ссаць** 'уцягваць у рот, смактаць' (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Касп., Федар. 4, Сл. ПЗБ, Варл., ТС). Укр. *сса́ти*, рус. *соса́ть* (пад уплывам слоў *со́ска, сос* – гл. Фасмер, 3, 725), стараж.-рус. *съсати* 'ссаць', *съсъ* 'сасок, грудзі', польск. *ssać*, каш. *sësac*, чэш. *sáti*, ст.-чэш. *ssáti*, славац. *sat'*, серб.-харв. *са̏ти, си̏сати*, славен. *sesáti*, балг. *си́сам*, ст.-слав. **съсати**. Прасл. **sъsati* (< **sъps-ati*) 'ссаць, высмоктваць', дзеяслоў з прэфіксам **s-*, каранёвая частка якога засноўваецца на паўн.-і.-е. базе **seu̯-p-/*seu̯-b-* ад кораня **seu̯-* 'сок; выціскаць сок; ссаць, смактаць (сок)'; гл. Борысь, 573–574. Бязлай, 3, 229 праславянскае адносіць да і.-е. **seu̯-p/b:*sū-p/b*; Фасмер (3, 725–726) і.-е. **su-p/su-b* лічыць выклічнікам, а славянскі дзеяслоў гукапераймальным; параўн. ст.-інд. *sū́pas* 'поліўка', ст.-ісл. *súpa* 'піць сёрбаючы', ст.-в.-ням. *sûfan* 'тс'. Гл. яшчэ Махэк₂, 538; Сной₁, 563; Скок, 3, 244; Глухак, 549; SEK, 4, 267; ЕСУМ, 5, 388–389.

**Ссо́рыць** 'згубіць' (Касп., Жд. 3), *сшо́рыць* 'схавацца, загубіцца, знікнуць' (Стан.). Да *сорыць, шорыць* (гл.).

**Ссякну́ць** 'рэзкім рухам зрушыць пазванкі' (Скарбы; Наша Ніва, 2004, 22 кастр.). Да *сякаць* (гл.).

**Стабаро́к**, *стабаро́чак* 'сцяблінка' (даўг., Сл. ПЗБ). З літ. *stiebas*, *stãbaras* 'сцябло' (Сл. ПЗБ, там жа), што найбольш верагодна па лінгвагеаграфічных прычынах. Аднак нельга выключыць і працяг прасл. **stoborъ/*stъbъrъ*, гл. *стабурчыць*. Параўн. *стаўбур*, гл.

**Стабарча́** 'потарч, старчма' (слонім., Нар. словатв.). З *стапарч* (гл.) з суф. *-а-* і азванчэннем *-п-*.

**Стабда́** 'брага; саламаха' (паст., LKK, 30, 122). Паводле Грынавяцкене (там жа), з літ. *stabdà* 'тс'

**Стабнава́ць** 'страчыць', *стабнава́нне* 'строчка ў шыцці' (Байк. і Некр., Нас.). З польск. *stebnować* 'страчыць' (Карскі, Белорусы, 163), якое з ням. *steppen* 'прашываць'; параўн. ням. *stippen* 'утыкаць'; гл. Брукнер, 515.

**Стабу́рчыць** 'выгібаць, выкрыўляць, выстаўляць' (Ласт.), 'паказваць на цяжарнасць': *uže nasza pani staburczyć* (Арх. Федар.), *стабу́рчыцца* 'выстаўляцца', *стабу́рыцца* 'тапырыцца' (Ласт.). Відаць, вытворныя ад назоўніка, што ўзыходзіць да прасл. **stoborъ* 'слуп, пень', параўн. *стабу́р* 'тумба, падстаўка' (Ласт.), серб.-харв. *сто̏бор, сто̀бор* 'агароджа; двор, вуліца', балг. *стобо́р* 'плот', ст.-слав. **стоборъ** 'слуп', або **stъb(ъ)rъ*, параўн. ст.-польск. *steber*, славен. *stèbǝr* 'слуп', серб.-харв. *стѐбар*, харв. дыял. *stabȁr* 'сцябло', ст.-слав. **стъбръ** 'тс', якім адпавядаюць літ. *stãbaras* 'сухая

галіна', *stùburas* 'пень', лат. *stuburs* 'пень, слуп', а таксама ст.-дац. *stafœr*, швед. дыял. *staver* 'кол', што ўзыходзяць да і.-е. **steb(h)-* 'слуп, апора, аснова, бервяно', а таксама 'падперці, абаперці; стаць нерухомым', працягам якога з'яўляецца ст.-інд. *stabhnā̃ti* 'падтрымлівае, падпірае' (Скок, 3, 323, 336; Глухак, 579; Сной$_2$, 696).

**Ставару́к** 'сухая галіна дрэва' (воран., Сл. ПЗБ). З літ. *steverỹs* 'тс' (Сл. ПЗБ, 4, 559). Гл. таксама Лаўчутэ, Балтизмы, 73 з літ-рай.

**Става́ць** 'з'яўляцца' (Ласт., Сл. ПЗБ), 'быць дастатковым, хапаць' (ТСБМ, Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС). Укр. *става́ти(ся)* 'станавіцца, рабіцца; хапаць', рус. дыял. *става́ть* 'тс', ц.-слав. *ставати* 'станавіцца', польск. *stawać* 'уставаць, падымацца на ногі; затрымлівацца', чэш. *stávat se* 'станавіцца, рабіцца, здарацца'. Паводле Борыся (576), прасл. **stavati* 'затрымлівацца; падымацца', шматкратны дзеяслоў ад **stati* (гл. *стаць*).

**Ста́віцца** зваротны дзеяслоў да *ставіць* (гл.) 'паўставаць, настройвацца супраць каго-небудзь', 'цягнуцца, старацца зраўняцца ў частаванні з багатымі' (Нас.). Другое значэнне з польск. *stawiać się* 'трымаць сябе задзірліва, абуральна; казырацца, задавацца', *stawiać się na równi* 'ставіць сябе нароўні з кім-небудзь'.

**Ста́віць** 'размяшчаць, умацоўваць вертыкальна', 'расстаўляць', 'будаваць' (ТСБМ, Бяльк., Стан., Сл. ПЗБ, ЛА, 4), ст.-бел. *ставити* 'тс' (Альтбаўэр). Параўн. укр. *ста́вити*, рус. *ста́вить*, ст.-рус. *ставити*, польск. *stawić*, в.-луж. *stawić*, н.-луж. *stawiś*, чэш. *staviti*, славац. *stavit'*, славен. *stáviti*, серб.-харв. *ста̏вити*, балг. *ста́ви*, макед. *стави*, ст.-слав. **ставити**. Прасл. **staviti* 'рабіць так, каб нешта стаяла' – каузатыў ад прасл. **stojati* (гл. *стаяць*), мае адпаведнікі ў літ. *stovė́ti* 'стаяць', лат. *stãvêt* 'тс', гоц. *stōjan* 'накіроўваць' і інш. Гл. Фасмер, 3, 742 з літ-рай; Борысь, 576; Глухак, 582; Бязлай, 3, 313–314; Махэк$_2$, 575–576; Скок, 3, 330–333; Траўтман, 283–284; ЕСУМ, 5, 389–390. Непакупны (Связи, 68–69) звяртае ўвагу таксама на семантычны паўночнаславянскі (і славенскі) пераход 'ставіць, паднімаць' → 'будаваць', які мае працяг у балцкіх (літ. *statýti* 'ставіць' і 'будаваць') і германскіх (ням. *aufstellen*) мовах, аднак не характэрны для рускай мовы, што недакладна.

**Стага́н** 'сараканожка, макрыца' (Жыв. св., Сл. ПЗБ; ваўк., стаўб., слонім., ЛА, 1). Параўн. укр. *стогна́* 'тс', рус. дыял. *стагане́ц* 'мурашка'. З $^{+}$*стоног* з метатэзай *н:г*, параўн. Фасмер, 3, 743 (без уліку беларускага і ўкраінскага матэрыялу, да *гнаць*). Параўн. *станог, стакалос* (гл.).



**Стагна́ць** 'енчыць, скардзіцца, наракаць' (ТСБМ, Нас., Касп., Гарэц., Байк. і Некр., Сержп. Прымхі, Шат., Сл. ПЗБ), *сто́гнуць* 'тс' (Нас.), *стогна́ць* 'тс' (ТС), *стогне́ць* 'ледзь дыхаць, існаваць', 'гудзець' (там жа), *стогн* 'жаласны енк, выкліканы болем або вялікім горам', 'скарга, нараканне', *стагната́* 'стагнанне' (Нас.), *стагно́та* 'тс' (Гарэц.), *стогно́та* 'хвароба' (ТС), ст.-бел. *стогнание* (Скарына). Укр. *стогна́ти*, рус. паўд. *сто́гнуть* 'стагнаць; крычаць непрыемным голасам', ст.-рус. *стогнание* 'стогн', старое в.-луж. *stohnat* 'стагну'. Карскі (1, 372) лічыў старой формай на фоне выпадзення *-г-* у рускай і царкоўнаславянскай (у апошняй не заўсёды). Фасмер (3, 763) звязвае з рус. *стон, стона́ть, стена́ть*; Цвяткоў (Запіскі, 2, 1, 81) меркаваў пра ўплыў дзеясловаў тыпу *цягну́ць* (гл.); Махэк$_2$ (579) усх.-слав. *-г-* лічыць экспрэсіўнай устаўкай і ўзводзіць таксама да прасл. дыял. **stonъ*, **stonati*, параўн. рус. *стона́ть*, ст.-рус. *стонати*, чэш. *stonati*, *ston*, славац. *stonat'*, *ston*, балг. *стон*, в.-луж. *stonać*; якое параўноўваюць з грэч. στόνος 'стагнанне', ст.-інд. **stanas* у *abhistanás* 'гул', ірл. *son* 'гук', а таксама без *s-*: лац. *tonō* 'грымець (пра гром)', ст.-інд. *tányati* 'шуміць, гучыць, грыміць'. Гл. яшчэ Шустар-Шэўц, 1360; ЕСУМ, 5, 423. Адносна прасл. **stenati* 'гудзець, грымець' гл. Глухак, 583. Параўн. *стогнуць*, гл.

***Стагно́ту**, *стогно́ту* прысл. 'дзе там; чорта з два' (Клім.). Укр. палес. *стогно́ту* 'тс'. Няясна. Магчыма, эліпс выразу *стогноту табе*, дзе *стогнота* да *стагнаць* (гл.). Параўн. *адна трасца* 'ўсё адно', *трасца на яго галаву* і пад.

**Ста́да** 'гурт, статак, чарада, табун (коней, кароў, авечак, птушак)' (Жыв. св., Ян., Скарбы, Барад., Сл. ПЗБ, ЛА, 1) *ста́до* 'тс' (ТС), ст.-бел. *стадо* 'тс' (Альтбаўэр); паводле Мацкевіч і Грынавяцкене (ЖНС, 212), у мове Статута 1529 г. адносілася толькі да сукупнасці коней і знаходзілася ў апазіцыі да *быдло*, якое аб'ядноўвала іншых свойскіх жывёл. Укр., рус. *ста́до*, стараж.-рус. *стадо*, польск. *stado*, в.-луж., н.-луж. *stadło*, чэш., славац. *stádo*, серб.-харв. *ста̏до*, балг. *ста́до*, макед. *стадо*, ст.-слав. **стадо**. Прасл. **stado* 'статак жывёл', дэрыват ад прасл. **stati* (гл. *стаць*) з рэдкім суфіксам **-do*, першапачаткова 'група жывёл, якая стаіць'; гл.

Слаўскі, SP, 1, 63; Борысь, 574. Роднасныя: ст.-ісл. *stóđ* н. р. ‘конскі завод, стада’, ст.-англ. *stód* ж. р. ‘тс’, ст.-в.-ням. *stuot* ‘тс’, літ. *stodas*, лат. *stàds* ‘саджанец, расліна’; гл. Фасмер, 3, 743. Па прычыне рэдкасці словаўтварэння прапанаваліся іншыя версіі: пранікненне з герм. *stôd* ‘стада’ < **sta-* ‘стаяць’ з *-d-* як у лексікалізаванага дзеепрыметніка (Мартынаў, Лекс. взаим., 53 і наст.), даславянскае і дагерманскае запазычанне ад “праеўрапейскіх народаў” (Махэк$_2$, 573). Шустар-Шэўц (1353) як на словаўтваральную паралель спасылаецца на прасл. **čędo* (гл. *чада* ‘дзіця’) < **čęti* ‘пачынаць’, **čudo* (гл. *цуд*) < **čuti*, ‘адчуваць’. Гл. яшчэ Аткупшчыкоў, Этимология–1968, 249; Трубачоў, Происх., 164; ЕСУМ, 5, 391–392. Сюды ж *стáднік* ‘племянны бык або жарабец’ (ТС), ‘пастух’ (Касп., Нас., Нік. Очерки), ст.-бел. *стадникъ* ‘той, хто належыць да статку’ (Ст.-бел. лексікон).

**Стадóла** ‘канюшня на заезным двары’, ‘вялікі хлеў’ (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Шат., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ), ‘адрына’ (Сл. ПЗБ, Сл. Брэс.), ‘адрына; пуня’ (Скарбы), ‘вялікая пабудова’ (ТС, Ян.), *стадóля* ‘вялікае заезнае памяшканне’ (Шат.), *стодóл* ‘адрына для малацьбы’, ‘частка адрыны, дзе малоцяць’ (Шушк.). Укр. *стодóла, стодóля* ‘клуня’, рус. *стодóла* ‘навес, хлеў, адрына’, польск. *stodoła* ‘гаспадарчы будынак для захоўвання сена, збожжа і пад.’, чэш. *stodola* ‘тс’. Запазычанне праз польскае і чэшскае пасрэдніцтва з ст.-в.-ням. *stadal* ‘хлеў, стойла’; гл. Міклашыч, 323; Фасмер, 3, 764; Брукнер, 516; Махэк$_2$, 578; Борысь, 578; Басай–Сяткоўскі, Słownik, 339–340. У беларускай праз польск. *stodoła* (Карскі, Белорусы, 135; Кюнэ, Poln. 99); ст.-бел. *стодола* (*стадола*) ‘гасцініца, карчма, гумно’ (XVI ст.) з ст.-польск. *stodoła*; гл. Булыка, Лекс. запазыч., 97.

**Стажáр** ‘уваткнуты ў зямлю шост, вакол якога кідаецца стог’, *стажáр’е* ‘аснова стога; падсцілка, на якую ставяць стог сена, каб зберагчы яго ад сырасці’ (ТСБМ), таксама ‘месца, дзе стаяў стог’ (Янк.), *стажáрка* ‘стрэшка на чатырох слупах, пастаўленая над стогам’ (Сл. ПЗБ, мёрск., ЖНС), *стажáрня* ‘стажарка’, ‘падсцілка пад стог’ (Сл. ПЗБ; полац., Нар. лекс.), *стажары́ньне* ‘падсцілка пад стог’ (пін., Шатал.), *стажáрышча* ‘тс’ (Сцяшк.). Укр. дыял. *стóжар* ‘месца, дзе стаяць стагі сена’, *стожáрище* ‘месца, дзе стаяў стажок’, рус. *стожá, стожарá, стожерá* ‘кожны з калоў, якімі ўмацоўваецца стог сена’, *стожáр, стожáрь* ‘шост у стагу’, ст.-рус. *стъжаръ* ‘шост, уваткнуты ў зямлю для ўмацавання стога’, в.-луж. *sćežor* ‘шост’, н.-луж. *sćažor* ‘жардзіна’, чэш. *stožár* ‘мачта’, славац. *stožiar* ‘тс’, славен. *stožẹ́r* ‘шост у стозе’, серб.-харв. *сто̏же̑р* ‘паля, уваткнутая на таку’, балг. *стóжар*, *стóжер* ‘тс’, макед. *стожер* ‘тс’. Прасл. **stožerъ* ‘стоўб, шост, жэрдзь’; утворана ад прасл. **stogъ* ‘стог’ (гл.) з суф. *-erъ*, гл. Слаўскі, SP, 2, 23. Параўн. літ. *stãgaras* ‘сухое доўгае сцябло расліны’, лат. *stagars* ‘тс’, ст.-в.-ням. *stecho* ‘паля, слуп’; гл. Фасмер, 3, 764; Махэк$_2$, 580; Сной$_1$, 611; Шустар-Шэўц, 1274–1275; ЕСУМ, 5, 424. Гл. *сцежар*.



**Стажáры** ‘сузор’е Вялікая Мядзведзіца’ (мін., зах.-маг., ЛА, 2; Стан.), ‘групы блізка размешчаных зорак у сузор’і Цяльца’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Сцяшк.), *стажэ́рка* ‘Плеяды’ (Касп.). Укр. *стожáри* ‘сузор’е Плеяды’, рус. *стожáры* ‘сузор’е Плеяд, Вялікай Мядзведзіцы’. Паводле Фасмера (3, 764), перанос з *стажар* (гл.); паводле ЕСУМ (5, 424), гэта другаснае збліжэнне на базе старой назвы Плеяд *Валасажáр* (гл.).

**Стазь** ‘калона’: *стазі салдат* (халоп., Стан.). Сюды ж, магчыма, *стаг* ‘рад будынкаў, якія знаходзяцца пад адной страхой’ (беласт., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *стязи: стоять стязи* ‘стаяць вайсковыя атрады’ (Ст.-бел. лексікон). Відаць, звязана з *сцяг* ‘група вялікіх прадметаў, утвараючых шэраг’, гл.

**Стайлó** ‘сук на дрэве, на якім ставяць калодны вулей’ (лун., Шатал.), *стáйло* ‘неагароджанае месца на пакосе, дзе адпачывае ўдзень жывёла’, ‘стаянка’ (ТС), ‘памост на дрэве, на якім ставяць калодны вулей’ (петрык., Шатал.; мазыр., З нар. сл.), Да *стаяць* з суф. *-л(о)*. Сюды ж *стайлíна* ‘дрэва, у дупле якога жывуць пчолы’ (староб., Мат. дыял. канф., 74). Гл. *стойла*.

**Стайнó** ‘аснова калаўрота, куды ўстаўляецца кола’ (пух., Сл. ПЗБ), ‘дэталь у прасніцы, да якой прывязваецца кудзеля’ (Касп.; талач., Шатал.), ‘сядзенне ў прасніцы’ (рагач., Сл. ПЗБ), ‘падстаўка, якой карыстаюцца пры трапанні льну’ (рас., Шатал.; лудз., Сл. ПЗБ), *стóйна* ‘дошка з адтулінай, куды ўстаўляецца грэбень пры прадзенні’ (Кос.). Да *стаяць* (гл.) з суф. *-н(о)*.

**Стáйня** ‘памяшканне для коней, канюшня’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Нас., Нік. Очерки, Стан., Бяльк., Шат., Касп., Сл. ПЗБ, ТС, Сцяшк.), ст.-бел. *стаиня* ‘тс’; сюды ж *стáеннік* ‘рысак’, *стаéнніца* ‘рысачка’, ‘кабыла, якую ўлетку трымаюць на стайні’ (Янк. 3).

Укр. *ста́йня* 'стайня', рус. дыял. *ста́йня* 'тс', польск. *stajnia* 'памяшканне для коней або іншых сельскагаспадарчых жывёл', чэш. дыял. *stajňa*, славац. *stajňa*. Прасл. паўн.-слав. **stajьňa* 'памяшканне для сельскагаспадарчых жывёл або месца для іх'. Дэрыват ад прасл. шматкратнага дзеяслова **stajati* 'стаяць' < **stati* 'стаць' з суф. *-ьňa*. Гл. Махэк₂, 574; Борысь, 574. Шымкевіч (Шымк. Собр.) параўноўваў з літ. *stónė* 'тс' (не адзначанага ў слоўніках). Вывядзенне з літ. *staĩnė* 'тс' не мае падстаў, бо апошняе запазычана ў славян, гл. Анікін, Опыт, 283.

**Стакало́с** 'каласоўнік' (стол., лельч., жытк., мазыр., Расл. св.; ЛА, 1), *стоколо́с, стоколо́са* 'гірса' (ТС), укр. *стоко́лос*, рус. *стоко́лос*, польск. *stokłos*, чэш. *stoklasa*, славац. *stoklas*, серб.-харв. *сто̀кла̄са*, славен. *stóklas*. Прасл. **stokolsъ*; ад *сто* і *колас* (Міклашыч, 335; Фасмер, 3, 764). Махэк₂ (579) заўважае, што лічэбнік *сто* не мае канкрэтнага значэння, абазначае толькі вялікую колькасць каласкоў у гэтай расліны ў параўнанні з адным коласам культурных збожжавых раслін.

**Стака́н** – у вузкіх тэрміналагічных значэннях (ТСБМ) запазычана з рус. *стака́н* (Крукоўскі, Уплыў, 43); у народнай мове *стака́н, стага́н* 'шклянка' (Гарэц., Сл. ПЗБ, Жд., 1, 3, ЛА, 4), *стака́н, штака́н* 'тс' (ТС), *стака́н* 'шкло на лямпу' (Мат. Гом.), пранікненне з рускай, у тым ліку з экспрэсіўным азванчэннем *к > г*. *Стага́н* 'чыгун (посуд)' (Мат. Гом.; брасл., Сл. ПЗБ) у выніку кантамінацыі з *сага́н* 'гаршчок, чыгун' (гл.).

**Стакана́**. Гл. наступнае слова.

**Стакані́цца** 'клапаціцца, даглядаць' (свісл., лід., беласт., гарад., воран., ваўк., Сл. ПЗБ, Сцяшк. Сл., Сцяцко Сл., ЛА, 1), 'стаміцца' (лях., Сл. ПЗБ), *стоконы́тысь* 'клапаціцца' (драг., Сл. ПЗБ, ЛА, 1), *стоконі́ціса* 'турбавацца, клапаціцца' (івац., Нар. сл.), *стоконы́тысь* 'прыгожа ўбірацца, адзявацца' (брэсц., ЛА, 1) *стакана́* 'клопат, турботы' (свісл., Сл. ПЗБ; Сцяшк. Сл., Сцяцко Сл.), *стакано́та* 'мітусня' (лід., Сл. ПЗБ), *сто́кон* 'клопат, турботы, цяганіна' (івац., Нар. сл.). Ізаляванае слова; славянскіх адпаведнікаў няма; рус. разм. *устака́ниться* 'супакоіцца' не падыходзіць па значэнні. Улічваючы лінгвагеаграфію, можна думаць аб запазычанні з літ. *stekénti (-ēna, -ēno)* 'мучыць, таміць, мардаваць' з адваротнай семантыкай.

**Стакаро́дніца** 'від агароджы' (Касп.). Няясна.



**Стакве́ля** 'столькі' (Сцяшк. Сл.), *стакве́ле* 'тс' (дзятл., Сл. ПЗБ). З польск. *tak wiele* (Сл. ПЗБ).

**Стакі́** мн. л. 'будаўнічыя блокі' (Сл. рэг. лекс.). Скарочана ад *пустакі* 'пустацелая цэгла' (Сл. ПЗБ), польск. *pustaki* 'тс' (да *пусты*, гл.).

**Ста́кла** 'адна з апорных частак асновы красён' (шванч., Сл. ПЗБ). З літ. *stãklės* 'тс' (Сл. ПЗБ, 4, 565).

**Стакро́тка** 'маргарытка' (гом., гродз., Кіс., Нас., Байк. і Некр.), 'агаткі' (мін., Кіс.), *сто́кроць* 'куст маргарытак' (Нас.), *стакратка* 'тс' (Гарэц.). З польск. *stokrótka* 'маргарытка', якое, магчыма, калькуе ням. *Tausendschön*, што дакладней перадаецца чэш. *stokrasa* 'тс' (Брукнер, 516); укр. *стокро́тка* 'тс' таго ж паходжання, гл. ЕСУМ, 5, 424.

**Стакро́ць** ж. р. 'сто разоў', прысл. 'у сто разоў' (Нас., Байк. і Некр.), *сто́краць* 'тс' (Гарэц., Касп.). З польск. *stokroć* 'тс', якое ад *sto* 'сто' і *-kroć*; апошняе да прасл. **kortъ* (параўн. рус. *стокра́т*), якое чаргаваннем галосных звязана з **čersti*, **čьrto* 'рэзаць'; параўн. сінонім *раз* < *рэзаць*; гл. Фасмер, 2, 368–369; Махэк₂, 290.

**Сталава́ць** 'вытаптаць, стаптаць, змясіць' (Юрч.), *ста́ловаць* 'тс' (ТС). Гл. *талаваць* 'таптаць, мяць'.

**Сталі́нда** *(столі́нда)* экспр. 'худзізна' (шчуч., Сл. ПЗБ), *станклі́да* іран. 'высокі хударлявы чалавек' (Мат. Маг.). Паводле аўтараў Сл. ПЗБ (4, 589), з літ. *stuolỹs* 'корч', што малаверагодна. Магчыма, звязанае з *скулінда, скаланда* (гл.) з набліжэннем да *тонкі, танклявы*.

**Сталі́ца** 'галоўны горад дзяржавы; цэнтр' (ТСБМ, Некр. і Байк.), *столі́ца* 'цэнтр чаго-небудзь' (ТС), ст.-бел. *столица* 'тс' (XVII ст., Карскі, 1, 415). З польск. *stolica* 'трон, галоўны горад' як чэшскае семантычнае запазычанне, гл. Басай–Сяткоўскі, Słownik, 340; Кохман, Stosunki, 129–130.

**Ста́ліць** 'спрасці вельмі тонкай ніткай, высокаякасна' (мёрск., Ск. нар. мовы). Уяўляе прыставачнае ўтварэнне ад *та́ліць* 'прасці вельмі тонкай ніткай, высакаякасна' (там жа), параўн. *та́лька* 'тонкая нітка пры прадзенні; маток нітак', гл.

**Ста́лка** 'частка, столка' (ганц., стаўб., калінк., Сл. ПЗБ; навагр., Нар. сл.; ТС; жытк., Жыв. сл.), *сталь* 'тс' (ТС), *ста́лка* 'пласт, пасма' (Сержп. Прымхі), *ста́лкі* 'пацеркі' (Сакал.). Укр. *ста́лка, ста́лька* 'тс'. Звязана з *столка* (гл.) чаргаваннем галосных у корані. Не выключаны ўплыў папярэдняга слова.

**Стало́ка** ‘таўханіна, таўкатня’ (Ласт.), *сталачы́ць* ‘стаптаць’ (Сцяшк., Сл. ПЗБ), *столокова́ць, столо́чыць* (ТС). Гл. *талака.*

**Стало́п**, *сталапо́к* ‘слуп’ (даўг., Сл. ПЗБ), сюды ж *стала-пе́ць* ‘аслупянець’ (Федар. 4). Да *стоўп* (гл.). Параўн. *сто́лап* (гл.).

**Ста́лы** ‘салідны, дарослы’, ‘грунтоўны’, ‘пастаянны, нязменны’ (ТСБМ, Нас., Ласт., Гарэц., Касп., Байк. і Некр., Сцяшк., Сл. ПЗБ, Федар. 4, Сержп. Прымхі, Варл.). Укр. *ста́лий*, польск. *stały* ‘пастаянны, нязменны’, чэш. *stálý*, славац. *stály*, серб.-харв. *ста̏лан*, славен. *stȃlen* ‘тс’. Да *стаць*, першапачаткова незалежны дзеепрыметнік прошлага часу; гл. Сной₁, 604.

**Сталь** ‘цвёрды метал серабрыста-шэрага колеру’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Пятк. 2). Укр. *сталь*, рус. *сталь* ‘тс’. Запазычанне з польск. *stal*, дзе адзначана з XV ст. і ўзыходзіць да с.-в.-ням. *stahl* ‘тс’ (гл. Брукнер, 512; Карскі, Белорусы, 180; Фасмер, 3, 744; Нававейскі, Zapożyczenia, 262). З польскай таксама *сталёвы* (Нас., ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Сл. ПЗБ) < *stalowy*, пры народных утварэннях *сталяны́* (Рам., 1–2; Шэйн. 1, Растарг.), *ста́ліць* ‘загартоўваць’ (Нас., Сержп. Прык.). *Стальны* (ТСБМ, Бяльк., Сл. ПЗБ), магчыма, з рус. *стальной*.

**Стальва́га** ‘ворчык для параконнай запрэжкі’ (ТСБМ, Шат., Сцяшк., Ян., Сл. ПЗБ), ‘частка плуга’ (Бір. Дзярж., Юрч. Вытв.), *сцельва́га* ‘галоўны каромысел запрэжкі параконнага плуга’ (Выг.), *стэльвага, стальва́га* ‘тоўстая жэрдка ў передку воза, да якой мацуецца дышаль’ (Маслен.), ст.-бел. *сталвага* ‘перакладзіна дышля’. Запазычана праз польск. *sztalwaga, sztelwaga, stalwaga* ‘ворчык’ з нова-в.-ням. *Stellwaage* (< *Stelle*) ‘месца, насад воза’ + *Wage, Waage* ‘вагі, карамысла, ворчык’, гл. Нававейскі, Zapożyczenia, 114; ЕСУМ, 5, 407.

**Стальма́х** і *стэ́льмах* ‘майстар, які робіць калёсы, сані’ (ТСБМ, Нас., Касп., Варл., Байк. і Некр., Жд 2, Сл. ПЗБ), *стэ́льмах, штэ́льмах* ‘тс’ (Маслен.), *сто́льмах* ‘сталяр’ (Жд. 2), *стальма́к* (Гарэц.). Праз польск. *stelmach, stalmach, sztalmach* ‘тс’ з ням. *Stellmacher* ‘майстар, які робіць экіпажы’; гл. Карскі, Белорусы, 157; Кюнэ, Poln., 99; аб польскім слове гл. Брукнер, 512. Ст.-бел. *стельмахъ (стальмахъ, сталмахъ, столмахъ)* ‘стальмах’ з ст.-польск. *stellmach, stalmach* (Булыка, Лекс. запазыч., 89). Сюды ж *стальма́шня* ‘майстэрня, дзе робяць вазы, сані, прылады для вупражы’ (Сцяшк., Янк. 1).



**Ста́льнік** ‘стальнік, ваўчук, Ononis L.’ (Кіс.); у гаворках ужываецца назва *ваўчук, ваўчуга*. З рус. *ста́льник* ‘тс’, укр. *стальник* ‘тс’. Няясна; гл. ЕСУМ, 5, 394.

**Стальні́ца** ‘верхняя дошка, крышка стала’ (ТСБМ, Янк. 1), ‘дошчачка, на якой рэжуць сала, мяса, крышаць капусту і інш.’ (Сл. ПЗБ), ‘дошка сталі’ (Янк. 1), *стольніца* ‘шуфляда ў стале’ (ТС), *столньіця, столнэ́ца* ‘паверхня стала’, ‘шуфляда ў стале’, ‘дошчачка, на якой рэжуць гародніну, мяса’ (Сл. Брэс.). Дэрыват ад прым. **стольны* < *стол* з суф. *-іц(а)*.

**Сталю́га** ‘прыстасаванне для распілоўкі бярвёнаў на дошкі; высокія козлы’, ‘сталярны варштат’ (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Касп., Бяльк., Сцяшк., Жд. 3, Сл. ПЗБ, Некр., Ян., Выг., Бір. Дзярж., Сцяцко Сл.), ‘мальберт’ (Гарэц.), ‘бандарскі станок, на якім апрацоўваюць стругам абручы, клёпкі’ (Янк. 1, Гарэц.; рагач., Арх. ГУ), *столюга, штолюга* ‘станок для апрацоўкі клёпак’ (ТС), *сталюжкі* ‘козлы’ (Скарбы), *сталюгі* ‘падмосткі пад стог’ (талач., ДАБМ, камент., 877). З польск. *staluga, sztaluga* ‘драўляная падстаўка, штатыў, козлы і пад.’, што з ням. *Stellage* ‘рыштаванні; стэлаж’ з прыстасаваннем суфікса па тыпу *żegluga* ‘суднаходства’ (Брукнер, 512–513). Гл. Кюнэ, Poln., 99; Нававейскі, Zapożyczenia, 105, 171. Ст.-бел. *сталюга, столюга* (XVII ст.) з ст.-польск. *staluga* (Булыка, Лекс. запазыч., 193).

**Сталя́р** ‘спецыяліст па тонкай апрацоўцы драўніны’ (ТСБМ, Ласт., Касп., Байк. і Некр., Сцяшк., Сл. ПЗБ), *сто́ляр* ‘тс’ (Байк. і Некр., Бяльк., Сцяшк.), ст.-бел. *столяръ* ‘тс’; сюды ж *сталя́рскі, сталя́рства* (ТСБМ, Шат.). Укр. *сто́ляр*, рус. *столя́р*, разм. *сто́ляр*. З польск. *stolarz* ‘тс’, якое ўтворана ад *stół* ‘стол’ і калькуе ням. *Tischler* ‘тс’ ад ням. *Tisch* ‘стол’; гл. Фасмер, 3, 766 з літ-рай; Брукнер, 517. Карскі (1, 414) непасрэдным запазычаннем з польскай лічыць формы з націскам на першым складзе.

**Стамаўка́** ‘вертыкальна’ (лід., Сл. ПЗБ). Параўн. укр. дыял. *ста́млять* ‘вертыкальна’, паўн.-рус. *стамико́м* ‘строма, стаўма’, *стами́к* ‘вертыкаль; апорны брус’, ‘стромая гара’, першапачаткова **stamъ*, роднаснае літ. *stomũ* ‘постаць, рост’, лат. *stāmenis* ‘тулава’, ц.-слав. *устаменити* ‘паставіць’, лац. *stāmen* ‘аснова ставаў’, гоц. *stōma* ‘фундамент; падножжа’; далей звязана з *стаць, стаяць*; гл. Траўтман, 282; Фасмер, 3, 745.

**Стамбо́ль** ‘гатунак табаку’ (Янк. 3). Янкоўскі (там жа, 124) мяркуе, што назва можа быць звязана з назвай *Стамбул*. Няпэўна; але параўн. наступнае слова.

**Стамбу́лка** ‘турэцкая люлька з доўгім цыбуком’ (Нас.), ‘палка (для апоры пры хадзьбе); указка’ (Нас., Шпіл.). Параўн. польск. *stambułka* ‘турэцкая люлька’, ‘пукатая бутэлечка’, рус. *стамбу́лка* ‘турэцкая люлька’. Вытворнае ад *Стамбул*; назва горада паходзіць з новагрэч. Στημπόλι ад выразу εἰς τὴν Πόλιν ‘у горад’, г. зн. Канстанцінопаль. Гл. Фасмер, 3, 744 з літ-рай. На падставе прызнака ‘доўгі’ ўтвораны *стамбо́ль* ‘мужчына высокага росту’ (слонім., Сл. рэг. лекс.), *стамбулікі* ‘кветкі на высокай сцябліне’ (Арх. Федар.), што не выключае ўплыву літ. *stámbas* ‘кветканоснае сцябло’, параўн. *стамбы́* ‘кветканосныя сцяблы’ (Сл. ПЗБ).

**Стаме́ска** ‘сталярская прылада з пляскатым тонкім долатам’ (ТСБМ, Сцяшк., Бяльк.), *стама́йза* ‘тс’ (Сл. Брэс.), *штама́йза* ‘тс’ (Скарбы). Рус. *стаме́ска, стамё́зка* ‘тс’. Запазычанне з н.-ням. *stemmizn* або нова-в.-ням. *Stemmeisen* ‘долата’; гл. Фасмер, 3, 744 з літ-рай. Для *стаме́ска* магчыма рускае пасрэдніцтва; *стама́йза, штамайза*, відаць, непасрэдна з нова-в.-ням.

**Стан**$_1$ ‘фігура, постаць чалавека’, ‘месца стаянкі, часовага пасялення’, ‘войска, адзін з ваюючых бакоў’, ‘саслоў’е, сацыяльны слой’, ‘машына ці сістэма машын’, ‘прыстасаванне’, ‘поўны камплект, набор чаго-небудзь (*стан калёс*)’, ‘становішча’ (ТСБМ, Нас., Ласт., Байк. і Некр., Касп., Сл. ПЗБ, Варл.), ‘талія’ (Ласт., Байк. і Некр., Касп., ТС), ‘вымераны кавалак палатна на сарочку’ (Касп.), ‘верхняя частка кашулі, сукенкі’ (Ян.), ‘фігура, постаць’ (Федар. 4), ‘сямейнае або грамадскае становішча’ (Варл.), ‘такарны станок’ (Нік. Оч.), ‘стаянка, шалаш’ (ТС), ст.-бел. *станъ* ‘фігура’ (Альтбаўэр), ‘адміністрацыйная адзінка’, ‘саслоўе’, ‘становішча’, ‘шлюб’, ‘ваенны лагер’ (Сташайтэне, Абстр. лекс., 71–72). Параўн. укр. *стан* ‘тулава; становішча, стан’, рус. *стан* ‘лагер, месца стаянкі’, ‘тулава, постаць чалавека’, рус.-ц.-слав. *станъ* ‘лагер, стаянка’, польск. *stan* ‘становішча, знаходжанне; чын; штат; талія’, в.-луж., н.-луж. *stan* ‘палатка’, чэш., славац. *stan* ‘шацёр, палатка’, серб.-харв. *ста̑н* ‘жыллё; стаў (ткацкі)’, ‘стаўка (у войску)’, славен. *stân* ‘жыллё; будова; загон; тулава; становішча’, балг., макед. *стан* ‘лагер; загон; постаць’, ст.-слав. **станъ** ‘лагер, стан’. Прасл. **stanъ* ‘стан, становішча; месца знаходжання, стаянка’ – дэрыват з суф. *-nъ* ад прасл. **stati* ‘стаць’ (Слаўскі, SP, 1, 115; Махэк$_2$, 574; Шустар-Шэўц, 1354; Борысь, 574). Роднасныя: літ. *stónas* ‘становішча’ (Фасмер, 3, 745: ставіць пытанне аб запазычанні з славянскага), ст.-інд. *sthā́nat* ‘месца; месца знаходжання’, грэч. δύστηνος ‘той, хто знаходзіцца ў благім становішчы’, ст.-в.-ням. *stân, stèn* ‘стаяць’. Параўн. яшчэ асец. *astæw* ‘паясніца, талія’. Гл. Фасмер, 3, 745, з літ-рай; гл. яшчэ Шустар-Шэўц, 1354; ЕСУМ, 5, 394–395.



**Стан**$_2$ ‘сузор’е Млечны шлях’ (Ласт., Стан.). Да *стан*$_1$ са значэннем ‘войска, вайсковы лагер’, параўн. “Млечную дарогу называюць Вайсковым Станам” (Спадчына, 1990, 4, 41).

**Стан**$_3$ ‘стан (дзеяслова)’ (ТСБМ, Гарэц., Байк. Некр.). Відаць, самастойнае ўтварэнне на базе *стан*$_1$ ‘становішча’, параўн. рус. *залог* ‘тс’, польск. *strona* ‘тс’.

**Станаўні́к** ‘талакнянка’ (Сл. ПЗБ, Сержп. Прымхі), *станаўнік бабскі* ‘грушанка зеленаватая, Pyrola virescens Schweig.’ (брэсц., Кіс.), *станоўнік бабскі* ‘рамішыя аднабочная, Ramichia opiz secunda (L.) Garcke’ (Ласт.; маг., Кіс.), *стано́ўнік* ‘криваўнік’ (ПСл), *станаві́к* ‘лекавая расліна’ (Скарбы). Параўн. укр. *стано́вник, стоно́вник* ‘расліна Pyrola L.’. Утворана ад *станавіць* ‘ставіць; ставіць на месца’ < *ставіць* (гл.), параўн. *як зрушан жывот, та п’юць... станаўнік* (Сержп. Прымхі, 226).

**Станда́ра** ‘адзін з драўляных слупоў, якія служыць фундаментам’ (браг., Шатал.; чэрв., Нар. лекс.). Гл. *штандара*.

**Ста́нік** ‘ліф; бюстгальтар’ (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Касп., ЛА, 4), ‘верхняя жаночая вопратка без рукавоў; бюстгальтар’ (Сцяшк.), ‘ніжняя вопратка без рукавоў, якую носяць дзеці, жанчыны паверх кашулі’ (Сл. Брэс.). Да *стан*$_1$ ‘стан, фігура’ (гл.).

**Стані́на** ‘аснова, на якой манціруюцца асобныя часткі машыны або станка’ (ТСБМ), дыял. ‘палатно ў 18 пасмаў на стан кашулі’ (Жд. 3), *станіна́* ‘палатно’ (Жыв. сл.). Да *стан*$_1$ (гл.).

**Стано́вішча** ‘месца знаходжання’, ‘пастава; поза’, ‘абставіны’ (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр.), ‘пазіцыя, пункт погляду’ (Стан.), ‘стан, месца, дзе жывуць рыбакі ў час лоўлі рыбы’ (дзісн., Яшк. Мясц.), ‘месца на пашы, дзе апоўдні стаіць быдла’ (Касп.), *станаві́шча* ‘месца, дзе стаяць каровы ўдзень’ (Сл. ПЗБ), *станові́шчэ* ‘стаянка’ (ТС). Укр. *стано́вище* ‘месца знаходжання, размяшчэнне’, ‘лагер, стан’, ‘месца прыпынку скаціны, якая пасецца’, рус.

*станови́ще* 'стан, табар, стаянка', чэш. *stanoviště* 'месца прыпынку, станцыя', серб.-харв. *ста̀новиште* 'пункт гледжання, пазіцыя', балг. *стано́вище* 'тс; месца знаходжання', макед. *становиште* 'пазіцыя, пункт погляду'. Дэрыват з суф. *-ішч(а)* ад прыметніка *станавы* (гл. *стан*), што прадстаўляе прасл. **stanovъ*, **stanovati*, параўн. *стано́ўны* 'пастаянны', *станаві́ты* 'станоўчы' (Нас.), *станаўкі́* 'ўстойлівы, рашучы', *станаві́ць* 'ставіць' (Стан.), ст.-рус. *становый*, рус. дыял. *становать*, укр. *станови́ти*, польск. *stanović*, дыял. *stanovny*, чэш. *stanovati*, *stanový*, славен. *stanovati*, *stanovit*, серб.-харв. *становати*, *станован*, балг. *стану́вам*, *стано́вен*, макед. *станува*. Магчыма, уже прасл. **stanoviště* 'стан, стаянка', паводле Гарачавай (ЭИРЯ, 9, 63–64), утваранага ад зыходных **ŭ*-асноў або *ŏ*-асноў, якія перад галоснымі атрымалі канцовае *-oṷ: *stanoṷ-išče > stanov-išče > *stan-ovišče*. Бярнар (Бълг. изсл., 98) выводзіць аснову **stanov-* з іменных форм, параўн. ст.-слав. Р. скл. адз. л. **станоу** – Н. скл. мн. л. **становє**, пры старой форме **станищє** < **станъ** 'stadium'. Ён жа звяртае ўвагу на семантычную тоеснасць балг. *стано́вище* 'пункт погляду' і чэш. *stanovisko* 'тс' (там жа, 104). У сучаснай беларускай мове супрацьпастаўленне семантыкі 'месца' і 'дзеянне' рэалізуецца праз ужыванне назоўніка *ста́ўленне* 'пазіцыя, адносіны', гл. Пацюпа ў Станкевіч, Язык, 1182.

**Стано́г** 'жывёліна Oniscus murarius' (Некр. і Байк.), 'мнаганожка' (ЛА, 4), *стоно́га*, *стано́жка* 'тс' (ЛП, Пятк. 2, Шатал., ЛА, 4), *стоно́г* 'макрыца' (ПСл), *стоно́га* 'тс' (Сл. Брэс.), *стаaccount́гі (сто-ногі)* мн. л. 'тс' (Меер Крыч.). Параўн. укр. *сто́нга*, *стоно́га* 'тс'. Кампазіт на базе *сто* (тут у значэнні 'шмат') і *нага́* (гл.).

**Стано́к$_1$** 'машына, прыстасаванне', 'апора', 'стойла' (ТСБМ), 'прыстасаванне або прылада' (ТС), 'вал у кроснах, на які навіваецца аснова ці палатно' (Сцяшк.), *станкі* мн. л. 'козлы, на якіх пілуюць дровы' (Жд. 3). Ад *стан$_1$* (гл.) з суф. *-ок*. Паводле Трубачова (Этимология–1985, 6), прасл. **stanъkъ* першапачаткова азначала пераважна ткацкі стан.

**Стано́к$_2$** 'стаянка, шалаш у лесе, на лузе', 'стойла для каня ў хляве' (ТС, Сержп. Прымхі). Да *стан$_1$* (гл.).

**Стано́к$_3$** 'луг паміж балотамі' (Жд. 3). Да *стан$_1$* з суф. *-ок*, г. зн. 'месца, дзе можна стаць'.

**Стано́ўнік**. Гл. *станаўнік*.



**Стано́ўчы** 'дадатны', 'які заслугоўвае адабрэння' (ТСБМ), 'рашучы' (Ласт.). Польск. *stanowczy* 'рашучы, катэгарычны' < *stanowić* 'станавіць'. Беларускае, відаць, з польскай.

**Ста́нцыя** 'месца прыпынку транспартных сродкаў, вакзал' (ТСБМ, Бяльк.), 'кватэра, часовае жыллё, станцыя, заезны дом' (Нас.), *ста́нца* 'станцыя' (Сл. Брэс.), *ста́нцыя* 'тс' (гродз., Сл. ПЗБ), *ста́нцая* 'пакой, памяшканне' (Сержп.), *ста́нця* 'тс' (Сл. рэг. лекс.). Ст.-бел. *станция*, *станцыя* 'кватэра, месца пастою', 'абавязак утрымання праездных службовых асоб' (1545 г.) з ст.-польск. *stancyja* (Булыка, Лекс. запазыч., 190). Сучаснае слова таксама з польск. *stancja* 'станцыя', якое, па адной версіі, узыходзіць да італ. *stanza* 'пакой, жыллё', нар.-лац. *stanzia* (Мацэнаўэр, Cizí sl., 312; Брукнер, 513; Булыка, там жа), а па другой – з больш ранняга *stacja* 'кватэра, заезны дом' з назалізацыяй у выніку ўплыву слова *стан* (Слаўскі, JP, 38, 1958, 229; Дзікенман, RS, 21, 196, 139). Польск. *stacja* < лац. *statiō* 'стаянка, прыпынак' (Брукнер, 512; SWO, 699). Гл. ЕСУМ, 5, 396.

**Станьго́м** 'у безвыходнае становішча (пастаўлены)' (Нас., Яруш., Гарэц., Байк. і Некр.), 'на дыбкі (аб кані)' (Нас.), 'у нерашучасці': *што ты стаў станьгом?* (Бяльк.). З *станько́м* 'у стаячым становішчы' (Нік., Очерки) з экспрэсіўным азванчэннем *к – г*. Рэдкі дэрыват ад *ста́нуць* 'стаць', параўн. наз. *стань* 'пост' (Стан.), дэвербатыў ад гэтага дзеяслова з суф. *-к-*. Канчатак Т. скл. тут можа быць вынікам аналогіі з прыслоўямі тыпу *бяго́м*, гл. Карскі, 2–3, 75. Параўн. і *стальга́*, *стальго́м* 'стоячы і застыўшы' (Юрч. Вытв.), магчыма, звязаныя з формай прошлага часу дзеяслова *стаць* (гл.).

**Стапа́** 'адзінка падліку пісчай паперы, роўная 1000 лістоў' (ТСБМ), *stapá* або *stupień* 'ступня' (Пятк. 2). Параўн. укр. *стопа́* 'ступня; стос', рус. *стопа́*, 'ступня; старая мера', стараж.-рус. *стопа* 'ступня, падэшва нагі; крок', польск. *stopa* 'ступня, мера даўжыні', чэш. *stopa* 'тс', славац. *stopa* 'тс', в.-луж. *stopa* 'нага, след нагі, крок; мера', н.-луж. *stopa* 'тс', серб.-харв. *сто̀па* 'ступня, след, крок; мера', славен. *stópa* 'крок, след, ступня', балг. *стъпа́ло* 'ступня', *стъпка* 'крок', макед. *стапало* 'ступня', *стапка* 'крок, мера', ст.-слав. **стопа** 'след, ступня, крок'. Прасл. **stopa* 'падэшва (нагі), след (нагі)'; якое з'яўляецца аддзеяслоўным назоўнікам ад незахаванага прасл. **stepti* (гл. *ступіць*) з чар-

гаваннем *e/o*; Борысь, 578; гл. яшчэ Фасмер, 3, 766–767 з аглядам літ-ры; ЕСУМ, 5, 426–427.

**Стапа́рч** іран. 'уся мэбля ў хаце' (Сцяшк.), 'нешта непрывычна вялікае' (слонім., Нар. словатв.). Аддзеяслоўны назоўнік ад дзеяслова тыпу *тапары́шчыцца* 'стаяць тырчком, тырчэць' (Стан.), параўн. рус. *топо́рщиться* 'тс' і пад.

**Стар** 'старое, былое' (Нас.), 'старасць' (Нас., Стан.), 'старое месца жыхарства' (Касп.). Адпрыметнікавы назоўнік, гл. *стары*. Сюды ж, відаць, і дзеяслоў *старава́ць* 'гутарыць, размаўляць' (Нас., Скарбы).

**Старава́ць** 'скамячыць', *старава́ны* 'скамечаны' (Сцяшк. Сл.), ст.-бел. *старовати* 'гнясці' (Ст.-бел. лексікон). Магчыма, звязана чаргаваннем галосных з *тор*, *церці*, гл.; параўн. рус. дыял. *соста́рить* 'ударыць', параўн. Варбат, Зб. Вінаградаву$_2$, 81–82. Параўн. *та́рыць* (гл.).

**Старажня́** 'рыбалоўная снасць (рагулька з шнурам)' (маг., Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1972, 4, 56), *сторо́жня* 'стаўная вуда на шчупакоў' (ТС, Нар. Гом.). Да *старажыць* 'пільнаваць', параўн. *сто́рож* 'стаўная вуда на шчупакоў; нацягнуты шнурок у рыбалоўнай прыладзе, які сігналізуе аб наяўнасці злоўленай рыбы' (ТС). Гл. *сторaж*.

**Старажы́ць**. Гл. *сторaж*.

**Старако́л** 'частка дрэнна ссучанай ніткі, якая ідзе ў сукараткі', *старако́ліцца* 'скручвацца (пра нітку)' (Шат.). Другую частку слова можна параўнаць з рус. дыял. *колы́га* 'вузел на нітцы, на вяроўцы'. Марфалагічная структура слова няясная; не выключана, што слова адпавядае наз. *скаракол* (гл.), дэфармаванаму ў выніку дээтымалагізацыі.

**Старана́** 'бок'; 'напрамак свету', 'край, краіна', 'бок (у судзе)', 'бок (у адзенні)', 'бок гумна; прыстаронак' (ТСБМ, Ласт., Стан., Байк. і Некр., Сл. ПЗБ), *сторона́* 'бок, бакавіна', 'край, мясцовасць' (ТС), ст.-бел. *сторона* 'край, краіна', 'напрамак', 'супрацьстаўныя групы', 'юрыдычная асоба' (Сташайтэне, Абстр. лекс., 69). Параўн. укр., рус. *сторона́*, старaж.-рус. *сторона*, польск., в.-луж., н.-луж. *strona*, палаб. *stárna*, чэш., славац. *strana*, серб.-харв. *стра̏на*, славен. *strána*, балг. *страна́*, макед. *страна*, ст.-слав. **страна**. Прасл. **storna* утворана з суф. *-na* ад прасл. **sterti* (гл. *прасціраць*), якое, у сваю чаргу, ад і.-е. **ster-* 'тс'. Гл. Слаўскі,



SP, 1, 116; Шустар-Шэўц, 1364–1365; Бязлай, 3, 323. Роднасныя лат. *stara* 'паласа', ст.-інд. *stṛṇā́ti*, *stṛṇā́ti* 'разлёгся', лац. *sternō* 'рассыпаць, распасцерці', *sternere* 'сыпаць, сцяліць'. Гл. Фасмер, 3, 768 з літ-рай; Глухак, 586–587.

**Ста́раснік** 'крывацвет, Lycopsis arvensis L.' (Касп.), *старасцнік* 'тс' (Кіс.), *ста́раснік* 'паўночнік, Knautia L.' (Шат.), 'скабіёза' (Кіс.), *старасце́н* 'расліна Senecio paluster DC.' (Байк. і Некр.), *ста́расцень* 'расліна Senecio vulgaris L.', *старына́* 'тс' (Кіс.). Параўн. укр. *старина* 'тс', рус. *старина́* 'тс', польск. *starzec*, чэш. *stareček*, ст.-чэш. *starček*, славац. *starček*. Несумненна, звязана са *стары* (гл.); паводле Врубля (Term. bot., 42), гэта выклікана тым, што кветкі раслін вянуць ужо вясной. Уплыў лацінскай назвы выразіўся ў спецыялізацыі форм са значэннем 'стары' для абазначэння раслін Senecio L. Гл. таксама Мяркулава, Очерки, 98–99; ЕСУМ, 5, 397–398.

**Ста́раста** 'выбраны або прызначаны ў абшчыне, арцелі; адказны класа, гурту і пад.' (ТСБМ, Бяльк., Рам. 3), 'сват на вяселлі' (пін., Шатал.), *ста́руста* 'тс' (Сл. Брэс.), ст.-бел. *староста* 'службовая асоба, якая кіравала паветам у ВКЛ' (Ст.-бел. лексікон). Укр. *ста́роста*, рус. *ста́роста* 'тс', польск., в.-луж. *starosta* 'стараста абшчыны', славац. *starosta* 'тс', чэш. *starosta* 'правадыр, начальнік'. Параўн. яшчэ старaж.-рус. *староста* 'стары; старшыня; стараста; кіраўнік, эканом'. Прасл. **starosta*. Да *стары*; гл. Фасмер, 3, 747; Брукнер, 514; Махэк$_2$, 574; Борысь (575) мяркуе, што першапачаткова гэта быў абстрактны назоўнік на *-ostь*: **starostь*, які потым перайшоў у катэгорыю назоўнікаў на *-a* тыпу *слуга*, *ваявода*.

**Ста́рац** 'жабрак'; паэт. 'стары чалавек', 'манах, духоўны настаўнік веруючых' (ТСБМ), 'жабрак' (Нас., Байк. і Некр., Бяльк., Касп., Сл. Брэс.), *ста́рэц* 'тс' (ТС), *старцава́ць*, *старча́ць* 'жабраваць', *старча́нка* 'жабрачка' (ТС), *старчаня́та* 'жабракі' (Мат. Гом.). Да прасл. **starьсь* (параўн. укр. *ста́рец* 'жабрак', рус. *ста́рец* 'стары', польск. *starzec*, чэш. *stařec*, балг. *ста́рец*, макед. *старец*), якое ўтворана ад прасл. **starъ* 'стары' з суф. *-ьсь* (Слаўскі, SP, 1, 99).

**Стара́цца** 'рупіцца, імкнуцца', 'прыкладаць намаганні, шчыраваць' (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Федар. 4, Ян., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС, ЛА, 3), *старэ́цца* 'рупіцца, клапаціцца' (Нас.), *стара́нны*, *стара́тлівы*, *старэ́нны* 'клапатлівы; хуткі ў рабоце' (ЛА, 3),

ст.-бел. *старати сѧ* 'тс', *старѣють сѧ* 'стараюцца' (Карскі, 2–3, 388). Параўн. укр. *стара́тися*, рус. *стара́ться*, польск. *starać się*, в.-луж. *starać so*, н.-луж. *staraś se*, чэш. *starati se*, славац. *starat'sa*, серб.-харв. *ста̏рати се*, славен. *stárati se*, балг. *стара́я се* 'старацца'. Прасл. **starati sę* 'мучыцца з чым-небудзь, імкнуцца да чаго-небудзь, старацца', якое да і.-е. **(s)ter(ǝ)-/*(s)trē-*; гл. Борысь, 575. Роднаснае лат. *starîgs* 'старанны', літ. *starinti* 'цягнуць з цяжкасцю', ст.-прус. *stūrnawiskan* ж. р. Тв. скл. адз. л. 'сур'ёзнасць, важнасць', англ.-сакс. *stierne* 'сур'ёзны, строгі', лац. *sternāx* 'упарты, заўзяты' (Фасмер, 3, 746 з літ-рай). Меркавалі таксама, што слова роднаснае *стары*, гл. (Скок, 3, 328; Брукнер, 513; Гуйер, LF, 50, 1923, 319–320, Шустар-Шэўц, 1354–1355). Махэк$_2$ (574) у якасці паралеляў прыводзіць яшчэ ням. *stören*, ст.-в.-ням. *stōran* 'перашкаджаць'. Версію пра этымалагічную тоеснасць **starati (sę)* з прасл. **terti* (гл. *церці*), што грунтуецца на славен. *tárati* 'мучыць', 'напружана працаваць', *terati* 'дапытваць, мучыць' і пад., прапануе Куркіна (Этимология–1994–1996, 207), што патрабуе падмацавання матэрыялам іншых славянскіх моў. Гл. таксама Варбат, Зб. Вінаградаву$_2$, 77–82: спроба, грунтуючыся на бел. *ста́рыць* 'садраць', давесці паходжанне **starati sę* ад **terti*, гл. *церці*; параўн. таксама *старкава́ны* 'стары, зморшчаны' (Сцяшк. Сл.) ад *та́ркаць*, *та́рыць* 'церці на тарцы', 'штурхаць' (там жа). Гл. агляд версій у Новое в рус. этим., 217.

**Старлы́ба** 'стары, ссівелы, падупалы' (Барад.). Да *стары* з няяснай суфіксацыяй (< *старлыга*? як *маталыга* і пад.).

**Старма́** 'старчма' (дзятл., Сл. ПЗБ). Укр. *сто́рма* 'тс'. Паводле ЕСУМ (5, 427), звязана з *старчма* (гл.), але тут, хутчэй, метатэза з **стро́ма* (гл. *стромы*); націск на канцы паводле *старчма́*, гл.

**Старо́жка** 'памяшканне для стоража; невялікая хатка' (ТСБМ, ТС), разм. 'жанчына-стораж' (ТСБМ). У першым значэнні з рус. *сторо́жка* 'тс', у другім – наватвор ад *стораж* (гл.).

**Старч** 'стырчак' (ТС). Магчыма, кантамінацыя запазычання з польск. *stark* 'кол, жэрдзь' і *сторч* (гл.).

**Старча́к** 'палка, тонкі кол, уваткнуты ў зямлю', 'прадмет, які стаіць старчма' (ТСБМ), 'дрэва са зламанай вершалінай (сукамі)' (Сл. ПЗБ, Шатал.), 'галоўны корань у дрэве' (Сл. ПЗБ, Жыв. сл.), 'плот-штакетнік' (Нар. сл.), *старшя́к* 'тоўсты канец бервяна' (Сл. Брэс.), *starczanik* albo *dzied* 'вертыкальны корань у сасне' (Пятк. 2), прысл. *старчака́* 'вертыкальна; уніз галавой' (Сл. ПЗБ, Ян., Янк. 2), *старчакэ́* 'тс' (Сцяшк. Сл.), *даць сторчака́* 'ўпасці галавой уніз' (ТС), *старчако́м* 'старчма' (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Янк. 2), *старч* 'стырчак' (ТС). Да *сторч* (гл.).



**Старчако́л** 'старчак' (КЭС). Да папярэдняга слова.

**Старча́ць** 'хапаць, быць дастатковым' (ТС). З польск. *starczyć*, *starczać* 'тс'. Гл. яшчэ *выстарчаць*.

**Старчма́**, *старчмя́* 'старчака' (ТСБМ, Мал.), *сто́рчма* 'тс' (Сл. ПЗБ), *сто́рчма, сты́рчма, стэ́рчма* 'тс' (ТС), *старчмака́* (ТСБМ), *стырчмака́* (Сцяшк. Сл.), *старчмако́м* 'тс' (Сл. ПЗБ). Да *старчаць* (гл. *сторч*) з суф. *-м(а)*; памылкова Шуба (Прыслоўе, 57), які *с-* лічыць прыставачным у прыслоўі.

**Старшыня́** 'кіраўнік; асоба якая старшынствуе' (ТСБМ, Байк. і Некр., Гарэц., Касп., Бяльк.), *старшыня́*, *старшына́* 'тс' (Ласт.), *старшына́* 'тс' (ТС). Вытворнае ад *старшы* 'старэйшы', формы ступені параўнання да *стары* (гл.). Паводле Карскага (1, 323), канчатак слова *-іна* быў заменены на *-іня* пад уплывам слоў тыпу *вышыня*, *шырыня* і пад.

**Стары́** 'шматгадовы', 'даўні', 'зношаны', 'старажытны, мінулы' (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Бяльк., Сл. ПЗБ, ТС), сюды ж дзеяслоў *старэ́ць* (ТСБМ). Параўн. укр. *ста́рий*, рус. *ста́рый*, старараж.-рус. *старъ*, польск., в.-луж., н.-луж. *stary*, чэш., славац. *starý*, серб.-харв. *ста̏р*, славен. *stàr*, балг., макед. *стар*, ст.-слав. **старъ**. Прасл. **starъ* 'стары' з'яўляецца архаічным прыметнікам з суф. **-rъ* ад дзеяслова **stati* 'стаць'; гл. Борысь, 577–578. Роднасныя літ. *stóras* 'тоўсты, аб'ёмісты', ст.-ісл. *stórr* 'вялікі, дужы, важны, мужны'; з іншай ступенню вакалізму: ст.-інд. *sthirás* 'моцны' (Фасмер, 3, 747 з літ-рай). Борысь (там жа) з улікам семантыкі і.-е. паралеляў прапаноўвае наступны шлях семантычнага развіцця славянскага **starъ*: 'сталы, моцны' → 'той, які знаходзіцца ў поўнай сіле, дужы' → 'немалады, стары'; уласна, гэта семантычная інавацыя, якая часткова выцесніла прыметнік **vêtъxъ* (гл. *ветхі*). Гл. яшчэ Сной$_1$, 604; Шустар-Шэўц, 1355; Глухак, 580; ЕСУМ, 5, 398. Паводле Мартынава (Язык, 84–85), семантычны зрух у праславянскай 'вялікі, моцны' → 'стары' адбыўся пад уплывам **matorъ* 'сталы, стары' – пранікнення з італійскіх моў, параўн. лац. *mātūrus* 'спелы, стары', гл. *мацёры*.

**Стары́зна** ‘старыя, зношаныя рэчы, прадметы’, ‘пра старога чалавека’ (ТСБМ), ‘старыя рэчы’ (Шат., Касп., Сцяшк., Жд.), *стары́зна, стары́зніна, стары́знь* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), *стары́зна* ‘даўніна’ (ТС). З *стары* і суф. *-ізн-* (Карскі, 2–3, 28–29). Магчымы польскі ўплыў, параўн. польск. *starzyzna* ‘старыя рэчы’.

**Стары́к**$_1$ ‘старыца’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ, ТС, Мат. Гом.). Да *стары* (гл.), тут ‘былое, старое рэчышча’; відаць, вынік семантычнага згортвання выразу **стары́ рукаў* (ракі).

**Стары́к**$_2$ ‘месяц на сходзе’ (Сл. ПЗБ, ТС, Сл. Брэс., Ян., Мат. Гом., Шатал.). Да *стары* (гл.), параўн. *ве́тах* ‘тс’.

**Ста́рыць** ‘здзерці, надраць на тарцы’ (Ян.), *старкава́ць* ‘тс’ (Мат. Гом.). Да *тарыць, таркаваць* (гл.).

**Старэ́ць**. Гл. *стары*.

**Стасава́ць**, *стасава́цца* ‘быць, знаходзіцца ў адпаведнасці з кім-небудзь, чым-небудзь’ (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Гарэц., Др.-Падб., Яруш., Сержп. Прык., Сл. ПЗБ), *стосова́цца* ‘адносіцца’ (ТС). Запазычанне з польск. *stosować (się)* у розных значэннях, якое з с.-в.-ням. *stôȥen* ‘ударацъ; прыстаўляць; распасціраць’ і г. д., ням. *stossen* ‘тс’; гл. Карскі, Белорусы, 163; Кюнэ, Poln., 119 з літ-рай. Ст.-бел. *стосоватися* (XVI ст.), ‘складваць у стосы; прыстасоўваць’ з ст.-польск. *stosować* ‘тс’, гл. Булыка, Лекс. запазыч., 93. Сюды ж *стасу́нкі* ‘адносіны’, дыял. *стасу́нак* ‘згода’, якія таксама паходзяць з польскай; параўн. *stosunek* ‘адносіны’, гл. Карскі, 2–3, 36; Брукнер, 517; Борысь, 578; ЕСУМ, 5, 425.

**Стасу́нкі**. Гл. папярэдняе слова.

**Ста́так**$_1$ ‘гурт буйной дамашняй жывёлы’, ‘пагалоўе; быдла; рагатая жывёла’ (ТСБМ, Ласт., Сцяшк., Арх. Федар., Шымк. Собр., Бяльк., Сержп., Сл. ПЗБ; полацк.. Шн. 2), ‘чарада кароў’ (ЛА, 1), ‘буйная рагатая жывёла’ (Нас., Мал.), ‘стада’ (Шат., Касп.), ‘інвентар; стада’ (Др.-Падб.), ‘стада авечак, коз і да т. п.’ (Мядзв.), ‘рухомая маёмасць’, ‘стада жывёлы’ (Федар. 7), ‘пасудзіна’, *ста́ток* ‘інструмент’ (гродз., беласт., Сл. ПЗБ), *ста́ткі* толькі мн. л. ‘снасці, прылады, прыстасаванні для рыбнай лоўлі’ (Крыв.), ‘рэшткі, спадкі, спадчына’ (Нас.), ст.-бел. *статокъ* ‘маёмасць’ (Ст.-бел. лексікон; Сташайтэне, Абстр. лекс., 161), ‘буйная рагатая жывёла’ (Ст.-бел. лексикон). Укр. *ста́ток* ‘статак’, рус. *ста́ток* ‘дастатак; маёмасць’, зах. ‘жывёла’, польск. *statek* ‘рухомая маёмасць; жывы інвентар’, дыял. ‘быдла, хатняя жывёла’, н.-луж. *statk* ‘прадпрыемства; дзеянне; справа’, чэш. *statek* ‘маёмасць, рэчы’, дыял. ‘буйная рагатая жывёла’, славац. *statok* ‘тс’ Прасл. дыял. **statъkъ*, дэрыват ад **stati* ‘стаць’ з суф. *-ъkъ*. Гл. Махэк$_2$, 675; Фасмер, 3, 745. Шустар-Шэўц (1356–1357) мяркуе, што **statъkъ* утворана ад праславянскага назоўніка **statь* (параўн. *стаць*$_2$, *пастаць*, гл.; рус. *стать* ‘пастава’) з суф. *-ъkъ*; Борысь (576) выводзіць ад прасл. **statъ* < **stati*. Ст.-бел. *статокъ* ‘рэчы, маёмасць’ Булыка (Лекс. запазыч., 78) лічыць паланізмам, што, відаць, не мае падстаў.

**Ста́тны** ‘прапарцыянальна складзены’ (ТСБМ), ‘высокі; збытны’ (Нас.), ‘добры’ (Жд. 3, Гіл.), ‘высокі, стройны, удалы, добры’: *статный будзя етый лён* (Бяльк.). Укр. дыял. *ста́тний* ‘стройны; багаты, заможны’, рус. *ста́тный* ‘стройны, пастаўны’. Да *стаць*$_2$ (гл.); да семантыкі параўн. *спра́ўны* ‘удалы, прыгожы’ (ТСБМ), *прысто́йны* ‘добры, падыходзячы’ (там жа), *пры́чынно* ‘зручна’ (ТС) і пад.

**Стату́й** зневаж. пра тупога, бесталковага чалавека (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Мат. Маг., Юрч. Вытв.), ‘нязграбны чалавек’ (Мат. Гом.): *стату́й ты карэтны!* – лаянка (маг., Ліцв.), *стату́й* ‘фігура, вылепленая з чаго-небудзь або зробленая з пяску’ (Жд. 2), *ста́туй, ста́туя* ‘вылепленая фігура; боўдзіла’ (Касп.), *ста́туй* ‘чалавек высокага росту’ (Бяльк.), *стату́я* ‘вылепленая фігура; боўдзіла’ (Нас.), *стату́й, стату́я* ‘фігура з металу ці каменя; манекен’ (Сл. ПЗБ). Сюды ж, магчыма, і *статэ́ва* ‘высокая жанчына’ (Сл. рэг. лекс.). Запазычана з заходнееўрапейскіх моў, параўн. ням. *Statue* ‘скульптура, фігура’, франц., англ. *statue* ‘тс’ з лац. *statua* ‘статуя, калона’ ад *statuo* ‘стаўлю, засноўваю’, праз рускае або польскае пасрэдніцтва. Адаптацыя па роду па аналогіі з *балван, ёлуп* і пад. Гл. Фасмер, 3, 748; ЕСУМ, 5, 402. Значэнне ‘чалавек высокага росту’, магчыма, пад уплывам *статны* (гл.).

**Стату́т** ‘кодэкс, звод законаў’, ‘звод правілаў, палажэнняў’ (ТСБМ, Стан., Гарэц.), ‘перашкода, супынак’ (Нас.), *ста́тут* ‘аснова дзейнасці арганізацыі, таварыства і інш.’ (Байк. і Некр.), ст.-бел. *статутъ* ‘кодэкс, звод законаў’. Запазычана праз польск. *statut* ‘тс’ (параўн.: “ustawy… łacińskim językiem pisane, statutami zowią”, Варш. сл., 6, 406) або непасрэдна з лац. *statutum* ‘правіла’, першапачаткова ‘тое, што ўстаноўлена’ (ад *statuere* ‘паставіць, учыніць’, роднаснага **stati*, гл. *стаць*).

**Стаў**$_1$ ‘прыстасаванне для ўмацавання, замацавання чаго-небудзь’ (ТСБМ, Нік. Очерки), ‘лёгкі варстат на чатырох сошках’: *стаў просты, а верстаць така вусока* (ТС, Серб. Вічын), *стаў, ставы* ‘кросны’ (Касп., Бяльк., Уладз., Мат. Гом., ТС), *став, ставы́* ‘тс’ (Сл. Брэс.), *ставы́* ‘тс’ (петрык., Шатал.; смарг., чэрв., віл., Сл. ПЗБ; ЛА, 4; круп., Нар. сл.), *ста́вы* ‘стойкі ткацкага стана’ (Байк. і Некр., Шат., Бяльк.), *ста́ўчык (ставчикъ)* ‘ямка для ўстаўкі верацяна’ (Шымк. Собр.). Укр. дыял. *ставкі́* ‘ніжнія гарызантальныя планкі красён’, рус. дыял. *став* ‘кросны’, чэш. *stav* ‘кросны’. Праслав. дыял. **stavъ* з'яўляецца аддзеяслоўным вытворным ад асновы прасл. **staviti* ‘ставіць’; гл. спецыяльна Трубачоў (Ремесл. терм., 124), які адзначае, што дэрываты ад кораня **sta-* (гл. *стаяць*) у значэнні ‘кросны’ сустракаюцца і ў іншых і.-е. мовах, таму няясна, наколькі гэта слова можна лічыць славянскай інавацыяй. Лат. *(aužami) stāvi* ‘кросны’ падобна на запазычанне з рускай або беларускай.

**Стаў**$_2$ ‘воз без колаў’ (івац., Сл. ПЗБ), *ставо́к* ‘тс’ (Маслен., ТС). Да *стаў*$_1$, *ставіць* (гл.).

**Стаў**$_3$ ‘сажалка, запруда’ (ТСБМ, Гарэц., Касп.; ашм., Стан.; Байк. і Некр., Сл. ПЗБ), ‘невялікі прыродны вадаём’ (паўд.-зах., ЛА, 1; Пятк. 2), ‘сажалка на рэчцы’ (зах., ЛА, 1), ‘выкапаная сажалка’ (зах., ЛА, 1; Сцяшк.), *ставо́к* ‘сажалка; запруда’ (Касп.; ашм., Стан.), ст.-бел. *ставъ* ‘возера’ (Альтбаўэр). Укр. *став*, рус. *став*, польск., н.-луж. старое *staw*. Прасл. дыял. **stavъ* ‘месца, дзе спынілася (стала) вада’, да *ставіць*, аддзеяслоўны назоўнік; гл. Фасмер, 3, 742; Борысь, 576; ЕСУМ, 5, 389.

**Стаўбе́ц**, *стаўпе́ц (стовбе́ц, стовпе́ц)* ‘рыба ялец, Leuciscus leuciscus L.’ (Крыв.), *стовпец* ‘рыба ялец; рыба пячкур, Gobio gobio’ (на Прыпяці, Жук.), *стаўбец* ‘пячкур’ (Інстр. 2); з іншым суф. *стаўбу́н* ‘ялец’ (Янк. 1, 2). Дэрываты з суф. *-ец* ад *стоўб, стоўп* (гл.). Укр. *стовбець, стовпець* ‘пячкур; ялец’. Па сведчанні Сабанеева (2, 78 і наст.), пячкур называецца *столбец, столбчик* наогул па ўсёй паўднёвай Расіі; назва дадзена па брускаватай форме цела і па звычцы ў паўдзённую гарачыню стаяць нерухома каля камянёў і карчоў (гл. таксама Усачова, Слав. ихт. терм., 154); найменні першапачаткова адносіліся да пячкура, а потым перайшлі на яльца з прычыны некаторага падабенства і іх дробных памераў. Інакш ЕСУМ (5, 421), у якім мяркуюць аб



змяненні і кантамінацыі назваў тыпу ўкр. *ско́блик, ко́вблик*, рус. *колб, колбе́нь*, якія былі набліжаны да *стоўб*.

**Стаўбу́н**$_1$ ‘збан’ (ТСБМ, Ласт., Касп., Шат., Жд. 3, Сл. ПЗБ, Мат. Гом.), ‘высокі конусападобны прадмет з круглым верхам’, ‘слуп чаго-небудзь (пылу, дыму), які падымаецца ўверх’, ‘віхор, ураганны вецер’ (ТСБМ), а таксама ‘кветаноснае сцябло’ (Мат. Гом., Сцяшк., Сл. ПЗБ, ТС), ‘кадаўб’ (Сл. ПЗБ), ‘грубка’ (Сцяшк.), *стаўбу́н, сталбу́н* ‘гарлач (збан); гліняны гаршчок з ручкамі’, значэнні і лінгвагеаграфію гл. ЛА, 1; з іншай суфіксацыяй *стоўба́к* ‘высокая вузкая бочка’ (Юрч. Вытв.), *стоўба́н* ‘тс’, перан. ‘галава’ (там жа), *стаўбу́нік* ‘высокая і вузкая шафа’ (Сл. рэг. лекс.), *стаўбуне́ць* ‘расці не ў карняплод, а ў сцябло’, *стаўбуні́цца* ‘ўзнімацца слупам (пра дым, зямлю)’. (ТСБМ). Укр. *стовбу́н* ‘высокі гаршчок’, рус. *столбу́н* ‘высокі і вузкі збан’. Да *стоўб* з суф. *-ун, -ак, -ан*. Сюды ж *стаўбу́н* ‘высокая футравая шапка без вушэй’ (Жд. 1), *стамбуно́ўка* ‘тс’ (Шат.), *стаўбуно́ўка* ‘тс’ (гродз., Нар. сл.).

**Стаўбу́н**$_2$ ‘параліч, паралюш’ (Растарг.). Да *стоўб* (гл.), параўн. рус. *столбня́к* ‘заражэнне крыві, якое выклікае аслупяненне’. Сюды ж, відаць, *стаўбні́к, стаўбня́к* ‘расліна стальнік’ (Сцяшк. Сл.), якую «рвуць на лекі» (там жа).

**Стаўбу́р** ‘высокі конусападобны прадмет з круглым верхам; ствол дрэва, слуп дыму і пад.’ (ТСБМ), ‘кветаноснае сцябло’, ‘зламанае бурай дрэва’ (Ласт; віл., паст., шальч., Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *стовбу́р* ‘ствол, стрыжань расліны’ Відаць, таго ж паходжання, што і *стаўбун* (гл.), але з суф. *-ур*, аб якім гл. Слаўскі, SP, 2, 26; суадноснае з славен. *stebër* ‘калона’, харв. *stȁbar* ‘дрэва, сцябло’, на аснове якіх узнаўляецца прасл. **stъbъrъ* з галоснымі ў ступені рэдукцыі, гл. Бязлай, 3, 314. Роднаснае літ. *stuobrỹs, stũbures, stùburas* ‘сцябло; шасток’, лат. *stubure* ‘пень; сцябло’; апошнія хутчэй садзейнічалі захаванню слова, чым былі крыніцай для яго запазычання. Німчук (Давньорус., 244) мяркуе пра кантамінацыю стараж.-рус. *стоборъ* < зборн. *стобориѥ* ‘шэраг слупоў’ (< **stъbъrъ* або **stoborъ*) з *стовп* (< **stъlpъ*, гл. *стоўб*). Гл. яшчэ Фасмер, 3, 762; ЕСУМ, 5, 422.

**Стаўды́р** ‘плот, агароджа’ (Сцяшк. Сл.), ‘упарты, някемлівы чалавек’ (Сл. рэг. лекс.), *сталдыр* ‘высокі, няўклюдны чалавек’ (кір., Нар. сл.), *сто́ўдыр* ‘валацуга’ (Сцяшк. Сл.), *стаўду́р* ‘тупы, разумова недаразвіты чалавек’ (Скарбы, Сцяшк. Сл.), сюды ж

*стаўдыравáты* ‘высокі’ (Сцяшк. Сл.). Няясна. Магчыма, набліжанае да папярэдняга слова.

**Стáўка** дыял. ‘невялікі вулей для прываблівання пчол’ (ЛА, 1), ‘памост пад вулей на дрэве’ (ЛА, 1). Да *ставіць* (гл.).

**Стаўлáць** ‘ставіць вялікую колькасць’ (ТСБМ). Дзеяслоў утвораны ад асновы 1 ас. адз. л. цяп. часу дзеяслова *ставіць*, *стаўлю* (гл.).

**Стаўпéц** ‘брусок у граблях, куды ўстаўляюць зубы’ (Сл. ПЗБ, Сцяшк., Шатал., З нар. сл., Нар. сл., Мат. Гом.), ‘прыстасаванне (слупок) для трапання льну’ (Сл. ПЗБ, Шатал., Сцяцко Сл.), ‘слуп’, ‘дэталь у калаўроце’, ‘палена, кругляк’, ‘станок, на якім рабілі ніты’ (Сл. ПЗБ), ‘прылада, пры дапамозе якой вяжуць ніцяныя петлі’ (Жд. 1), *стоўпéц* (ТС), *стóўпец* (Мат. Гом.), ‘прылада для трапання льну’, *стаўпцы́* ‘стойкі варот’ (З нар. сл.), *стопэ́ць* ‘слупок’ (Сл. Брэс.), *стоўбцы́*, *стоўпцы́* ‘ножкі мялкі, падстаўкі ў калаўроце’ (Уладз.). Дэрываты ад *стоўб*, *стоўп* (гл.) з суф. *-ец*..

**Стáўры-гáўры** ‘назва міфічных істот; сабакі міфічнага князя Боя’ (Гарэц.), *стаўры́*, *гаўры* ‘назва міфічных істот’ (Др.-Падб.), *стаўроўскія дзяды*, *стáўры-гаўры* ‘чацвер велікоднага тыдня’ (Інстр. 2), ‘свята 13 верасня па ст. ст., узвіжанне божае’: “На гэтае свята пякуць для кожнага члена сям’і булачкі. «*Ставры гавры* (кажа гаспадар) – *Гаммъ* (адказваюць усе члены сям’і)»” (бягом., Яшк. Мясц.); сюды ж прозвішча *Стáвар* (Бірыла, Бел. антр.). Рус. *ставры́ точи́ть* ‘балбатаць, малоць лухту’, серб.-харв. *Stȃvra*, *Staver* (уласнае імя). Сабалеўскі (у Фасмер, 3, 742) мяркуе, што першая частка ад грэч. σταυρός ‘крыж’. Параўн. бел. аргат. *ставер* ‘крыж’ таго ж паходжання (Рам., 9). Другая частка незразумелая, магчыма, проста рыфмаваная, але, улічваючы заўвагу пра сабак, мабыць, ад гукапераймальнага *гаў* з канчаткам як у *стаўры*. Гл. яшчэ Санько, Бел. міф.$_2$, 488–489.

**Стахéй** ‘ашуканец, падманшчык’ (ПСл). Цёмнае слова. Магчыма, мае аказіянальнае паходжанне ад уласнага імені *Стахéй* (< *Яўстафій*).

**Стацíвы**, *стоцíвы*, *стацівá* ‘аснова ткацкага станка’ (гарад., лід., трак., шчуч., карэліц., Сл. ПЗБ), *стацвíнні* ‘тс’ (смарг., Сл. ПЗБ), *стацíва*, *стáцьвіна* ‘бакавая частка ткацкага станка’ (Сцяшк.), *стацьвíна* ‘ставы’ (мёрск., ЛА, 4), *стацьвíны* ‘бакавіны кроснаў’ (Касп.; ЛА, 4), *стацíва* ‘бок кроснаў, станіна’ (навагр., З нар. сл., Мат. Гом.), ‘асноўная частка ткацкага станка’ (чырв., З нар. сл.), *стáціво* ‘адзін з варыянтаў пастаноўкі кроснаў’, *стацíвіна* ‘станіна кроснаў’ (слонім., ЖНС), *стацíвіна*, *стацьвíна* ‘бакавая частка ставаў’ (Мат. Гом., ТС), *статовы́нне*, *статовы́ны*, *статывкы́* ‘кросна’ (Сл. Брэс.), *стáціва*, *стацíвіна* ‘станіна’ (Мат. Гом.), мн. л. *стацíвы* ‘тс’ (ЛА, 4), *стацíва*, *статовы́ны*, *статýўкі* ‘менш дасканалы з сучасных ткацкіх станкоў’, ‘дзве вертыкальныя паловы рамы, на якіх умацоўваюцца ўсе часткі больш дасканалых тыпаў ткацкага станка’ (Уладз.). Укр. *статíва* ‘рама, станіна ткацкага станка’, польск. *staciva* ‘рама ткацкага станка’, н.-луж. *staśiva* ‘ткацкі станок і яго станіна’, чэш. дыял. *stativo* ‘ткацкі станок’, серб.-харв. *stativa* ‘бок ткацкага станка’, славен. *stȃtve* мн. л. ‘ткацкі станок’, балг. *стáтива* ‘ткацкі станок’. Прасл. **stativa* – дэрыват ад **stati* з суф. **-iv-*, першапачаткова прыметнік, які потым субстантываваўся. Гл. спецыяльна Трубачоў (Ремесл. терм., 123), які падкрэслівае прыроду зыходнага дзеяслова **stati*, што азначае не толькі ‘стаяць вертыкальна, але і нерухома на адным месцы, быць асновай чаго-небудзь’, а таксама ўказвае на славяна-лацінскую словаўтваральную паралель, параўн. лац. прым. *statīvus* ‘той, які стаіць на адным месцы’, наз. *statīva* ‘лагер, стан’. Гл. яшчэ Махэк$_2$, 576; Шустар-Шэўц, 1356; Бязлай, 3, 313.

**Стáцыя** ‘станцыя’ (гродз., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *стацыя*, *стацэя* ‘пастой, месца адпачынку’, ‘забеспячэнне’ (Ст.-бел. лексікон), *стацея*: *стацеи давати/поднимати* ‘прымаць і карміць князя з яго світаю ў час паездак па правінцыі, а таксама яго пасланцоў і даваць ім фурманкі для праезду ў наступны маёнтак’ (Сташайтэне, Абстр. лекс., 130). З лац. *statio* ‘пастой’ праз ст.-польск. *stacyja*, польск. *stacja* ‘пастой, прыпынак, станцыя’ (Булыка, Лекс. запазыч., 84; Сл. ПЗБ, 4, 583). Сюды ж *стацéйка* ‘чыстая палавіна хаты’ (Сцяшк. Сл.), што адлюстроўвае захаванне старой семантыкі, параўн. *станцыя* (гл.), польск. *stacja* ‘кватэра’ і інш. Гл. Брукнер, 512; Фасмер, 3, 746, 748; ЕСУМ, 5, 396, 403.

**Стаць**$_1$ ‘спыніцца’, ‘заняць вертыкальнае становішча’, ‘з’явіцца’, ‘застыць на месцы’, ‘адбыцца, здарыцца, зрабіцца’, ‘пачаць’, безас. ‘хапіць’, *стáцца* ‘адбыцца, здарыцца’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Сл. ПЗБ, Бяльк., ТС, Федар. 4, Ян.). Укр. *стáти*, рус. *стать*, ст.-рус. *стати*, польск. *stać*, чэш. *státi se* ‘здарыцца, стаць’, славац. *stat’*, серб.-харв. *стȁти*, славен. *státi*, ст.-слав. **стати**. Прасл. **stati* ад і.-е.

*stā- ‘стаць’; адпаведнікі ў літ. *stàti* ‘прыступаць, станавіцца’, лат. *stât* ‘станавіцца’, ст.-прус. *postāt* ‘стаць’, ст.-інд. *asthāt* аор. ‘устаў, стаў’, лац. *stō* ‘стаяць’ і г. д. Гл. Фасмер, 3, 748 з літ-рай; Борысь, 574; Махэк$_2$, 575; Сной$_1$, 605. Параўн. *ставаць, стаяць*.

**Стаць$_2$** ‘справа, прычына’, ‘прыстойнасць, гожасць’ (Нас., ТС), *стаццё* ‘здарэнне, прыгода; незвычайны выпадак’ (Нас., Гарэц.), *ста́цце* ‘хвароба’ (Мат. Гом.), *стаццё* ‘здарэнне’ (Мат. Маг.). Параўн. укр. *стать* ‘полавая прыналежнасць; постаць’, рус. *стать* ‘будова цела’, ‘прычына, выпадак’, прыставачныя ўтварэнні: польск. *postać* ‘фігура, пастава’, ст.-польск. *postać* ‘род’, ст.-чэш. *podstat’* ‘сутнасць’, славен. *póstāt* ‘шраг рабочых у полі ці ў вінаградніку’, серб.-харв. *по̀стат* ‘шраг (у час жніва)’, балг. *по̀стат* ‘паласа, якую жнуць адна ці некалькі жней’, ц.-слав. *постать* ‘вызначэнне, загад, пастанова; прызначэнне’. Прасл. *statь, абстрактны назоўнік ад *stati, гл. *стаць*. Роднасны лат. *stātis* ‘стойка’, авест. *stāiti-* ‘стойка, стаянне, устанаўленне’, ст.-ісл. *stóđ* ‘месца, стан’ (Фасмер, 3, 748; БЕР, 5, 549; ЕСУМ, 5, 402; Бязлай, 3, 92).

**Стацякóл** ‘круты, стромкі бераг’ (Сцяшк.). Ад *стоці* (гл.) з суф. *-ак* і *-ол*.

**Стача́ць** ‘дастаўляць’ (ТС), сінонім *достача́ць, достарча́ць* ‘прывозіць, знаходзіць’ (там жа). Параўн. польск. *dostarczać* ‘дастаўляць’ з ранейшага *dostatczać* ‘тс’, што ў выніку распадабнення з ст.-польск. *statek* ‘стан, набытак, маёмасць’ (Брукнер, 514). Формы з *-р-*, магчыма, запазычанне з польскай або ў выніку паралельнага развіцця. Да *статак* (гл.).

**Ста́чына** ‘складчына’ (ТС). Відаць, да *ста́чыць* (гл.); менш верагодна ад *стачы́ць* ‘злучыць, прылучыць’, што да *тачыць* ‘далучаць’, гл.

**Стачы́на** ‘жывёліна ў статку’ (ТС), ‘усё хатняе рыззё, гаспадарчае начынне і рабочая жывёла’ (дзісн., Яшк. Мясц.), ‘хатняя жывёла без птушкі, сабак і катоў’ (Нік. Очерки), *статчы́на* ‘адна асобная жывёліна’ (Ласт.), *стачыніна* ‘тс’ (Касп.). Утворана ад *статак* (гл.) або ад прасл. дыял. *stoka ‘набытак; маёмасць; жывёла’ (Коннава, ОЛА, Исследов., 1972, 88–89), паводле Скока (3, 450), поствербальнага ўтварэння ў паўднёваславянскіх мовах ад дзеяслова тыпу серб.-харв. *steći* ‘здабыць, атрымаць’.

**Ста́чыць** ‘задавальняць’ (Ласт.), ‘быць дастатковым’ (ТС), *ста́ча* ‘дастатак’ (Сл. рэг. лекс.). Рус. зах., паўд. *ста́чить* ‘хапаць, быць дастатковым’, польск. *starczyć* (з XV ст.), ст.-польск. *staczyć*, чэш. *stačit*, славац. *stačit’* ‘тс’. Паўн.-прасл. *statьčiti ‘быць дастатковым’ утворана ад прасл. *statъkъ ‘статак’ (Брукнер, 514; Фасмер, 3, 749; Голуб–Копечны, 348; Борысь, 575).



**Стачы́ць** ‘сцэджваць, зліваць рэшткі’, *сто́чваць* ‘тс’ (Нас.). Гл. *тачыць$_3$* ‘ліць’.

**Стаю́шка** ‘дрывотня’ (Сл. Брэс.). Першапачаткова, відаць, ‘загарадка’, тады да наступнага слова.

**Ста́я$_1$** ‘чарада птушак’ (Сл. ПЗБ, ЛА, 1), ‘касяк рыб’ (Сцяшк.). Паводле Сл. ПЗБ (4, 584), з рус. *ста́я* ‘тс’, што патрабуе дадатковай аргументацыі, параўн. *ста́я* ‘загарадка ў хляве, дзе стаяць коні’ (брэсц., Нар. сл.), *ста́я, ста́і* ‘загон’ (Сл. ПЗБ). Прасл. *staja; параўн. таксама ўкр. *ста́я* ‘курэнь пастухоў; загон; рад сціртаў сена’, рус. ‘хлеў; адрына, загон’, стараж.-рус. *стая* ‘хлеў’ ‘прыстанішча; ложак; шацёр’, чэш. *stáj, stáje* ‘стойла’, серб.-харв. *ста̏ја* ‘стойла; загон’, славен. *stája* ‘хаціна пастухоў; прыстанішча’, балг. *ста́я* ‘пакой’, макед. *стаја* ‘канюшня’. Да *стаць, стаяць*, першаснае значэнне ‘стойла; месца, дзе стаіць жывёла’, ‘стаянка’. Гл. Фасмер, 3, 749; Махэк$_2$, 574; Сной$_1$, 603; гл. спецыяльна Лучыц-Федарэц, Лекс. Палесся, 193–194. Трубачоў (Этногенез$_2$, 212) лічыць кур’ёзным, аднак цалкам рэальным, што назва “рухлівай” групы жывёл утворана ад і.-е. *stā- ‘стаяць’. Няма падстаў разглядаць як магчымы субстратны балтызм рус. падмаск. *ста́йка* ‘хлеў’ (Тапароў, Балтийские яз., 46), параўн. Анікін, Опыт, 283.

**Ста́я$_2$** ‘парода, гатунак’ (Бяльк.). Відаць, да *стая$_1$* (< ‘з адной стаі, з аднаго гнязда’).

**Ста́я$_3$** ‘загон, участак зямлі’ (іўеў., трак., воран., шальч., беласт., Сл. ПЗБ), ‘мера даўжыні ў 100 м’ (Сцяшк.), ст.-бел. *стая* ‘мера даўжыні, роўная прыблізна 80 м’ (Ст.-бел. лексікон). Параўн. укр. *ста́я* ‘дзялянка зямлі, загон’, польск. *staja* ‘пэўная мера даўжыні поля’. Прасл. *staja ‘постаць; паласа поля, занятая пры апрацоўцы’, што да *stati, гл. *стаць*. Параўн. ЕСУМ, 5, 403.

**Стаярóс** жарт. ‘высокі; той, што расце ўгару (расліна і інш.)’ (Варл.), *стаеро́савы* ‘тс’ (Растарг.), *стаяро́савы (стояро́совый)* ‘які рос стоячы (гаворыцца жартам)’ (Нас.). Параўн. рус. *стоеро́совый* жарт. ‘які расце стоячы (пра дрэва)’, *стоеро́совый дура́к* ‘дубіна, дурань’. Эўфемізм, выкарыстоўваецца як іранічны адказ на пытанне пра тое, што невядома таму, хто гаворыць, або ён не

хоча называць; паводле Карскага (2–3, 90), утворана шляхам спалучэння дзеепрыслоўя цяп. часу ад *стаяць* (гл.) і імя (*рос?, гл. *росля, расці*). Па падобнай мадэлі ўтворана *стаясёрка* 'кабат, кухвайка (кароткая або з кароткімі рукавамі)' (полац., Садоўскі, вусн. паведамл.) з іранічнай асацыяцыяй (да *сраць*, гл.).

**Стая́ць** 'знаходзіцца на нагах', 'не рухацца з месца', 'не працаваць', 'трываць', 'знаходзіцца, размяшчацца', 'існаваць, быць (на свеце)' (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк., Бяльк., Сл. ПЗБ), *стоя́ць* 'тс' (ТС), ст.-бел. *стоять.* Укр. *стоя́ти*, рус. *стоя́ть*, польск. *stać*, в.-луж. *stejeć (< stojać)*, н.-луж. *stojaś*, чэш. *státi*, славац. *stát'*, серб.-харв. *стȁјати*, славен. *státi*, балг. *стоя́*, макед. *стои* 'стаяць'. Прасл. **stojati* утварылася ад форм цяп. часу і.-е. **stə-i̯e/o* на аснове і.-е. **sta-* (гл. *стаць*) (Борысь, 574); адпавядае оск. *staít* 'стаяць', ст.-інд. *sthitás* 'той, які стаіць', грэч. στατός 'тс', лац. *status*, далей літ. *stóti* 'станавіцца, уступаць', ст.-прус. *postāt* 'станавіцца', ст.-в.-ням. *stân, stên* 'стаяць'; гл. Траўтман, 281; Фрэнкель, ZfslPh, 20, 242; Мюленбах–Эндзелін, 3, 1052; Фасмер, 3, 769; Бязлай, 3, 313; Шустар-Шэўц, 1352; Махэк₂, 575–576; ЕСУМ, 5, 430–431; Глухак, 579.

**Ствара́нне** 'жывая істота, усё жывое' (ТСБМ, Ласт., Гарэц., Касп., Сл. ПЗБ, Стан., Сержп. Прымхі). Ужыванне назоўніка *ствара́нне* 'тварэнне, твор' (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Стан.) ад дзеяслова *ствары́ць* (гл. *тварыць*) у спецыяльным значэнні 'створанае Богам'. Параўн. польск. *stworzenie* з аналагічным значэннем, якое, згодна з Сяткоўскім (Басай–Сяткоўскі, Słownik, 347), лічыцца семантычным багемізмам. Запазычаннем з чэшскай лічыцца польск. *stworzyciel* 'тварэц' (там жа), параўн. таксама *ствары́цель* 'тс' (Нас., Ласт., Гарэц., Стан.), укр. *створи́тель* 'тс', старое макед. *створител* 'тс'. Як самастойныя ўтварэнні можна разглядаць *створы́цца* 'зрабіцца' (ТС), *ствара́нне* 'твар, вобраз, выгляд': *стварэння ні знаць* (пра брудната, замурзанага) (Скарбы), *ствара́нец* 'чалавечая істота' (Стан.), *ствара́ц* 'творца' (Ласт.), *створ* 'твор' (Гарэц.).

**Ствол** 'надземная частка дрэва ад каранёў да верхавіны', 'сцябло', 'камель' (ТСБМ, Некр. і Байк., Сцяшк., ТС, Сл. ПЗБ), 'цэнтральны корань у дрэве' (ТС), *ствалі́на* 'руля (у стрэльбе)' (Нік. Очерки), *цвол* 'тс' (там жа), *ство́льны* 'сцяблісты' (Бяльк.). Рус. *ствол* 'тс', ц.-слав. *стволие* 'крапіва', в.-луж. *stwółk* 'сцябло', н.-луж. *stwoł* 'сабачая пятрушка', чэш. *stvol* 'сцябло', славен. *stvȍl* 'асака', серб.-харв. *цво̏лика* 'сцябло цыбулі', балг. дыял. *ствол* 'балігалоў', *цвол* 'сцябло'. Выводзяць з **stьbolъ*, якое роднаснае *сцябло* (гл.). Гл. Міклашыч, 327; Младэнаў, 608; Махэк₂, 591; Шустар-Шэўц, 1373; Фасмер, 3, 749 з іншай літ-рай; Дзімітрова-Тодарава, Этимология–2003–2005, 49–50. Сюды ж, відаць, *ство́лак* 'вільчык, сасновы кругляк' (Пятк. 1) – ад *сво́лак* 'вільчык' пад уплывам *ствол*.

**Стволля** 'маркоўнік лясны, Anthriscus Hoffm.' (смал., Кіс.), *ствольны цвет* 'тс' (віц., Ан.; Кіс., 16). Рус. смал., пск., цвяр. *ствол, стволья* 'дзягіль'. Да *ствол* (гл.). Маркулава (Очерки, 67) прыводзіць аналагічныя назвы ням. *Stengel, Tufen*.

**Ство́рка** 'кожная з дзвюх рухомых палавінак дзвярэй, аканіц, варот і пад.' (ТСБМ), *створ* 'зачыненне (дзвярэй, вакон)', *створ-чысты* 'створкавы' (Нас.). Сюды ж *створ* 'частка прасторы, абмежаваная стойкамі, перакладзінамі', 'створка' (ТСБМ). З рус. *ство́рка, створ* 'тс', як і ўкр. *створ* (гл. ЕСУМ, 5, 404). Гл. *затвор*.

**Сто** 'лік і лічба 100', 'шмат, вельмі, многа' (ТСБМ, Некр. і Байк., Сл. ПЗБ, ТС), ст.-бел. *сто* 'тс'. Параўн. укр., рус. *сто*, старажрус. *съто*, польск., н.-луж., в.-луж., чэш., славац. *sto*, серб.-харв. *сто̑*, славен. *stó*, балг., макед. *сто*, ст.-слав. **съто**. Прасл. **sъto* 'сто' роднаснае літ. *šimtas*, лат. *sìmts*, ст.-інд. *śatám*, авест. *satəm*, лац. *centum*, грэч. ἑκατόν, гоц. *hund* 'тс', якія працягваюць і.-е. **ḱm̥tom* 'сто'. Большасць даследчыкаў лічыць слова спрадвечнаславянскім, але наяўнасць *-ъ-* замест *-ę-*, як вынікае з пазаславянскіх паралеляў, застаецца няяснай. Параўн. прасл. **tysęt'a* '1000', з рэгулярным *-ę-*. Паводле Шахматава (гл. агляд літ-ры ў Фасмера, 3, 761–762), *-ъ-* мог развіцца ў алегравых формах тыпу **dъvě stъtě* '200'. Праславянскую форму тлумачылі таксама запазычаннем з іранскай, дзе праформу ўзнаўлялі як **sutəm* 'сто'. Гл. яшчэ Борысь (578), які спробы разглядаць слова ў якасці запазычання лічыць неабгрунтаванымі. І.-е. *ḱm̥tóm* паходзіць ад **deḱm̥* 'дзесяць'. Гл. яшчэ Шустар-Шэўц, 1358; Глухак, 585.

**Сто́бка,** *сто́пка, сцёпка* 'варыўня', 'малая хатка для гаспадарчых патрэб' (ТСБМ, Нас., Сцяшк., Сл. ПЗБ, Янк. 1; пін., Шн.; Ян., Мат. Гом.), 'сушыльня' (Др.-Падб.), 'памяшканне для авечак і цялят' (Чач.). З *істобка* (гл. *істопка*).

**Стог** ‘вялікая капа сена, саломы’ (ТСБМ, Нас., Шат., Байк. і Некр., Бяльк., Сцяшк., ТС, Сл. ПЗБ), дыял. таксама ‘сціртa’, ‘капец’, ‘укладка дроў’ (Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *стіг*, рус. *стог*, рус.-ц.-слав. *стогъ*, польск. *stóg*, в.-луж. *stóh*, н.-луж. *stog*, чэш., славац. *stoh*, серб.-харв. *стôг* і *сто̏г*, славен. *stȍg*, балг., макед. *стог*. Прасл. **stogъ* ‘сціртa сена, саломы і да т. п., якая ўложана вакол кала, шаста’ < і.-е. **stogo-*, роднаснае ст.-ісл. *stakkr* ‘стог сена, пласт’, *staki* ‘кол, жэрдзь’, гл. Младэнаў, 669; Тэрас, ZfslPh, 19, 122 і наст.; Борысь, 579. Параўноўваюць яшчэ з літ. *stógas* ‘страха’, ст.-прус. *steege* ‘адрына’, ст.-інд. *sthágati* ‘укрывае’; Фрэнкель, 911; Траўтман, 288. Супраць Покарны, 1013; гл. Фасмер, 3, 763 з аглядам літ-ры; Шустар-Шэўц, 1159; Бязлай, 3, 319; Махэк$_2$, 578–579; ЕСУМ, 5, 418. Роднаснае *стажар* (гл.).

**Сто́гнуць** ‘выдаваць працяглыя глухія гукі’ (Нас., Байк. і Некр.): *на ўси животы стогнець* (Нас.). Гл. *стагнаць*. Сюды ж *стогоне́ць* ‘гудзець, аддавацца гулам’ (ТС), што можна разглядаць як другаснае пашырэнне асновы, і *стогне́ць* ‘дрэнна захоўвацца, псавацца’ (ТС) – магчымы ітэратыў да *стагнаць* з семантыкай ‘дрэнна сябе адчуваць; дрэнна пачувацца’.

**Стод** ‘бажок, ідал’ (Ласт.), *сто́дзік, сто́дзіва* ‘статуя’ (там жа). Параўн. укр. арг. *стод* ‘статуя, фігура’, ‘бог’, *стодонь* ‘багач’, рус. арг. *сто́да* ‘царква, ікона; свята’, дыял. ‘ідал’. У якасці крыніцы прыводзіцца ст.-сканд. *stoð* ‘слуп, калона’ (Міклашыч, 323; Фасмер, 3, 764). Бязлай (Eseji, 139) далучае сюды і зах.-слав. *stodor* ‘крутая скала; слуп у азяродзе’. Магчыма, сюды ж няяснае каш. *štaduna* ‘мажная, высокая жанчына’, параўн. *баба* ‘каменны ідал’ (параўн. SEK, 4, 353). Беларускія словы, відаць, “рэканструяваныя” Ластоўскім на падставе аргатычных форм. Гл. таксама Горбач, Арго, 38.

**Сто́ёк** ‘парасон’ (Сл. рэг. лекс.). Няясна.

**Сто́іць** ‘каштаваць, быць вартым’ (Бяльк., ТС), ‘магчы’ (Ян.), *сто́іты* ‘каштаваць’ (Сл. Брэс.). Укр. дыял. *сто́їти* ‘тс’, рус. *сто́ить*, старое польск. *stać* ‘тс’, чэш. *státi*, славац. *stat’*, серб.-харв. *ста̏ти*, *ста̏јати*, *сто́јати*, славен. *státi* ‘тс’. Семантычная інавацыя на базе прасл. **stati*, **stojati*, магчыма, праз стадыю ‘стаць кагосьці на што-небудзь, змагчы’ > ‘быць вартым, каштаваць’. Параўн. ЕСУМ, 5, 425; Фасмер, 3, 769–770 (мяркуе пра запазычанне з чэшскай або польскай).



**Стой**, *ста*, *стэ*, *сты* ‘гэты, гэта, гэтыя’ (драг., Сл. ПЗБ), *стой* ‘гэты; той’ (Сл. Брэс.). Гл. *сіты*, зблíжанае з *той, та* і г. д.; адносна пачатку слова гл. *сь, сей*.

**Сто́йбішча** ‘часовае паселішча качэўнікаў’ (ТСБМ, Стан.), ‘месца адпачынку жывёлы на пашы’ (ТСБМ), ‘стойла, стаянка’ (Нар. Гом.), *стаўбаві́шча* ‘тс’ (Варл.). Дэрываты ад *стаяць* (гл.) з суф. *-ішч-*, зыходныя праз назоўнік **стойба*, прым. **стаўбавы* (< **стаўба*).

**Сто́йла** ‘загарадка для каня, каровы’ (ТСБМ, Некр. і Байк., Сл. ПЗБ, Сержп. Прымхі), *сто́йло* ‘стаянка, пастой (быдла)’, ‘дрэва з калодай пчол’ (ТС, ПСл), ‘дрэва, на якім устаноўлены вулей’ (ельск., нараўл., Анох.), *сто́йла* ‘глыбокае месца ў вадаёме, дзе зімуе рыба’ (ваўк., Сл. ПЗБ), ‘азярод’ (лях., там жа), ‘корань, аснова’ (дзятл., там жа), *сто́йліна* ‘дрэва, у дупле якога жывуць пчолы’ (лельч., Арх. ГУ), *сто́іла (stójiła)* ‘месца паўдзённага адпачынку статку на пашы’ (Варл.), сюды ж *стойлова́ць*, *стойлова́цца* ‘быць на стаянцы’ (ТС). Укр. *сті́йло*, рус. *сто́йло*. Да *стаяць*, *стаю* (гл.), гл. Фасмер, 3, 764. Паводле Лучыца-Федарца (Лекс. Палесся, 186), вузкі ўсходнеславянскі рэгіяналізм.

**Сток** ‘спад, сцёк’ (Ласт., Бяльк.; беласт., Сл. ПЗБ), ‘месца, дзе сходзяцца канцы (вобада, абруча і інш.)’ (ТС), *сто́кі* ‘крыж, сярэдзіна, паясніца’, ‘падстаўка пад вулей’, ‘сутокі’ (Сцяшк. Сл.), *сто́чкі* ‘сутокі’ (Жд. 3). Укр. *стік*, *сток* ‘сутокі’, рус. *сток*, *сто́ки* ‘тс’, польск. *stok* ‘сутокі, скат, сцёк, ручай’. Да *цячы*, *ток* (гл.).

**Стол** ‘від мэблі’ (ТСБМ, Ласт., Некр і Байк., Бяльк., Стан., Сл. ПЗБ, ТС, Мат. Маг.), ‘харчаванне, харчы’ (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк.), ‘памінкі’ (Барад., Мат. Маг.), ‘под у жорнах’ (рас., Шатал.). Параўн. укр. *стіл*, рус. *стол*, стараж.-рус. *столъ* ‘стол; прастол; сядзенне’, польск. *stół*, в.-луж., н.-луж. *stoł* ‘крэсла, стол; прастол’, чэш. *stůl*, славац. *stôl*, серб.-харв. *сто̄*, славен. *stòl* ‘крэсла; стол’, балг., макед. *стол* ‘крэсла’, ст.-слав. **столъ**. Прасл. **stolъ* ‘сядзенне; стол’ з’яўляецца дэрыватам ад прасл. **stьlati*, **steljǫ* (гл. *сцяліць*) і генетычна роднаснае літ. *stãlas* ‘стол’, ст.-прус. *stalis*, гоц. *stōls* ‘крэсла’, якія Фасмер (3, 765), Покарны (1007), Фрэнкель (893), Бязлай (3, 319–320) далей узводзяць да прасл. **stojati* < і.-е. **stā-* ‘стаяць’. Але Курыловіч (JP, 33, 69) і Слаўскі (JP, 38, 229) указваюць, што націск Р. скл. адз. л. (*стала́*) сведчыць аб тым, што гэта жывое вытворнае ад **stьlati*. Махэк$_2$ (590), Борысь (579)

семантыку слова тлумачаць тым, што **stolъ* першапачаткова – гэта што-небудзь пасланае (напрыклад, на зямлі) для яды і сядзення на ім; толькі потым яно пачало абазначаць мэблю. Гл. яшчэ Шустар-Шэўц, 1359; Бязлай, 3, 319; ЕСУМ, 5, 419.

**Сто́лак** ‘зэдлік, услончык’ (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Сцяшк.; петрык., Шатал.; Ян., Мат. Гом., Скарбы, Бяльк.; паст., ваўк., узд., беласт., Сл. ПЗБ), *сто́лок* ‘слон, табурэтка’ (ТС, Нар. словатв., ПСл.; стол., Нар. лекс.), *сто́лок, сто́лка, сту́лка* ‘зэдлік’ (Сл. Брэс.), *сто́лкі* ‘козлы’ (Сл. рэг. лекс.). З польск. *stołek* ‘табурэтка’. Польскае слова ўтворана ад *stół*, гл. Борысь, 579.

**Сто́лап** *(сто́лоп)* ‘асталоп’ (латг., Карскі, 1, 257). Карскі (там жа) выводзіць з **stьlp-* (гл. *стоўп*) з другім поўнагалоссем. Параўн. *стало́п* ‘слуп’ (латг., Сл. ПЗБ), гл.

**Сто́лец** ‘крэсла’ (Нас., Ласт., Байк. і Некр., Гарэц., ПСл), *стале́ц* ‘столак, услон’ (Нар. Гом.), ‘зэдлік’ (Ласт.). Ст.-бел. *столецъ* ‘трон, прастол; сталіца’ (1434 г.) з ст.-польск. *stolec* (Булыка, Лекс. запазыч., 35). Гл. таксама Кохман, Stosunki, 129. Значэнне ‘крэсла’ развілося ўжо, відаць, у беларускай пад уплывам *сто́лак* (гл.) або было паўторна запазычана з польск. дыял. *stołec* ‘крэсла (са спінкай)’; параўн. яшчэ укр. *стіле́ць* ‘крэсла’.

**Сто́лка** ‘слой, пласт, складка чаго-небудзь’, *у адну (дзве, тры) столкі* – у адзін (два, тры) разы (ТСБМ), ‘слой, частка, пасма’ (Шат., Касп., Варл., Бяльк., Сцяшк., Байк. і Некр., Сл. ПЗБ), ‘пасма (валасоў)’ (Мат. Гом.), *сто́лка, ство́лка, ста́лка* ‘тс’ (ЛА, 4), *сто́лька, столь* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), *сто́ля* ‘тс’ (там жа). Да *сцяліць* з чаргаваннем *е/о* ў корані, параўн. *стол, столь*. Гл. яшчэ *сталка.*

**Сто́лкі** ‘прыстасаванне, на якім пілуюць дровы, дошкі’ (Сл. Брэс., Сл. рэг. лекс., Чэрн.). Запазычанне з польск. *stołek, stołki* ‘тс’ < *stół* (гл. *стол*).

**Столь₁** ‘пакрыццё памяшкання, процілеглае падлозе’, ‘паверхня гэтага пакрыцця з боку гарышча’ (Нас., Шымк. Собр., Касп., ТСБМ, Ласт., Шат., Нік. Очерки, Бяльк., Сл. ПЗБ, Ян., Варл.), ‘гарышча’ (Жд. 3), *сто́ля* ‘столь’ (Касп.), ‘столь; гарышча’ (ТС, ПСл, Мат. Гом., Сл. Брэс.), сюды ж *сталява́нне* ‘насціланне столі’, ‘столь’ (Нас.), *сталява́ць* ‘насцілаць столь’ (Нас., Касп.), *сталі́ць сто́лю* ‘тс’ (гарад., Хрэст. дыял.). Укр. *сте́ля, стіль, сто́ля*, рус. дыял. *сте́ль* ‘тс’. Да *сцяліць*, з чаргаваннем у беларускім слове. Гл. Фасмер, 3, 753; ЕСУМ, 5, 407. Краўчук (Бел.-укр. ізал., 38) формы з *-о-* лічыць больш архаічнымі, захаванымі таксама ў в.- і н.-луж. *postola, postoła* ‘пасцель, ложак’ пры больш новых **postelь, *postel’a* (гл. *пасцель*).



**Столь₂**, *сто́ля* ‘столка’ (шчуч., Сл. ПЗБ). Гл. *столка.*

**Сто́лькі** ‘так многа’ (Шымк. Собр., Жд. 2), ‘у такім памеры, колькасці, ступені’ (ТСБМ, Нас., Некр. і Байк., Растарг., Касп., Бяльк., Сл. ПЗБ), *сто́лька* ‘тс’ (чэрв., Сл. ПЗБ), *сто́лько* ‘тс’ (ТС). Працяг ст.-бел. *толико* ‘тс’, гл. *толькі*; *с-* надае слову значэнне прыблізнасці, гл. Фасмер, 3, 766.

**Сто́ма** ‘аслабленне; расслабленне; зморанасць’ (ТСБМ, Бяльк., Стан.). Аддзеяслоўны назоўнік ад *стаміцца*, што да *таміць* (гл.). Беларуска-ўкраінская ізалекса, параўн. укр. *сто́ма* ‘тс’.

**Стон**, *стонь* ‘утварэнне лядовага покрыва на паверхні вады’ (ганц., Сл. ПЗБ), *стін* ‘тонкая ледзяная скарынка’ (Сл. Брэс.). Гл. *сутон.*

**Стоп** – ужываецца як каманда ў значэнні ‘стой, спыніся!’ (ТСБМ). З англ. *stop!*, якое ад *stop* ‘прыпыніць’, адкуль і ням. *stopp*; гл. Фасмер, 3, 766; ЕСУМ, 5, 426; т. зв. інтэрнацыянальнае слова, шляхі пранікнення не вызначаны.

**Сто́пень** ‘ступень, крок’, ‘ступень (мера якасці)’ (Нас., Байк. і Некр.), *сто́пэнь* ‘адзнака’ (беласт., Сл. ПЗБ), ст.-бел. *стопень* ‘ступень, этап’ (Ст.-бел. лексікон). Звязана чаргаваннем галосных з *ступень* (гл.). Паводле націску, магчыма, запазычана з польск. *stopień* ‘ступень, прыступка, мера якасці’ (тое ж – Сл. ПЗБ, 4, 590).

**Сто́пікі** жарг. ‘грошы’ (клім., Мат. Маг. 2; капыл., Бел. дыял.). Няясна.

**Сто́пка₁** ‘невялікая шклянка для віна’ (ТСБМ, ЛА, 5), ‘высокая чарка, келіх’, ‘кадоўбчык’ (Бяльк.). У значэнні ‘келіх’, хутчэй за ўсё, з рус. *сто́пка* ‘тс’.

**Сто́пка₂** ‘кладоўка, варыўня’ (Арх. Федар., Касп., Сержп., Янк. 1, Сл. ПЗБ), ‘хата, хацінка’ (вілен., Нас.), *стэ́пка* ‘варыўня’ (Куч.). Гл. *стобка.*

**Сто́раж** ‘вартаўнік’ (ТСБМ, Ласт., Некр. і Байк., Пятк. 2, Варл., Сл. ПЗБ, Бяльк.), перан. ‘колас, які застаўся на полі’ (віл., Сл. ПЗБ), *сто́рож* ‘вартаўнік’, ‘стаўная вуда на шчупакоў’, ‘першы колас у жыце’ (ТС), ‘пчала, якая належыць да «стражы»’ (Анох.), ‘нацягнуты шнурок у рыбалоўнай прыладзе, які сігналізуе аб наяўнасці рыбы’ (Нас., ТС), ‘першы або апошні колас у жыце’

(ТСБМ), *сто́рож* ‘шнурок, якім прывязана цэўка да сукала’, ‘пруток у сукале, на які натыкаецца цэўка’, ‘пруток, які падтрымоўвае нічальніцу ў час вязання’ (Бел.-польск. ізал.). Укр., рус. *сто́рож*, старaж.-рус. *сторожь*, польск. *stróż*, славен. *strȃžəc*, балг. *страж*, ст.-слав. **стражь** ‘ахоўнік’. Прасл. **storžь* утворана з суф. *-jь* ад прасл. **stergti, *stergǫ* ‘сцерагчы’, з якім яно звязана чаргаваннем галосных; гл. Слаўскі, SP, 1, 81; Фасмер, 3, 768. Параўноўваюць з літ. *sárgas* ‘сторaж, вартаўнік’, *sérgti* ‘пільнаваць, быць пільным’, лат. *sar̂gs* ‘вартаўнік’, прус. *absergisnan* ‘абарона’ (Глухак, 587). Сюды ж *старо́жа* ‘ахова, варта’ (Нас., Байк. і Некр., Нар. Гом., Юрч.), ст.-бел. *сторожа* ‘тс’ (Карскі, 2–3, 428). Параўн. укр., рус. *сторо́жа*, стараж.-рус. *сторо́жа*, польск. *stróża*, в.-луж. *stróża*, н.-луж. *strоža*, чэш., славац. *stráž*, серб.-харв. *стра̑жа*, славен. *strȃža*, балг. *стра́жа*, макед. *стража*, ст.-слав. **стража**. Прасл. **storža*. Гл. яшчэ Махэк$_2$, 587; Борысь, 581–582; Шустар-Шэўц, 1366; Бязлай, 3, 324. Борысь (Etymologie, 492) для значэння ‘нацягнуць, наставіць, напнуць’ рэканструюе прасл. **storžiti* – каўзатыў ад **sterkti*. Гл. *сцерагчы*.

**Сторч** ‘старчак’, ‘зламанае ветрам дрэва’ (Сл. ПЗБ), *сторч*, *стырч* ‘старчак’ (ТС), прысл. *сторч* ‘уніз галавою’ (ТСБМ, Сцяшк. Сл., Пятк. 2). Параўн. укр. *сторч* ‘старчма’, *сторч* ‘падваліна’, *сто́рча* ‘плот з лазы’, рус. *сторчь* ‘старчма’, *сторчако́м*, *сторчмя́* ‘старчма’, польск. *stark* ‘кол, вастрыё’; сюды ж, магчыма, балг. дыял. *страч* ‘страха’; Фасмер, 3, 769; ЕСУМ, 5, 428–429. *Сторч* з’яўляецца аддзеяслоўным назоўнікам, ад якога ўтварылася прыслоўе ў форме Він. скл. Далей гл. *тырчаць*, *стырчаць*.

**Стос$_1$** ‘ворах, груд, штабель’ (ТСБМ, Нас., Гарэц.), ‘груда, куча’ (Сл. ПЗБ), ‘груда, капец’ (ТС), ‘касцёр, куча лому’ (Сержп. Прымхі), ‘сажань дроў’ (Арх. Федар.); сюды ж, магчыма, *сто́са* ‘стайма’ (Сл. ПЗБ), *стэ́сам* ‘з імпэтам, вельмі шпарка’ (Варл.), *сто́сам* ‘гуртам’ (Сл. ПЗБ), *у сто́сы* ‘ў поўнае падпарадкаванне’ (Ян.). Праз польск. *stos* ‘удар’, ‘ку́ча’ з с.-в.-ням. *stoȝ*, суч. *Stoß* ‘тс’. Гл. Карскі, Белорусы, 163; Кюнэ, Poln., 100 з аглядам літ-ры. Ст.-бел. *стосъ*, *стусъ* ‘стос, штабель, удар’ (XVI ст.) з той жа крыніцы, гл. Булыка, Лекс. запазыч., 189. Гл. таксама ЕСУМ, 5, 420. Для польскага слова мяркуецца чэшскае пасрэдніцтва, гл. Басай–Сяткоўскі, Słownik, 373–374. Гл. яшчэ *стус*.



**Стос$_2$** ‘слізь’ (рас., Шатал.). Значэнне вызначана недакладна, параўн.: *чысьціла трыбух і стосу многа было*. Відаць, гэта тое, што “счышчаецца”. Слова цьмянае. Да *цяса́ць* (гл.)?

**Стоўб$_1$** ‘калона, слуп’ (Ласт., Байк. і Некр., Растарг., ПСл), ‘комін’, ‘пяро-насеннік у цыбулі’ (ПСл), *сто́ўб* і *стоўп* ‘слуп’ (ТСБМ, Нас., Шымк. Собр., Гарэц., Байк. і Некр., Сл. ПЗБ, ЛА, 4), *стоўп* ‘тс’ (Арх. Федар., Янк. 3, Мат. Маг.), ‘стаяк коміна на гарышчы’ (ТС; астрав., Сл. ПЗБ), ‘слуп пад столь каля печы, на якім трымаўся «перасоў»’ (Варл., Сержп. Прымхі, ТС), ‘стос’ (Варл.; рагач., калінк., Сл. ПЗБ, ТС), ‘цыбур (у морквы, капусты і інш.)’, ‘укладка дошак’, ‘шыя’, ‘слупападобны смерч’, ‘выцягнутая ўверх чырвань каля сонца’ (ТС): *kali z abydwuch bakoй sonca parobiacsa stoйpy* (Пятк. 2), ‘сцірта, торп’, ‘складзеная ў гумне збажына’ (ТСБМ), ‘прыстаронак’ (воран., шальч., Сл. ПЗБ; слуц., Нар. словатв.), ‘саха калодзежнага жураўля’, ‘кветаноснае сцябло (цыбулі, шчаўя)’ (бяроз., Шатал.), *стоўпа́к*, *стовпа́к*, *стовпа́н* ‘кветканоснае сцябло’ (Сл. Брэс.). Параўн. укр. *стовб*, *стовп*, рус. *столб*, *столп* ‘слуп’, стараж.-рус. *стълбъ*, *стълпъ*, польск. *słup*, в.-луж. *stołp*, н.-луж. *słup*, чэш. *sloup*, славац. *stĺp*, серб.-харв. *сту̏ба* ‘лесвіца’, *ступ* ‘слуп’, славен. *stólb*, *stólp*, балг. *стълб*, *стълп* ‘слуп’, макед. *столб*, *столп*, ст.-слав. **стлъпъ** ‘вежа; стоўб, калона’. Прасл. **stъlbъ*, **stъlpъ* роднасныя літ. *stul̃bas*, *stul̃pas* ‘слуп’, лат. *stul̂bs* ‘голень, ікра; халява’, *stùlps* ‘слуп’; з іншай ступенню вакалізму: лат. *stil̂bs* ‘ніжняя частка рукі, нагі’, літ. *stalbúotis* ‘прыпыняцца’; далей, ст.-ісл. *stolpi* ‘слуп; калона’, ст.-нарв. *stolpi* ‘сцябло; вушак’, ст.-в.-ням. *stelpōn* ‘стаяць’ і інш. (гл. Міклашыч, 321; Траўтман, 290; Фрэнкель, 93; Покарны, 1020; Фасмер, 3, 765; Шустар-Шэўц, 1359–1360), якія працягваюць і.-е. корань **stel-* ‘паставіць, сцябло’, з дэтэрмінантамі *-b-* і *-p-*. Гл. яшчэ Бязлай, 3, 320; Сной$_1$, 610; Борысь, 560. Інакш Махэк$_2$ (558), які мяркуе аб складаных кантамінацыйных працэсах розных індаеўрапейскіх каранёў.

**Стоўб$_2$** ‘здвоены след зайца (у мове паляўнічых)’: *заец завернуўса да тым следам назад – ето стоўб* (ПСл). Да *стоўб$_1$* (з-за “тоўстага” следу на снезе).

**Стоўп** ‘вежа або калона’ (ТСБМ), *стовп* ‘вежа’: *камынэ́цькый стовп* (брэсц., ЛА, 4). Параўн. стараж.-рус. *стълпъ*, ст.-слав.

**стлъпъ** ‘тс’, што адпавядала грэч. πῦργος ‘тс’. Этымалагічна тоеснае *стоўб*$_1$.

**Сто́ўпіцца** ‘змясціцца’: *стоўпіцца яшчэ тут напісаць* (Касп.), *сто́ўпіцца, стаўпі́цца* ‘ўвайсці, уціснуцца’ (Шымк. Собр.), *стаўпі́цца* ‘сабрацца ў адным месцы’, ‘змясціцца’ (Нас.), *сто́ўпіць* ‘змясціць’ (Ласт., Гарэц.). Да *тоўпіць* (гл.).

**Сто́хлішча** ‘гняздо, логава, котлішча’ (Сцяц. Сл., Сл. рэг. лекс.), ‘зборышча’ (слонім., Нар. словатв.). Дэрыват ад **стохнуць* < *тохнуць, тхаць* (гл.) па мадэлі *котлішча*. Семантыку можна патлумачыць тым, што гнёзды, логавы маюць моцны непрыемны пах. Параўн. рус. дыял. *за́хлище* ‘аддаленае ад цэнтра месца, глухамань’ < **tux-/*tъx-* ‘тухлы’ (Беразовіч, 3б. Варбат, 30).

**Сто́ці** ‘высокі, стаячы’, ‘строма’, ‘стойма’, *сто́цевы* ‘стромы’, *сто́цы* ‘стоймя’, *стоць* ‘тс’, ‘вертыкальна’, ‘уніз галавой’, *сто́цьмы* ‘высокі’, *сто́ця* ‘стромка’ (Сл. ПЗБ), *стоць, сто́цьма* ‘галавою ўніз’ (Янк. 1), ‘перпендыкулярна’ (Касп.), *стоць, стацьмако́м* ‘стаяком, дагары нагамі, дыбарам’ (Барад.), *сто́цьма* ‘нястрымна’ (Жд. 2), *стоцькі* ‘стойма’ (Др.-Падб.), *стуць (галавой)* ‘уніз галавой’ (Сцяшк.). Паводле аўтараў Сл. ПЗБ (4, 591–592), з літ. *stãčias* ‘стаячы, стромы, высокі’. Гл. таксама Лаўчутэ, Балтизмы, 132. Сюды ж назоўнікі *стоці* ‘апорныя слупы ў гумне’ (паст., ЛА, 4), *стоць* ‘беспарадак’ (Сл. ПЗБ).

**Сто́чкі**$_1$ ‘вяршкі’ (Байк. і Некр.), ‘астаткі, рэшткі’ (Сцяшк. Сл., Федар. 4). Да *цячы* < **tekti* з чаргаваннем *e/o*, г. зн. ‘тое, што сцякло’.

**Сто́чкі**$_2$ ‘месца злучэння дзвюх частак чаго-небудзь’ (шальч., Сл. ПЗБ). Да *сточваць, тачыць* (гл.).

**Стра́ва** ‘прыгатаваныя для ежы прадукты харчавання, блюда’, ‘суп, вадкая вараная ежа’ (ТСБМ, Нас., Ласт., Гарэц., Растарг., Стан., Бяльк., Нік. Очерки, Байк. і Некр., Скарбы, Сержп., Касп., Пятк. 2, Вешт., ЛА, 4), ‘патрава’ (Нас.). Укр. *стра́ва*, рус. зах. *стра́ва, стро́ва*, стараж.-рус. *истрава, страва* (1407 г.), польск. *strawa*, чэш., славац. *strava*, старое н.-луж. *strawa* ‘ежа, корм’, славен. *strava* ‘памінкі’. Прасл. **sъtrava* ‘ежа, пракармленне’, аддзеяслоўны назоўнік ад праславянскага прэфіксальнага дзеяслова **sъ-traviti* ‘знішчыць, стравіць’, параўн. *стравíць* ‘скарміць’ (Бяльк.), ‘спажыць’ (ТС), якія далей да *трава, травіць*, гл. (Фасмер, 3, 770; Борысь, 579). Паводле Трубачова (Этногенез$_2$, 316),



першасная форма ўзыходзіць да прасл. **jьztrava*, аддзеяслоўнага назоўніка ад **jьztraviti*, утворанага з **jьz-* і **traviti* (гл. *з* і *травіць*). Назоўнік **strava* у значэнні ‘пір (на памінках)’ захаваўся ў апісанні пахавання Атылы з V ст. і адпавядае заходнеславянскай форме, што ўзыходзіць да **jьztrava*, а не **sъtrava*, гл. Трубачоў, ЭССЯ, 9, 81. Пярэчанні гл. Гіндзін, Сов. сл., 1990, 2, 65 і наст.; Балто-слав. этнокульт. и археол. древн., 30–31; Мартынаў, там жа, 56 (этымалагізуецца на падставе гоц. *straua* < *straujan* па тыпу *стол* < *сцяліць*).

**Стра́гнуць** ‘вязнуць, гразнуць, грузнуць’ (Сл. ПЗБ, Скарбы), *стря́гнуты* ‘грузнуць’ (кам., Жыв. НС). Укр. *стря́гнути* ‘вязнуць, грузнуць’, *стра́гнути* ‘заблытвацца ў сетцы або ў невадзе (пра рыбу)’, польск. *zastrzęgać* ‘захрасаць, вязнуць’, *zastrąc, zastrzągł* ‘тс’, якія Брукнер (522), ЕСУМ (5, 455) аб’ядноўваюць з усходнеславянскімі: *застра́ць, застрэ́ць*, рус. *застря́ть, застря́нуть*, бел. укр. *встря́ти, застря́нути*, супраць чаго Фасмер (2, 82). Формы з *-г-*, магчыма, звязаны з літ. *stringù, strìgti* ‘захраснуць, завязнуць’, лат. *strẽgu, strigt* ‘патануць (у чым-небудзь)’, *straignis* ‘багна, твань’; гл. Траўтман, 290; Мюленбах–Эндзелін, 3, 1089; Міклашыч, 325; ЕСУМ, 5, 455 (рэканструюецца прасл. дыял. **stręgati* ‘грузнуць’).

**Страдал** ‘рыба сырць, Vimba vimba L.’ (Дэмб. 1, 46). Няясна.

**Страда́ць**, *страда́тэ* ‘перажываць’ (в.-дзв., люб., кам., Сл. ПЗБ), ‘гараваць, мучыцца’(Некр., ТС), ‘пакутаваць’ (Ян.), *стражда́ць* ‘пакутаваць’ (Нар. Гом.), *стражда́цца* ‘вандраваць, ездзіць (па свеце)’ (Сцяшк. Сл.), *стра́да* ‘цяжкае жыццё, мука’ (ПСл) *страда́, стра́да* ‘пакута’ (Ян.), *стра́днік, стра́дніца* ‘гаротнік, пакутнік, гаротніца, пакутніца’ (Нас., Шымк. Собр.; гом., Нар. лекс.; Растарг., Ян., ТС), *стра́дочка* ‘гора, мука’ (ТС), *стра́дны* ‘гаротны, змучаны’ (там жа). Параўн. укр. *страда́ти, стражда́ти* ‘цярпець, пакутаваць’, рус. *страда́ть* ‘тс’, стараж.-рус. *страдати* ‘працаваць; цярпець, пакутаваць’, *страждеть* ‘мучыцца’, старое польск. *stradać* ‘траціць, пазбаўляцца чаго-небудзь’, чэш. *strádati* ‘цярпець, пакутаваць’, славац. *stradat’* ‘тс’, в.-луж. *tradać* ‘бедаваць’, н.-луж. *tšadaś* ‘тс’, серб.-харв. *стра́дати* ‘пакутаваць’, славен. *strádati* ‘тс’, балг. *стра́дам* ‘тс’, макед. *страда* ‘тс’, ст.-слав. **страдати** ‘пакутаваць; напружвацца, змагацца’. Прасл. **stradati* ‘бедаваць’ лічыцца аддалена родным лац. *strēnuus* ‘старанны, дзейны; дужы’, грэч. στρηνής, στρηνός ‘востры, жорсткі’, што

бліжэй тлумачаць *старацца* (гл.); выводзіцца з і.-е. *strō-* з пашырэннем *-dh-*, звязаным з *(s)ter- 'быць нерухомым, аслупянелым'. Гл. Фасмер, 3, 770; ЕСУМ, 5, 431; Новое в рус. этим., 220. У сувязі з шырокім распаўсюджаннем у народнай мове малаверагодна новае запазычанне з рускай мовы (так Сл. ПЗБ, 4, 593).

**Страж** 'ахоўнік, абаронца' (ТСБМ), *страж, стра́жа* 'варта' (беласт., ашм., Сл. ПЗБ). Мяркуючы па прыкладах, даволі позняе запазычанне з рус. *страж* 'тс', дзе праз царкоўнаславянскую з ст.-слав. стражь, стража 'тс', або праз польск. *straż* 'тс', што з чэш. *stráž*, параўн. ст.-польск. *stroża* (Басай–Сяткоўскі, Słownik, 341). Сюды ж *стра́жнік* 'ляснік, лясны абходчык' (Нас., Гарэц.; ганц. Ск. нар. мовы), 'паліцэйскі' (Бяльк.), што з рус. *стра́жник* 'вартаўнік' або польск. *strażnik* 'вартаўнік, наглядчык'. Гл. Цвяткоў, Запіскі, 2, 1, 62.

**Стражы́на** 'прыстасаванне для сушкі бульбяніку, снапоў, канюшыны' (Жд. 2, 3; узд., ДАБМ, камент., 790). Магчыма, да *страгнуць* (гл.) з актуалізацыяй значэння 'тое, на што насаджваюць, навязваюць'. Параўн. таксама Сной, SR, 1990, 4, 371 і наст.

**Страйк** 'забастоўка' (Беларусіка, 19, 226), *страйкава́ць* 'баставаць' (Сл. ПЗБ). Запазычана праз польск. *strajk* або ідыш *Strajk* (Шульман, Полымя, 1926, 8, 212) з англ. *strike* 'забастоўка; баставаць', з першасным значэннем 'біць, стукаць' і спецыяльным значэннем 'спускаць ветразі' (Сной$_2$, 742; ЕСУМ, 5, 432).

**Страйхо́ды** 'басаножкі' (Сл. рэг. лекс.), *срайхо́ды* 'старыя боты з адрэзанымі халявамі' (мядз., Шатал.). Няясна. Відаць, складанае слова, другая частка – да *хадзіць, ход*, параўн. *скараходы, хадакі*.

**Страк** 'страказа' (шчуч., ЛА, 1). Несумненна, пачатак слова *страказа* (гл.), зближаны з *строк*, гл.

**Страка́** 'пятля (вушка) у лапцях' (глыб., паст., Сл. ПЗБ, Мат. Гом.), *стро́кі* 'вушкі ў лапцях' (Жд. 3, Мат. Маг.; барыс., Шатал.), "доўгія вяроўчатыя валокі, якія працягваюцца праз сярэднія вушкі і ўтвараюць па абодвух баках пяткі пастолу вялікія петлі – строкі" (Серб. Вічын), сюды ж *стро́чанікі* 'лапці (лепшага вырабу)' (Мат. Гом.), *стро́чка* 'стужка' (Ян.). Параўн. укр. *строка́* 'рант у пасталах', *строчаки́* 'шнуркі для прывязвання лапцей', *стрі́чка* 'стужка, тасёмка', дыял. *стри́чка* 'пятля для лоўлі птушак', рус. *строка́* 'радок лыка пры пляценні лапцей', польск. дыял. *stroka*,



*strzoka* 'паласа', ст.-польск. *stroka* 'пояс, паласа, кропка', в.-луж. *tšoka* 'шрам, след ад апёка'. Бязлай (3, 332) адносіць сюды ж славен. *stróka* 'слой, нізка' і серб.-харв. *стр̏ока* 'кароста ў авечак', *štroka* 'нейкая хвароба ў свіней'. Літ. *strakà* 'слой, нізка' запазычана з славянскай. Слова роднаснае *строк* 'авадзень' (гл.), яго першаснае значэнне меркавалася як 'укол; кропка' (Міклашыч, 325; Траўтман, 284; Фасмер, 3, 780; Шустар-Шэўц, 1548), параўн. *строк*$_3$ (гл.). Паводле ЕСУМ (5, 444, 447–448), частка ўкраінскіх слоў лічыцца запазычанай з польскай і далей з ням. *Strick* 'вяроўка, завязка', што не выключае кантамінацыі.

**Страказа́** 'стрэлка, насякомае з празрыстымі крыламі' (ТСБМ, Бяльк., Сцяшк., ЛА, 1), *страказа́, стрыказа́, стрыкоза́* 'тс' (нясвіж., лід., докш., Сл. ПЗБ), 'конік' (Бяльк.; шчуч., лудз., Сл. ПЗБ), *стрыказа́* 'конік, які скача і стракоча крыламі' (Скарбы), 'шпілька' (пін., Сл. ПЗБ). Параўн. укр. дыял. *стреко́за, стрекоза́* 'цыкада', *стри́коза* 'насякомае Libellula L.', рус. *стрекоза́* 'тс'. Вытворнае ад *стры́каць* 'рабіць хуткія рухі; пстрыкаць' (гл.), параўн. Фасмер, 3, 774; словаўтварэнне, відаць, як у *слімаза́* 'плакса' (ад *слімаць*, гл. Сцяцко, Афікс. наз., 41), канец слова, магчыма, зближаны з *каза́*; значэнне 'конік' пад уплывам *стракатаць*. Агляд версій гл. ЕСУМ, 5, 443.

**Страката́ць** 'цвіркаць, трашчаць, траскатаць (пра насякомых і птушак)' (ТСБМ, Сцяшк.; лудз., Сл. ПЗБ), 'сакатаць' (шуміл., Сл. ПЗБ), *стракацéць* 'скрыпець' (Сцяшк.). Параўн. укр. *стрекота́ти, стрекоті́ти* 'тс', рус. *стрекота́ть* 'тс'. Гукапераймальнага паходжання, параўноўваюць з лац. *strīdeō, strīdō* 'сіпець, скрыпець, трашчаць, гудзець, свісцець', грэч. τρίζω, τέτρῑγα 'шчабятаць, стракатаць' і пад., і.-е. *(s)treig- 'шыпець, трашчаць, гудзець'; гл. Праабражэнскі, 2, 395; Фасмер, 3, 774; Будзішэўска, Słown. 158; ЕСУМ, 5, 436–437.

**Страка́ты** 'рознакаляровы, разнашэрсны, плямісты, пярэсты' (ТСБМ, Нас., Касп., Варл.; астрав., шальч., вільн., Сл. ПЗБ), *стрыка́ты* 'тс' (Шымк. Собр., Ласт., Байк. і Некр., Бяльк.), *строка́тый* 'масць чорная з белым або чорная, белая і чырвоная' (Клім.), *стрэка́тый (стрека́тый)* 'плямісты, пярэсты' (Нас., Мядзв.). Укр. *строка́тий* 'плямісты; пярэсты (аб масці жывёліны)', чэш., славац. *strakatý* 'тс'. Узводзяць да рус. *строка*, г. зн. 'усыпаны кропкамі' (Фасмер, 3, 781), якое звязана чаргаваннем галосных з

11а Зак. 857

*стрыкаць* і першапачаткова значыла ‘ўкол’, параўн. *строк*, гл. Іншая магчымасць – з *пстрака́ты* (гл.), параўн. польск. *pstrokaty* (ад *pstry*, Варш. сл., гл. *пёстры*), што звязана з *srokaty* ‘тс’, суадноснае з укр. *сорока́тий* ‘тс’, в.- і н.-луж. *srokaty* ‘тс’, славен. *srákast* ‘тс’. Фурлан (гл. Бязлай, 3, 302) узводзіць названыя формы да прасл. **sorkъ* ‘плямісты, пярэсты, рабы’ з і.-е. **korkos* ‘чорны, чарнявы, рабы’, ад якога паходзіць і прасл. **sorka* ‘сарока’, роднасныя ст.-інд. *śārá* ‘плямісты, рабы, пярэсты’. Сюды ж і *стракаце́ць* ‘пярэсціцца’ (ТСБМ), *стракацíзна* ‘вяснушкі’ (шальч. Сл. ПЗБ).

**Стракáць** ‘сустракаць, спатыкаць’ (Бяльк., Ян.). *стракáны* ‘насланы пры сустрэчы (пра хваробу)’ (Нар. Гом.). Гл. *стрэць*, *сустракаць*.

**Стракáч**: *даць стракачá* ‘ўцячы, збегчы’ (Сержп., Стан.). Ад *стракáць* ‘бегаць, гізаваць’ (Сцяшк.), суадноснага з рус. *стрекáч* у выразе *дать стрекачá*, што да *стрекáть* ‘хутка бегчы’. Параўн. *строк*$_1$ (гл.).

**Стракíва** ‘крапіва’ (Касп.; шуміл., Сл. ПЗБ; рас., Шатал.; Рам. 8; рас., полац., в.-дзв., глыб., ЛА, 1), *стрэкíва* ‘крапіва-жыгучка’ (віц., Кіс.). Да *стрыкáць* (гл.), параўн. *стрыкýчая крапівá* ‘крапіва-жыгучка’ (ЛА, 1).

**Стралá**$_1$ ‘тонкі прут для стральбы з лука’ (ТСБМ, Байк. і Некр., Бяльк., Янк. 2), ‘журавель, доўгае бервяно ў калодзежы’ (Некр., Жд. 2, Янк. 2), ‘саха ў студні з жураўлём’ (ДАБМ, камент., 808), ‘пярун, маланка’ (ТС), ‘крэмневы завостраны цыліндрык’ (ТС, Маш.), ‘белемніт’, ‘выкапнёвая каменная сякерка’ (Машынскі, Atlas): *перунóвая стрэлá* ‘тс’ (Пятк. 2), ‘стрэлка ў гадзінніку’ (Сцяшк.), ‘бязлістае тонкае сцябло расліны з суквеццем наверсе’ (ТСБМ), памянш. *стрэ́лка* (гл.). Параўн. укр. *стрілá*, рус. *стрелá*, старaж.-рус. *стрѣла*, польск. *strzała*, в.-луж. *třěła* ‘снарад’, н.-луж. *stśěła* ‘прамень’, чэш. *střela* ‘страла, маланка’, славац. *strela* ‘снарад’, серб.-харв. *стрије̏ла*, славен. *stréla*, балг. *стрелá* ‘страла, маланка’, макед. *стрела* ‘страла’, ст.-слав. **стрѣла** ‘страла’, дыял. (салун.) *str'älá* ‘гром’. Прасл. **strěla*, дэрыват ад незасведчанага і.-е. дзеяслова (Шустар-Шэўц, 1368). Борысь (583) следам за Покарным (1028) мяркуе, што слова з’яўляецца вытворным ад і.-е. кораня **ster-*, які ў *распасцерці* (гл.). Роднасныя лат. *stręlā* ‘страла, кідальны снарад, паласа, струмень’, літ. *strėlà* ‘страла’, ст.-в.-ням.



*strâl(a)* ‘страла, маланка’, ням. *Strahl* ‘прамень’, на падставе якіх Борысь (там жа) узнаўляе слав.-балта-герм. праформу **strē-lā*. Махэк$_2$ (586) лічыць усе гэтыя словы запазычаннем з “праеўрапейскага субстрата”. Гл. таксама Глухак, 589; Бязлай, 3, 326.

**Стралá**$_2$ ‘страказа’ (лудз., Сл. ПЗБ), *стрэ́лка* ‘тс’ (Некр. і Байк., Касп.; в.-дзв., смарг., паст., рас., даўг., Сл. ПЗБ). Да *страла*$_1$, *стрэлка*$_2$ (гл.). Назва па доўгім, выцягнутым брушку. Параўн. рус. дыял. *стре́лка* ‘тс’.

**Стралá**$_3$ ‘карагод’ (Нар. Гом.). Ад назвы абрада “ваджэнне і пахаванне стралы”, відаць, да *страла*$_1$ (гл.). Аб семантыцы абрада гл. Барташэвіч, Бел. фальк., 2, 563–565.

**Страля́ць** ‘пускаць стрэлы, кулі, снарады’, ‘забіваць, расстрэльваць’ (ТСБМ, Нас., Ласт., Байк. і Некр., Сцяшк., Бяльк., Сл. ПЗБ), *стрэля́ць* ‘тс’ (ТС, Пятк. 2), *страля́ць* ‘біць, паліць (пра пярун)’ (Сержп. Прымхі, Сл. ПЗБ), ‘гучна лопацца, трэскацца’ (Сл. ПЗБ), сюды ж *стрэ́ліць* ‘выстраліць’ (ТСБМ, Бяльк., Гарэц., Байк. і Некр., Стан., ТС), ‘забіць; ударыць’ (Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *стріля́ти*, рус. *стреля́ть*, стараж.-рус. *стрѣляти*, польск. *strzelać*, в.-луж. *třelić*, н.-луж. *stśelaś*, чэш. *střeliti*, славац. *strielat'*, серб.-харв. *стрије̏љити*, славен. *stréljati*, балг. *стре́лям*, макед. *стрела*. Прасл. **strěliti* вытворнае ад **strěla* (гл. *страла*$_1$), з першасным значэннем ‘пускаць стрэлы’; гл. Фасмер, 3, 774; Бязлай, 3, 327. Сюды ж *стрэл* ‘выстрал’ (ТСБМ, Нас., Касп., Ласт.), ‘стральба, страляніна’ (Сл. ПЗБ, ТС), *страле́ц* ‘стралок; паляўнічы’ (ТСБМ, Пятк. 2, Нар. Гом., Сержп., Сцяшк., Барад., Сл. Брэс.), *страллё* ‘стрэльба’ (Сцяшк. Сл.), *стральбá (стрѣльба)* ‘паляванне’ (віц., Яшк. Мясц.), ст.-бел. *стреленье* ‘выстрал; адзінка вымярэння адлегласці стрэлу, роўная 60–80 м’ (Ст.-бел. лексікон). Гл. таксама *стрэльба*.

**Страм** ‘сорам’ (Бяльк., Жд. 2, Мат. Маг., Шатал., Юрч.; віц., маг., брэсц., гом., ЛА, 3), сюды ж *страмíць* ‘сарамаціць’ (Ян., Нар. Гом., ТС), ‘знеслаўляць’ (Бяльк.; брасл., Сл. ПЗБ), *страмíцца* ‘саромецца’ (ТС, Бяльк.; ашм., швянч., лаг., Сл. ПЗБ), ‘сарамаціцца’ (Бяльк., Сл. ПЗБ), *стрáмно* ‘сорамна’ (ТС), *страмны́* ‘бессаромны’ (Мат. Гом.), *страмнíк* ‘бессаромнік’ (Ян.), *страмціць* экспр. ‘гаварыць недарэчнае’ (Сл. ПЗБ), *страмóцця* ‘сорам’ (драг., Нар. словатв.). Параўн. укр. *страм* ‘сорам’, рус. дыял. *страм*. У беларускай, відаць, з царкоўнаславянскай, параўн. ц.-слав.,

ст.-слав. срамъ з устаўкай *-т-*, што магло адбыцца яшчэ ў царкоўнаславянскай, паколькі гэтая з'ява (*стр* < *ср*) мае універсальны характар у гаворках ваколіц Салуні (параўн. Младэнаў, БЕ, 27, 6, 471–473). Гл. таксама *срам*.

**Страма́к**$_1$ 'прылада ў выглядзе чатырохграннага шуфеля з доўгай ручкай для капання торфу' (Скарбы, Сцяшк. Сл.). Дэрыват ад *стромы* (гл. *стромкі*) з суф. *-ак*.

**Страма́к**$_2$ 'высокі, нязграбны чалавек' (Цых.). Відаць, іранічна пераасэнсаванае польск. дыял. *sztratak* 'фарсун, моднік', што з ням. *stramm* 'нахабны, дзёрзкі' (гл. Курцова, Polszczyzna, 496).

**Страмбе́ль** 'сцябло', 'рэшткі храпкі з каранямі', 'адростак пяра пасля лінькі птушак' (Сл. ПЗБ). З літ. *stramblỹs* 'сцябло' (там жа). Сюды ж *страмбя́к* 'адростак пяра пасля лінькі', *страмбялёк* 'тс' (шальч., Сл. ПЗБ).

**Страме́нкі** (*страме́нкы, страмэ́нты*) 'барвенак' (Бейл., Сл. Брэс., Сл. ПЗБ), 'купалка' (пін., Бейл.). Відаць, да наступнага слова з-за знешняга падабенства да драбіны.

**Страмі́на** 'драбіна' (ТС), *страмы́на* 'прыстаўныя драбіны' (Кольб.; брэсц., пін., стол., Нар. лекс.), *страбына, страмы́на, страмэ́на, стромы́на* 'тс' (Сл. Брэс.), *страмянка* 'лескі; драбіна' (Сцяшк. Сл.), *страмы́нка* 'зрубленае маладое дрэва з сукамі, па якім паднімаюцца на дрэва да вулля' (Анох.). Параўн. укр. дыял. *стра́мина, страми́на* 'драбіна'. Да *стром, стромы*, гл.; першаснае значэнне адлюстравана ў *страмынка* (Мяркулава, Этим. иссл., 4, 6–7). Паводле Борыся (Czak. stud., 125), узыходзіць да прасл. **strama*/**stramъ* 'вертыкальны ці гарызантальны слупок як апора', дэрыватаў з падаўжэннем каранёвага галоснага ад прасл. **stromiti*, старога каузатыва да **strьmĕti*, гл. *страміць*.

**Страмі́на́** 'круты схіл, абрыў, круча' (Нас., Скарбы). Параўн. укр. *стре́м'я* 'абрыў, моцнае цячэнне', *строми́на, стромина́* 'абрыў, круча' рус. дан. *стре́мя* 'цячэнне, ток ракі'. Да *стро́мы*, гл. *стромкі* (Міклашыч, 325; Праабражэнскі, 2, 396; Фасмер, 3, 775; ЕСУМ, 5, 437–438).

**Страмі́цца** Гл. *страм*.

**Страмі́ць** 'тырчаць, стырчаць' (Арх. Федар.), сюды ж, відаць, *стрыміты* экспр. 'знаходзіцца' (кам., Жыв. НС). Параўн. укр. дыял. *стримі́ти* 'тырчаць', чэш. *strměti* 'стырчаць, выдавацца', славац. *strmiet'* 'тс', славен. *strméti* 'тырчаць, стырчаць, выступаць', што ўзыходзяць да прасл. **strьmĕti* 'тырчаць, выдавацца' (Борысь, Etymologie, 180), што да і.-е. **ster-* 'тс' (параўн. ЕСУМ, 5, 438; Фасмер, 3, 775).



***Страмля́ць**, *стромляти* 'утыкаць' (беласт., Сл. ПЗБ). Да папярэдняга слова.

**Страмп** 'пень' (Мат. Гом.). Параўн. *страмбе́ль*, гл.

**Страмя́к**, *страмяка* 'стрэмка' (Арх. Федар., Сцяшк. Сл.; воран., лід., маст., шчуч., дзятл., Сл. ПЗБ), *страма́к* 'тс' (Суднік, Диалекты, 206). Дэрываты ад *страміць* (гл.). Сюды ж *страмляк* 'стрэмка' (Сцяшк. Сл., іўеў., карэліц., Сл. ПЗБ), якое аўтары слоўніка выводзяць з літ. *stramlỹs* 'тс'. Параўн. *стрэмка*.

**Страмяну́ць** 'рынуцца' (шчуч., З нар. сл.), 'кінуць, кінуцца' (Сцяшк. Сл.). Параўн. укр. *стрі́мнути* 'кінуцца'. Роднаснае рус. *стреми́ть* 'накіроўвацца, хутка рухацца', серб.-харв. *стре́мити* 'імкнуцца, прагнуць', славен. *stramíti* 'прагнуць', балг. *стремя се* 'імкнуцца, прагнуць', макед. *стреми се* 'тс', ст.-слав. **стрьмити** 'тс'. Прасл. **stremiti* 'накіроўваць, скіроўваць', роднаснае **strьmĕti*, **stromъ* (гл. *страміць*). Паводле Младэнавай (Нов. в рус. этим., 224), узыходзіць да і.-е. **ster-m-*<**ster-*, што першапачаткова абазначала рух у любым кірунку. Гл. таксама Фасмер, 3, 775; Варбат, Этимология–1994–1996, 39; ЕСУМ, 5, 437–438.

***Страпаліць**: *страпале́ннік* 'падбухторшчык', *страпале́нніца* 'падбухторшчыца' (Юрч., СНС). Гл. *настрапаліць*.

***Страпе́ц**, *стропэ́ц* 'укладка з дзесяці снапоў, мэндлік, бабка' (Сл. Брэс., Выг.). Дэрыват ад *строп* (гл.) з суф. *-ец*; перанос па падабенстве, параўн.: *девять снопів поставлять, а дэсетого на шепку, то будэ стропэц*. Гл. Выгонная, БЛ, 6, 63–64. Няясныя адносіны да *страпе́ц* 'памылка, якая з'яўляецца вынікам неабдуманасці (і праз гэта чалавек трапляе ў кепскі, безвыходны стан)': *пыпалась у страпец* (Бяльк.). Адпавядае рус. разм. *крышка* 'канец, капец'?

**Страпі́лы** мн. л. 'кроквы' (Бяльк.), *стропі́ло* 'тс' (Шушк.), *страпіліны* 'тс' (Ян.). З рус. *стропи́ло*, мн. л. *стропи́ла* 'тс', якое да *строп*, гл. (Фасмер, 3, 781).

**Стра́пкі** 'завязкі ў фартуху' (малар., Помнікі гіст. і культ., 1971, 3, 42), *стрэ́пкі* 'махры', 'ніткі, пакінутыя на канцы палатна пры датыканні' (ТС). Параўн. укр. *стрі́пки* 'махры', *стра́пки* 'лахманы, рыззё', польск. *strzępek* 'махор; нітка, што тырчыць з

тканіны', дыял. *strzępki* 'фрэнзлі; канцы паяска ў фартушку для завязвання ззаду', чэш. *střap* 'акравак', славац. *strapec* 'кутас', *strapák* 'кудлач, растропа', што несумненна звязаны з **trepati* (гл. *трапаць, стрэнкі*). Цяжкасці, што ўзнікаюць пры рэканструкцыі зыходнай формы, вырашаюцца ўзвядзеннем да варыянтнага кораня **strap-*/**str'ap-* 'растропваць, расцёпкваць' з рэфлексамі і.-е. s-mobile (Варбат, Этимология–1985, 24–27), параўн. *трапкач* 'рушнік з махрамі' (гл.). Інакш ЕСУМ, 5, 433 (звязваецца з прасл. **tręp-*/**stręp-* 'кутас, махор; ануча, рызман'). Сувязь з рус. *стряпать* 'гатаваць, варыць ежу' (Брукнер, 522–523) падаецца менш верагоднай.

**Стра́пнік** *(стра́пнэк)* 'зрэбнае палатно нізкага гатунку' (Сл. Брэс.), *стра́пнік, стрэ́пнік* 'трапкач', таксама *странка́ч* 'тс' (Уладз.). Гл. *стрэ́пкі* 'адходы пры часанні льну', адсюль 'палатно з адкідаў льну'.

**Страпяну́ць** *(стріпяну́ць)* 'страсянуць' (ТСБМ, Бяльк.), *страпяну́цца* 'уздрыгнуць, усхапіцца' (ТСБМ, Некр. і Байк.), *стрэпену́цца* 'уздрыгнуць, схапіцца, спахапіцца' (Растарг.), *стрыпыні́ты* 'аслупянець' (драг., З нар. сл.). Да *трапятаць*, гл.

**Страсць** 'моцнае захапленне', 'цяга да чаго-небудзь', 'моцнае нястрымнае каханне' (ТСБМ), 'усяночнае няспанне з вечара Вялікага чацвярга на пятніцу', 'моцнае жаданне', прысл. 'моцна, вельмі' (Нас.), 'страх, жудасць' (Рам. 6), ст.-бел. *стрась* 'пакута; мукі' (Карскі, 1, 356). Укр. *страсть*, рус. *страсть*, чэш. *strast*, славац. *strasť*, серб.-харв. *strȃst*, славен. *strȃst*, балг., макед. *страст*, ст.-слав. **страсть** 'страсць, пакута, мучэнне'. Прасл. **strastь* утворана ад **stradati* 'пакутаваць, цярпець' з суф. *-tь*; гл. Слаўскі, SP, 2, 45. Гл. яшчэ Фасмер, 3, 771; Бязлай, 3, 324; Махэк$_2$, 580.

**Страся́нка** 'сумесь сена з саломай' (Касп., Барад.). Гл. *трасянка*.

**Стра́та** 'згуба; згублена' (ТСБМ, Шымк. Собр., Касп., Нас., Байк., Некр., Сл. ПЗБ, ТС), ст.-бел. *страта* (XVI ст., гл. Карскі, 2–3, 498). Аддзеяслоўны дэрыват ад *страціць* < *траціць* (гл.).

**Стра́ўнасць** 'страваванне' (Нас.), 'ежа, харч' (Ласт.). З польск. *strawność* 'легкатраўнасць', параўн. *страва* гл.

**Стра́ус** 'буйная афрыканская птушка' (ТСБМ), *стра́вус* 'птушка Strucio camelus' (Некр. і Байк.). Новае запазычанне праз рус. *стра́ус* 'тс' з нов.-в.-ням. *Strauss* 'тс'; іншая форма *струсь* 'тс' (Ласт.) праз польск. *struś* 'тс', сяр.-н.-ням. *strûs* < ст.-лац. *strūtiō*, *strūthiō* ад грэч. στρουθίων, στροῦθς 'птушка' (Брукнер, 521; Фасмер, 3, 771). Ст.-бел. *струсъ* 'страус' (XVII ст.) < ст.-польск. *strus* (Булыка, Лекс. запазыч., 145); ст.-бел. *строуць* 'тс' (XVI ст., Альтбаўэр), магчыма, непасрэдна з лацінскай, насуперак Віткоўскаму (Зб. Лімінгу, 179), які лічыць, што замена *s (ś)* на *ц* адбылася на ўсходнеславянскай глебе. Ст.-бел. *пструсъ, пъструсъ* (XVI ст., Скарына) з чэш. *pštros* 'тс'.



**Стра́ўнік** 'орган стрававання чалавека і жывёл' (ТСБМ, Інстр. 1). Наватвор ад *стра́ўны* 'стрававальны' (Ласт.) у выніку семантычнай кандэнсацыі з **стра́ўны жалудак*, гл. *жалу́дак* (Гарэц.), параўн. польск. *strawny żołądek* 'які лёгка страўляе ежу' (Варш. сл.).

**Страх** 'адчуванне небяспекі; боязь', выкл. 'страшна, жах', прысл. 'вельмі, надзвычайна' (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Стан., Сл. ПЗБ, ТС), 'вельмі, моцна' (Нас.), 'пудзіла' (гродз., драг., Сл. ПЗБ, Сл. Брэс.; воран., Шатал.; Сл. Брэс., Клім.), *страх, страшо́к* 'страшыдла, злы дух, д'ябал' (Скарбы). Сюды ж *страхата́* (Нас., Касп., Сл. ПЗБ), *страхо́цце, страхаццё* (ТСБМ, Сл. ПЗБ, Ласт.) 'нешта страшнае', *страха́цца* 'пужацца' (Ласт.). Параўн. укр., рус. *страх*, старaж.-рус. *страхъ*, польск. *strach*, в.-луж. *strach*, н.-луж. *tšach*, чэш., славац. *strach*, серб.-харв. *стра̑х*, славен. *strȃh*, балг. *страх*, макед. *страв*, ст.-слав. **страхъ**. Прасл. **straxъ* 'страх, боязь, трывога' не мае надзейнай этымалогіі. Па адной з версій, праславянскае слова мела першаснае значэнне 'здранцвелы, анямелы' і параўноўвалася з літ. *stregti, stregiu* 'здранцвець; пераўтварыцца ў лёд', лат. *strēgele* 'лядзяш', с.-в.-ням. *strac* 'тугі', нова-в.-ням. *strecken* 'расцягваць'; гл. Фасмер, 3, 772, з літ-рай; Глухак, 586. На іншую думку, **straxъ* з ранейшага **strog-so* з рэгулярным змяненнем *gs* > *ks* > *ch* і звязаны з прасл. **strogъ* (гл. *строгі*) ад і.-е. кораня **(s)terg-*/**(s)treg-* (Борысь, 579). У выпадку развіцця **straksъ* < **straskъ* дапускаецца той жа корань, што і ў рус. *стращать* 'палохаць', *острастка* 'пагроза, грозьба' з чаргаванне *st/sk* аналагічна *пусціць/пушчаць/пускаць* (Младэнава, Новое в рус. этим., 221–222). Дапушчэнне рухомага *s* дазваляе звязваць з *трасці*, параўн. *страхану́цца* 'страсянуцца' (Сл. ПЗБ). Прасл. **straxъ* разглядаецца таксама як славянскае новаўтварэнне ад **strastь* (гл. *страсць*) (Брукнер, KZ, 43, 309). Славянскае слова – дэвербатыў ад **straxati*, параўн. н.-луж. *tšachaś*, польск. дыял. *strachać*, славац. *prestrachaný*, якія з **strōksati*, роднаснага ням.

*schrecken* 'страшыць', што з **srek-* з "інтэнсіўным" суф. *-sa* (Махэк$_2$, 581); сувязь з лат. *struõstêt, struõstit* 'пагражаць, сурова папярэджваць' (Мюленбах-Эндзелін, 3, 1699). Гл. яшчэ агляд версій у ЕСУМ, 5, 435.

**Страха́** 'верхняя, звычайна саламяная частка будынка, якая накрывае яго' (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Шат., Касп., Бяльк., Сержп., Сцяшк., Сл. ПЗБ, ЛА, 4), *стрэ́ха* 'тс' (Шымк. Собр., Байк. і Некр., ЛА, 4), *стрэ́ха, стрэха́* 'тс' (Пятк. 1, ТС), *стрі́ха, стрэ́ха* 'страха; лядзяш' (Сл. Брэс.), 'застрэшак' (Сл. ПЗБ), *стрыха́, стрэ́шка, стры́шка* 'край страхі, які навісае над сцяной', 'саламяны дах', 'казырок франтона' (Шушк.), *стрэ́шка* памянш. да *страха* 'навес над калодзежам, стогам і да т. п.' (ТСБМ, Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *стрі́ха*, рус. дыял. *стреха́*, польск. *strzecha*, в.-луж. *třěcha*, н.-луж. *tśěcha, stśěcha* 'выступ страхі, навес', чэш. *střecha* 'страха', славац. *strecha*, славен. *stréha*, серб.-харв. *стре̏ха* 'выступ страхі', балг. *стря́ха*, макед. *стреа*, ст.-слав. стрѣха. Прасл. **strěxa* утворана з суф. *-xa* ад дзеяслова **strojiti* 'укладваць, прыводзіць да парадку, будаваць' (гл. *строй*); гл. Слаўскі, SP, 1, 71. Супраць па семантычных прычынах Бязлай (3, 326). Іншыя рэканструкцыі: **strěxa* < **stersā* ад і.-е. **ster-* 'распасціраць' (Младэнаў, 614); **strěxa* < **strojgsā* да і.-е. **strei-g-* 'пакрываць' < і.-е. **ster-* 'распрасціраць' пры ўмове роднасці з літ. **striẽgti/*striegti* 'накрываць дах саломай', *striẽgė* 'саламяны дах', *straĩgas* 'жэрдка ў плоце' (Фрэнкель, 92; Бязлай, там жа; Махэк$_2$, 585); Борысь (583) мяркуе, што славянскае слова ўзыходзіць да і.-е. **strojgsā* > **strojksā* з далейшым развіццём **ks* > **x*. Фасмер (3, 776) усе гэтыя варыянты лічыць сумніўнымі. Гл. яшчэ Глухак, 588 (рэканструюе і.-е. **stroi-sā*, дзе **stroi-* тое ж, што ў **strojь*, **strojiti*, гл. *строй*$_{1,2}$).

**Страхава́ць** 'забяспечваць, засцерагаць', 'заключаць дамову пра выплату кампенсацыі' (ТСБМ), *стрыхава́ць* 'тс' (Янк. 1), *страхо́ўка* 'плацеж паводле дамовы аб кампенсацыі страт' (Сержп., Бяльк.), *стрыхо́ўка* 'тс' (Янк. 1). З рус. *страхова́ть* 'тс', *страхо́вка* 'тс', якое ад *страх*, гл. (Фасмер, 3, 772). Магчыма, на падставе эліпсіса ўстойлівых спалучэнняў тыпу *на свой страх*, параўн. у Даля: "страховать… отдавать кому на страх, на ответ, ручательство", аналагічна ням. *Sorge* 'клопат' (з больш ранняга 'страх перад пагрозай'), *Versorgen* 'забяспечваць', гл. Новое в рус. этим., 222.



**Страхалю́д** 'страшнага выгляду чалавек, пачвара' (Юрч. Вытв.). Да *страх* і *люд* (гл.), магчыма, з польск. *stracholud* 'страшылішча'.

**Страхапу́д**, *страхапу́дала* 'страшыдла, пачвара' (Юрч. Вытв., Мат. Гом.), *страхопу́д* 'баязлівец', 'пудзіла' (Сл. Брэс.; пін., брэсц., Нар. лекс.), *страхапу́д, страхапу́дзіна* 'чалавек, які можа навесці страх сваім выглядам' (Сл. ПЗБ; клец., Нар. лекс.), *страхопу́т* 'страшыдла' (ТС). Укр. *страхопу́д* 'страшыдла, пудзіла'. Да *страх* і *пудзіць*. Магчыма, кантамінацыя, паколькі спалучэнне сінанімічных паняццяў у адным складаным слове здаецца збыткоўным. Да словаўтварэння параўн. *саракапут* (гл.), чэш. *strakapúd* 'від дзятла' (гл. Махэк$_2$, 581). Няясныя адносіны да славен. *strahopeten* 'палахлівы', *strahopetec* 'баязлівец', звязаных з славен. *petáti* 'бегчы, спяшацца', *pripetiti* 'здарыцца', якія Сной (гл. Бязлай, 3, 30) узводзіць да і.-е. **pent-* 'ступаць, ісці, хадзіць', гл. *пуць*. Тады другая частка слова можа быць атаясамлена з *пут-*, прадстаўленым у *сухапу́т* 'худы чалавек' (Ян.), *сухопу́цье* 'суша' (ТС), зблізаным з *пудзіць* 'палохаць' (гл.). У такім выпадку ўкр. *страхополо́х*, польск. *strachopłoch* 'баязлівец' – другасныя ўтварэнні; параўн. таксама польск. *strachopłód* 'тс' ('той, хто плодзіць страх', Варш. сл.), *strachopuł* 'тс', укр. *страхопі́льне* 'пудзіла, прывід' з няяснай другой часткай.

**Страха́р** 'рабочы, які крые стрэхі' (ТСБМ), ст.-бел. *страхаръ (стрехаръ)* 'майстар, які крыў стрэхі' (Ст.-бел. лексікон). Ад *страха* (гл.), параўн. польск. *strzecharz* 'тс'; аднак не выключана адаптацыя запазычанага праз польск. *strycharz* 'муляр; той, хто робіць цэглу' з с.-в.-ням. *strîcher* 'тс' (Нававейскі, Zapożyczenia, 11), зблізанага з польск. *strych* 'гарышча'. Параўн. *стрыхоўка* (гл.).

**Страхо́ма** 'доўгая вейка': *надо вырвати страхому, каб … нэ лэкалосо діти* (пін., Шатал.). Няясна, відаць, да *страха́цца* 'баяцца' (ад *страх*, гл.), параўн. прыслоўе славен. *strahota* 'са страхам, баючыся'. Зблізана з *трахома* 'хвароба вачэй', гл.

**Страцэ́нне** 'смяротная кара', 'адсячэнне (галавы)' (Нас., Гарэц.), *страцэ́ня, страцэнё* 'знішчэнне' (Сл. ПЗБ), *страцэ́не* 'страта' (Нар. Гом.), *стра́ціць* 'загубіць, знішчыць, пазбавіць жыцця' (Нас., ТСБМ, Нар. Гом., Сержп. Прымхі, Сл. ПЗБ, Некр. і Байк.). У спецыфічным значэнні 'пазбаўленне жыцця', хутчэй за ўсё, з польск. *stracenie* 'пакаранне смерцю', *stracić* 'пакараць смерцю', што

развілося на падставе значэння ‘згубіць, загубіць’, тыповага для *стра́ціць*, што да *тра́ціць* (гл.), параўн. *страта* ‘згуба’.

**Страчо́к** ‘грыб, які мае карычневую шапку, часткова зрослую з ножкай’ (ТСБМ, ЛА, 1), ‘глузд веснавы, Gyromitra esculenta Fr.’, ‘смаржок, Morchella’ (Сярж.–Яшк.), *старчо́к, тарчо́к* ‘тс’ (там жа), *стро́чка* ‘грыб Gyromitra’ (петрык., там жа). Параўн. укр. *строчо́к* ‘грыб Gyromitra esculenta Fr.; лісічка звычайная, Cantharellus cibarius Fr.; грыб сядловіца, Helvella Fr.’, рус. *строчо́к* ‘грыб Gyromitra esculenta’, *строчёк* ‘від смарчка, Helvella mitra’, польск. *stroczek* ‘лісічка’, ‘грыб Merulius’, чэш. *stroček* ‘лісічка’, паводле Махэка$_2$ (582), з польск. *stroczek*. Не вельмі ясна, фармальна да *страка́* (гл.), але падставы намінацыі не зусім зразумелыя; магчыма, звязана з *строчка* ‘стужка, фальбона’ (гл.), польск. *stroka* ‘галун, шляк, абрамленне, фалда’, што адпавядае знешняму выгляду грыбоў. ЕСУМ (5, 450) прапануе рэканструкцыю прасл. дыял. **stročьkъ*, што звязана з **strokъ* са значэннем ‘укол’.

**Страшко́** ‘страхапуд’ (Сл. Брэс.), ‘палахлівец’ (Клім.). Вытворнае ад *страшыць* (гл.) з суф. *-к-*, аб якім гл. Сцяцко, Афікс. наз., 46. Сюды ж *стра́шко* ‘страшна’ (Мат. Гом.).

**Страшчы́ць**. Гл. *стрысціць*.

**Страшы́ць** ‘палохаць, выклікаць страх’ (Нас., ТСБМ, Байк. і Некр., Ласт., ТС, Сл. ПЗБ). Укр. *страши́ти*, рус. *страши́ть*, стараж.-рус. *страшити*, польск. *straszyć*, в.-луж. *trašić*, чэш. *strašit*, славац. *strašit'*, серб.-харв. *стра̏шити*, славен. *strášiti*, балг. *страша́*, макед. *страши*, ст.-слав. страшити. Прасл. **strašiti* ад **straxъ*, гл. *страх* (Фасмер, 3, 772; Борысь, 579). Сюды ж *страшы́дла* ‘той, хто (або што) мае страшны выгляд, выклікае страх’, ‘вырадак’, ‘пудзіла’ (Нас., ТСБМ, Байк. і Некр., Бяльк., Сл. ПЗБ), *страшы́дло* ‘тс’ (ТС). Запазычанае з польск. *straszydło* ‘тс’ (Цвяткоў, Запіскі, 2, 1, 83), параўн. формы з аднаўленнем этымона: *страхі́дло, страхові́дло* ‘тс’ (ТС) і выходнага *страхові́ло* ‘тс’ (там жа), што суадносіцца з сваім *страшы́ла* ‘тс’, параўн. славен. *strašilo* ‘пудзіла’, укр. *страши́ло* ‘страшылішча’ і пад.

**Стро́гі** ‘патрабавальны, сур’ёзны, суровы’, ‘правільны, адпаведны норме’ (ТСБМ), ‘чуйны; асцярожны, ашчадны’ (Нас.), ‘патрабавальны; ашчадны, асцярожны’ (Байк. і Некр.), ‘патрабавальны’ (брасл., смарг., Сл. ПЗБ), ‘асцярожны, акуратны’ (Юрч.



Вытв.), ‘суровы, дакладны, вытрыманы’ (ТС), *стро́га* ‘асцярожна’ (Бяльк.), ‘вытрымана, сціпла’ (ТС); сюды ж *сро́гі* ‘патрабавальны; суровы’, *сро́га* ‘патрабавальна’ (Ласт.). Параўн. укр., рус. *стро́гий*, польск. *srogi* ‘бязлітасны, жорсткі’, дыял. *strogi* ‘тс’, чэш., славац. *strohý*, серб.-харв. *стро̑г*, славен. *stro̧g*, балг., макед. *строг*. Заходне- і паўднёваславянскія формы лічацца запазычаннем з рускай або ўкраінскай; гл. Младэнаў, 612; Торб’ёрнсан, Liquid., 1, 30; Голуб–Копечны, 355. Рускае *стро́гий*, на думку Шахматава (Очерк, 155), Праабражэнскага (2, 399), запазычана з польск. *srogi* ‘грозны’; уся гэта група слоў набліжаецца да *стораж, сцерагчы*. Бязлай (3, 331) мяркуе, што ў гэтым выпадку ст.-слав. срагъ ‘грозны, страшэнны’ сведчыла б аб прасл. **sorgъ*, роднасным літ. *sir̃gti* ‘быць хворым’, тах. А *särk*, тах. В *sark* ‘хваравіты’, ст.-в.-ням. *sorga* ‘смутак’. Іншая версія – роднасць з с.-н.-ням. *strak* (*strack*) ‘жорсткі, тугі’, нарв. *strak*, *strakk* ‘тугі, нацягнуты, прамы’, літ. *stregti* ‘застываць’, лат. *strẽgele* ‘лядзяш’ (Зубаты, Studie, 2, 171; Мюленбах–Эндзелін, 3, 1080) з рэканструкцыяй у гэтым выпадку прасл. **strogъ*, якое Бязлай (там жа) узводзіць да і.-е. **strogo-* < **(s)treg-* ‘цвярдзець, быць цвёрдым, жорсткім’. Гл. таксама Фасмер, 3, 779–780; Глухак, 589; ЕСУМ, 5, 448.

**Стро́і**$_1$ ‘уборы, убранне’ (ТСБМ, Касп., Байк. і Некр., Сцяц. Сл.), *стро́іцца* ‘прыбірацца, святочна адзявацца’ (Ласт.), ‘апранацца’ (Сл. Брэс.), ‘упрыгожвацца, аздабляцца’ (Варл.), ст.-бел. *строи: строи ихъ – все звѣринные скуры* (XVIII ст., Моўн. адзінкі і кантэкст, Мн., 1992, 214). З польск. *strój, stroić* ‘тс’.

**Стро́і**$_2$: *бабро́выя стро́і* ‘бабровы струмень’ (Сержп. Прымхі). Гл. *струмень*.

**Стро́ік** ‘галаўны ўбор, які даўней пажылыя кабеты насілі пад хусткай’ (навагр., З нар. сл.), ‘галаўны ўбор удавы, якая другі раз ідзе замуж’, ‘бант з кветкамі на касцюме маладога’ (Сл. ПЗБ). Гл. *строй*$_3$.

**Стро́іць** ‘рабіць, майстраваць’, ‘намячаць, накідваць (планы, здагадкі і інш.)’, ‘ставіць у строй’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ), ‘рыхтаваць, ладкаваць’ (ТС, Ян.; ваўк., Сл. ПЗБ), ‘будаваць’ (Бяльк., Ян., Мат. Гом.; в.-дзв., паст., брасл., пруж., Сл. ПЗБ), ‘рамантаваць’ (астрав., Сл. ПЗБ; Ян.), ‘спраўляць (свята, вяселле)’ (брасл., віл., Сл. ПЗБ),

'ставіць (пра спектаклі)' (паст., Сл. ПЗБ), *стро́іцца* 'збірацца, імкнуцца што-небудзь рабіць' (ТСБМ), 'упраўляцца па гаспадарцы' (Сцяшк. Сл.). Параўн. укр. *стро́їти* 'прыбіраць; ладзіць', рус. *стро́ить* 'будаваць, састаўляць, рабіць', стараж.-рус. *строити*, польск. *strojić* 'прыгожа апранаць; рыхтаваць, ладзіць', в.-луж. *trojić*, н.-луж. *tšojś* 'рыхтаваць; будаваць', чэш. *strojiti* 'рыхтаваць; гатаваць; прыгожа апранаць', серб.-харв. *стро̀јити* 'кастрыраваць; дубіць', славен. *strojíti* 'апрацоўваць (дубіць) сырую скуру', балг. *строя́* 'будаваць', макед. *строи* 'будаваць; настройваць', ст.-слав. **строити** 'рыхтаваць, ладзіць'. Прасл. *strojiti – дэрыват ад *strojь (гл. *строй*$_1$), гл. Фасмер, 3, 780; Сной$_1$, 615; Борысь, 580. Сюды ж *стро́йка* 'будоўля' (Сцяшк.), *страе́нне* 'будынкі; хата з прыбудовамі' (Янк. 1, Жд. 3), якія, відаць, уяўляюць сучасныя запазычанні з рус. *стро́йка* і *строе́ние* 'тс', як і само значэнне 'будаваць' у дзеяслова.

**Строй$_1$** 'рад, шарэнга', 'лад', 'пабудова, структура' (ТСБМ), 'строй, парадак' (Байк. і Некр., Ян.), 'выгляд, стройнасць, фігура' (Варл.), 'лад, парадак; наведзенасць' (ТС), 'узор, малюнак' (Песні сямі вёсак), *строй* (на кросна) 'прыстасаванне для ткання' (Уладз., ТС), *строе́* 'ставы' (лельч., Нар. лекс.). Укр. *стрій* 'касцюм, адзенне', рус. *строй* 'строй; парадак', польск. *strój* 'строй; адзенне', чэш. *stroj* 'станок, машына', славац. *stroj* 'тс', серб.-харв. *стро̑ј* 'фарба; шчолак; вайсковы строй', славен. *strȏj* 'машына, лакаматыў', балг. *строй* 'рад, сістэма, лад', макед. *строј* 'будова', 'рад', 'сватаўство', ст.-слав. **строи** 'кіраванне; лад, парадак; фармацыя'. Прасл. *strojь роднаснае лат. *strãja* 'стойла, якое выслана саломай', авест. *urvarō-straya* 'абразанне расліны', лац. *struō* 'дапасоўваць, састаўляць, будаваць, ладзіць', *constrūctiō* 'структура, кампазіцыя', *stria* 'баразна, складка' (Фасмер, 3, 780; Глухак, 589). Далей этымалогія не вельмі ясная. Борысь (581) мяркуе, што слова роднаснае таксама слав. *strěxa 'страха' і *распасціраць* (гл. *распасцерціся*), да і.-е. кораня *(s)ter- 'распасцерці', адкуль таксама гоц. *straujan* 'сыпаць, рассыпаць', ням. *Streu* 'салома на падсцілку'. Бязлай (3, 332), Сной$_1$ (615), апрача гэтай версіі, дапускаюць магчымасць паходжання ад і.-е. *k'roi̯-o, роднаснага з *k'rei̯-on у авес. *srayan* 'прыгожы; прыгажосць', ст.-інд. *śrī-* 'прыгожасць' і г. д. з першасным значэннем прасл. *strojь 'парадак; прыгажосць', параўн. *стройны* (гл.).



**Строй$_2$** 'будоўля; драўніна для будоўлі' (Ян., Мат. Гом.). Рус. паўн. *строй* 'будаўнічы матэрыял'. Аддзеяслоўны дэрыват ад *строіць* (гл.) у адпаведным значэнні.

**Строй$_3$** 'убор' (Гарэц., Ласт., Байк. і Некр., Сцяц. Сл.). Гл. *строі*$_1$.

**Стро́йны** 'прыгожы і прапарцыянальна складзены, статны', 'роўна і правільна размешчаны', 'правільна і лагічна пабудаваны, паслядоўны' (ТСБМ), 'стройны; спраўны, прыгожы' (Сл. ПЗБ, Бяльк.), 'прыгожы, спрытны' (Бяльк.), 'даведзены да ладу' (ТС), 'кшталтны' (Варл.), *стро́йна* 'смачна, добра' (Жд. 3). Укр. *стрі́йний* 'прыгожа апрануты, убраны', рус. *стро́йный* 'стройны', польск. *strojny* 'прыгожы (аб адзенні)'. Да *строй* у розных значэннях.

**Строк$_1$** 'авадзень' (Маш., Дразд., Сцяц. Сл., Скарбы; кіраў., Нар. сл.), 'здрок, Gasterophilidae' (Федар. 4, Сцяшк. Сл.; брэсц., гродз., шчуч., ЛА, 1), *строк*, *стрэк* 'авадзень' (гродз., свісл., шчуч., баран., асіп., пін., гарад., Сл. ПЗБ; ЛА, 1), *страк*, *стрэк* 'страказа' (дзятл., шчуч., Сл. ПЗБ). Рус. *строка́*, *стрёк* 'авадзень, сляпень', ц.-слав. *стрѣкъ*, чэш. *streček*, славац. *streček*, н.-луж. *stśak*, в.-луж. *ćělčk*, серб.-харв. *штр̑к* 'тс', балг. *щръ́клица*. Прасл. *strěkъ (рэканструкцыя Махэка$_2$, 585). Вытворнае ад *strěkati, гл. *стрыка́ць*. Шустар-Шэўц (1367–1368) як праславянскае ўзнаўляе *strečьkъ. Арашонкава і інш. (Весці, 1969, 4, 129) бел. *строк* параўноўваюць з літ. *straglỹs//stràklys* 'страказа', *stràkas* 'бойкае дзіця', *strakùs* 'здольны высока падскочыць', *straksėti* 'падскокваць', што, магчыма, датычыць толькі значэння 'страказа', гл. Астрэйка, АКД, 8. Фасмер (там жа), прынамсі параўнанне з *strakùs* лічыць ненадзейным, а Махэк$_2$ (там жа) у якасці паралелі прыводзіць ням. *stechen* 'калоць' з *-k-* замест *g* і устаўкай *-r-*.

**Строк$_2$** 'тэрмін' (Бяльк., Пятк. 2, ТС; беласт., Сл. ПЗБ; Жд. 1, Ян.; в.-дзв., Шатал.). З рус. *срок* 'тс' з устаўным *т* (паходзіць ад *sъrekti 'дамовіцца', гл. *рэкнуць*).

**Строк$_3$** 'від шва' (Сл. рэг. лекс.), *стро́чка* 'шво' (Мат. Гом.). Узыходзіць да прасл. *strokъ 'укол, пракол', звязанага чаргаваннем з прасл. *strěkati 'калоць' (ЕСУМ, 5, 448). Адсюль *страчы́ць* 'шыць, вышываць суцэльным швом' (ТСБМ), 'шыць уручную' (мядз., Сл. ПЗБ). Параўн. *страка* (гл.).

**Стром** ‘спілаванае завіслае дрэва’, ‘схіл страхі’, ‘куча галля’ (ТС), ‘прыстасаванне для лазення на дрэва’ (ЛА, 1), ‘строп страхі’ (узд., ЛА, 5), *стро́ма* ‘дах’ (Шушк., Сл. Брэс.), ‘круты схіл, абрыў’ (ТСБМ, Гарэц.), *страмо́віна* ‘выварочанае з коранем дрэва’ (Нар. Гом.). Укр. дыял. *стром* ‘фруктовае дрэва’, ‘круча’, *стрім* ‘схіл; тое, што тырчыць угору’, рус. *стро́мы* ‘кроквы; поручні’, польск. дыял. *strom* ‘дрэва; фруктовае дрэва’ (відаць, з чэш., славац. – Борысь, 580), чэш., славац. *strom* ‘дрэва’, старое н.-луж. *strom* ‘дрэва’, старое серб. *стром*, харв. *strum* ‘ствол дрэва’, славен. *stȑòm* ‘тс’, ‘страха над загарадкай для авец’. Прасл. **stromъ* ‘тое, што ўзносіцца ўгару, стаіць вертыкальна’, адпрыметнікавы назоўнік ад прым. **stromъ* ‘стромкі, круты’ (Борысь, 580) ці паралельны да прыметніка аддзеяслоўны назоўнік ад **strьměti* ‘тырчаць, выдавацца’ (Борысь, Etymologie, 181); гл. яшчэ Фасмер, 3, 781 з аглядам літ-ры. Бязлай (3, 332) праславянскае слова лічыць першасным nomen agentis ад дзеяслова **strēmti* > прасл. **stręti*, **stręnǫ*, параўн. *застра́ць* ‘застрагнуць у праходзе, захраснуць’ (Нас.). Сюды ж *строме́ц* ‘козлы, якія прыціскаюць салому на вільчыку’ (ТС).

**Стро́мак** ‘вазок сена, які накладзены высока, але не раскладзіста’ (Нас., Байк. і Некр.). Гл. *астромак*.

**Стро́матыч** ‘проста на галаву (упасці)’ (бельск., КЭС), *страмо́тыч* ‘старчма, старчаком’ (Скарбы, Сцяц. Сл.). З *строма* (гл. наступнае слова) і *-тыч* < *тыкаць* (гл.).

**Стро́мкі** ‘круты, абрывісты’, ‘роўны, высокі, стройны’ (ТСБМ, Ласт.), ‘роўны і высокі’ (Нас., Байк. і Некр.), ‘абрывісты’ (Касп.), ‘тонкі, высокі, стройны’ (Бяльк., Нар. Гом.), ‘круты (аб страсе)’ (Варл., Сл. ПЗБ), *стро́мы* ‘вельмі круты; круты, стромкі’ (ТСБМ, Сцяшк., Сл. ПЗБ, ЛА, 2), *стро́мкі* ‘круты; высокі і тонкі’ (ТС), *стро́мка* ‘тонка і высока, стройна’ (Гарэц.), *стро́мкость* ‘крутізна’, *стромчы́на* ‘тс’ (ТС). Укр. *стрімкий* ‘круты, абрывісты’, *стро́мий* ‘тс’, рус. *стро́мкий* ‘высокі, круты’, ст.-рус. (XV ст.) *стромый* ‘тс’, польск. *stromy* ‘круты’ (з усх.-слав. моў – Борысь, 580). Прасл. дыял. **stromъ*, паводле Борыся (там жа), аддзеяслоўны дэрыват ад прасл. **strъměti* ‘тырчаць, выпінацца’; прыметнік *страмны́* ‘круты, абрывісты’ (воран., Сл. ПЗБ), разам з рус. *стрёмый*, *стрёмный* ‘хуткі’, чэш. *strmý* ‘круты’, славац. *strmý* ‘тс’, ‘інтэнсіўны, моцны, хуткі’, славен. *stŕm* ‘круты, абрывісты’, балг.



*стръ́мен* ‘тс’, макед. *стрм* ‘тс’, ст.-слав. **стрьмъ** ‘тс’, адлюстроўваюць прасл. **strьmъ*, **strьmenъ*, прыметнікі, што захоўваюць зыходны вакалізм дзеяслова **strьměti* (Борысь, Etymologie, 180; Глухак, 589; Варбат, Этимология–1994–1996, 39). Параўн. *стро́ма* ‘абрыў’, гл. *страміна́*. Звязана чаргаваннем галосных з *стрымгалоў* (гл.); гл. яшчэ Фасмер, 3, 781.

**Стро́нга** ‘прэснаводная рыба сямейства ласасёвых; фарэль’ (ТСБМ, Янк. БП), *стронг*, *стронк* ‘тс’ (гродз., маладз., навагр., шальч., Сл. ПЗБ), *стро́нга* ‘рыба Salmo trutta L.’ (Жукаў). З польск. *pstrąg* ‘тс’, што да **pьstrъ* ‘стракаты’; формы без пачатковага *п-* у выніку дээтымалагізацыі, гл. Усачова, Слав. ихт. терм., 63.

**Стро́ні** ‘для, дзеля’ (Кал.), *стро́нэ* ‘наконт, дзеля’ (Сл. Брэс.), *кстро́ні* ‘збоку’ (калінк., З нар. сл.). Паланізм, зыходнымі маглі быць формы *stronnie* ‘маючы інтэрас, пажытак’, *strony* ‘што тычыцца’, *ku stronie* ‘на карысць’, што да *strona* ‘бок; карысць, пункт гледжання’ (Варш. сл.). Параўн. *старана* (гл.).

**Стро́нціць** ‘пашкодзіць, звіхнуць’ (Сцяшк. Сл.), ‘пакалечыць’ (іўеў., шальч., воран., паст., Сл. ПЗБ), *стро́нціцца* ‘ўпасці’ (шальч., Сл. ПЗБ). З польск. *strącić* ‘збіць, зваліць, ўпіхнуць’.

**Строп**$_1$ ‘канат, трос’ (ТСБМ). Праз рус. *строп* ‘тс’ з гал. *strop*, н.-ням. *stropp* ‘тс’. Гл. Фасмер, 3, 782.

**Строп**$_2$ ‘стык бакоў страхі’ (ТСБМ, кіраў., Нар. сл.; Шушк.; барыс., Шн. 2), ‘страха’ (Байк. і Некр., Нас.), ‘столь’ (Нас., Жд. 3, Маш., Зеньк.), ‘верх страхі пад вільчыкам’ (Касп., Барад., ТС, ЛА, 5), ‘накладка на верхняй частцы саламянай страхі’ (Скарбы), ‘прастора паміж верхняй часткай страхі і верхняй часткай кроквы’ (Тарн.), *страпа́* ‘кроквы’ (паст., Сл. ПЗБ). Укр. *стріп* ‘страха; столь’, рус. пск., зах. *строп* ‘страха, гарышча, столь’, польск., чэш., славац. *strop*, славен. *stròp* ‘столь, кроквы, франтон’, балг. *строп* ‘гарышча, ярус’, ст.-слав. **стропъ** ‘страха; столь’. Прасл. **stropъ* (магчыма, з **sropъ*, з *-t-* устаўным, параўн. *востраў*, *струга*) параўноўваецца з ст.-ісл. *hróf* ‘страха; паветка’, англ.-сакс. *hróf*, англ. *roof*, ірл. *cro* ‘агароджа, перагародка, хлеў, хаціна’ (< **cropo-*) (гл. Траўтман, 309; Фасмер, 3, 781 з іншай літ-рай), якія да і.-е. **k’rā-po*; сюды ж з іншым суф. гоц. *hrot* (< **k’rā-do*) ‘страха’; гл. Борысь, 581; Сной$_1$, 616. Менш прымальным лічыцца параўнанне з лат. *straps* ‘выцягнуты, прамы’, нов.-в.-ням. *straff* ‘тугі’, літ. *stir̃pti*, *stirpstù* ‘падрастаць’ (гл. Мюленбах–Эндзелін, 3, 1081; Мла-

дэнаў, 613) або з грэч. ἐρέφω 'накрываю', ὀροφή 'страха' (Махэк$_2$, 583).

**Стро́пацць** 'ісці': *стропай тады адсюль* (Мат. Гом.). Магчыма, да *тропаць*, гл.

**Стро́піцца** 'спужацца, спалохацца' (ТС). Відаць, звязана з ст.-польск. *strzępać* 'баяцца', для якога Слаўскі (SOr, 18, 255) дапускае развіццё значэння ад 'быць нерухомым' да 'аслупянець (ад страху)'. Параўн. укр. *торопі́тися* 'пужацца, бянтэжыцца', рус. *оторопе́ть* 'збянтэжыцца, атарапець'. Тады *стропіцца* з **сторопіцца*, магчыма, пад уплывам *строп* (гл.) і моцнай рэдукцыяй другога *-о-*. Далей гл. *атарапець, торап*. Магчыма, звязана з *троп: збіцца з тропу* (гл.), а таксама літ. *strópti* 'цвярдзець' (аслупянець?). Гл. таксама *стрэпаць*.

**Стро́ўбель** 'вясёлка' (воран., Сл. ПЗБ). З літ. *straublỹs* 'тс' (Сл. ПЗБ, 4, 602).

**Стро́чка** 'стужка' (Бяльк., Ян., Мат. Гом.). Укр. *стрі́чка* 'тс'. Да *страка* (гл.); як мяркуюць аўтары ЕСУМ (5, 448), "паколатая" стужка.

**Струб** 'зруб' (Нас., Гарэц., Касп., ТС, Мат. Гом.), *істру́б* (Гарэц.). Гл. *іструб*.

**Струбі́ць** 'прагна з'есці, патраціць, змарнаваць' (ТСБМ), 'згубіць, знішчыць', *струбі́цца* 'згінуць, прапасці' (ТС), 'спаліць, знішчыць' (ПСл), *стру́біць* 'спаліць' (Мат. Гом.), *струбы́ты* 'падзець, згубіць' (Клім.), *стру́быты* экспр. 'знішчыць' (Сл. Брэс.). Відаць, экспрэсіўны дзеяслоў, вытворны ад *трубі́ць* (гл.) < *труба*; параўн. *трубі́ць* 'прагна есці і піць' (Нас.); не выключана другасная сувязь з рус. *истреби́ть* 'знішчыць'.

**Струг$_1$** 'інструмент для стругання' (ТСБМ, Нас., Ласт., Бяльк., ТС, Пятк. 1, Сл. Брэс.; дзятл., лід., шальч., в.-дзв., брасл., Сл. ПЗБ), 'бандарны нож' (Байк. і Некр.), 'скобля' (Сл. Брэс.), *стругá́ч* 'тс' (Стан.), ст.-бел. *стругъ* 'цяслярскі інструмент' (Ст.-бел. лексікон). Укр., рус. *струг*, ст.-рус. *стругъ*, ст.-польск. *strug*, чэш. *struh*, серб.-харв. *стру̑г*, славен. *strȗg*, балг., макед. *струг* 'такарны станок', макед. дыял. *struk* 'гэбель'. Прасл. **strugъ* 'від вострай прылады для згладжвання і канчатковага фармавання вырабаў з дрэва', суадноснае з **strъgati*, гл. *стругаць*. Паводле Трубачова (Ремесл. терм., 154–155), адносіны назоўніка і дзеяслова ўзыходзяць да больш старажытнага **streug-*:**strug-*, а пасля зняцця славяна-германскай інавацыі *sr* > *str* да і.-е. **sreug-*/**srug-*; звязана чаргаваннем галосных з *стругаць* (гл.) (Фасмер, 3, 782).

**Струг$_2$** 'драўлянае рачное судна' (ТСБМ), 'баржа' (Ласт., Байк. і Некр.), ст.-бел. *стругъ* 'вялікая лодка, карабель' (Ст.-бел. лексікон). Укр. *струг* 'тс', дыял. *стругá* 'від чоўна', рус. *струг*, *стру́га* 'від рачнога судна, лёгкая лодка з вострымі канцамі', польск. *strug, struga* 'плаunion судна'. Этымалагічна тое ж, што і *струг$_1$*; гл. Сабалеўскі, ЖМНП, 1886, верас., 155. Праабражэнскі (2, 402), Міклашыч (Lex. palaeosl., 891) прапаноўваюць вытворнасць ад і.-е. **sreu-* 'цячы' (гл. *струга, струя*), супраць чаго Фасмер (3, 782–783); гл. яшчэ ЕСУМ (5, 450), у якім рэканструюецца прасл. **strugъ*, **struga*.

**Стру́га$_1$** 'вельмі грузкая даліна, балоціна' (ТС), 'дрыгва' (Сцяшк. Сл., Жыв. сл.; бяроз., ст.-дар., Сл. ПЗБ; бялын., Нар. сл.; ЛА, 5), 'рукаў ракі' (ЭШ, рук.), 'затока' (бярэз., Сл. ПЗБ), *стругá* 'гразкае балота' (ст.-дар., Нар. сл.), 'месца на балоце, зверху зацягнутае травой' (люб., Бел. дыял.), 'ручай, струмень': *пот ліецца стругою* (беласт. Ніва, 1973, 23 верас.), 'самы шпаркі і глыбокі праток вады ў рацэ' (Ласт.), зах.-палес. *стру́га* 'мокрае месца, зарослае хмызняком' 'балоцістая мясціна' (Сл. Брэс.), 'невялікая рэчка' (Мат. Гом.), 'невялікае цячэнне на балоце', усх.-палес. *стру́жка* 'старое зарослае русла ракі' (Талстой, Геогр., 194–195), ст.-бел. *струга* 'струмень, ручай'. Укр *стру́га* 'ручай; струмень', паўн.-рус., наўг., курск. *стру́га* 'глыбокае месца, лужа, якая застаецца летам ад амаль перасохлай рэчкі', вялікалук. *истру́га* 'частка старога рэчышча', стараж.-рус. *струга* 'цячэнне', польск. *struga* 'струмень, цячэнне', в.-луж. *truha* 'ручай', н.-луж. *tšuga* 'тс', чэш. *strouha* 'жолаб, канава', славац. *struha* 'тс', славен. *strúga* 'русла, рукаў ракі', ст.-слав. **строуга** 'цячэнне, паток'. Прасл. **struga*, дэрыват з суф. *-ga* ад і.-е. кораня **sreu̯-* 'цячы'; *-t-* устаўное, звязана з *струя, востраў*, гл. Гл. Борысь, 582; Махэк$_2$, 583; Шустар-Шэўц, 1549; Міклашыч, 318. Генетычна роднасныя лат. *strāuga* 'нізкае месца, дзе можна правваліцца', *struga* 'балота', *strūga* 'струмень вады', *strūgla* 'тс'. Гл. яшчэ Фасмер, 3, 783 з літ-рай; ЕСУМ, 5, 450; Папоў, Из истории, 87 (беспадстаўна лічыць запазычаннем з польскай).

**Стру́га$_2$** 'венцер (з дубцоў)' (касцюк., ЛА, 1). Параўн. балг. радоп. *стро̂га* 'варотцы ў плоце або кашары', дыял. *стръга* 'цесны

праход у загоне, праз які праходзяць авечкі па адной', *престръга* 'шчыліна паміж пярэднімі зубамі', серб.-харв. *strȕga* 'тс'. Бярнар (Бълг. изсл., 324–326) выводзіць з прасл. **strǫga*. Сюды ж, магчыма, і рум. *strungă* 'цесны праход', далейшыя сувязі якіх няясныя.

**Стру́гавіца** 'панос, бягунка' (Арх. Федар.). Відаць, да *струга*$_1$ у значэнні 'паток, цячэнне', гл.

**Струга́ць** 'знімаць стружку', 'наразаць тонкія вузкія палоскі' (ТСБМ, Нас., Ласт., Байк. і Некр., Бяльк.; валож., Сл. ПЗБ), *струга́тэ* 'крышыць' (кам., Сл. ПЗБ), 'абіраць бульбу' (ТСБМ, Жд. 3), *стру́жыць* 'стругаць' (ТС), *стругану́ць* 'дзьмухнуць' (Мат. Гом., Янк. 3), *стру́ганы* 'абскрабаны (пра бульбу)' (узд., Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *струга́ти*, рус. *строга́ть*, *струга́ть*, *стружи́ть*, стараж.-рус. *стръгати*, *стругати*, польск. *strugać*, в.-луж. *truhać*, н.-луж. *tšugaś*, чэш. *strouhat* 'церці; стругаць', славац. *strúhat'*, серб.-харв. *стру́гати*, славен. *strǵati*, *strúgati*, балг. *стъ́ржа*, макед. *струга*, *струже*, ст.-слав. **стрѫгати**. Прасл. **strъgati*; форма **strugati* другасная, утвораная на аснове форм цяп. часу (Борысь, 582). Роднаснае лат. *strūgaîns* 'паласаты' (**strūga* 'паласа'), ст.-ісл. *striùka* 'гладзіць, сціраць', фрыз. *strôk* 'паласа'; гл. Фасмер, 3, 779 з літ-рай; Шустар-Шэўц, 1535. Да і.-е. кораня **streu̯g-* 'сціраць, гладзіць, апрацоўваць вострай прыладай' (Борысь, там жа; Бязлай, 3, 324; ЕСУМ, 5, 451 з аглядам версій).

**Стру́гвіна** 'ягада накшталт марошкі' (Нар. Гом.), *стругві́на* 'ажыны' (ТС). Параўн. укр. *стружи́на* 'марошка, Rubus chamaemorus L.', *стругві́на* 'ажыны', *острожина* 'тс', польск. *ostrężyna* 'тс', каш. *ostružene* 'тс', чэш., славац. *ostružina* 'тс', ст.-чэш. *stružina* 'тс', в.-луж. *wostružina* 'тс', серб.-харв. *о̀струга* 'тс', славен. *ostróga* 'тс', *ostrǒžnica* 'Rubus fruticosus'. Узводзяць да прасл. **ostrǫga*, вытворнага ад **ostrъ*, гл. *востры*, *астро́га* (Брукнер, 386; Махэк, Jména, 101; Бязлай, 2, 259; ЕСУМ, 5, 452).

**Стру́длі** 'пячэнне на мяду' (Вешт.). Праз польск. *strudel*, мн. л. *strudle* з ням. *Strudel* 'слаёны пірог', гл. Брукнер, 520; ЕСУМ, 5, 451.

**Стру́дні** 'ліштва' (Мат. Гом.). Няясна.

**Струк**$_1$ 'доўгі і вузкі плод з дзвюх палавінак з насеннем' (ТСБМ, ТС, Байк. і Некр., Варл., Сцяшк., Сл. ПЗБ), 'лядзяк' (рас., Шатал.), 'боб' (Байк. і Некр.), *струкí* 'лісце і сцяблы гароху' (ушац., ДАБМ, камент., 862), 'адходы пры прадзенні воўны' (свісл., Шатал.), 'пасма': *струк валосся* (Сержп. Прымхі), *стру́чча* зборн. 'струкі' (Мат. Гом., Жд. 2), 'гарох пасяўны' (гом., Кіс.). Укр. *струк*, рус. *стручо́к*, польск. *strąk*, в.-луж. *truk*, н.-луж. *tšuk*, чэш., славац. *struk*, серб.-харв. *стр̑ук* 'сцябліна з коранем', 'часнок, цыбуліна', славен. *strȍk* 'сцябліна; стручок', балг. *стрък* 'сцяблінка, галінка', макед. *страк* 'тс'. Прасл. **strokъ*; як мяркуе Борысь (580), з больш ранняга **stru-n-ko* з назалізацыяй ад і.-е. кораня **streu̯k-* 'быць цвёрдым'. Параўн. літ. *striùkas* 'кароткі, адламаны', лат. *strûkulus* 'сопель'. Аналагічна Сной$_1$, 616; Бязлай, 3, 332. Далейшыя параўнанні з літ. *strungas* 'кароткі, адламаны', с.-в.-ням. *strûch*, ням. *Strauch* 'куст' (Гараеў, 350; Шустар-Шэўц, 1537) Фасмер (3, 783) лічыць нездавальняючымі. Махэк$_2$ (583) з улікам семантыкі роднаснымі лічыць літ. *runkù*, *rùkti* 'моршчыцца, мяцца' (спелыя стручкі ссохлыя, зморшчаныя); праславянскую форму **strukъ* і **strǫkъ* ён выводзіць з **roukos*, адкуль з рухомым *s-* і ступенню *-o-* у карані **strukъ*. Гл. таксама Глухак (59): на падставе серб.-харв. *дво̀струк* 'падвойны' лічыць асноўным значэннем 'зморшчаны, сабраны ў складкі', што ўзыходзіць да і.-е. **sreu-* 'цячы' У карысць гэтага і значэнне 'завіткі, кучары', параўн. *валасы ў струкі пакачалісе* (Федар. 4).



**Струк**$_2$ 'франт' (Бяльк.), *хлопец, як струк* (касцюк., Ліцв.). Параўноўваюць з рус. *стрюк* 'дрэнны, агідны чалавек', якое лічыцца вытворным ад *бастрюк* (гл. *баструк*); гл. Сабалеўскі, РФВ, 66, 345; Праабражэнскі, 2, 405; Фасмер, 3, 785 (прыводзіць яшчэ рус. *стрю́цкие люди*, г. зн. 'нікчэмныя', *стрю́цкий*, *стрюцко́й* 'агідны, подлы чалавек'). Лаўчутэ (Балтизмы, 132) удакладняе лінгвагеаграфію і значэнне рускага слова: пск. *стрюк* 'цясляр; мянушка чалавека', ленінгр. 'абадранец, валацуга', арх., наўг., цвяр. *стрю́цкий* 'басяк, абадранец; той, хто носіць залішне вузкія штаны' – і мяркуе, што на фанетыку і семантыку рус. *стрюк* і роднасных паўплывала літ. *striùkas* 'кароткі', *striùkas* 'каратышка, няўдачнік', што, як здаецца, не мае падстаў, гл. Анікін, Опыт, 284. Хутчэй можна дапусціць развіццё семантыкі *струк*$_1$, падобнае да серб.-харв. *стр̑ук* 'стан, корпус, талія', што лічыцца інавацыяй (Скок, 3, 350).

**Струкава́ты** іран. 'кучаравы' (Янк. Мат., Сцяшк., Варл.), *струкаве́нь* 'тс' (Янк. Мат.). Да *струк*$_1$; да семантыкі параўн.

*стручны* (гл.), першаснае значэнне, відаць, з 'вялікай колькасцю валасоў', або 'з валасамі, скручанымі як струкі'. Але параўн. польск. *strąki na głowie* 'лохмы, космы'.

**Стру́мант** 'інструмент, начынне' (Сл. ПЗБ, Сцяшк.), *стру́мянт* 'тс' (Скарбы), *стру́мэнт* 'тс' (Сл. Брэс.), *стру́мент* 'тс' (Растарг.), *струмэ́нт* 'тс' (Байк. і Некр.), *струме́нт* 'тс' (Нас., Ян.), *струме́нціна* 'тс' (Касп., Нар. Гом.). Сюды ж *інстру́мант* 'тс' (Некр. і Байк.), гл. *інструмент*.

**Струме́ль** 'насякомае багамол' (Ласт.). Няясна.

**Струме́нь** 'вузкі паток, цурок' (ТСБМ, Байк. і Некр., Сцяшк.), 'рукаў ракі' (ТС), 'пахучая залоза (у бабра)' (Полымя, 1970, 2, 156). Укр. *стру́мінь, струмо́к* 'паток, ручай', рус. *стру́мень* 'ручай', польск. *strumień* 'ручай, паток', чэш. *strumen* 'крыніца, ставок', н.-луж. *tšumjeń* 'рэчка, ручай' *strumjeń* 'крыніца, канава', славен. *strûmen* 'паток; рукаў ракі'. Прасл. **strumy*, Р. скл. **strumene* дэрыват ад і.-е. кораня **sreu-* 'цячы' з суф. *-my* (Слаўскі, SP, 1, 125). Роднаснае літ. дыял. *straumuõ* 'паток, ручай', *sriaumė̃* 'тс', лат. *stràume* 'цячэнне', грэч. ῥεῦμα 'паток, струмень, цячэнне', ст.-ісл. *straumr* 'паток, рэчка', ст.-ірл. *srúaim* 'рака', гал. *stroom*, ст.-в.-ням. *stroum*, ням. *Strom* 'паток' і, далей, ст.-інд. *srávati* 'цячэ'. Гл. Фасмер, 3, 783–784 з літ-рай; Махэк$_2$, 583; Борысь, 582; Бязлай, 3, 335; Шустар-Шэўц, 1549–1550; Глухак, 590. Параўн. *струя* (гл.).

***Струмкава́ты**, *струмкова́тый* 'няроўны, вузлаваты' (Сл. Брэс.), *струмковаты* 'тс' (Уладз.). З *струпковатый* (гл. *струпаваты*) з менай *п* > *м* або, што больш дакладна фанетычна, з **страмкаваты* < *стромкі* (гл.), магчыма, з першасным значэннем 'той, які крута, туга спрадзены'.

**Струна́** 'туга нацягнуты адрэзак дроту, жылы ў музычных інструментах' (ТСБМ, Байк. і Некр., Бяльк.), 'хорда' (Байк. і Некр.), 'пругкая вяроўка і пад. у розных прыстасаваннях, цеціва' (ТСБМ, Ласт.), *стру́ны* 'доўгія вяроўкі, якімі ўвязваюць калоду на санях і падсанках' (ТС), сюды ж *стру́нкі* 'стройны', *струніць* 'вучыць, настаўляць' (Сцяшк. Сл.). Параўн. укр., рус. *струна́*, стараж.-рус. *струна* 'волас, струна', польск. *struna*, в.-луж. *truna* 'цеціва', н.-луж. *tšuna* 'жыла', чэш., славац. *struna* 'струна', серб.-харв. *стру̏на* 'конскі волас; струна', славен. *strúna* 'тс', балг. *струна́* 'струна; доўгі волас з конскага хваста або грывы', макед. *струна* 'струна; конскі волас', ст.-слав. **стрѹна** 'жыла, струна'. Прасл. **struna*, дэрыват ад і.-е. кораня **streu̯-* < **ster-* 'паласа, пруг, пасма, прамень' з суф. *-na*; гл. Слаўскі, SP, 1, 116; Борысь, 582. Роднасныя ст.-в.-ням. *stroum*, *strōm* 'канат', с.-в.-ням. *strieme* 'паласа, рубец', далей, лац. *struō*, *struere* 'накладваць, будаваць' (Младэнаў, 613; Фасмер, 3, 784 з іншай літ-рай). Борысь (тамсама) параўноўвае яшчэ з літ. *struniti* 'будаваць, ставіць' і, звяртаючы ўвагу на семантыку слова ў паўднёваславянскіх мовах, мяркуе, што значэнне 'струна ў музычным інструменце' другаснае, яно было перанесена з дэсігната 'жыла, волас (жывёліны)' і да т. п. Гл. яшчэ Махэк$_2$, 583 (параўноўвае з авест. *snāvar* 'нерв', ст.-інд. *snā-van* 'цеціва' і дапускае развіццё **sno-ver* > **sroven-* > **srouna* > **struna*); Сной$_1$, 616 (параўноўвае з укр. *посторо́нок*, чэш. *postranek* 'вяроўка для запрагання', якія да і.-е. кораня **ster-*, **stre-* 'прамень'); ЕСУМ, 5, 452–453.



**Стру́нкі** мн. л. 'страты' (Сцяш. Сл.); параўн. *стро́нціць* (гл.) 'пакалечыць', *стро́нціцца* 'ўпасці', якія з польск. *strącić* (іўеў., шальч., паст., Сл. ПЗБ, 4, 602). Параўн. *струт*, гл.

**Струп$_1$** 'корка на ране' (ТСБМ, Ласт., Гарэц., Байк. і Некр., Сержп., Федар. 4, Сл. ПЗБ), 'прышч' (Сл. ПЗБ), *стру́піна* 'засохлы струп' (Нас.), зборн. *стру́п'я*, *стру́п'е* 'адходы пры прадзенні кудзелі' (Нас., Сл. ПЗБ; мёрск., Шатал.); сюды ж *стру́пля* 'праказа' (Ласт.). Параўн. укр., рус. *струп*, стараж.-рус. *струпъ* 'рана; труп', польск. *strup* 'струп', *strupy* 'воспа; перхаць' в.-луж. *trup*, н.-луж. *tšup*, чэш., славац. *strup*, серб.-харв. *стру̑п* 'парша', славен. *strup* 'яд', балг. *струп* 'струп', макед. *струп* 'кароста', ст.-слав. **стрѹпъ** 'рана, болька'. Прасл. **strupъ* 'струп' параўноўваецца з ст.-в.-ням. *strûben* 'падымацца, стаяць строма, уздымаць, тырчэць', с.-в.-ням. *strûben*, с.-н.-ням. *strûf* 'шурпаты, грубы', ст.-сакс. *strûf* 'узлахмачаны', грэч. στρυφνός 'цвёрды, мулкі, моцны' (гл. Фасмер, 3, 784; там жа і літ-ра), якія ўзыходзяць да і.-е. кораня **streup-/*streub-* < **ster-* 'мулкі, цвёрды' (Борысь, 583). На іншую думку, звязана чаргаваннем галосных з ц.-слав. *стръпътъ* 'шурпатасць, мулкасць' і зближана да грэч. ῥύπον 'бруд, нечыстота' (Сольмсен, KZ, 37, 600; Покарны, 1004; Бязлай, 335–336). Махэк$_2$ (584) славянскае слова параўноўвае з літ. *raũpas* 'воспа', *raũpsas* 'праказа', лат. *raupa* 'гусіная скура' і польск. *rupić się* 'скрабці' і мяркуе аб

рухомым *-s-* і устаўным *-t-* у славянскіх формах. Гэтую этымалогію лічыць найбольш прымальнай Мяркулава (Этимология–1970, 189 і наст.). Менш верагодныя роднасць з ст.-ісл. *hriúfr* 'грубы, няроўны; пракажоны', *hrufa* 'парша', ст.-в.-ням. *hruf* 'тс', як мяркуе Уленбек (гл. Фасмер, там жа). Гл. яшчэ ЕСУМ, 5, 454.

**Струп$_2$** (*strüp*) 'верхняя частка даху' (Тарн.), *струпóк* 'верх, вяршыня' (Сл. Брэс., Клім.). Да *строп* (гл.) з палескім пераходам *о > у* ў закрытых складах. Сюды ж, відаць, і *струп* у фразеалагізме: *пад адзін струп* 'адно пад адным (дзеці з малою розніцаю ў гадах)' (Янк. БФ., 292).

**Струп$_3$** 'ніжняя частка снапа' (жытк., Выг.). Няясна.

**Струпавáты** 'у струпах, пакрыты струпамі' (ТСБМ), *струповáты, струпчáсты* 'ў глыбокіх трэшчынах' (ТС), *струповáтый* 'няроўны, вузлаваты (палатно, ніткі)' (Сл. Брэс., Уладз.), *струплíва* 'няроўная, недастаткова вымешаная (пра гліну)' (Вярэн.). Да *струп$_1$* (гл.). Параўн. укр. *струпкúй* 'аб дарозе – пакрыты замерзлай граззю', *струпувáтий* 'струпаваты (аб дарозе)', 'шурпаты, у калдобінах'.

**Струпéхнуць** 'згніць' (Нас., Гарэц., Байк. і Некр., Касп., Бяльк., Барад.), *стрýпяшаць* 'тс' (Скарбы). Гл. *трупехнуць*.

**Струпці** 'раскладка снапоў для малацьбы' (пін., ДАБМ, камент., 872). Форма адз. л., відаць, **струпец*. Магчыма, да *струп$_1$*, але семантыка няясная.

**Струсíць** 'стрэсці', *струснýць* 'страсянуць' (ТС), сюды ж *струхнýцца* 'страсянуцца' (Нар. Гом.). Да *трусíць*, гл.

**Струсь** 'страус' (Ласт.), ст.-бел. *струсъ, струць* 'тс'. Гл. *страус*.

**Струт**: *але дух народу струт* (А. Абуховіч). Значэнне няпэўнае; Пацюпа (Наша слова, 1995, 29 лістап.) узнаўляе як 'параза', спасылаючыся на ст.-бел. *струтъ*, якое Зізаній (79) тлумачыць "збурене мѣста албо люду побитье". Няясна. Пацюпа (там жа) выводзіць з *трут* (гл.), параўноўваючы з літ. *treñkti* 'грымнуць, ударыць'. Параўн. таксама ўкр. дыял. *струт* 'выгоднае, зручнае месца', якое спрабуюць звязаць з старым польск. *stręt* 'перашкода' (ЕСУМ, 5, 455). Фармальна адпавядае польск. *strącic* 'збіць, скінуць' (гл. *стронціць*), якое лічаць роднасным названаму літоўскаму слову (польск. *trącic* 'штурхаць; чэш. *trútiti* 'тс', гл. Брукнер, 575; Махэк$_2$, 655)'.

**Струткí** 'пласт з трубачак пад мякаццю грыбной шапачкі' (Ласт., Сярж.–Яшк.), *струтчакí* 'трубчастыя грыбы' (там жа). Да *трут*, гл.



**Струх** 'нешта струпехлае' (Барад.), *стрýхнуць, струхнéць* 'збуцвець, спарахнець' (ТС). Гл. *трухнуць, трухлы* (гл.).

**Стрýчны** 'дзе шмат струкоў' (Варл.; ашм., Стан.), 'з мноствам ягад' (бяроз., Шатал.; Сл. Брэс.), 'кусцісты, шматклубневы (напр., цыбуля)' (пух., З нар. сл.), *стручáны* 'з мноствам струкоў' (талач., Шатал.), *стручысты* 'тс' (мядз., Нар. сл.). Да *струк$_1$* (гл.).

**Стручóк** 'пеніс у хлопчыка': *каля карчоў рачок і ўхопіцца за стручок* (Барадулін, Дуліны ад Барадуліна, 2004, 176). Укр. аргат. *стручóк* 'тс'. Відаць, да *струк$_1$* (гл.).

**Стрýшанка** 'сена і салома, змешаныя разам' (Нас., Янк. 2; віл., лаг., Сл. ПЗБ; Юрч.), *струшáнка* 'тс' (Бяльк.), *стрýшынка* 'тс' (чавус., Нар. сл.), *стрýшанка, трýшанка* 'тс' (Мат. Маг.). Параўн. *струшваць* 'страсаць' (Др.-Падб.) < *трусіць*, адсюль **струшаны*, ад якога ўтвораны дэрываты з суф. *-к-*. Параўн. *трусіць, трасянка*, гл.

**Стрýшня** 'страва з розных агародных карэнняў' (Нас.), 'сумесь двух або трох частак сена з саломай' (бых., Яшк. Мясц.); сюды ж, відаць, і 'закалот, неразбярыха' (Арх. Федар., Стан.), *стрýшні* 'руіны' (Ласт.). Аналагічна да папярэдняга слова, гл. Да семантыкі параўн. рус. *стрýшня* 'турботы, трывогі, калатнеча', *струшúться* 'трывожыцца, мітусіцца, клапаціцца', якія Куркіна (Этимология–1994–1996, 49–50) зближае з *струхнýть* 'збаяцца' (< **trux-*), суадносным з *стрýшня* 'трывога' (Ласт.).

**Струя́** 'струмень' (ТС, Сцяшк.), *струй* 'тс' (ТС), 'рэчышча' (Сл. ПЗБ). Укр. *стрýя, струя́* 'тс', рус. *струя́* 'тс', старaж.-рус. *струя*, серб.-харв. *стрȳја*, славен. *strúja* 'рукаў ракі, канал, цячэнне, струмень', балг. *струя́*, макед. *струја* 'струмень', ст.-слав. **строуꙗ** 'цячэнне, паток'. Прасл. **strujа* з'яўляецца дэрыватам ад і.-е. кораня **sreu̯-* 'цячы' з суф. *-ja* (Слаўскі, SP, 1, 82) і ўстаўным *-t-*; параўн. *струга, струмень, востраў* (гл.). Бліжэйшыя адпаведнікі ў літ. *sraujà* 'цячэнне', *sraũjas* 'хуткі', лат. *stràuja* 'імклівы', ст.-в.-ням. *Stroua, Streua*, нова.-в.-ням. *Streu* 'прыток Заале'. Гл. Фасмер, 3, 785 з літ-рай; Бязлай, 3, 335; Скок, 3, 349–350; Глухак, 590; ЕСУМ, 5, 455.

**Стры́балкі** 'тонкія ногі' (стаўб., З нар. сл.). Параўн. рус. дан. *стрúбалка* 'гульня, вяровачка для скакання'. Вытворнае ад *стрыбáць* 'скакаць', гл. наступнае слова.

**Стрыба́ць** ‘скакаць’ (Ласт.), *стрыбуля́ць* ‘ісці падскокваючы’ (хойн., Шатал.); сюды ж *стрыбо́к* ‘скок, скачок’, *стры́баўка, стры́бля* ‘страказа’ (Ласт.), *стрыбутне́йшы* ‘здаравейшы, мацнейшы’ (Ян.). Параўн. укр. *стриба́ти* ‘скакаць’, *стрибо́к* ‘скачок’. Прасл. дыял. **stribati* ‘скакаць’, роднаснае літ. *stribuliúoti* ‘падскокваць, скакаць’ (ЕСУМ, 5, 439), якое Лаўчутэ (Балтизмы, 132) лічыць крыніцай запазычання аднаго з дзеясловаў. Параўн. таксама літ. *stripuliúoti, strãpaliuoti* ‘тс’, звязаныя з *strapulnė́ti* ‘стукаць нагамі’ (Куркіна, Этимология–1974, 52), што дазваляе ў аснове названых слоў бачыць гукаперайманне, параўн. *стропаць, тро́паць* ‘стукаць нагамі’ (гл.), *дры́паць* ‘часта пераступаць нагамі’ (Скарбы) і інш.

**Стрыбо́г** ‘уладар зямных і нябесных вод (атаясамліваўся з Міколам Вясеннім або Лысым)’ (Жлоба, Народная педагогика Полесья: по материалам этнографических исследований, Брест, 2002, 182–183), стараж.-рус. *Стрибогъ* ‘бог вятроў’, параўн. *вѣтри, Стрибожи внуци* ў “Слове пра паход Ігаравы”. Лічыцца запазычаннем з ст.-іран. **Srībaɣa*; паводле Мартынава (Этнагенез, 6–7), ‘добры бог’, супрацьпастаўлены **Dužbaɣa* ‘злы бог’, суадносным з стараж.-рус. *Дажьбогъ* (< прасл. **dъžbogъ*). Гл. таксама Фасмер, 3, 777 (з аглядам версій і літ-ры). Трубачоў (Этногенез$_2$, 197–198) лічыць прасл. **stribogъ* і **da(djь)bogъ* культурнымі інавацыямі славян, а не індаеўрапейскімі архаізмамі, першае з якіх уяўляе кампазіт з імператыўнай формай дзеяслова **sterti* ‘распаўсюджваць, распасціраць’ у спалучэнні з іменем **bogъ* ‘бог’; гл. яшчэ Праабражэнскі, 2, 398; Якабсон, IJSLP, 1959, 1–2, 272; Тапароў, СБЯ, 1983, 120; Жураўлёў, Язык и миф, 171–172. Сувязь з *стрыбаць* (гл.) і ням. *streben* ‘прагнуць, імкнуцца’ (Брукнер, KZ, 50, 195) малаверагодная, паколькі гэта быў бы просты аддзеяслоўны дэрыват, параўн. *стрыбок* ‘скачок’. Гл. яшчэ Зайкоўскі, Бел. міф.$_2$, 492–493; ЕСУМ, 5, 439–440.

**Стрыві́ць** ‘азярэдзіць’ (бялын., Нар. сл.), *стрыўё* ‘старадаўні від азяроду, у якім папярочныя жэрдкі клаліся на елкі з часткова абрубленымі сукамі’ (там жа). Да *астрова* (гл.) з адпадзеннем пачатковага *а-*, характэрным для гаворак Магілёўшчыны.

**Стрыга** *(striha)* ‘страшыдла, ведзьма; чараўніца’ (Кольб., Доўн.-Зап. 2), ‘персанаж у гульні’, *стры́га-мары́га* ‘тс’ (КСТ). Відаць, сюды ж дзіцячая дражнілка *стры́га* ‘коратка пастрыжаны хлопец або дзяўчына’ (ТС), *стры́жка* ‘тс’ (Бяльк.), *стры́жачка* ‘кароткавалосая дзяўчына’ (Ян.), а таксама *стры́жка, стры́шка* ‘страказа’ (навагр., Нар. сл.); *дзяцей палохаюць стрышкай, кажуць: “Хавайся, а то стрышка апстрыжэ”* (Жд. 1). Параўн. укр. *стри́ганец, стрижо́к* ‘саранча, Locusta L.’, польск. *strzyga* ‘міфічны персанаж; чараўніца’, ‘здань у абліччы жанчыны’, *strzygoń* ‘вупыр’, чэш., славац. *stríga* ‘чараўніца, ведзьма’, ‘начны матыль’, серб.-харв. *штри̏га* ‘ведзьма’, ‘начны матыль’ (HJ, н. с., 4, 9–10), ‘груба абстрыжаны ножніцамі’, харв. дыял. *striga, štrȉga* ‘сараканожка’, славен. *striga* ‘тс’. Лічыцца запазычаннем з с.-лац. *striga* ‘ведзьма’, што паходзіць з лац. *strix, strigis* ‘сава’, таму што чараўніца паказвалася ў абліччы савы і высмоктвала дзіцячую кроў (Брукнер, 523). Борысь (584) мяркуе, што крыніцай запазычання магла быць і адпаведная раманская форма, напрыклад, венец. *striga*. Паводле Махэка$_2$ (582), слова трапіла да славян з румынскай з валахамі-пастухамі. Несумненны ўплыў дзеяслова **strigti* (гл. *стрыгчы*), а таксама ўяўленняў пра насякомых як пераўвасабленняў злых істот, параўн. Важны, O jménech, 89; Басай–Сяткоўскі, Słownik, 346; Гура, Слав. др., 3, 370–371. Магчыма, звязана з дзеясловамі з коранем **strig-*, што абазначаюць хуткія і рэзкія рухі, гл. *стрыгнуць*.

**Стрыганёнак** ‘сваяк’ (Мат. Маг.). З **стрыянёнак* < *стрый* (гл.) з частай менай *й* ↔ *г* у гаворках.

**Стрыгма́ч** экспр. ‘асоба з неахайнай прычоскай’ (Жд. 3), ‘неахайна (пад “барана”) пастрыжаны’ (Янк. 2). Да *стрыгчы* (гл.), аднак словаўтварэнне няяснае (ад **стрыгма стрыгчы*, інтэнсіў як *бегма бегчы*?).

**Стры́гнуць** ‘торгнуць’ (ТС), *стрыгну́ць* ‘пайсці’ (Шымк. Собр.), *стрыгну́ць, стрыгану́ць* ‘уцячы’, ‘упікнуць’ (Нас.), *стрыгану́ць* ‘сказаць грубасць рэзка’ (Бяльк.), ‘укалоць намёкам’ (Байк. і Некр.), *стрыга́ць* ‘упікаць’ (Нас., Жд. 2), *стры́гаць* ‘наразаць; часта бегаць’ (Нас.), ‘паводзіць вушамі, прыслухоўвацца’ (полац., Жыв. св.); сюды ж, відаць, *стрыжкі́* ‘тонкія папрокі, зласлівыя напамінкі’ (Нас.), *стру́жыць* ‘стрыгчы вушамі (пра каня)’ (ТС). Параўн. укр. *стригну́ти* ‘скокнуць’, якое разглядаецца як вынік кантамінацыі *стри́бну́ти* (гл. *стрыбаць*) і *плигну́ти* ‘тс’ (ЕСУМ, 5, 440), што на фоне беларускіх фактаў не пераконвае; славен. *strigati, strígniti* ‘стрыгчы’, што разглядаюцца як вытворныя ад *strížiti* ‘тс’

(Сной у Бязлай, 3, 329), а таксама славен. *striči z ušesi* 'паводзіць вушамі', серб.-харв. *стри̏чи* ушима, чэш. *stříhati ušima*, польск. *strzyć uszami* 'тс', у аснове якіх, відаць, ляжыць імітатыў, што абазначае рэзкі рух, параўн. *стрыкаць* (гл.). Сюды ж таксама *стрыгма́нка* 'быстрая, шустрая, ухвацістая дзяўчына або жанчына' (Барад.). Гл. *стрыгчы*.

**Стрыго́р** 'шво, калі зверху нітка кладзецца каля ніткі, а ўнізе ўдвая' (Варл.). Няясна.

**Стры́гчы** 'зразаць, падрэзваць ножніцамі, машынкай (валасы, шэрсць і пад.)' (ТСБМ, Байк. і Некр., Шат.; ашм., Стан.; Сцяшк., Бяльк.), *стрыгчы́* 'тс' (Ласт.), *стры́хчы, стры́кчы, стры́хці* 'тс', 'рэзаць ножніцамі; кроіць' (Сл. ПЗБ), *стры́гці* 'тс' (Сержп. Прымхі), *стрыгці́* 'тс' (ТС), ст.-бел. *с*ᵗ*рычи* 'тс' (XVI ст., Карскі, 2–3, 277); сюды ж *стры́гчы вуша́мі* 'паводзіць вушамі, прыслухоўвацца' (ТСБМ), *стры́гці вуша́мі* 'тс' (Сержп. Прымхі, ЛА, 1). Укр. *стри́гти*, рус. *стричь*, стараж.-рус. *стричи*, польск. *strzyc*, в.-луж. *třihać*, н.-луж. *stśigaś*, чэш. *stříhati*, славац. *strihat'*, серб.-харв. *стри̏ħи*, славен. *stříci*, балг. *стригá*, макед. *стриже* 'тс', ст.-слав. стрищти. Прасл. **strigti* звязана чаргаваннем галосных з рус.-ц.-слав. *стрѣгъ* 'стрыжка', *стрѣжьць* 'той, хто стрыжэ', суадноснымі з с.-в.-ням. *streich* 'удар, замах' і роднаснае ст.-прус. *strigli* 'чартапалох', ст.-в.-ням. *strîhhan* 'гладзіць, церці', гоц. *striks* 'паласа', ст.-англ. *strican* 'мазаць; праводзіць', лац. *stringere* 'дакранацца; здзіраць', *strigilis* 'скрабок' (гл. Траўтман, 289; Мікала, Ursl. Gr., 3, 77; Фасмер, 3, 778), што ўзыходзіць да і.-е. **streig-* 'удараць', з далейшай спецыялізацыяй 'апрацоўваць вострай прыладай' (Бязлай, 3, 329; Борысь, 584). Махэк₂ (588) параўноўвае з літ. *riẽkti, riekaũ* 'рэзаць', *riekẽ* 'луста хлеба', дапускаючы рухомае *s-*. Гл. яшчэ Шустар-Шэўц, 1546; ЕСУМ, 5, 440. Параўн. *стругаць*. Сюды ж *стры́жава* 'воўна, састрыжаная з авечкі (авечак) за адзін раз' (Сл. ПЗБ), *стрыгу́н, стрыгуно́к* 'аднагадовае жарабя, якому звычайна падстрыгаюць грыву' (ТСБМ, Касп., Бяльк., ЛА, 1), 'конь ва ўзросце двух год' (Ян.; віц., Жыв. НС). Гл. таксама *стрыгнуць*.

**Стрые́чны** 'які знаходзіцца ў сваяцтве па дзеду ці бабцы з дзецьмі іх сыноў або дачок; дваюрадны' (ТСБМ, Нас., Байк. і Некр., Шат., Сцяшк., Янк. Мат., Пан., Сл. ПЗБ), 'траюрадны' (швянч., Сл. ПЗБ), *стрэ́чны* 'дваюрадны' (Скарбы, Чуд.), *стрі́ечный* 'дзядзькаў сын, дачка' (Бяльк.), *стрые́шный* 'тс' (Нас.), *стрые́чная* 'жонка дваюраднага брата' (Яруш.), *стрые́чка* 'дваюрадная сястра' (Нас., Байк. і Некр.). Ад *стрый* (гл.), параўн. ст.-бел. *стрыеве* 'дваюрадныя па лініі маці' (Ст.-бел. лексікон). Гл. Шаўр, Etymologie, 36.



**Стрыж** 'птушка з доўгімі вострымі крыламі, Apus apus L.' (ТСБМ, Бяльк.; Сл. ПЗБ, Жыв. св.; стол., Нік., салігор., Антропаў, Назв. птиц, 365), 'птушка Hirundo riparia' (Шымк. Собр.), 'птушка Cypselus apus, грун, свіргуль' (Ласт., Некр. і Байк.), *стрыг* 'тс' (Мат. Гом.), *стріж* 'ластаўка берагавая, берагулька' (калінк., хойн., браг., Нікан.; ЛА, 1). Параўн. укр. *стриж*, дыял. *стріж* 'стрыж; казадой', рус. *стриж*, дыял. *стриг* 'стрыж', ц.-слав. *стрижь* 'каралёк', польск. *strzyżyk*, дыял. *strziż* 'валавока', н.-луж. *stšěž* 'тс', чэш. *střízlik*, дыял. *stříž* 'тс', славац. *striežik* 'тс' *stríž* 'ластаўка берагавая', харв. старое *strìž* 'птушка Hirundo agrestis', серб.-харв. *стри̏јеж* 'валавока', славен. *stržek, strėžik* 'валавока'. Прасл. **strěžь* і **strižь*, гукапераймальнае па паходжанні, як грэч. στρίγξ 'нейкая начная птушка', лац. *strīx*, Р. скл. *strigis* 'вушастая сава'; гл. Булахоўскі, ИОРЯ, 7, 119; Праабражэнскі, 2, 398; Фасмер, 3, 778; Шустар-Шэўц, 1368; ЕСУМ, 5, 441. Паводле Булахоўскага (там жа), форма **strižь* узнікла пад уплывам **čižь* (гл. *чыж*), супраць Фасмер (там жа). Борысь (585) грэчаскае і лацінскае словы лічыць роднаснымі славянскаму слову і ўзводзіць іх да і.-е. анамапаэтычнай асновы **(s)treig-* 'пішчэць, шчабятаць'. Непераканаўча Махэк₂ (589) аб роднасці з лац. *requlus* 'каралёк'.

**Стры́жань** 'асяродак, сарцавіна расліны', 'згустак гною ў нарыве', 'вось або апора чаго-небудзь', 'сярэдзіна ракі, быстрыня' (ТСБМ, Варл.), 'асяродак нарыва', 'сарцавіна смалістага дрэва або смалісты сук' (Нас., Байк. і Некр.), 'сарцавіна', 'шчыльная драўніна', 'палена', 'асяродак (у морквы)', 'адросткі пяра пасля лінькі птушак', 'згустак малака' (Сл. ПЗБ), 'стрыжань дрэва', 'асяродак скулы', 'быстрыня; незамерзлае месца ў рацэ' (Бяльк., Сцяшк.), 'асяродак у хвоі', 'бруд, гной у нарыве' (Янк. 1, Сл. Брэс.), 'самае глыбокае месца ў возеры, рацэ', 'згустак гною ў нарыве' (Растарг.), 'стрыжань скулы' (кіраў., нараўл., Шатал.; Юрч. Вытв.), 'стрыжань дрэва, нарыва' (ТС, Шымк. Собр., Касп.), *стры́жэнь* 'моцны струмень у цячэнні ракі' (ТС), 'агрэх' (ПСл), *стрыжэ́нь* 'галоўны корань дрэва' (Сцяшк.), *стрыжі́нь* 'смалістае

дрэва' (кам., Ск. нар. мовы), *стрыжóнак* 'стрыжань (дрэва, нарыва)' (Мат. Гом.), *стрыжэ́ністый* 'з тонкім слоем абалоні (пра дровы)' (Сл. Брэс.; лун., Шатал.). Параўн. укр. *стри́жень* 'стрыжань (дрэва, скулы, ракі)', рус. *стéржень* 'тс', 'стрыжань у механізмах', *стрéжень* 'быстрыня ў рацэ', рус.-ц.-слав. *стрьжень* 'сарцавіна', ц.-слав. *стържьнь* 'тс', польск. *rdzeń*, *zdrżeń*, чэш. *stržeň* 'стрыжань нарыва', славац. *stržeň* 'сарцавіна дрэва; мядовы сот', серб.-харв. *стр̏ж* 'сарцавіна', харв. старое *stržen* 'тс', славен. *stržên* 'стрыжань дрэва, нарыва, ракі', макед. *срж* 'касцявы мозг; сарцавіна'. Прасл. *strьženь або *strьžьnь (рэканструкцыя Фасмера, 3, 757–758), роднаснае ст.-прус. *strigeno* 'мозг', далей, швед. *streke* 'стрыжань цячэння' (*strikan-); гл. Траўтман, 290; Мее, Études, 432. Фасмер (там жа) першасным значэннем слова лічыць 'сарцавіна'. Бязлай (Eseji, 138) фармальныя адрозненні тыпу рус. *стержень* 'асяродак' і *стрежень* 'быстрыня' лічыць неістотнымі, паколькі яны ўзаемазамяняльныя і адлюстроўваюць старыя (мажліва, яшчэ даславянскія) адрозненні ў даўжыні. Сной (у Бязлай, 3, 336–337) рэканструюе прасл. *strъžę, Р. скл. *strъžene, В. скл. *strъženь 'сярэдзіна рачнога патока', якое, на яго думку, узыходзіць да прасл.*strigti 'стрыгчы', з семантычным развіццём 'нешта адрэзанае' > 'стужка, паласа' > 'рачны паток'. Значэнні 'стрыжань дрэва, нарыва' ён тлумачыць як метанімічны перанос 'сярэдзіна рачнога патока' > 'сярэдзіна ствала дрэва, нарыва і да т. п.'. Гл. яшчэ Сной$_1$, 617; ЕСУМ, 5, 441 (разглядаюцца як амонімы *стрижень*$_{1,2}$ 'асяродак', 'быстрыня ў рацэ').

**Стры́жка** 'страказа' (Жд. 1, ЛА, 1). Гл. *стрыга*.

**Стрый** 'дзядзька па бацьку' (Нас., Байк. і Некр.; іўеў., Сл. ПЗБ; Бес., Янк. БП), *стры́ек* 'брат бацькі' (Скарбы), *стрыёк* 'тс' (Нас.), *стрыéчка* 'дочка дзядзькі', ст.-бел. *стрий*, *стрый* 'тс' (Ст.-бел. лексікон), *стрыеве* 'дваюрадныя па лініі маці' (там жа). Параўн. укр. дыял. *стрий* 'дзядзька па бацьку', рус. дыял. *строй* 'дзядзька па бацьку; калека, жабрак', стараж.-рус. *стрыи*, *стръи*, *строи* 'брат бацькі', польск. *stryj*, каш. *strij*, в.-луж. *tryk*, чэш., славац. *strýc* 'стрый; наогул стары чалавек', славен. *stríc* 'брат бацькі або маткі', серб.-харв. *strȋc*, балг. дыял. *стри́ко*, макед. дыял. *стрико* 'стрый, дзядзька, дарослы мужчына', ст.-слав. **стрыи** 'тс'. Прасл. *stryjь, *strъjь 'стрый'. Этымалагічныя версіі розныя. Паводле Мікалы (Ursl. Gr., 65), славянскае слова набліжаецца да



лац. *patruus* 'стрый', ст.-інд. *pitr̥vyas*, авест. *tūirya-*, ст.-в.-ням. *fetiro/fatirro* 'тс', ням. *Vetter* 'пляменнік' і ўзнікла, відаць, на аснове і.-е. *pətru̯i̯o- 'бацькоўскі', прыметніка ад і.-е. *pəter- 'бацька' (параўн. лац. *pater* 'тс'), з больш ранняга *ptruio- 'кроўны, брат бацькі' са зямненнем групы *ptr* > *str, або, як мяркуе Трубачоў (История терм., 79–81), з улікам авестыйскай формы з *ttr* > *str*. Доўгае *-у-* у корані развілося з напружанага *ъ* перад *і*. Гэтую версію падтрымліваюць Мее, Études, 393; Лер-Сплавінскі, JP, 24, 44; Махэк$_2$, 584. На іншую думку, слав. *stryjь роднаснае літ. *strūjus 'дзед', ст.-ірл. *sruith* 'стары, паважаны', вал. *strutiu* 'тс'; гл. Буга, РФВ, 75, 147; Траўтман, 290; Брукнер, 522; Покарны, 1037. Супраць Трубачоў, тамсама. Агляд этымалогій гл. яшчэ Фасмер, 3, 780; Сной$_1$, 614; Бязлай, 3, 328; Борысь, 583; Шаўр, Etymologie, 73–74; ЕСУМ, 5, 442.

**Стрык**$_1$ 'прыстасаванне ў возе для прыпрэжкі другога каня' (ТС), 'дрот або вяроўка, што праходзіць пад возам з задка ў перадок да ручак' (Маслен.). Праз старое польск. *stryk* ' матуз', сучаснае *stryczek* 'тс', з ням. *Strick* 'вяроўка', звязанага з *stricken* 'завязваць, плясці' (Брукнер, 522; ЕСУМ, 5, 444).

**Стрык**$_2$ 'ціпун' (Арх. Федар.): *stryk tobie na jazyk!* (жартам, Федар. 4). Магчыма, ад *стрык* 'пстрычка' (Нас.), што да *стрыкаць* (гл.).

**Стрык**$_3$ 'сажань, прылада мераць зямлю' (Мат. Гом.). Няясна. Магчыма, да *стры́каць* (гл.), тут у значэнні 'скакаць, перакідацца', што адлюстроўвае працэс вымярэння пры дапамозе такой прылады.

**Стрыказá** 'конік, які скача і стракоча крыламі' (Скарбы; віц., Жыв. НС). Да *стрыкаць*, гл. *страказа*; параўн. *стрыку́н* 'тс' (віц., Жыв. НС).

**Стрыкаць** 'утвараць нажніцамі гук стрыгання', 'рабіць рэзкія папрокі', 'рабіць непрыемныя выхадкі, дабівацца чаго-небудзь' (Нас.), 'пстрыкаць' (ТС), *стры́кнуць* 'стрыгануць, выцяць; зрабіць рэзкі папрок' (Нас.), *стрык* 'пстрычка' (Нас.). Борысь (584) адрознівае прасл. *strěkati 'калоць; пячы крапівою' (гл. *стрыкáць*) і прасл. дыял. *strikati, якое працягваюць укр. дыял. *стрикати* 'скакаць; пырскаць', польск. *strzykać* 'выцякаць; цячы парывістым моцным струменем, пырскаць', в.-луж. *třikać* 'кідаць', чэш. *stříkat* 'пырскаць', славац. дыял. *strikac* 'балець з перапынкамі;

торгаць', а таксама, відаць, серб.-харв. *stȑcati*, *štrcati* 'пырскаць', балг. *щра́кам* 'пстрыкаць, стукаць', макед. *штрака* 'шчоўкаць'; сюды ж ён уключае і беларускае *стры́каць* (гл.). Далей этымалогія няясная. *Стры́кнуць*, магчыма, звязана з *стры́гнуць* (гл.) як "глухі" варыянт з гукапераймальнай (імітацыйнай) асновай.

**Стрыка́ць** 'апякаць крапівою' (ТСБМ, Нас., Ласт., Касп., Бяльк., Байк. і Некр., Др.-Падб., Янк. 3), 'кусаць, джыгаць' (Нас.), *стрыкну́ць* 'апячы крапівою, джыгнуць; узбудзіць, падбухторыць' (Нас., Гарэц.), *стрыка́цца* 'пячыся (аб крапіве)' (Жд. 2, Мат. Гом.). Укр. *стрика́ти*, рус. *стрека́ть*, стараж.-рус. *стрѣкати* 'калоць, джаліць', ц.-слав. *стрѣкати* 'калоць', польск. *strzykać* 'калоць', серб. дыял. *стре́кнути* 'укалоць', макед. *штрекне* 'кальнуць', ст.-слав. **стрѣкати** 'калоць, джаліць'. Прасл. **strěkati*; звязана чаргаваннем галосных з *страка́*, *стро́кі* (Траўтман, 289; Фасмер, 3, 773). Адносна фанетыкі беларускіх слоў (*ы* < *е*) гл. Карскі, 1, 188. Бязлай (3, 326) аб'ядноўвае папярэдні дзеяслоў і **strěkati* у адной праформе **strēk-* і адносіць да і.-е. базы **ster-k-* 'зацвярдзець'.

**Стрыкулі́ст** 'зухаваты, жулікаваты хлопец' (Бяльк.). Да *стрыкаць* (гл.), відаць, ад **стрыкулісты*.

**Стрымб** 'расшчэп (у дрэве)' (гродз., Сл. ПЗБ). Аўтары слоўніка параўноўваюць з літ. *strim̃bas* 'корч'.

**Стрымбу́ль** 'цыбур' (Сцяшк. Сл.; шчуч., З нар. сл.), 'кветаносное сцябло', 'сцябло', 'стрыжань пяра' (шчуч., ваўк., дзятл., іген., Сл. ПЗБ), *стры́мбуль* 'худы, высокі, нязграбны чалавек' (Федар. 4); сюды ж *стрымбу́лік* 'кветка "таўкачы"' (Сцяшк. Сл.), *стрымбе́льнік* 'баркун, Melilotus officinalis (L.)' (Ласт.). Паводле Сл. ПЗБ (4, 607), з літ. *strim̃bas* 'тс', параўн. таксама літ. *stramblỹs* 'сцябло' (Лаўчутэ, Балтизмы, 73, 132).

**Стрымгало́ў** 'вельмі хутка, імкліва' (ТСБМ), 'потырч' (Некр. і Байк.), *стромгало́ў* 'тс' (Скарбы), *стромголо́ў* 'тс' (ТС), *стрымя́ галаву́* 'тс' (Нас.). Укр. *стрімголо́в* 'хутка; уніз галавою', рус. *стремглав* (з ц.-слав.), ц.-слав. *стрьмглавъ*, *стрьмоглавъ*, серб.-харв. *stȑmoglav* 'кулём, уніз галавой', славен. *strmoglav* 'тс', макед. *стрмоглаво* 'ўніз галавой, імкліва', ст.-слав. **стрьмоглавь** 'уніз, упярод галавой'. Да *стромы* і *галава*; рэканструкцыя першаснай формы няпэўная: прыслоўе **strьmo* + **golvь* (В. скл. адз. л.) або **strьmьgolvь*, дзе **strьmь* – імператыў ад дзеяслова **strьmiti*, гл.



*страміць* (Новое в рус. этим., 223). Гл. таксама Фасмер, 3, 775; ЕСУМ, 5, 445–446. Параўн. *строматыч* (гл.).

**Стрына́тка**, *страна́тка* 'пліска' (маладз., барыс., Сл. ПЗБ), 'аўсянка' (Песні сямі вёсак), *струна́тка* 'дробная птушка' (мядз., Жыв. сл.), *струна́тачка* 'нейкая птушка, можа быць, сініца або аўсянка' (Тур.), *стрына́тка*, *стрыгна́тка* 'невялічкая шэрая птушка, якая адлятае на зіму' (Мядзв.), 'стрыж; птушка з жоўтым апярэннем' (Сцяшк.), *стрыгнатка* 'аўсянка' (Мат. Маг.), *странадка* 'птушка Tringa clareola' (Меер Крыч.), *старнатка* 'аўсянка, Emberiza, citrinella' (там жа), *сцернадка (стернадка)* 'аўсянка' (Шымк. Собр.), *стрина́дка*, *стригна́дка*, *стрегно́тка* 'нейкая птушка' (Шн. 1, 525, 526), *стырна́тка* 'пліска' (беш., Нар. сл.), *старына́тка* 'тс' (Бяльк.). Укр *стре́надка* 'аўсянка', рус. *стрена́тка* 'тс', польск. *strznadl*, *trznadel*, *trzynadl*, *strdnal*, *styrnadl*, *sternal*, в.-луж. *stnadź*, *sknadź*, *knadź*, н.-луж. *tśnarl*, *tšnarl*, чэш. *strnad*, *strnádka*, славац. *strnádka*, серб.-харв. *стрна̀дица*, славен. *strn̑ad*, *strn̑ada*, балг. *сарна́тка* 'маленькая, падобная на вераб'я птушка з карычневай плямкай на шыі, што зімуе ў Балгарыі' Прасл. **strьnadь* (або **strnadь* – Булахоўскі, ИАН ОЛЯ, 7, 105 і наст.) параўноўвалі з літ. *stárta*, дыял. *stérta*, лат. *stãste*, *stãrsta* 'стрынатка' і звязвалі з прасл. **(s)tьrnъ* 'іржышча' (Міклашыч, 322; Махэк₂, 582; Скок, 3, 347), супраць чаго па фанетычных прычынах Бязлай, 3, 330. Меркавалі таксама аб гукапераймальным паходжанні ад крыку птушкі; гл. Фасмер, 3, 776; Брукнер, 582; Шустар-Шэўц, 1290. Сной (у Бязлай, 3, 330) разглядае слова як кампазіт з першай часткай ад і.-е. **k'ri-m(e)n*, параўн. грэч. κρημνον 'грубая ячная мука', з іншым суфіксам -κριϑή 'ячмень', алб. *drithë* 'пшаніца' і інш. з першасным значэннем 'якая есць жыта, зерне', параўн. *стрынатка гуменная* 'птушка Emberiza milliaria' (Ласт.), рус. *овсянка*, *просянка* 'тс' і інш. Гл. яшчэ Антропаў, Назв. птиц, 365–367.

**Стры́нгаль** 'той, хто першы раз выйшаў на калектыўную работу (плыты, касьба), навічок', *стрынга́льшчына* 'барыш, які ставіць *стрынгаль* для кампаніі, што прыняла яго разам працаваць' (стаўб., З нар. сл.), *стрынге́ль* 'вельмі высокі чалавек' (шчуч., Сл. ПЗБ), *стры́нгель* 'худы, тонкі высокі чалавек' (клец., Нар. лекс.; капыл., Нар. словатв.), *стрынгаля́* 'падростак, хлапчаня' (Сцяшк. Сл.), *стрынгаля́вы* 'тонкі, зграбны' (Сцяшк.), *стрынга-*

*ляв́аты* 'падгалісты, з тонкімі нагамі' (стаўб., Жыв. сл.). З польск. *stryngel* 'плытагон, які першы раз плыве ў горад', далейшыя сувязі няясныя, магчыма, германізм, што датычыць у першую чаргу слова са значэннем 'навічок'. Адносна значэння 'высокі чалавек' найбольш падыходзіць зближэнне Санько (Крыўя, 1996, 1, 92) з літ. *strigti, stringu* 'тырчэць'.

**Стрып** 'верх даху, месца, дзе сходзяцца скаты, вільчык, жолаб' (Шушк.). Фанетычны варыянт да *строп₂* (гл.). Сюды ж *стрыплёўкі* 'чарацінкі ў страсе, напоўненыя сумессю мёду і пылку (наношваюць нейкія адзіночныя пчолы для сваіх лічынак' (ТС).

**Стрысціць** 'ссукаць' (Сцяшк.; мсцісл., Жыв. сл.), *стросці́ць* 'тс' (Уладз., ТС). Да *трысці́ць* (гл.).

**Стрыўё** 'старадаўні від азыроду, у якім папярочныя жэрдкі клаліся на елкі з часткова абрубленымі сукамі' (бялын., Нар. сл.). Зборны назоўнік ад *астрова* (гл.); гл. таксама *стрывіць*.

**Стры́флік** 'накладка на прарэх кашулі' (Мат. Гом., Інстр. 2). Праз польск. *strefa* 'паласа, пояс, слой', больш новае *sztryple* з ням. *Streifen* 'паласа'; аб польскім слове гл. Брукнер, 518. Параўн. *штрыфель* (гл.).

**Стрых** 'гарышча' (астрав., ДАБМ, камент., 777). З польск. *strych* 'тс', якое запазычана з с.-в.-ням. *esterîch, esterich, estrich* 'плітачная падлога; брук', ням. *Estrich* 'гліняная падлога; абмазка падлогі або сцяны цвёрдай гладкай масай'. Борысь (583) мяркуе, што першасным значэннем было 'гарышча, абмазаная глінай або нейкай іншай масай'. Гл. яшчэ Брукнер, 521.

**Стрыхаваць**. Гл. *стрыхоўка*.

**Стры́хар** 'той, хто фармуе цэглу' (Скарбы), *стрыха́р* 'цырульнік' (Сцяшк.). З польск. *strycharz* 'фармоўшчык цэглы', што з ням. *Streicher* ад *streichen* 'раўняць, гладзіць, прыгладжваць (у тым ліку валасы і інш.)', фанетычна зменена пад уплывам польск. *strych* < ням. *Strich* 'лінія', параўн. *страха́р*, гл. (Карскі, Белорусы, 157).

**Стрыхо́ўка** 'прылада для выраўноўвання саломы пры крыцці страхі' (ТСБМ, Янк. 1, Пятк. 1), *стрыхо́ўка, страхо́ўка, стрыха́лка, страха́лка, стры́хаўка* (Сл. ПЗБ), *стрыха́лка, стрыха́ўка* (Сцяшк.), *стрэха́лка, стрэха́ўка* (ТС), *стрыха́лка, стрыхо́вец* 'тс' (Шатал.), *стрыхо́* 'тс' (Сцяшк.), *стрыха́рка* 'прылада для выраўноўвання гліны' (Скарбы), *стрыхава́ць* 'раўняць (збожжа пры насыпанні)' (Сержп. Прымхі), 'фармаваць, надаваць пэўную форму гліне' (Скарбы), *стрыхава́ць, стрэхава́ць* 'падраўноўваць стрыхоўкай салому' (Янк. 1). Праз польск. *strych, strychulec* 'дошчачка для выраўноўвання сыпкіх матэрыялаў', якое паходзіць з нова-в.-ням. *Streichholz* 'тс' (Брукнер, 521), *у* < *î* пад уплывам *strych* < ням. *Strich* 'лінія' (Басай–Сяткоўскі, Słownik, 344–345). Націск беларускіх слоў указвае на магчымае пасрэдніцтва польскага *strychówka*, параўн. *strychować* 'раўняць' < ням. *streichen*.



**Стры́ца**, *стры́чка* 'калёсіка ў калаўроце з выемкай, на якую накладваецца шнур' (Скарбы; свісл., Нар. сл.). Няясна. Магчыма, да польск. *stryk* 'шнур'< ням. *Strick* 'тс', звязанага з *Strang* 'шнур' (Брукнер, 522), што ўяўляе семантычны перанос па сумежнасці. Параўн. польск. *stryczek* 'шнурок, вяроўка', ад якога ст.-бел. *стричокъ* 'тс' (Ст.-бел. лексікон), гл. Булыка, Лекс. запазыч., 102.

**Стрыч**, *стрыча́н* 'сцябло без лісця' (ТС), сюды ж *стрыча́ць* 'тырчаць' (Сцяц. Сл.). Няясна; магчыма, з метатэзай ад *стырчаць* (гл.), параўн. яшчэ *старч* 'стырчак' (ТС), гл.

**Стры́чка**, *стрычо́к*. Гл. *пстрычка*.

**Стрэ́ва** 'ствол' (Мат. Гом.). Гл. *астро́ва*, параўн. *стрыўё* (гл.).

**Стрэ́дні** 'дваюрадны' (ТС), *стрэ́нні* 'тс' (Янк. 3; пух., З нар. сл.), *стры́нні* 'тс' (Бузук., Паўд.-бел.). Пераасэнсаваны пад уплывам *стрэ́ча* 'ступень роднасці' (< *стрэ́чны* 'дваюрадны') прыметнік *стрыечны* (гл.), параўн. *брат (сястра) у першай стрэчы (у першым стрэчанні, стрэнні), у другім стрэнні брат; браты першага стрэння* (Пан.), што з'яўляецца вынікам аманіміі з *стрэча* 'сустрэча' (Янк. 2, 169), *дн* < *нн* у выніку дысіміляцыі. Гл. *стрый, стрэча₂*.

**Стрэл** 'выстрал' (ТСБМ, Гарэц., Ласт., Касп., Байк. і Некр.), 'страляніна, стральба' (Сл. ПЗБ, ТС). Параўн. укр. *стріл* 'выстрал', дыял. *стрел* 'страляніна', польск. *strzał* 'выстрал', 'адлегласць, на якую разлічаны выстрал', славен. *strel* 'выстрал'. Паствербальнае ўтварэнне ад **strěliti* 'стрэліць', ітэратыў **strěl'ati*, гл. *страляць*. Аддзеяслоўны назоўнік ст.-бел. *стреленье* 'адзінка вымярэння адлегласці выстралу, роўная 60–80 м; выстрал' (Ст.-бел. лексікон), параўн. польск. *strzelenie* 'адлегласць выстралу', славац. *strelenie* 'выстрал, адлегласць выстралу', славен. *streljaj* 'адлегласць выстралу, дыстанцыя стральбы' і інш., што, магчыма, ад-

люстроўваюць цэнтральнаеўрапейскі ваенны тэрмін, параўн. ням. *Schuß* 'стрэл', *Schußbereich* 'дальнасць выстралу' (ад *schießen* 'страляць').

**Стрэ́ліца** 'стрэлкаліст, Sagittaria L.' (Байк. і Некр., Кіс.), *стрэлі́ца* 'вага ў студні з жураўлём' (добр., ДАБМ, камент., 809). Да *страла*$_1$ (гл.) з-за знешняга падабенства; да словаўтварэння параўн. славен. *strelica* 'страла'. Этымон адлюстраваны і ў навуковай назве расліны, суадноснай з лацінскай, параўн. *sagitta* 'страла'.

**Стрэ́лка**$_1$ 'невялікая страла', 'указальнік (у тым ліку ў гадзінніку)' (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр.; Стан.), 'вага ў студні з жураўлём' (мазыр., ДАБМ, камент., 809), 'пяро цыбулі, якое дае насенне' (бых., Янк.; маладз., Гіл.; Барад., Сл. ПЗБ, ТС, Ян., Шатал.), 'адростак пяра пасля лінькі птушак' (бярэз., Сл. ПЗБ; мін., Шатал.), 'тыльны надкапытны сустаў у жывёл, косць гэтага сустава' (Сл. ПЗБ), 'прамежак у капытах жывёлы' (Сл. ПЗБ), 'ніз капыта ў каня' (ТС), 'лядзяш' (хойн., Шатал.; калінк., Сл. ПЗБ; Мат. Гом.; хойн., Шатал.), *стрылкі́* 'насенне сланечніка' (Сл. Брэс.). Памяншальнае ад *страла*$_1$ (гл.), намінацыі на аснове знешняга падабенства.

**Стрэ́лка**$_2$ 'страказа' (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., Касп., Нік. Очерки; рас., Шатал.; в.-дзв., смарг., паст., даўг., Сл. ПЗБ; ЛА, 1, Стан.), *стрэ́лашніца* 'тс' (Жд. 1). Да папярэдняга слова.

**Стрэ́лкі** мн. л. 'расліна Capsella bursa pastoris (L)' (Кіс., Гарэц., Байк. і Некр.). Да *стрэлка*$_1$ (гл.) па форме плодзікаў.

**Стрэль** 'род': *як трэця стрэль, то можна ісці замуж* (Сл. рэг. лекс.). Пераасэнсаванае **стрэнь* 'роднасць', параўн. *у другім стрэнні* 'траюрадны' (Пан.), што да *стрыечны, стрэча*$_2$ (гл.), параўн. *стрэдні*, гл.

**Стрэ́льба** 'ручная агнястрэльная зброя з доўгім ствалом' (ТСБМ, Ласт., Касп., Байк. і Некр., Гарэц., Сл. ПЗБ, ТС), 'паляўнічая зброя' (Пятк. 1), *стрэ́лбла* 'тс' (рэч., Яшк. Мясц.), *стральба́* 'тс' (Нас., Шымк. Собр.). Параўн. укр. *стрі́льба* 'тс', польск. *strzelba* 'тс', якое, па сведчанні Брукнера (522), першапачаткова значыла 'стралянiна', а 'гатунак зброі' пачало абазначаць з XVII ст. Рэгіянальная інавацыя, магчыма, узнікшая на базе польскай мовы, параўн. польск. *strzelba* 'стралянiна, кананада', балг. *стрелба́* 'стральба', макед. *стрелба* 'тс' і пад.



**Стрэ́льня** 'вежа ў паглыбленні з байніцамі' (Гарэц., Др.-Падб.). Да *стрэ́ліць* (гл. *страляць*) з суф. *-н-*.

**Стрэ́м'е** 'незамёрзлае месца на ледзяной паверхні рэчкі' (ПСл). Гл. *страміна*.

**Стрэ́мець** 'страла' (капыл., Сл. ПЗБ). Лакальнае ўтварэнне ад *стрэмка* (гл.)?

**Стрэ́мка** 'вострая тонкая трэска, востры асколак шкла, металу, які залез пад скуру' (ТСБМ; віл., ст.-дар., пух., Сл. ПЗБ; Шпіл.), *стро́мка, стрэ́мка* 'тс' (Байк. і Некр., ЛА, 3), *стро́мка* 'тс' (Касп.). Звязана чаргаваннем галосных з *страмяк, стромкі* (гл.).

**Стрэ́мя**$_1$ 'сукаватая яловая падстаўка, па якой падымаюцца на "падкур" (прыстасаванне, якое абараняе борць ад мядзведзяў)' (Рам. 8). Гл. *страміна*.

**Стрэ́мя**$_2$, Р. скл. *стрэмя* і *стрэмені* 'прыстасаванне для ўпору нагі конніка' (ТСБМ, Байк. і Некр.), *стрымена* 'тс', мн. л. *стрэмена́* 'тс' (Бес., Шымк. Собр.), *стрэмянё* 'стрэмя' (Сцяшк.), *стримоно* 'тс' (Турэцка-беларускі размоўнік, 1836 г., Нью-Ёрк., 1995). Параўн. укр. *стре́ме́но́, стре́мін*, рус. *стре́мя* 'стрэмя', старaж.-рус. *стремень, стрьмень*, польск. *strzemię*, в.-луж. *třmjeń*, н.-луж. *tśmjeń*, чэш. *střmen*, славац. *strmeň*, славен. *stréme*, серб.-харв. *стр̏ме̑н*, балг. *стре́ме* 'тс', макед. *стремен* 'тс'. Прасл. **stremę*, як мяркуюць (гл. Бязлай, 3, 327 з літ-рай), ідэнтычна грэч. στρέμμα 'нешта скручанае, нітка; выгін', якое з'яўляецца nomen actionis ад дзеяслова στρέφω 'віць, плесці', і.-е. корань **strebh-* 'тс', параўн. яшчэ грэч. στρόφο 'вяроўка, паласа' На думку Сноя$_1$ (613), славяне да VI ст., відаць, страмёны мелі плеценыя з нейкіх матэрыялаў, напрыклад, з рамянёў. Гл. аналагічна Борысь, 584. Супастаўлялі таксама з рус. *пастро́мка* 'пастронак' і **strъть* (гл. *стромкі*); гл Фасмер, 3, 775; Брукнер, 522; Праабражэнскі, 2, 397.

**Стрэмяліна** 'брызгліна, Enonymus L.' (гродз., Кіс.). Відаць, да *стрэмя* (гл.), паводле знешняга падабенства пладоў, параўн.: "каробачка, выспеўшы, лопаецца, і чорнае насенне вісіць некаторы час на валокнах", гл. Янышкава, Этимология–1985, 42. Параўн. таксама польск. *trzemielina* 'тс', якое выводзяць з *przemielina* (Махэк, Jména, 141–142) або ад *trzmiel* 'чмель' (з-за двухколернасці чмялёў), гл. Брукнер, 581. Гл., аднак, польск. дыял. *strzemielina* 'брызгліна' (Варш. сл., калі гэта не з беларускай), што пацвярджае выходную сувязь з **(s)tremę* або другаснае з ім збліжэнне.

**Стрэ́нуць** ‘сустрэць’ (Нас., Шымк. Собр., Байк. і Некр., Сержп.). Аднакратнае да *стракáць (стрѣкаць)* ‘выходзіць насустрач, сустракаць’ (Нас.), гл. *сустракаць*, *стрэць*.

**Стрэ́нчыць** ‘майстраваць, прыстройваць; нацягваць’ (Нас., Байк. і Некр., Шат.), ‘дагаджаць, наравіць’ (дзярж., Нар. сл.), ‘прыслугоўваць; працаваць’ (Варл.), *стрэ́нчыты* ‘(настойліва) раіць’ (бяроз., Шатал., Сл. Брэс.), *стрэнч*, *стрэ́нчаньня* ‘клопат, турбота’ (чэрв., Нар. лекс.). Паводле Карскага (Белорусы, 149), Цвяткова (Запіскі, 2, 1, 65), Кюнэ (Poln., 100), нельга аддзяліць ад польск. *stręczyć* ‘злучаць, сцягваць; сватаць’, *nastręczyć* ‘совацъ, упіхваць’; аб польскім слове гл. Брукнер, 518.

**Стрэнь** ‘калена (роднасць)’: *чытворты стрэнь* (драг., ЖНС). Выабстрагаваны з *стрэнні* ‘дваюрадны’ (< *стрыечны*, *стрэдні*, гл.) назоўнік для абазначэння ступені роднасці па бацьку ці маці, узыходзіць да *стрый* (гл.). Гл. *стрэнуць*, *стрэча*$_2$.

**Стрэ́пацць** ‘паводзячы вушамі, прыслухоўвацца’ (іўеў., ЛА, 1), *стрэ́пацца* ‘рабіць асцярожныя, слабыя шорахі’ (маладз., Янк. Мат.), *стрэ́паны* ‘апантаны’: *лецiць, як стрэпаны* (ТС), *стро́паны (стрёпаный)* ‘чысценькі, як бы адлупцаваны; што ачуняў ад лупцоўкі’: *побѣгъ, якъ стрёпаный* (Нас.), *стрэ́паны* ‘зношаны, падраны’ (Сцяшк. Сл.). Хутчэй за ўсё, ад *трапаць* (гл.), параўн. Варбат, Этимология–1985, 24–27 (з аглядам версій паходжання групы слоў з коранем **(s)trep-*, без беларускага матэрыялу), што можна звязаць з укр. *страпáтий*, *стрiпáтий* ‘растрапаны, з настыбурчанымі валасамі’, *стрепúй* ‘абтрапаны, кашлаты’, ст.-польск. *strzepać* ‘баяцца’, *sstrzeply* ‘напалоханыя’, чэш. *střapiti* ‘узлахмачваць’, ст.-чэш. *střěpěti* ‘клапаціцца, уважліва прыглядацца’, якія параўноўваюцца з літ. *strim̃pti* ‘варухацца; мецъ сілы’, лат. *struopît* ‘скакаць, насіцца туды-сюды (пра коней, авечак)’, с.-н.-ням. *strampen* ‘тупаць нагамі’, *stramp* ‘туга нацягнуты, нерухома выцягнуты’, гл. Слаўскі, SOr, 18, 255; Новое в рус. этим., 226-228. Адносіны да рус. *стряпать* ‘даваць корм жывёле; гатаваць ежу’ і інш., паводле Фасмера (3, 786), няясныя, тлумачацца назалізацыяй зыходнага **strep-* (Варбат, там жа, 25). Параўн. *стропіцца* (гл.).

**Стрэ́пач** ‘мера льну, роўная 2–4 жменям’ (карэліц., пін., Сл. ПЗБ; івац., Нар. сл.; пін., лун., Шатал.; Мат. Гом.), ‘жменя (пасма) ільну’ (калінк., Сл. ПЗБ; Шатал.), *страпáч* ‘тс’ (івац., Жыв. сл.), *стрэпкáч* ‘трапкач’, мн. л. ‘махры’ (ТС), *стрэ́пкі* ‘ніткі, пакінутыя на канцы палатна пры датыканні’ (ТС), ‘ніткі, якія адрэзаны пасля ткання палатна’ (Мат. Гом.), *стрыпач* ‘2–3 жмені льну’ (Уладз.), ‘валокны льну пасля апрацоўкі на церніцы; жменя валокнаў для апрацоўкі трапаннем’ (пін., Ск. нар. мовы; Сл. Брэс.), *стря́пка* ‘вузенькі ручнік для рук’ (кам., ЖНС), *стрáпнэк* ‘зрэбнае палатно нізкага гатунку’ (Сл. Брэс.), *страпáць* ‘ачысціць трапаннем’ (Нас.). Укр. *страпáча* ‘кудлаты хмызняк’, *стряпкí* ‘махры, лахмоцце’, польск. *strzęp* ‘акравак, абрывак’, *strzępki* ‘махры на тканіне’, чэш. *střapec* ‘махры; кітка’, славац. *strapec* ‘махры; гронка (вінаграду)’. Паводле Борыся (584), ад прасл. дыял. **(s)trępiti* ‘торгаць, рабіць махры’, варыянта з насавым да прасл. **trepati* (гл. *трапаць*); параўн. *трапкач*; гл. яшчэ Варбат, Этимология–1985, 24–27; ЕСУМ, 5, 433.



**Стрэ́пет** ‘стэпавая птушка’ (ТСБМ), ‘аўдотка’ (мазыр., Федз.-Доўб.), ‘ястраб-цецеравятнік’ (Інстр. 2). Укр. *стрéпет*, *стрепетéнь* ‘тс’, рус. *стрéпет* ‘рэзкі шум, шорах са свістам’, ‘птушка Otis tetrax’, дыял. *стрéпел*, урал. *трéпел* ‘тс’. Гукапераймание, у аснове якога ляжыць уяўленне аб шораху, шамаценні крылаў; параўн. лац. *strepō* ‘шумець, бушаваць, грымець’ (Фасмер, 3, 776; ЕСУМ, 5, 438; Антропаў, Назв. птиц, 367).

**Стрэ́пкі** ‘адходы пры часанні льну’ (Сцяшк. Сл.), ‘ніткі, якія адрэзаны пасля ткання палатна’ (Мат. Гом.), ‘адходы пры часанні льну’ (Сцяшк. Сл.). Да *трапаць*, гл. таксама *страпкі*, *стрэпач*.

**Стрэфі́ць** ‘зрабіць нячыстым, забароненым для ўжывання (у яўрэяў)’ (Нас.). Кюнэ (Poln., 100) супастаўляе з польск. *strefić*, *strefnić* ‘зрабіць полосы, палосамі пазначыць’ < ням. *streifen* ‘рабіць палосы’, *Streif* ‘паласа’. Аб польскім слове гл. Брукнер, 518; Варш. сл., 6, 452.

**Стрэ́ха**. Гл. *страха*.

***Стрэ́ценне**, *стрытыванне*, *стрíтынне* ‘Грамніцы, традыцыйнае свята 2/15 лютага’ (пін., стол., Нар. лекс.). Гл. *стрэчанне*.

**Стрэ́цца** Гл. *стрэць*.

**Стрэць**, *стрэ́ну* ‘сустрэць’, *стрэ́цца* ‘сустрэцца’ (ТСБМ, Нас., Яруш., Касп., Байк. і Некр., Бяльк., Нар. Гом.; баран., лід., ганц., калінк., Сл. ПЗБ, ТС), *стрэ́нуць* ‘тс’ (Нас., Байк. і Некр.), *стрэ́ціць* ‘сустрэць’ (Касп.), ст.-бел. *стретить* ‘тс’ (XV ст., Карскі, 1, 357). Параўн. укр. *стрíти*, *стрíнути*, рус. *встрéтить*, дыял. *стреть*, *стрéнуть*, ст.-польск. *pośrześć*, *pośrzatać się*, чэш. *střetnouti*, ст.-чэш.

*střenúti*, славац. *stretnúť*, серб.-харв. *сре̏сти*, славен. *srésti*, балг. *сре́щна*, макед. *срете, сретне*, ст.-слав. **сърѣсти** 'сустрэць'. Прасл. **sъ-rěsti, *sъ-rętʼešь* 'страчаць', таксама **ob-rěsti, *ob-rętʼešь*, параўн. рус. *обрести́, обрету́, приобрести́* 'набыць; прыдбаць'; **sъ-* < i.-e. **su-* 'добры', як у **sъdorvъ* 'здаровы'. Ва ўсходнеславянскіх формах канчатак інфінітыва Міклашыч (278) тлумачыць аналагічным выраўноўваннем па дзеепрыметніку прош. ч. **sъ-rě(t)lъ*; варыянт *стрэнуць* узнік на аснове форм цяп. ч. Роднасныя літ. *su-rèsti*, прош. ч. *sùrėčau* 'схапіць, злавіць'; далей стаяць літ. *ràsti, randu, radau* 'знаходзіць', гоц. *wraton* 'ісці', ст.-ісл. *vrata* 'вандраваць, знаходзіць', ст.-інд. *á-vradanta* 'хісталіся' і інш. (Фрэнкель, Slavia, 13, 15; Брукнер, KZ, 46, 234; Фасмер, 1, 90, 363; 3, 107 з іншай літ-рай; Глухак, 576). Устаўку *-т- (-t-)*, вядомую яшчэ ў праславянскіх формах, Карскі (1, 357) тлумачыць імкненнем да мілагучнасці. Гл. таксама *сустрэць*.

**Стрэ́ча₁** 'сустрэча' (ТСБМ, Нас.; мазыр., Шэйн. 3; Яруш.; Др.-Падб., Янк. 2, Бяльк., Сержп. Прымхі, ТС). Укр. *стрі́ча*, рус. *встре́ча*, серб.-харв. *сре̏ћа* 'шчасце', славен. *sreča* 'тс', балг. *сре́ща* 'сустрэча', макед. *среќа* 'шчасце, удача'. Прасл. **sъrětja* (Фасмер, 1, 363; Глухак, 575) або **sъręt'a*, што ўтворана з суф. *-ja* ад асновы цяп. ч.: **sъręt'o, *sъrěsti* 'стрэць' (Слаўскі, SP, 1, 82). У прыстаўцы **sъ-* бачаць адпаведнасць ст.-інд. **su-* і тлумачаць слова як 'добры, шчаслівы выпадак'. Гл. Фасмер, там жа; Бязлай, 3, 306.

**Стрэ́ча₂** у выразах: *у першай стрэ́чы* 'дваюрадны (брат, сястра, цётка, дзядзька)', *другая стрэч* 'дваюрадны', *у другой стрэ́чы* 'траюрадны (брат, сястра, цётка, дзядзька)', *у трэцяй стрэ́чы* 'пра далёкае сваяцтва' (ТСБМ, Янк. 2, Чуд., Сцяшк. Сл.; воран., ганц., шчуч., шальч., іўеў., пух., Сл. ПЗБ); *стрэ́ча* 'ступень роднасці' (Скарбы), *стрэч* 'тс' (Сцяцко Сл.), *стрэль* 'ступень роднасці' (Сл. рэг. лекс.). Назоўнік абстрагаваны ад прыметніка *стрэчны* 'стрыечны' (ТСБМ), параўн. амонім *стрэ́чны* 'сустрэчны' (ТСБМ, ТС). Гл. *стрыечны*.

**Стрэ́чанне** 'Грамніцы, свята 2/15 лютага' (Нас., Байк. і Некр., Гарэц., Др.-Падб., Бяльк., ТС, Ян., Пятк. 2), *стрі́тыньне* 'тс' (пін., Нар. лекс.), *стрэ́чэньне* 'пэўны дзень у лютым месяцы, калі, паводле традыцыйных уяўленняў, зіма сустракаецца з вясной' (ТС), ст.-бел. *стретѣнье* 'тс' (XVI ст., Карскі, 1, 357). Укр. *стрі́чэння, стрі́тэння*, рус. *сре́тенье* 'тс', ц.-слав. *сърѣтение господьне*,



літаральна 'сустрэча' (свята ў памяць сустрэчы старца Сімеона з Хрыстом-дзіцянём). Да *стрэць, стрэча₁* (гл.); калька грэч. ἡ ὑπαπαντὴ τοῦ κυρίου (Сразнеўскі, 3, 819). Гл. Фасмер, 3, 740.

**Стрэ́шка**. Гл. *страха*.

***Сту́бла**, *сту́бло* 'невялікая ўпадзіна на балоце, дзе летам не высыхае вада' (івац., Нар. сл.), 'бяздонная яма ў балоце' (івац., ЖНС), 'вялікая гразь у час разводдзя' (стаўб., Сл. ПЗБ), 'невялікі вадаём' (Сл. Брэс.; івац., ЛА, 2), 'тоўстая кабета' (стол., Вярэніч, вусн. паведамл.). Фасмер (3, 786) прыводзіць яшчэ гідронімы *Стубель* 'левы прыток Гарыні', *Сту́бла* 'правы прыток Стыра'; гл. таксама мікратапонім *Стубло* 'вадапой на балоце' (пін., Мікратапанімія Бел., 229). Укр. *сту́бла* звязана з серб.-ц.-слав. *стубль* 'крыніца', чэш. *zbel*, таксама *zbelík*, ст.-чэш. *stbel* 'крыніца, калодзеж', серб.-харв. *сту́блина* 'калода, выдзеўбанае дрэва', славен. *stúblo* 'трубка з суцэльнага ствала дрэва', балг. *сту́бел* 'пустое дрэва, зруб калодзежа', дыял. *сту́бла* 'крыніца, вада з якой выцякае праз ствол згніўшага дрэва', 'выдзяўбаная калода ў крыніцы ў якасці рэзервуара'. Махэк₂ (712) першасную форму ўзнаўляе прыблізна як **stьbьlъ* і **stubьlъ* і роднасным лічыць ням. *Stubbe* 'пень'; ён заўважае, што ў старыя часы калодзежы рабіліся так, што ў крыніцу ўстаўлялі выдзеўбаны, добра насычаны смалою пень, у якога адразалі карані. Фасмер (3, 786) першасным значэннем лічыць 'зруб калодзежа, карыта' і роднасныя бачыць у ст.-ісл. *stubbr* 'ствол дрэва', *stubbi* 'пень', с.-в.-ням. *stubbe* 'пень', грэч. στύφω 'раблю трывалым'. Гл. таксама Кіпарскі, Gemeinslav., 40; Будзішэўска, ЕЛ, 33, 6, 112–114; Скок, 3, 351–352; ЕСУМ, 5, 456.

**Сту́га** 'саламяная (або лазовая) бочка з накрыўкай', 'нешта падобнае на такую бочку' (ТС), 'кораб, сплецены з саломы і лазы' (кам., Ск. нар. мовы), *сту́жка* 'сплеценая з саломы пасудзіна для мукі', памянш. *сту́жэчка* (брэсц., З нар. сл.), 'посуд з саломы' (Бес.). Укр. *стуга* 'лазовая каробка, абмазаная глінай для мукі, зерня', 'каробка з лубу', памянш. *сту́жка, сту́жечка*, польск. *stągiew* 'вялікая бочка для вады, шырэйшая ўнізе, на ножках', якое лічыцца крыніцай запазычання ўсходнеславянскіх слоў, параўн. таксама чэш. *štoudev* 'высокая пасудзіна', што выводзяць з ст.-в.-ням. *standa* 'высокая пасудзіна' ад *stantan* 'стаяць' (Брукнер, 515; ЕСУМ, 5, 456), аднак гэта не вельмі пераконвае. У народнай мове

звязваецца з *сту́га, сту́жка* 'вузкая палоска (у прыватнасці, сплеценая з саломы)', з якой, сшываючы лазой, выплятаюць бочкі. Параўн. таксама серб.-харв. *сту̏га* 'пустая калода', якое, паводле Мяркулавай (Этимология–1983, 66–67), да і.-е. *(s)teug-* 'калода'. Яшчэ раней Трубачоў (Труды, 1, 293) параўноўваў серб.-харв. *сту̏га* 'выдзеўбаная калода для захавання збожжа' з літ. *stū̃lgas* 'круглы, авальны'.

**Стуго́ніць** 'біць (капытамі), грукаць' (КСТ), *стугне́ць* 'біць (капытам), адгукацца (пра ўдар капытам)' (Нар. Гом.), *стуго-ні́ты* 'грукатаць' (Сл. Брэс., Клім.), 'глуха стукаць' (драг., Нар. словатв.), 'гулка страляць' (Ян.). Параўн. укр. *стугоні́ти, стуг-ні́ти* 'глуха гучаць, грукатаць'. Гукапераймальнае ўтварэнне, параўн. *сту́гаць* 'стукаць, важка біць, збіваць' (ТС), "звонкі" варыянт да *сту́каць*, гл. Адносна словаўтварэння параўн. *стогоне́ць* 'гудзець' і *стуконе́ць* 'стукаць, ляпаць' (ТС). Гл. ЕСУМ, 5, 456.

**Стуго́р** 'вялікая куча': *stuhór s'ena, sałoty* (паст., Балто-слав. сб.), *стугу́р* 'стог, стажок, горка' (лаг., Гіл.; в.-дзв., Сл. ПЗБ), 'кусок хлеба' (віц., Нар. лекс.). Грынавяцкене і інш. (Балто-слав. сб., 389), параўноўваюць з літ. *stùguras* 'слуп', відаць, у значэнні 'слуп, вакол якога складваецца стог'. Не выключана славянскае паходжанне слова, параўн. н.-луж. *sćěgor* 'мачта', на падставе якога рэканструюецца прасл. дыял. **stegorъ*, суадноснае з літ. *stãgaras, stegorỹs* 'сухое сцябло, ствол' (Трубачоў, Труды, 1, 777).

**Сту́дзень₁** *(студзѣ́нь)* 'сцюжа, холад' (Шымк. Собр.), *сту́дэнь* 'холад на дварэ' (малар., Цыхун, вусн. паведамл.), ст.-бел. *студень* 'тс': *з вѣликое стȣдени* (XVI ст., Карскі, 2–3, 40). Параўн. укр. *сту́дінь* 'сцюжа', стараж.-рус. *студень* 'холад', серб.-харв. *сту̏ден* 'сцюжа, холад', ст.-слав. **стоудень** 'холад'. Прасл. **studenь* 'холад, сцюжа', абстрактны назоўнік, утвораны ад дзеепрыметніка залежнага стану **studenъ* з папярэдняй заменай першаснай асновы на *-ĭ-* ж. р. асновай на *-ja-* (Борысь, Etymologie, 335). Гл. *сцюдзёны*.

**Сту́дзень₂** 'першы месяц года' (ТСБМ, Гарэц., Ласт., Стан., Некр. і Байк.), 'снежань' (Нас., Байк. і Некр.). Параўн. укр. *сту́дзень* 'снежань', серб.-харв. сту̏дени 'лістапад'. Гл. *студзень₁*.

**Сту́дзень₃** 'калодзеж' (Нас.), *сту́дзін* 'тс' (Бяльк.), *студзянцы́* 'месца на балоце, дзе заўсёды халодная вада' (глус., КЭС), ст.-бел. *студенецъ* 'калодзеж, студня' (Ст.-бел. лексікон). Укр. *студе-ни́ця* 'крыніца', дыял. *сту́день* 'тс', рус. *студене́ц* 'крыніца; калодзеж', польск. *studzienka*, чэш. *studánka*, дыял. *studánec*, серб.-харв. *студе́нац*, славен. *studénec, sdenz, sdênec*, балг. *студене́ц*, макед. *студенец*, ст.-слав. **стоуденьць** 'крыніца'. Прасл. **studenьcь* 'крыніца', **studenъka*, г. зн. 'студзёная крыніца', што ўтворана ад дзеепрыметніка **studenъ* < **studiti* 'студзіць', параўн. *халадні́к* 'крыніца халоднай вады, якая выбіваецца з-пад зямлі' (Сцяшк.). Гл. Фасмер, 3, 787; Бязлай, 3, 337. Сюды ж *студзяні́к* 'міфічны дух, які жыве ў студні ці ў сажалцы'(Сцяшк. Сл.).

**Сту́дзень₄** 'квашаніна' (ТСБМ, Касп., Некр. і Байк., Бяльк., Пятк. 2, Сцяшк., Жыв. сл., Нар. лекс., ЛА, 4), *сту́дзіна* 'тс' (ТСБМ), *сту́дзяніца, сту́дзянь* 'тс' (Сл. ПЗБ), *студзяні́на* 'тс' (З нар. сл., Жыв. сл.), *студзёнка* 'тс' (Сцяшк.), *сцю́дзень* 'тс' (Байк. і Некр., Касп.). Параўн. укр. *студелина, студе́нець* 'тс', рус. *студень* 'квашаніна', польск. дыял. *studzielina, studzenina, studzieniec* 'тс', славац. дыял. *stud'enina, stud'eno* 'тс' і інш. Да **studiti* 'студзіць', гл. наступнае слова. Параўн. *сту́дня, засту́да, засту́дзіна* 'квашаніна' (Бел. дыял.).

**Студзі́ць** 'рабіць халодным, астужаць' (ТСБМ, Нас., Гарэц., Шат., Варл., Сл. ПЗБ, Бяльк.), 'ліхаманіць' (Байк. і Некр.), 'халадзіць, марозіць' (баран., Сл. ПЗБ), *студзі́цца* 'астуджвацца, ахалоджвацца' (ТСБМ, Бяльк.), *студзёны* 'халодны' (Бяльк.), *студзёна* 'холадна' (Бяльк., Мат. Маг.). Параўн. укр. *студи́ти*, рус. *сту-ди́ть*, польск. *studzić*, в.-луж. *studźić*, н.-луж. *stužiś*, чэш. *studiti* 'студзіць', славац. *studit'*, серб.-харв. *сту̏дити, сту̏djети* 'быць халодным', славен. *stúditi* 'адносіцца з агідай', балг. *студя*, макед. *студи* 'астуджаць; халадаць'. Прасл. **studiti* 'рабіць халодным, астуджваць'. Шустар-Шэўц (1369–1370), Бязлай (3, 337) дзеяслоў лічаць вытворным ад прасл. **studъ*, **studa* 'холад', параўн. укр. дыял. *сту́да* 'холад', *студ* 'сорам', рус. дыял. *сту́да, студь* 'холад', *студ* 'сорам, знявага', польск. *ostuda* 'прастуда', чэш. славац. *stud* 'сорам', серб.-харв. *сту̑д* 'холад', славен. *stȗd* 'агіднасць', балг., макед. *студ* 'холад, мароз', ст.-слав. **стоудъ** 'сорам, ганьба'. Борысь (585) выводзіць з **stydnǫti* (гл. *стыць*) з чаргаваннем галосных у корані *ŭ/ou/y/u*. Параўноўваецца з ст.-інд. *tudáti, tundatē* 'штурхае, коле, джаліць', *tōdas* 'той, хто джаліць', *tōdas* 'укол', лац. *tundō, tutudā, tū(n)sum, tundere* 'біць, калаціць, удараць', гоц. *stautan* 'штурхаць' і інш., гл. Бернекер, IF, 10, 154. Славян-

скую дзеяслоўную аснову **stud-* узводзяць да і.-е. **stou-*, **stū-* ‘стаяць’ і звязваюць з *стыгнуць* (гл.) і роднаснымі (Младэнаў, 614; Бязлай, там жа) аналагічна да і.-е. nomen actionis **stou̯do-s*. Параўн. *стыд*. Гл. яшчэ з аглядам літ-ры Фасмер, 3, 786–787; а таксама Махэк$_2$, 589–590; ЕСУМ, 5, 456–457.

**Сту́дзька** ‘чалавек, які баіцца холаду, мярзляк’ (Нас.), ‘зяблік, берасцянка’ (Байк. і Некр.). Вытворнае ад *студзіць* з суф. *-к(а)*. У апошнім значэнні, відаць, штучнае ўтварэнне, калька рус. *зяблик*.

**Сту́дня** ‘калодзеж’ (ТСБМ, Ласт., Касп., Шат., Байк. і Некр., Бяльк., Гарэц., Сцяшк., Федар. 4, Сл. ПЗБ), *сту́ння* ‘тс’ (навагр., ДАБМ, камент., 807), *сту́льня, сту́лня* ‘тс’ (Сцяшк.; ваўк., ДАБМ, камент., 806). Заходне- і часткова ўсходнеславянскае: укр. дыял. *сту́дня*, польск. *studnia* ‘калодзеж’, ст.-польск. ‘крыніца’, в.-луж. *studnja*, н.-луж. *studńa*, чэш. *studna*, славац. *studňa*. Прасл. дыял. **studьńa*, дэрыват ад прасл. **studъ*, параўн. чэш. *stud*, рус. дыял. *студ*, ц.-слав. *стоудъ* ‘холад; сцюжа’, ст.-слав. **стоуденъ** ‘халодны’, гл. Борысь, 585; Махэк$_2$, 589–590. Шустар-Шэўц (1369) лічыць вытворным ад дзеяслова **studiti* ‘студзіць’. У беларускай і ўкраінскай, хутчэй за ўсё, запазычанне з польскай, паводле суфіксацыі, лінгвагеаграфіі (абмежаваны паўночна-заходні арэал, гл. ДАБМ, к. 241) і з-за адсутнасці ў беларускага слова значэння ‘крыніца’, параўн. *студзень*$_3$.

**Студэ́нт** ‘навучэнец вышэйшай навучальнай установы’ (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр.; ашм., Стан.), ‘вучань, навучэнец’ (Нас.). Ужо ст.-бел. *студэнтъ* (1597 г.) з ст.-польск. *student* (Булыка, Лекс. запазыч., 159), якое з лац. *studēns, -ntis* ‘той, які стараецца’; гл. Фасмер, 3, 787.

**Сту́жа** ‘холад, халадэча; сцюжа’ (Нас., Бяльк., ТС; маз., Яшк. Мясц.). Гл. *сцюжа*.

**Стужа́ць**$_1$ ‘зрабіцца цвёрдым, тугім’ (ТС, Сцяцко Сл., Скарбы), *сту́гнуты* ‘зацвердзяваць, чарсцвець’ (Вярэн.), *стужі́ты* ‘трошкі зацвярдзець, падшэрхнуць’ (Сл. Брэс.). Да *тугі* (гл.).

**Стужа́ць**$_2$ ‘турбаваць частымі напамінкамі або просьбамі’ (Нас.), ст.-бел. *стужати* ‘прыгнятаць, уціскаць’ (Альтбаўэр). Параўн. укр. *стужа́ти* ‘турбаваць, мучыць’. Да *туга* (гл.).

**Сту́жка** ‘палоска матэрыі’ (ТСБМ, Нас., Гарэц., Шат., Касп., Сл. ПЗБ, Бяльк., Сцяшк., Мядзв.), ‘абрэзак тканіны’ (Ян.), *сту́жкі* ‘завязкі фартуха’ (Жд. 1), ‘вузкая палоска лазы, лыка’ (навагр., Сл. ПЗБ). Параўн. укр. дыял. *сту́жка* ‘істужка, тасёмка’, ст.-раж.-рус. *сътуга* ‘звязка, скрэпа’, польск. *wstęga, wstążka*, чэш. *stužka*, славац. *stuha, stužka*, славен. *stogla* ‘шнурок для чаравікаў’. Прасл. **vъs-toga* ‘падвязка для абуўкі’, да **tęgnǫti* ‘цягнуць’ (Брукнер, 635). Карскі (Белорусы, 146) меркаваў, што слова занеслі ў Беларусь славакі (т. зв. каробачнікі), якіх называлі венграмі, што цяжка давесці.



**Сту́жні**, *сту́дні, сту́зні*, адз. л. *сту́зэнь* ‘перамычка, што ідзе ад загнутага канца полаза саней да першага капыла’ (Маслен.), *усту́жына* ‘вязок у санях на першых капылах’ (віц., Нар. лекс.). Параўн. рус. дыял. *сту́жень* ‘вяз, што злучае галоўку полаза з першым капылом’, *сани са стуженем* ‘від усходнееўрапейскіх саней’. Вытворныя ад **sъtoga*, параўн. рус. *сту́га* ‘палоска, сувязь, мацаванне’ (да *тугі, цяга, цягнуць*, параўн. Фасмер, 3, 786; гл. *стужка*) і іншыя назвы дэталей саней: *сцягі, усця́глі* ‘планкі, што ідуць ад галовак да першых капылоў’ (Маслен.), першапачаткова ‘тое, што сцягвае, звязвае галоўку полаза з капылом’, параўн. *вязы* ‘тс’, параўн. таксама *стуз* ‘звязка’ (гл.). Гл. Цыхун, SOr, 39, 280.

**Сту́жны** ‘халодны, дажджлівы’ (ТС). Да *стужа*.

**Стуз** ‘звязка’: *стуз кніжок* (слонім., ЖНС), ‘бярвенні, сашчэпленыя, звязаныя чым-небудзь’ (Нар. Гом.). Гл. *стус*, а таксама наступнае слова.

**Сту́зак**, *стуза́н* ‘грымак’ (ТС). Аналагічна да *стусак, стусан* з набліжэннем да *тузаць*, параўн. *туза́н, туса́н*. Гл. таксама наступнае слова.

***Стуза́цца** *(стуза́тыся)* ‘бегчы ад перапуду’ (Сл. Брэс.). Няясна. Магчыма, сюды ж *стузну́ць* ‘моцна штурнуць’ (ТС), тады да *тузаць*, гл.

**Сту́ібень**, *сту́ібінь* ‘не надта разумны; дурань’ (полац., Нар. лекс.), *сту́іб, сту́ібень* ‘няўклюдны, нязграбны, рагаты’ (“няйнакш некалі так называлі ідалаў ад стода”, Барад.). Відаць, сюды ж *стаўбе́нь* ‘ёлупень’ (Яўс.), ‘стоўб; маўчун’ (Мат. Маг. 2), ‘нейкі слуп (або ідал?)’ (мсцісл., З нар. сл.), магчыма, другасна зблі-жаныя з *стоўб*, гл. Няясна; гл. *туебень*.

**Сту́калка** ‘гульня ў пераганкі’ (гродз., Нар. словатв.). Да *стукаць* ‘стукаць’, тут ‘адзначаць сваё першынства стуканнем’: *хто жывей прыбяжыць, прыстукаецца* (Нар. словатв.). Параўн. *засту́каць* ‘застаць на месцы’, сінонім *закава́ць* ‘дакрануцца да

гульца ці да “кону” рукой пры гульні ў жмуркі, хованкі і інш.’ (там жа). Відаць, не звязана непасрэдна з *сту́каўка* ‘адзін з відаў азартнай гульні ў карты’ (ТСБМ), а таксама з рус. *сту́калка*, польск. *stukałka* ‘тс’, што, паводле Трубачова (Труды, 1, 797), з’яўляецца калькай ням. *Pochspiel* ‘тс’, ад *pochen* ‘стукаць’.

**Стука́н** ‘вельмі высокі чалавек’ (Мат. Маг.). Параўн. рус. *истука́н* ‘ідал, бажок’, што з стараж.-рус., ц.-слав. *истуканъ* ‘які выразаны, высечаны’, залежны дзеепрыметнік прош. ч. ад *истукати* ‘высякаць, выразаць з дрэва, каменя’, якое звязана чаргаваннем галосных з *тъкнѫти* ‘ткнуць’ (гл. *тыкаць*) (Фасмер, 2, 144).

**Сту́каць** ‘ударацъ, грукаць; ляскаць’ (ТСБМ, Ласт., Варл.; астрав., ашм., Сл. ПЗБ), *сту́гаць* з азванчэннем *к* > *г* ‘стукаць, важка біць, збіваць’ (ТС), *сту́кацца* (ТСБМ, Сл. ПЗБ), сюды ж *стук* ‘кароткі адрывісты гук’ (ТСБМ, ТС; мсціcл., Нар. лекс.), *сту́кат* ‘тс’, *стуката́ць* ‘бесперапынна стукаць’ (Нас., Касп., Байк. і Некр., Растарг.), *стукаце́ць* ‘тс’ (Сл. ПЗБ, Растарг.), *стукаце́нь* ‘груканне’ (чэрв., навагр., Сл. ПЗБ), *стуконе́ць* ‘грукатаць, ляпаць’ (ТС), *стукуня́ць* ‘тс’ (Нар. Гом.). Параўн. укр. *сту́кати*, рус. *сту́кать*, стараж.-рус. *стукъ*, *стукнути*, серб.-ц.-слав. *стоукъ* ‘гук; шум, звон’, польск. *stukać*, н.-луж. *stukaś*, чэш. дыял. *stukat’*, славац. *stukat’* ‘тс’. Прасл. дыял. **stukati* гукапераймальнага паходжання; параўн. лат. *stukât* ‘ісці маленькімі крокамі’, *stuknît* ‘штурхаць, прасоўвацца ўперад ударамі’, *stucinât* ‘стукацець, грукаць’ і інш.; гл. Мюленбах–Эндзелін, 3, 1100, 1102; гл. яшчэ Міклашыч, 327; Брукнер, 523; Праабражэнскі, 2, 407; Атрэмбскі, LP, 1, 147; Шустар-Шэўц, 1370. Аналагічна чэш. *t’ukati* ‘пастукваць’, франц. разм. *toquer* ‘пастукваць’, іт. *tocco* ‘стук’, тур., крым.-тат. *taka*, *tuka* ‘стук (сякеры, малатка)’. Гл. Фасмер, 3, 787; ЕСУМ, 5, 458 (узводзіцца да прасл. **stuk-*). Гл. таксама *тукаць*.

**Стулі́нда** экспр. ‘хто сутулаваты’ (шчуч., Сл. ПЗБ). Да наступнага слова (гл.), параўн. ілюстрацыю: *стулінда – хто ходзя стулі́ўшыся* (там жа), утворана з суф. *-інд-а* з “экспрэсіяй непахвальнасці, асуджэння” (Сцяцко, Афікс. наз., 43). Параўнанне з літ. *stuolỹs* ‘сцябло’ (Сл. ПЗБ) мае неабавязковы характар.

**Стулі́ць** ‘шчыльна злучыць, скласці’ (ТСБМ), ‘сціснуць’: *стуліць губы* ‘змоўкнуць’ (Сл. нар. фраз.), *стулі́цца* ‘згорбіцца’ (ТСБМ, Сл. ПЗБ, ТС). Да *туліць*, гл.



**Сту́лы** ‘драўляныя слупкі падлогі’ (Бел. нар. жыллё, 37), *сту́лле* ‘штандары’ (Мат. Гом.), *сту́льцы* ‘бруcкі’ (Нік. Очерки). Рус. арханг. *стул* ‘паля ў фундаменце свірнаў, клецяў’, якое Тэрнквіст (цыт. па Фасмер, 3, 788) разглядае як запазычанне з ст.-швед. *stol* ‘стаяк’. У беларускай, магчыма, запазычанне з рускай, але яго шлях пранікнення вызначыць цяжка. Параўн. таксама *сту́лак* ‘табурэтка’ (Гіл.), *сту́лок* ‘крэсла’ (ТС), *сту́лец* ‘крэселка’ (Нас.), якія, аднак, нельга разглядаць асобна ад *сто́лак* ‘зэдлік’ (Сцяшк.), *сто́лак* ‘табурэт’ *сто́лец* ‘крэсла’ (Нас.), гл.

**Стуль** ‘адтуль’ (ТСБМ, ПСл, Бяльк.; ашм., Стан., Мат. Гом., Сл. ПЗБ), *сту́лека* ‘тс’ (ПСл), *сту́ліх* ‘тс’ (Бяльк.). Параўн. укр. палес. *стуль*, *сту́лека*, *сту́ліка*, *сцюль* ‘тс’, рус. дыял. *исту́ль* ‘тс’, польск. дыял. *tustela* ‘тс’ (Варш. сл.). Спалучэнне **sъ-*/**jьz-* (гл. *з* са значэннем “крыніцы дзеяння”) і **tol-* (< **toli*/**tole*, гл. *толькі*), а таксама з т. зв. пустымі суфіксамі і склонавымі канчаткамі (ESSJ SG, 2, 617; Шуба, Прыслоўе, 60–64).

**Стульду́пка** ‘расліна стрэлкі; настой з гэтай травы’ (паст., Сл. ПЗБ). Да *стуліць* (гл.) і *дупа* (гл.), бо настой расліны выкарыстоўваецца як сродак ад паносу. Хутчэй за ўсё, запазычана з польск. *stulidupka* ‘расліна Capsella bursa pastoris; Sisymbrium sophia’ (Варш. сл.).

**Сту́льцы** ‘бульбяныя перапечкі’ (шуміл., ігн., Сл. ПЗБ), ‘густая каша з гарохавай мукі, халодная, парэзаная на шматкі’ (Анім. дад.), ‘стоўчаная ў ступе халодная каша з бульбы’ (Гіл.). Рус. пск. *сту́льцы* ‘пячэнне з гарохавай мукі, слупкі; слупкі квашаніны’. Відаць, ад *стульцы* ‘брускі’, памянш. да *стулы* (гл.), параўн. яшчэ рус. *стул* ‘рэч, тавар, прыпас у выглядзе абрубка або кола’. Арэальнае ўтварэнне, гл. таксама рус. пск. *стульца́*, *сту́льчик*, *стуле́чек* ‘цвёрды, застылы кусочак’, гл. Лутавінава, Псковские говоры, Ленинград, 1979, 35–38, дзе дапускаецца роднасць з літ. *stýgti* ‘тырчаць, рабіцца цвёрдым’. У сувязі з гэтым нельга выключыць утварэнне ад *стуліць* (гл.), параўн. *сту́льны* ‘сціснуты, збіты, густы’ (Ласт.). Параўн. *стыльцы*, гл.

**Сту́лянка** ‘пілотка’ (Сл. Брэс.). Параўн. брэсц. *сту́люваты* ‘набліжаць адно да другога’. Да *стуліць* < *туліць* (гл.) па форме галаўнога ўбору.

**Сту́ма** ‘постаць, фігура’ (Сцяшк. Сл.). Хутчэй за ўсё, з літ. *stuomũ* ‘тс’, але параўн. з польск. *styma*, *estyma* ‘павага, гонар,

шанаванне', якія, паводле Варш. сл., узыходзяць да раманскай першакрыніцы: італ. *stima*, франц. *estime* 'паважанне, пашана, шанаванне'.

**Стумбе́ль** 'цвёрдая частка сцябла' (швянч., Сл. ПЗБ). З літ. дыял. *stumbẽlis*, літаратурнае *stambẽlis* 'тс' (там жа, 613).

**Стумі́кла** 'ціхмяны, стрыманы чалавек' (Сл. рэг. лекс.). Балтызм, у якасці крыніцы магчыма літ. *stumiklis* 'штурхач', што адпавядае разм. *таўкач*, *папіхайла* (пра інертнага чалавека), да семантыкі параўн. літ. *stùmti* 'штурхаць, закрываць на засаўку' (Цыхун, Зб. Мальдзісу, 402).

**Стуня́ць** 'сцямнець' (Сцяшк. Сл.). Гл. *сутуняць*, *сутон*.

**Сту́па** 'драўляная або металічная пасудзіна, у якой таўкуць што-небудзь таўкачом' (ТСБМ, Байк. і Некр., Шат., Касп., Бяльк., Бес., Сцяшк., Сл. ПЗБ, Уладз., ТС; палес., З нар. сл.), 'прэс для выціскання алею', 'калода каля кузні для акоўвання колаў', 'прылада для збівання сукна', 'тоўстая жанчына' (ТС), 'пастка' (ТС, Пятк. 1), 'ход у гульні ў каменьчыкі' (ТС, Рам. 8), 'міска' (гом., Рам. 8), *сту́пка*, памянш. да *ступа* (Сл. ПЗБ, Мат. Гом., Федар. 6), 'кубак, кружка' (Жд. 1; слуц., староб., люб., ДАБМ, камент., 815), 'сальніца', 'адтуліна ў жорнах' (Мат. Гом.), сюды ж *сту́піца* 'пастка на ласёў' (Пятк. 1). Параўн. укр., рус. *сту́па*, стараж.-рус. *ступа*, ц.-слав. (XIV ст.) *стѫпа*, польск. *stępa*, в.-луж., н.-луж. *stupa*, чэш. *stoupa*, серб.-харв. *сту̏па*, славен. *stǫ́pa*, балг. *стъ́па*, макед. *стапица* 'пастка'. Прасл. **stopa* запазычанне з германскіх моў, параўн. с.-н.-ням. *stampe* 'ступа, трамбоўка', англ.-сакс. *stampe*, ст.-в.-ням. *stampf* (Кіпарскі, Gemeinslav., 266; Фасмер, 3, 788; тая ж крыніца паходжання ў Брукнера, 515; Бязлая, 3, 321; Трубачова, Ремесл. терм., 68–69). Мартынаў (Лекс. взаим., 75–76) лічыць запазычаннем сярэдняй ступені надзейнасці. Спрадвечнаславянскае паходжанне слова дапускаюць Праабражэнскі (2, 408), Младэнаў (616), Махэк₂ (580), ад *ступаць*. Гл. таксама агляд версій: Шустар-Шэўц, 1371; ЕСУМ, 5, 458–459.

**Ступа́** 'тэмп руху пры хадзьбе, яздзе на кані; крок' (ТСБМ, Гарэц., Некр., Сл. ПЗБ, Сцяшк.), 'раўнавага ў руху ў часе' (Ласт.), 'ступня' (Сцяшк., ТС), (ісці, ехаць) *ступо́й* і *ступо́ю* 'павольным крокам; самым павольным алюрам' (ТСБМ, ТС, Бяльк.). Аддзеяслоўны дэрыват з суф. *-а* ад *ступаць* (гл.); у прыслоўе перайшоў



Тв. скл. гэтага назоўніка. Да значэння 'крок' параўн. укр. *ступ*, балг. *стъ́пка*, макед. *стапка*.

**Ступа́к** 'ступня' (Мат. Маг., Янк. 1, Сцяшк., Сцяшк. Сл., ТС), 'ступня; мера даўжыні, роўная адной ступні' (Сл. ПЗБ), 'след каровы' (жыт., Жыв. НС), *ступакі́* 'абутак без халяў' (Нар. Гом.). Суфіксальнае ўтварэнне ад *ступаць*, гл. наступнае слова.

**Ступа́ць** 'крочыць, ісці' (ТСБМ, Нас., Ласт., ТС), *ступану́ць* 'ступіць' (Нас.; брасл., Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *ступа́ти*, рус. *ступа́ть*, польск. *stąpać*, в.-луж. *stupać*, н.-луж. *stupaś*, чэш. *stoupati*, славац. *stúpat'*, серб.-харв. *сту̀пати*, славен. *stǫ́pati*, балг. *стъ́пям*, макед. *стапува*. Прасл. **stopati* ітэратыў да **stąpiti* 'ступіць', гл. *ступіць* (Бязлай, 3, 321; Борысь, 577).

**Ступе́нь** 'выступ лесвіцы', 'этап у развіцці', 'мера якасці, дзеяння', 'вучонае званне' (ТСБМ), 'ступня; крок' (Нас.), 'ступня; крок; мера якасці, градус' (Байк. і Некр.), 'ступня' (Сл. ПЗБ, Сцяшк., Ян.), 'крок' (Шымк. Собр., ТС), 'ступак; ступня' (ЛА, 3), 'мера, роўная чалавечай ступні' (Пятк. 2), *ступі́нь* 'ступня' (Дразд.), *сту́пынь* 'тс' (кам., КЭС), параўн. ст.-бел. *степень* 'парог, лесвіца' (Ст.-бел. лексікон), *стопень* 'ступень, этап' (там жа). Укр. *ступі́нь* 'крок', рус. *ступе́нь* 'выступ лесвіцы', в.-луж. *stupjeń* 'чаравік', 'мера праяўлення якой-небудзь якасці; працэнт', н.-луж. *stupjeń* 'лямцавы чаравік', чэш. *stupeň*, славац. *stupeň* 'ступень', серб.-харв. *сту̏пањ*, славен. *stǫ́pənj*, балг. *стъ́пен*. Прасл. **stopeňь*. Дзеербатыў да **stopiti* (гл. *ступіць*) з суф. *-ень*; гл. Фасмер, 3, 788; Шустар-Шэўц, 1371; Махэк₂, 590; Бязлай, 3, 321. Борысь (578) праславянскім лічыць **stepeňь* (параўн. рус. *степень*, серб.-харв. *сте̏пен*, балг. *сте́пен*, макед. *степен*, ст.-слав. **степень**) ад незахаванага **stepti* 'ступіць, стаць', на якое пазней паўплываў дзеяслоў **stopiti*. Сюды ж *ступе́ніць* 'ісці' (навагр., Шн.). Параўн. *стапа*, *стопень*, гл.

**Сту́піца** 'трубка, калодка ў коле' (Бяльк.; круп., іўеў., брасл., Сл. ПЗБ; Дэмб. 2; мсцісл., З нар. сл.), *сту́пка* 'тс' (Мат. Гом.), сюды ж і *ступі́ца* 'дэталь у жорнах, на якой трымаецца верхні камень' (Скарбы). Рус. *сту́пица* 'тс'. Да *сту́па* (гл.); да семантыкі параўн. значэнні *сту́па* 'калода', рус. *сту́па* 'калода ў млыне' і да т. п.

**Ступíць** 'зрабіць крок', 'паставіць нагу, наступіць', 'увайсці' (ТСБМ, Некр. і Байк., Бяльк., ТС, Федар. 4, Сержп. Прымхі, Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *ступúти*, рус. *ступúть*, стараж.-рус. *ступити*, польск. *stąpić*, в.-луж. *stupić*, н.-луж. *stupiś*, чэш. *stoupiti*, славац. *stúpit'*, серб.-харв. *сту̏пити*, славен. *stópiti*, балг. *стъ́пя*, макед. *стапи*, ст.-слав. **стѫпити** 'ступіць, зрабіць крок'. Прасл. **stǫpiti* 'ступіць, зрабіць крок' лічыцца вытворным ад незахаванага прасл. **stepti*, **stępǫ*, менавіта ад асновы цяп. ч. гэтага дзеяслова **stęp-*, ад і.-е. **ste(m)p-* гл. Борысь, 577; Бязлай, 3, 321. Інакш Шустар-Шэўц (1371), які славянскія дзеясловы разглядае як дэрываты ад прасл. **stopa* 'нага; даўжыня ступні; крок' з насавым інфіксам **sto-m-p-*. Бліжэйшыя адпаведнікі бачаць у літ. *stapýtis* 'стаць', *stìpti*, *stim̃pu* 'адубець, здранцвець'. Параўноўваюць яшчэ з грэч. στέμβω 'тапчу, жорстка абыходжуся, ганьблю', ст.-ісл. *stappa* 'трамбаваць, штурхаць уніз', ст.-в.-ням. *stamfôn* 'трамбаваць' і інш.; гл. Міклашыч, 324; Мацэнаўэр, Cizí sl., 78; Фасмер, 3, 788. Махэк$_2$ (580) таксама ўзводзіць дзеясловы да **stopa*, а насавы ў корані тлумачыць другаснай назалізацыяй, рашуча пярэчачы супраць існавання асновы **stęp-* у першасным дзеяслове.

**Сту́пка** 'самаробная пастка' (Ян., ТС), *сту́піца* 'пастка на ласёў' (Пятк. 1). Укр. *сту́па* 'частка пасткі для лісіц', *ступúця* 'драўляная пастка на звяроў', рус. старое *ступúца* 'пастка на звера', польск. *stępica* 'тс', чэш. *stupice*, *stupka*, ст.-чэш. *stupka* 'тс', серб.-харв. *stupice* 'тс'. Прасл. **stopъka*, **stopica*. Паходжанне спрэчнае; Брукнер (515) выводзіць ад **stępa* (гл. *ступа*); Махэк$_2$ (580) лічыць дэрыватам ад прасл. **stopati* 'ступаць'. Суфіксацыя не пярэчыць абодвум дапушчэнням, параўн. Слаўскі, SP, 1, 98–99. Гэтаму не пярэчаць таксама розныя канструкцыі пасткі (у выглядзе выдзеўбанай калодкі і капкана, гл. ЭБ, 48).

**Ступня́** 'плюсна, частка нагі ад шчыкалаткі ўніз', 'ніжняя паверхня ступака, падэшва' (ТСБМ, Некр. і Байк., Ласт.), 'ступак' (Сцяшк., Сл. ПЗБ, Бяльк., ЛА, 3). Дэрыват ад *ступіць*, гл. *ступень*.

**Стура́ць** 'дабівацца, дасягаць чаго-небудзь' (Сцяшк. Сл.). Відаць, дэфармаванае *скураць*, гл.

**Стурба́н** 'старчак' (ТС). Магчыма, кантамінацыя *цурбан* 'кавалак палена' і *стырча́ць* 'тырчаць', гл. Малаверагодна ўтварэнне ад *стурбава́ць* 'патрывожыць; спыніць' (Нас., Сл. ПЗБ), што да *турбаваць* (гл.).



**Стурбу́чыць** 'разумець, кеміць': *малы ўжэ стурбучыць* (Касп.). Няясна.

**Стурла́к** 'худы': *які гэтат конь стурлак* (Касп.). Няясна.

**Стурса́к** 'штандара', мн. л. *стурсакы* (жабін., ЛА, 4). Параўн. польск. *stursać* (< *szturchać*, Варш. сл.) 'штурхаць'. Няясна.

**Стуры́ць** 'раскатурхаць, сагнаць' (ТС). Параўн. польск. дыял. *szturzyć* 'штурхаць, піхаць'. Да *турыць*, гл.

**Стус** 'стос, кіпа' (ТСБМ, Сцяшк. Сл., ТС, Нар. Гом.; лельч., Яшк. Мясц.), 'касцёр дроў' (карэліц., ЛА, 1), 'яма для бульбы' (Сл. Брэс.), 'круглы капец бульбы', *стуз* 'звязка' (пін., ЖНС), 'бярвенні, сашчэпленыя, змацаваныя чым-небудзь' (Нар. Гом.), *стузы* 'прыстасаванне з жэрдак для падняцця чаго-небудзь' (шальч., Сл. ПЗБ). Гл. *стос*.

**Стуса́к**, *стуса́н* 'штуршок, удар' (ТС), сюды ж *стусану́ць* 'пнуць, ударыць, выцяць' (Ян.). Параўн. польск. дыял. *stusak*, *sztusak* 'штуршок' з *stus*, *sztos* 'удар' з ням. *Stoß* 'тс'. Гл. *стузак*.

**Сту́сіна**, *стусіна* 'прут, дубец; гібкае пугаўё', перан. 'пра высокага тонкага чалавека' (ТСБМ, Ласт., Касп.), 'гібкае дрэўца для пугі' (Пятк. 1, Арх. Федар.; гродз., Нар. сл.), 'чалавек высокага росту' (ушац., там жа), *сту́сінка* 'чаранок, палачка', *сты́сіна* 'доўгая тонкая галіна' (Сцяшк. Сл.). З польск. *stosina*, дыял. *stysina*, *stusina (stósina)* 'тс', што да ням. *Stoß* 'удар', гл. Глінка, Бел.-польск. ізал., 28; магчыма пасрэдніцтва мовы ідыш (спалучэнне *ст-* замест *шт-*).

**Сту́сла** 'сталюга' (Мат. Гом.), *сту́сло* 'сталярская прылада' (гродз., Нар. сл.; Скарбы). Няясна.

**Стусме́ць** 'змарнець, паблякнуць' (слаўг., Нар. словатв.), 'пахудзець ад гора' (Юрч. Сін.). Да *тускнець*, гл.

**Сту́ты** 'калы, падпоркі пад козлы, на якіх уручную распілоўваюцца дошкі' (дзісн., КЭС), *сту́твы* 'прыстасаванне ў выглядзе двух колаў, якія падстаўляюцца пад канец бервяна каля козлаў' (мёрск., ЖНС). З лат. *stute*, *stuta* 'падпоркі', якое з с.-н.-ням. *stute* 'тс' (Мюленбах–Эндзелін, 3, 1108).

**Сту́чык** 'гаршнеп' (Касп.). Рус. *сту́чік*, *сту́чек* 'тс', якое Даль (1, 80; 4, 349) падае з паметай "польск.", верагодна, маючы на ўвазе "польскія", г. зн. заходнія губерні, у польскіх крыніцах

слова не знойдзена. У беларускай самастойнае ўтварэнне ад *сту́каць*, таму што крык гэтай птушкі ў перыяд такавання падобны на "стук копыт по плотно утрамбованной дороге" (Жизнь Животных, т. 5. М., 1970, с. 301), параўн. таксама рус. *подкопытник* 'гаршнеп'; гл. Антропаў, Назв. птиц, 367–368.

**Стхары́цца** 'прытаіцца' (ТСБМ, Сцяшк.). Да *тхор* (гл.).

**Сты́гнуць** 'стыць' (Гарэц., Нар. Гом.), *сты́гці* 'стынуць; зябнуць' (Нас.), 'астываць' (шальч., паст., Сл. ПЗБ). Параўн. укр. *сти́гнути* 'халадзець, зацвердзяваць, згушчацца', рус. *сты́гнуть*, дыял. пск. *сту́гнуть* 'тс', польск. *stygnąc* 'тс' (з XVIII ст., гл. Борысь, 585). Паводле Бязлая (3, 338), ад таго ж і.-е. кораня, што і ў **stydnǫti* (гл. *стынуць*), але з іншым дэтэрмінатывам: **(s)teu-g-*, **(s)teu-d-*. Да **stydnǫti*, параўн. польск. *stydnąć* 'тс' (XVI ст., Брукнер, 523), узводзяць Міклашыч (327), Сабалеўскі (РФВ, 62, 234). Сумненні ў Фасмера (3, 789), які следам за іншымі аўтарамі набліжае слова да літ. *stũgti* 'тырчэць, рабіцца жорсткім', грэч. στυγέω 'ненавіджу, пагарджаю, баюся', ст.-грэч. στύγε мн. л. 'ледзяны холад'. Гл. таксама Коген, УЗ БГУ, 1, 190–194; Цвяткоў, Запіскі, 2, 1, 81–82 (гутарка ідзе пра пазнейшую інавацыю).

**Стыд** 'сорам, ганьба' (Нас., Ласт., Гарэц., Варл.; брасл., мядз., маст., Сл. ПЗБ; Бяльк., ТС, ЛА, 3), сюды ж *стыдо́тте* 'тс' (Сл. Брэс.), *стыдо́цыя* 'тс' (брэсц., З нар. сл.), *стыдзі́цца* 'саромецца' (Бяльк., ТС; шальч. ганц. Сл. ПЗБ), *стыда́цца* 'тс' Сл. ПЗБ, Нар. Гом., Сцяшк., Др.-Падб., Жд. 2), *стыдзі́ць* 'сароміць' (в.-дзв., шальч, Сл. ПЗБ, Др.-Падб.), *сты́дна* 'сорамна' (Бяльк., ТС), *сты́дна*, *стынна* 'тс' (Сл. ПЗБ), *сты́дны* 'бессаромны' (Ян.), *стыду́лька* 'сараматніца' (там жа). Параўн. укр. *стид*, рус. *стыд*, польск. *wstyd*, чэш. *styděti se* 'стыдзіцца', славац. *stydiet' sa* 'тс', серб.-харв. *сти̑д* 'стыд', ст.-слав. **стыдъкъ** 'агідны'. Прасл. **stydъ*. Звязана чаргаваннем галосных з **studъ* (гл. *студзіць*) з шырокай семантыкай ад 'холад' да 'непрыемнасць, ганьба, страх, сорам, агіднасць' (Ларын, История, 65; Бязлай, 3, 338). Махэк$_2$ (590) **stydъ* лічыць больш познім аддзеяслоўным дэрыватам ад прасл. **(o)stydati* 'стыдзіцца'; паводле Борыся (713), **stydъ* < *styděti* 'стыдзіць', а **studъ* і **stydъ* адлюстроўваюць праславянскую альтэрнацыю *u:y:ъ* (Борысь, Etymologie, 385).



**Стыдзь** 'моцны марозны холад; сцюжа' (Нік. Очерки, Касп.). Аддзеяслоўны назоўнік ад **stydnǫti*, гл. *стыць*.

**Стыка́ць** 'зводзіць, сварыцца' (Янк. 3, Сл. рэг. лекс.), 'падбухторваць' (Ян.). Гл. *сутыкаць*.

**Стыка́цца** 'зачыняцца', 'сутыкацца' (Нас.), 'бываць, знаходзіцца' (Сцяшк.; навагр., З нар. сл.; ТС; віл., Жыв. сл.; Юрч., Варл.; бялын.; Янк. 3), звычайна ў спалучэннях з *не*: *не стыкацца дома (у хаце)* 'затрымлівацца, пабыць; вандраваць, бадзяцца, блукаць', 'паказвацца, мала бываць' (Барад., Ян.): *дома не стыкаецца* (Нар. Гом.), 'межаваць, судакранацца' (Ласт., ТС), 'злучацца' (Варл.). Гл. *тыкаць*. Значэнне 'зачыняцца' Мяркулава (Этимология–1979, 12) тлумачыць у сувязі з дзеясловам *ткаць*, параўн. *заткала* 'затычка' (Нас.), рус. пск., цвяр. *заткать* 'заткнуць, схаваць', *заткаться* 'знікнуць'; значэнне 'быць, знаходзіцца' узнікла, магчыма, у выніку эліпсіса слова-злучэння *стыка́цца з кім-небудзь* 'сустракацца'. Да значэння 'з'яўляцца, паказвацца' параўн. ст.-слав. **сътъкати, стъкати** 'абвясціць, паведаміць'.

**Сты́лы** 'халодны' (Сцяшк. Сл.; чач., ЖНС), 'застылы, скачанелы, мёртвы' (ТС, Пятк. 2, Растарг.). Дзеепрыметнік ад *стыць*, гл.

**Стыль**$_1$ 'драўляны калок, якім замацоўваюць бярвенні ў сцяне зруба' (Сцяшк.), *стиль*, *штыль* 'шост, пры дапамозе якога кіруюць паромам; багор для сартыроўкі бярвенняў пры сплаве' (Маслен.). З ням. *Stil* 'ручка, дзяржанне' праз польск. *styl* 'тс'; параўн. Брукнер, 524.

**Стыль**$_2$ 'холад' (Барад., Юрч. Фраз. 1, Мат. Гом., Растарг.), *сты́ліца* 'халадэча' (Яўс., Мат. Маг.), *стыле́ча* экспр. 'холад' (Мат. Гом.). Да *стыць*, параўн. *стылы*, гл.

**Стыль**$_3$ 'спосаб, характар пісьма, творчасці і інш.' (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр.). Запазычанне з франц. *style* 'тс' праз польск. *styl* 'тс' ці рус. *стиль* 'тс'; паходзіць ад лац. *stilus* 'завостраны калок; кіёчак для пісання на васковай дошчачцы; спосаб выкладання, пісьма'. Гл. Брукнер, 524; Фасмер, 3, 760.

**Стыльцы́** 'дранікі з алеем', 'халодная бульба' (Касп.). Гл. *стульцы* 'тс'; не выключана збліжэнне з *стылы* 'халодны, застылы', гл. Лутавінава (Псковские говоры, Ленинград, 1979, 35–38) хацела б бачыць тут старую варыянтнасць кораня *сту-/сты-* (гл. *студзіць*, *стыць*), захаваную на паўночна-заходняй перыферыі ўсходніх славян.

**Стынéць** ‘сатлець, сапрэць’ (Юрч.). Гл. *тынець*.

**Сты́нка** ‘азёрная корушка, сняток Osmerus eperlanus’ (Ласт., Жукаў; мёрск., Жыв. НС; Байк. і Некр., Сл. ПЗБ, Касп.). Праз польск. *stynka* ‘тс’ з ням. *Stint* ‘тс’; гл. Брукнер, 524; Нававейскі, Zapożyczenia, 116; Фасмер, 3, 789; Усачова, Слав. ихт. терм., 49. Герд (Бел. лекс., 37) мяркуе пра лакальнае запазычанне з літ. *stinka, stinta* ‘тс’ у суседнія гаворкі.

**Стынь** ‘холад, халадэча’ (ТСБМ, Юрч., Мат. Маг.). Аддзеяслоўны назоўнік ад *стынуць*, гл. *стыць*.

**Сты́пыр’е** ‘сцябло цыбулі’ (малар., Нар. лекс.). Магчыма, з літ. *stibiras* ‘сцябло, чаранок’; адносна *-п-* параўн. літ. *stýbti/stýpti* ‘расці высокім’; гл. Лаўчутэ, Балтизмы, 133; параўн. *сцяпер’е*, гл.

**Стырнó** ‘руль’ (ТСБМ, Ласт., Стан.), *стыр* ‘штыр, рулявое весло’, ‘жэрдка, калок’ (ваўк., лудз., Сл. ПЗБ), *стырнавы, сты́рнік* ‘галоўны плытнік, які кіруе плытом’ (ТСБМ), *сты́рнік, стэ́рнік* ‘тс’ (Сл. ПЗБ), *стырнава́ць* ‘кіраваць стырном’ (там жа), *стырава́ць* ‘тс’ (Ласт.). Укр. *стернó*, рус. паўд. *стернó*, ст.-рус. *стрънъ* (XV ст.). Праз польск. *ster* ‘руль’ узыходзіць да с.-ням. *stiure* ‘тс’; гл. Фасмер, 3, 759; Праабражэнскі, 2, 385; Міклашыч, 322; ЕСУМ, 5, 413.

**Стырня́** ‘іржышча’ (Нар. Гом.), ‘пожня’, *стэрня́, стэ́рня, сцерня́, стырне́* ‘тс’ (ДАБМ, камент., 849). Параўн. укр. *стерня́* ‘тс’, рус. *стерня́*, польск. *ścierń, ściernie*, чэш. *strní, strniště*, славац. *strnisko*, в.-луж. *šćerń, šćernje*, н.-луж. *sćernje*, серб.-харв. *стр̏ниште*, славен. *stŕn, strnišče*, балг. *стърни́ще*, макед. *стрниште*. Прасл. **stьrnь*, зборн. **stьrnьje*, разглядаецца як варыянт з рухомым *s-* да **tьrnъ*, гл. *цёран*, роднаснае грэч. στερεός ‘цвёрды’ с.-в.-ням. *stārr* ‘цвёрды, жорсткі’. Гл. Бязлай, 3, 330; Фасмер, 3, 759; ЕСУМ, 5, 413. Фанетыка беларускага слова, відаць, пад уплывам *стырчаць* (гл.).

**Сты́рта** ‘дзежка, кубел’ (?) (Мат. Гом.). Гл. *сціртa*.

**Стырча́ць** ‘тырчэць’, ‘вытыркацца, высоўвацца’ (Некр. і Байк., Рам. 6, Ян.), *стырч, стырчком* ‘сторч, тарчмаком’ (Ласт.), *стырч* ‘палявы хвошч’ (лельч., ЛА, 1). Да *тырчаць*, гл.

**Сты́рыць** ‘стаяць, прысутнічаць, дыжурыць’ (Варл.), ‘украсці’ (Яўс., Мат. Гом.), *сту́рыць, сты́рыць* ‘тс’ (Сцяшк. Сл.), магчыма, сюды ж *стыря́тысь* ‘здохнуць, памерці (пра пчол)’ (драг., Жыв. св.). Параўн. рус. *сты́рить* ‘дражніць; украсці; спрачацца, сварыцца’, *сты́ра* ‘хто любіць спрачацца’, ‘сонная гультаяватая кабета’, укр. дыял. *сти́ра* ‘напасць; спакуснік’, а таксама каш. *storěc* ‘хваліць, маніць, ашукваць’. Няясна; ненадзейныя параўнанні з ісл. *styr* ‘вайна’ (Шымк. Собр.), с.-н.-ням. *stûr* ‘неслухмяны, непакорлівы’ і інш. Гл. Фасмер, 3, 789; ЕСУМ, 5, 416. Хутчэй за ўсё, звязана чаргаваннем з *настырны* (гл.). Борысь (SEK, 4, 364–365) мяркуе пра сувязь з **strčati*, гл. *стырчаць*.



**Сты́сы** ‘драўляныя вілы’ (калінк., Арх. ГУ). Няясна.

**Сты́тур** ‘сварка’ (Нар. Гом.). Няясна; параўн. *стырыць*, гл.

**Стыць**, *сты́нуць* ‘станавіцца халодным, астываць’, ‘мерзнуць, замярзаць на холадзе’ (ТСБМ, Нас., Варл., Др.-Падб.; віл., Сл. ПЗБ), ‘застываць’ (віл., Сл. ПЗБ), *стылы* ‘застылы, мёртвы’ (ТС), ‘халодны’, ‘абрыдлы’ (Ласт.). Параўн. укр. *сти́ти, сти́нути*, рус. *стыть, сты́нуть*, ст.-польск. *stydnąć*, чэш. *stydnouti*, славац. *stydnúť*, серб.-ц.-слав. *устынути*, балг. *сти́на* ‘станавіцца халодным, астываць’; мяркуюць, што гэта новаўтварэнне ад **stydnǫti*, якое звязана чаргаваннем галосных з прасл. **studъ, *studa* ‘холад’, *студзіць* (гл.), параўн. *стыд*. Гл. Міклашыч, 327; Фасмер, 3, 789; Голуб–Копечны, 360; ЕСУМ, 5, 416. Сюды ж *стынь* ‘сцюжа, холад’, гл.

**Стычань** ‘сакавік’ (Нас.), ‘студзень’ (Сцяшк.; воран., Шатал.; астрав., вільн., Сл. ПЗБ). З польск. *styczeń* ‘студзень’, некалі і ‘люты’. Ст.-бел. *стычень* ‘студзень’ (XVI ст., Ст.-бел. лексікон) з ст.-польск. *styczeń* (Булыка, Лекс. запазыч., 157). Польскае слова з першаснага **sěčьnь* < прасл. **sěča* ‘высяканне дрэў’ ад прасл. **sěkti* ‘сячы’ з суф. **-ьnь*, якое потым было скантамінавана з **tyka* ‘жэрдзь, палка’. Назва першапачаткова абазначала час года, калі сякуць дрэвы, таму што ў гэты час яны маюць вельмі мала соку; гл. Борысь, 585. Параўн. *сечань*. Народна-этымалагічна ўсведамляецца як вытворнае ад *стыка́цца* ‘сустракацца’ (гл.), так і ў Насовіча (Нас., 620).

**Стэ́льмах** ‘той, хто робіць, рамантуе воз, сані’ (Янк. 1, ЛА, 3), *стальма́к* ‘цясляр’ (Гарэц.), ст.-бел. *столмахъ* ‘сталяр, карэтнік’ (Ст.-бел. лексікон). Гл. *стальмах*.

**Стэ́мпель** ‘вастрыё і верхняя частка верацяна’ (Уладз.). Гл. *штэмпель*.

**Стэ́нкаць** ‘стагнаць’ (Федар. 4). З польск. *stękać* ‘тс’ (Цвяткоў, Запіскі, 2, 1, 65).

**Стэп** ‘бязлесная раўніна, пусташ’ (ТСБМ, Ласт., Байк. і Некр., ТС), *сцеп (сьцеп, степ)* ‘тс’ (ТС, Бяльк., Косіч). Параўн. укр.

*степ*, рус. *степь*. Мяркуецца, што з’яўляецца метафарычным пераносам у геаграфічную тэрміналогію анатамічнага тэрміна прасл. **stьpь* ‘хрыбет, спіна (у жывёл)’, параўн. рус. *степь* ‘хрыбет, спіна (у быка, каровы, каня, сабакі)’, гл. Мяркулава, Этимология–1968, 86–91), харв. *stȃpi* ‘свіныя лапаткі’, *stȇpi* ‘кавалак свінога мяса з лапаткамі’ (Борысь, Etymologie, 407–408), утворанага з дапамогай суф. *-ь (< -ĭ-)* ад асновы, засведчанай у літ. *stìpti* ‘затрымлівацца, марудзіць; цапянець’, *stiprùs* ‘моцны, цвёрды’, лат. *stipt* ‘рабіцца цвёрдым’, лац. *stipes* ‘пень, калода’ (< і.-е. *stęip-*, *stip-*). Іншыя версіі гл. Фасмер, 3, 755–756; ЕСУМ, 5, 409. Беларускае слова, відаць, з украінскай і/ці рускай моў.

**Стэ́рац** *(стэ́рэц)* ‘частка ўзаранага поля ад мяжы да баразны пры ворыве ўраскідку’ (івац., Жыв. сл.). Няясна.

**Стэ́рня** ‘сцерлядзь’: *стэрня не наша рыба, заплуўна* (ТС). Магчыма, з укр. *сте́рля* ‘тс’. Гл. *сцерлядзь*, *сцерня*.

**Стэ́рх** ‘белы журавель, які водзіцца ў тундры і лесатундры’ (ТСБМ). З рус. *стерк*, *стерх* ‘тс’; слова ўсходне-паўднёваславянскае, параўн. яшчэ рус. *сте́рех*, *стёрха* ‘тс’, укр. *стерх* ‘чорны бусел’, стараж.-рус. *стеркъ*, *стьркъ* ‘бусел’, серб.-харв. *шт̑рк*, славен. *štȓk*, балг. *стрък*, *щрък* ‘тс’, ст.-слав. **стръкъ** ‘лебедзь’. ЕСУМ (5, 413) узнаўляе прасл. **st(ь)rkъ*, якое, відаць, роднаснае лат. *stirka* ‘даўганогая істота; дзяўчынка з доўгімі нагамі’, *stirkle* ‘даўганогая аўца’ (гл. Мюленбах–Эндзелін, 3, 1073); далей – з пашырэннем *-g-*: ст.-в.-ням. *Storah* ‘бусел’, ст.-ісл. *storkr*; з іншай ступенню чаргавання галосных: ст.-ісл. *starkr* ‘моцны, здаровы’. Кіпарскі (Gemleinslav., 162) і інш. набліжаюць да *тарчаць*, рус. *сторчать* (гл. *сторч*). Высоўвалася таксама версія аб запазычанні з германскіх моў, супраць чаго Фасмер (3, 758 з літ-рай), які адзначае, што тады застаецца няясным *-br-(-er-)*; неабгрунтаванай застаецца і думка аб зваротным напрамку запазычання – з славянскіх моў у германскія (Сабалеўскі, ЖМНП, 1911, май, 165). Гл. яшчэ Міклашыч, 322; Младэнаў, 698; Матцэнаўэр, Cizí sl., 314; спецыяльна Клепікава, ВСЯ, 5, 163–164; Сной$_1$ (648: да і.-е. **(s)terk/g-* ‘быць цвёрдым, тугім, ацвярдзець’).

**Стэ́сам** ‘з імпэту, вельмі шпарка’ (Варл.). Гл. *стос*$_1$.

Даведачнае выданне

# ЭТЫМАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

## Том 12

## С

Укладальнікі:

**Малько** Раіса Мікалаеўна
**Цыхун** Генадзь Апанасавіч

Рэдактар *А. У. Воўчанка*
Мастак *А. А. Кулажэнка*
Мастацкі рэдактар *В. А. Жахавец*
Тэхнічны рэдактар *Т. В. Лецьен*
Камп’ютэрная вёрстка *Л. І. Кудзерка*

Падпісана ў друк 03.03.2008 г. Фармат 60×90$^1/_{16}$. Папера афсетная № 1. Гарнітура Times New Roman. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 23,00. Ум. фарб.-адб. 23,00. Ул.-выд. арк. 23,00. Тыраж 600 экз. Заказ 857.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецкі дом «Беларуская навука». ЛИ № 02330/0131569 ад 11.05.2005 г. 220141. Мінск, вул. Ф. Скарыны, 40.

ААТ «Баранавіцкая ўзбуйненая друкарня».
ЛП № 02330/0131659 ад 02.02.2006 г. 225409. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.



**Этымалагічны** слоўнік беларускай мовы. Т. 12. С / уклад.
Э93 Р. М. Малько, Г. А. Цыхун; гал. рэд. Г. А. Цыхун. – Мінск: Беларус. навука, 2008. – 366 с.
ISBN 978-985-08-0892-9.

Чарговы том слоўніка ўтрымлівае этымалагічны аналіз беларускіх слоў на літару С. Як і ў папярэдніх тамах, даследуецца гісторыя развіцця лексікі беларускай мовы і яе суадносін з лексікай іншых славянскіх і неславянскіх моў.

Папярэдні том слоўніка выйшаў у 2006 годзе.

Разлічаны на філолагаў, літаратуразнаўцаў, гісторыкаў і ўсіх, хто цікавіцца сувязямі беларускай мовы з іншымі мовамі.

**УДК 811.161.3’373.6’374**
**ББК 81.2Беи-4**